Уладзімір Дамашэвіч

# КАМЕНЬ З ГАРЫ

РАМАН

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 84Бел7
Д 16

Рэцэнзент *Міхась Мушынскі*

Рукопись романа пролежала у автора двадцать лет. Действие его происходит на рубеже 50—60-х годов, когда культ личности Сталина был развенчен, но не до конца, когда говорить правду становилось все труднее и труднее.

Главный герой произведения Драгун — издательский редактор, который сам пытается писать прозу, но это ему не всегда удается. Разочарованный в жизни, он решается на крайний поступок...

Д $\frac{4702120201—093}{\text{М } 302(03)—90}$ 10—90

ISBN 5-340-00426-0

*Прысвячаю моладзі,*
*што ідзе ў літаратуру*

## 1

Цяпер Драгун ужо каяўся, што распачаў усю гэтую гісторыю з пераменай работы. Сядзеў бы сабе паціху, рабіў бы тое, што скажуць,— і неяк бы жыў. Не думалася, што давядзецца гэтулькі патраціць нерваў. Яшчэ яго шчасце, што выдавецтвы пад адным дахам: перайшоў з аднаго паверха на другі, спытаў каго трэба. Няма — то можна адкласці на другі раз. І ён хадзіў — раз ці два ў тыдзень, нібы незнарок, а так сабе, без дай прычыны. Пакуль што воз не кранаўся з месца, хоць Драгуна збольшага ведалі. Ведаў сам загадчык рэдакцыі Гушчынскі і галоўны рэдактар Шахоўскі. З галоўным рэдактарам Драгун некалькі разоў сутыкаўся па рэдакцыйных справах: Шахоўскі быў адным з аўтараў падручніка для школы, і Драгун кожны год вясною прыносіў Шахоўскаму вычытваць карэктуру яго артыкула. З гэтых кароткіх сустрэч, а таксама з гутарак са знаёмымі, якія працавалі ў суседнім выдавецтве, Драгун ведаў, што Шахоўскі, нягледзячы на сваю павольнасць, флегматычнасць,— вельмі ўдумлівы і прынцыповы чалавек, які ніколі не пакрыўдзіць слабога, не саступіць нахабніку і не пойдзе супроць уласнага сумлення. Але якое гэта мела дачыненне да Драгуновага лёсу? Шахоўскі, здаецца, нічога не ведаў пра Драгуна — хіба толькі тое, што ён працаваў рэдактарам у школьным выдавецтве.

А што да загадчыка рэдакцыі Гушчынскага, то яго Драгун ведаў толькі ў твар, ды і Гушчынскі Драгуна таксама: сустракаліся неяк у выдавецтве, калі Гушчынскі рабіў ім пераклад з польскай мовы.

Калі ж Драгун сказаў Гушчынскаму, што ён хоча да іх на работу, Гушчынскі папрасіў яго зайсці праз тры дні.

Гэтыя тры дні, як стала вядома Драгуну, ішла «разведка». Гушчынскі прыходзіў у школьнае выдавецтва і распытваў у сваіх знаёмых пра Драгуна. А што тыя яму сказалі — невядома. Драгуну не цярпелася пагаварыць з самым Гу-

шчынскім, але другі яго заход не прынёс ніякай уцехі. Сказалі, што Гушчынскі паехаў у камандзіроўку. Яго замяшчаў старшы рэдактар Нагорны — яго таксама ведаў збольшага Драгун — інтэлігентны малады чалавек з доўгімі, як у папа, гладка зачэсанымі назад русымі валасамі. Нагорны, круцячы ў доўгіх пальцах востра застругапы аловак, распытваў у Драгуна: як, што, чаму? Звычайная таварыская размова, якая нічога нікому не давала, нічога не высвятляла. Можа, проста Нагорны хацеў мець сваю ўласную думку пра Драгуна як чалавека — ад першай іх гутаркі. Пагаварылі і развіталіся. Гушчынскі прыязджаў праз тыдзень.

І вось тыдзень прайшоў. Драгун выскачыў з памяшкання, каб ухапіць халоднага паветра, асвяжыць галаву перад рашучай ці вырашальнай размовай. Ён стаяў перад кніжным кіёскам і па звычцы глядзеў на тое, што выстаўлена было напаказ: часопісы, брашуры, кнігі. Часам трапляла на вока кніга, якую ён рэдагаваў, і тады Драгуноў твар святлеў, нібы яму трапляўся хто знаёмы.

Побач з Драгуном стаяў рослы малады хлопец у сінім бастонавым касцюме, гучна ікаў і ўсё прасіў у прадаўшчыцы прадаць яму добрую кнігу для імянінніцы. Ні з таго ні з сяго хлопец павярнуў да яго свой чырвоны потны твар і папрасіў Драгуна:

— Брацe, стукні... мне ў плечы. Нешта ікаўка... напала...

Драгун падумаў, што хлопец жартуе.

— Стукні, стукні, не бойся.

— Хіба гэта паможа?

— Паможа не паможа, але не пашкодзіць. Стукні, не саромейся.

Драгун стукнуў, але памалу, шкадуючы.

— Мацней! Што ты, як дзіця!

Драгун грукнуў некалькі разоў засаб.

— О, цяпер добра. Дзякую, браце! — і ён пацiснуў Драгуну руку, нібы той зрабіў бог ведае што.

— На здароўе! — сказаў Драгун.

Яго гэта рассмяшыла, і ён у добрым гуморы стаў узнімацца на чацвёрты паверх.

«Здаецца, пашанцавала»,— падумаў Драгун, бо Гушчынскі сядзеў за сваім сталом, нешта ў ім капаўся, нечага шукаў.

— А, гэта вы...— сказаў ён няўважліва Драгуну.— Добры дзень. Бачыце, як я завалены...

Стол у яго сапраўды быў жывапісны. Усе шуфляды адчынены, а ў іх навалам ляжалі паперы, як лісце, што зграбаюць восенню ў кучы. І каб знайсці якую патрэбную паперыну-даведку, загад ці адносіну — трэба перакапаць усю кучу ад верху да самага нізу. Цяпер Гушчынскі так і рабіў — перакідаў паперкі з адной шуфляды ў другую, але кідаў у такім жа самым беспарадку, як яны ляжалі ў першай шуфлядзе.

Драгун пераступіў з нагі на нагу, не ведаў, што рабіць. Гушчынскі ўзняў галаву, хуткім рухам правай рукі марськануў валасы назад.

— Прабачце, Драгун, мо мы пагаворым заўтра? Як вы? — ён вінавата-ветліва ўсміхнуўся.

— Магу і пачакаць,— абыякава адказаў Драгун,— нічога страшнага.

— Я вас разумею... Але тут якраз трэба падрыхтаваць матэрыялы для галоўвыдата, цэлая гара папер, пакуль я іх разбяру...— Ён гаварыў і тут жа прабягаў вачыма новую паперу, шпурляў яе ў шуфляду.— Прыязджае польская дэлегацыя, дык трэба даць звесткі, што мы выдавалі з польскай літаратуры за апошнія гады... Як у план уставіць што перакладное — цэлая бяда, а цяпер — давай пабольш назваў, нават яшчэ тое, што не выйшла.

Кабінет быў прасторны, як стадола. Да дырэктарскага стала трэба доўга тупаць па мяккім віцебскім дыване. Справа ля вокан стаялі састаўленыя шырокія ненакрытыя сталы, як для добрага банкету на чалавек пяцьдзесят. Ля іх туліліся крэслы.

Дырэктар Важнік устаў з-за свайго стала і, перагнуўшыся, падаў Драгуну доўгую кастлявую руку. Гэта быў высокі хударлявы мужчына з сівою галавою, шырокім носам і поўнымі вуснамі. Калі б не светлыя, прыцярушаныя сівізной валасы і не бледны твар, можна было б сказаць, што ў яго жылах цячэ афрыканская кроў.

У дырэктарскім кабінеце сядзеў ужо загадчык рэдакцыі Гушчынскі і галоўны рэдактар Шахоўскі. Адчувалі яны тут сябе проста і ўпэўнена, як дома.

— Садзіцеся,— сказаў дырэктар па-руску. Ён разглядаў Драгуна без ценю няёмкасці, як чалавек, якому не раз даводзілася падбіраць кадры.— Ну, так... А дзе Чарняковіч? — спытаў сам сябе дырэктар і націснуў кнопку на сцяне ля тэлефонаў. Недзе ў прыёмнай пачуўся прыглушаны

званок. Дзверы адчыніліся, выглянула чарнявая, ужо немаладая паўнаватая сакратарка.

— Паклічце Чарняковіча,— гучна сказаў дырэктар.

Хто такі Чарняковіч і навошта ён тут, Драгун не ведаў. Усе маўчалі, чаканне вісела ў паветры, як парнасць перад навальніцай. Хацелася ўцячы адгэтуль, непрыкметна выскачыць праз адчыненае акно. Ранейшая смеласць у Драгуна ўся выветрылася, ледзь толькі ён сутыкнуўся блізка з усёй працэдурай.

Зайшоў Чарняковіч, невысокі плячысты мужчына з лысінаю, з нахабнаватым смелым позіркам. Ён павітаўся і сеў на канапу побач з Гушчынскім.

— Што ж, цяпер можна пачынаць,— загаварыў гучна дырэктар па-беларуску, і Драгун не ўлавіў у яго словах фальшу, ён гаварыў без акцэнту.— Тут вось мы павінны вырашыць такое пытанне...— Ён запнуўся і перайшоў на рускую мову — відаць, так яму было лягчэй гаварыць.— Такое пытанне... Таварыш Драгун, рэдактар са школьнага выдавецтва, просіцца да нас на працу. Я хацеў бы пачуць ад вас,— тут ён скіраваў свае вочы на Драгуна,— таварыш Драгун, што вас прымусіла кідаць там працу і ісці да нас. Мастацкая літаратура — гэта не падручнік. Па-мойму, тут вам будзе цяжэй...

— Я гэта ведаю,— згадзіўся Драгун.— Затое цікавей.

— Гм... Цяжкасці вас не палохаюць... А ці рэдагавалі вы арыгінальныя кнігі?

— Чаму ж не? Вучоныя запіскі, зборнікі практыкаванняў, часам новы падручнік. Хоць у нас пераважна перавыданні з нязначнымі папраўкамі... кожны год.

— У вас свая спецыфіка, у нас — свая. Я баюся, што вы будзеце каяцца. Рэдагаваць мастацкую літаратуру — адказная справа.

«Ну што ж, калі вам так мяне шкада, дык рэдагуйце самі ці шукайце сабе таго, хто справіцца. Драгун не справіцца... Адкуль яму? Скончыў філфак, працаваў тры гады рэдактарам, ніводнай кнігі не сапсаваў, стараўся, а тут табе кажуць, што не дарос». У яго адразу прапала ўсякая ахвота гаварыць з дырэктарам, нешта яму адказваць. Смешнай здалася ўся гэтая афіцыйная працэдура, гэтыя людзі, што сабраліся тут — навошта яны, калі дырэктар усё гаворыць і вырашае сам?

— Цяпер наконт мовы,— гаварыў далей дырэктар.— Якую вы лепш ведаеце: рускую ці беларускую?

«Я ж цябе падчаплю, раз ты пачаў пра мову»,— падумаў Драгун і ажывіўся — што ўжо будзе!

— Я-то канчаў рускую дзесяцігодку, але свае мовы не забыўся. Родная мова мая — беларуская. Магу, калі не верыце, хоць зараз напісаць вам дыктоўку.

Дырэктар нешта запісаў сабе на перакідным календары.

— А жывую мову, народную, вы ведаеце? Я пытаю гэта таму, што канчаюць універсітэт, а ведаюць толькі рускую мову. Беларускую — сяк-так, кніжную, або зусім нічога.

— Гэта гарадскія,— упэўнена адказаў Драгун.

— А вы з вёскі?

— З вёскі... І з Заходняй Беларусі. Хоць нас і прымушалі паны-пілсудчыкі, каб мы выракліся свае мовы, у іх нічога не выйшла,— дадаў ён невядома нашто.

— Што ж, гэта добра... мо ў каго ёсць якія запытанні да таварыша Драгуна?

Нейкая спагада ці павага да дырэктара адразу зачапілася ў Драгуновым сэрцы пасля гэтых слоў. Значыць, усё ж думае яго браць... Цяпер Драгун пазіраў на дырэктара не як на заўзятага бяздушнага бюракрата, а як на чулага, добрага чалавека, які ўмее цаніць работніка, паверыць у шчырасць яго слоў.

Памаўчалі, а потым спытаўся Чарняковіч:

— А ваша начальства адпусціць?

— Думаю, што адпусціць.— Драгун усміхнуўся. Хацеў яшчэ сказаць: «Нават з радасцю», але змоўчаў.

— Хіба вас не цанілі?

— Начальству відней, каго цаніць... Але я не скарджуся... Сваё адпрацаваў, а цяпер магу ісці куды хачу.

Дырэктар крыва ўсміхнуўся. Відаць, яму такія словы не спадабаліся.

— Ці ёсць у вас кватэра? — спытаўся галоўны рэдактар, і гэтае пытанне, як адчуў Драгун, выратавала яго ад непрыемнасці,— ён мог нагаварыць лішняга і ўсё сапсаваць.

— Няма. Жыву на прыватнай. Але стаў на чаргу ў райсавеце. Праз гадоў пяць абяцаюць даць кватэру.

Усе, хто быў у кабінеце, акрамя Драгуна, усміхнуліся.

— Сямейны? — спытаўся яшчэ галоўны.

— Не.

— А ці любіце вы літаратуру? — падаў голас Гушчынскі, які ўвесь час маўчаў.

— Сказаўшы «не люблю», я адрэзваю сабе дарогу да вас... А сказаць «люблю» — надта галаслоўна. Таму я прамаўчу. Скажу толькі па сакрэту, што я сам спрабую пісаць...

— Вершы ці прозу?

— Прозу...— і Драгун заліўся чырванню, як дзяўчына. Каяўся: хто яго пацягнуў за язык? Нібы набівае сабе цану.

— А чаго вы пачырванелі?

— Не ведаю...

Усе засмяяліся.

— Ну, добра,— падвёў вынік размовы дырэктар.— Відаць, мы вас возьмем. Як ты скажаш, Гушчынскі?

Загадчык рэдакцыі пацiснуў плячыма.

— Мне чалавек патрэбен. Думаю, што Драгун — неблагая кандыдатура.

— Калі напіша добра дыктоўку — бяром. З месячным выпрабавальным тэрмінам. Вось так! Згодны? — дырэктар абвёў усіх вачыма.

— Згодны, згодны,— падтрымалі дырэктара Чарняковіч і Гушчынскі.

— Мо гэты месячны выпрабавальны тэрмін лішні,— сказаў толькі Шахоўскі памяркоўна.

Дырэктар строга глянуў на яго, пацёр пальцамі сівую скроню.

— Не пашкодзіць! Вы лепей заўтра арганізуйце яму дыктоўку. Скажыце Зарубанавай, хай падбярэ тэкст. А вы, Драгун, зайдзіце днямі ці пазваніце яму,— і дырэктар паказаў вачыма на Гушчынскага.

На гэтым і скончыўся Драгуноў візіт да дырэктара.

## 2

Збоку можна было падумаць, што Драгун жыве без ніякага плана, стыхійна, сённяшнім днём. Але толькі ён адзін ведаў, што гэта зусім не так. Вось ён памяняў работу — здавалася б, выпадкова, а папраўдзе ён ужо год думаў над гэтым і чакаў выпадку.

Цяпер перад ім стаяла другая задача: памяняць кватэру. Ужо тры гады, як ён наймаў сабе кут у старых людзей на Беламорскай вуліцы. Домік іх быў невялікі, з сінімі аканіцамі, яшчэ новы. У адным канцы жыла вялікая сям'я, а ў

другім — Драгуновы гаспадары: стары Фінкельштэйн з жонкай Эмай Маркаўнай. Старыя яму падабаліся, асабліва гаспадар. Гэта быў яшчэ дужы дзед, прысадзісты, круглы, з голенаю галавою і кручкаватым носам. Працаваў ён на радыёзаводзе, хоць меў больш як семдзесят год і атрымліваў пенсію за сына.

Уставаў ён рана, без будзільніка, мыўся, піў чай, а перад адыходам заўсёды не забываў пабудзіць Драгуна, хоць той ужо і не спаў — ён прачынаўся ад святла.

У суботу дзед надзяваў на сваю голеную галаву чорную кепку, кручкаваты нос сядлаў акулярамі і садзіўся чытаць «Талмуд». Ён чытаў, варушачы губамі.

Курыцу ён рэзаў спецыяльнай брытвай, якую перад гэтым доўга вастрыў. І тлумачыў Драгуну, што толькі вострым рэзаць не грэшна і што тады жывёла не чуе, як яе пазбаўляюць жыцця.

У маладосці, расказваў дзед, быў ён дужы. Родам ён з-пад Мінска, бацька меў сваю зямлю і добрую гаспадарку. Раз у вёску да іх прыехаў барэц. Сабраў вакол сябе падлеткаў, стаў іх вучыць, як дужацца. Барэц яму сказаў: давай паспрабуем так — ты стоячы, я — на каленях. «Я быў малады, дужы,— расказваў дзед,— згадзіўся. Паваліў барца. Ён яшчэ раз захацеў памерацца сілаю, і яшчэ раз я яго паваліў. Тады ён зазлаваў, бо хлопцы навокал сталі смяяцца з яго. Кажа: давай стоячы, як роўны з роўным. Але не паспелі мы ўзяцца, як найшоў мой бацька ды як дасць мне па вуху. Ты, кажа, што — хочаш, каб ён цябе скалечыў?»

Дзед Фінкельштэйн быў старэйшы за сваю Эму Маркаўну на гадоў дваццаць. Ён і яна сышліся пасля страты першай сям'і, яшчэ перад вайною. Яго сын ад першай жонкі, кандыдат юрыдычных навук, загінуў на фронце, а яна мела замужнюю дачку, зяця і дзве ўнучкі.

У вайну яны паспелі эвакуіравацца на Каўказ, а потым на Алтай, у Курган. Давялося пабачыць гора, бо ўцяклі яны ў чым стаялі і трэба было зарабляць на пражытак мазалём. Дзед на Каўказе хадзіў у калгас капаць абвадняльныя канавы. За гэта давалі на пражытак пшаніцу і буракі. За некалькі месяцаў такой працы дзед, як ні дзіўна, нічога не зарабіў, а нават застаўся вінаваты калгасу тры пуды пшаніцы. Але за тое, што ён сумленна працаваў — дарэчы, адзін на ўвесь калгас,— яму даравалі гэты доўг.

Эма Маркаўна таксама была родам з-пад Мінска, недзе са Смілавіч. У маладыя гады была актывісткай, членам

партыі, арганізоўвала калгасы. Але яе «вычысцілі» — абвінавацілі, што давала кулакам даведкі, што яны з беднякоў. Цяпер яна (мо толькі на словах?) нічуць не шкадавала аб гэтым здарэнні, хоць і казала, што каб засталася ў партыі, то ўжо даўно стала б вялікім начальнікам. У гэта Драгун шчыра верыў, бо жанчына яна была развітая, разумная і дзелавая. Ва ўсім, пра што толькі з ёю ні гаварыў Драгун, яна разбіралася, сачыла за палітыкай, многа чытала, не магла легчы спаць, не паслухаўшы апошніх паведамленняў. Яна мела бухгалтарскую адукацыю, а цяпер працавала ў аптэчным кіёску, на Камароўцы.

Жыць апошнім часам стала зусім цесна: гаспадыня, каб паправіць свой бюджэт, узяла яшчэ аднаго кватаранта. Гэта была адна з многіх прычын, якія змусілі Драгуна шукаць сабе новага месца. А месца ён ужо сабе апытаў, цвёрда дамовіўся з адным чалавекам, што, як толькі яго сямейны кватарант выберацца ад яго, Драгун можа перасяляцца. Праўда, за асобны пакой плата ў два разы даражэйшая, але Драгун пра грошы думаў менш за ўсё: яго планы ішлі далей.

Цяпер ён ужо думаў, што трэба купіць. Па-першае, ложак, бо ён спаў на гаспадаровай кушэтцы, а ў сенніку была звычайная салома з Камароўскага рынку. Кухонны столік таксама патрэбны. Ну, усякія там дробныя рэчы, як чайнік, керагаз, бо гэтага нічога ён не меў, карыстаўся гаспадаровымі. Прызнацца, ён рэдка калі дома і еў, хадзіў болей па сталоўках, хоць і яны абрыдлі яму страшэнна, і адзін толькі пах сталоўскай кухні адбіваў у яго апетыт.

За тры гады ўелася ў косці адзінота. Хацелася да людзей, да знаёмых, да былых сяброў. Але яны або апынуліся далёка ад яго, або былі па горла заняты сваім клопатам, часу для Драгуна не знаходзілі. Ён пачынаў паволі расчароўвацца ў сябрах. Каго лёгка было знайсці, дык гэта аматараў выпіць. Ды ён не зблізіўся з гэтай катэгорыяй людзей, і мо таму, што самога да чаркі не вельмі цягнула. Знаёмых дзяўчат у яго амаль не было, а знаёміцца спецыяльна ён не ўмеў, праўдзівей, не мог. Калі ён бачыў дзяўчыну, якая яму спадабалася з першага позірку, якая яго адразу зачаравала, дык каб нават яна падышла да яго і першая зачапіла, ён не змог бы ёй нічога адказаць. У яго адымалася нават мова, не толькі ногі. З другога боку, у яго да прыгожых дзяўчат жыў у душы недавер: як правіла, яны легкадумныя, недалёкія, памешаны на сваім характве — і

больш нічога і нікога не хочуць знаць і ведаць. І хоць сэрцам цягнула да іх, розум пратэставаў. Жыў яшчэ ў ім падсвядомы страх за сваю свабоду. Ён ведаў, што прыгожыя жанчыны маюць над мужчынамі вялікую ўладу. А служыць каму-небудзь Драгун не збіраўся.

Цяпер ён меў некалькі знаёмых, але каб яму сказалі: жаніся, то ён адказаў бы, што няма з кім.

На першай рабоце ў яго было дзве дзяўчыны, але да абедзвюх не ляжала душа. Ліда Чалевіч была таўстматая, кірпатая і рухавая сакатушка, расла сіратою, відаць, не бачыла ў жыцці ласкі і спагады і шукала яе ў людзях. Яна працавала карэктарам. Аднойчы на нейкае свята Калуцкая з аддзела кадраў назначыла Драгуна дзяжурыць у выдавецтве. Драгун не ведаў, хто яго падмяняе, бо застаўся адразу пасля работы, з шасці. Ён прабыў недзе да 12-ці ночы, сядзеў у бухгалтэрыі на цыратовай чорнай канапе і чытаў кнігу. Прыйшла Ліда — вясёлая, смяшлівая, села побач. Драгун тады яшчэ нават не падазраваў, што яна да яго заляцаецца, і быў проста ашаломлены, калі адчуў на сваёй шыі Лідзіны гарачыя рукі...

Другая дзяўчына, Люся Здановіч, хадзіла як пава — важная, надзьмутая, ганарыстая. Чуць што — сварылася з карэктарамі, на якіх глядзела зверху са свае рэдактарскай пасады. А з Драгуном рабілася як шаўковая — і яго гэта адразу насцярожвала і нават студзіла. Ён любіў людзей роўных, стрыманых, аднолькавых з усімі. Хоць у душы ў цябе і бушуе пажар, умей не паказаць гэтага. Неяк аднойчы вечарам ён сядзеў за сталом на сваёй кватэры. Пачуўся стук у шыбу.

Драгун падняў фіранку і ўбачыў, што за акном стаіць Люся Здановіч. Да яго яна ніколі не прыходзіла. Няйначай, нешта здарылася.

Драгун выйшаў у сені, адчыніў дзверы і ступіў на ганак. Люся кінулася да яго, і ён адчуў, што яна вісіць у паветры, праўдзівей, на яго шыі.. Яна была задыханая, шчаслівая, радасць яе праяўлялася бурна, неўтаймавана. Калі яна трохі супакоілася, ён спытаў, што з ёю. І яна са слязьмі радасці ў голасе сказала, што яе верш надрукавалі ў літаратурнай газеце ў Маскве.

Былі яшчэ дробязі, мо нават самыя нязначныя, аб якіх ён ніколі нікому не скажа, але яны якраз гаварылі мо нават болей, чым што іншае.

Па крайняй меры, Драгун занадта многа ведаў гэтых

дзяўчат, каб зблізіцца з імі. Яны здаваліся яму нецікавымі.

Была і яшчэ адна асоба, з якою пазнаёміў яго сябра Місюк — неяк выпадкова летам на Камсамольскім возеры. Вечарэла, усе ўжо разыходзіліся, а Драгун яшчэ хацеў пакупацца, але Місюк падвёў да яго нейкіх дзяўчат і стаў знаёміць. Гэта былі аспіранткі з акадэміі, адна мажная, поўная, грудастая, а другая шчуплая, меншая ростам, сімпатычная з твару, смелая і гаваркая. Ішлі яны з возера парамі: Місюк з тою, мажною, а Драгун — з меншаю, Верай Выдзерскаю. Тады ён прасядзеў з ёю вечар у скверыку каля акадэміі і адчуў, што ў яго душы ёсць нешта вельмі блізкае да яе — як бы яны сваякі ці вельмі даўно знаёмыя, толькі доўга не бачыліся і вось спаткаліся, пагаварылі душа ў душу — і адразу стала лягчэй. Хацелася слухаць яе, а потым расказваць пра сябе, гаварыць самае патаемнае, такое, што сядзіць глыбока, што не кожнаму адкрыеш.

Пасля той сустрэчы ён бачыў яе мімаходзь у акадэмічнай сталоўцы, яна сядзела за сталом з нейкім хлопцам.

Потым усё закруцілася, час ляцеў хутка. Яго самога сагітавалі паступаць у аспірантуру. Ужо колькі разоў былы выкладчык літаратуры спыняў Драгуна дзе-небудзь на дарозе і гаварыў, каб не адкладваў, не аднекваўся. Апошні раз, калі Драгун адмовіўся зноў, ён абазваў яго дурнем і, раззлаваны, пайшоў. Пасля гэтага выпадку Драгун сур'ёзна стаў думаць пра аспірантуру і ўрэшце вырашыў вучыцца завочна. Памалу здаў прыёмныя экзамены, цяпер рыхтуе мінімум, выбірае тэму дысертацыі. Калі так пойдзе і далей, то, чаго добрага, стане вучоным. Чаго не думаў, дык гэта ўжо праўда — стаць вучоным! Ды і рэдактарам таксама не думаў, не гадаў. Такое ўжо цяпер жыццё! Раней селянін радзіў сялян, рабочы — рабочых, а пан — паноў і паняў. Цяпер зусім не тое. Дзеці простых людзей, калі яны здольныя, могуць дасягнуць вунь якіх вышынь, а дзеці вялікіх начальнікаў, калі яны нікуды не вартыя, будуць звычайнымі сярод звычайных...

Праўда, аспірантура, кар'ера вучонага не запланавана ім самім, і яшчэ невядома, ці ўрасце ў яго свядомасць гэтае «чужароднае цела». Другое больш турбавала яго і вабіла да сябе — пісаць. Вось тут, няйначай, ён знайшоў бы сябе... Гэта будзе цяжка, ой, як цяжка, але што добрае лёгка даецца?

А пакуль што яго самы большы клопат цяпер — памяняць кватэру. Там пойдзе ўсё сваім парадкам. У яго быў

свой няпісаны закон: не зрабіўшы аднаго, не бярыся за другое.

Ён доўга пакутаваў — ніяк не мог асмеліцца сказаць Эме Маркаўне, што хоча пакінуць іх кватэру, што праз тыдзень «пераязджае» жыць на новую вуліцу.

Некалькі дзён ён быў надзьмуты і маўклівы, злаваў на сябе, і гэта адразу заўважыла гаспадыня.

Яна памагла яму сваім запытаннем. Гэта было адразу пасля работы. Драгун прыйшоў і адразу паваліўся на кушэтку, нават не скінуўшы пінжака.

— У вас, Косця, якія непрыемнасці на рабоце? — пачуўся яе голас з кухні.

Драгун усхапіўся з кушэткі, выйшаў на кухню. Гаспадыня крышыла капусту на фанерным кружку. На пышных яе валасах з сівізною была закручана белая касынка.

— Эма Маркаўна! — пачаў Драгун усхвалявана.— Каб вы ведалі, як мне не хочацца вам гаварыць адну непрыемную рэч. Але нікуды не дзенешся, трэба...

Гаспадыня насцярожылася, з трывогай глянула сваімі цёмнымі вачыма на Драгуна. Рукі яе перасталі крышыць.

— Што такое?

— Я хачу ад вас пайсці... Знайшоў сабе новую кватэру...

Гаспадыня сумна паківала галавою, лёгка ўздыхнула.

— Ну, што ж, хіба я вас трымаю? — тон яе быў рэзкі, нават крыўдны для Драгуна. Але яна, відаць, пашкадавала аб гэтым, бо тут жа папраўілася: — Вы за што-небудзь пакрыўдзіліся на нас?

— Эма Маркаўна, супакойцеся. Ніякай крыўды! Мне ў вас добра, і я пражыў бы тут яшчэ невядома колькі, каб не адна прычына... Я збіраюся... хачу заводзіць сям'ю...

На твары ў гаспадыні ажыла ўсмешка.

— Цяпер я вас разумею... Я і не падумала... Мне здалося, што вы нешта затаілі на нас...

— Што вы, Эма Маркаўна! За гэтыя тры гады я нічога не меў ад вас кепскага! А чаго лепей трэба?

— А мо каб я не ўзяла новага кватаранта, вы яшчэ засталіся б?

— Якраз добра, што вы ўзялі... А так я пайшоў бы, і ваш бюджэт паменшаў бы на сто рублёў.

— Ды не ў грашах соль, а ў чалавеку. Мне самой наш новы жылец не падабаецца — у яго розныя змены. Прыходзіць ноччу, раніцай, перабівае сон... А вы ніколі нас не турбавалі. Вы чалавек спакойны, культурны, я не чула ад вас

грубага слова, ні разу вас не бачыла п'янага. А цяпер гэта не так часта сустрэнеш...

— Што ж, дзякую за такую атэстацыю. І скажу шчыра, што ў вас мне было добра. Я проста рады, што меў такую прыветлівую гаспадыню, як вы, і такога ўважлівага гаспадара, як ваш муж.

Твар Эмы Маркаўны, заўсёды бледны, нібы трохі заружавеўся.

— Шкада ўсё-такі, што вы ад нас ідзяце... Але што ж? Ваша жыццё, можна сказаць, яшчэ толькі пачынаецца... Ваша свядомае жыццё...

— Ну, другія ў маім узросце паспявалі пакінуць вунь які глыбокі след, а я ячшэ нічога не зрабіў,— сумна сказаў Драгун.

— Не бядуйце, ваша ад вас не ўцячэ. Добрую справу рабіць ніколі не позна. А важней за ўсё — каб чалавек пражыў сваё жыццё сумленна...

## 3

На новай рабоце чалавек — нібы ў незнаёмым лесе. Адразу ён прападае ў ім, робіцца маленькі, адчувае сваю прыбітасць і слабасць. Здаецца, што ён ніколі не знойдзе дарогі, не выберацца з гушчару. Але памалу пачынае разглядацца, заўважае, у якім баку сонца, знаходзіць поўдзень, усход, захад, успамінае, па якой сцежцы ішоў... Паступова невыносная спачатку ўлада страху рассейваецца, меншае, да чалавека паволі вяртаецца вера, што ён не прападзе, а выберацца адгэтуль, знойдзе дарогу.

Работа для Драгуна была больш-менш знаёмая, не ведаў ён толькі людзей. У рэдакцыі, падзеленай на два пакоі, сядзела больш за дзесяць чалавек. Адных Драгун ведаў па прозвішчы, другіх толькі ў твар, а трэціх ні так ні гэтак. Са знаёмых быў, само сабою, загадчык рэдакцыі Гушчынскі, збольшага ведаў ужо Драгун старшага рэдактара Нагорнага, смуглявага чарнавалосага Маскалевіча, разважлівага ўсяведа Пракурата, таўсматую дабрадушную бландзінку з залацістымі тоўстымі косамі Вольгу Жывіцу і яшчэ аднаго чалавека, на якога глядзеў як на выкапня. Гэта быў вядомы літаратурны крытык Рымар, невялічкі, круглы, як бочка, з жорсткім выразам шчыльна стуленых губ і нахабных вырачаных вачэй. Праўда, Рымара Драгун трохі ведаў па ранейшай рабоце, бо Рымар быў аўтарам школьнай хрэстаматыі і кожны год прыходзіў у выдавецтва па гана-

рар і ўсё абяцаў дзяўчатам цукеркі, але так і не прыносіў.

Да вайны Рымар грымеў на крытычным фронце, выносіў безапеляцыйны прысуд ледзь не кожнаму пісьменніку, і тыя, на каго ён з гневам паказваў пальцам, прападалі з літаратуры, а часам і з жыцця... Некаторыя з іх цяпер рэабілітаваны, большасць пасмяротна... А Рымар ходзіць у рэдактарах, прытым самых надзейных — ён ведае, што выкрэсліваць. Бярэцца нават выдаваць тых, каго некалі чарніў... Вось чаму так цікава было Драгуну глянуць на гэтага чалавека зблізку, пазнаць яго глыбей. Але Рымара рэдка калі спаткаеш у выдавецтве: ён меў прывілеі і тут — хадзіў у надомніках, а з'яўляўся два разы ў месяц па зарплату. Тое, што звычайна ўсе рэдактары рабілі самі: вычытка пасля перадруку, падрыхтоўка дублікатаў, нумарацыя рукапісу, заклейка брудных мясцін,— Рымар перакладаў на плечы малодшага рэдактара. Чарнавой работы ён не рабіў. Звычайна яго візіт у выдавецтва пачынаўся з дырэктара. Там яны доўга нешта гаварылі, потым Рымар заходзіў у рэдакцыю, расказваў часам які анекдот, перакідваўся словам з загадчыкам і зноў знікаў...

Па рабоце Драгун адразу атрымаў ад загадчыка Гушчынскага зборнік апавяданняў «У дарозе», а прозвішча пісьменніка — Бортнік — было яму добра знаёмае. «Пабачым, таварыш Бортнік, што вы новае нам скажаце»,— падумаў Драгун, прымаючы з рук загадчыка чырвоную папку. Раней ён прачытаў некалькі кніжак Бортніка. Яны яго не ўразілі. Было многа непраўдападобнага, выдуманага. Тое ж самае адчуў Другун і ў гэтым зборніку. Да ўсяго, кепскі, неахайны быў стыль: кожнае слова не на сваім месцы. Трэба было «выпростваць» кожную фразу, як пагнуты дрот.

Драгун прачытаў раз, потым другі, зрабіў выпіскі з кожнага апавядання, склаў у галаве план заключэння. Агульнае ўражанне ад зборніка складалася няважнае: дробныя, нязначныя тэмы, павярхоўная распрацоўка вобразаў, падабенства сюжэтаў, а найбольш — здарэнні і выпадкі з палявання ці рыбалкі. У многіх герояў аднолькавыя вочы, насы, біяграфіі, нават аднолькавыя словы ў іх гутарцы. Пэўна ж, у жыцці многа людзей з аднолькавымі вачыма ці насамі, але трэба, відаць, шукаць не падобнага, а таго, што адрознівае адно ад другога.

Драгун з нецярпеннем чакаў рэцэнзіі на рукапіс... Урэшце яна на яго стале. Ён прачытаў і не паверыў сваім вачам: рукапіс хвалілі!

Загадчык спытаў Драгуна, ці згодзен ён з думкай рэцэнзента. Драгун нічога на гэта не адказаў, толькі папрасіў Гушчынскага аддаць зборнік яшчэ на адну рэцэнзію — і такому чалавеку, які не пабаіцца сказаць праўды ў вочы.

Гушчынскі спачатку не хацеў, а потым згадзіўся: лішняя думка не пашкодзіць, рэдактар яшчэ малады, верыць яму на сто працэнтаў нельга.

Далі на другую рэцэнзію. Не могуць жа розныя людзі гаварыць у адзін голас, што чорнае — гэта белае. Знойдзецца чалавек, які скажа: не, рабіце што хочаце, а гэта не проза.

Але і другая рэцэнзія была як спісана з першай. Гаварылася толькі, што ёсць пару апавяданняў, якія варта зняць, а ўвогуле зборнік робіць прыемнае ўражанне, ён — новае творчае дасягненне Бортніка.

Прачытаўшы рэцэнзію, Драгун схапіўся за галаву і пабег да загадчыка рэдакцыі.

Гушчынскі выслухаў яго сур'ёзна, ні разу не перабіў.

— Значыць, ты лічыш, што абедзве рэцэнзіі няправільна ацэньваюць рукапіс?

— Яны бязбожна захвальваюць яго... Не разумею людзей, якія закрываюць вочы на тое, што ўсім відаць. Якая ад гэтага карысць?

Гушчынскі памаўчаў, вінавата ўсміхнуўся.

— Будзем гаварыць шчыра. Добра, што няма сведак... Вы яшчэ малады рэдактар, не ўвайшлі ў курс. Вы думаеце, ўсё робіцца так проста?.. Не, дарагі мой! Заўсёды ёсць знешні бок справы і закулісны, схаваны ад няўважлівага вока. Напрыклад, рашылі нейкую справу. Другому здасца, што мо нават над гэтым мала думалі, бо выраштана яна не надта мудра, можна было зрабіць намнога лепш. Ды не, над гэтым пытаннем людзі ламалі галаву, абмазгоўвалі як след, узважвалі — толькі не ўсім пра гэта вядома. І калі так зроблена — значыць, толькі так і трэба. І абскарджанню не падлягае... Вось і тут... Ты думаеш, што ў адносінах да таго ж Бортніка няма ніякіх падводных плыняў і рэцэнзенты проста сляпыя людзі? Не думай! Яны ўсё бачаць і ўсё разумеюць, як і мы, толькі ёсць яшчэ абставіны. А яны часам мацней за нас... Па-першае, Бортнік — рэдактар часопіса, крытыкаваць яго небяспечна, больш не надрукуе. Гэта раз... Па-другое, не забывайце, хто такі Бортнік. Ён стары камуніст, удзельнік рэвалюцыі, даўно піша. Да таго ж ён вельмі нядрэнны чалавек — мяккі, разумны, пакладзісты, але ў яго адзін недахоп — ён дрэнна піша. Ну, што тут парадзіш? Ва ўся-

кай справе ёсць удачнікі і няўдачнікі. Тут ён поўны няўдачнік.

— Я не сказаў бы,— уставіў Драгун.— Ён многа піша і ўсё друкуе. Хіба гэта кепска для яго?

— У гэтым сэнсе ён удачнік, ты праўду кажаш, але, між намі, для пісьменніка важна ўсё ж такі не гэта, а тое, што пасля яго застанецца. Ці не так?

— Згодзен... Але ён адбірае фактычна хлеб у другіх, якіх адносяць з году ў год у планах і кажуць, што не хапае паперы ці яшчэ чаго.

— Гэта так... Але мы нічога тут не можам паправіць. Так трэба! Разумееце? Гэта ўсё! Мы не перайначым. Да таго ж Бортніка за яго ўсе заслугі і добрую душу дамовіліся не крытыкаваць у прэсе. Гэта няпісаны закон.

— А калі паскардзіцца вышэй?

— Глупства! Двум паважаным рэцэнзентам і салідnaму аўтару павераць болей, чым вам, невядомаму рэдактару.

— Але трэба быць зусім сляпому, каб не бачыць, што там робіцца!

— Яны зрабілі выгляд, што не бачаць гэтага. Раю і вам так зрабіць.

— Вы сур'ёзна? — здзівіўся Драгун.

— Абсалютна сур'ёзна.

— А як пісаць заключэнне?

— Дыпламатычна, самі разумееце. Творы ідэйныя, толькі часам бракуе мастацкіх якасцей. Як звычайна робяць у такіх выпадках.

Драгун пайшоў у свой пакой. Дастаў рукапіс, гартаў, прыглядаўся да падкрэсленых слоў, да птушачак, якія сям-там стаялі на палях. Такіх птушачак можна было б наставіць тут у дзесяць разоў больш. Тут давядзецца ўсё добра пераараць...

Драгун задумаўся. Чаму ён не спытаў загадчыка, як рабіць: падкрэсліваць, ставіць птушачкі і вяртаць аўтару, каб ён папраўляў усё сам, ці закасваць рукавы і перапісваць нанава? Відаць, апошні метад болей падыдзе да такога аўтара, як Бортнік. Ён ужо зрабіў усё, што мог, з яго нічога не выціснеш: як алею з макухі. Да таго ж яшчэ падумаюць, што Драгун не ўмее рэдагаваць.

## 4

Набліжалася зіма. Кватэрныя клопаты зусім адолелі Драгуна. Трэба было самому думаць пра дровы, бо пакой, які наймаў цяпер Драгун, меў печку, а зімою, напэўна, тут хоць ганяй ваўкоў: сцены тонкія, трухлявыя, вугол свіціцца як рэшата, рамы ў вокнах старыя, таксама трухлявыя, а пад падлогай — склеп для бульбы. Няйначай, раней гэта былі сені, а цяпер гаспадары зрабілі з іх пакой і бяруць за яго дзвесце рублёў у месяц.

Драгун нават не ведаў, як у горадзе дастаюць дровы. Але яму памог яго гаспадар, Каранеўскі. Ён параіў яму схадзіць да аднаго знаёмага дзядзькі, у якога можна дастаць лішні талон на апал. Так Драгун і зрабіў. За дваццаць пяць рублёў купіў талон на два кубы дроў і на восемсот кілаграмаў брыкету.

Была нядзеля, ішоў мокры снег, сыры вецер пранізваў да касцей. Драгун апрануў стары, яшчэ студэнцкі шынель, узяў грошай і паехаў у канец горада па дровы. Там выстаяў доўгую чаргу, пакуль дайшло да яго. Дровы можна было за невялікую плату тут жа распілаваць і нават пакалоць, але Драгун пакінуў сабе ўсё гэта для зарадкі. Папілуе і паколе сам.

Самазвал скінуў дровы і брыкет метраў за сто ад хлява, і давялося добра папацець, пакуль усё перанасіў. Заставалася вядры чатыры брыкету, як на двор зайшоў яго знаёмы Місюк, былы аднакурснік, цяпер аспірант. Гэта быў высокі танклявы хлопец з бледным тварам і суроваю складкаю над пераноссем.

— Здароў! — павітаўся ён весела.

— Здароў, ды не надта,— стомлена адказаў Драгун.— Бачыш, колькі перацягаў...

— А я заходзіў да цябе зранку, дык мне сказалі, што ты паехаў па дровы.

— Дык ты не пабаяўся прыйсці другі раз? Вось я цябе зараз пачастую... Ці ты куды спяшаешся?

— Каб спяшаўся, дык не прыйшоў бы.

— То давай папілуем, калі маеш ахвоту.

— Давай!— Місюк зрабіў некалькі гімнастычных рухаў.— Разварушым старыя косці.

Драгун вынес з хлеўчука казлы, узяў гаспадарову пілку. Работа ішла дружна. Хутка абодва ўгрэліся, паскідалі верхнюю вопратку.

— Хто такі драгун? — нечакана спытаўся Місюк.

— Драгун — гэта коннік, які ўмее быць і пехацінцам.

Ужо шарэла, калі яны перарэзалі апошняе палена.

— Калоць будзем? — спытаў Місюк, пазвоньваючы пілкаю.

— Не, к чорту! Я гэту асалоду пакіну сабе на другую нядзелю,— рашуча сказаў Драгун.

Яны навялі парадак на двары, у хляве, забралі вопратку і пайшлі ў хату.

Памыўшыся, Драгун апрануўся, узяў сетку.

— Схаджу ў магазін. Пасядзі трохі, паглядзі кніжкі.— I ён паказаў Місюку на лазовую этажэрку, якая стаяла ў куце пакоя.

Нанач браўся марозік. Пад нагамі храбусцеў лядок. Драгун спяшаўся. У магазіне людзей было нямнога. Толькі ля аддзела, дзе прадавалі напіткі, стаяла невялікая чарга. Якраз насупраць гэтага аддзела стаяў латок з кніжкамі, за ім сядзела старая маршчыністая бабулька ў акулярах, якой, напэўна, ужо гадоў дваццаць назад пара было на пенсію, а яна ўсё сядзіць і прадае кніжкі. Драгун звычайна зазіраў у яе латок, ведаў усе яе кніжкі і часам што і купляў. Яму было проста шкада гэтую жанчыну, бо гандаль у яе ішоў слаба, мо нават адваротна-прапарцыянальна таму, як ён ішоў у аддзеле напіткаў. Сёння яна ўжо запакоўвала свае кніжкі.

Дадому Драгун ішоў подбегам — сам прагаладаўся, ды і чалавек там чакае. Ужо каля самых сваіх весніц нечакана бразнуўся, паляцеў назад і моцна пабіў далоні, на якія паспеў прызямліцца. Сетка з пакупкамі ў правай руцэ адразу падскочыла ўгору, а потым стукнулася аб зледзянелую зямлю. Дзынкнула шкло, нешта палілося. Драгун устаў, падняў сетку. Пляшка з півам была цэлая, і тая, што з гарэлкаю, разляцелася на кавалкі.

Драгун плюнуў са злосці, павесіў сетку на плоце пад акном у гаспадароў і сам зноў пабег у магазін. Грошай у яго засталося на чацвяртушку.

Місюк ужо ўключыў святло, хадзіў па пакоі шырокім крокам.

— Ты тут мяне лаеш, а я там сябе лаяў,— Драгун выстаўляў на стол бутэлькі, хлеб, кілбасу, кансервы.— Упаў ля самага дома і разбіў не піва, а гарэлку. Дзе справядлівасць?

— А можа, гэта і лепш? Гэта ж атрута.

Яны сталі вячэраць.

— У мяне пасля чаркі воўчы апетыт.

— Кепская прыкмета,— сказаў Місюк.— Апетыт павінен быць добры і без чаркі.

— А калі ён не хоча?.. Ну, як табе падабаецца мая келля?

— Можна жыць. Колькі плаціш?

— Дзвесце вон, як адзін казаў.

— Мнагавата...

— Яшчэ пашанцавала, што знайшоў.

— І што, думаеш адзін тут зімаваць?

— Хто яго ведае... Баюся, што здзічэю... Давай прыкончым гэтую кроплю...

— А маеш на прымеце якую-небудзь?

— Дзе там... Якая першая трапіцца, тая і мая.

— Кінь жарты.

— Якія жарты? Мне хутка будзе трыццаць. Мой бацька ў гэтым веку меў ужо трое дзяцей... Ды ты адстаеш таксама...

— Мне трэба скінуць з плеч гэты груз — дысертацыю. А што ў цябе з аспірантурай?

— Вішу, але душа не ляжыць. Усё хачу знайсці прычыну, каб кінуць.

— А чаго ты так настроіўся?

— Што мне з тае аспірантуры?

— Як што? Мецімеш грошы, больш вольнага часу, будзеш рабіць навуку. Урэшце, будзеш расці, аддаваць усе здольнасці...

— Словы, словы... Навука мяне не цягне... Мне пашанцавала, што пасля вучобы мяне накіравалі ў выдавецтва. Цяпер перайшоў у другое, трапіў, можна сказаць, на літаратурную кухню, буду глядзець, вучыцца, як робяцца, як выдаюцца раманы, аповесці, апавяданні. Праўда, не ўсё, што там убачыў, мне спадабалася, але ёсць і добрае. Ды вучыцца на кепскім можна таксама, усякі вопыт карысны.

— Адмоўны яшчэ мацнейшы...

— Згодзен. Вось я і вучуся. На першай кнізе я адразу паразумнеў намнога.

— Што, убачыў, як трэба пісаць?

— Якраз наадварот — як не трэба. Але ж гэта пачатак. Пісьменнікі пішуць па-рознаму, як і ўсе людзі. Адны лепш, другія горш. На іх вопыце буду вучыцца... Праўда, я не вундэркінд, сам разумею. Я толькі рабацяга і калі за што вазьмуся з запалам, то нешта зраблю. Вось гэта адзінае, што ўсяляе ў мяне веру. І яшчэ я табе скажу: калі чалавек паставіць перад сабою вялікую мэту, тады ён, хоць і не

дасягне яе, усё ж зробіць многа. Ёсць такая быль пра Шэкспіра. Нехта прыйшоў да яго і кажа: хачу стаць Шэкспірам, што для гэтага трэба? «Дзівак, кажа яму Шэкспір, я хацеў стаць богам, а стаў усяго толькі Шэкспірам...»

— Але не забывай, што мэту трэба выбіраць па сваіх сілах.

— Тады, мне здаецца, не будзе росту, развіцця. Усе рэкорды застаюцца бітыя толькі таму, што людзі замахваюцца вельмі далёка і высока.

— Але ж ты не возьмеш і не падымеш адразу дзесяць пудоў?

— Адразу не, а калі пачну з трох, то мо і падыму. Ды калі дайду да сямі, то і гэта добра. Нехта другі пачне з гэтага і возьме больш. Ягады не растуць раней за кветкі. Спачатку папрацуеш, а потым убачыш плён свае працы. А мо і наогул не ўбачыш, але ніколі аб гэтым не шкадуй і тым больш не апраўдвай свае ляноты. Як кажуць, не зважай на ўраджай, а жыта сей.

— Не сей толькі на пустым полі...

— Халера, ты мяне сячэш пад корань. Але я ўпарты. Мяне не так лёгка спіхнуць з дарогі, якую я доўга выбіраў.

## 5

У рэдакцыі здараліся такія шумныя дні, што нічога нельга было рабіць. Прыходзілі без канца людзі: адзін прыносіў рукапіс, другі забіраў карэктуру, трэці здымаў пытанні з рэдактарам, ці карэктар здымаў тыя ж пытанні з рэдактарам і аўтарам. А яшчэ хто прыходзіў, каб адпачыць, развеяцца, расказаць апошнія анекдоты, падзяліцца навінамі. Прыходзілі і такія, што былі пакрыўджаны ці суровай рэцэнзіяй, ці строгасцю рэдактара. Цэлы дзень стаяў такі тлум, што апошнюю гадзіну людзі ўжо не працавалі, а сядзелі над рукапісамі і рабілі выгляд, што чытаюць.

Першы раз у жыцці Драгун убачыў п'янага паэта. Па вершах ён яго ўжо ведаў. Гэта быў сярэдняй сілы паэт, вельмі народны, вельмі напеўны, але трохі аднастайны, на адной ноце, і надта «юбілейны». Да любога свята, да ўсякай важнай даты — разгарні часопіс ці газету — тут ужо вершы Дубровіча. Пачытаеш — і бачыш, што чалавек піша не ад сэрца, не шчыра, а таму, што патрэбен лішні рубель або проста хочацца ўбачыць яшчэ раз сваё прозвішча.

Дубровіч выглядаў асілкам: меў моцныя плечы, быў каржакаваты, як дуб. З твару быў сімпатычны, мо нават

прыгожы: прамы востры нос, упарты падбародак, высокі лоб, жывыя цёмныя вочы.

Адным словам, гэта была натура, багата адораная прыродай, бракавала ёй толькі інтэлекту, агульнай культуры, шырыні кругагляду. Паслухаўшы яго, адразу падумаеш: ён не паэт у поўным значэнні гэтага слова, а пісьменны селянін, які адолеў грамату, але застаўся яшчэ грубы, неадшліфаваны, каструбаваты.

Апрануты Дубровіч быў у чорнае паліто з каракулевым каўняром, на галаве — рыжы памяты капялюш, які сядзеў у яго ссунуты на патыліцу, як кепка ў хлапчука.

Ён гучна павітаўся, а потым падыходзіў да жанчын і паціскаў руку.

— Ты ўсё прыгажэеш? — спытаў круглавідую, смяшлівую Жывіцу і, не чакаючы адказу, падыходзіў да нахмуранага, засяроджанага Пракурата.— А ты трохі дзюбнуў ці сёння яшчэ не паспеў?

Той толькі збіраўся нешта сказаць, як Дубровіч ужо цінуў руку Нагорнаму.

— Ну, як, наладзіў падвеску? Возьмеш мяне на падлёдны лоў? Чорта ты возьмеш! Кулак ты, браце, гэта точна. Не сярдуй, шчыра кажу...

— Што ты, Алесь, не сярдую... Божа барані! — казаў Нагорны, а сам, відаць, усё ж сердаваў.

— Добра, добра...— Дубровіч стаў пасярод пакоя.— А дзе гэты, кароткі, тоўсты, як кабан... Ну, Рымар! — успомніў ён.

— У надомніках Рымар,— адказвае Нагорны і з'едліва ўсміхаецца: а што на гэта скажа Дубровіч?

— У-у-у, клоп, гэты ўсюды жыве прыпяваючы. Закон для каго хочаш, толькі не для яго... У-у-у, крывасмок!

Нарэшце Дубровіч апынуўся перад Драгуном. Дубровіч глянуў неяк безуважліва і з пагардай сказаў:

— А дзе вы ўзялі гэтага абармота? Адкуль ён тут узяўся? Па-мойму, тут сядзеў нядаўна такі рыжы, лысы, насаты. Як яго?

Драгун не ведаў, што рабіць: ці адказаць грубасцю, ці звярнуць на жарт. Усе смяяліся, і Драгун, абвёўшы вачыма вясёлыя даверлівыя твары рэдактараў, сказаў у тон Дубровічу:

— Таго рыжага насатага павысілі за прынцыповасць, а мяне прыслалі на ўмацаванне рэдакцыі і на страх вам.

Ён яшчэ канчаў гэтую фразу і ўжо разумеў, што не

змог патрапіць у тон Дубровічу. Твар у тога стаў барвовы, як у чалавека, які толькі што вырваўся з лазні.

— Цьфу! — плюнуў Дубровіч.— Мне на страх! Пастраш сваю маму, смаркач!

Драгун устаў з-за стала. Кроў адліла ў яго ад галавы.

— Паслухайце, ці не занадта вы...— ён запнуўся, падбіраючы слова.

— А што ты мяне страшыш? Ты ведаеш, каго страшыш? — ён стаяў перад Драгуновым сталом, здаецца, гатовы кінуцца ў бойку.

— Ды я вас не страшу,— сумеўся Драгун. З-за такога глупства ён ніколі не палез бы на ражон.— Проста я жартую...

— Жартаваць трэба ўмець... І ведаць з кім,— трохі збавіў тону Дубровіч. Ён падышоў да крэсла пры акне і з крэктам сеў, расшпіліў паліто, а капялюш насунуў на лоб, але не скідаў.— Ён жартуе! Ты яшчэ зялёны, а яны ўсе тут,— ён абвёў вачыма прыцішаных і зацікаўленых рэдактараў,— ведаюць, як мяне страшыць.— Ён дастаў пачак «Казбеку», не пытаючы дазволу, запаліў запалку, прыкурыў.— Ты ведаеш, хто такі генерал Дубровіч? — ужо зусім спакойна спытаў ён у Драгуна, які зноў сеў на сваё месца.

— Не ведаю,— прызнаўся Драгун, яшчэ больш зацікаўлены.

— А яны ведаюць... Каб Рымар быў, ён табе расказаў бы... Генерала Дубровіча ўся ваенная Масква ведала, а ты мяне страшыш... Ты яшчэ зялёны, братка, не ведаеш, хто такі Дубровіч. Я з самым Панамарэнкам на «ты»...

— Мне здаецца,— асмялеў Драгун,— што вы з самым богам на «ты».

— А што мне бог? Абыдуся і без яго.— Дубровіч не зразумеў іроніі.— Я з Твардоўскім на «ты»... з Сяльвінскім, з Маршаком... з кім хочаш!

— Раскажы лепей, як цябе скідвалі на парашуце ў партызанскую зону,— папрасіў яго Нагорны, відаць, для таго, каб адвясці гутарку ў другі бок.

— А, вельмі проста,— ажывіўся Дубровіч.— Сабраў нас Панамарэнка аднойчы ды кажа: «Ведаеце што, браткі беларусы, таму у вас дома партызанская вайна, а мы тут сядзім і фактычна нічога пра яе не ведаем: высмоктваем з пальца ўсякія неверагодныя гісторыі. Трэба нам свайго чалавека паслаць у тыл, каб ён адтуль перадаваў нам не толькі голую інфармацыю, а каб пісаў нарысы, апавяданні,

вершы, рэпартажы. Адным словам, каб тое, што там робіцца, нeяк адбівалася ў нашым друку тут. Дык вось, я сабраў вас для таго, каб разам абмеркаваць, каго мы пашлём. Ці мо хто хоча па сваёй ахвоце»? Скончыў ён гаварыць, а такая цішыня, што, здаецца, ніхто не дыхае. Кожны хацеў бы зрабіцца як мага меншы, каб з-за спіны таварыша не было відаць. Глядзяць усе ў падлогу, маўчаць. Бачу, Чорны на палачку апіраецца, нешта хоча сказаць. Бяда... Дай, думаю, выручу людзей... Устаю, прашу мяне паслаць добраахвотна... Усе зашумелі, ажылі адразу, як камень з плеч зваліўся. А дагэтуль толькі і чуваць было: «Каб я меў крылы, паляцеў бы хоць сёння... Змагацца, на радзіму...» Ну, тут мяне абдымаюць, цалуюць, цісну́ць руку... Потым, значыць, пачалася проза: прайшоў інструктаж, і праз колькі дзён выкінулі мяне на парашуце ў Слуцкім раёне разам з групай разведчыкаў...

— Раскажы яшчэ, як вы хадзілі з Твардоўскім да Фальскага пазычаць гарэлку,— зноў папрасіў Нагорны. Відаць, ён ведаў усе гэтыя гісторыі не менш за самога Дубровіча.

А Дубровіча доўга не трэба было прасіць. Ён толькі прыкурыў яшчэ адну папяросу, пыхнуў дымам і пайшоў:

— Мы тады ў Маскве ў гасцініцы жылі. Сорак другі год, голад, беднасць, [redacted] паэту выпіць хочацца... Прыйшоў да мяне Твардоўскі, вершы нашых беларусаў перакладаў... Ну, выпілі мы паўлітру, учора на талоны ўзяў. Але што гэта значыць — паўлітра на дваіх? «Мо тут у каго з вашых яшчэ ёсць?» — пытае Твардоўскі. Ведаў я, што ў нашага старога Фальскага павінна быць, ён сам не п'е, а носіць на рынак і выменьвае на вітаміны — моркву і буракі. Пайшоў я да яго, пастукаў. А ён гімнастыкай займаецца, расцягвае нейкую спружыну, выгінаецца, як вужака. Жывоцік нішто сабе, порткі на шлейках, бародка, як у шляхціца. Кажу, так і так, пазыч паўлітру, там Твардоўскі прыйшоў, трэба пачаставаць. Адчыніў ён тумбачку, ажно ў яго чатыры пляшкі. Даў ён дзве ды кажа: глядзі, каб заўтра аддаў. Аддам, кажу, у мяне ў рэстаране знаёмая буфетчыца, яна дасць колькі трэба. Пайшоў я... Выпілі, пасядзелі, пагаварылі. Ён пачытаў пераклады, сёе-тое паправілі. Бачу, зусім цвярозыя сядзім. Твардоўскі кажа: «Ідзі яшчэ да Фальскага». Не, кажу, не пайду, не дасць гэты скнара, мо ўжо на рынак панёс. «Тады вядзі мяне да яго». Пайшлі. А ён ужо апрануўся, партфельчык у руках трымае. Але раз прыйшлі госці, то трэба прымаць. Пасадзіў ён нас на крэслы,

круціцца, не ведае, што рабіць. «А знаеце,— гаворыць Твардоўскі,— я вас давно приметил, еще когда вы были на первом съезде писателей. Вот, думаю, человек европейского типа, настоящий интеллигент...» Паслухаў яго Фальскі ды кажа мне: «То бярыце ўжо і гэтыя дзве». І дастаў з партфельчыка астатнія. Узялі мы і пайшлі да мяне...

Потым Дубровіч расказваў, як яны хадзілі да Сяльвінскага, той перакладаў на рускую мову Дубровічаву казку, як узялі з сабою літроўку і два колцы кілбасы...

Пасля яшчэ пайшлі гісторыі, у якіх паўтараліся варыяцыі з паўлітроўкамі, неверагоднымі здарэннямі, з мардабоем...

— Раскажыце яшчэ, як вы аблаялі палкоўніка ў рэстаране...

— Раскажыце, як вы затрымалі самалёт...

— А як «утаймоўвалі» ўтаймавальніцу тыграў...

— А як барукаліся з Яўхімовічам і зламалі яму нагу...

І Дубровіч расказваў — весела, з гумарам, а ўсе рагаталі. Урэшце ён стаміўся, насунуў капялюш на вочы і, трохі хістаючыся, пайшоў з пакоя.

Доўга яшчэ ў рэдакцыі не маглі супакоіцца.

Дзверы адчыніліся, зайшоў Гушчынскі.

— Што сёння ў вас так весела?

— Ды Дубровіч расказваў тут усялякія байкі,— адказаў за ўсіх Нагорны.

Гушчынскі сёння нешта быў хмурны.

— Трэба, каб аўтары заходзілі ў вызначаныя гадзіны і, відаць, найлепш пасля полудня. А то прыйдзе такі Дубровіч, стане мянціць языком, усе слухаюць, а работа стаіць.

— Нашу работу за нас усё роўна ніхто не зробіць,— заўважыла Жывіца.

— Усякую работу трэба рабіць з найменшымі затратамі.

— Ад каго мы чуем пра найменшыя затраты,— засмяялася Жывіца.— Нешта наш загадчык стаў эканоміць час. Ці не старэе ён часам? — Яна гаварыла з ім проста, па-панібрацку.

— Мне не да жарцікаў, Волька, я кажу сур'ёзна. Мы зноў не выканаем месячнага графіка. Думаеш, нас за гэта пахваляць?

— І не з'ядуць.

— Вас-то не, а мяне могуць з косткамі...

Зайшла сакратарка і папрасіла загадчыка да дырэктара.

— Вось бачыце, пачынаецца,— сказаў Гушчынскі і пайшоў.

Праз некалькі хвілін Драгуна папрасілі да тэлефона. Званіў Бортнік. Ён пытаўся, што з яго рукапісам. Драгун сказаў, што ён канчае рэдагаваць, але што праўка вельмі вялікая, прамоўчаў. Спытаў толькі, ці хоча аўтар паглядзець, як адрэдагавана. Бортнік памяркоўна адказаў, што лепей ён прачытае ў карэктуры, а цяпер не будзе глядзець. «Я веру вам і вашаму густу»,— сказаў ён Драгуну. На гэтым размова скончылася.

Драгуна гэта здзівіла. Адкуль Бортнік ведае яго густ і чаму ён верыць рэдактару, якога яшчэ не паспеў распазнаць, бо прайшоў які тыдзень часу ці болей, як яны пазнаёміліся. Першы раз ён сустракае такога памяркоўнага аўтара.

У сваім пакоі Драгун расказаў пра гутарку з Бортнікам і дадаў, што нічога не разумее.

— Дзівак,— пачаў Пракурат вучыць маладога рэдактара.— А ты хочаш, каб ён з табою сварыўся за кожнае слова? Гэта ідэальны аўтар. Ён дае канву, касцяк, рэдактар даводзіць да кандыцыі — і ўсё. Чао! Аўтар атрымае грошы, падзякуе рэдактару, можа нават паставіць паўкварты — і возьмецца за новую кнігу. А што ты фактычна суаўтар, а не рэдактар, дык пра гэта ніхто не ведае, апроч вас дваіх. Але ты будзеш маўчаць, ды і яму таксама не вельмі захочацца пра гэта ўспамінаць.

— Але ж арыгінал застаецца, ён ідзе ў архіў...

— Архіў — гэта магіла. Што туды папала, то прапала.

— Як хочаце, а для мяне гэта цёмны лес.

— Усе з гэтага пачыналі,— умяшалася Жывіца.— Мой першы аўтар адразу напісаў на мяне ліст у ЦК — што я яго рэжу. То хай ужо будзе лепей такі, як Бортнік.

— Не трэба браць крайнасці,— разважыў Пракурат.— А ўсё-такі аўтар павінен умець пастаяць за сябе, бо калі не ён сам, то хто за яго заступіцца? Ён першы адказвае за тое, што напісаў.

— Гэта ўсё на словах, таварыш Пракурат, а на практыцы, як вы самі ведаеце, усё наадварот. Калі што не так, то спачатку здымаюць стружку з рэдактара, потым з загадчыка рэдакцыі ці галоўнага, а аўтару могуць нават не сказаць,— упэўнена даводзіла Жывіца.

— Выходзіць, што аўтарам быць лягчэй, чым рэдактарам? — з недаверам спытаўся Драгун.

— Гледзячы якім аўтарам...— адказаў Пракурат.

Зайшоў загадчык рэдакцыі і паклаў перад Драгуном тоўсты, перавязаны шпагатам рукапіс.

— Не палохайся,— сказаў ён з усмешкай.— Гэта Маркаў, наш рэабілітаваны паэт, загінуў зусім малады. Паглядзіце, што тут ёсць. Па плане ў нас чатыры аркушы, а тут, відаць, у два разы болей. Адбярыце лепшае, падрыхтуйце ў набор.

— А хто гэты рукапіс рыхтаваў для выдавецтва?

— Адзін вучоны з акадэміі. Але вы яму вельмі не давярайце, тут ён сабраў усё, што ў чалавека было, згроб у адну кучу і прынёс. Да кнігі тут яшчэ ой як далёка.

— А правіць тут ужо няможна?

— Пэўна, не, гэта ў нейкай меры класіка, хоць яшчэ і няспелая: паэт яшчэ рос, як след не аформіўся. Так што глядзіце...

— Буду глядзець,— няўпэўнена адказаў Драгун.

Вершаў яму яшчэ не даводзілася рэдагаваць.

## 6

На каталіцкія каляды гаспадары запрасілі Драгуна да сябе.

Ён доўга аднекваўся, але не змог: спачатку запрашаў адзін гаспадар, а потым на дапамогу прыйшла гаспадыня. Драгун здаўся. Толькі зайшоўшы да іх у хату, ён зразумеў, чаму яго так угаворвалі зайсці. За сталом сядзела таўстушка Ліда Чалевіч. Яна прыветліва ўсміхнулася яму. Твар яе быў густа напудраны, бровы і павекі падведзены чорнаю фарбай, а валасы светлыя, як аўсяная салома. Драгун вырачыў вочы, зводзячы ўсё на жарт, але ў сэрцы нешта заварушылася. Ён павітаўся з ёю за руку, спытаў, чаму доўга нідзе не было відаць.

— Была далёка адгэтуль... Ажно на цаліне...

— І праўда, далёка... У якой вобласці? У мяне там сястра жыве ў Акмолінскай...

— А я ў Кустанайскай...

— І што, ты ў водпуску?

Ліда не паспела адказаць, бо гаспадыня, якая дагэтуль усё расстаўляла на стале, спынілася насупраць іх і сказала жартоўна:

— Хопіць шаптацца. Адкладзіце на потым. Сёння нашы каляды, пакаштуйце куцці...

— Дык я тут лішні — я праваслаўны і даўно не пасціў,— зноў пачаў выкручвацца Драгун.

— Нічога, бог велікадушны, ён і не такія грахі даруе,— сказаў гаспадар.— Прашу за стол.

За стол вельмі не было каму садзіцца: гаспадары і Ліда з Драгуном. Дзеці, адно большае, другое малое, бавіліся недзе каля бабкі, якая ляжала ў другім пакоі, адбітым дошкамі.

Першую чарку выпіла нават бабка, якая ўжо ледзь хадзіла па хаце — бледная, як цень, адна скура ды косці.

Ад закускі гнуўся стол: куцця, парасяціна з хрэнам, засмажаны з яблыкамі гусак, пірагі, бабкі — усё свае работы.

Драгун еў і хваліў гаспадыню. Пасля свайго халасцяцкага стала ўсё тут было такое смачнае, што можна праглынуць язык.

— Я не ведаў, што ў вас так смачна кормяць,— казаў Драгун, трымаючы ў левай руцэ гусіную нагу, а правай намазваючы на мяса пякучы бурачковы хрэн.— Каб ведаў, дамаўляўся б у вас сталавацца...

— Не заўсёды ў нас каляды,— заўважыў з ядавітай усмешачкай гаспадар і глянуў на гаспадыню. Тая адразу зразумела, куды ён хіліць, і тут жа адбіла яго напад.

— А ты хацеў, каб кожны дзень мець на стале гусака? Прынось тысячы тры, тады будзе...

Яны гаварылі сур'ёзна, і можна было падумаць, што зараз пачнуць сварыцца. Таму Драгун перабіў іх. Ён сказаў першае, што прыйшло ў галаву:

— А я нават не ведаў, што мае гаспадары каталікі.

— Мы раней нават пісаліся палякамі,— адказала гаспадыня.— Мо і бацькі мае паплаціліся за гэта паляцтва.

— Як паплаціліся? — зацікавіўся Драгун.

— Мне было дзесяць год, як іх узялі. І ўсё... Вось нядаўна толькі рэабілітавалі. Нават бацькаў кішэнны гадзіннік і матчын пярсцёнак вянчальны аддалі назад...

— А хто ж яны былі такія?

— Як хто? Звычайныя людзі. Простыя, цёмныя. Бацька сталярыў, а маці трохі шыла на машыне. Жылі сярэдне, не галадалі, але і раскошы не бачылі...

— А я думаў, што гэта ваша маці,— Драгун кіўнуў за перагародку.— Ажно бабка! Праўнукаў дачакалася.

— Але, але, бабка жыве, пакутуе, а каму яшчэ жыць ды жыць — дык таго няма...— гаспадыня змахнула з вачэй слязу.

— Не трэба наракаць на лёс, пані Рэгіна, што было, то было. Трэба жыць і пра гэта не думаць.

— Добра, не будзем думаць. Тады не думалі, цяпер не будзем. Лепей забудзем! — сказала яна ў рыфму і засмяялася.— А мне хочацца чалавеку расказаць, каб ён ведаў, як мы жылі... Мне было дзесяць год, мяне ўзялі ў дзетдом, я там прабыла год і ўцякла да цёткі, бацькавай сястры, папрасілася ў яе жыць. А потым была не рада. Што ні зраблю — усё не так, усё крык, пабоі. Адзін раз я разбіла талерку, дык яна мне як стукнула ў плечы, што я ажно два гады праляжала ў бальніцы. Чуць хрыбет не перабіла... Але нічога, я жывучая, паправілася. Акупацыю неяк перажыла і нават спадабалася свайму шаноўнаму Барысу Каранеўскаму...

Драгун глянуў на гаспадыню, на гаспадара. Яны ўсміхаліся, падміргвалі адно аднаму, нібы гаварылі вясёлыя жарты.

Другі тост пілі за гаспадыню.

— Ці я таго варта? — усё ў тым жа жартоўна-сур'ёзным тоне казала яна.— Вось не працую, гадую свайго Ромку.— І паказала на падлогу, па якой поўзаў малы тоўстагаловы хлопчык з вялікімі вачыма і кірпатым, бірулькаю, носікам.

— А чаму ён у вас не ходзіць, а поўзае, такі вялікі? — спытала Ліда Чалевіч, якая дагэтуль маўчала.

— Лянуецца, у бацьку ўдаўся. Год і пяць месяцаў, а яшчэ не ходзіць. На ножках трымаецца, але няма смеласці. Ён ужо хадзіў, ды выцяўся моцна, таму і баіцца. Жэнька, ідзі нам пайграй трохі! — клікнула яна сваю маленькую дачку, якой было гадоў сем-дзевяць.

— Не хачу,— прапішчала Жэнька з-за шафы.

— Хай лепш Барыс Адамавіч пайграе нам,— папрасіла Ліда.

— Потым,— махнуў рукою гаспадар,— як усё вып'ем.

Пачалі распытваць Ліду пра цаліну, а яна адказвала так, нібы там зусім не была: жарцікамі, намёкамі, недагаворкамі. Драгуна здзівіла, чаго яна туды трапіла.

— Ну як, можна там жыць ці не? — спытаў ён.

— Жывуць жа людзі. Напрыклад, твая сястра...

— Мая сястра паехала туды не з дабра... Няўдала выйшла замуж, развялася і паляцела туды шукаць шчасця.

— У гасцях добра, а дома лепш,— уставіла гаспадыня.

— Мой дом там, дзе я сама,— бесклапотна адказала Ліда.

— Чакайце, хто гэта свой дом носіць? Не напрошвай-

ся на камплімент, Лідка! — падрэзаў яе гаспадар.

— Хочаце сказаць, што я чарапаха? Дзякую, дзякую, там у стэпе я іх наглядзелася.

— Прабач, я не хацеў... А што яны там ядуць, як жывуць без вады?

— Хто іх ведае... Мы іх елі заместа кураціны...

З кожнай чаркай усе весялелі, гутарка рабілася шумная, без усякай сувязі, пераходзіла, скакала з аднаго прадмета на другі, не спыняючыся падоўгу на нечым пэўным. І што б ні пачыналі сур'ёзнае, гаспадар адным махам збіваў усё на жарт, і ўсё канчалася смехам. Так гаварыць можна было без канца. Урэшце яго ўламалі, і ён сеў за піяніна. Сыграў спачатку некалькі калядных мелодый, мо знарок для бабкі — «Трох каралёў» і яшчэ нешта, чаго Драгун або не чуў, або забыўся. Потым перайшоў на папулярнае, што ўсе чулі і любілі: Шапэна, Агінскага, Чайкоўскага, нават нядаўна адкрытага, свайго Туранкова. Драгун першы раз чуў, што ў гэтага кампазітара такія проста класічныя мелодыі.

Але найболей Драгуну спадабаліся арыі з «Запарожца за Дунаем». Адчувалася, што музы́ка любіць гэтыя мелодыі і ўкладвае ў ігру ўсю сваю душу. Ён расчырванеўся, вочы яго гарэлі гарачкавым бляскам, на вялікім лобе выступілі буйныя кроплі поту. Арыю Карася ён нават падпяваў сам сабе басавітым голасам, і ўсе былі ў захапленні. Малая Жэнька стаяла каля бацькі і з замілаваннем глядзела то на яго твар, то на рукі, вялікія, з вузлаватымі пальцамі, здавалася б, такія няспрытныя, а тут такія ўвішныя, што проста як матылькі лёталі над клавішамі, выпускаючы на волю цэлую плынь гукаў.

Гулак-Артамоўскі быў яго каронны нумар. Да таго ж ён іграў без партытуры, папросту без нотаў, і Драгуна здзівіла яшчэ болей: ёсць жа шчаслівыя людзі, што могуць так іграць! А сам ён працаваў цеплатэхнікам у нейкім вадаканалтрэсце! «Абавязкова падарую яму што-небудзь з нотаў, мо нават знойдзецца той самы «Запарожац»,— падумаў Драгун.

Пасля канцэрта сталі збірацца дадому. Ліда падазрона паглядвала на Драгуна, нібы хацела штосьці ў яго спытаць і не асмельвалася. А мо чакала, што ён скажа «бывай» і шмыгне за свае дзверы?

Драгун стаў развітвацца: пацалаваў рукі жанчынам, пахваліў яшчэ раз гаспадарову ігру.

— Дзякуй вам за цудоўны вечар.

— Заходзь часцей! — сказаў на гэта гаспадар. Ён канфузіўся, калі яго хвалілі.

З Лідай яны выйшлі разам. У цёмным калідорчыку перад дзвярыма ў Драгуноў пакой на момант затрымаліся. Ліда стаяла побач, ён адчуваў яе дыханне, чуў пах яе валасоў. Ён прытуліў яе да сябе і сказаў:

— Зойдзем да мяне, я толькі апрануся...

Ён адамкнуў дзверы і нават не ўключыў святла, вобмацкам знайшоў паліто. Ліда стаяла ля дзвярэй, у самым праходзе, якраз на яго дарозе. Яны абняліся, вусны прагна шукалі вуснаў. Ліда вісела ў яго на руках, і каб ён развёў іх, яна ўпала б на падлогу.

— Заставайся ў мяне,— прашаптаў Драгун.

Яна, дакранаючыся валасамі да яго шчакі, кіўнула ў цемры галавою.

Драгун паставіў Ліду на падлогу, падняў руку — выключальнік быў тут жа, ля дзвярэй,— уключыў святло.

Ліда зажмурылася.

Ён узяў у яе паліто, павесіў на цвік, убіты ў сцяну.

— Сядай, Ліда... Я згатую кавы...

— Нічога не трэба...— яна прайшлася па пакоі, азірала сцены, столь, падлогу, дакранулася рукою да брудных, яркай чырвонай афарбоўкі шпалераў.

— Што ж ты не змяніў нават старых шпалераў?

— Не паспеў. Я тут нядаўна...

— А ты ведаеш, што гэтыя сцены я клеіла?

— Ты? Хіба ты тут жыла?

— Жыла... З адной нашай... Ты яе не ведаеш...

— Вось як! А я думаю: адкуль ты знаёма з маімі гаспадарамі? І доўга ты тут пражыла?

— Год, не болей.

— І адгэтуль паехала на цаліну?

Яна кіўнула галавою.

— Якая ж прычына была, што ты паехала за свет адна?

— Так сабе... Ніякай прычыны... Хацела паездзіць па свеце.

— І паездзіла?

— Як бачыш. Паездзіла... Вярнулася.

— А дзе цяпер? Працуеш?

— Які ты цікаўны сёння... Каб ты заўсёды так цікавіўся... маім лёсам...

— То што было б? — амаль механічна, не падумаўшы, спытаў Драгун і асекся.

Ліда стала сур'ёзная. Яна падышла да яго, паклала яму рукі на плечы.

— Не пытай мяне болей нічога. Мне цяжка...

— Прабач,— сказаў вінавата Драгун.— Я зусім несур'ёзны чалавек. Прысядзь, адпачні...

Цяпер ён зразумеў, што яна прынясла яму сваё гора. Што яна знарок зайшла да гаспадароў, каб пабачыць яго.

... Ён заклаў рукі за галаву, пазіраў у цёмную столь, прыслухоўваўся, як побач на падушцы ўсхліпвае Ліда.

— Чаго ты?

Яна маўчала. Толькі ўсхліпы рабіліся радзейшыя і слабелі.

Ён ненавідзеў сябе ў гэтую хвіліну як самага страшнага ворага. Ён праклінаў сябе за маладушнасць, за подласць, за гэтую мінуту слабасці, калі ён павінен маўчаць, сцяўшы зубы, і не сказаць ёй ніводнага слова суцяшэння. «Чаго ты?» — адзінае, што пачула яна ад яго. Хіба яна гэтага чакала? Ён толькі пытае яе, як на следстве, нічога не гаворыць пра сябе, не пускае яе ў сваю душу, бо там нікога няма, як няма і Ліды... Дык навошта ён сее ў яе сэрцы нейкую ілюзію, навошта гэтая блізкасць, недарэчная, непатрэбная, выпадковая і пустая? Што яна дасць яму ці нават ёй?

І чаго яна плача?

А мо яна так кахае яго, мо рада, мо проста шчаслівая? Мо яна чакала гэтай хвілі як найбольшай узнагароды за свае пакуты, няўдачы, за доўгае спадзяванне, за свой не надта ўдалы і незайздросны лёс? А мо гэта таму, што ён узяў яе цела, а не душу? Глупства! Душа, цела, дух... Містыфікацыя... Проста яна помсціць яму за той вечар, калі яны сядзелі ў бухгалтэрыі на цыратовай канапе, яна абдымала яго за шыю і ніяк не хацела адпускаць. А ён усё-такі ўцёк, разарваў яе абдымкі — і, напэўна, пакрыўдзіў дзяўчыну. Ён проста не ведаў тады, чаго ёй трэба ад яго... А яму ад яе нічога не было патрэбна... Ён лічыў, што, пайшоўшы, зрабіў сумленна, бо не кахаў яе... Але чаму ж сёння ён рашыўся? Мо вінавата гарэлка? Не... Проста ён ужо ведаў сёе-тое пра яе і хацеў пераканацца, ці гэта праўда. Хутчэй за ўсё, што так... Ды ён урэшце мужчына... Чаму ён павінен уцякаць ад таго, што ідзе ў рукі само? Ці тое, што само прыйшло, не цэніцца? Маральны фактар, а як жа!

Не, усё гэта не тое! Ён проста ненавідзеў сябе, што зрабіў несумленна, лёгшы з ёю ў пасцель і не сказаўшы «кахаю».

Няўжо яна чакае ад яго гэтага слова і таму плача?

— Косця...

Да яго даляцеў гэты голас як з-пад зямлі — ён уздрыгнуў.

— Даруй, у мяне нервы... Як я рада, што тут, побач, ты...

## 7

Новага галоўнага рэдактара Драгун ужо трохі ведаў: яны амаль што ў адзін час прыйшлі ў выдавецтва. Шахоўскага, які быў галоўным дагэтуль, забралі ў Міністэрства культуры. А гэты новы... Знешне нішто сабе: сярэдняга росту, зусім лысы, хоць не стары, даволі сімпатычны з твару, толькі па яго ўважлівых позірках на начальства адчувалася, што ў яго надта гнуткі хрыбетнік. І прозвішча ж вельмі выразнае — Быліна. Толькі не казка-быліна, а быліна-былінка.

Яно, як ні дзіўна, адпавядала яму так, як дырэктару — Важнік.

У дырэктарскім кабінеце якраз былі ён, сам дырэктар, загадчык рэдакцыі. На стале перад дырэктарам ляжала добра знаёмая Драгуну папка: пяць аркушаў паэта Маркава, падрыхтаванага і адабранага з таго цэлага абярэмка, які далі Драгуну некалькі тыдняў назад.

Было такое адчуванне, што Драгуна выклікалі на суд: усе, хто тут быў, шматзначна маўчалі, гледзячы ў падлогу ці ў акно. Адным словам, адгароджваліся ад яго сцяной непрыступнасці і афіцыйнасці, нібы ён прыйшоў да іх з іншага свету.

Драгун таксама сцяўся, набычыўся, гатовы да ўсяго.

Дырэктар усеўся зручней на сваім «троне», галоўны сядзеў ля акна за доўгім сталом для нарадаў, загадчык размясціўся насупраць галоўнага, на мяккай бардовай канапе. Драгуну дырэктар паказаў месца ля свайго стала.

— Дык вось,— пачаў дырэктар, круцячы ў руках зялёны пластмасавы футарал ад акуляраў,— мы хочам абмяняцца думкамі наконт гэтага рукапісу.— І ён паклаў сваю вузкую далонь на папку.— Першаму даю слова галоўнаму рэдактару Паўлу Пятровічу.

Галоўны выпрастаў плечы, разгарнуў свае запісы, зазірнуў у іх і пачаў:

— Рэдактар Драгун падрыхтаваў ужо некалькі кніжак і, трэба сказаць, паказаў сябе неблагім работнікам: ведае

мову, уважліва ставіцца да справы, можа, як кажуць, навесці стыль.

«Пагладжвае, каб пасля мацней стукнуць»,— падумаў Драгун.

Галоўны яшчэ раз паварушыў свае паперы, глянуў на дырэктара, які трохі паморшчыўся, калі ён пачаў хваліць Драгуна, і перайшоў на рэзкі тон.

— Аднак у дачыненні да рукапісу Маркава ён падышоў зусім безадказна. Яму, відаць, здалося ўсё проста: што тут мудрыць, класіка, узяў усё ў адну кучу і выдаў. Тым болей чалавек пацярпеў, трэба хоць пасля смерці зрабіць яму паблажку. А што на справе? Я вось прачытаў тое, што вы, таварыш Драгун, падпісалі ў набор...

— Дазвольце сказаць, што, калі быць дакладным, то я яшчэ не падпісаў у набор, а толькі падрыхтаваў,— уставіў Драгун рэпліку, аб якую галоўны нібы спатыкнуўся, але не змяніў выразу твару.

Дырэктар глянуў на тытульны ліст: сапраўды, штампа «У набор» яшчэ не было.

— Гэта не так важна. Не будзем фармалістамі.

— Я таксама згодзен з вамі.— Быліна ўсміхнуўся, але тут жа сагнаў з вуснаў сваю саладжавую ўсмешку і стаў зноў суровы, як пракурор.— Паўтараю: Драгун падышоў да справы безадказна, легкадумна. Каб не быць галаслоўным, скажу, што адзін верш... як яго... «Гэтым ранкам» — паўтараецца тры разы.

— Не можа быць! — усклікнуў Драгун і пачырванеў.— Там проста варыяцыі адной тэмы!

— Па-вашаму, гэта варыяцыі, а па-мойму, гэта самая звычайная безадказнасць... Ды каб толькі гэта... Паэма «Муляр», па-вашаму, такая дасканалая, што яе можна выдаваць? Не забывайце, хто такі Маркаў. Гэта быў яшчэ зусім малады паэт, без свайго, можна сказаць, голасу...

Ён гаварыў мо з паўгадзіны, цытаваў, прыводзіў прыклады Драгуновай неахайнасці і непатрабавальнасці і ўсё вяртаўся, як да самага важнага аргумента, да верша «Гэтым ранкам» — і паўтарыў пра яго мо разоў пяць.

— А што ты скажаш, Гушчынскі? — спытаў дырэктар у загадчыка рэдакцыі, калі галоўны скончыў.

Загадчык паляпаў сабе па калене далонню правай скалечанай рукі.

— Мая віна, што я адразу аддаў рукапіс маладому рэдактару, паверыў у яго сілы. Трэба было спачатку

паслаць усё ж на рэцэнзію, бо ў гэтай кучы вершаў — і сырых, і газетных, і ўсякіх — не так лёгка разабрацца. Драгуну таксама трэба было менш спадзявацца на сябе, а папрасіць, каб хто памог: я ці хто-небудзь старэйшы, вопытнейшы. А ён паспадзяваўся на сябе і падвёў рэдакцыю. Вось што я магу сказаць.

Усе чакалі дырэктаравага слова.

— Што не аддалі на рэцэнзію, гэта твой недагляд, Гушчынскі... Цяпер скажы ты, Драгун... Чым ты кіраваўся, калі складаў вось гэты том? Ці ты нічога не думаў?

Драгун смела глянуў у вочы дырэктару.

— Якраз думаў і пра гэта вам зараз скажу...

— Калі ласка, слухаем.

— Па-першае, Маркаў рэпрэсіраваны, яму павінна быць хоць невялікая скідка...

— Не мы вінаваты, што ён быў рэпрэсіраваны!— крыкнуў сярдзіта галоўны.

Драгун зрабіў паўзу, глянуў скоса на галоўнага.

— ...Хоць невялічкая скідка,— упарта паўтарыў Драгун.— Па-другое, ён пісаў у той час, калі наша паэзія толькі набірала сілу. Падыходзіць з сённяшняю меркай да вершаў Маркава я лічу занадта сурова і несправядліва. Будзе добра, калі мы з такой меркай падыдзем да сённяшніх, жывых паэтаў, аднак мы гэтага не робім. Дык навошта мы такія строгія да Маркава? Вы кажаце, Павел Пятровіч, што тут сабрана ў кучу, не адвеена... А заўважалі вы, як адвеена ў двухтомніках нашых жывых класікаў? Я ўпэўнены, што пры строгім адборы не засталося б у іх і паловы таго, што мы пускаем у свет з лёгкім сэрцам. Бяда ўся ў тым, што Маркаў не можа ўжо за сябе пастаяць... Па-трэцяе, мы павінны паказаць чытачу, якой была паэзія таго часу, каб на яе фоне лепш відны былі дасягненні сённяшняга дня...

Драгун змоўк. Дырэктар памаўчаў, паківаў галавою.

— Дык вось чым вы кіраваліся! У вас цэлая сістэма!..— Дырэктар ажывіўся, а потым стаў строгі, перайшоў на афіцыйны тон.— Павінен вам сказаць, што вашы ўсе довады і, больш таго, погляды, я лічу няспелымі, каб не назваць горш. Вы павінны кіравацца адным: каб уся літаратура, якую мы выдаём, была пранізана ідэямі партыі, каб яна служыла нашай справе. Усе астатнія меркаванні вы пакіньце пры сабе.

— Усе мае меркаванні якраз і вынікаюць з таго, пра што вы толькі што сказалі.

— Я не бачу тут нічога агульнага... Дык слухайце... Справа больш сур'ёзная, чым вам здаецца. Вы не можаце даць палітычнай ацэнкі рукапісу — вось што мяне турбуе. Палітычная памылка — самая небяспечная. Гэта не якая там літара. За такія памылкі нас па галоўцы не пагладзяць... Шкада, што вы беспартыйны і мы не можам з усёй строгасцю спытаць з вас па гэтай лініі. Аднак хоць вы і беспартыйны, ды гэта не значыць, што вы павінны кіравацца нейкімі сваімі меркаваннямі, а не палітыкай партыі. Так што майце на ўвазе... Маркава мы выдаваць будзем, але не так, як вы хацелі б.

На гэтым размова скончылася. Драгун пайшоў у рэдакцыю. «Далі зразумець, хто я і што я... А яшчэ кажуць: рэдактар — цэнтральная фігура ў выдавецтве. Не... Цэнтральная — дырэктар. А рэдактар — гэта чорны вол, які цягне туды, куды яму скажуць».

Канец рабочага дня прайшоў сумна, прапаў настрой, нічога не хацелася рабіць. Адна толькі іскра прыўзняла ўпалы Драгуноў дух.

Загадчык Гушчынскі выпісваў за месяц ганарар, і Драгун сказаў, што трэба выпісаць і за Маркава, бо нядаўна сюды прыходзіў яго бацька і ён, Драгун, як рэдактар кнігі яго сына, паабяцаў, што ў гэтым месяцы за сынаву кніжку яму выпішуць ганарар. Ці мог Драгун падумаць, што так сёння выйдзе ў яго з Маркавым?

Загадчык быў вясёлы, нават жартаваў, і Драгуна гэта здзівіла: як-ніяк, а яму сёння таксама дасталося.

— Я думаю, браце, што пасля гэтай размовы начальства не падпіша.

— Я пайду прасіць сам, вы толькі выпішце рапарцічку.

— Мне не цяжка, але дарэмна стараешся.

— Дык я ж не для сябе,— насядаў Драгун.

Гушчынскі выпісаў, даў Драгуну і той панёс па «інстанцыях» — спачатку да галоўнага.

— Павел Пятровіч, атрымалася няёмка з бацькам Маркава,— сказаў Драгун, стоячы перад сталом галоўнага.

— А што такое? — узняў ён галаву ад рукапісу.

Драгун растлумачыў.

— Сам вінаваты, сам і выкручвайся,— груба адрэзаў галоўны.— Наперад будзь разумнейшы. Не абяцай таго, што не можаш даць.— І ён адсунуў рапарцічку.

У Драгуна кальнула пад левай лапаткай насупраць сэрца — гэта здаралася ў яго заўсёды ў хвіліны вялікага ду-

шэўнага напружання. Пацямнела ў вачах. Ён схапіў квіток і выйшаў з кабінета галоўнага. На дзвярах насупраць матавая шыльда са словам «Дырэктар» запрашала зайсці. А ісці ўжо не хацелася. «Здаецца, яны аднолькава думаюць». Драгун хвіліну пастаяў, глянуў на сакратарку.

— Дырэктар адзін?

— Здаецца, адзін...

Драгун адчыніў дзверы.

Дырэктар хадзіў па сваім праторным кабінеце.

— Павел Іванавіч, я яшчэ да вас з гэтым Маркавым,— і Драгун працягнуў яму рапарцічку.

— Дваццаць пяць працэнтаў?

— Ага... Я паабяцаў старому, не ведаў, што так выйдзе.

— Менш абяцайце,— сказаў дырэктар і падышоў да свайго стала. Сеў у крэсла, уздзеў акуляры, узяў ручку, глянуў на пяро, падпісаў «Аплаціць» і распісаўся выкрутасіста, па-пісарску — «П. Важнік».

— Шчыра вам дзякую,— сказаў з палёгкай Драгун. У яго на вочы раптоўна набеглі слёзы, што з ім рэдка здаралася.

Затуманенымі вачыма ён яшчэ раз глянуў на подпіс і выйшаў з кабінета. Цяпер на яго пазірала другая таблічка — «Галоўны рэдактар», але ён глянуў на яе з непрыяззю.

— Ну, што? — спытаў у Драгуна Гушчынскі.

— Дырэктар падпісаў. Вось палюбуйцеся.

— Маладзец! — пахваліў яго Гушчынскі.— А галоўны?

— Катэгарычна адмовіўся.

— Гэта ў яго стылі. Але нічога, раз падпісаў дырэктар, то і галоўны нідзе не дзенецца.

Драгун ішоў з работы не такі змрочны, свет неяк пасвятлеў. На двары перад домам спаткаў гаспадара — той ішоў па ваду.

— Нічога, што з пустымі, зайдзі да мяне.

І яны размінуліся. Драгун адамкнуў свой пакой, распрануўся. Глянуў на градуснік, і адразу стала холадна: было ўсяго дзесяць градусаў цяпла. Холад валіў з-пад падлогі, са склепа, з неагледжаных вокан.

Праз хвіліну Драгун пачуў, як у сенцах забразгаў вёдрамі гаспадар, выйшаў.

— Адчыні, рукі заняты.

Драгун адчыніў яму дзверы, потым увайшоў услед за гаспадаром. У нос ударыла спёртае паветра памяшкання, у якім ляжаў хворы чалавек.

— Сядай,— сказаў яму гаспадар, а сам паставіў ваду двума паверхамі: вядро — драўляны кружок — вядро, распрануў паліто, скінуў растаптаныя валёнкі. І ўсё гэта рабіў з крэктам, як стары дзед.— Ведаеш, радыкуліт. Паясніцу ломіць — ні сагнуцца, ні разагнуцца...

Драгун маўчаў, чакаў, калі гаспадар пяройдзе да галоўнага.

— Як у цябе, цёпла? — гаспадар ужо тупаў ля печкі, шчапаў на распалку смаляк.

— Калі верыць градусніку, то дзесяць градусаў.

— Малавата... Адзін змерзнеш, трэба або два разы паліць, або каго браць, каб ля боку грэла.— Ён усміхнуўся, падміргнуў.

— Ды я і сам думаю,— пачаў Драгун. Усё роўна яны ведалі, што ў яго нядаўна начавала госця.

— Ты думай, ды не будзь куццёю, а то падвядзе пад дурнога хату. Ты ведаеш, з кім звязваешся?

— Трохі ведаю...

— Трохі — гэта мала. А хочаш болей — спытай у мяне. Калі яна тут жыла, я не ведаў, як яе выбавіць адгэтуль. Тут дзень і ноч стаяла чарга...

— Ого!

— Спытай у каго хочаш! Нашы суседзі ведаюць. Для яе пераспаць з мужчынам — раз плюнуць. А распісацца яна табе можа. І цаліну, і тую марфіністку, у якой на кватэры жыла. Я тады пашкадаваў дзяўчыну, думаю, сапсуецца ў тае шлюхі.

— У якой?

— Яна жыла у адной на кватэры. Тая кожны вечар прыводзіла сабе студэнта. Бралі паўлітры, а потым клаліся ў пасцель. А за шырмай спала гэтая самая Лідка... Хата без перагародак, як у вёсцы... Ну, сам ведаеш, як гэта прыемна, калі аднаму рай, то другому пекла...

Калі гаспадар назваў вуліцу, на якой жыла Ліда, Драгун успомніў той раён: скасабочаныя хаткі, садкі, хлеўчукі, гнілыя шэрыя платы. Аднойчы яму давялося бачыць — мо якраз перад тым домам, дзе жыла Лідзіна гаспадыня — п'янага мужчыну з падрапаным да крыві тварам. Ён хістаўся, адной рукою трымаючыся за плот, а другой прымочваў бруднаю хусцінкай драпіны на шчоках, з якіх сачылася кроў. Тады Драгуну міжволі стала шкада незнаёмага мужчыну — на яго твары не засталося жывога месца. «Сцеражыся празмернай ласкі,— сказаў тады сабе Драгун,— бо яна можа перарасці пры выпадку ў такі ж празмерны гнеў».

## 8

Адчуванне адзіноты спачатку супакойвала, потым стала раздражняць. Адзіноту ён стаў адчуваць адразу пасля вучобы, калі застаўся ў горадзе на незнаёмай рабоце сярод незнаёмых людзей. Ён думаў, што хоць можна будзе часам адвясці душу са сваімі былымі аднакурснікамі, што засталіся ў Мінску, але тыя былі заняты сваімі клопатамі: хто здаваў кандыдацкі мінімум, хто ўжо засеў пісаць дысертацыю, хто ажаніўся і песціў дзяцей і жонку. Драгун адчуваў, што ён тут лішні, непатрэбны — і больш не стаў заходзіць да знаёмых.

Ён каяўся цяпер, што не падумаў пра адзіноту раней, калі навокал было гэтулькі дзяўчат з усіх курсаў і факультэтаў, ды... тыя, што заглядвалі на яго, здаваліся яму нецікавыя, а да тых, што яму падабаліся, ён баяўся падысці.

Апынуўшыся ў новым калектыве, ён спадзяваўся, што хутка знойдзе сабе сяброў, але гэта аказалася не так проста, як некалі ў маленстве ці нават у маладосці. Чалавек у гадах адгароджваецца ад свету частаколам недаверу, ён не раз пераканаўся, што бескарыслівай дружбы няма. Дружба за мужчынскай чаркай таксама здавалася яму нетрывалай. Бо як канчалася чарка, то канчалася і дружба... А дружба з жаночым полам была таксама ілюзіяй, ён ведаў гэта па сабе. Не раз здаралася з ім такое: з дзяўчынай цікава пагаварыць, правясці час, хоць яна як жанчына яго не вабіць. Кахання — сапраўднага, шчырага — тут не можа быць... Аднак дзяўчына думае зусім іначай. Калі-небудзь пры выпадку, калі ты нават нічога не чакаеш і не падазраеш, адчуеш раптам на сваёй шыі яе гарачыя рукі. І што тады ёй сказаць? Другі раз не захочаш заводзіць такое дружбы... Паступова чалавек застаецца адзін, кола адзіноты сціскаецца ля яго ўсё больш і больш, і аднойчы ён адчуе яго каля самага свайго горла, пачне задыхацца.

Гэтае кола, звужанае да крайнасці, як здалося Драгуну, ён адчуў цяпер сам. Нейкі пробліск радасці прамільгнуў у яго душы, калі ён зблізіўся з Лідай Чалевіч, але гаспадар жорстка і даволі бесцырымонна разбурыў усе яго ілюзіі. Мо гэта добра, што цяпер, мо потым Драгуну ў сто разоў болей давялося б патраціць душэўных сіл, каб дайсці да ўсяго самому і рваць ці перарабляць тое, што зрабілася не сёння і не ўчора. О не, перарабляць цяжка, правіць яшчэ цяжэй, затое разбурыць — адзін мах — і ўсё ў руінах.

Так думаў Драгун, лежачы ранкам пад коўдрай. Вылазіць з пасцелі не хацелася, у пакоі стаяла халадэча, ён накрыўся па коўдры яшчэ і шынялём.

У нядзелю можна было адаспацца, зрабіць сёе-тое для сябе: занесці бялізну да цёткі Стэфкі, схадзіць у магазін ці на рынак, каб купіць што-небудзь з яды, бо апошні час ён зусім закінуў сваю сталовую гаспадарку. Бытавыя, кухонныя дробязі з'ядалі ўвесь яго добры гумар, атручвалі жыццё.

Яго леныя думкі перарваў раптоўны стук у дзверы. Драгун выскачыў з-пад коўдры, адкінуў зашчапку на дзвярах і адчыніў. У калідорчыку стаяў Місюк і ўсміхаўся, паказваючы цэлы рад сваіх сталёвых зубоў.

Яны павіталіся. Драгун запрасіў госця заходзіць, стаў апранацца, заслаў пасцель.

— Якія ў цябе сёння планы? — спытаў у яго Місюк.

— Ніякіх. А што ты спланаваў?

— Іду ў бібліятэку... А ты дровы пакалоў?

— Пытаеш! Я іх хутка спалю! Ты ведаеш, колькі сырых дроў трэба, каб напаліць у хаце? Удвая болей, чым сухіх... Але глупства дровы! Давай паснедаем, ды я таксама схаджу ў бібліятэку. Даўно не быў, хоць усё збіраюся. Тут я нічога не магу рабіць, размагнічваюся, не магу сябе прыцісnуць.

Місюк снедаць не захацеў, а Драгун з'еў кавалак хлеба з кілбасою, запіў кавай, і яны пайшлі.

У бібліятэцы Драгун узяў свежы часопіс, прагледзеў, што цікавага, але адклаў на потым. Цяпер на свежую галаву трэба паспрабаваць пісаць. У яго ў галаве ўжо даўно сядзела некалькі сюжэтаў, за іх даўно трэба было ўзяцца. Але за тры гады, якія ён пражыў у Фінкельштэйнаў, ён так і не сабраўся што-небудзь зрабіць. Калісьці яшчэ студэнтам ён пачынаў пісаць пра адну падзею, якая яго моцна ўразіла. Гэта было ў іх вёсцы ў час нямецкай акупацыі. У сорак першым годзе немцы расстрэльвалі трох родных братоў. Браты ўцякалі з-пад кулі, і аднаму ўсё ж удалося ўцячы. Толькі выпадак сам па сабе быў «безыдэйны», хлопцаў узялі за нейкае глупства, трэба было нешта прыдумваць, даваць кожнаму нейкую біяграфію, ажыўляць дзеянне.

І вось цяпер ён падыходзіў да гэтай тэмы і так і гэтак, але нічога ў яго не вытанцоўвалася. Кідаў, выходзіў «курыць». Нечакана на калідоры спаткаў Веру Выдзерскую, пра якую ўжо пачаў забывацца.

Яна спачатку пачырванела, разгубілася, ён, здаецца,

таксама не знаходзіў слоў, каб пачаць размову.

— Нешта вас не відаць,— сказала яна першая.

— Што вы! Мяне скрозь поўна. Гэта вас я даўно не бачыў.

— Я ўсё езджу ў камандзіроўкі. На Палессе. Там у мяне доследы... Агоркла ўсё, як палын... Учора прыехала, адаспалася — і сюды. Хоць на людзей паглядзець.

Была яна бледная, з гарачымі запалымі вачыма, сутулілася і пакашлівала.

— Вы што, прастудзіліся?

— Нічога, гэта не першы раз. Пройдзе.

Яму стала яе шкада. Нешта ў ёй было такое, што настройвала яго на спачуванне. Але ён сказаў зусім другое, нават нечаканае для самога сябе:

— Вы ведаеце, што я перасяліўся?

— Мо далі кватэру? — яна ўзняла на яго свае ўважлівыя цёмна-шэрыя вочы.

— Не, проста памяняў месца.

— А які быў сэнс мяняць?

— Быў... Дарэчы, калі вы збіраецеся дадому?

— У гадзіны тры-чатыры...

— Я таксама... Ведаеце, хто тут са мною? Місюк!

Яна толькі стомлена ўсміхнулася.

— Пойдзем разам дадому, як тады, з возера. Добра?

— Вы не забыліся?

Ён не захацеў яе падтрымаць. Толькі сказаў суха:

— Дык дамовіліся?

— Добра.

Драгун пайшоў у сваю залу, яна ў сваю — навуковую. І да гэтага пісалася яму не надта, а цяпер і зусім нічога не клеілася. Думкі разрываліся, нельга было спыніцца на чым-небудзь адным. Драгун увесь час паглядваў на гадзіннік — ці хутка тыя тры гадзіны, а пасля трох час пайшоў яшчэ марудней. А палове чацвёртай ён пайшоў да Місюка дамовіцца, каб ісці разам. Місюк здаў свае кніжкі, а Драгун зазірнуў у навуковую залу, каб нагадаць Веры Выдзерскай, што трэба ісці. Яна ўзняла галаву на ціхі скрып дзвярэй і адразу стала складваць свае кніжкі. На лесвічнай пляцоўцы сабраліся ўсе ўтраіх.

— Нікога не забыліся? — сказаў жартам Місюк.— Тады пайшлі.

Смеючыся, рушылі ўніз па лесвіцы.

— Пойдзем ці паедзем? — спытаўся Драгун, калі яны

выйшлі з памяшкання. Ён пытаў і ў Місюка, але пазіраў на Веру.

— Як большасць... Я хачу прайсціся,— сказала яна.

— Я таксама,— далучыўся да яе Місюк.

— Аднагалосна. Ну, пойдзем.

— А куды? — спыталася Вера.

— Даверцеся нам,— дыпламатычна адказаў Драгун.

Снег асеў, бралася пад вясну: стаяла сярэдзіна сакавіка. Яны ішлі памалу, расшпіліўшы паліто, смяяліся, біліся ў снежкі, штурхалі адно аднаго ў мяккія рыхлыя гурбы снегу, рагаталі і кіравалі далей. Дарога была далёкая, ісці давялося з гадзіну, калі не больш. Драгун вёў гасцей на сваю кватэру. Але ўжо перад самым парогам Місюк раптам зрабіў нечаканы выбрык: сказаў, што яму трэба зайсці да аднаго чалавека, ён пра гэта проста забыўся. Драгун з ім доўга лаяўся, упрошвала яго і Вера, але ён настаяў на сваім.

— Знай, браце,— сказаў шматзначна Драгун свайму сябру на развітанне,— што, калі ў маім жыцці што зменіцца ў кепскі бок, ты мой вораг да смерці.

— Не страш людзей! — Місюк кіўнуў на Веру.— Пасля такога жэсту з твайго боку... Але я не магу іначай. Даруйце.

— Я так і не зразумела, пра што вы гаварылі,— сказала Вера, калі яны засталіся ўдваіх.— Вы нешта яму пагражалі?

— Ат, нічога я яму не пагражаў. Проста ён вельмі далікатны.— Драгун дастаў з кішэні ключ, адамкнуў свой пакой.— Вось мая рэзідэнцыя... Будзьце хоць госцяй, хоць гаспадыняй...

— І вы тут адзін?

— Быў адзін. А цяпер мы ўдваіх,— сказаў ён жартам.

## 9

Праз якую гадзіну пакоя нельга было пазнаць: працёртая свежая падлога, стол, засланы свежаю паперай, стаў у новым месцы, зрабілася прастарней; кніжкі і карэктуры складзены парадкам, на пліце гатуецца бульбяны суп; стала цяплей і ўтульней.

— Бачу, чаго цяпер тут не хапала.— Драгун выстаўляў на стол пакункі.— Ну, зараз мы адзначым гэтую падзею.

— Якую падзею?

— Ваш прыход у гэту манашаскую келлю, у якую ніколі не заглядвала сонца.

Раптам у дзверы нехта пастукаў.

— Некага ж нясе нялёгкая,— сказаў сам сабе Драгун і падышоў да дзвярэй.— Зайдзіце!

Ён адчыніў. На парозе стаяла яго сястра, яго родная сястра!

— Каця?! Як ты тут апынулася?

Каця нясмела стала ля парога, паставіла даволі ёмкі чамадан, абвязаны вяроўкай — як у вялікую дарогу.

— Добры дзень вам!.. Добры дзень, браток.

Яны абняліся, пацалаваліся, сястра змахнула слязу.

— Дык ты проста са свайго Казахстана?

— Не з Казахстана, а з дому... Зноў у Казахстан...

— І мне ні слова не напісала! — папракнуў ён сястру, хоць звычайна першы па паўгода не адказваў на яе пісьмы.

— Не хацела турбаваць цябе...

— Ах, якая ты стала далікатная... Ага! То знаёмцеся.— Драгун падвёў сястру да Веры Выдзерскай.— Гэта Вера... мая знаёмая.

Сястра акінула Веру ўважлівым позіркам, ацэньваючы, відаць, чаго яна вартая як жанчына, глянула на накрыты стол і ўсміхнулася:

— Знаёмая, кажаш? А мо... трохі болей?

— Што ты! — збянтэжыўся Драгун.— Мы яшчэ на «вы»...

— Добра, неяк разбяромся.— Было відаць, што яна не паверыла.— Але я не адна. Мяне мама праводзіць. Яна засталася на вакзале, з рэчамі, бо мы ўсяго не забралі б.

Драгун адразу схамянуўся, спахмурнеў. Ён страшэнна не любіў, калі тое, што намячалася, трэба ламаць. Але тут нічога не зробіш — не часта здараецца праводзіць сястру ў Казахстан.

— Дык што ж ты адразу не сказала? Распранайся, сядай за стол, а мы зараз паедзем...

Сястру ён не бачыў гады тры, яна прыкметна пастарэла, распаўнела, стала болей падобная да бацькі. У роце ўжо не хапала зубоў, яна шапялявіла, гаварыла неяк з прысвістам і на такой мешаніне рускіх і беларускіх слоў, што хоць вушы затыкай.

— Мо і я з вамі, там гэтулькі клункаў...

— Перастань, справімся.— Драгун памог апрануцца Веры, потым апрануўся сам. Акінуў вокам застаўлены стол

і праглынуў сліну.— Калі галодная, дык перакусі штонебудзь, не саромейся, мы зараз.

Пачынала вечарэць, на дварэ была адліга — у дрэвах павясенняму шумеў вецер. Снег раз'язджаўся пад нагамі, і яны ішлі, як п'яныя. Драгун трымаў Веру пад руку, і яна часам моцна апіралася на яго.

Драгун думаў, што не шкодзіла б захапіць па дарозе таксі, хоць, прызнацца, гэты від транспарту ў яго быў неаб'езджаны. Нават які-небудзь тралейбус ці трамвай тут, у горадзе, ён лічыў раскошай, бо ўсё сваё жыццё, як навучыўся хадзіць, быў на нагах — і яны, можна сказаць, вывелі яго ў людзі. Справа тут была не ў грашах, а ў звычцы.

Яны селі і тралейбусам прыехалі на вакзал.

Сярод мноства пасажыраў, якія сядзелі на лаўках і проста на падлозе на сваіх чамаданах ці клунках, Драгун усё ж вельмі хутка знайшоў сваю маці — ён пазнаў бы яе ў тысячным натоўпе. Яна сядзела на клунку, апранутая ў паўшубак, вялікі на яе, няйначай, бацькаў, на галаве была вялікая, у клетку, мультановая хустка, на нагах — растаптаныя старыя валёнкі: зімовы сялянскі ўбор. Вельмі часта, жывучы ў горадзе, Драгун, калі бачыў вось так апранутую цётку невысокага росту, заўсёды азіраўся і заглядваў жанчыне ў твар: яму здавалася, што гэта яго маці.

— Мама! — Драгун злёгку дакрануўся да яе пляча.

Маці ўздрыгнула, узняла галаву — і твар яе раптоўна прасвятлеў. Усхапілася з клунка, абняла сына і пацалавала.

— А хто ж гэта з табою?

— Як вам сказаць...— Драгун замяўся: казаць, што знаёмая — мо пакрыўдзіцца Вера, а сказаць што большае — будзе няпраўда.

— Мо мая нявестка? — апярэдзіла яго маці.

Драгун глянуў на Веру і засмяяўся:

— А што, чым кепская нявестка?

— Ты праўду кажаш ці смяешся? — перапытала маці.

Адступаць ужо не было куды, і ён сказаў так, як кажуць пра нешта звычайнае і даўно вырашанае:

— Пэўна ж, праўду. Вы даўно хацелі мець нявестку.

Цяжка было ўявіць, што думала ў гэты час Вера: яе тут запісваюць у чужую сям'ю, запісваюць у жонкі і ў нявесткі, нават не спытаўшыся ў яе згоды. Аднак яна прамаўчала. І калі Драгунова маці падышла да яе, яны абняліся і пацалаваліся, як родныя.

— Ах, дачушка мая...— сказала маці, выціраючы слёзы.— Хай вам бог дае шчасця...

Драгуну здалося, што Вера з папрокам зірнула на яго. Але ён па-ранейшаму заставаўся ўзбуджана-вясёлым, і гэты жарт, які яны разыгралі тут з маткаю, здаваўся яму не так забаўны, як прарочы.

Забралі ўсе мяшкі і клункі і пайшлі на тралейбус. На сваім прыпынку ледзьве паспелі ўсё вымчаць. Драгун вырываў апошні мяшок з зачыненых дзвярэй, як у воўка з зубоў. Сталі размяркоўваць, каму што несці. Сам Драгун узяў два найбольшыя клункі — адзін перавязаны дзяружкаю, не вельмі цяжкі, але вялізны — няйначай, падушкі і коўдры.

Веры дастаўся хоць невялікі, але цяжкі мяшок — мусіць, сала ці мяса, а маці ўзяла тое, што засталося — невялікі клуначак і гаспадарчую сумку. Ісці ім трэба было з кіламетр да свае кватэры, і Драгун недзе на сярэдзіне дарогі адчуў, што пачынае слабець: галоўнае, разгіналіся пальцы на руках, і клункі гатовы былі ўпасці. Маці ледзь паспявала ззаду са сваімі пакункамі, а Вера нясла свой мяшок надзіва лёгка. Глянуўшы на яе танклявую фігуру, ніколі не падумаў бы, што яна дужая ці больш таго — цягавітая. І гэта скрытая ад яго дагэтуль Верына якасць міжволі ўмацавала ў яго сэрцы сімпатыю. Драгун, як памятае сябе, не любіў беларучак і распешчаных. Яму падабаліся людзі такога складу, як ён сам: каб умелі ўсё рабіць, каб не баяліся мазаля, умелі і маглі вынесці на плячах любы груз: ці мяшок з бульбай, ці вялікае гора — і не сагнуцца, не ўпасці пасярод дарогі.

Некалькі разоў спыняліся перадыхнуць, Вера ўвесь час хацела забраць ад маці яшчэ сумку ці пакунак, але тая не аддавала.

— Што ты, дачушка! Мне і самой не цяжка, толькі ногі так хутка ўжо не могуць хадзіць, як вашы. Адхадзілі сваё. А некалі і я магла, так, як цяпер вы — з клункам пяцьдзесят вёрст у дзень зрабіць: з дому да маткі і назад. Ногі былі ўвішныя, ды цяпер ужо ледзь трымаюць... Ну, то пойдзем, бо там Каця недзе прачакалася.

І яна зноў брала сваю ношу.

Калі дабраліся дадому, было ўжо каля дзесяці гадзін. Драгун, глянуўшы на стол, успомніў, што ён цэлы дзень не еў.

— Давайце за стол, бо і мяне ўжо ногі не трымаюць,— сказаў ён, выціраючы рукі.— Каця, Вера, мама! Во колькі ў мяне сёння жаночага люду. За стол!

Чацвёртаму, самому Драгуну, не хапіла крэсла, і ён сеў на чамадан, як на вакзале.

— Нічога, не ўпаду, напівацца не будзем,— супакоіў ён матку, якая аддавала яму сваё крэсла.

Маці з сумкі дастала пляшку самагонкі, паставіла на стол. А Каця ўжо даўно нарыхтавала сялянскае закусі — кілбасы, вяндліны, сала.

Стол адным бокам быў прытулены да сцяны. Насупраць сцяны сядзеў Драгун з Верай, маці і Каця сядзелі ў іх па баках.

— За што ж будзем піць? — спытаў Драгун, наліваючы ў чаркі пярцоўку.

— Як за што? — здзівілася Каця.— За здароўе маладых!

Вера зарагатала, глянула шматзначна на Драгуна. Ён падміргнуў ёй і таксама зарагатаў.

— Чаго вы, дзеці? — сур'ёзна, трохі пакрыўджана спыталася маці.— Смешкамі тут не адбудзеш. Чаго гэта ты, сынок, маўчаў і нам ні слова не напісаў пра гэта?

Драгун апусціў галаву. Ён не хацеў апраўдвацца.

— Пагаворым потым, чаму я не пісаў. Давайце вып'ем за сустрэчу. Ну! — ён узняў чарку, чокнуўся з Верай, з маткай, з сястрой.

Маці, расчуленая да слёз, сказала:

— За ваша здароўе, дзеці мае, за ваша шчасце. Хай вам бог дае дабра і весялосці на ўсё ваша жыццё.

— Дзякуем, мама...— зусім сур'ёзна адказала Вера.

Яны выпілі, сталі закусваць.

— Нейкая ж ваша гарэлка горкая,— сказала маці, і нельга было зразумець адразу, ці тут які намёк, ці толькі прызнанне факта.

— Ды і закуска таксама,— у тон ёй сказала Каця.

Драгун з Верай пераглянуліся.

— Пярцоўка, таму і горкая, як перац,— жартам адказаў Драгун,— а закуска — бо доўга нас чакала.

— Ой, мусіць, не таму! Тут прычына другая,— заспрачалася маці.

— А якая ж яшчэ? — наіўна спытала Вера.

— Не салоджана... Трэба пасаладзіць...

— Трэба, трэба, а то я ўцякаю з-за стала,— патрабавала Каця.

Драгун пачырванеў. Іх прымушалі цалавацца. Ён глянуў скоса, цераз плячо, на Веру. Тая апусціла галаву, сарамяжлівая ўсмешка блукала ў яе на вуснах.

— То што, пасалодзім дарагім гасцям? — спытаў у яе Драгун. Яна ледзь прыкметна кіўнула.

Яны ўсталі і пацалаваліся.

Драгун заўважыў, што маці, ды і сястра, прыглядаюцца да свае «нявесткі», вывучаюць яе вачыма, слухаюць, што яна гаворыць. І хоць ім няёмка распытваць, яны хочуць ведаць, хто яна, з якіх бацькоў, з якога роду, дзе працуе.

З выгляду яна не кідалася ў вочы ні харастом, ні фігурай, ні нават вопраткай: звычайная дзяўчына, якіх многа. Мо толькі занадта сур'ёзна, удумліва пазіраюць яе цёмна-шэрыя вочы. Вопратка недарагая, але акуратная, чыстая, дагледжаная. Здаецца, нічога сабе кабета. Абы чалавек з душою, з галавою... Слова «аспірантура» было для маці, ды і для сястры зусім чужое, незнаёмае, і Драгун тлумачыў ім, што аспірант — гэта чалавек, які збіраецца стаць вучоным, ідзе ў навуку, стане называцца кандыдатам навук і будзе мець добрую зарплату — у разы два большую, чым маюць звычайныя людзі.

Для маці апошняе, відаць, было важней за ўсё, і яна з прыкметнай павагай стала пазіраць на нявестку, адразу пачала называць яе на «вы».

Гаварыла Вера многа, не так, як сын, які ўсё болей маўчаў, і гаварыла складна, гладка, ды яшчэ па-гарадскому, па-руску — і маці, ды і сястра былі прыемна здзіўлены, што ёсць такія разумныя дзяўчаты, такія сур'ёзныя, што не баяцца трудзіць мазгоў, ідуць у навуку, каб мець не тое, што ўсе маюць, а нешта большае. І пэўна ж, у душы маці радавалася за сына, які знайшоў сабе такога разумнага чалавека, з якім не брыдка паказацца ў людзях, які будзе аздабленнем любое кампаніі, ды і сям'і. А што яна небагата апранута — не такая ўжо вялікая бяда. Скончыць вучобу — абжывецца. Вось яе сын колькі ўжо год, як працуе, а ўсё не вельмі шыкуе, носіць касцюм за пяцьсот рублёў, паліто недарагое, абутак таксама не модны. Так што будуць жыць...

Калі агледзеліся — было ўжо за дванаццаць. Прыбралі трохі са стала, зрабілі парадак у пакоі.

— Цяпер давайце думаць, дзе каму спаць,— сказаў Драгун.— Калі вы згодны, то зробім так: вы, мама і Каця, заставайцеся тут. Я правяду Веру і зайду ў інтэрнат да свайго таварыша, Місюка. У іх заўсёды ёсць месца.

— А куды ж Вера пойдзе? Хіба вы не разам? — здзівілася маці.

Драгун засмяяўся.

— Да гэтага яшчэ далёка.

Маці з недаверам паглядзела на сына.

— А я думала...

Драгун і Вера сталі збірацца ў дарогу.

— Памажы мне, кавалер,— падала яму Вера сваё рыжаватае, з коцікавым каўняром паліто.

— Прабач, ніяк не магу прывыкнуць да культуры,— ён патрымаў паліто, памог ёй апрануцца.

— Прывыкай. Ты ж у сталіцы, а не ў сяле.

— Праўду кажаце, Верачка,— падхапіла маці.— Дакуль можна быць такім мядзведзем? Хопіць таго, што твой бацька ніколі не меў спагады да нас, бабаў, думаў, што мы каменныя і ўсё можам. А цяпер час не той і людзі не тыя.

Драгуна гэта трохі ўкалола. «Бач ты іх, адна за другую цягнуць. Як цыганкі».

— Добра, добра, мама, другі раз улічу.

З душнага пакоя прыемна было выйсці на двор, дыхнуць свежым паветрам... Адразу пасвяжэла галава.

— Як добра тут! — Драгун узяў Веру пад руку.— Я мог бы прахадзіць так усю ноч. Ціш якая! Нават наш Лагойскі тракт заснуў. А ён зусім мала спіць...

Вера маўчала, толькі хуталася ў каўнер паліто.

— Табе холадна?

— Не, нічога. Трохі стамілася.

— Пройдзе. Мо што незнаёмыя людзі?

— Чаму незнаёмыя?.. Ты вельмі падобны да маткі. І з твару, і характарам, відаць, таксама. Толькі яна гаваркая.

— А ты спадабалася нашым. А матцы — дык куды там!

— Адкуль ты ведаеш?

— Па іх відаць было.

— Дык гэта добра ці не?

— Яна яшчэ пытае!..

Драгун падхапіў Веру на рукі, закруціўся з ёю па снезе. Яна абхапіла яго за шыю, прытулілася да твару.

— Пусці, яшчэ кінеш...

— Не бойся!

## 10

Тая ноч назаўсёды запомнілася Драгуну.

Ішлі яны з Верай доўга, недзе на самую ўскраіну горада. Па дарозе Вера расказвала пра сваё жыццё.

Расла яна ў вёсцы, там вучылася, у вайну была сувязной партызанскага атрада, пасля працавала на чыгунцы. Потым скончыла дзесяцігодку, паехала вучыцца ў Маскву. Галодны гэта быў і цяжкі пасляваенны час, тры гады жыла па картках. А скончыла інстытут — работа ў глухім раёне. Потым — вось гэтая аспірантура...

Некалькі разоў Вера прасіла Драгуна вярнуцца, бо было ўжо, мусіць, гадзін дзве ночы, а пакуль ён потым дабярэцца да Місюковага інтэрната... Але ён не хацеў яе слухаць.

Увесь дом ужо спаў, калі яны прыйшлі да Веры. Яны трохі пастаялі ў пад'ездзе, ён абдымаў і туліў Веру да сябе, а яна вырывалася і адпраўляла яго дадому. А яму, чым болей яна пра гэта гаварыла, знарок не хацелася ісці.

Пазней, успамінаючы падзеі таго вечара, Драгун не раз думаў, што ёсць у жыцці чалавека нейкі лёс. Гэты лёс у той вечар звёў так нечакана яго з Верай, скрыжаваў іх дарогі...

Вера прызналася, што сёння яна адна ў сваім пакоі, бо яе сяброўка паехала дадому. Драгун жартам пачаў прасіцца пераначаваць, а Вера сур'ёзна спытала яго, за каго ён яе лічыць. Драгун пакрыўдзіўся. Стаў даказваць, што яны ўрэшце не маленькія, могуць ва ўсякім разе быць гаспадарамі свайго слова і, калі трэба, змогуць стрымаць свае пачуцці. Ва ўсякім разе, Драгун за сябе ручаўся. Тады Вера пусціла яго ў пакой, аддала яму свой ложак. Яна нешта яшчэ рабіла на кухні, а Драгун гэтым часам распранаўся. Ён хваляваўся, хоць у думках лаяў сябе за гэта і супакойваў. Рана ці позна гэтым канчаюцца ўсе раманы, дык лепей рана, чым позна. Ён ужо распрануўся і ляжаў пад коўдрай, калі зайшла Вера. Яна адразу выключыла святло, загадала яму адвярнуцца і сама стала распранацца.

Ложкі стаялі амаль што побач, адзін пры адной сцяне, другі — пры другой, між імі быў зусім вузкі праход. Варта яму было працягнуць руку, як ён мог дакрануцца да яе. Па шоргаце адзення ён здагадваўся, што яна з сябе скідае. Працяглы густы шум — гэта сукенка. Павесіла на спінку крэсла... Нешта адшпільвае, потым чуваць мяккі траскучы гук — панчохі... Характэрны гук, калі нешта туга напятае разлятаецца напал — так расшпільваецца станік, які сціскаў грудную клетку. Потым нешта забразгала — нейкія спражкі ці зашчапкі: няйначай, пояс. І ўсё...

Ён сказаў, што яна паўгадзіны распранаецца, а скінула з сябе толькі палавіну даспехаў. Яна сыкнула на яго і папрасіла замоўкнуць. Ён тут жа пачуў, як яна па чарзе стала то на адной назе, то на другой і хутка павесіла на крэсла яшчэ адну адзежыну. Потым нырнула пад коўдру. Затрашчала пагрозліва драцяная сетка, парыпела і заціхла. Вера пажадала яму спакойнай ночы. Ён адказаў. Яны ляжалі моўчкі, толькі ён павярнуўся тварам у яе бок. Яна ляжала павернутая да сцяны і, здавалася, спала. Драгун ведаў па сабе, што заснуць у такой сітуацыі нялёгка.

Не раз, як здаралася ехаць у цягніку, ён доўга не мог заснуць, калі ў купэ была жанчына. І не таму, што яго так цягнула да жанчын: свой пол кожны ведае, процілеглы пакрыты мноствам таямніц. Цікаўнасць электрызавала яго, прымушала насцярожваць слых, і, наколькі дазваляла прыстойнасць, сягаў тады вокам у той бок, дзе на лаўцы бялеў у прыцемку жаночы твар ці аголеныя рукі, пакладзеныя пад галаву або на грудзі...

Чуваць было толькі, як на пісьмовым стале цікаў будзільнік. А больш нічога, ніякіх гукаў: ад цішыні аж звінела ў вушах. І таму яшчэ выразней, яшчэ назойлівей таўклася-білася ў галаве думка-сумненне. А мо ён можа праспаць тут, на чужой падушцы, лепшыя хвілі свайго жыцця? Мо яму трэба не спаць ці не прыкідвацца, што спіць, а смела браць тое, што пасылае яму лёс? Не многа ў чалавечым жыцці надараецца такіх выпадкаў...

І раптам Драгуна нібы кальнула што ў самае сэрца. Ён сеў на ложку. Узбуджаны яго шэпт запоўніў пакой.

— Паслухай, Вера,— сказаў ён,— нас благаславіла маці на сумеснае жыццё! З сённяшняга вечара — мы муж і жонка. Ідзі да мяне.

Спачатку Драгуну здалося, што Вера яго не чуе. Маўчаў Драгун, маўчала яна. А потым яна ўстала з ложка і прыйшла да яго. Ён пасунуўся да сцяны. Усё цела яе было гарачае, толькі ступакі ног яшчэ не нагрэліся. «Трэба будзе купіць ёй цёплы абутак»,— чамусьці падумаў Драгун.

Ён адчуваў, што Веру нешта скоўвае, нешта турбуе, што яна хоча нешта сказаць яму, у той час як для яго словы не мелі ўжо ніякай цаны. Надышла хвіліна, якую чалавек чакае, як глыток вады ў спёку, як лусту хлеба ў голад. Яны цалаваліся, хоць ніхто не гаварыў «горка», і абое п’янелі ад гэтых пацалункаў, ад гарачых абдымкаў. «Пачакай,— прашаптала Вера,— я хачу табе сказаць...» — «Не гавары

нічога»,— адказаў Драгун. «Не, я павінна табе сказаць... Я была замужам...»

Нібы кавалак лёду кінуў хто раптам у грудзі Драгуну. Хто што пераможа? Сэрца астыне ці?.. Не, лёд растаў імгненна. «Мне гэта зусім няважна»,— прамовіў Драгун, хоць яшчэ не паспеў асэнсаваць яе слоў. У той момант ён адчуваў і думаў менавіта так.

Яна і яшчэ нешта хацела яму сказаць, але ён заціскаў ёй рот сваімі вуснамі і цалаваў без канца... Потым былі хвілі найвышэйшага шчасця, калі два целы зліваюцца ў адно, калі зямля і неба перастаюць існаваць, а ёсць толькі шалёнае біццё сэрцаў, толькі адвечная прага чалавека высеяць семя на ўрадлівую глебу, каб прадоўжыць свой род... Потым наступіла ціхая пяшчота: нібы сонца выбліснула з-за хмары пасля бурнай навальніцы. Драгун гладзіў яе гарачае цела, цалаваў у шчаку, гаварыў на вуха што-небудзь прыемнае, а яна ляжала нерухомая, як бы прыслухоўваючыся да нечага, і не адказвала яму ні словам, ні рухам.

Але паступова яна зноў стала сама сабой — і расказала яму невясёлую гісторыю свайго замуства...

Пасля інстытута яе накіравалі на працу ў адзін з глухіх раёнаў на мяжы паміж Беларуссю і Расіяй. Раён глухі, бедны, увесь дашчэнту разбураны ў вайну — ледзь толькі станавіўся на ногі. Было цяжка, хацелася часам выць воўкам, думалася некуды ўцячы. Але што! Спецыялістаў з дыпломамі — лічаныя людзі, ніхто не збіраўся адпускаць. Гэта цяпер адрабіў два гады пасля інстытута — і ты вольная птушка. А тады цябе як прывязвалі: без згоды начальства ні кроку... Цягнула, як і ўсе... Былі сябры, але ненадзейныя, былі рэдкія хвіліны шчасця, радасці перамогі, але ўсё гэта патанала бясследна ў чадзе пасяджэнняў, бюро, разносаў, наганяяў, актаў, інструкцый, пратаколаў, калі чалавек перастае быць самым сабою, а робіцца вінцікам у бюракратычнай машыне. Нервы пачыналі падводзіць... І тут яе пазнаёміў адзін пажылы заатэхнік са сваім братам, афіцэрам. Па гадах яму было пад трыццаць, ён быў лысаваты, насуплены і маўклівы. Аднойчы позна ноччу Вера разам з пажылым заатэхнікам вярталіся з аднаго калгаса — ездзілі складаць акт на старшыню за падзеж жывёлы. Стаяў люты мароз, бушавала завея, і заатэхнік запрасіў Веру да сябе. Вера змерзла за дзень, знервавалася і проста была рада, што падарожжа канчаецца. Яна згадзілася зайсці да свайго калегі. У хаце павячэралі,

адагрэліся чаем. Быў тут якраз і той лейтэнант, ён да-часу жыў у свайго брата. Ці мо так зрабілі знарок? Паляглі спаць. Веры далі месца на ложку, хоць яна прасілася на печ. На печы лёг лейтэнант... Яна праз сон пачула, што яе нехта будзіць. Яна хацела закрычаць, але нечая рука лягла ёй на вусны. Толькі тады яна зразумела, што гэта ён. Ён лёг ля яе і пачаў упрошваць, каб яна выйшла за яго замуж, кляўся, што кахае яе і будзе ёй верным мужам, толькі хай яна... Яна не здавалася, і ён узяў яе за гор-ла...

«Хай будзе што будзе»,— сказала яна сабе...

Потым яны перайшлі жыць да яе, на прыватную кватэру, але разам пажылі нядоўга. Яна стала яго баяцца. То ён станавіўся ненатуральна вясёлы, спяваў, не хадзіў, а пры-танцоўваў, лез да яе з усякімі дзівацтвамі, быў пяшчотны, то ні з таго ні з сяго пачынаў грубіяніць, рабіўся да агіды цынічны, то надзімаўся і па тыдню не гаварыў з ёю, хадзіў змрочны, як хмара. Ноччу неспакойна спаў, ускрыкваў, часам плакаў, іншы раз зрываўся з ложка, бегаў па пакоі, нечага шукаючы. Часта позна прыходзіў з работы п'яны, будзіў яе і патрабаваў, каб яна забаўляла яго ўсю ноч... Хутка яна даведалася, што ён прыстае да яе гаспадыні. Гэта была тая кропля, якая перапоўніла чашу цярпення. Вера прагнала яго, тым болей што яны жылі не распісаў-шыся... А праз нейкі час яна дачулася, што ў яго ёсць жонка і дзіця, але не тут, а недзе далёка, дзе ён служыў раней... Пасля такога няўдалага замужжа ёй стала яшчэ цяжэй... І вось адзін добры чалавек — старшыня райса-вета — параіў ёй, як вырвацца. Трэба паступаць у аспіран-туру. Ён адпусціў яе на экзамены, а калі прыйшоў выклік на заняткі, яе не маглі затрымаць па закону... Так яна апынулася ў Мінску, ужо трэці год вучыцца. Канчаецца тэрмін яе аспірантуры, а дысертацыі ў яе ўсё няма і невядо-ма калі будзе. Бо яе тэма залежыць болей ад бога, чым ад людзей: «Забойныя якасці палескай буйной рагатай жывёлы». Тут патрэбны кармы, а старшыня калгаса, у якім яна праводзіла доследы на гурце бычкоў, вясной забіраў апошні корм у яе статка і аддаваў каровам, якія галадалі. Бычкі ледзь трымаліся на нагах. Пра якія якасці можна было гаварыць? Праўда, старшыня намякаў, што каб яна не была такой ганарыстай, то кармы знайшліся б. Няйна-чай, намякаў на той выпадак, калі ён зайшоў да яе на кватэру з паўлітрам. Яна тады выставіла яго за дзверы... Вось кончыцца яе тэрмін аспірантуры, пашлюць яе зноў на

раён, бо пры інстытуце застацца ў яе няма ніякіх шанцаў. І зноў меціме яна тое, ад чаго ўцякала...

З таго вечара, праўдзівей, з той ночы Драгун стаў лічыць сябе жанатым.

## 11

На вяселле сабралася чалавек пад трыццаць, хоць спачатку здавалася, адкуль яны возьмуцца. Вера запрасіла сваіх сябровак па аспірантуры, некаторых ужо з мужамі, у Драгуна засталося ў Мінску некалькі хлопцаў, з якімі вучыўся. Адным словам, сабралася спелая і пераспелая моладзь, са старых — нікога. Напрыносілі Драгунам усякіх падарункаў, што не ўлазяць у пакой: чайны сервіз, сценны гадзіннік, фотаапарат.

Тыдзень назад Драгун і Вера падавалі заяву ў загс, а сёння хадзілі на зацвярджэнне. Вера была нешта сумная, і Драгун спытаў, што з ёю. «Ведаеш, усялякія думкі ў галаве... Перамена жыцця... Мо лепей было б яго не мяняць, хай бы ішло так, як ідзе»,— адказала яна.

А сам Драгун жаніўся з лёгкім сэрцам. Асноўнае, што ён рашыўся. А ўрэшце, падумаеш — важная справа, жаніцьба! Не спадабаецца яму жанатае жыццё — развядзецца. Жаніцьба — латарэя, рызыка. Нават калі ведаеш чалавека, з якім звязваеш лёс. А тут што казаць? За трэцяй сустрэчай пажаніліся...

Вось і вяселле, калі можна назваць вяселлем гэтую сяброўскую бяседу. У пакоі цесната, не павярнуцца. Сталы застаўлены закускай, бутэлькамі. Вакол іх цесным колам, плячо да пляча — госці. У самым цэнтры — Вера і Драгун. Яна ў белай газавай сукенцы, ён у цёмна-сінім гарнітуры, пад гальштукам. Пад усмешкай Вера хавае страх і разгубленасць, Драгун, як заўсёды, сур'ёзны, чуць насуплены. Што ні кажыце, а ў такой нязвыклай ролі ён першы раз.

Рослы лабасты тамада Крынчык, Драгуноў прыяцель (разам паступалі ў аспірантуру), не шкадуе гучных слоў і кампліментаў маладым.

Першую чарку ўзялі, як і належыць, за маладых.

— Каб вам добра жылося, каб усё вялося, каб гэты пакой праз год стаў цесны! — закончыў свой доўгі тост тамада і выпіў адным глытком, а пустою чаркаю з ўсяе сілы ўлупіў у сцяну. Са звонам пасыпалася шкло.— Хай будзе на шчасце!

Студэнты, аспіранты — народ вясёлы, любіць кампанію,

ахвочы выпіць і закусіць, умее павесяліцца, паспяваць. Недзе пасля трэцяй чаркі завялі песню. Драгун чуў яе першы раз.

Матулька родненькая,
Куды ж ты ідзеш,
Што кажух надзяеш?
Ці не зяця вітаць?

Матулька родненькая!
І вітай, і пытай:
Ці не п'яніца ён?
Ці не разбойнік ён?
Ці не картыжнік ён?

Вера ўкрадкам змахнула слёзы. Сумна стала на сэрцы і ў Драгуна. Пявучая, працяжная мелодыя песні другі раз мо зусім не закранула б жывой струны, а цяпер Драгун адчуў, як яго ўзяло за душу, як да горла падступае даўкі камяк. Хто ты і што ты? Ці не занадта лёгка звязваеш ты свой лёс з нечыім? Добра адказваць за сябе, можна быць смелым і не баяцца нічога. А цяпер ты звязаў сабе рукі і ёй таксама... Навошта ўсё гэта? І ён сябе зусім яшчэ не ведае: ці можа ён быць галавою сям'і, мужам, бацькам? Усё гэта не так проста, як здаецца спачатку. Мо таму людзі і жэняцца так лёгка, што не ведаюць, што іх чакае...

Усякія такія няпрошаныя думкі лезлі ў Драгунову галаву, пакуль ён слухаў песню, сумна схіліўшыся і сяды-тады азіраючы вясёлыя расчырванелыя твары гасцей.

Толькі скончылі песню, як устаў тамада і сваім грамавым голасам сказаў:

— Нешта ўсе раскіслі, а найбольш нашы маладыя. І ўсё такое горкае, што не праглынуць.

— Горка! Горка! — падхапілі госці.

Драгун як бы ачнуўся. Усмешка ажывіла яго твар, а Вера ўсё ніяк не магла пазбыцца ад таго ўражання, якое зрабіла на яе песня. Яна страсянула галавою, працерла вочы хусцінкай, вінавата ўсміхнулася.

— Даруйце, я заслухалася...

— Горка! Горка! Горка! — пачыналі скандзіраваць госці.

Маладыя ўсталі і пацалаваліся.

— О, цяпер зусім іншая рэч! — крычаў тамада Крынчык.— А гэтую чарку я падымаю за бацькоў нашых маладых. Каб яны радаваліся, гледзячы на сваіх дзетак, каб яны не сумавалі, гадуючы ўнукаў!

Бацькоў тут не было, і мо кепска зрабілі маладыя, што не запрасілі іх разам з усімі адзначыць гэтую дату...

Перашкодзіла цесната, перашкодзіла і тое, што не было як вельмі на многае размахнуцца. Добра і так, што сястра прыслала з Казахстана тысячу рублёў, каб тут Драгун купіў яе мужу касцюм і боты. З пакупкамі можна і пачакаць, а вось грошы ім прыйшліся дарэчы, бо Драгун не вельмі думаў, што ў яго жыцці можа надарыцца такая падзея, як вяселле. Ён жыў сённяшнім днём і, акрамя даўгоў, нічога не меў. Нават перад самым вяселлем пазычыў у Веры сто рублёў і потым жартаваў: «Каб не аддаваць доўгу, вымушаны жаніцца».

Сам Драгун не хацеў рабіць нават такога імправізаванага вяселля, усякіх абрадаў і ўмоўнасцей ён не прызнаваў. Яшчэ нічога, калі глядзець на ўсё збоку, а быць самому «аб'ектам» — не давядзі бог! Часам ён прызнаваўся сам сабе, што, каб цяпер жылі ўсе тыя ранейшыя абрады і цырымоніі, ён ніколі не ажаніўся б. А цяпер проста: прыйшлі, запісаліся. Не спадабалася — забралі заяву...

Голас тамады Крынчыка вяртаў Драгуна да таго, што рабілася за сталом. Цяпер менш закусвалі, больш гаманілі, разбіўшыся на групы і групкі.

Сярод гасцей сядзела і іх гаспадыня. Яна прыйшла адна, муж якраз паехаў у камандзіроўку. Сёння яна была вясёлая, гаваркая, разам спявала, смяялася.

— Не бядуйце,— казала яна Веры, з якою побач сядзела,— усё набудзецца, абы дружна жылі... Нічога, што ў чужой хаце, цяпер паўсвету людзей жывуць у чужых... Я выходзіла замуж як стаю, можна сказаць, голаябосая, а патрохі абжылася. Ды і без дыпломаў, не тое што вы цяпер... О, каб мне вашу маладосць, чаго б я болей хацела!

Далей-болей — і жанчына пачала растраўляць сябе, скардзіцца на лёс, успамінаць мінулае, і маладым давялося доўга яе супакойваць. А пачынала супакойваць яна сама...

— Завядзіце мяне дадому, дарагія мае! — папрасіла яна Драгуноў.— Гледзячы на вас, успамінала сваю маладосць... І ў душы плакала.

Вера шапнула Драгуну на вуха:

— Вазьмі шампанскага, пачастуем бабку.

Драгун узяў. Яны зайшлі да Каранеўскіх. Гаспадыня адразу лягла на канапу. Дзеці ўжо спалі, адна бабка яшчэ сядзела, падклаўшы пад плечы падушкі. Яна павіншавала маладых, пажадала ім шчаслівага і дружнага жыцця. Потым звязала чырвонаю стужкай ім рукі, прачытала сама сабе нейкую малітву.

Драгун пазіраў на яе тонкія, бяскроўныя вусны, якія

варушыліся, чытаючы малітву, на нерухомы, як застыглы, сухі твар, на якім жылі яшчэ толькі адны вочы — і яго працінаў нейкі незнаёмы, нечалавечы страх. Нейкая як бы нябачная сіла ці цяжар апускаўся на яго плечы. Дагэтуль ён быў лёгкі, як бесклапотная птушка, жыў адным сабою, жыў сённяшнім днём. А вось цяпер, з гэтай хвіліны, ён зусім другі чалавек. Той, што жыў у ім дагэтуль, скончыўся назаўсёды. І мо каб не гэтая бабка, нічога паслобнага не адчуў бы Драгун у сваёй душы, не заўважыў бы перамены, таго непрыкметнага пераходу з аднаго звыклага стану ў яшчэ нязвыклы другі, але які стане такім жа звыклым, як ён цяпер нязвыклы. Толькі тут, стоячы перад старою бабкай, звязаны чырвонаю стужкаю са сваёй «палавінай», Драгун адчуў адказнасць таго моманту, які крута мяняе яго жыццё. Нешта падобнае на заклінанне чулася Драгуну ў невыразным шэпце бабчыных вуснаў, заклінанне духаў і звышнатуральных сіл, пра якіх ніхто ніколі не ўспомніць і якіх — усе лічаць — няма. Але ў такія хвіліны можна паверыць ва ўсё. Драгун зірнуў на Веру. Яна стаяла напружаная, бледная, вялікія вочы яе пазіралі на бабку як на прарока, які вось зараз скажа ўсё пра яе далейшы лёс. Ён адчуў, што яе рука, звязаная з яго рукою, лёгка трымціць.

— Амін,— сказала бабка ўголас і развязала ім рукі.— Жывіце ў згодзе і шчасці.

Яны пацалавалі яе сухую бязважкую руку і пайшлі, усё яшчэ адчуваючы на сабе магічную сілу гэтага простага і няхітрага рытуалу, які даў ім адчуць незвычайнасць той хвіліны, якую яны лічылі будзённай.

Вера затрымала яго ў калідорчыку.

— Ты будзеш мне верны?

— Буду,— не задумваючыся, адказаў Драгун.

— Глядзі...

Драгун адчыніў дзверы, прапусціў Веру першую.

Тамада Крынчык накінуўся на іх ледзь не з кулакамі:

— Што гэта такое? Мы пратэстуем! Дзе вы падзеліся?

— Хіба вам тут сумна? — спытаўся Драгун разгублена.

— Мы вянчаліся,— таямніча сказала Вера.

— Няўжо яны паспелі збегаць у цэркаў?

— На іх святы дух сышоў і тут...

— Хопіць блазнаваць, а то я буду плакаць,— папрасілася Вера.

— Калі так, прашу супакоіцца,— прабасіў Крынчык.— Даём слова маладой!

— Просім, просім! — зашумелі навокал.

Вера ўстала. Рука яе з поўнаю чаркай дробна трымцела.

— Дарагія нашы госці! Я хацела б, каб вас было тут у пяць разоў болей... Ды не адна цесната вінавата. Мо яшчэ і пустата... Я хацела б... Я жадаю ўсім вам — сямейным — добрага, ціхага, трывалага шчасця, бо я лічу, што толькі ў дружнай сям'і чалавек можа знайсці сваё шчасце. Калі яму не пашанцуе ў грамадскай рабоце ці яшчэ дзе — гэта паўбяды. А вось калі не пашанцуе ў сямейным жыцці — гэта ўжо драма. Так што цаніце сваё сямейнае шчасце, мацуйце яго, даражыце ім...

— Як старая! — не ўтрымаўся нехта.

— І яшчэ,— канчала Вера,— жадаю мець дружную моцную сям'ю кожнаму, хто сёння прыйшоў да нас не ў пары.

Выпілі, зашумелі, загаварылі ўсе разам.

— Каб гэта так проста, як сказаць, усе былі б шчаслівыя.

— А што тут складанага? Як у Казьмы Пруткова: хочаш быць шчаслівы — будзь ім.

— А гэта мудра! Многія людзі маглі б жыць шчасліва, ды самі сабе шкодзяць...

— Не трэба ўсё зварочваць на людзей...

— Але жаніцьба — гэта ўсё ж латарэя.

— Як і замужжа...

— Што вы! У гэтай латарэі адны бяспройгрышныя білеты.

А потым размова ўсё далей і далей адыходзіла ад таго прадмета, з-за якога пачалася.

Яшчэ выходзілі на двор, яшчэ пілі, яшчэ спявалі і нават танцавалі, ссунуўшы сталы ў адзін кут і паставіўшы іх адзін на другі.

Драгун быў п'яны, многія госці таксама. Недзе ў гадзіны дзве ночы сталі разыходзіцца. Гаварылі кампліменты Веры і Драгуну, казалі, што ідэальная пара,— словам, нагаварылі ўсяго, што ў такім разе гавораць. Драгун дзякаваў за дваіх і толькі пасміхаўся: людзей слухай, а свой розум май. Урэшце, Драгун жэніцца для сябе. Вера яму падабаецца такой, як яна ёсць. Неяк перад вяселлем яна сказала яму: «Калі хочаш жаніцца, то вельмі не кажы нікому. А то можа нічога не выйсці». Драгун яе добра разумеў, бо ведаў гэтую ісціну сам. Людзям ніколі не дагодзіш.

У пакоі стала нязвыкла ціха. Вера была стомленая, але не паказвала віду.

— Ну, Косця, давай заплюшчым вочы на ўвесь гэты гармідар. Уладжваць быт пачнём заўтра, а сёння — наша свята. Давай танцаваць!

Яна выводзіла голасам мелодыю «Дунайскіх хваляў», і яны танцавалі ўдваіх.

— Танцуеш ты слаба, але я цябе навучу,— абяцала Вера.

Драгун смяяўся.

— Танцы — глупства. Жыў я без іх — і далей пражыву.

— У жыцці трэба быць трохі рамантыкам, тады лягчэй.

— Сябе не пераробіш...

— Шліфуй сябе, змагайся з кепскімі звычкамі.

— Будзем разам. Адзін я не даў рады, яны мяне адольвалі... Хопіць, у мяне круціць у галаве.— Ён спыніў Веру, яны селі на ложак.

— Хацелася б ведаць, ці будзем мы шчаслівыя,— летуценна сказала Вера.— Як ты думаеш?

— Калі не будзем дурныя, то будзем шчаслівыя.

— А ўсё-такі страшна... Хоць мне цябе і хвалілі...

— Ці толькі хвалілі?

— Як добра, тады толькі хваляць. А як бяда, тады кажуць: а што, ці я табе не казала?

— Людзей слухай, ды свой розум май...

— Цяжка нам будзе. Я не прынясла табе нічога, апроч сябе: свайго сэрца, сваіх рук. Вунь мой пасаг,— яна паказала пад ложак, дзе ляжаў яе сярэдняй велічыні чамадан.— І ўсё нам трэба будзе набываць уласным гарбом.

— Ну і што ж? Мы — сялянскія дзеці. Работай нас не спалохаеш.

— Які ты, аднак, правільны. Няўжо ты і заўсёды такі будзеш?

— Пажывём — пабачым.

## 12

Праз тыдзень пасля іх імправізаванага вяселля яны адправіліся да Верыных бацькоў. Чаго-чаго, а гэтага ніяк не абмінеш. Ды бацькі падрыхтавалі ім сустрэчу — фактычна, гэта быў працяг іхняга вяселля, пачатага тыдзень назад.

Сабраліся пераважна сваякі па абедзвюх лініях — бацькавай і матчынай. Драгун знаходзіў нешта ў іх тварах то ад Веры, то ад яе маці, то ад бацькі. А ўвогуле, як добра прыгледзішся, то людзі вельмі падобныя адно да другога, асабліва муж і жонка. І Драгуну адразу сказалі, што ён выбраў жонку, падобную да сябе. Яму найболей запомніўся дзядзька Храбры, з якім давялося сядзець за сталом ужо на другі дзень. Па прозвішчы можна было падумаць, што гэта які велікан-асілак, а дзядзька Храбры не меў нічога гераічнага: нізкаваты ростам, шчуплы, толькі ў плячах камлюкаваты, а з твару дробны, хударлявы, аброслы рыжаватым шчаціннем і такога ж колеру радкаватымі валасамі, зачэсанымі на прабор. Ужо захмялеўшы, дзядзька расказаў Драгуну гісторыю свайго жыцця. Нацярпеліся яны ў акупацыю, бо тут быў партызанскі край, аднак немцы пільна ахоўвалі чыгунку, па якой дзень і ноч ішлі эшалоны на ўсход. Нешта падобнае да двоеўладдзя адчувалі на сабе людзі ўсе тыя гады: днём немцы і паліцаі, ноччу — партызаны. Дзядзьку за сувязь з партызанамі ўзялі ў гестапа. А праз які час забралі жонку і падлетка-сына. Ён сам сядзеў у турме, а сын і жонка трапілі за калючы дрот канцлагера ля Барысава. Колькі яны выцерпелі, таго і жывёла не вытрымала б. Аднак пасля бясконцых пакут і страху смерці ім, яму асобна, а жонцы і сыну асобна, удалося ўцячы з гэтага пекла і застацца жыць.

І цяпер, на вяселлі, ён быў разам з імі — ужо стар採ватаю, непрыкметнаю кабетаю і маладым дужым сынам, такім, як бацька, рыжаватым. Сын сядзеў побач з жонкаю, вясёлаю, з буйным прыгожым тварам кабетай. І меў стары Храбры нават унукаў. Ужо недзе ў канцы, нібы між іншым, дзядзька Храбры сказаў, што гэта Вера ўцягнула яго ў партызанства, але што ён не крыўдуе на яе за гэта, бо тады рэдка хто мог застацца ў баку ад таго, што рабілася. Тое, што ён гаварыў, было не скаргай на жыццё, на лёс, а простым жаданнем расказаць новаму чалавеку, як яны тут жылі, што рабілі і чаго вартыя. Але і пахвальбы таксама не ўлавіў Драгун у дзядзькавых словах. Проста ён раскрываўся Драгуну як свайму чалавеку. Няйначай, што так, бо цяжкія ўспаміны растрывожылі яго душу, некалькі разоў ён пусціў слязу — у тым месцы, дзе ён расказваў, як пакутавалі яго жонка і сын.

А ўвогуле ўсе Драгуновы страхі памалу рассеяліся. Верыны бацькі аказаліся простымі, прыветлівымі людзьмі, шчырымі і сціплымі. Усе іх чацвёра дзяцей выйшлі ўжо

ў людзі, двое скончылі інстытуты, двое — дзесяцігодку. Відаць, бацькам гэта далося нялёгка. Жылі яны сярэдне: мелі прасторную хату, хлеў, карову і пару падсвінкаў. Да таго ж быў яшчэ невялікі сад.

У Веры цяпер Драгун шукаў і знаходзіў рысы яе бацькоў. Яна была светлавалосая, як бацька, а нос і авал твару мела матчыны. Характарам яна хутчэй нагадвала бацьку: гаваркая і рухавая, са скрытым тэмпераментам. Маці здавалася больш засяроджанай, спакойнай, свае пачуцці і думкі трымала пры сабе, у яе не адчувалася той рэзкай перамены ў настроі, які прыкмячаўся ў Веры: бурнай весялосці да panыласці і наадварот. Ці мо тут рабіў сваё ўзрост? Як бы там ні было, Вера заставалася дачкою сваіх бацькоў, і, пабачыўшы іх, ён болей зразумеў яе самую. І яшчэ больш упэўніўся, што зрабіў неблагі выбар, бо, сыходзячыся з чалавекам, якога мала ведаеш, можна спадзявацца на ўсякае.

У Мінск яны ехалі нагружаныя ўсякімі падарункамі, прадуктамі, сумкамі і клункамі.

У аўторак Драгун купіў на Камароўскім рынку шпалераў. І адразу ж, прыйшоўшы з работы, узяліся за абклейку пакоя. Вера зварыла добрага клею з крухмалу, Драгун абдзіраў старыя шпалеры ў тых мясцінах, дзе яны адсталі. «Слаба прыклеіла Ліда»,— падумаў ён і ўсміхнуўся. Узяліся за работу дружна: што ні кажы, рабілі для сябе. Спачатку абклеілі паперай столь, доўга важдаліся, бо не давалі разгону бэлькі. Потым пачалі клеіць сцены.

— Ты купіў добрых шпалераў,— пахваліла Вера мужа.— У цябе цудоўны густ!

— Дзівачка! Я купляў тое, што засталося. Падзякуй выпадку.

— Усё ж такі тваіх заслуг тут болей, чым маіх.

— Нічога. Вось як паклеім сёння да паўночы, то будуць і твае.

— Да паўночы? Ды мы тут за пару гадзін скончым.

— Якая ты прэндкая, як у нас кажуць... Глядзі, твой цень заклею! Бач, вылазіць! Дай яшчэ адну стужку. Мо з-пад другое не вылезе. Хутчэй!

— Не дзяціней! — сказала Вера і ляпнула яму рукою па плячах.

Недзе ў гадзін дванаццаць яны яшчэ раз заварвалі клей, бо таго не хапіла, а засталася неабклееная цэлая сцяна. Абое стаміліся, але рашылі кончыць за адзін раз.

— А чаму гэта ты пpыняў ад гаспадыні такі пакой?
— Які? — не зразумеў Драгун.
— Неабгледжаны, неаклееня...
— Ведаеш, лепей самому два разы зрабіць, чым ім раз казаць. Яна сама гаварыла пра гэта разоў пяць, але тым і скончыла. За гэта пакінула мне стол...
— Ох і стол!..
— Лепей, чым дзядзькаў... Асцярожна, загнеш бераг... Так, малайчына... Намазвай гэты кавалак,— камандаваў Драгун.— Бач, як дваім добра. А што я тут адзін зрабіў бы?
— А хіба да мяне сюды ніхто не заглядваў?

Драгун з падазронасцю зірнуў на Веру: няўжо яна што ведае? Але яму здалося, што яна закідвае вудачку наўгад. Таму ён гаварыў спакойна, схіляючы ўсё на жарт:
— Чаму не? Але яны доўга не хацелі тут быць, а тым болей — займацца такою прозай.

— А чым вы займаліся? Толькі паэзіяй?
— Паэзія заўсёды канчаецца прозай.
— Як гэта разумець?
— Усё, што мае пачатак, мае і канец.
— Кітайская прамудрасць...

Драгун маўчаў. Ён якраз прыклаў палосу паперы ад столі да падлогі, асцярожна стаў пагладжваць чыстаю анучкай, кабе лепей прыставала, каб не засталося зморшчак, каб адна палоса па малюнку прадаўжала другую.
— Цік-так, цік-так! Аднак ты дапытлівы чалавек. Я думаў, што цябе гэта турбуе менш за ўсё. Ажно не. Табе нагаварыў хто?
— Чаму ты думаеш, што нагаварыў?
— Бо там, дзе людзі не ведаюць, яны робяць здагадкі, пачынаюць фантазіраваць і, як правіла, далажаць.
— Яны далажаць, сфантазіруюць, пэўна ж... Толькі ты прамаўчыш.— У Верыным голасе чуваць была крыўда.
— Кажы, што табе трэба.— Драгун выпрастаўся, пацёр паясніцу: яна балела.
— Ты хочаш пасварыцца? — спалохана спыталася Вера.
— Я — не! А вось ты хочаш, гэта адразу відаць. Ты намякаеш, што да мяне тут хадзілі... з усяго горада!
— Я думала, што ты пра ўсё раскажаш сам.
— І расказаў бы! Толькі не знаходзіў зручнага выпадку. Але мне здаецца, што ты і без мяне ведаеш болей, чым трэба.

— Ад людзей нічога не ўтоіш... Мне расказалі яшчэ да вяселля.

Драгун знарок не пытаўся, хто расказаў і што.

— І расказала гаспадыня,— гаварыла далей Вера.

— Дзякуй ёй за ласку...

— А што тут такога? Лепей таіць?

— Я не збіраўся таіць ад цябе нічога...

— Можа, і не збіраўся, ды нечага цягнуў... Але мяне не гэта цікавіць... Ну, раз прыйшла — бог з ёю... Я хачу ведаць, як часта яна сюды прыходзіла.

— Во-о-ось што! — расцягнуў Драгун.— Магу сказаць — проста, без хітрыкаў: прыходзіла ўсяго адзін раз, на каталіцкія каляды.

— А як я не паверу?

— Аднак я табе паверыў...

— Я расказала сама... А ты маўчаў...

— Довад магутны... У мяне трохі карацейшы язык, чым... Да таго ж я мужчына...

— Дык што з гэтага?

— А тое! Допытаў я не люблю! — голас Драгуноў міжволі набыў рэзкі тон.— Калі мяне цягнуць за язык, я маўчу. Так будзе і цяпер.

— А я хачу, каб ты расказаў, як гэта было.

— Мала што ты хочаш... Давай лепей канчаць работу, трэцяя гадзіна ночы.

Яны клеілі моўчкі, і работа ішла спарней. Драгун адчуваў сябе ніякавата, хоць не паказваў выгляду. Яму не верылі. Гэта ўжо кепска, калі з першага дня жонка табе не верыць, падазрае.

Той ноччу яны ляглі спаць надзьмутыя, Вера адразу павярнулася да сцяны. Драгун таксама адвярнуўся ад Веры і стараўся нават не дакранацца да яе. Ён ляжаў і доўга не мог заснуць. Не спала і Вера. Варта было Драгуну павярнуцца, абняць жонку, сказаць шчырае слова — і сварка скончылася б прымірэннем. Але ён гэтага не зрабіў. Не зрабіла і яна.

Працяг іх непрыемнай гутаркі быў роўна праз два дні. На рабоце Драгун атрымаў ліст ад Ліды Чалевіч. І думаў: гаварыць пра яго Веры ці не? Ліда прасіла сустрэцца з ім, каб сказаць нешта важнае.

Драгун падумаў, што толькі шчырасцю зможа заваяваць жончын давер. А пайсці да Ліды, не параіўшыся з Верай, было б раўназначна здрадзе.

Вечарам пасля работы Драгун ляжаў на кушэтцы,

трымаў у руках кнігу, але не чыталася. Вера мыла бялізну: грэла ваду, грымела тазікам, ночвамі, падбельвала, падсіньвала. Яны за гэтыя два дні паспелі памірыцца, хоць заставалася няясна, хто перамог. Драгун адклаў кніжку, доўга глядзеў, як завіхаецца Вера.

— Мо табе памагчы? — спытаўся ў яе нарэшце.

Вера стрэльнула ў яго бок вачыма, усміхнулася.

— Дзякую, даражэнькі. Хутка скончу сама... А табе аднаму сумна?

— Не... Я вось думаю...— і не хапала смеласці сказаць усё да канца. Ведаў, што зноў пачнецца, як тады...

— Што ты думаеш? Кажы!

— Думаю: сапсаваць табе настрой ці не? — сказаў ён і адчуў, што гаворыць жорстка.

Вера моўчкі, са страхам пазірала на мужа.

— Мне напісала Ліда... Ну, гэтая самая, што заходзіла сюды.

Вера стаяла, апусціўшы пачырванелыя ад вады рукі, а твар яе пакрываўся бледнасцю.

— Што ж яна хоча? — вяла, як нежывая, спытала Вера.

— Пачытай...— і ён падаў ёй памяты канверт.

Вера доўга не магла выцягнуць паперу з канверта. Нарэшце дастала і, перш чым чытаць, стомлена села на кушэтку ля Драгуновых ног.

Прачытаўшы, маўчала. Маўчаў і Драгун.

— Дык што, пойдзеш да яе? — спыталася Вера.

— А калі б і пайшоў? — абыякава адказаў пытаннем Драгун.

— Ты... пайшоў бы? — вочы ў Веры пабольшалі, акругліліся.— Чаго?

— Ну, даведацца, што з ёю. Мо ў яе якая бяда, няшчасце ці яшчэ што...

— А на мяне плюнуў бы?

— Навошта так рэзка? Ад таго, што я пайшоў бы, нічога не змянілася б.

— Не, гэтым ты растаптаў бы наш саюз. Няўжо ты не разумееш?

— Не разумею... Я пайшоў бы і вярнуўся б. І што тут кепскага?

— Ты яе кахаеш! Інакш ты так не казаў бы...— у Верыным голасе пачуліся слёзы, але не слёзы слабай жанчыны, якая просіць літасці і спагады, а ў яе слязах Драгуну чулася ўпартасць, утрапёнасць і злосць.

— Каб я яе кахаў, ты тут не была б. Была б яна! Каханне тут ні пры чым... Мо чалавек трапіў у бяду...

— Усім не дапаможаш! Калі ты зрабіў добра ёй, значыць, раніш мяне. Я твая жонка — і ўсё. На ўсіх другіх ты цяпер не павінен глядзець.

— Чаму не? Усе астатнія для мяне — проста людзі. А ты — мая жонка. Няўжо табе гэтага мала? У табе проста загаварыла рэўнасць. А для яе няма ніякіх прычын!

— Няма? А што яна тут спала з табою?

— Чаму ж ты не ўспомніла пра гэта да нашага вяселля? Баялася, што я адвярнуся ад цябе?

— Баялася... І цяпер баюся...

— Можаш не баяцца. Калі я даў слова, то я яго стрымаю.

Да Ліды ён так і не пайшоў.

## 13

Нехта разумны сказаў, што панядзелак — цяжкі дзень. Чалавек прыходзіць на работу, сядзіць, працуе, але ўвесь недзе дома, нечым заняты: то даканчвае тую работу, што не паспеў учора, мо жыве тым, што было ўчора: ездзіў куды, з некім гаварыў, нечым моцна ўражаны, а мо проста перапіў ці недаспаў, або, яшчэ горай, пасварыўся з жонкай. І цяпер сядзіць надзьмуты, ні да каго не загаворыць, і лепей яго не чапаць сёння, нават калі табе што і пільнае трэба. Тым болей калі што непрыемнае.

Такое раздваенне Драгун не раз адчуў на сабе, калі ездзіў дадому ў вёску. Там, праўда, ён хутка і непрыкметна для сябе станавіўся вясковым чалавекам, а вось калі вяртаўся ў горад, пераход заўсёды пакідаў у душы непрыемны, нават балючы след. Вось ён уязджае ў горад, ён ужо гарадскі чалавек — хоць бы па вопратцы,— ды не, душа яго там, дома, і думкі там, і ўвесь ён тут сам не свой — выпадковы, чужы, непатрэбны. Ён заходзіць у тралейбус, едзе, змяшаўся з натоўпам. Але ён і цяпер чужы, і гэтыя людзі, што навокал, таксама яму чужыя, бо ў іх галовах зусім не тое, што ў яго: яны нічога гэтага не адчуваюць, ім няма ніякага клопату да яго думак, да яго пачуццяў і да яго самога. А мо гэта таму, што яны гавораць між сабою на другой мове?

У панядзелак звычайна ў рэдакцыі ўсе маўчаць, заўзята працуюць ці робяць выгляд, што працуюць. Як правіла, і аўтары ў панядзелак амаль не заходзяць, бо чалавек ёсць

чалавек — пісьменнік ён ці хто: хварэе аднымі хваробамі, што і ўсе людзі.

Сёння Драгун таксама сядзеў надзьмуты. Учора трохі паспрачаўся з Верай. Фактычна з-за глупства. Драгун спачатку ўзгарэўся, а потым пачаў адступаць, бо падумаў, што і праўда — ён вінаваты. Калі ён халасцякаваў, тады было адно, а цяпер — другое. Паспрачаліся з-за таго, што ён захацеў ісці ў лазню, а ёй нешта не выпадала: ці была якая работа, ці яшчэ якая прычына. Яна сказала, што ў яго цяпер ёсць жонка і што хадзіць яны павінны разам: у лазню, у магазін, у госці. Драгун даказваў, што гэта глупства, бо якая розніца — разам ці асобна? Ды навошта траціць час двайм ісці ў магазін, калі можна аднаму?.. Ёй не выпадае ісці ў лазню, дык ён павінен яе чакаць?.. Проста смешна, дзіцячая фантазія... Вера гаворыць, што яе бацькі заўсёды хадзілі разам: па вялікае і малое, у свята і ў будзень, за патрэбай і на пагулянкі. А Драгуновы бацькі, як ён і памятае, былі ўсе па адным: бацька з канём у раз'ездах, а маці ўсё адна ды адна — на яе плячах трымалася ўся гаспадарка і сям'я. Мо гэта і кепска, бо Драгуновы бацькі жылі не дружна, часта сварыліся, а часам даходзіла нават да бойкі.

Урэшце ён прызнаў, што Вера мае рацыю, мужу і жонцы трэба трымацца адно другога, тады сям'я будзе мацнейшая. «Скончылася мая свабода»,— сказаў Драгун Веры і разрагатаўся. «Ніякага тут смеху няма, і гэта не дробязь, як табе здаецца»,— супакоіла яго Вера. На гэтым яны і скончылі сваю дыскусію.

Цяпер Драгун, седзячы над рукапісам, перабіраў усё ў памяці, і яму іншы раз рабілася не па сабе ад таго, якім павучальным тонам гаварыла з ім Вера і як надакучліва падрабязна тлумачыла яму ўсю шкоднасць яго пазіцыі.

Сакратарка прынесла пошту — газеты і некалькі лістоў.

— Драгун, табе,— сказаў Пракурат, які выходзіў курыць.

— Піша твой аўтар.— І ён чамусьці хітра падміргнуў, нібы гэта быў ліст ад жанчыны, а не ад аўтара. А мо ён намякаў на той ліст — ад Ліды, які таксама не прайшоў непрыкметна для яго. Апошні час Драгун стаў заўважаць, што гэты хударлявы галавасты чалавек са схільнасцямі да алкагалізму мае над ім непрыкметную для другіх уладу. Драгуна чамусьці цягнула да яго.

Ліст быў ад Базылевіча, першую кніжку якога рыхтаваліся выдаваць у гэтым годзе. Драгун адарваў беражок канверта, стаў чытаць. Базылевіч цікавіўся, што з яго кнігай, ці

гатова рэцэнзія на яго другую аповесць, якую ён даслаў месяц назад. Гэтую новую аповесць ён хацеў уключыць у сваю кніжку замест ранейшай, якая ўжо была ўхвалена рэцэнзентам.

«Дзівак,— падумаў Драгун,— навошта здымаць рэч, якая ўжо ўхвалена, і ставіць тое, што яшчэ невядома як сустрэне той жа рэцэнзент».

А ад такога рэцэнзента, як Аўчыннікаў, можна было чакаць усяго. Новая аповесць Базылевіча «Жураўліны клін» чыталася цікава, вызначалася вастрынёй і нязвыклай трактоўкай ваеннай тэмы. Незвычайнай была і кампазіцыя твора: шэсць герояў дзейнічалі там, і кожнаму з шасці адводзілася пароўну месца. І кожны герой выступаў закончаным тыпам, са сваёй біяграфіяй, са сваімі поглядамі, перажываннямі і думкамі і са сваім трагічным канцом.

Пакуль Драгун чытаў і думаў, што адказаць аўтару, у пярэднім пакоі пачуўся моцны голас Аўчыннікава.

«Няйначай, прынёс рэцэнзію,— цюкнула Драгуну.— Ісці ці не ісці? Не. Хіба толькі пакліча Гушчынскі».

Чамусьці Драгун быў упэўнены, што рэцэнзія яго не ўзрадуе.

Аўчыннікаў нешта доўга гаварыў з Гушчынскім, потым пайшоў.

Драгун, нібы нічога не ведаючы, выйшаў у пярэдні пакой, сеў на канапе. Гушчынскі чытаў і, здаецца, ці не тую рэцэнзію. Драгун цярпліва чакаў.

— Зараз дам табе,— буркнуў Гушчынскі і зноў унурыўся ў чытанне. Але перарваў тэлефон. Гушчынскі памалу ўзяў трубку.

Па тоне яго можна было пазнаць, хто на провадзе: дзіця, прыгожая кабета, важны начальнк ці проста які п'яны аўтар без імені або выпадковы чалавек, які памыліўся і трапіў не туды.

— Вітаю, вітаю... Ваш голас — як музыка... Вы цудоўна выглядаеце! Клянуся!.. Клянуся... Заходзьце, рады вас бачыць. У любы час... Ва ўсякім выглядзе!.. Цалую ручку...

А калі другі раз зазваніў тэлефон і ён зняў трубку, яго нельга было пазнаць.

— Шаноўны, нічога не магу парадзіць... Звяртайцеся ў вышэйшыя інстанцыі... У вышэйшыя... Дайце ўрэшце працаваць... Прашу вас... без такіх выразаў... Шаноўны, ідзіце да д'ябла.

Ён бразнуў трубку на апарат. І спакойна, нібы гэта не ён так рэзка гаварыў толькі што, зноў стаў чытаць.

Але яму сёння не шанцавала. Зайшоў галоўны рэдактар і спытаўся, ці гатовы спісы твораў, якія выдаваліся ў перакладзе з кітайскай мовы.

Гушчынскі стукнуў сабе кулаком у лоб.

— Хоць разарвіся. Заўтра дам... Вось чытаю рэцэнзію на Базылевічаву аповесць.

— Потым дасі мне,— сказаў галоўны і сеў на канапу побач з Драгуном, закінуў нагу на нагу, нібы хвалячыся сваімі чэшскімі туфлямі.— Што піша Аўчыннікаў?

— Увогуле хваліць, але робіць сур'ёзныя заўвагі.

— Дапрацоўка?

— Відаць, давядзецца...

Драгун ужо далей не мог змоўчаць. Аповесць проста цудоўная рэч, а тут нешта гавораць пра дапрацоўку.

— Павел Пятровіч, пачытайце аповесць вы самі. Я ўпэўнены, што яна вам спадабаецца...

— Ды ўжо ж, давядзецца чытаць...

Драгун узяў са стала ў Гушчынскага сінюю папку, у якой была аповесць, і падаў Быліне. Той развязаў тасьму, пагартаў рукапіс — і раптоўна грымаса злосці заслала яго твар.

— Чаму вы даяце мне другі экземпляр?

— Аўтар прыслаў нам другі...

— Што, у мяне вочы казённыя, я буду сляпіцца над яго другім экземплярам? — і ён шпурнуў папку на стол.— Адашліце, хай перадрукуе!

— Ён пісаў, што ў яго цяжка з перадрукам. Мы тут перадрукуем за яго кошт,— растлумачыў Драгун.— І час зэканомім.

— Нічога не хачу ведаць. У нас не райсабес, а выдавецтва. Гушчынскі, каб болей так не было: трэба прымаць у двух экземплярах, па інструкцыі.

— Для тых, што жывуць на перыферыі, ёсць агаворка ў інструкцыі, Павел Пятровіч,— памяркоўна сказаў Гушчынскі.— Яны могуць прысылаць і ад рукі.

— Як хочаце. А я другі экземпляр не буду чытаць.— Ён устаў.— І каб заўтра звесткі мне прынёс.

— Абавязкова! — з гатоўнасцю сказаў Гушчынскі.

— Глядзі ж! — нязлосна прыгразіў Быліна і выйшаў.

Гушчынскі вылаяўся, што з ім рэдка здаралася.

— Звар'яцець можна на гэтай рабоце.— І ўзяўся чытаць.

Гэта было ў панядзелак, а канчалі размову толькі ў суботу. Якраз прыехаў Базылевіч, яшчэ малады, хударлявы, з афіцэрскай выпраўкай. Далі пачытаць яму рэцэнзію.

Ён чытаў і моршчыўся, а потым спытаў, чмыхнуўшы некалькі разоў:

— Я хацеў бы ведаць, ці ў рэдакцыі згодны з тым, што піша рэцэнзент?

Драгун глянуў на загадчыка, той — на яго. Яны так яшчэ і не паспелі пагаварыць, што кожны думае пра аповесць, а галоўнае, пра рэцэнзію. Драгун чакаў, што скажа загадчык.

— Пачынай, Драгун,— кіўнуў галавою загадчык на Драгуна.— Гэта ваш будучы рэдактар,— звярнуўся ён да Базылевіча.

— Дзякую,— сказаў сціпла Базылевіч.— Мы ўжо пазнаёміліся.

— Пятрусь Ігнатавіч, а мо вы першы? — чамусьці Драгуну не хацелася задаваць тону: калі перад начальствам каго пачынаеш хваліць, кепска будзе таму, каго хваліш. Гэтага якраз і баяўся Драгун.— Усё ж такі вы загадчык, начальства...

— Начальства любіць падводзіць вынікі,— шматзначна сказаў Гушчынскі і падняў угору ўказальны палец.— Так што давай першы.

Драгун спачатку гаварыў пра зборнік увогуле: што ў ім аркушаў дзесяць добрых апавяданняў і аповесць, якую аўтар цяпер хоча замяніць.

— Лічу, што смелую рэч трэба даваць смеламу рэцэнзенту. Ва ўсёй аповесці менавіта навізна і смеласць. Навізна не тэмы, ■ падыходу да тэмы, кампазіцыя, будова аповесці, паказ унутранага свету герояў. Цікавяць пуката, асязальна выпісаныя героі, іх біяграфіі, іх вельмі розныя адносіны да жыцця, да падзей, да даручанай справы. Вось гэтага ўсяго і спалохаўся рэцэнзент. Бачыце, што ён піша? «Аказваецца, што ўсе гэтыя героі ў жыцці няўдачнікі, усе натуры «ущербленные»... Заўважце — «ущербленные...» «Свістуноў — сядзеў у турме, Елісееў — мамчын сынок, баязлівец, Файнберг — таксама чалавек эксцэнтрычны, ён так захапіўся мастацтвам старажытнасці, што страціў усякую меру ў ацэнцы цяперашніх падзей». А горай за ўсіх — гэта Ячны. Вось што піша Аўчыннікаў: «Паглыбіўшыся ў псіхалогію Ячнага, гэтага кулацкага вылюдка, аўтар і не заўважыў, як сам апынуўся на пазіцыях шкоднага аб'ектывізму... Аўтар так моцна раскрыў, паказаў разважанні і думкі Ячнага, што пачынаеш верыць у лагічнасць і абгрунтаванасць яго здрадніцкага ўчынку, яго пераходу да немцаў. Нават калі яны застрэлілі Ячнага, падсвядома за-

стаецца ўражанне, што яны паставіліся да яго несправядліва, знішчылі свайго сябра... Аўтар павінен павярнуць справу так, каб чытач не спачуваў Ячнаму, а абураўся яго паводзінамі». «Трэба аздаравіць фон твора»,— піша ён трохі ніжэй. Заўвагі, як бачым, сур'ёзныя... Але рэцэнзент абвінавачвае аўтара ў тым, у чым той зусім невінаваты. Яго ўся віна ў тым, што ён моцна паказаў, пераканаўча паказаў. За гэта мы, па-мойму, павінны хваліць аўтара, а не дакараць і лаяць. І вобраз Ячнага... Не ведаю, чым ён спалохаў рэцэнзента? Не такі ён ужо страшны... Ну, ён не раскайваецца ні ў чым, кідае вінтоўку, ідзе да немцаў. А што? Ён лічыць, што яму няма за што паміраць у гэтай вайне, ён пакрыўджаны. Колькі такіх было...

— Слухай, Драгун, ты зрабіў цэлы даклад, я чуць не задрамаў, хай прабачыць аўтар,— перабіў Драгуна Гушчынскі.— Бліжэй да справы... Я ўвогуле згодны з тваёй канцэпцыяй, але баюся, што Важнік разаб'е яе адным довадам: так не бывае. Чаму такая асуджанасць, такі фаталізм, такая пакутніцкая тога на ўсіх героях, нават на Ячным? Дзе той аптымізм, тая вера, якая памагла нам, нягледзячы ні на якія беды і няшчасці, выстаяць і перамагчы?

— А няўжо той, каго пакідалі на верную гібель, радаваўся і быў шчаслівы, што выбралі менавіта яго, а не другога? — спытаўся Драгун.

— Дарагі мой, скажы гэта каму іншаму, а не мне ці аўтару. Справа ў тым, як мы прывыклі ўсё бачыць і ўсё паказваць.

— Любімае выслоўе Важніка, наколькі я ведаю: так, у жыцці можа быць яшчэ і не тое, але навошта ўсё гэта цягнуць у літаратуру? Тады ўзнікае пытанне: а што такое літаратура? Ілюстрацыя да жыцця ці адлюстраванне самога жыцця?

Тут пачалася спрэчка.

*Гушчынскі.* Усе мы гэта разумеем. Толькі нельга адразу прабіць ілбом сцяну.

*Драгун.* Выходзіць, уся бяда ў тым, што аўтар паказаў вайну ў нязвыклым ракурсе?

*Базылевіч.* Я хацеў паказаць, як людзі па-рознаму падыходзяць да адной і той жа з'явы. Нас прывучалі думаць і ўспрымаць усе з'явы аднолькава. Аднак гэта не так проста. Кожны чалавек жыве, думае, успрымае і ацэньвае ўсё пасвойму. З чалавека вельмі цяжка зрабіць аўтамат ці манекен. І вось гэта я хацеў паказаць. Якім трэба быць чулым, муд-

рым і пранікнёным, каб правільна накіроўваць масу, у якой кожны чалавек — асоба, а не баран.

*Драгун.* А калі падысці да гэтай масы з аднаю меркай, можна наламаць дроў.

*Гушчынскі.* І ламалі, колькі ўлезе...

*Драгун.* Мяне ўвесь час мучыць пытанне, і ніхто мне не даў на яго талковага адказу: чаму нам, каб даць немцу па зубах, трэба было страціць фактычна ўсю кадравую армію, тэхніку, аддаць пад акупацыю каля васьмідзесяці мільёнаў насельніцтва, каля шасці рэспублік, велізарныя базы сыравіны, прамысловыя цэнтры? Няўжо мы, страціўшы ўсё гэта, сталі мацнейшыя? Хоць і цяжка паверыць, а выходзіць, што сталі, бо толькі ў сорак другім немец адчуў нашу сілу.

*Гушчынскі.* Гэта не адносіцца да тэмы нашай гутаркі.

*Базылевіч.* На гэта пытанне адкажа час.

*Гушчынскі.* Бліжэй да справы... Мяне турбуе Ячны. Вы паказалі яго ворагам — беспаваротна.

*Базылевіч.* А хіба гэта супярэчыць праўдзе?

*Гушчынскі.* Не. Але гэта кідае цень на іншых сумленных людзей, якія, нягледзячы на ўсе крыўды, засталіся сумленнымі савецкімі людзьмі — і не здрадзілі, не пайшлі ў паліцыю.

*Драгун.* А ўласаўцы?

*Гушчынскі.* Гэта не з той оперы. Гэта ахвяры абставін.

*Драгун.* Чалавек — ахвяра абставін, хоць у нас яго прывыклі лічыць кавалём свайго лёсу. Ячны — таксама ахвяра лёсу, абставін. Ён быў адвержаны — так ці інакш. Яму ніхто не давяраў, як кулацкаму сыну. Ён затаіў злосць. Гэтая злосць магла б з ім памерці і не выйсці наверх, каб не абставіны. Ён ведае, што ўсе яны памруць — ушасцярых немцаў не стрымаеш. І ён падумаў: завошта я буду паміраць? Ён кідае вінтоўку і ідзе здавацца немцам. А тое, што яны яго забілі, у гэтым відна аўтарская пазіцыя. За здраду — ганебная смерць і пагарда нават ад ворага... Дык чаго мы баімся за аўтара, за яго пазіцыю? Пазіцыя яго правільная. Елісееў фактычна таксама здрадзіў, хоць стаў уцякаць не ў той бок, куды Ячны. Ён зросся з думкай, што ён савецкі чалавек, але не хацеў прымірыцца з тым, што якраз ён павінен памерці за гэты лад, які яго ўзгадаваў і вывеў у людзі. Чаму менавіта яго выбраў лёс? Ды не лёс, а нейкі там камбат, старшына Карпухін. Дарэчы, хто мне хоць у нейкай меры нагадаў схему, дык гэта старшына. Надта ён просталінейны, без усякіх сумненняў і думак гатоў злажыць галаву. Паміраць не так проста любому.

*Базылевіч.* Я згодзен з вамі. Карпухін болей схематычны, чым хто іншы. А што датычыць Ячнага, то якраз тое, што ён у безвыходным становішчы, штурхае яго на здраду. Пры іншых, болей спрыяльных абставінах, ён мог бы ніколі не быць здраднікам, а нават знешне лаяльным да ўлады чалавекам.

*Гушчынскі.* Выходзіць, мы не ведаем, што ў нас сядзіць?

*Базылевіч.* Чаму не? Не ведаем толькі, што з яго выйдзе.

*Гушчынскі.* Мне не падабаецца зададзенасць. Калі ён сын былога кулака, значыць, здраднік. Калі пакрыўджаны Савецкай уладай — значыць, патэнцыяльны здраднік.

*Драгун.* Але ж Свістуноў таксама ў пэўнай меры пакрыўджаны, аднак паводзіць сябе як герой.

*Гушчынскі.* Свістуноў заслужана пакараны.

*Драгун.* Гэта аб'ектыўна. А сам ён мог палічыць сябе толькі пакрыўджаным.

*Базылевіч.* Тут трэба зыходзіць з характару. Відаць, Свістуноў паводзіў бы сябе на месцы Ячнага зусім паіншаму. Але тут мае значэнне выхаванне, асяроддзе і ўвогуле біяграфія чалавека. Нездарма я па меры сваіх сіл хацеў больш падрабязна паказаць біяграфію кожнага героя.

*Драгун.* У вас тут таксама некаторая зададзенасць... ці свая філасофія: корань усіх учынкаў, добрых і благіх, крыецца ў тым, які жыццёвы багаж у чалавека за плячыма. Сава не прывядзе сокала — гэта даволі пераканаўча.

*Гушчынскі.* Я зноў за сваё: якраз гэтая зададзенасць мне не падабаецца. Як у Заля — спадчыннасць, зачараванае кола, з якога не вырвацца.

*Базылевіч.* Якраз не. Учынкі чалавека не зададзены, не запраграмаваны, калі гаварыць моваю кібернетыкі. Яны лагічна вынікаюць з характару чалавека, з таго, як ён рос, жыў, як выхоўваўся. Учынак чалавека ў даным выпадку — не якая-небудзь нечаканасць, а лагічны крок. Свістуноў шчыры, ён увесь як на далоні, ён нічога ад нікога не хавае, і калі ён робіць так, а не так — яго разумееш — інакш ён не мог зрабіць. А Ячны — зусім іншы характар.

*Гушчынскі.* Здрада ў яго ў крыві — ці не так?

*Базылевіч.* Не. Але пры пэўнай сітуацыі здрада магчыма.

*Драгун.* Менавіта. Мы пачынаем паўтарацца... Чаму вас, Пятрусь Ігнатавіч, хвалюе, як я бачу, якраз гэтае пытанне?

*Гушчынскі.* Ды таму, што я сам... я сам не здрадзіў, а пайшоў у партызаны. Хоць, як пачалася вайна, мяне не ўзялі

ў армію як сына рэпрэсіраваных бацькоў. Мог я пакрыўдзіцца на ўладу за гэта?

*Базылевіч.* У вас была закладзена здаровая аснова. Моцны хрыбет. Слабы такіх нагрузак не вытрымлівае, ломіцца.

*Гушчынскі.* Вы, я бачу, майстар падводзіць базу.

Яны спрачаліся яшчэ з паўгадзіны. Драгун заўважыў, што Гушчынскі паволі схіляецца на бок Базылевіча. Гэта ўжо адно, а яшчэ тое, што Гушчынскі — сын рэпрэсіраваных бацькоў, адразу ўзняло яго ў Драгуновых вачах.

Нарэшце вырашылі: аповесць выдаваць так, як напісана, насуперак думцы рэцэнзента.

Якраз канчаўся рабочы дзень, усе разыходзіліся. Апрануты ў светлы макінтош, у капелюшы, зайшоў у рэдакцыю галоўны. Іншы раз ён заходзіў па Гушчынскага, яны жылі па-суседству.

Гушчынскі неяк афіцыйна сказаў галоўнаму:

— Пазнаёмся, Павел Пятровіч, гэта аўтар «Жураўлінага кліна» Базылевіч.

Быліна не выказаў ніякіх пачуццяў, холадна кіўнуў галавою і нават не падаў рукі. А Базылевіч устаў і зрабіў паклон галавою.

...Потым, праз некалькі год, калі Базылевіч стаў нечакана для многіх адным з лепшых празаікаў, той жа Быліна кланяўся яму і з кітайскай усмешкай паціскаў руку.

## 14

Першы час пасля жаніцьбы Драгун ніяк не мог прывыкнуць да снедання. Адзін на снеданне ён піў чай з кавалкам хлеба, намазаным маслам, а то і так. А Вера прывучыла яго з'ядаць якую-небудзь кашу, катлету, а потым ужо запіць чаем ці кавай. Цяпер ён сам здзіўляўся, чаму так не глядзеў за сваім бытам. Можна было ўсё-такі жыць лепей. Нездарма ў яго часцяком балела галава, а далоні рук два разы ў год «лінялі» ад авітамінозу.

Вера ўставала на якую гадзіну раней за яго, хутка гатавала сняданне і за адным ходам і абед, бо ім было блізка на работу, і яны паспявалі палуднаваць дома.

— Ну, уставай, мой гаспадар,— гукала Вера.— Усё гатова!

Драгун ужо не спаў, ён прачынаўся разам з ёю, але любіў трохі паляжаць: сон пакідаў яго марудна, і вяласць ва ўсім целе праходзіла не адразу.

— Што сёння? — пытаў ён і падыходзіў да Веры, абдымаў за талію.

— Грэцкая каша. І яечня. І кава.

— Ды гэта ж абед, а не сняданне.

— Нічога, папраўляйся.

— Ты мяне раскорміш. А ці няма чаго кіслага?

— Для цябе знойдзецца, мой дарагі,— казала Вера жартоўна-пяшчотна і гладзіла па ўскудлачаных русых валасах.

Ён рабіў зарадку, галіўся, потым мыўся да пояса, і яны разам садзіліся снедаць.

Сёння Вера прынюхвалася да ўсяго.

— Чаго ты так адэкалонам абліваешся? За вярсту чуваць.

— Якое абліваешся? Пасля брыцця, як заўсёды.

Яна паморшчыла нос, адвярнулася. Пачалі снедаць. Ён еў усё ж нехаця. Кашу ён еў з чым-небудзь кіслым, Вера гэта ўжо ведала. А яна сама магла есці нават сярод ночы. Дзіўны народ гэтыя жанчыны!

Толькі яны пачалі піць каву, як Вера ўсхапілася з-за стала, пабегла да памыйнага вядра. Яе пачало нудзіць.

— Глыні вады,— Драгун падаў ёй конаўку.

Яна глынула вады, аддала конаўку. Твар яе стаў барвовы ад натугі. Усё скончылася ванітаваннем. Яна, саслабелая, прылягла на ложак. Стала бледная, вочы патухлі.

— Што з табою? — няўцямна спытаў Драгун.— Няўжо што кепскае з'ела?

— Нічога, Косця, не турбуйся. Усю пройдзе. Гэта добра, што так...

— Што добра?

Здаецца, толькі цяпер да яго пачынала даходзіць, што азначае такая перамена.

— У нас будзе малы... Пэпік,— сказала Вера і слаба ўсміхнулася.— Памятаеш, у Нушыча — Пэпік...

Драгун не ашалеў ад радасці. Наадварот, яму стала страшна. Так хутка... Толькі два месяцы, як пажаніліся, а ўжо... Ох, які вялікі клопат кладзецца на іх абаіх... Ці справяцца яны? І гэтая цесная чужая кватэра без сонца...

Усё гэта раптоўна нахлынула на Драгуна, аглушыла, як шлягай. Ён, цяжка ступаючы, падышоў да ложка, узяў халодную Верыну руку.

— І што, так будзе ўвесь час?

— Не ведаю... Мо і так... Гэта не ад нашага хацення...

... І пачалося! З таго часу Вера не мела спакою ні днём

ні ноччу. Пахі не давалі ёй жыцця, як і страва. Цяжка было адгадаць, ад чаго пачнецца і калі скончыцца. Вера стала нервозная, схуднела, па начах прачыналася і не магла доўга заснуць. А каб трохі супакоіцца — курыла.

А тут яшчэ пачаліся нелады на рабоце. Скончыўся тэрмін яе аспірантуры, дысертацыя не абаронена, нават не напісана. Думалася, што яе пакінуць малодшым навуковым супрацоўнікам. Вера ведала, што вольнае месца ў інстытуце ёсць. Але начальства на ўсё глядзіць па-свойму і рашае па-свойму. Ёй сказалі, што яе могуць перавесці толькі на пасаду лабаранта, аклад пяцьсот пяцьдзесят у месяц. Вера паплакала трохі ад крыўды, але згадзілася. Да часу можна пасядзець і на такой стаўцы, а там бог бацька.

Вера ездзіла ў камандзіроўкі, а Драгун адзін не ведаў, што рабіць. Цяпер ён жыў тым рэжымам, які яна завяла. Уставаў рана, снедаў, ішоў на працу, а вечарам трохі адпачываў і садзіўся пісаць. Ішло туга. Круціўся вакол «першага кахання», перакрэсліваў, перапісваў, баяўся камунебудзь паказаць. Мала-памалу выйшла апавяданне-пуга — ледзь не аповесць. У ім было многа аўтабіяграфічнага, фактычна ўсё, калі не лічыць канцоўкі і яшчэ аднаго прыдуманага героя, які спатрэбіўся для развіцця дзеяння. Драгун і радаваўся і баяўся. У яго не было ніякай пэўнасці, што ўдалося зрабіць хоць бы пасрэдную рэч, а сіл патраціў так многа, што на ўсякую дапрацоўку і перапрацоўку ўжо не засталося ні хацення, ні цярпення. А ўвогуле было дзіўнае адчуванне спустошанасці. Здавалася, ён аддаў усё, што мог і што меў, сілы болей не адновяцца і ён застанецца, так сказаць, літаратурным імпатэнтам.

Аднак страх яго быў дарэмны. Чым болей аддаляўся Драгун ад думак пра першае апавяданне, тым болей пачыналі вырысоўвацца перад ім малюнкі для новых сюжэтаў. Яго фантазія працавала, думка нешта шукала. Стаў думаць пра сваю вёску, пра яе людзей. Што можна ўзяць з іх жыцця? Смешнага ён не ўлоўліваў, хоць добра яго разумеў і любіў. Галоўнае, не мог перадаць на паперу — смех недзе прападаў па дарозе, заставалася нудота. Яго цягнула трагічнае, драматычнае. Надакучыла чытаць і выдаваць аморфную мяккасць, ад якой ні холадна ні горача. Успомнілася яму адна кніга. На ўнутраным баку вокладкі нейкі чытач напісаў «рэзалюцыю»: «Гэта кніга спадабаецца людзям са слабымі нервамі». Ён знарок прачытаў яе і здзівіўся, як трапна «рэзалюцыя» вызначала сэнс кнігі: у ёй было ўсё гладка, добра — і нецікава. Начытаўшыся такіх кніг, можна

атупець, падумаць, што жыццё спынілася, што няма ні слёз, ні гора, ні гвалту, ні смерці — заўчаснай і нават натуральнай, што няма ні буйнай радасці, шумнай весялосці, ні рэўнасці, ні гарачага, страснага кахання. Крайнасці — не ў модзе, хоць у жыцці іх поўна.

У іх вёсцы жыла адна сям'я, у лёсе якой было поўна фатальнага трагізму. Маці і пяцёра дзяцей. Бацька памёр і пакінуў іх зусім малымі. Беднасць, хата на курынай ножцы. Дзеці, як толькі падрастаюць, ідуць парабкаваць, меншыя наймаюцца ў пастухі. Вырастае старэйшая дачка... У яе закахаўся панскі парабак. Яна не захацела выйсці за яго замуж. Ён застрэліў яе і сябе. Драгун памятае — яму тады было гадоў шэсць,— як хадзіў з дзедам глядзець тое страшнае відовішча... А ў вайну, у час акупацыі, трох сыноў гэтай няшчаснай кабеты немцы схапілі невядома за што і павялі расстрэльваць... Тут, падумаўшы, можна ўзяць матэрыялу калі не на аповесць, то для добрага апавядання. Ён даўно ўжо спрабаваў, але ўсё на месцы.

Прыязджала Вера, і Драгун адкладваў свае задумы. Пры ёй ён зусім не мог брацца за пяро — нічога не выходзіла. Каб пісаць, яму трэба быць аднаму. Пішучы, ён адчуваў сябе нібы голым, і ўсякі пабочны чалавек, нават свой, не даваў яму заставацца самым сабою, прыводзіў яго ў замяшанне: думкі пачыналі блытацца, рука збівалася з рытму. Здавалася б, адкуль такое адчуванне магло ўзяцца, на якой глебе вырасці? Мо ўсё ішло ад таго, што ён ад нараджэння быў сарамяжлівы?

Вера з камандзіроўкі вярталася свежая, загарэлая — як з курорта. Драгун пазіраў на яе і радаваўся.

— Відаць, табе там някепска паводзіцца?

— Ты на што-небудзь намякаеш? Ой, глядзі! — яна пагразіла яму пальцам.

— Што ты! Мне прыемна, што ты папраўляешся.

— Ты ведаеш, мне там і праўда лепей. Мо паветра, мо свежае малако ці сялянскі хлеб, але там я проста адпачываю. І Пэпік маўчыць, ні разу нават не знудзіла, не кажучы ўжо пра горшае.

— Малайчына, Пэпік! — з лёгкай Верынай рукі і Драгун называў тое, што ў іх будзе, Пэпікам.— Ён ведае, што ты там адна і цябе няма каму пашкадаваць, як толькі яму.

Цяпер яны ўжо гаварылі пра малое так, нібы яно было на свеце, толькі не з імі, а недзе ў бабкі ці дзеда, і называлі яго пяшчотна Пэпік, хоць ён мог аказацца і якой-небудзь Пэпітай.

А дома Пэпік паводзіў сябе зноў кепска: Вера пакутавала кожны дзень. Хадзіла нават да доктара, ды што тут доктар параіць? Заставалася адно — цярпець. І яна цярпела. Але чым далей ішоў час і чым бліжэй падыходзіў тэрмін паяўлення Пэпіка на свет, Вера рабілася ўсё хмурнейшай. Драгун спачатку глядзеў праз пальцы: ці мала што можа паказацца жанчыне? Аднак адагнаць ад сябе благія думкі надоўга не мог. Ды пакуль ён збіраўся высвятляць, Вера пачала першая.

На дварэ стаялі маразы, і Драгунам даводзілася паліць печку два разы ў дзень — раніцай і вечарам. Холадам веяла ад вокан, з усіх шчылін ля падрубаў, са склепа пад падлогай.

Ухадзіўшыся, Вера лягла ў пасцель, узяла кніжку, а Драгун усё хадзіў па пакоі, варушыў прысак у печы, каб хутчэй перагараў, каб можна было зачыніць комін.

— Кладзіся ты ўжо, чаго снуеш, як цень? — сказала Вера.

— Зараз. Пакладу толькі анучку на акно, цячэ з дубэльтаў.

Драгун бачыў, што сёння ёй не чытаецца, хоць звычайна ён адбіраў у яе кніжку, бо не мог заснуць пры святле.

Ён распрануўся.

— Выключай, я начыталася,— папрасіла Вера.

— Нешта ж ты сёння нормы не дабрала.— Драгун лёг у пасцель.

— Ты хочаш спаць? — спытала яна ў адказ.

— Хачу... А што?

— Ай, з табою ніколі не пагаворыш. То ты заняты чым-небудзь, тады да цябе не падступішся, то спіш як забіты. Не верыцца, што ў цябе некалі была бяссонніца.

— Я і сам цяпер не веру,— Драгун пазяхнуў на ўвесь рот, аж сківіцы затрашчалі.

— А ці думаў ты, дарагі мой гаспадар, што нас чакае?

— Хіба мне рабіць няма чаго, як толькі думаць?

— Не, я пытаю сур'ёзна...

— Калі сур'ёзна, то думаў.

— І што ж ты прыдумаў? — Вера павярнулася да яго.

— Думаю, што нічога страшнага ў нас наперадзе няма.

— О, які ты аптыміст! Проста не пазнаць цябе.

— Дык гэта ж ты мяне так выхоўваеш.

— Перастань... Вось цяпер, як напалілі печку, то ў нас цёпла, а раніцай будзе дзесяць градусаў. Што нам скажа малое?

— Ну, мо к таму часу будзе вясна...
— Якая вясна? Гэта недзе ў лютым, самыя халады.
— У лютым? Трэба будзе раней уставаць, паліць печку.
— Усё ў цябе проста.
— А што другое прыдумаеш? Дабівацца кватэру? Як ты яе даб'ешся? Хіба галавою аб сцяну.
— Ты не злуй, гавары спакойна. Кватэра ў нас гэтая, і трэба пра яе і думаць. Трэба агледзець падрубы, абкідаць хоць снегам, калі няма саломы. Купіць якую электраплітку, ці што, каб ноччу можна было ўключыць, калі дзіцяці мяняць пялёнкі трэба. Дроў сухіх дастаць яшчэ трэба, а то прывёз сырызны...
— Якіх давалі, такіх і прывёз. Там усе такія. Гэта ж не ў лесе, а на складзе.
— Ты не вінаваты, я ведаю. Але малое не захоча нічога прызнаваць, яму патрэбна цяпло. І ты павінен яго даць, гаспадар мой... Дай сюды руку, хутчэй! — Вера ўзяла яго руку, прыклала да свайго вялікага жывата.— Чуеш, як стукае? Укладваецца спаць наш малы Пэпік.
Малы варушыўся і стукаў заўзята, нібы хацеў наверх.
— Рухавы чалавечак,— Драгун далікатна пагладзіў Веру па жываце.— Ціха, ціха, супакойцеся, усё зробім...
— Гэта адно. Цяпер другое... Ці думаў ты, з кім будзе наша малое, калі я пайду на работу?
— Пра гэта не думаў. А навошта так далёка забягаць?
— Ці далёка? Які ты, аднак, бесклапотны.
— А што ты прыдумала?
— Я хачу працаваць. Што ты на гэта скажаш?
— На гэтай самай пасадзе?
— Дачасу можна і на гэтай.
— Прападзі яна пропадам! Шэсцьсот рублёў у месяц. Пасля васемнаццаці год вучобы!
— А што рабіць! Ісці заатэхнікам — калі ласка. Паедзем у вёску, будзем жыць. Ты будзеш настаўнікам. Чым кепска?
— Калі на словах, то я хоць зараз. А падумаўшы — то лепш тут кепска, чым там добра. Хоць і там людзі жывуць. Мае некаторыя аднакурснікі маюць ужо свае хаты. А я — пралетар.
— Гэта і кепска... Нам-то што? Мы да ўсяго прывыклі. А вось дзеці нашы...
— Іх яшчэ няма. А будуць — таксама прывыкнуць.
— Ты сваё гнеш... Аднак ведай, што я буду працаваць.

— Буду ведаць... Ну, хопіць! Мо прыснім прароцкі сон, які паможа нам выйсці з тупіка.

## 15

Пэпіка чакалі з дня на дзень, але ён не спяшаўся. Ужо тры дні бегаў Драгун у радзільнае аддзяленне, з хваляваннем праглядваў спісы на стале ў пачакальні, але прозвішча сваё жонкі ўсё не знаходзіў. І на пяты дзень, калі ўжо нават не верылася, што чаго-небудзь можна дачакацца, убачыў: «Драгун В.— дачка». О, божа! Пэпік, як ты нас падвёў! Расчараванне было горкае, але кароткае. Якая розніца? Усё роўна дзіця! Ён сеў, напісаў запіску.

«Дарагая, любая Вера! Дзякую табе за дачушку (бог з ім, з Пэпікам), шчаслівы і рады, што ўсё добра! Як ты сябе адчуваеш? Я так доўга чакаў гэтага моманту! Уяўляю, як было чакаць і пакутаваць табе! Ну, цалую вас абедзвюх, рад за вас. Як назавём малую? Адсылаю гэту запіску, а сам бягу ў магазін, куплю што-небудзь, бо прыйшоў з пустымі рукамі, думаў, грэшны, што ты мяне зноў нічым не парадуеш. Спяшаюся. Цалую вас!

Бацька. (Ура! Я — бацька!)»

Згарнуў, надпісаў нумар палаты, перадаў жанчыне, якая прымала перадачы, і пашыбаваў у магазін. Што ўзяць? Смятаны, кампоту, яблык. Пакуль што хопіць. Потым яна напіша, што трэба...

Радасна, лёгка адчуваў сябе Драгун. Купляў, ішоў, а думкі ўвесь час кружыліся вакол аднаго: у іх дачка! Ён толькі прыйшоў у перадатачную, а яго чакала ўжо запіска, кароткая, але радасная і ўсхваляваная. І зусім зменены почыркам.

«Мой дарагі! Я самы шчаслівы чалавек на зямлі! У мяне ёсць дачка і ты! Мы ўтраіх! Дзякую за твае цёплыя словы! Цалуем цябе. Прывітанне знаёмым, гаспадыні!

Вера і твая зусім малая-малая дачушка».

Драгун ішоў на работу і не чуў пад сабою ног. У магазіне ўзяў бутэльку шампанскага, і ў рэдакцыі яны паціху распілі яе. Драгуна адправілі дадому, сказалі, каб ішоў адаспацца. І ён пайшоў, сагрэты цеплынёй сяброўскіх слоў. Трохі кружыла ў галаве, на душы стала лёгка. Мароз шчыпаў за вушы, але Драгун нават і не думаў апускаць навушнікаў у шапцы. Глупства мароз! Хай тут хоць які мароз, хай будзе найбольшая замець — цяпер яму нічога не страшна! У яго дачка! Хоць ён яшчэ не бачыў яе, хоць яшчэ не трымаў на

руках, не ведае, на каго яна падобная. Ён ішоў і з цікаўнасцю прыглядаўся цяпер да малых дзяцей, на якіх дагэтуль ніколі не глядзеў. А цяпер... Асабліва на тых, што сядзелі яшчэ на руках у бацькоў, на такіх, што закручаныя ў цёплыя коўдзеркі, спавітыя ў пялёначках...

Дома ў пакоі было холадна, але ён не стаў паліць у печцы — не хацелася. Што ж рабіць? Сеў пісаць, каб выліць на паперу ўсе свае пачуцці. Але парваў напісанае. Была нейкая сентыментальнасць, ён не пазнаваў сябе... Пахадзіў па пакоі, трохі супакоіўся. Градуснік на сцяне паказваў усё тыя ж дзесяць градусаў. Гэта адразу ж вярнула яго да клопатаў пра сённяшні дзень. Мо схадзіць у магазін, купіць дзіцячую коўдру, пялёнак, кашулек, распашонак? Але хай мо Вера што параіць сама... За што ні браўся — усё здавалася нецікавым, праўдзівей, не адпавядала важнасці моманту. Ага! Трэба напісаць пісьмы — дадому, сястры ў Казахстан і да Верыных бацькоў. Хай ведаюць, што такая падзея. Хай супакояцца...

Сшарэла, покуль скончыў пісаць.

Пабег, укінуў пісьмы ў паштовую скрынку, зайшоў у магазін. Трэба ўзяць якога напітку, мо зойдзе гаспадар павіншаваць з дачкою. Тут ужо ніяк не абыдзешся без чаркі. Ды трэба купіць што-небудзь назаўтра — Веры...

Ісці нікуды не хацелася. Пасля вялікай узбуджанасці надыходзіла стомленасць, вяласць. Хацелася спаць. А што? Хоць адаспіцца... Тыя ночы ён спаў някепска, але трывога за Веру ўсё ж сядзела ў ім глыбока, і нейкая частка мазгоў увесь час жыла пад напружаннем, страшэнна стамілася.

Спаў ён моцна, толькі не давалі спакою сны: недзе ён усё спяшаўся, некуды яму трэба было, і ён баяўся спазніцца. Пабольвала толькі галава.

Раніцай халадэча яшчэ пабольшала. Каб градуснік не мазоліў вачэй, Драгун схаваў яго пад бэльку. І здаецца, адразу стала цяплей. Учора цэлы дзень не паліў, выстудзіў пакой дазвання. Не, трэба ўзяцца за гэта як след! Ён нават перайшоў на свой халасцяцкі рацыён — снедаў толькі з чаем і з маслам, таму ў абед хацелася есці яшчэ з дванаццаці гадзін, а вячэраў таксама сухое. Лаяў сябе за гэта — і нічога не мог парадзіць. Жывот ім ніколі не камандаваў...

Назаўтра пайшоў на работу, але сядзеў, як на цвіках — чакаў дзесяці гадзін, калі пачынаюць прымаць перадачы. Перадаў цэлы набор прысмакаў, запіску, стаў чакаць адказу. Відаць, Вера напісала яму яшчэ ўчора, бо праз хвілін дзесяць Драгун атрымаў ужо цэлы вялікі ліст.

«Костусь мой, дарагі!

Спяшаюся з табой падзяліцца радасцю: учора вечарам прыносілі нашу малечу. Яна вытрашчыла на мяне свае вочкі, нібы што і разумее. Давала грудзей. Яна ссала так нясмела, слаба — мо што была ўжо накормлена. Паварушыцца, пазяхне, пукне разок, нават плакаць сабралася, але потым перадумала. Спакойнае дзіцяня!

У мяне вечарам усё разбалелася, настрой сапсаваўся, але як прынярслі малую, дык неяк адразу ўсё стала на месца і боль прапаў. Выглядае яна малайцом. Я ўсё глядзела на яе — і нібы бальзам прыкладвалі да маіх ран. Не магу перадаць, што рабілася ў маёй душы! Я абяцала ёй быць лепшаю маткай у свеце, а яе бацьку — самаю адданаю жонкай. Якое гэта шчасце — дзіця! Жывенькае, здаровенькае, з ручкамі, з ножкамі, з разумнымі вочкамі, вынашанае і народжанае табою!

Чакаю абходу доктара, потым дапішу яшчэ. У думках гавару толькі з табою. Учора ўспомнілася імя Валерыя (Лера). Ці падабаецца табе?

... Зноў пішу, Кастусёк. А дачушка наша — выліты бацька, гэта значыць — ты. Ніжняя губка звісае сасісачкай, верхняя — фігурная, з вуглом пад носікам. Носік цяпер кірпаценькі, але кончык не востры, як у мяне, а такі, як твой. І броўцы такія шырокія, радкавыя. А вочкі! Каб ты толькі бачыў! Як зорачкі! Учора заняла ўсю маю пасцель, я прыціснулася да сцяны і ўсё глядзела на яе... Крышку пасмактала, а потым адпачыла — і зноў узялася за работу. Пад канец нават задрамала. Мне ўсё хацелася назваць яе Лерачкай. Смешна, праўда?

Косця, у мяне ўсё ёсць, не нясі болей нічога, асабліва ўсякіх сокаў і кампотаў. Малако прыбывае, а малеча наша не паспявае ўсяго выссаць.

Глядзі лепей сябе. Мяне вельмі турбуе, што ты бегаеш галодны. Не забывай, што ты нам цяпер вельмі патрэбен, ты — наша адзіная апора і наш адзіны любы чалавек на гэтым свеце.

Пра нас не клапаціся. З кожным днём мы будзем расці і папраўляцца.

Цалуем цябе — маці і дачушка».

На другі дзень Вера пісала:

«Дарагі наш татачка!

Чакаем цябе сёння пасля работы ці заўтра раніцай. Сумуем па табе. Пасля абходу была дзіцячы доктар і сказала, што наша малеча слабенькая, таму яе сёння не прыносілі

да мяне, хоць увогуле яна набірае сілы. Я вельмі трывожуся за яе здароўе. Калі яе прыносілі да мяне карміць, яна здалася мне вясёленькай, толькі дыханне цяжкае, носік заложаны. Хоць бы ўсё было добра! Пра тое, што я табе пішу, нікому не кажы, будзе лепей і мне, і ёй...

Сама пачуваю сябе добра, усё патрохі становіцца на месца, хоць боль яшчэ чуваць. Думаю пра дом, пра цябе. Напішы дадому — сваім і маім.

Не насі мне ўсяго так многа. Тут і кормяць нас добра, а ты кожны дзень прыносіш.

Ад тваіх клопатаў цёпла робіцца на душы, каб ты толькі ведаў. Як мне хочацца цябе расцалаваць цяпер і ўбачыць з тваёю дачушкай на руках.

Прынясі мне якіх кніжак, менш будуць лезці ў галаву ўсякія думкі. Чакаю заўтрашняга дня з нецярпеннем. Заўтра пасля абходу, можа, ужо дазволяць карміць. Часта не бегай сюды, хоць мне гэта вельмі патрэбна (асабліва твае цёплыя пісьмы да нас).

P. S. Да мяне прыходзілі з маёй работы, прынеслі цэлыя абярэмкі цукерак, кампотаў, розных каваў з малаком і без малака, усякіх пажаданняў. Я была вельмі ўзрадавана. І яшчэ сказалі прыемную навіну: мяне перавялі ў малодшыя навуковыя супрацоўнікі. Так што дачушка адразу прынясла нам дабро ў нашу хату.

Будзь здароў! Цалуем».

Да гэтай запіскі было далучана яшчэ адно забаўнае пасланне:

«Мой мілы татачка!

Я ўжо знаёмая з мамай. Яна кажа, што я вельмі падобная да цябе. Няйначай, яна перабольшвае. У адным я з ёю згодна: што я лянуюся плакаць і нават не ўмею. Гляджу бойка на новы свет, дзіўлюся і радуюся. Вось толькі дыханне ў мяне цяжкае. Мамка вельмі турбуецца. Абяцаю табе, татка, быць добраю і паслухмянаю. Вельмі хачу да цябе, дадому.

Цалую цябе. Твая дачушка».

Другі ліст ад дачкі быў спакайнейшы:

«Дарагі татачка! А мяне ўчора тут пакрыўдзілі. Строгая цётка ў белым халаце пляскала мяне па попцы і па шчочках, а я спала і не хацела маміных грудзей. А вечарам і сёння раніцай так добра пад'ела, што мама мяне пахваліла. Я ў яе на грудзях нават вадыры насмактала. Вось якая я малайчына. Цяпер я толькі сплю. Носік прачысціўся, выскачылі два козлікі. Цяпер дыханне глыбокае і роўнае. Сёння

цэлую гадзіну спала ля маміных грудзей. А вечарам праз сон нават усміхалася.

Будзь здароў, татка! Цалую цябе. Пішы часцей. Мама мне чытала тваё пісьмо некалькі раз і нават плакала ад радасці.

Твая дачушка».

У кожным новым лісце ад Веры радасці рабілася ўсё менш, яна саступала месца клопату.

«Косця, дарагі! У мяне ўсё добра. Хай завецца Валька, раз ты так хочаш. Я не супроць. Валянціна — значыць, здаровая. Хай і расце здаровая!

Купі мне асяледца, і каб добра салёны. Прынясі ў тэрмасе піва. Кепска ў мяне з малаком, прападае. Раблю ўсё, што раяць, але мала надзеі. Відаць, давядзецца гадаваць на чужым. Сёння мне цяжка — і ўсё з-за малака.

Твая нядобрая Вера».

Праз дзень тон ужо быў зусім дзелавы:

«Косця, калі ў цябе будзе вольная часіна, з'ездзі ў гум і купі наступныя рэчы:

1. Цёплыя пялёнкі — 2—3.
2. Матэрыі белай па 10—14 руб. за метр — 5—6.
3. Грэлку дзіцячую (толькі не круглую).
4. Лямпу настольную.
5. Ціку таннага на матрасік — 2 м.
6. Можа, вазьмі 2—3 цёплыя і 3—4 халодныя распашонкі і 2—3 шапачкі.
7. Цёплую коўдзерку.

Вось і ўсё, мой любы, наш дарагі татка.

Ці шчаслівы ты? Ці не сярдуеш на нас? Што цябе турбуе, што не дае спакою? Ці ўсё добра? Пішы.

Вера».

Яшчэ праз дзень тон быў зусім заклапочаны і сухі:

«Косця, знайдзі дзіцячую кансультацыю і даведайся, ці можна браць малако ад якой-небудзь жанчыны, адной. Відаць, заўтра нас выпішуць. Мяне гэта радуе і турбуе.

Будзь здароў! Твае Вера і Валька».

Драгун чытаў і то хмурыўся, то ўсміхаўся.

Прыехала Верына маці, і яму стала трохі лягчэй. Хоць было каму прапаліць печку, згатаваць есці. А яму дарог цяпер хапала. Здаецца, дробязі, а покуль ты ўсё знойдзеш, адходзіш ногі.

У кансультацыі яму далі два адрасы: адзін блізка ад дому, другі — далей. Трывога пакрысе праходзіла. Якраз паменшаў і мароз, паспакайнела на дварэ, пацяплела ў хаце.

...Драгун злавіў таксі і паехаў у радзільны дом. Аддаў дзіцячую і Верыну вопратку, стаў чакаць. Чым болей ішоў час, тым больш ён хваляваўся. Не шкодзіла б захапіць кветак, але дзе ты іх знойдзеш у лютым? Купіў толькі каробку цукерак для медсястры. Усе так робяць, ён тут ужо наглядзеўся.

Нарэшце паказаліся свае: Вера першая — у паліце і белай хустцы, за ёю сястра з дзіцем на руках. Драгун убачыў радасны Верын твар, падышоў да яе, пацалаваў у шчаку. Потым узяў з рук медсястры лёгенькі белы скрутачак, зірнуў на раскрытае месца — тварык. Чырвоненькі маленькі тварык, заплюшчаныя вочкі, кірпаты шырокі носік. Няўжо гэта яго дачка? Божа!

На іх глядзелі цікаўныя вочы людзей, хоць такія сцэны тут былі кожны дзень па некалькі разоў.

Яны пайшлі да таксі. Драгун сеў з малою, Вера побач. Яны глядзелі адно на другое і ўсміхаліся. Таксі кранулася.

— На Лагойскі тракт,— сказаў Драгун шаферу. І да Веры: — Прыехала твая маці.

— Ты прасіў, каб прыехала?

— Яна сама. Я толькі напісаў, калі прыблізна вас выпішуць.

— То добра. Малако знайшоў?

— А як жа!

Яны маўчалі. Драгун усё паглядваў на сваю дачку і ніяк не мог паверыць, што ўсё ж ён бацька. Здаецца, нічога не змянілася, ніякіх рэзкіх перамен у сабе ён не адчувае. Ён такі ж, як і быў дагэтуль. Няўжо такі ж? Няўжо ніякіх пачуццяў да гэтай малой істоты ў яго няма? А каб хто сказаў: «Дай яе мне, я выкіну!» Што б ён сказаў?

Спачатку ўзбунтаваўся б розум, а потым і сэрца. Гэта напэўна. Але пакуль што Драгуну здавалася, што ён трымае не сваё роднае дзіця, а звычайны скрутак, з коўдры і матэрыі. І яго ахапіла трывога. Няўжо і ў Веры... Не можа быць! Яна вынасіла яе, гэтулькі напакутавалася. Радзіла... Не, маці заўсёды бліжэй да дзіцяці, чым бацька.

— Ці шкадуеш ты сваю дачку? — спытаў Драгун у Веры, як бы шукаючы ў яе падтрымкі сваіх думак.

Вера павярнула да яго галаву, доўга ўзіралася ў яго твар, усміхнулася.

— Маці шкадуе не толькі сваё дзіця, але і ўсё тое, што яна ў яго ўклала. Гэта як ашчадная кніжка, прабач за параўненне.

— А што, гэта трапна. Чым больш укладзеш, тым яна табе даражэйшая. Але кніжку любяць не душой.

— Гэта абстракцыя. Я не ведаю, што такое кніжка. Вось наша жывая кніжка.

— Твая першая кніжка. А вось калі я дачакаюся?

— Ты пра гэта? Не вешай носа. Пішы... А ты здорава схуднеў. Чаго гэта?

— Не ведаю. А ты трошкі як бы паправілася. Памаладзела.

— Гэта што ты пра нас клапаціўся.— Вера ўзяла яго руку, пагладзіла.— Дзякуем табе, татка.

— Што ты! Гэта я вам дзякую, што ўсё добра скончылася. Я так баяўся...

— Ну, усё ўжо мінула... Прыехалі!

Таксі стала.

## 16

Яшчэ адну цікавую кніжку маладога празаіка давялося рэдагаваць Драгуну.

Гэта быў паэт Каралевіч, які ўжо выдаў пару кніжак вершаў і раптоўна (а мо і зусім не) перайшоў на прозу. Каралевічавы вершы Драгун чытаў, імі ён проста захапляўся. Калі меркаваць па вершах, то яго цягнула мінуўшчына, якую ён ведаў выдатна.

Першы раз Драгун убачыў Каралевіча ў рэдакцыі яшчэ раней, калі той выдаваў першую кніжку вершаў пад назвай «Матчына сэрца». Ён зайшоў у рэдакцыю у кампаніі Дубровіча, які быў няштатным рэдактарам яго зборніка. Абодва былі падпіўшы. Каралевіч тады здаўся Драгуну развязным, з ненатуральна прыўзнятым настроем і жаданнем парысавацца, паказаць сваю эрудыцыю, якою ён, праўда, карыстаўся вельмі трапна і дарэчы. Толькі пазней Драгун зразумеў, што Каралевіч тады быў менавіта такім, якім ён заўсёды бывае: гэта чалавек, які гаворыць усё, што думае, шчыры, як дзіця, і такі ж непасрэдны. На яго нельга было зазлаваць.

Але першае ўражанне доўга жыло ў Драгуновым сэрцы, перашкаджаючы бачыць партрэт Каралевіча ў правільным святле. Усё перамянілася пасля таго, як Драгун прачытаў яго зборнік прозы: апавяданні і дзве аповесці. Большасць апавяданняў, як і абедзве аповесці, былі звязаны з гісторыяй Беларусі. Драгун прачытаў рукапіс і хадзіў некалькі дзён як апушчаны ў ваду. Тое, што ён адчуў і перажываў, цяжка

было перадаць. Увесь час, калі ён чытаў, ад яго не адставала назойлівая думка, што наш сучаснік не можа так напісаць пра далёкае мінулае. Было такое ўражанне, што Каралевіч спісваў усё ў чалавека, які жыў тады, у мінулым, усё бачыў на свае вочы і ўсё занатаваў, каб потым людзі па яго матэрыяле маглі вывучыць жыццё мінулых эпох. І яшчэ кідалася ў вочы адна добрая якасць, якая не вельмі часта сустракаецца ў празаікаў: сплаў пачуцця і думкі. Калі ўжо гаварыць пра тое, што рэдагаваў Драгун, дык свежым прыкладам для яго быў Базылевіч, які біў на пачуцці, нібы вёў апавяданне для душы. А ў Каралевіча было два адрасаты: і душа, сэрца, і розум.

Драгун радаваўся, што ёсць такі чалавек у беларусаў, які, няма сумнення, зробіць многа і пакіне глыбокі след — «божы нарог», як пісаў сам Каралевіч пра аднаго свайго героя.

У той жа час яго засмучала, што многія літаратары ставіліся да Каралевіча вельмі скептычна, з насмешачкай, не верылі ў яго талент і поспех, а ў друку некалькі крытыкаў прынялі яго творы холадна і насцярожана, адбівалі яго ад старажытнай тэмы і заклікалі скіраваць позірк у наша светлае сёння. Дзіўна! Адзін разумны таленавіты чалавек ўзяўся перавярнуць уздзірванелую цаліну ў беларускай гісторыі, [redacted] яго агітуюць кідаць усё і пераходзіць на сучасныя рэйкі. Ды пра сённяшні дзень пішуць усе астатнія паэты і пісьменнікі. Дайце хоць яму паказаць наша мінулае, якое мы ведаем толькі па кепскіх, пісаных чужакамі для нас, падручніках гісторыі. Хай беларусы ведаюць, што іх гісторыя не бяднейшая, чым у іншых народаў...

Каралевічу адразу пашанцавала на рэцэнзента. І тут ужо сам Драгун не драмаў, бо быў навучаны на Аўчыннікаву. Смелага аўтара далі смеламу рэцэнзенту. Ён параіў Каралевічу многа карыснага. Па-першае, зняць тое, што не лезла ні ў якія вароты — нешта такое геніяльна-зялёнае, горка-саладжавае, што яшчэ не перабрадзіла, не адстоялася. У Каралевіча было гэтулькі энергіі, што яна біла з яго фантанам, і нараджаліся як высокадасканалыя рэчы, так і крывабокія, хваравіта-зялёныя, хоць і не пазбаўленыя прывабных момантаў і выдатных мясцін.

Каралевіч зайшоў у рэдакцыю шумна, з усімі павітаўся за руку, жанчынам манерна, з паклонам, пацалаваў ручку, усіх абдарыўшы шчырай, да вушэй, усмешкай і звонкім, ад душы, рогатам. Усмешка рабіла яго звычайны, нічым не выдатны твар адухоўленым і прыгожым.

— Вам сказалі, што я ваш рэдактар? — спытаўся ў яго Драгун.

— Толькі з адной умовай: прашу не называць мяне на «вы». Цярпець не магу. Давай дамовімся раз і назаўсёды: Яраславам заві мяне, браце.

Гэта былі першыя словы, якія ён сказаў Драгуну.

— Добра,— згадзіўся Драгун.— Добра, Яраслаў Мудры, сядай, і будзем здымаць пытанні.

— Наконт мудрасці памаўчым,— усё з той жа шчырай усмешкай сказаў Каралевіч.— Рэдактары нават Талстога вучылі мудрасці. Так што вучы і мяне, бо я яшчэ зялёны.

— Паспееш, паспееш...

Драгун гаварыў шэптам, каб не перашкаджаць людзям, а Каралевіч заставаўся сам сабою — калі спрачаўся, то на ўсё горла, калі даказваў, то закасаўшы рукавы, калі рагатаў, то дрыжалі шыбы.

Драгуна здзівіла, што Каралевіча вельмі лёгка можна пераканаць. Ён адразу здаваўся, калі бачыў, што заўвага правільная, што трэба паправіць ці выкінуць. Затое ў прынцыповых рэчах ён быў цвёрды, як скала, і зноў жа Драгун пачынаў паважаць яго за гэта, бо сам не любіў людзей, якія з-за дробязі маглі лезці на сцяну і даказваць сваю «праўду», а ў важных, вялікіх пытаннях, калі можна было нечым паплаціцца, адразу ўзнімалі рукі.

... Работа ішла дружна. Дапрацоўка пасля рэцэнзента. Дапрацоўка пасля рэдактара. Дапісванне, перапісванне, перадрук — усё гэта страшэнна стамляе. Каралевіч, мала прывыклы да такое справы, валіўся з ног. Драгун супакойваў яго: кожны аўтар праходзіць праз такі чысцец, іначай не трапіш у рай.

Урэшце Драгун падпісаў кніжку ў набор. Гушчынскі чытаць не стаў, падпісаў таксама. Драгун панёс галоўнаму, Быліне.

— Пакіньце, буду чытаць,— сказаў той суха.

А недзе праз тыдзень выклікаў ён рэдактара Роўбу і ўручыў ёй рукапіс Каралевіча.

Драгуна нешта пачало тачыць, нешта турбаваць. Навошта яго рукапіс даюць Роўбе? Чаму не сказалі яму ні слова? Такія рэчы ў рэдакцыі бывалі — калі рукапіс чытала амаль уся рэдакцыя. Гэта каб ведаць калектыўную думку, калі кніга была спрэчная... А тут нешта не тое. Праўда, Роўба не з тых, што выслужваюцца, яна скажа сумленна ўсё, што думае. А калі пабаіцца? Роўба была разумная жанчына, заўсёды спакойная, ураўнаважаная — усё роўна


...гэта чалавек, які
гаворыць усё, што думае,
шчыры, як дзіця
і такі ж непасрэдны...

як родная сястра Жывіцы. Драгун паважаў іх абедзвюх.

Як бы там ні было, а час ішоў, машына круцілася, графікі падганялі — падпісаны рукапіс трэба здаваць у набор. План ёсць план, вытворчасць вымагае рытмічнасці, рабочы ў друкарні павінен мець працу... Роўба прачытала рукапіс. Іх сталы былі побач, яны лічылі сябе добрымі суседзямі, і гэтая чытка, як потым аказалася, не парушыла іх добрых адносін.

Зайшоў Гушчынскі і трохі з'едліва, хоць і па-сяброўску сказаў:

— Галоўны цяпер выклікае парамі. Пакуль што Роўбу і Драгуна. Цікава, каго наступнага? Калі б мяне і Жывіцу — не адмовіўся б.

Жывіца толькі паказала яму два рады густых зубоў, але змоўчала. За яе сказаў Пракурат — і якраз тое, чаго баяўся сам Драгун:

— Пабачым, што яшчэ з гэтай пары выйдзе. Туды яны ідуць сябрамі ці таварышамі, прынамсі, а адтуль могуць вярнуцца ворагамі.

— Ну, гэтая пара не пасварыцца! — Гушчынскі шматзначна падміргнуў.— Можаце браць прыклад.

— А вы хацелі б, каб мы грызліся? — Роўба папраўляла перад люстэрачкам валасы.

— Навошта? Лепей цалуйцеся,— Гушчынскі сёння нешта націскаў на пачуцці.

Роўба не так даўно развялася з мужам, да гэтага жылі яны кепска, яна часта прыходзіла на працу з чарнякамі на твары, і Драгун ёй спачуваў: некалі яго бацька таксама біў сваю жонку, яго маці,— аж дагэтуль, пакуль ён не падрос і не сказаў: даволі!.. Сяды-тады, калі ў рэдакцыі выпадала заставацца ім дваім, Роўба расказвала Драгуну пра свае сямейныя драмы. Мо гэтае паразуменне і было расцэнена ў рэдакцыі як скрытая сімпатыя ці яшчэ што болей, хоць як жанчына Роўба не выклікала ў Драгуна ніякіх эмоцый. Проста яна была для яго таварыш па рабоце — як усе іншыя: Пракурат, Нагорны, Каляда, Маскалевіч, Малышка ці яшчэ хто. Калі ўжо гаварыць шчыра, то душой яго цягнула да Жывіцы: яна падабалася яму і знешне, і як чалавек. Але што з гэтага? У кожнага ёсць свае сімпатыі і антыпатыі, ды ніхто пра гэта не крычыць.

— Што яны ўсё намякаюць, я не разумею? — спытала ў яго Роўба, калі яны ішлі да галоўнага.

— Ну, што між намі нешта ёсць... Але плюньце вы на гэта.— Драгун махнуў рукой.

Галоўны цяпер сядзеў у дырэктарскім кабінеце, бо замяшчаў дырэктара: той паехаў адпачываць.

Галоўны выйшаў з-за стала і запрасіў іх сесці за вялізны стол для нарадаў.

— Тут нам месца хопіць,— сказаў Быліна і сам зарагатаў.

Ён заўсёды першы гучна рагатаў са сваіх жартаў, якія не заўсёды выходзілі дасціпна, і здаралася, што ён рагатаў толькі адзін ды часам які падліза, каб заслужыць ласку ў начальства.

А цяпер Роўба толькі злёгку ўсміхнулася, а ў Драгуна выраз твару застаўся посны: яго турбавала больш тое, што зараз пачнецца.

— Сядайце, сядайце, пагрэемся на сонцы...

І праўда, сонца добра пякло праз два вялізныя акны, скіраваныя на поўдзень, у пакоі стаяла парная духата. На лысіне ў галоўнага выступіла дробная раса, а каўнер белай нейлонавай кашулі быў расшпілены, без гальштука.

Быліна паклаў каля сябе папку з рукапісам. Новая светлая папка, покуль прайшла ўсе рукі, стала пацёртай і бруднай.

— Ведаеце,— пачаў Быліна,— два разы прачытаў я нашага паважанага Каралевіча і ўсё баюся: ці зразумеюць нас правільна чытачы? Ці трэба пра гэта пісаць, пра што піша Каралевіч? Ці туды ён ідзе, ці тое робіць?.. Вось я і паклікаў вас, каб параіцца, паспрачацца, калі трэба... Каб вы мяне пераканалі — ці я вас. Адным словам, каго каму ўдасца... Што вы скажаце, таварыш Роўба? Як чытач, як рэдактар? Прашу вас...

Роўба залілася чамусьці чырванню, правяла далонямі далікатных сваіх рук па шчоках, бліснула белымі зубамі і заспяшыла:

— Скажу як чытач, што я даўно не чытала (а мо дакладней — ніколі) такой кнігі. Тут усё новае, свежае, непаўторнае... Каралевіч проста малайчына, што ўзяўся за тое, што дагэтуль усе абыходзілі, чаму — не разумею. Ці не ведалі свайго беларускага мінулага, ці не адчувалі ў сабе сіл узняць такую важкую ношу. Каралевіч дасканала ведае...

Зазвінеў тэлефон. Быліна ўсхапіўся неяк вельмі хутка для сваё салідаасці, жэстам рукі папрасіў Роўбу памаўчаць, а сам хуценька падышоў да апаратаў. Іх было два, і які з іх звоніць, мог разабрацца не кожны.

Тэлефон званіў. Быліна зняў трубку, прыклаў да вуха, але тут жа зноў павесіў. Узяў другую — з «вяртушкі».

— Слухаю вас... Добры дзень... Быліна... Так, так... Не, два тыдні назад... Прабачце, гэта не так проста... Не, без яго мы не вырашым... Не, я не бяру на сябе такой смеласці... Мне яшчэ не надакучыла жыць... Так, так... Прабачце... Усяго найлепшага.

Галоўны паклаў трубку, белай хусцінкай выцер лоб, сцёр з твару тую няёмкасць, якая не пакідала яго за ўвесь час размовы. Няўпэўненым вялым крокам прайшоў на сваё месца, стомлена сеў.

— Дык што вы там гаварылі? — спытаўся ў Роўбы.

— Я кажу, што Каралевіч дасканала ведае эпоху, пра якую піша, людзі ў яго, здаецца, сышлі са старадаўніх карцін. Гэта проста талент... Проста я баюся, што надта хвалю яго. Асобныя моманты мне не падабаюцца: празмерная дэталізацыя, натуралізм, часам ён хоча прыўзняць нешта прыземленае, шэрае на ўзровень паэзіі. Гэта яму не ўдаецца... Як рэдактар, я прапанавала б зняць навелу пра паляванне, якраз яна грашыць натуралізмам. А так мне здаецца, што ён умее пісаць і ведае пра што пісаць. Гэта яго тэма, і тут, толькі тут чакае яго поспех.

Быліна ўвесь час быў сурова-засяроджаны. То сядзеў, успёршыся на рукі, то адкідваўся на спінку крэсла, пазіраў у столь. Няйначай, думкі яго былі заняты нечым іншым — мо тою тэлефоннаю размовай. Не перабіваў Роўбу ні разу, а калі яна скончыла, адразу папрасіў выказацца Драгуна.

Драгун стараўся менш хваліць Каралевіча — за яго гэта зрабіла Роўба, і ён у думках шчыра ёй дзякаваў, бо яе пахвала намнога мацнейшая, чым яго. Яна — незацікаўленая асоба, а ён, хвалячы Каралевіча, у пэўнай меры хваліў бы і сябе, страхуючыся ад крытыкі. І яшчэ: кніга, якую ён адрэдагаваў, рабілася нібы яго ўласнай, у яе ён уклаў сваю працу, сваю душу, гатоў быў абараняць яе ад усякага нападу як нешта сваё. Нават больш: сябе і свайго ён ніколі не ўмеў і не мог абараняць, бо лічыў, што збоку людзям лепей відно, што добра, а што кепска. Але пад канец ён таксама збіўся на пахвальбу.

— Каралевіч, я лічу, робіць важную справу, паказваючы, што і ў нас ёсць мінулае, ёсць гісторыя, не горшая, як у людзей, і нам ёсць чым ганарыцца мінулым, а не толькі яго чарніць. Мы выраслі не на голым месцы. Слабыя продкі не далі б моцнага пакалення. Ён абуджае нацыянальную свядомасць, нацыянальную гордасць беларусаў, якія ў сілу абставін многа стагоддзяў страшэнна прыніжаліся. Вуснамі швейцарца, найміта, які служыць у Беларусі, ён кажа, што

тут жывуць цудоўныя людзі, са шчырымі сэрцамі, са светлым розумам, з вялікай будучыняй. Абуджаць патрыятызм, вучыць любіць сваю бацькаўшчыну — гэта высокая мэта. Або возьмем «Цыганскага караля»...

Быліна зварухнуўся, па твары прабегла грымаса прыкрасці.

— Ты, Драгун, нібы даеш анатацыю чытачу, які не чытаў кнігі. А я чытаў, і Роўба чытала. Так што карацей, канкрэтней. Кніга цікавая ці не? Канкрэтна! Карысная? Патрэбная? Вось пра што гавары.

— Якраз пра гэта я і гавару... Яна цікавая, патрэбная, нават вельмі патрэбная. Такіх кніжак у нас няма!

— Вы заўсёды схільны перахвальваць.

— Калі ёсць за што, не грэх і пахваліць...

— Правільна. Вось вы ўсё хваліце... Амаль што пераканалі мяне... Толькі ў адным я ўпэўнены: у яго засмечаная мова.

— А чаго? Мова неблагая, трохі мо залітаратураная,— сказаў Драгун.

— Кажу, засмечаная! — аж пырснуў слінаю галоўны.— Няўжо вы сляпыя, таварышы рэдактары? Ліктары, фаскі, курульнае крэсла, каралеўскі дрыкгант... Што гэта? Трэба перад сабою трымаць слоўнік іншамоўных слоў і праз кожныя пяць хвілін шукаць гэтыя фаскі, крэслы, дрыкганты! Што нам, станавіцца на калені перад кожным модным словам Каралевіча?..

І тут, ускочыўшы на ногі, ён з зайздросным спрытам выбраўся з-за стала, грукнуўся на калені і стаў хрысціцца шырокім узмахам рукі:

— У імя айца, і сына, і святога духа, амін! Дзякуй табе, Каралевіч, што ты выкапаў нам новае слова, мы век пражылі б і не ведалі б, што яно ёсць на свеце!

Ён аж задыхаўся, у куточках губ паказалася белая пена. Цяжка, сярдзіта сапучы, ён устаў з калень, механічна атрапаў штаны і сеў з краю ля стала, яшчэ поўнымі злосці вачыма азіраў кабінет, нібы чагосьці шукаючы.

Роўба спалохана глянула на Драгуна, той няўцямна пацiснуў плячыма і маўчаў, не ведаючы, што рабіць: смяяцца, плакаць ці быць сур'ёзным, хоць у душы ён рагатаў. Такога артыста, як Быліна, ён бачыў першы раз.

## 17

Раніцай Валька была вясёлая, а пад вечар зусім панікла: капрызнічала, плакала, не хацела браць соскі. Вера карміла яе ледзь не сілаю.

— Што ты ёй сунеш гэтую соску, калі яна не хоча,— зазлаваў Драгун.— Мо ў яе тэмпература? — ён прыклаў губы да лобіка.— Схадзі да гаспадыні, пазыч градуснік. Я забыўся купіць.

Вера выйшла. Драгун застаўся з дзіцем адзін, насіў яго на руках, разглядваў. Дзіцячы боль і неспакой перадаваўся яму, як па індукцыі. Страх за жыццё гэтай малой істоты перапаўняў яго душу. А месяц назад Драгун браў на рукі малое і нічога не адчуваў.

Вярнулася Вера, паставілі градуснік. Драгун хадзіў з Валькай па пакоі. На руках дзіця не плакала.

— Ну, глядзі ўжо,— падганяла яго Вера.

— Трыццаць дзевяць і адна.— Драгун сам спалохаўся свайго голасу.— Бяры дзіця, а я іду званіць у «Хуткую».

Ён апрануўся і выбег з хаты. Была сярэдзіна сакавіка, а мароз усё яшчэ трымаў, кожную ноч намятала снегу. Цяпер таксама мяло, але неяк няроўна, парывамі, нібы вецер выдыхаўся, браў з апошніх сіл.

Ля магазіна аўтамат не працаваў, не даваў гудкоў, давялося ісці далей, на праспект. Але і там не пазваніў — у тэлефоне абрэзана трубка. Драгун вылаяўся, падумаў, дзе тут бліжэйшая будка, а потым вырашыў, што лепей пайсці пехатой у бальніцу — тут не зусім далёка.

У вахцёра ў прахадной спытаў, дзе «Хуткая дапамога».

— На рагу двухпавярховы дом, у падвале,— сказаў яму стары дзядзька, апрануты ў дзесяць адзежак.— Ідзі па гэтай сцежцы.

Сцежку ўсю замяло, Драгун набраў поўныя туфлі снегу, але «дапамогу» знайшоў.

— Пачакайце трохі,— сказаў малады смуглявы доктар з ба́камі,— машыну выклікалі з паўгадзіны назад. Павінны хутка прыехаць.

Драгун уздыхнуў і сеў на канапу, пацёртую і скрыпучую. Тут жа сядзеў пажылы калматы мужчына ў бравэрцы з шынельнага сукна. Зарыўшыся ў настаўлены каўнер, ён драмаў. Доктар сядзеў за сталом і нешта запісваў у тоўстую бухгалтарскую кнігу. Час ішоў марудна. Драгун праз кожныя пяць хвілін паглядваў на гадзіннік. Нарэшце пачуліся крокі, у дзвярах паказалася маладая дакторка з чамаданчы-

кам, за ёю — мужчына ў паліце, няйначай, шафёр.

— Да вас,— сказаў малады доктар з бакамі.

Дакторка глянула на Драгуна, распытала пра ўсё, потым запісала ў кнігу прозвішча і імя пацыенткі. Селі ў машыну, паехалі. У Драгуна адлягло на сэрцы.

Вера спаткала яго сярдзіта:

— Дзе ты гэтулькі быў?

— Вось прывёз «дапамогу»...

Дакторка агледзела дзіця, паслухала грудзі, спінку.

— Якая тэмпература?

— Трыццаць дзевяць і адна...

— Чаму раней не выклікалі? Не бачыце, што дзіця задыхаецца? — сурова сказала яна маладым бацькам.

— Так раптоўна... Хто мог падумаць... А што ў яе? — трывожна спыталася Вера.

— Пнеўманія двухбаковая. Збірайцеся, маці. Хутка!

Вера абула цёплыя чаравікі, апранула паліто, закруціла дзіця.

— Я гатова.

— Паехалі.

— А мне можна з вамі? — спытаўся Драгун.

— Калі ласка.

Драгун трымаў Вальку на руках, Вера сядзела побач і выцірала слёзы.

— Супакойся, Вера. Ці толькі наша хварэе?

Але Вера, здавалася, не чула яго.

...Зноў Драгун апынуўся адзін. Вера з Валькай ляглі надоўга. Кожны дзень ён бегаў у бальніцу, насіў малако, якое браў у тых самых дзвюх жанчын, што і раней. Веру з Валькай на руках ён бачыў на калідоры, перадаваў малако ў двухсотграмовых бутэлечках, а забіраў пустыя. Прыносіў часам што Веры, хоць яна нічога не прасіла. Ранейшая яе свежасць прапала, Вера асунулася, пад вачыма віселі цёмныя падковы. Прапала яе ранейшая жывасць, твар стаў аднастайна-сумны, нерухомы, вочы патухлі. Падобна было, што хворая яна, а не дзіця.

— Чаго ты так раскісла? — казаў ёй Драгун.— Мне здаецца, што ты вінаваціш сябе, увесь час грызеш сябе... Нібы Валька захварэла па тваёй віне.

Вера апусціла галаву.

— Ты адгадаў... Я кепская маці... Не ўсцерагла дзіця. І яшчэ кепская — няма свайго малака. Свае клопаты я перакладаю на цябе... Ты даруй мне...— І яна ўсхліпнула.

— Перастань, Вера. Ні ў чым ты не вінавата. І не дака-

рай сябе дарэмна. За ўсё будзем адказваць разам. Весялей глядзі на свет, чуеш?

Вера ўзняла вочы, усміхнулася.

— Добра. Я рада, што ты мяне разумееш. Толькі табе таксама не лёгка.

— Пра гэта не думай. Я гэтулькі часу жыў без клопату, што аж моташна стала. А цяпер знайшоў нейкі сэнс, мэту... Не бядуй, папpавіцца наша малая, і мы зноў зажывём весела.

— Каб жа хутчэй...

Вера зноў хмурнела. Драгун казаў «да заўтра» і ішоў дадому. Там яго апаноўвала нязвыклая цішыня. Добра ўсё ўпярэмешку, и калі цішыні занадта многа, робіцца вусцішна. Хочацца недзе ўцячы, да некага ісці. А выходзіў — і, пахадзіўшы трохі, вяртаўся назад, яшчэ болей сумны. Улада адзіноты над ім ужо не была такой вялікай, як год назад, але цяпер яна абудзілася зноў. Трэба нечым заняцца, каб не апынуцца ў палоне старога... Рыхтавацца здаваць мінімум... Не, з аспірантурай трэба канчаць. Нічога ў яго не выйдзе з навукай. Каб ісці ў яе, трэба вера: у сябе і ў навуку. А ў яго яе няма... Праўда, Вера можа яго не падтрымаць. Скажа, не ўдалося ёй, то паспрабуй ты. Да таго ж яна лічыць, што ў іх лягчэй абараніцца. Гэта так. Пасядзеўшы годдва, можна напісаць дысертацыю. Людзі пішуць, людзі абараняюць... У кожнага сваё.

Аднак трэба нечым заняцца, каб не апынуцца ў палоне адзіноты. Нездарма Вера так баіцца за яго. Яна-то не кажа, а яе турбуе не толькі тое, што ў яго многа клопатаў. Яшчэ — што ў яго многа вольнага часу, які можна скарыстаць паўсякаму.

«Будзем пісаць»,— рашыў Драгун. Але нічога не выходзіла. Толькі цяпер ён зразумеў, што яму будзе цяжка. Каб пісаць, яму патрэбны проста ідэальныя ўмовы: цішыня, душэўная раўнавага, добры настрой, каб ніякі камар не бзынкаў над вухам — ні ў прамым, ні ў пераносным сэнсе. А ёсць жа людзі, што могуць пісаць у трамваі, у кафэ. Такія многа і напішуць, а што зробіць ён? Будзе чакаць ідэальных умоў... А што, калі не дачакаецца? А мо так і лепей? Менш выйдзе ў свет усялякай лухты. Гэтым ён сябе і суцешыў і стаў патрохі чытаць, хоць і чытач ён ужо быў сапсуты, бо чытаў з алоўкам і прыдзіраўся да стылю. Спакойна чытаў класіку і ёй больш давяраў. Прызнацца, многа непрачытанай класікі, асабліва зарубежнай — французскай, англійскай, амерыканскай. Толькі цяпер відаць, як многа яму не

хапае. А нагнаць усё не так і лёгка. Для гэтага трэба захварэць, ці што... Бо калі здаровы, то ўсё няма калі. Эх, як многа патрачана марна дарагога часу за кароваю ў маленстве! У юнацтве — на дарогу ў школу і са школы! Усё гэта дарэмна не праходзіць... Часам робіцца сорамна за сябе, за сваю шэрасць... Ды што зробіш? Цяпер ужо позна... Так мала часу!.. Не азірнуцца, як пралятае месяц... год...

Вера вярнулася з бальніцы праз месяц. Два тыдні засталося ёй да работы. З дому Драгуноў бацька пісаў, што яны шукаюць ужо няньку.

Бацька з нянькай прыехаў у нядзелю. Усё было добра, Драгуна турбавала толькі дробязь: у яго якраз выйшлі ўсе грошы — нядзеля выдарылася перад самай зарплатай. Затое бацька навёз усяго.

— Ну, як вы тут, маладажоны? Як мая ўнучка? — бацька падышоў да калыскі, разглядаў дзіця.— Здаецца, нашага заводу? Ты не крыўдуеш, сыновая, што дачка да яго падобна?

Вера стаяла ля пліткі, пякла сала, якое бацька прывёз дзецям, і біла на патэльню яйкі. Чамусьці сумна, без усякага ўздыму, яна сказала:

— Гэта мне яшчэ лепей. Не адмовіцца, што не яго дачка.

— Ну, чаго яму адмаўляцца?

Размова патухла неяк непрыкметна.

— Ну, вы пасядзіце,— сказаў Драгун бацьку,— а я збегаю ў магазін.— Ён яшчэ збіраўся зайсці да гаспадара пазычыць грошай — сорамна было прызнацца бацьку, што сёння якраз у іх няма.

Але бацька нібы падслухаў яго думкі.

— Пастой! — ён дастаў з кішэні пяцьдзесят рублёў і працягнуў сыну.— Вазьмі вось... Бяры, бяры... Думаю, вы яшчэ тут не паспелі разбагацець,— сказаў ён жартам.

— Якраз у нас заўтра зарплата.— Драгуну было няёмка браць бацькавы грошы, ён бачыў, што і Вера гатова, здаецца, праваліцца праз зямлю.— Заўтра я вам аддам.

— Кінь ты, сынку! Хіба я не ведаю, як у вялікім горадзе грошы ідуць? А ў вас яшчэ расходы такія... Дзіця, хвароба...

І ўсё ж сыну было прыкра — і не таму, што ён узяў гэтыя пяцьдзесят рублёў, а таму, што яму хутка трыццаць, ён жанаты, мае сям'ю, а не можа яе забяспечыць, як людзі: не зводзіць канцы з канцамі. Мо і праўду кажуць, што покуль ты не сабраў усяго матэрыялу, то не пачынай будаваць хаты.

Драгун узяў у магазіне пляшку гарэлкі і мяккае гарадское кілбасы — для вясковых людзей: бяззубага бацькі і здаровай рослай нянькі. Гэтую Наташку Драгун памятаў мурзатаю худзенькаю дзяўчынкай з вялікай беднай сям'і іх суседа Паўлюка. Яна была самая меншая, а цяпер вунь якая дзеўка: свежая, мажная, ростам вышэйшая за яго Веру. Хутка растуць чужыя дзеці...

Селі за стол. Драгун наліў усім пароўну, нават няньцы. Бацька падняў чарку за здароўе свае ўнучкі Валькі. Выпілі і сталі закусваць. Адна Вера жавала нехаця, трымаючы ў руцэ хлеб, пасыпаны соллю. Першы заўважыў гэта Драгуноў бацька.

— Што гэта ты, маладая маці, пасціць сабралася? Чаму не бярэш нічога скаромнага?

— Дзякую, нешта мне нездаровіцца... Няма апетыту.

Драгуна падмывала крыкнуць «кінь капрызы!», але рашыў не пачынаць пры бацьку.

— Глядзі, сын, лепей за жонкай. У цябе апетыт, а ў яе няма. Гэта ўжо кепска.

— Ат, нешта выдумляе,— непрыязна сказаў Драгун.— Ну, як там мама, ці здарова?

Бацька пацiснуў плячыма.

— Покуль што яшчэ леткая, з работаю спраўляецца... А што нам? Мы сваё зрабілі, цяпер вы сваё...

— А не цяжка вам унучку гадаваць? — У іх гадавалася дачка Драгуновай сястры.

— Якое цяжка? З ёю нам весялей... Раней-то і сварыліся часцей, а цяпер неяк няма калі. І пасмяешся часам з дзіцяці, пазабаўляешся... Асабліва зімою, як усё снегам замяце. Для сябе самога, дык, здаецца, з хаты не вылез бы, а тут жывое стварэнне, трэба варушыцца, у Клецак схадзіць, купіць хлеба, сяго-таго, цукерак дзіцяці...

Бацька паказаў сябе такім аптымістам, што сын проста не пазнаваў яго. Раней ён толькі крахтаў ды сярдзіта чмыхаў сабе пад нос, пакрыкваў на матку і на дзяцей. Мо думаў збіраць багацце, а цяпер плюнуў на ўсё?

— А пенсіі вам хапае?

— Ну, на адной пенсіі далёка не заедзеш. У нас жа сад, карова, пара парсюкоў. Тое прадамо, тое купім. Варушымся патроху...

— Мы ўсё збіраемся памагчы вам,— пачаў Драгун і пачырванеў,— ды ніяк не выходзіць... Але, можа, як скора вылезем з прарыву... Вера пойдзе на работу. Цяпер яе перавялі ў малодшыя навуковыя супрацоўнікі.

— А колькі ж будзе палучаць?
— Восемсот трыццаць рублёў...
Бацька пакруціў галавою.
— Не вельмі густа, але ўсё ж капейка... Нічога, пра нас не думайце. Калі стане цяжка, то папросім, не пасаромеемся. Зяці і дочкі часам што памогуць... Нічога... А вам трэба стаць на ногі, абжыцца... Вот каб кватэру як. А то што гэта? Жыць няма дзе, а плаціць вунь колькі трэба...
Гаварылі бацька і сын. Нявестка і нянька маўчалі.

## 18

Позна вечарам Драгун ішоў з лазні. Была сырая цёплая вясна, прысады сцішана шумелі лісцем, над горадам апусціўся змрок. Заклаўшы рукі за спіну, Драгун ішоў сабе памалу, разглядаючыся, азіраючы вячэрні горад. Ён ведаў, што ў гэты час жонка з малою ўжо спяць. Раней яны хадзілі разам у лазню, жонка паспела яго прывучыць да новага ладу, але цяпер зноў малое парушыла заведзены парадак. Цяпер ён ходзіць асобна, яна асобна — з нянькаю.
Ад куфля піва ў яго злёгку кружыла ў галаве, у целе адчувалася лёгкасць, уся стома і цяжар засталіся там, у лазні. Ён ішоў паволі, азіраў новыя цагляныя дамы, касіўся на старыя, што ўжо аджывалі свой век: памалу-патрохі іх зносілі, на іх месцы ў хуткім часе выраслалі шматпавярховыя камяніцы. Вось і яны з жонкай з нецярпеннем чакаюць, калі дом іхніх гаспадароў пойдзе на знос, а яны, мо як прыпісаныя пастаянна, атрымаюць казённую кватэру. Вунь і насупраць іх хаты, цераз вуліцу, ужо стаяць пяціпавярховыя дамы — інтэрнаты для рабочых будаўнікоў. Днём і ноччу там шумна і весела, асабліва ў выхадныя. А што? Жыве моладзь, а яна заўсёды неспакойная. Ці даўно тое было, што сам Драгун не абмінаў таго месца, дзе б'юцца, хоць часам і даводзілася паспрабаваць кухталя ці панасіць добрага гуза на галаве.
Ды і сёння, хоць позна, а нейкі як бы шум-гам далятаў да Драгуновых вушэй. Падышоўшы бліжэй, Драгун убачыў, што і праўда там нешта робіцца. Амаль уся вуліца і правы тратуар ля інтэрната быў запруджаны людзьмі: мітусіліся, няйначай, рабочыя хлопцы, сярод іх мільгалі салдацкія фігуры. У некаторых салдат на рукавах Драгун заўважыў чырвоную павязку патруля, але не ва ўсіх. Няйначай, на дапамогу патрулю прыйшлі іх таварышы з гарадка, які раз-

мяшчаўся побач. Салдаты вялі да машыны маладога хлопца без шапкі, у разарванай на грудзях кашулі.

Ён не хацеў ісці, вырываўся, брыкаўся нагамі, але яго амаль што няслі: двое з бакоў, іншыя падпіхалі ззаду. Вакол гэтай цэнтральнай групы круціліся хлопцы, хацелі прарвацца ў шчыльнае кола салдат, але ім, відаць, не хапала смеласці.

Неяк зусім бяздумна, падсвядома, без ніякай мэты Драгун нават нечакана для сябе апынуўся ў гэтым коле і цапнуў за руку сяржанта, які, няйначай, камандаваў патрулём.

— Стой! Ты куды яго цягнеш?

Нечаканасць — неразгаданая псіхалагічная штука, якая часам робіць вялікія цуды. На каго-небудзь яна мо нават не дзейнічае, хутка праходзіць, а другіх паралізуе на цэлыя хвіліны.

Сяржант і салдаты на момант сталі. Мо яны падумалі спачатку, што гэта які важны начальнік ці хто, які мае дачыненне да іх. Кола зрабілася яшчэ цяснейшае. Нават хлопец, якога вялі, перастаў вырывацца, з надзеяй зірнуў на Драгуна.

Першы апамятаўся сяржант.

— А ты хто такі? Чаму стаў на дарозе?

— Я хачу ведаць, завошта вы яго ўзялі?

— Не твой клопат! Ідзі да д'ябла і не мяшай! — сяржант скінуў са свае рукі Драгунову далонь.

Усе зноў скіравалі да машыны, адціскаючы Драгуна назад. Ён азірнуўся, як бы шукаючы падмогі. Яна і праўда была побач, толькі штосьці не збіралася памагаць.

— Эй, хлопцы! — крыкнуў Драгун.— Што ж вы даяце ў крыўду свайго таварыша? Ану!!!

Хлопцы нібы толькі чакалі каманды. У адзін момант яны разарвалі кола з салдатаў, выхапілі з рук у патруля свайго сябра і пацягнулі з тратуара ў двор, куды кінуліся ўсе астатнія.

Другі раз нечаканасць паралізавала салдат. Сяржант зноў першы кінуўся за ўцекачамі, але Драгун прытрымаў яго за палу кіцеля. Сяржант злосна азірнуўся і стаў.

— Што табе трэба?

— Адстаньце ад хлопца! Вы што, міліцыя? Ён жа цывільны!

— А што табе да таго? Не сунь нос не ў сваё?

— Забірайце такіх, як самі! Цывільных не маеце права! — даказваў Драгун.

— Вось мы табе зараз пакажам права! Рэбята! Узяць яго!

Не паспеў Драгун апамятацца, як яго акружылі шчыльным колам салдацкія кіцелі, моцна ўчапіліся рукі ў яго вопратку. На момант Драгун адчуў, як пахаладзела ў яго ў грудзях: перад ім стаяла жывая няўмольная сцяна, якая вось зараз раздушыць яго, безабароннага, з голымі рукамі — і ніхто за яго не заступіцца. Усе тыя хлопцы, што круціліся нядаўна тут, былі ўжо недзе за домам, і машына, якую спынілі салдаты, каб везці таго хлопца, паехала, а на вуліцы, цьмяна асветленай ліхтарамі, акрамя патруля і яго — ні жывой душы. Рабі што хочаш!

— Ідзём у міліцыю! Шагам марш! — падаў каманду сяржант.— Там разбяруцца, адкуль такі заступнік!

— У міліцыю — калі ласка! — Драгун адчуў, што часовае здранцвенне прайшло і ён зноў валодае сваім целам, можа цвяроза думаць і разважаць.

Яны ўсе рушылі па Лагойскім тракце да Камароўкі, дзе, Драгун ведаў, было аддзяленне міліцыі. Але яго давялі толькі да скрыжавання і скіравалі ў цёмны завулак ля фатаграфіі. І Драгун адразу зразумеў, што азначае гэта «ў міліцыю»: яго вялі ў цёмнае месца.

— Далей не пайду, можаце біць тут! — крыкнуў Драгун і стаў вырывацца.

— Ідзі, ідзі! — басіў сяржант.

Ззаду Драгуна штурхалі ў плечы, у паясніцу і яшчэ ніжэй — ботамі, кулакамі, тронкамі ад фінак, а сяржант увесь час хацеў заламаць яму правую руку назад, але гэта яму не ўдавалася. Тое ж самае рабіў і салдат, што ішоў у Драгуна злева. Урэшце яны змірыліся з гэтым і вялі Драгуна пад рукі, як дзяўчыну, трымаючы яго за рукавы паліто. Пачыналіся прыватныя дамы з дашчанымі высокімі густымі платамі.

— Хопіць! — сказаў Драгун.— Далей не пайду!

Ён вырваў правую руку ад сяржанта і наводліў заехаў яму па твары. І тады на Драгуна пасыпаўся град udaraў: ззаду, збоку, спераду. Але ён бачыў перад сабой толькі аднаго сяржанта, учапіўся яму ў каўнер кіцеля, пачуў, як затрашчалі аплікі — яго адрывалі ад праціўніка, цягнулі ўніз. Нарэшце ён паляцеў на зямлю.

— Па кумпалу не біць! — папярэдзіў сяржант.

Драгун устаў, але тут жа зноў апынуўся на зямлі. І яшчэ раз устаў, ужо нікога не бачачы перад сабою. Апошняе, што ён адчуў,— гэта нібы яму заляпілі твар гарачаю жарствою.

Ён захістаўся і, каб зноў не ўпасці, ухапіўся за плот, стаў правай рукой абчышчаць губы, бараду ад гэтай нябачнай жарствы, якая пякла не суцэльнай масай, а асобнымі каменьчыкамі. Салдаты зноў акружылі яго.

— Хопіць! — скамандаваў сяржант.

Салдаты адступіліся. Яму нават падалі сетку з бялізнай, якая валялася недзе ў пяску і пра якую ён паспеў забыць. Няўпэўнена, як п'яны, нібы не на сваіх нагах, пайшоў Драгун, сплёўваючы крывёю, у свой бок. Насустрач яму бегла некалькі хлопцаў — няйначай, з той самай кампаніі. Яны размахвалі кулакамі і крычалі:

— Дзе яны? Мы ім пакажам!

Але да салдат яны не дабеглі, сталі, а потым павярнулі назад.

— Задрыпы! Дзе вы былі дагэтуль? — вылаяўся сам сабе Драгун.

Але вялікай злосці на іх у яго не было. Яны тут ні пры чым. Сам улез у балота. Ці яшчэ лепей — галава гуза шукае. Ды ўсё гэта глупства! Важна другое... Важна вось што... Мо ён і ўлез не ў сваё, і хутчэй за ўсё, што так. І патруль таксама перагнуў палку, што прычапіўся да цывільнага, што ўжыў самасуд да другога цывільнага.

Важна другое: патрэбна толькі іскра, патрэбна толькі адна маленькая іскра. Ці, як той камень з гары: ты яго толькі скрані, зруш з месца, а там ён рынецца ўніз, цягнучы за сабою цэлы абвал. Ты яго толькі скрані!..

Мо з год назад з Драгуном адбылася падобная гісторыя: ён скрануў толькі камень, а потым усё пайшло само...

Нечага ён хадзіў на Камароўку, здаецца, у нядзелю. На тым месцы, дзе пазней вырас вялізны завод, было раскапана, падыход і пад'езд ішоў па нейкіх кладках і мастках, і зусім з другога боку. Пры самым уваходзе ля закрытага ларка стаялі кабеты і трымалі ў руках хто што: шкарпэткі, ліфчыкі, карункі. Да крайняй жанчыны, што прадавала карункі, падышоў малады хлопец у скураной куртцы. Ён толькі што выйшаў з зялёнага «газіка», які стаяў непадалёку, нешта сказаў жанчыне, запрашаючы да машыны. Тая адмоўна круціла галавой. Тады ён абхапіў яе ўполкі і панёс. Драгун у гэты момант якраз набліжаўся да іх. Ён прытрымаў хлопца за рукаў і ветліва-з'едліва сказаў яму:

— Што гэта вы, малады чалавек? Вам не сорамна так абыходзіцца з жанчынай? Яна ж цяжарная!

Хлопец сярдзіта пакасіўся на Драгуна і адпусціў жанчыну.

— А табе што? — агрызнуўся ён, але не сярдзіта.

Ён быў разгублены — мо ад насмешлівасці тону ці ад нечаканасці.

— Я з міліцыі... А гэта спекулянтка!

— Тым горай для вас. Работнік міліцыі павінен быць культурны нават са спекулянткай...

Тут як маргнуць вокам да іх ужо падыходзілі цікаўныя. Дужы высокі мужчына таксама ў тужурцы стаў сарамаціць хлопца, падышло яшчэ некалькі чалавек.

Драгун неўпрыкмет ступіў два крокі назад, а вакол таго хлопца ўжо вырастаў натоўп, які гуў грознымі галасамі, размахваў рукамі. А нейкі дзядзька падышоў да жанчыны з карункамі, якая ўсё стаяла на месцы як зачараваная, сказаў:

— Чаго стаіш? Уцякай паціху!

Яна вінавата ўсміхнулася, абцягнула кофту на сваім вялікім жываце і пайшла, растала ў натоўпе.

Драгун пастаяў яшчэ трохі ды, сказаўшы сабе: і без мяне тут абыдуцца, накіраваўся дадому.

## 19

Аднойчы неяк адразу пасля полудня ў рэдакцыю зайшоў дырэктар Важнік і спытаўся, дзе рэдактар Каляда. Яму сказалі, што Каляда сядзіць у другім пакоі, у канцы калідора. Дырэктар пастаяў хвіліну, а потым ткнуў пальцам у Драгуна, які сядзеў, схіліўшыся над сталом.

— Здаецца, ты на прыватнай?

— На прыватнай,— адказаў Драгун.— А што?

— Апранайся, паедзем,— сказаў дырэктар і выйшаў.

Драгун апрануў свой ядавіта-фіялетавы чарнільны плашч, спусціўся ўніз.

У дырэктарскую машыну сеў сам Важнік, старшыня мясцкома Чарнякевіч і Драгун. Драгун у начальніцкай машыне ехаў першы раз, адчуваў сябе нязвыкла і маўчаў, пазіраючы ў акно, думаў, куды гэта яны едуць. Няўжо намацалі якую-небудзь кватэру? Відаць, што так. Пытаў Каляду... Каляда нежанаты, значыць, нешта такое не вельмі... Чарнякевіч гаварыў з дырэктарам пра графікі, скардзіўся на некага, некага хваліў: адным словам, ішла ледзь не вытворчая нарада.

Хутка шафёр звярнуў направа, ля музея Янкі Купалы пераехаў стары драўляны мост цераз Свіслач. Яны выехалі ў канец вуліцы, дзе яна крута спускаецца да ракі. Выйшлі з

машыны, дырэктар павёў усіх да старога, няйначай, яшчэ нэпманскага ці нават купецкага дома на рагу вуліцы, засмечанаю лесвіцай падняўся на трэці паверх. На пляцоўцы двое дзвярэй — адны направа, другія налева. На вушаку дзвярэй, што направа, прыбіта таблічка з надпісам:

Плоткину — 1 звонок
Морозовой — 2 звонка
Турбан — 3 звонка

«Галоўны, самы аўтарытэтны тут, пэўна ж, Плоткін. А самы-самы — Турбан,— падумаў Драгун, пакуль дырэктар званіў — даў адзін кароткі званок. Але ніхто не адзываўся, і ён пазваніў тры разы. Счакаўшы, нехта затупаў за дзвярыма, потым ляпнуў замок, і паказалася пажылая жанчына з сонным апухлым тварам і чырвонымі павекамі, неахайна апранутая. Яна спалохана глядзела на мужчын і ўжо, відаць, збіралася зачыніць у іх перад носам.

— Гэта да Марозавай,— сказаў Чарнякевіч і паказаў ёй вялізны, як малаток, старасвецкі ключ.

— Ага,— мармытнула толькі жанчына і знікла ў дзвярах направа, пратупаўшы па цэментавай падлозе кухні.

Старшыня мясцкома доўга бразгаў ключом, покуль пасадзіў яго на месца. Моцна ляпнула спружына ў замку, дзверы адчыніліся.

Першы зайшоў дырэктар, за ім старшыня мясцкома,— апошні — Драгун. У нос шыбанула вільгаццю і пахам даўно неабаграванага жытла. Пакой быў квадратны, на метраў дзесяць ці болей. Знадворная сцяна знізу ўчарнела ад грыба. У гэтай сцяне было якраз акно, але зусім сляпое, бо ўпіралася ў сцяну суседняга дома. У пакоі панаваў паўзмрок. Усе залішне ўважліва аглядалі аблупленыя сцены, закураную столь, брудную засмечаную падлогу.

— Адразу відаць — пераваличная база. Ніхто не клапаціўся,— парушыў цішыню дырэктар. І памаўчаўшы, дадаў: — Але я сам пачынаў з горшага.

— Я таксама не з лепшага,— паспяшаўся падтрымаць яго старшыня мясцкома.

Слова заставалася за Драгуном, але ён маўчаў. На яго прыватнай такая ж плошча, такі ж вечны цень і вільгаць ад склепа пад падлогай, холад зімою. Радавацца няма чаго, але і грэх адмаўляцца. Калі тая лепшая будзе? Драгун уздыхнуў і сказаў урэшце:

— З вашага дазволу і я хацеў бы пачаць з гэтага, нідзе не дзенешся. Мая прыватная не лепшая, а я плачу дзвесце ў месяц. І мае дровы...

— Правільна разважаеш, Драгун,— ухваліў яго думку дырэктар.— Трэба толькі пабяліць, пафарбаваць падлогу, можна даць яшчэ дзённае асвятленне. Усё будзе нядорага каштаваць.

— Праз тыдзень гэтага пакоя не пазнаеш,— багатая фантазія старшыні мясцкома ўжо бачыла пакой у новых фарбах.— Кепска толькі, што кухня агульная і няма выгод сучаснага жылля. Стары дом, мо яшчэ купец будаваў. Заўважылі? Без склепа, проста на пяску, як якая мазанка.

— А сцены якія! Метровая таўшчыня! — дырэктар падышоў да акна, стаў на пальчыкі, каб убачыць зямлю, але, апроч шэрай сцяны суседняга дома, нічога не было відаць.— Тыя, што яго будавалі, яшчэ не ведалі, што такое эканомія.

Патупалі яшчэ трохі, пагаманілі, пасля старшыня мясцкома перадаў Драгуну ключ і сказаў, што трэба яшчэ схадзіць у райвыканком і выпісаць ордэр.

Ужо на рабоце Драгун даведаўся, чаму так нечакана яму выпала шчасце (а мо няшчасце, хто ведае?) стаць навасёлам. Ад гэтага пакоя адмовіўся рэдактар палітрэдакцыі Дубовік, таму што спачатку гэты пакой меў шаснаццаць метраў, бо ранейшая яго гаспадыня Марозава займала яшчэ палову суседняга пакоя, у якім жыла адзінокая жанчына Турбан (якая ім сёння адчыняла). Забітыя дзверы адчыняліся, а ў тым пакоі была перагародка з дошак, якую Турбан паспела ўжо разламаць. Тады сталі думаць, каму б аддаць пакой, і ўспомнілі Каляду (халасцяку якраз падыдзе), але дырэктар натрапіў на Драгуна — і вось на́ табе — пераязджай хоць сёння.

Вечарам Драгун з Верай паехалі на агледзіны. Цяпер на званок адчыніла суседка злева — Плоткіна, поўная гладкая жанчына гадоў сарака, чарнявая, з завітымі валасамі, у дарагім турэцкім халаце. Драгун укруціў у пусты патрон лямпачку, якую знарок узяў з сабою, пстрыкнуў уключальнікам. Пакой здаўся не такі ўжо і страшны, як днём. Тады ён быў зусім чужы Драгуну, а цяпер, як-ніяк, амаль што належаў яму.

— Ну як, жонка, што скажаш?

Жонка моўчкі хадзіла па пакоі, азірала падлогу, столь, мацала сцены, адчыняла і зачыняла закураныя дзверцы шведскай пліты.

— Радавацца вельмі няма чаго, але хто добрага не бачыў, то і благому рад.

— Ты гэта пра мяне ці пра сябе? Калі пра мяне, то праўда. У лепшым, чым гэты рай, я яшчэ не жыў.

— І я... Мяне горай за ўсё турбуе кухня. Тры гаспадыні — гэта нешта ўжо значыць.

Яна адчыніла дзверы на кухню, прайшлася па цэментавай падлозе, нарабіўшы груку. На яе крокі адразу выйшла суседка Плоткіна, нібы яна знарок чакала, пакуль яны скончаць агляд. Яна спынілася ў паласе святла з адчыненых дзвярэй і спытала неяк занадта ліслівa і саладжава:

— Ці не перашкодзіла я вам?

— Калі ласка, нічога, заходзьце — запрасіў яе Драгун.

Яна толькі абаперлася пышным плячом аб зачыненую левую фортку дзвярэй і так жа ліслівa спытала:

— Ці спадабаўся пакой?

Драгун хацеў сказаць: «Нічога сабе, можна жыць», але жонка апярэдзіла яго, і толькі потым ён зразумеў яе ход.

— Гэта не пакой, а жывая магіла... Даюць, што з носа спадзе! Скажыце, вы пайшлі б жыць у такую, з дазволу сказаць, кватэру, ды яшчэ з малым дзіцем, з нянькаю?

Суседка, відаць, толькі гэтага і чакала.

— Я вам проста спачуваю... Вы гаворыце шчырую праўду — гэта жывая магіла. А яшчэ дзіця... Вы паглядзіце, якая тут вільгаць! — яна пацягнула носам паветра, зморшчылася.— Гэта ж рэўматызм і што хочаце. Цемра днём і ноччу. Не кухня, а лядоўня. Сапсутая печ.— Суседка махнула рукой на печ, якая займала больш паловы і без таго цеснай кухні.— А каб вы ведалі, якія тут суседзі! Жах! П'яніцы, грубіяны! Рабочы клас! Увесь дом, увесь двор! — і раптам яна перайшла на шэпт.— А за гэтай сценкай ведаеце хто жыве? Алкагалічка! О, вы яе папомніце! — І зноў моцна, раскацiста: — Я нічога не маю супроць вас, калі ласка, я бачу, што вы культурныя людзі, толькі паверце, мне проста шкада вас, я жадаю вам толькі дабра. Не ідзіце сюды, будзеце каяцца... Асабліва з малым дзіцем... Сыра, холадна, кухня...

І праз колькі слоў яна трэці раз паўтарыла пра дзіця, пра вільгаць і пра суседзяў.

«Цікава, чаго яна так баіцца за наша дзіця?» — між тым думаў Драгун, прапускаючы міма вушэй цэлы каскад слоў будучай суседкі.

Урэшце Вера перарвала яе:

— Што ж, дзякуем за спагаду. Але, прабачце, колькі ў вас пакояў?

— А што? два...

— А душ сям'і?

— Нас двое... Ну і што?

— А тое, што нас чацвёра ў адным пакоі... Пэўна ж, вы хацелі б, каб гэты пакой далі адзінокаму чалавеку, вам было б спакайней... Аднак што рабіць? Нам лепшага нічога не даюць... Мы вымушаны згадзіцца...

— Як ведаеце,— жанчына закруціла носам і хацела ўжо ісці, але нечага спынілася.— У мяне ключы ад парадных дзвярэй, але пакуль што я іх вам не аддаю, бо вас не ведаю. Да пабачэння...— схаваная антыпатыя пачулася ў яе голасе.

Драгуны пайшлі дадому. Першая, няхай сабе і невялікая радасць прыдбаць свой кут была сапсута. Мець суседам чалавека, які не хоча цябе прызнаваць за суседа — не вельмі прыемная рэч. А мо гэта спачатку, а потым... Няўжо людзі, якія самі не жылі ў цеснаце, не могуць зразумець, што такое гэтая самая цесната? І галоўнае, не яны яе шукалі...

Ды пра гэта не было часу думаць. Самы вялікі клопат — ордэр. Але яго выпісалі хутка, паколькі Драгун жыў на прыватнай кватэры, хоць, праўда, і ў другім раёне. З пабелкай аказалася прасцей. Драгуну параілі схадзіць на будоўлю, пагаварыць з малярамі. Так ён і зрабіў, і адразу дамовіўся з дзвюма жанчынамі, якія за сто пяцьдзесят рублёў згадзіліся пабяліць столь і сцены. Драгун лётаў з аднаго канца горада ў другі, даставаў, памагаў, раіў, спрачаўся. Пабялілі за адным ходам і кухню, а расходы ўзялі на дваіх — суседзі Плоткіны і Драгуны.

Як і прадракаў старшыня мясцкома Чарнякевіч, праз тыдзень усё было гатова.

Перасяленне, хоць і многа клопату, але рэч радасная. Раней Драгун, калі бачыў часам машыну з хатнім скарбам — з шафай, канапай, люстрам, фікусам, этажэркай і халадзільнікам, заўсёды радаваўся за людзей і сам ціха ўздыхаў, што яму самому яшчэ няхутка давядзецца перажыць такую хвіліну. Ажно памыліўся... Хоць і прыемна, а клопат зваліўся як снег на галаву. Здавалася, у іх,апроч ложка і шафы, нічога няма, а за адзін раз ледзь усё забралі. Назбіралася ўсякай непатрэбшчыны, якая раней як бы не мела ніякага дачынення да іх і была сама па сабе.

Як на бяду, хлопцы, якіх прасіў Драгун прыйсці памагчы, недзе згубіліся па дарозе, і яму ўдвух з шафёрам давялося перацягаць усё на машыну і з машыны, а там яшчэ на трэці паверх. Пад канец, на шапачны разбор, падаспеў Каляда. Драгун ужо ледзь трымаўся на нагах. Пакуль усё скончылі, зусім сцямнела. Але затое ў пакой было прыемна зайсці: свежыя крэмавыя сцены, бялюткая столь, яркая ма-

тавая лямпачка — усё гэта ўносіла нешта святочнае ў новы быт Драгуноў.

На скорую руку сабралі вячэру, селі за «разборны» скрыпучы стол — Драгун разламаў яго і па частках перавёз трамваем, ён патрэбен быў, як фарбавалі столь. І крэслы перавезлі старыя, скрыпучыя, гнутыя — чатыры штукі: якраз на сям'ю і аднаго госця.

Пасядзелі, пагаварылі, пасмяяліся.

— Ты, здаецца, стаіш на чарзе ў сваім раёне? — спытаўся Каляда ў Драгуна.

— Стаю. І табе раю гэта зрабіць.

— Я кажу пра тое, што цябе могуць цяпер зняць...

— Зняць? Хіба гэта кватэра? Гэта ж перавалачная база, як казаў Важнік.

— Глядзі, каб ты на гэтай базе доўга не затрымаўся...

— Не думаю, не страш! — весела гаварыў Драгун.— Вось атрымаю двухпакаёвую, а гэту аддам табе... Ты ведаеш, што я табе перайшоў дарогу? Дырэктар шукаў цябе, а знайшоў мяне. Так што мы ў нейкай меры канкурэнты, і ты маеш поўнае права мяне ненавідзець.

— Не-на-ві-джу! — праспяваў Каляда як певень.— Пра-клі-і-іна-ю-ю!

— Не разбудзі нашу малую,— сказала Вера, азіраючыся на калыску, у якой ужо спала Валька.

— Прабачце! Жывіце багата. Спяшаюся. Бывайце! — Каляда схапіў шапку і выскачыў за дзверы: як яго і не было.

— Нейкі ён дзіўны,— сказала Вера, збіраючы са стала.

— Звычайны хлопец. Мо трохі з незвычайным лёсам.

— А што ў яго?

— Сірата. Бацькоў немцы расстралялі за сувязь з партызанамі, рос у цёткі нейкай.

— Ох, колькі сірот засталося пасля гэтай вайны... Няўжо і нашым дзецям наканаваны такі лёс?

— Не гавары процiў ночы, як кажуць старыя, пра такія рэчы. Мы яшчэ не ведаем, што нам наканавана, а ты ўжо думаеш пра дзяцей.

— Трэба думаць... Трэба...

## 20

Зноў панядзелак, усе ў рэдакцыі сядзяць, як сонныя.
*Нагорны* (сумна). Хлопцы, у мяне машыну ўкралі.
Ніхто не верыць сваім вушам. Потым пытанні:

— Што ты кажаш? Як? Калі?

*Нагорны.* У суботу ноччу. З гаража... Была нейкая трэсеная ноч. Некага ў двары хацелі забіць ці згвалціць, да паўночы стаяў шум, гам. Я доўга не спаў, глядзеў праз акно на гараж. Потым змардаваўся, лёг і спаў як забіты. Падхапіўся раніцай — і да гаража. Як цягне мяне што туды... Падыходжу — і ногі млеюць, млеюць, вось упаду... Бачу — дзверы шчыльна не прычынены... Падыходжу бліжэй — так і ёсць, дужка ў замку нечым перакушана. Адчыняю, а там пуста. І ў мяне стала пуста ў грудзях, сэрца недзе пакацілася ўніз, у вачах пацямнела... Чорт, не жадаю нікому перажыць такую хвіліну...

*Маскалевіч.* Міліцыя ведае?

*Нагорны.* А як жа? Пазваніў дзяжурнаму, той пазяхае ў трубку. «Прымем меры», кажа. Якія? «Гэта ўжо наша справа». І павесіў трубку. Добра, што ў мяне знаёмы намеснік іх міністра. Я яму... Той абяцаў усесаюзны пошук...

*Маскалевіч.* Ну, гэта сіла. Знойдуць! Нікуды не дзенуцца.

*Пракурат.* А вынікі якія ўжо ёсць?

*Нагорны.* Ведаюць, што выехалі на Слуцкую шашу. А болей нічога.

*Драгун.* Мараль: хадзі пешшу, будзеш спаць спакойна.

*Пракурат.* Не прапаведуй адсталых поглядаў. У наш час машына — не раскоша, а крок да самастойнасці. Як некалі селянін з канём...

*Маскалевіч.* Не мяшай прыватную ўласнасць з асабістай.

*Пракурат.* Тэрмін справы не мяняе. Адна трасца, ці кіем, ці палкаю.

*Маскалевіч.* Усё патрабуе навуковай базы. Прыватнай уласнасці ў нас няма.

*Пракурат.* Яе замяняе асабістая. А гэта — абмежаваная прыватная. Але мне ўсё роўна, як яна завецца. Абы ў мяне была дача, машына.

*Маскалевіч.* Купі, хто табе не дае?

*Пракурат.* Хачу спаць спакойна, як кажа Драгун. Ды і грошай не хочацца з кніжкі здымаць...

*Нагорны.* У кожнай справе ёсць свае плюсы і мінусы... Але каб я ведаў, што гэтым скончыцца...

*Пракурат.* Каб жа той розум наперадзе, што ззаду... Усе мы разумныя пасля бяды.

*Маскалевіч.* Не бядуй, знойдуць... Калі ўжо вядома, куды выехалі...

*Драгун.* А ў мяне, колькі жыву, нічога ніколі не ўкралі.

*Маскалевіч.* У злодзея не ўкрадзеш...

*Пракурат.* Або — што ўкрадзеш у таго, хто голы?

*Маскалевіч.* Мараль: пралетарыяту няма чаго баяцца... Але ўсё ж, хлопцы, і ў гэтай справе трэба мець талент. У мяне быў адзін прыяцель... Ну, я вам скажу! Мастак! Ніколі такога не бачыў! Праўда, гэтым ён ужо не займаўся... Неяк заспрачаліся. Хадзем, кажа, пакажу, як гэта робіцца. Заходзім у трамвай, не вельмі поўны, як звычайна... Прайшлі вагон ад пляцоўкі да пляцоўкі — і ён паказвае мне пяць гадзіннікаў. А потым пытаецца на ўвесь вагон: «Грамадзяне, хто згубіў гадзіннік? Хто гэты? А гэты?» Усе хапаюцца за кішэні, за руку... Дзякуюць чалавеку. А ён толькі зубы скаліць... Вось якія ёсць майстры.

*Нагорны.* Некалі такім майстрам руку на калодку клалі.

*Роўба.* Усё-такі гэта жорстка. А мо таму чалавеку не было за што паесці?

*Нагорны.* Хай папросіць.

*Роўба.* Прасіць не кожны можа.

*Нагорны.* Па-мойму, папрасіць лягчэй, чым украсці. І сумленне чыстае...

*Пракурат.* Украсці — гэта амаль тое самае, што і забіць. Сумленне тут ні пры чым.

*Маскалевіч.* Так яны і лічаць. Сваю прафесію яны прыраўноўваюць да ігры на сцэне, да музычнага ці іншага дару. А што да жорсткасці, як ты гаворыш, Ніна Пятроўна, то мяккасцю і ўгаворамі таксама не адвучыш ад крадзяжу. Толькі жорсткасць! Чаму ў нас увялі гумовыя палкі? Бо прызналі ісціну: страх — вялікая сіла. Калі чалавек не мае над сабою ніякага страху, ён можа зрабіць што хочаш. Страх — гэта адзіны тормаз у чалавеку, калі ў яго няма свядомасці, сумлення.

*Пракурат.* І яшчэ — беспакаранасць. Калі ён ведае, што яму за гэта ўляціць як след, дык не палезе куды не трэба.

*Драгун.* А калі ўлічыць, што зладзейства — хвароба сацыяльная?

*Маскалевіч.* Глупства! Сацыяльнай базы для зладзейства ў нас даўно няма... Працуй колькі хочаш.

*Пракурат.* А зладзеі не зводзяцца... У чым тут загвоздка? Адкуль яны бяруцца, хто іх выпускае?

*Драгун.* Мо наш гуманізм вінаваты?

*Маскалевіч.* А што ты думаеш? Іх трэба вешаць публічна, на плошчы, тады яны, як пацукі, што пачулі смаленае, уцякуць на край свету, абы не трапіць на шыбеніцу. А ў нас першы раз мараль прачытаюць і адпусцяць. Другі раз — аштрафуюць ці яшчэ якое глупства. Адзін мой знаёмы расказваў, што нейкага пацана два разы сам лавіў на кражы ў тралейбусе і вадзіў у міліцыю. А праз дзень зноў яго бачыў на вуліцы.

*Драгун.* Таму што злодзей — не сацыяльна небяспечны элемент. Для дзяржавы ён абсалютна бясшкодны. Як камар для чалавека. Нават наадварот. Гэта нешта накшталт адцягваючай тэрапіі. Як футбол, як гарэлка... Людзі менш будуць думаць пра тое, што баліць...

*Маскалевіч.* Ну, ты загнуў, брат!

*Драгун.* Куды загнуў? Вось вам прыклад, які гаворыць, што так яно і ёсць. Паслухайце... Еду я аднойчы ў тралейбусе, вечарам, ужо ў гадзін адзінаццаць. Саджуся на Маскоўскай. Народу многа. На наступным прыпынку ў пярэдніх дзвярах раптам нейкі затор, нехта некага не пускаў ці выцягваў, пярэднія дзверы доўга не зачыняліся. Я толькі заўважыў, што нейкі чалавек ракам забраўся ў тралейбус, і мы рушылі далей. Увесь тралейбус гуў як патрывожаны вулей: пасажыры некага лаялі, на некага крычалі. Аказалася, на таго самага пасажыра, што хвіліну назад ракам упоўз у тралейбус. Патрохі-памалу з рэплік і крыкаў я аднавіў увесь малюнак: некалькі прыпынкаў назад гэты самы чалавек, п'яны маляр з двума зусім свежымі пэндзлямі ў руках і сам добра вымазаны ў фарбу, увайшоў у тралейбус і прайшоў ад задніх дзвярэй да пярэдніх, пакідаючы на людзях, ля якіх праходзіў, свежыя плямы, большыя ці меншыя. Пасажыры зашумелі і нават выставілі яго за дзверы. Але ён, аднак, зноў забраўся ў тралейбус, сеў на пярэднім сядзенні адзін і, здавалася, драмаў. А пасажыры не маглі супакоіцца, асабліва адна жанчына, якую, відаць, больш за ўсіх вымазаў маляр. Урэшце яна зачапіла міліцыянераў, якія ехалі ў тралейбусе. І яны, як ні дзіўна, пачалі абараняць маляра. А яна тады іх добра адбрыла: «Вы абаронцы парадку толькі на службе, а цяпер вы такія, як і ўсе. Вы ягняты, нявінныя істоты. Вы не можаце даць рады ціхаму хулігану...»

Тады адзін з міліцыянераў сказаў ёй цераз увесь тралейбус: «Грамадзянка, вы сама падобна да хулігана больш, чым гэты чалавек. Вось ён сеў, сядзіць ціха і маўчыць, нікога

не чапае, ні да кога не прыстае. Ну, падумаеш, выпіў трохі чалавек, ну, мазнуў некага. Дык што, ужо трэба на сцяну лезці? Прыедзеце дадому, ацэтончыкам змыеце тую пляму — і ўвесь страх».

— Хай на таксі ездзіць! — крыкнуў нехта з кута.

— Правільна!

— Вялікая пані!

— Падумаеш, інтэлігенцыя знайшлася!

Усё больш галасоў чулася ў абарону маляра, а жанчына ўсё не здавалася:

— Ах, якія вы добранькія! Бо гэта ён па вас не правёў сваім пэндзлем, а так вы зусім другое сказалі б. У нас так: абы не мяне, а што суседа — гэта нічога, яшчэ можна цярпець... Не трэба забываць, што ад суседа пяройдуць да вас... Адсталасць ваша гаворыць, некультурнасць. Слова «інтэлігент» ганаровае слова, яго не трэба баяцца, яго трэба заслужыць, а вы яго замест мата ўжываеце. Сорамна, грамадзяне пасажыры! Сорамна! П’яніцу абараняеце, а сумленнага чалавека топчаце ў гразь!

І раптам маляр, які дагэтуль так спакойна сядзеў і, здавалася, нічога не чуў і не бачыў, нібы ачнуўся і крыкнуў на ўвесь тралейбус:

— Бляхі вы! Я не п’яны! Сукі... У мяне сям’я, але мне няма дзе жыць! Я не пайду галасаваць за гэтых сабак! Я не п’яніца, але мне няма дзе жыць! Я не хачу валяцца пад плотам!..

Міліцыянеры хутка прабраліся на пярэднюю пляцоўку, адзін усунуў галаву ў кабіну вадзіцеля. Тралейбус спыніўся. Маляру заламалі рукі назад, тут жа выставілі за дзверы. Гэта заняло адну хвіліну — і стала ціха і спакойна. Тралейбус рушыў далей. Думаю, што тая жанчына ў душы рагатала, смяялася з усіх, хто яе лаяў...

*Пракурат.* Рабі што хочаш, толькі не лезь у палітыку — такі вывад напрошваецца з гэтай гісторыі.

*Драгун.* Вось пра гэта я і кажу.

*Маскалевіч.* Адзін факт яшчэ нічога не значыць. І нельга з яго рабіць такіх скараспелых вывадаў.

*Драгун.* Вывадаў можна і не рабіць. Але каб да крымінальных злачынцаў ужывалі такія суровыя меры пакарання, як да палітыкаў, то крыміналу стала б у сто разоў менш. Калі лес карчуюць, то выкарчуюць — і там поле. А калі яго толькі падстрыгаюць, то лес застаецца.

*Пракурат.* Мудра, стары, з цябе банка...

*Нагорны.* А што, Драгун мае рацыю. Хай піша дакладную запіску ў прэзідыум.

## 21

Пакаштаваў адзін раз Драгун і перакладчыцкага хлеба. Падбіў яго на гэта Гушчынскі. Ён быў, як вядома, вялікім аптымістам, сам лёгка пускаўся на ўсякія авантуры і агітаваў другіх рабіць гэта.

— Ты ж ведаеш польскую мову, чаго там? Ды і заробіш трохі. Грошы ніколі не лішнія.

Апошні аргумент быў самы важкі: патрэбны грошы. Кніжку падзялілі на дзве часткі, бо аднаму над такой работай давялося б сядзець год. Другую частку аддалі выдавецкаму работніку, загадчыку вытворчага аддзела, паліглоту і былому дыпламату Коршаку. Ён добра ведаў польскую, англійскую, французскую, нямецкую мовы. Горай мо ведаў сваю ўласную, беларускую. Але ў гэтай частцы яго мог падперці Драгун — сваю ён ведаў як след, а польскую — за пачатковую школу, разумеў, як ён сам казаў, кухонную лексіку.

Спачатку ледзь не з-за кожнага слова лазіў у слоўнік, і пераклад быў падобен да падрадкоўніка — слова ў слова. Баяўся адступаць ад арыгіналу, трымаўся за яго, як п'яны за плот. Потым пайшло лягчэй. Здзіўляўся, як многа ўзялі палякі з лаціны ў сваю мову, асабліва ў складаныя, абстрактна-разумовыя паняцці. Сатысфакцыя, гратуляцыя, імпэртынэнцыя, індэпэндэнцыя, нават санацыя — усё пайшло ад багатай нежывой лаціны. Потым ці людзі, ці час — сталі вярнуць у другі бок, сталі шукаць у сваёй мове, не ганяцца за чужым. Капарка — наш экскаватар, самохуд — наш аўтамабіль, спыхач — наш бульдозер. Нават польскія словы для нас болей зразумелыя, чым тыя, што жывуць у нашай мове, бо ідуць ад свайго кораня. Патрохі-памалу Драгун спасцігаў усю прымудрасць перакладчыцкай справы, вучыўся рабіць не падрадкоўнік, а як бы новы тэкст на аснове старога. Ён як бы на гатовы, заказаны сюжэт пісаў новы твор. Успомніў тую навуку, якую пераняў у празаіка Кавальчуку яшчэ на пачатку свае працы ў выдавецтве, калі яны разам рэдагавалі чэшскія і славацкія апавяданні. Але не пераняў, не мог ён пераняць той манеры, якая пашырана была ў нашай перакладчыцкай школе: цяжкае і складанае апусціць, выкасаваць, паставіць шматкроп'е. Не, ён лепей біўся над цяжкім словам ці

сказам гадзіну, але даходзіў да сэнсу і перакладаў, перадаваў чытачу.

Яму падабаўся аўтар і яго манера, строга рэалістычная і трохі саркастычная ў тых сцэнах, дзе ён паказваў вярхі польскага грамадства напярэдадні другой сусветнай вайны. Аўтар нібы развіваў тэзіс адной мудрай прымаўкі, што калі бог хоча пакараць чалавека, то спярша адбярэ ў яго розум. І тады, само сабой, чалавек наробіць усяго — пакарае сам сябе назаўсёды ды яшчэ і невінаватага ўцягне. Нешта падобнае было з польскімі вярхамі, якія ніяк не маглі зразумець передваеннай сітуацыі і ўвесь час варожа пазіралі на ўсход, у той час як бяда ішла з захаду. А тыя, што бачылі, адкуль ідзе бяда і гаварылі праўду людзям, аб'яўляліся ворагамі і сядзелі ў турмах, каб іх голас не даходзіў да масы... Гарматы і бункеры сваімі дуламі і амбразурамі пазіралі на ўсход, а страляць потым давялося на захад... Ну, пэўна ж, расплаціўся за гэта просты польскі салдат і просты народ, бо ў міністраў былі ўласныя самалёты, каб уцячы, а грошы іх ляжалі ў швейцарскіх банках. Яны фактычна нічога не трацілі, адну толькі невялікую дробязь — радзіму. Але што? Прадалі гэту, цяпер будуць прадаваць нейкую другую.

Нечакана ў Драгуновай перакладчыцкай рабоце парушыўся рытм. Яго напарнік Коршак пасварыўся нешта з дырэктарам Важнікам, і Важнік тэрмінова адхіліў яго ад перакладу, а на яго месца загадаў Гушчынскаму шукаць другога чалавека. А Коршак за гэты час паспеў ужо перакласці многа. Аднак Гушчынскі вырашыў усё элементарна проста. Ён выклікаў да сябе Драгуна і сказаў:

— Гэты Коршак купаны ў гарачай вадзе... Чаго яму якраз цяпер трэба было заводзіцца з Важнікам? Нешта там з-за друкарні. Коршак заўсёды стаіць за друкарню, калі яна зрывае нам графікі, а Важніку гэта не па нутры. «Ты агент Вербаловіча»,— крычыць ён на Коршака. Адным словам, Коршак выбывае. Я спрабаваў угаворваць Важніка — бескарысна. Цяпер так. Я знайшоў другога перакладчыка. Ты ведаеш Наско? Дык ён знаўца мовы цудоўны, сам з Заходняй, еў нават турэмную кашу. Адным словам, з ім не прападзеш... Застаецца адно: што рабіць з тым, што пераклаў Коршак? Думаю, ніякай крыўды вам не будзе, калі ён атрымае за сваё, хоць прозвішча яго на тытуле сярод перакладчыкаў не будзе. Вы згодны?.. З Наско я ўжо дамовіўся... Праўда, Коршакаву частку пры аплаце давядзецца прыпісаць вам. Гэта не вельмі прыемна,

бо калі сума перавышае 13 тысяч, з аўтара бяруць трынаццаць працэнтаў падаходнага. Вы ведаеце, якая гісторыя была са мною? Ну, як гэта вы? Дык вось слухайце. Выходзілі ў нас нейкія апавяданні па дзіцячай рэдакцыі, далі мне там пераклясці на пяцьсот рублёў. Пайшоў я атрымліваць... Як падлічыў наш Стрыгач, як прыплюсаваў да ўсяго, што ў мяне за год сабралася, як лапнулі з мяне трынаццаць працэнтаў, дык я яшчэ застаўся вінаваты ў бухгалтэрыю нешта восемсот рублёў.

— А тыя пяцьсот? — са здзіўленнем запытаўся Драгун.

— І тыя! Я за іх толькі распісаўся! — і Гушчынскі так шчыра і весела зарагатаў, нібы гэты «жарт» быў не з ім самым, а сама мала з яго ворагам.

...Усё зноў уладкавалася, толькі Наско быў нечым вельмі заняты і цягнуў з перакладам.

Драгун з Коршакам пачалі счытваць свой тэкст з арыгіналам, сядзелі пасля работы ў вытворчым аддзеле. Спачатку Коршак чытаў пераклад, а Драгун сачыў за арыгіналам, потым наадварот. Там, дзе каторы з іх далёка адрываўся ад арыгінала, думалі разам, як паправіць, каб гучала лепей. Часам слова траплялася толькі прыблізнае, не перадавала таго каларыту, які адчуваўся ў польскім арыгінале. Спынялі чытанне, разам шукалі, шарылі ў памяці, ва ўсіх яе закутках, потым у слоўніках, покуль не знаходзілі таго, што патрэбна.

За гэтай счыткай самі неяк непрыкметна пазнавалі адзін аднаго. Коршак вырысоўваўся цікавым чалавекам з вельмі складанай, драматычнай біяграфіяй — сапраўднае дзіця эпохі! Да вайны скончыў Мінскі КІЖ (Камуністычны інстытут журналістыкі), у трыццаць дзевятым узялі ў армію, вызваляў Заходнюю Беларусь, нават працаваў рэдактарам раённай газеты. Потым вайна з немцамі... Адступаў, ваяваў. Трапіў у польскую армію як знаўца польскай мовы. Дайшоў да Берліна. Потым быў перакладчыкам у нашых пасольствах — у Лондане, у Бруселі. З Бруселя яго і ўзялі — нібыта перадаваў звесткі замежнай разведцы... Сядзеў у Варкуце, дзёўб вугалёк. Вызвалены і рэабілітаваны ў 1956 годзе... Непарадкі ў сямейным жыцці: у Англіі жонка і сын, тут жонка і сын... Жонка была вярнулася, потым уцякла, сын, ужо студэнт, застаўся з бацькам... «Так закруціў ваенны віхор, што цяпер не раскусіш,— кажа Коршак,— застаецца адно — піць гарэлку».

Пасля счыткі яны перадрукавалі пераклад, і Драгун здаў яго ў выдавецтва. Гэта была першая, большая па

аб'ёму частка кнігі. Сваю частку Наско ўсё яшчэ «дабіваў».

Семнаццатага дня кожнага месяца Гушчынскі выпісваў ганарар за тыя кніжкі, што былі ў вытворчасці,— каму дваццаць пяць працэнтаў, каму палову ўсяго, а каму і канчатковы разлік, калі кніжка падпісана да друку. Драгун падышоў да яго і нясмела сказаў, ці нельга было б выпісаць і яму працэнты за пераклад, бо сваю частку ён здаў.

Гушчынскі паглядзеў на яго, але Драгуну здалося, што ён нічога не бачыць: нешта думае, нечым заняты.

— Што? Які ганарар? А, за пераклад? А вы падпісалі, зарэгістравалі?

— Усё зрабіў...

— Добра. Ала Дзянісаўна, выпішце 75 працэнтаў Драгуну за пераклад.

Драгун падзякаваў. Ён не думаў, што ўсё так проста выходзіць: Гушчынскага не трэба доўга ўпрошваць. Ён разумеў чалавека з паўслова, бо сам, як ведаў Драгун, жыў па вушы ў даўгах.

Ды радаваўся Драгун рана. Рапарцічкі ішлі на подпіс да начальства. Гэты раз заела ў дырэктара. Гушчынскі атрымаў вусную вымову тут жа — за тое, што выпісвае грошы не за ўсю работу, а за частку. Гушчынскі пачаў даказваць сваё, але нічога не памагло.

Драгун засумаваў. Гэтулькі планаў строіла жонка на гэты месяц, гэтулькі дзірак гатова на гэтыя грошы. Ідзе зіма, трэба купіць паліто — сабе, жонцы, дзіцяці, апрануць і абуць няньку. А тут кажуць: пачакайце! Драгун ужо пачынаў думаць, што каб і Наско здаў рукапіс цяпер, то дырэктар яшчэ знайшоў бы якую зачэпку і не падпісаў бы цыдулкі на ганарар.

Драгун сядзеў за сваім сталом насуплены, працаваць не хацелася. Скрыпнуў зубамі, вылаяўся сам сабе.

— Што ты молішся, Драгун? — спытаў Пракурат.— Не выгарала з ганарарам?

— Адкуль ты ведаеш?

— Я ўсё ведаю,— шматзначна сказаў Пракурат.— Праўдзівей, ведаю начальства.

— Якое ж яно?

— Як і належыць начальству. Не любіць яно песціць падначаленых — раз. Любіць, каб падначаленыя адчувалі яго моц, сілу, уладу, адчувалі сваю залежнасць ад яго начальніцкай волі. Памятаеш Астроўскага «Ваўкі і авечкі»? Там ёсць праект павышэння зарплаты служачым... Каму

на колькі павышаць... Начальству — на ўсю катушку, каб стражэй сачыла за падначаленымі, стражэй патрабавала, трымала ў цвёрдых руках «бразды правления». Падначаленаму — адчэпнага, але каб ён думаў, што і яго не забываюць, аднак каб не «возомнил» аб сабе, каб не загана-рыўся, каб памятаў, хто ён, і трапятаў як ліст перад тварам свайго начальства. Вось так! А ты хацеў, каб табе адразу: наце, забярыце свае грошыкі!

— То гэта ж старое начальства, часоў Астроўскага,— не згадзіўся Драгун.

— Я маю на ўвазе бюракратычнае начальства. Яно ва ўсе вякі і эпохі заўсёды аднолькавае.

— Нешто ты вельмі смела абагульняеш...

— А ты думаеш, што начальства пра цябе клапоціцца?

— Ну, не такі я ўжо наіўны. Хай яно хаця пра сябе ды пра дзяржаўныя справы думае, а ўжо мы неяк самі пра сябе будзем клапаціцца.

— У тым і бяда, што яно клапоціцца пра сябе, а пра справы — пастолькі паколькі яму выгадна... Ты думаеш, Важнік не мог бы выпісаць табе грошы?

— Відаць, не мог... У яго ж інструкцыя...

Хлопцы ў рэдакцыі зарагаталі.

— Інструкцыя яму да лямпачкі,— уставіў Нагорны.

— З ёю ён можа сходзіць у адно месца, хай мне прабачаць дамы,— яшчэ выразней намякнуў Пракурат.— Ты ведаеш, што па інструкцыі ці па ўмове ён мае права выпісаць табе нават аванс — за работу, якую ты яшчэ не зрабіў, але ўзяўся рабіць па ўмове..

— Яшчэ чаго захацеў! — не паверыў Драгун.

— Ты як з неба зваліўся.— Пракурат паказваў на яго пальцам і рагатаў.— Усё ён можа зрабіць, толькі не нам з табою. Хто мы для яго?

— О, гэта іншая рэч,— згадзіўся адразу Нагорны.

— А для каго, калі не сакрэт? — спытаў Драгун. Ён яшчэ не ведаў як след гэтай кухні.

— Напрыклад, для Быліны... Калі ён толькі бярэцца перакладаць з *кітайскай*,— Пракурат знарок вылучыў апошняе слова,— то тут жа атрымлівае авансік. А калі Быліна заплануе сваю кнігу — размова пра якія-небудзь байкі,— то яму Стрыгач не цыркае, так як табе ці мне, а выплаціць усё зараз, як і належыць. Ён можа перакладаць з кітайскай, венгерскай, літоўскай, хоць на справе ён і сваёй добра не ведае.

— Дык як жа ён з кітайскай? — зноў здзівіўся Драгун.

— Я ж кажу, што ён з неба зваліўся,— дабіваў яго Пракурат.— Ды кожны з нас так умее: бярэ рускую кніжку і шпарыць. А атрымае, як з замежнай: па тысячы рублёў за аркуш.

— Нам з Наско хацелі даць па 750 за аркуш... Але добра, што Гушчынскі заступіўся.

— Вось бачыш...

— Паслухайце, хлопцы,— сказала Жывіца,— неяк я шукала нумар умовы, не памятаю ўжо з кім. Далі мне ў бухгалтэрыі падшыўку ўмоваў за некалькі год. Каб вы толькі паглядзелі, хто там фігуруе ў галоўных перакладчыках! Толькі аднаго дырэктара няма, а то ўся яго світа і падхалімы. Быліна мо на першым месцы, потым намеснік дырэктара, намеснік галоўнага рэдактара, загадчыкі некаторых рэдакцый. А наш гэты штатны аратар Гуцэвіч! Ад яго прозвішча стракаціць у вачах...— Жывіца змоўкла на паўслове.

У пакой зайшоў Маскалевіч.

## 22

У Драгуна ў горадзе жыло шмат знаёмых і нават сяброў па вучобе, і яны часцяком да яго заходзілі. Ён і сам любіў пайсці куды-небудзь, хоць і не ўмеў вельмі весяліць кампаніі. Пасля жаніцьбы, як і раней, да іх таксама заходзілі яго прыяцелі, запрашалі да сябе. Драгуны абяцалі, але болей для формы. Нешта ўсё не выходзіла то часу, то грошай, то настрою. І неяк непрыкметна і гарадскія яго сябры ўсё радзей і радзей заходзілі да іх. Не забывалі толькі тыя, што жылі ў вёсцы: гэтым у вялікім незнаёмым горадзе не было дзе дзявацца, і яны ішлі да таго, каго ведалі. Заходзілі часам зусім незнаёмыя, казалі, што ім параілі зайсці яго родныя. Як было не прыняць людзей? Два званкі звінелі весела і часта.

Неяк заехаў да Драгуна яго стрыечны брат Сакалоўскі Міця, вясковы механізатар. Драгуны прынялі яго, як і трэба, пачаставалі, запрасілі пераначаваць. Брат сказаў, што ён прыехаў на курсы, яму павінны даць інтэрнат, мо адну ці дзве ночы давядзецца яму пераначаваць у іх, калі яны не прагоняць.

Братавая была ветлая да Міці, усміхалася, распытвала пра вёску: як жывуць, ці добра зарабляюць, ці хапае

жывёле кармоў. З ім яна, як і трэба з госцем, была гасціннай, затое ўвесь час ні за што пакрыквала на няньку, на дзіця, не глядзела яму ў вочы, як бы не заўважала зусім. Госць пераначаваў дзве ночы, а на трэцюю ўжо не прыйшоў — відаць, далі інтэрнат. Драгун падумаў, што чалавек, няйначай, пакрыўдзіўся. І мо так яно і было, бо болей ён да іх не зайшоў, хоць прыехаў на два тыдні.

Праз дзён дзесяць пасля стрыечнага брата прыехала да Драгуна яго маці. Казала, паглядзець унучку, бо дагэтуль яшчэ не бачыла. За адным заходам папрасіла памагчы паставіць зубы, бо засталіся толькі лічаныя. Можна было б зрабіць гэта дома, ды далёка хадзіць у горад. Што ж, Драгуну надарыўся лішні выпадак памагчы сваім.

Тут жа на Нямізе знайшлі прыватнага дантыста, які мог паставіць хоць падвойныя зубы — і ўсяго па трыццаць рублёў за штуку.

Драгун заўважыў, што Вера трымаецца з апошніх сіл, каб не сарвацца. Ён і сам адчуваў, што ўсім неяк як бы стала душна, як бы стала менш паветра. Фактычна, так яно і было. Уставалі рана, у сем гадзін. Прымалі раскладушку, складвалі пасцелі, праветрывалі пакой. Усіх падымала Валька — яна прачыналася ў адзін час, як па будзільніку. Пакой пачынаў варушыцца, як мурашнік. Бразгалі дзверы, на кухні цурчэла вада, у туалеце не патухала святло.

Суседзі Плоткіны, якія прывыклі да спакойнага жыцця, бо не мелі дзяцей, пачыналі нервавацца. Цяпер толькі Драгун зразумеў, што Плоткінава жонка так баялася, што побач будуць жыць людзі з малым дзіцем. Добра, што яна тады не ведала, як многа ў іх сваякоў. Але яна і цяпер не маўчала: ужо некалькі разоў выгаворвала Веры, што яны «не зусім правільна» ўмеюць карыстацца камунальнай кухняй, што ім часта звоняць і не даюць ім, Плоткіным, адпачыць.

Затое цяпер нават Драгун, самы памяркоўны чалавек у гэтай камунальнай кватэры, прызнаваўся сам сабе, што ў іх цесна і шумна. Прама пра гэта ніхто не гаварыў, усе неяк стрымліваліся, але Драгун разумеў, што гэтая стрыманасць усім дорага дастаецца, асабліва Веры.

Ноччу Драгун доўга не мог заснуць. Ляжаў, уздыхаў, варочаўся з боку на бок, чамусьці чакаў, што вось зараз празвіняць два званкі — абавязкова два. Здавалася, што і ўсе не спалі, адна малая Валька пасвіствала носікам ды на сцяне цікаў гадзіннік, іх вясельны падарунак. Гэтае ціканне, такое моцнае ў цішыні ночы, нервавала Дра-

гуна, ён хацеў, каб гадзіннік спыніўся, але ён, як знарок, усё чэкаў і чэкаў.

Драгун, заскрыпеўшы спружынамі, сеў на ложку, хацеў як-небудзь абмінуць жонку, якая спала з краю, бліжэй да калыскі, і спыніць пракляты гадзіннік, але пачуў жончын сярдзіты шэпт:

— Чаго ты ўстаеш?

Нічога не сказаўшы, ён лёг зноў.

— А чаго ты не спіш? — спытаў у яе.

— Паветра мала, здаецца, задыхнуся.

Драгун пяшчотна абняў жонку, прытуліў да сябе.

— Нічога, перацерпім як-небудзь,— ён гладзіў яе плячук, вуснамі дакранаўся да шчакі.

— Добра, як ты цярплівы... А я не такая,— прашаптала Вера і паклала яму на шыю гарачую руку.— Можна звар'яцець. Чуеш? Ніхто не спіць. Нібы знарок падслухоўваюць.

— Кінь, табе здаецца,— Драгун затуліў ёй рот сваімі вуснамі.

Яна нервова пакруціла галавою.

— Калі здаецца, дык яшчэ горш,— і глыбока ўздыхнула.

— Нічога, наша ад нас не ўцячэ,— Драгун разумеў, што яна хацела сказаць.

А жонка тулілася да яго, і ён сам адчуваў, што пачынае хмялець.

— Скора ўсё гэта мінецца... Супакойся... Яшчэ праспім на работу,— і ён адвярнуўся ад яе.

— Дзіва, тут праспіш... Нежывога падымуць,— гарачы пакрыўджаны шэпт чуецца над самым яго вухам.

«Нават ноч нас не мірыць... Далей так нельга цярпець... Можа кепска скончыцца,— думаў Драгун, адчуваючы на сваёй шыі жончына дыханне.— Сям'і трэба аддаваць душу і цела без астатку, без перапынку, як расліне ваду і святло. Усякая жонка любіць пяшчоту і ўвагу, як дзіця — клопат і цяпло...»

Так думаў, засынаючы, Драгун.

Пакрысе ён прытупіўся, прывык да шумнага жыцця і цесняты, пераконваючы сябе, што ўсё гэта хутка скончыцца, што цярпець засталося нядоўга.

І ўжо калі наступнай вясною заехала да іх сястра Каця з трыма дзецьмі, якая ехала з цаліны дадому ў госці, Драгуну было не так страшна, як раней. Ён суцяшаў сябе тым, што жонка таксама не так востра прымае да сэрца

ўсе дробязі і непаладкі жыцця. І мо трохі смялей, чым звычайна, узяў грошы і купіў аднаму пляменніку, самаму большаму, палітка, а меншым касцюмчыкі, сястры даў на дарогу пару соцень.

Пры сястры Вера не паказвала свайго настрою, а як толькі тая паехала, адразу перамянілася — стала маўклівая і надзьмутая, не падыходзь.

— Мне проста брыдка за цябе, Вера. Ты як малое дзіця,— не стрымаўся неяк Драгун.— Ты хочаш, каб да нас ніхто не заходзіў.

— Менш будзе клопату.

— Кінь! Які тут клопат?

— Табе ніякага. Толькі схадзіць у магазін па гарэлку. А мне трэба думаць, адкуль узяць.

— Ну дык што? Усе так робяць і так жывуць...

— А я не хачу.

— А я не хачу рабіцца чужым для сваіх...

— Станеш чужым — нам будзе зацішней.

— Так мы патраціліся на іх, не дай бог!

— Каб мне гэтулькі здароўя! Але болей я не хачу, каб пасылалі мы, а дзякавалі табе. Табе дзякуюць — ты і пасылай.

— Я не за дзякуй пасылаю і даю.

— Як хочаш. Толькі ведай — не са свае і не з мае зарплаты.

— Ха! Буду красці! — зарагатаў Драгун.

Яны толькі што павячэралі. У пакоі стаяў беспарадак. Нянька забаўлялася з малою, паказвала ёй малюнкі ў кніжцы, а дзіця называла звяроў. Дзіўна, што зайца ці вожыка яна не бачыла ў вочы, а на малюнку называла нават кенгуру ці якую чарапаху.

Вера мыла пасуду. На сукенку яна накінула паркалёвы, у чырвоную гарошынку халацік, падперазалася і стала падобная на дзяўчынку, якая апранула доўгую сукенку.

Драгун памагаў жонцы. Ён стаяў ля стала і выціраў талеркі і лыжкі, якія хуткімі нервовымі рухамі мыла і падавала Вера. Сёння ён пазіраў на яе хударлявы прыемны твар і адчуваў непрыязнасць.

— Аддаць лішняе — кожны дурань зможа,— разважаў услых Драгун.— А вось падзяліцца апошнім — гэта сапраўдная дапамога.

— Са мною ніхто не дзяліўся, і я не хачу.

— Не паверу! Ці магла ты на стыпендыю пражыць пяць год? Прысылалі табе бацькі?

— Прысылалі. Але бацькі...

— А мне бацькі і сёстры. І гэтага я ніколі не забуду. Я вучыўся, а яны працавалі, памагалі мне. І ніхто не прымушаў, нават не прасіў.

— І цябе ніхто не прымушае...

— Правільна. Яны нават не папросяць. Але маё сумленне мяне прымушае. Бо каб не яны, не іх дапамога, я не сядзеў бы тут у Мінску разам з табою.

— Ах, як яны мяне ашчаслівілі! Нізкі ім паклон. Буду ўдзячная да самай магілы.

Шаржыравана-тэатралізаваны Верын голас непрыемна разануў Драгуну па сэрцы.

— Калі ты не хочаш, дык я ўсё-такі буду... удзячны да магілы. Дабро забываюць чамусьці хутчэй, чым зло. А трэба наадварот.

— Я заўважыла, што ты добры для другіх, ■ для сям'і — ты вораг!

— Пэўна ж! Не даю таго, чаго не магу даць! Не прыношу двайное зарплаты. Не працую, як вол, днём і ноччу, а яшчэ гавару пра нейкае сваё права, пачынаю рабіць тое, што не падабаецца маёй жонцы. Пэўна ж кепскі! Вось каб пакорліва маўчаў пад тваім абцасам!..

— Сціхні малоць! — крыкнула Вера.— Якая двайная зарплата? Хоць бы ты гэту не пускаў на вецер. 1100 рублёў! Ах, якая зарплата! Ты вось кватэры дабіўся! Ты казаў, што гэта да часу, а ўжо мы тут другі год, і невядома яшчэ, колькі тут прабудзем. Ах, які ты добры муж і бацька! Кланяемся табе нізка!

## 23

Пісьменнікі раслі хутка, як грыбы пасля цёплага дажджу. Здаецца, нядаўна выдавалі па першай кніжцы, а тут ужо даюць па другой. І адразу відно — выраслі ўверх і ўглыб, і ўшыркі — ва ўсіх трох вымярэннях. Ад апавяданняў перайшлі да аповесцяў, ад аповесцяў — да раманаў. Не ўсё, праўда, у іх гладка, але аснова, добрая, моцная — ёсць у хлопцаў. І народ пайшоў пісьменны, адукаваны — адукацыя, як правіла, вышэйшая, а то і аспірантура.

Прынёс у выдавецтва першы свой раман малады празаік Мікола Драздоў. Першая яго кніжка выйшла два гады назад, мела добры поспех, многа пахвал далі ёй крытыкі, асабліва маладыя. У Драздове яны ўбачылі новую зорку

першай велічыні... Што ў Драздова было дасканалым, дык гэта пейзажы. Здавалася, што не чытаеш, а бачыш малюнак — так мог ён падаваць прыроду. Часам гэтым сваім умельствам ён злоўжываў, і прырода паглынала чалавека, як вялікі лес. Прырода падавалася буйным планам, першародная ў сваім харастве, а чалавек раствараўся ў ёй, станавіўся мізэрны, маленькі, як мурашка...

Раман у аркушаў дваццаць Драгун адрэдагаваў, зняў з аўтарам усе пытанні, усе спрэчныя мясціны і панёс на подпіс. Літаральна ў той жа дзень у газеце з'явілася рэцэнзія на гэты ж раман, які спярша быў надрукаваны ў юначым часопісе. Рэцэнзент Крышталевіч непрыхільна паставіўся да твора, знайшоў у ім нават тое, чаго там не было. Але крытыкі гэтай хапіла, каб начальства насцярожылася і з павышанай цікавасцю ўзялося чытаць яго.

Час ішоў, Драгун працаваў над другім рукапісам, а трывога за раман не ўлягалася.

І вось назначана вытворчая нарада. Збіраюцца ўсе ў дырэктарскім кабінеце. Ведаюць, што будзе абмеркаванне рамана Драздова... Многія са спагадай паглядаюць на Драгуна. Некаторыя пасміхаюцца самі сабе: так табе і трэба!

Драгун сам не свой. Пэўна ж, дастанецца яму нямала. Аўтара, як правіла, на вытворчыя сходы і нарады не запрашаюць. Аднойчы аўтару выпадкова ўдалося трапіць на абмеркаванне свае кніжкі, дык потым дырэктар даў вымову рэдактару за тое, што прывёў аўтара... Найлепей вырашаць лёс чалавека, калі яго самога тут няма, не чуваць тады ні плачу, ні піску, ні крыку... А потым паставіць яго перад фактам — і ўсё, нікуды ён не папрэ...

Драгун зайшоў са сваім крэслам, сеў ззаду, насупіўся, спадылба аглядаў людзей. Рэдактары былі пераважна мужчыны, карэктары — усе да адной жанчыны рознага веку. Цікавы гэта быў момант! Паназіраўшы, тут можна было вызначыць характар чалавека, яго імкненне, яго адносіны да жыцця. Звычайна кожны чалавек меў сваё аблюбаванае месца. Усе, хто хацелі быць на віду ў начальства, садзіліся спераду, бліжэй да дарэктарскага стала. Гэта былі пераважна загадчыкі рэдакцый, парторг і кандыдаты на парторгі або хто з былых, адстаўных, старшыня мясцкома ці кандыдаты ў старшыні, аматары выступаць на кожным сходзе, а то і проста такія, што любяць пакрасавацца перад людзьмі і начальствам. Побач з галоўным, насупраць дырэктарскага стала, пры акне, сядзеў заўсёды Нагорны, гэта было яго «забраніраванае» месца.

Маскалевіча часта выбіралі ў прэзідыум, і ён таксама выбіваўся наперад, каб быць на вачах у масы. Як правіла, на такіх сходах выбіралі адных і тых жа, яны, відаць, прывыклі да гэтага і заўсёды ахвотна і сур'ёзна займалі свае месцы ў прэзідыуме. Садзіліся спераду і тыя, хто спазніўся заняць сабе спакойнае месца ззаду, крывіліся і стараліся схавацца за суседавы плечы. Любілі сядзець спераду і прыгажэйшыя жанчыны, спрабуючы свае чары на начальстве.

Хутка і без валакіты выбралі прэзідыум. Людзі пайшлі за дырэктараў стол, дзе чакалі пастаўленыя для гэтага крэслы, а суседзі з радасцю займалі тыя, што вызваляліся.

Старшыня нарады парторг Пятроўскі, з голай бліскучай галавою, з дэголеўскім носам, ужо ў гадах чалавек, адразу ж даў слова для дакладу дырэктару Важніку.

Той прайшоў да свайго стала, занятага цяпер прэзідыумам, стаў збоку, паклаў на край папку з дакладам. Потым пачакаў цішы, азіраючы залу з вышыні свайго высокага росту.

— У лютым гэтага года рэдактар мастацкай літаратуры таварыш Драгун і загадчык рэдакцыі таварыш Гушчынскі падпісалі ў набор і здалі ў галоўную рэдакцыю рукапіс рамана Міколы Драздова «На берагах Віліі»,— пачаў чытаць свой даклад дырэктар.

Далей ён сказаў, што у той жа дзень у газеце «ЛіМ» была змешчана рэцэнзія на раман Драздова, і рэцэнзія ў рэзкім тоне крытыкавала раман. Аднак рэдакцыя не прыслухалася да голасу крытыка, маючы, відаць, свой, зусім іншы пункт погляду на гэтую рэч. Таму ён як дырэктар лічыць патрэбным выказаць некалькі сваіх заўваг — як па зместу рамана, так і аб фактах непатрабавальнасці і неперабарлівасці, што заўважаюцца ў рэдакцыі мастацкай літаратуры ў апошні час.

— Скажу шчыра, што ў гэтым творы я не знайшоў ніякіх жыццёва важных праблем, хоць трохі больш-менш значных падзей, уся ўвага чатача прыкута да дробных і па сутнасці пачварных з'яў, якія не маюць выхаваўчага, не кажучы ўжо грамадскага ў шырокім плане, значэння. Больш таго, я сказаў бы, што «малюнкі вясковага жыцця», якія не звязаны між сабою і не выцякаюць адзін з другога, пададзены так, што ўзнікае зусім няправільнае ўяўленне пра людзей нашай савецкай вёскі, пра іх побыт і маральнае аблічча. Затое ў рамане ёсць добрая порцыя пошласці і,

як трапна заўважыў з іншага выпадку паэт Шчыпачоў,— «жарабяціны». На фактах, калі можна так сказаць, маральна-этычных, якія ёсць у рамане «На берагах Віліі», варта спыніцца больш падрабязна.

Працытуем асобныя мясціны. Вось размова двух трактарыстаў:

«— Ды я счакаў бы... Толькі не сёння.— Васіль зняў кепку, страсянуў галавой, цмокнуў.— Ягадка адна мяне чакае. Сохне... Чорненькая такая, спелая. Не магу, браце, душа мая! Трэба памыцца, выветрыцца. Сёння думаю зажымончык зрэзаць. Эх-ту!.. А як прыцісNуць дзяўчыну, ягадку такую, калі ад цябе саляркай нясе? А дзяўчынка чорная... Фігурка... І сама такая цвёрдзенькая... Але цыц! Не дазваляе. Абсалютна!»

Доўга, на некалькіх старонках рукапісу цягнецца гэты даволі развязны і пошлы дыялог.

«— Ды хто яна?

— А-а... І цябе ўзяло... Я яе не выпушчу. Сказаў — усё. Бо мне яшчэ ні адна чорная не траплялася. А тут шанс ёсць. Абсалютна».

І далей ў тым жа тоне:

«Любоў... Ды ну яе ў баразёнку... Няма яе абсалютна. Пабольш нахабства! Гэтая штучка мацней за ўсё».

А чым далей у лес, тым болей дроў:

«Яна не ўцякла ад акна. Ён узяў яе на рукі, хуценька занёс на канапу. Быў ашалелы, лавіў яе вусны, дыхаў горача, цяжка.

— Лена... Лена...

Яна ўдарыла, мусіць, па воку, бо на Міхася аднекуль са сталі раптам пасыпаліся іскры, вострыя, колкія, бы хто раструшчыў лямпачку на дробныя чырвоныя кавалачкі.

Ён раз'ярыўся, быў у шалёнай злосці.

— Не падумай крычаць... На сваю галаву...

— Пусціце... Не ламайце рукі... Ой, спіна...

— Падумаеш... Што там у цябе?»

Аўтар, відаць, сам таго не жадаючы, падбірае такія словы і рэплікі, так будуе дыялог, карацей кажучы, ахінае дробныя пахабныя факты ў такую літаратурную форму, што міжволі напрошваецца вывад: у рамане ганьбуюцца нашы маральныя прынцыпы, нашы людзі паказваюцца ў вельмі ўшчэрбленым выглядзе.

Пацвярджаюць гэта не толькі прыведзеныя прыклады, але і іншыя:

«— Пане Куцка! Ведаеш, чаму баб у салдаты не бяруць?

— Не... Ну, ну...

— А таму, што па камандзе: «Лажысь!» дагары кладуцца...

— Га-га-га...

А знаеш сакрэт, як жонку ўлагодзіць?

— Давай...

— Днём каля паленца, ноччу ля каленца».

Ці можна апраўдаць гэту відавочную і непрыкрытую пошласць тым, што аўтар укладвае яе ў вусны п'янай кампаніі? Лічу, што не!

Гаворыць стары возчык Мікіта:

«— Прырода якраз уладзіла ўсё. Ёй усё роўна, замужам хто ці не. Яна свайго патрабуе, сваё гне. Прырода — гэта такая штука, што яна не глядзіць табе ў пашпарт, ці ты муж па закону, ці ты пастаялец. Усякая любоў канчаецца прыродай».

Ці вось яшчэ натуралізм у самым аголеным выглядзе:

«— Не гавары такога... Я люблю цябе... Я так яшчэ нікому не гаварыў. Ніколі... Лена!..

— Ясік... Не трэба, не трэба... Прашу... Не цалуй так... Дай перадыхнуць... Не трэба. Адпусці... Я ж усё роўна твая... Твая, чуеш? Не трэба цяпер, адпусці... Са мной яшчэ ніхто так не быў...

Ён цалаваў яе вусны, шыю, грудзі. Яна адчувала яго рукі, дужыя, цвёрдыя. Яна дрыжала, спалоханая.

— Ясік, ну не трэба, я баюся... Ты ж мяне любіш,— яна задыхалася.— Ой, што ты... Ясік... Ой... О-о-й...— яна абмякла, панікла, пала на халодную ад ночы траву».

Могуць сказаць, што калі ўзяць «Ціхі Дон» ці «Узнятую цаліну» Шолахава і выпісаць усе інтымныя прыгоды Грыгорыя і Аксінні ці Давыдава і Дар'і, то малюнак паўстане яшчэ болей аголены?

Я не згодзен з гэтым. Справа ў тым, што ў гэтых выдатных творах асабістыя, інтымныя, калі можна так сказаць, адносіны між людзьмі таленавіта ўпісаны ў агульную сюжэтную тканіну, узмацняюць вобразы Аксінні і Грыгорыя, Давыдава і Дар'і...

Нехта ззаду крыкнуў:

— Лушкі, а не Дар'і...

Але дырэктар так захапіўся дакладам, што не пачуў рэплікі і чытаў далей:

— ...Робяць іх больш чалавечнымі, поўнымі, шмат-

граннымі. У рамане «На беразе Віліі» маральна-этычных праблем аўтар уласна не ставіў. Унутраныя інтымныя перажыванні людзей тут зводзяцца ў асноўным да аднаго: «зажымончыкі», «уся любоў канчаецца прыродай» і да таго падобнае...

Цытаваў дырэктар доўга, вывады рабіў кароткія і ясныя, зала, здавалася Драгуну, была ўся на баку дырэктара, усе весела смяяліся, кідаючы сяды-тады позіркі на Драгуна, які сядзеў усё так жа насуплены, але трохі астыў, не так балюча прымаў удары, бо, як яму пачало здавацца, яны не заўсёды траплялі ў цэль. Іншы раз яны проста ўзнімалі маладога аўтара, гаворачы аб яго добрым таленце. А што ў зале смяюцца, то з любога самага прылізанага і прыгладжанага рамана можна наскубці такога, што зарагочаш і заплачаш. Раман — гэта не апавяданне, якое прачытаеш за паўгадзіны і ўсё ўбачыш як на далоні. Трэба ўрэшце, каб чытач і не заснуў, каб была нейкая разрадка... А як паказаць адмоўнага героя, пашляка, «жарабятніка»? Сказаць, што ён сякі і гэтакі? Дык гэта будзе толькі дэкларацыя, плакат, а не характар. Чытач у яго не паверыць. Каб выклікаць пагарду да героя, трэба паказаць усю глыбіню яго падзення. Толькі так можна дабіцца сапраўднага эфекту.

Другі ўдар быў нанесены праз тыдзень, калі дырэктар склікаў рэдакцыйны савет. Гэты раз запрасілі самога аўтара — каб потым не скардзіўся ў вышэйшыя інстанцыі. Сабралася ўсяго чалавек восем.

Тут ужо не выбіралі ніякага прэзідыума, толькі сакратарка вяла запіс выступленняў.

Дырэктар, скінуўшы пінжак, пахаджваў па сваім прасторным кабінеце, нячутна ступаючы па дыване.

— Я папрасіў вас сабрацца, каб пачуць вашу думку пра раман Драздова «На берагах Віліі». Адмоўная рэцэнзія ў «ЛіМе» з аднаго боку і супярэчлівыя водгукі асобных літаратараў на раман прымусілі мяне яшчэ раз вярнуцца да гэтага пытання, хоць у нас у выдавецтве і складваецца ўжо свая цвёрдая думка. Хто хоча першы сказаць?

Усе сядзелі за вялізным сталом. Праскрыпелі крэслы, усе глянулі адзін на аднаго, чакаючы, хто смялейшы.

— Дайце я пачну...

Гэта быў ужо ў гадах салідны мужчына: шырозны ў плячах, з буйнаю сівай галавою, з вялікім кірпатым но-

сам-бульбінай, паэт і празаік, перакладчык, кінасцэнарыст, вядомы літаратар Баркоў. Да гэтага чалавека ў Драгуна было дваістае пачуццё, а чаму — пра гэта калі-небудзь яшчэ будзе гаворка. Цяпер Драгун чакаў ад Баркова ўсяго.

— Я прачытаў першую частку рамана і тут у «ЛіМе» якраз убачыў рэцэнзію. Шчыра кажучы, яна мяне здзівіла нядобразычлівым тонам, бо ўражанне ад рамана ў мяне складвалася добрае. Рэцэнзія вельмі па-сацыялагізатарску змастачана. Папракаючы гераіню, што яна не вядзе вялікай грамадскай работы, рэцэнзент думае аб так званых галачках мерапрыемстваў, а не аб шматгранным штодзённым жыцці. Шчырае, простае, нязмушанае адчуванне жыцця — гэта лепшае, што ёсць у рамане. Падзеі раскрываюцца проста, натуральна, па-свойму, забываеш нават, што чытаеш. Здаецца, сам ідзеш за гэтымі героямі і жывеш разам з імі. Але аўтар не захацеў многага выкасаваць, таму ў чытанні рамана ёсць пэўныя затрымкі. Няма і належнага адбору лексічнага матэрыялу.

Ён прывёў некалькі прыкладаў удалага і няўдалага ўжывання слоў, паказаў, як у адным выпадку слова стварае вобраз, цэлы малюнак, у другім — разбурае яго, нявечыць — і на гэтым скончыў.

Другім папрасіў слова Шукевіч, невысокі, моцны, яшчэ маладжавы мужчына, вядомы сваімі раманамі.

— Я згодзен з першым апанентам,— сказаў Шукевіч,— твор ёсць, але сёе-тое аўтар не выкрасліў: як па лініі трактоўкі вобразаў, так і па лініі мовы і стылю, канструкцыі сказаў. Напісаны раман таленавітым чалавекам — хочацца думаць, спрачацца. Ідэйныя пазіцыі аўтара ясныя, ясныя і яго ідэйныя задачы. Нешта не ўдалося, нешта нацягнута. Ёсць і зайздроснае багацце мовы, ёсць і манернічанне. Кепска, што аўтар даў не той варыянт, што ў часопісе.

За Шукевічам выступіў лысаваты рухавы Крыцкі, бывалы чалавек, вопытны празаік, які пасля рэабілітацыі доўгі час працаваў рэдактарам у выдавецтве. Гаварыў ён хутка, спяшаючыся, нібы баяўся, што яго пераб'юць або не дадуць дагаварыць да канца свае думкі.

— Мяне здзівіла, калі я пачуў, што ў выдавецтве раман выкрэсліваюць з плана. Твор Драздова — цікавы і арыгінальны. Натуральна, што ў маладога аўтара можна знайсці невялікія завіхрэнні, выкліканыя творчымі пошукамі. Шкодзіць раману жаданне здзівіць, паманернічаць.

Крыцкі хуценька сказаў, хуценька сеў, агледзеў усіх: хто за ім?

За ім выступіў крытык Ярашэвіч, адказны сакратар таго часопіса, дзе друкаваўся раман. У Ярашэвіча былі вялікія пукатыя вочы, вузкі, як сціснуты, нос і чаканная пракурорская дыкцыя.

— Я згодзен з усімі тут выказанымі думкамі. Мы ў часопісе ўхапіліся за гэты твор таму, што ён цікавы, а вобразы моладзі — надта арыгінальныя. Мы адчувалі, што аўтар не зусім справіўся з матэрыялам, але не хацелі яго збіваць на газетную мову і стыль. У мове шмат крыўлянне, манернічання. Мне здаецца, што рэдактару Драгуну часам было не пад сілу пераканаць аўтара паправіць сёе-тое. Ці не запрасіць больш вопытнага рэдактара?

Драгуна гэта нічуць не пакрыўдзіла: у такіх выпадках «запрашаюць больш вопытных» рэдактараў.

Амаль усе, хто тут сядзеў, ужо выказалі свае меркаванні. Пятым папрасіў слова галоўны рэдактар Быліна. Тон яго выступлення быў рэзкі.

— Скажу адразу, што аўтар зрабіў памылку, калі не ўлічыў тых заўваг, якія яму зрабілі ў часопісе і даў усё тое, што хацеў, а рэдактар за гэтым не прасачыў. Не было там многіх анекдотаў, пошлых мясцін, пахабшчыны... Відаць, аўтару захацелася паарыгінальнічаць... Ёсць у рамане бясспрэчныя вартасці, але хапае і чужароднага, непатрэбнага. Пісьменнік не асіліў усяго матэрыялу і не здолеў зрабіць належны адбор. Рэцэнзент слушна заўважыў пэўную імпрэсіяністычную манеру аўтарскага пісьма. Як мне здаецца, аўтару абавязкова трэба ачысціць твор ад выпадковага, наноснага, ад моўных выкрутасаў. Падругое, трэба пайсці па лініі больш выразнага стаўлення аўтара да кожнага з вобразаў. Нельга ні ў якім разе нагнятаць адмоўнае, а такія сцэны ў рамане ёсць. Трэба не плакаць па дэталях, калі яны не іграюць на вобраз, і па словах, якія рэжуць вуха. Пасля дапрацоўкі раман можна выдаваць.

Дайшла чарга да аўтара. Далі слова і яму.

Драздоў гаварыў ціхім, змучаным голасам. Ён падзякаваў за крытыку, за заўвагі і за добразычлівы тон.

— Пастараюся раман дапрацаваць,— сказаў ён у заключэнне.— Хачу толькі зазначыць, што манернічання ў мяне няма, бо пішу той мовай, на якой гавораць у нас, якой гавару сам. Трэба яшчэ адзначыць, што рэдактар мне многа памог. Яшчэ раз дзякую...

— А што рэдактар на гэта скажа? — спытаў Шукевіч, калі надышла паўза.

Драгун адмовіўся выступаць, бо адчуваў, што стане гаварыць рэзка і толькі напсуе.

— Мне няма чаго сказаць... Я падпісаў раман у набор... Маю думку на гэты конт у выдавецтве ведаюць,— сказаў ён толькі і сеў.

Цяпер усе глядзелі на дырэктара. Заставалася яго апошняе, важкае, рашаючае слова. І яго тут жа пачулі:

— Я застаюся пры сваёй думцы: у такім выглядзе раман выдаваць нельга. Не ўпэўнены, ці варта пераносіць кнігу на наступны год. Не ўпэўнены, што рэцэнзент у газеце памыліўся. Уражанне ад твора ў мяне вельмі кепскае. Ідэя не праяснена, вобразы цьмяныя, няма ў творы значных падзей. Мо толькі пасля перапрацоўкі можна будзе вырашаць, выдаваць твор ці не.

Але з апошнім ніхто не захацеў згадзіцца.

Урэшце дырэктар даў згоду перанесці раман на наступны год.

І яшчэ вырашылі памяняць рэдактара.

## 24

Кажуць, што як цесна ў хаце, то трэба спачатку паўносіць у яе ўсё, што толькі можна, а потым выставіць тое, што замінала,— і адразу стане прасторна.

Нешта падобнае адчулі Драгуны: ад іх пайшла нянька. Такога спрыту ад яе ніхто не чакаў: ціхая, сарамяжлівая, напаваротлівая, а не агледзеліся, як праз два гады знайшла сабе салдата, распісалася, бо ён дэмабілізаваўся, і разам паехалі на цаліну.

За сталом сабралася сямейная рада: Драгун, Вера і малая Валька. Канчалася нядзеля, вячэралі. Спачатку елі моўчкі, кожны заняты сваімі думкамі.

— Мама, а дзе Наташа? Яна хутка прыйдзе? — спыталася Валька.

— Бач, дурненькая, яшчэ не разумее. Наташа не прыйдзе, яна паехала далёка-далёка. Мы будзем без яе...

— Ну і добра. Мне з табою будзе лепей,— і дзіця прытулілася да маткі.

Вера абняла дзіця, пагладзіла па русай галоўцы.

— І куды нам цябе падзець? У яселькі хочаш? — у голасе яе чуліся слёзы.

— Хачу...

— А да бабкі, да дзеда хочаш?

— Хачу...

— А са мною хто будзе?

— Я буду. Не плач, мамка, я з табою буду.

— Дзіця маё! Што нам з табою рабіць? — Вера туліла да сябе Вальку, цалавала ў круглыя шчочкі.

— Ну што ты ўжо раскісла? — Драгун стараўся гаварыць цвёрда, а ў самога голас дрыжаў: — Няўжо мы не выкруцімся з гэтай бяды?

— А як?

— Трэба падумаць, а не пускаць слёзы... У яслі адпадае. Чакаць два гады — гэта задужа... Да бацькоў — таксама не паткнуцца: у маіх расце Каціна малая. У тваіх — Валіна. Хоць каб яны ведалі, як нам цяпер, то не адмовіліся б — ні мае, ні твае.

— Не, так не будзе. Самі рабілі, самі гадуйце. Толькі так.

— Правільна... Застаецца адно...

— Пераходзіць на тваю зарплату?

— А што? Будзем жыць... Нікуды не дзенемся.

— Эх, ты! — сумна паківала галавою Вера.— Каб хоць у нас быў які запас...

— Пра што ты гаворыш? Я табе яшчэ вінаваты сто рублёў. А вяселле, памятаеш, за чые грошы спраўлялі?

— Ты называеш гэта вяселлем?

— Ну, бяседа... Якая розніца?

— Розніца ёсць...

Ухадзіўшыся, ляглі спаць, але сёння іх чакала ўсяночная. За сцяною суседка Турбан, атрымаўшы пенсію, адзначала гэтую падзею: так яна рабіла заўсёды. Спачатку толькі гаварыла сама з сабою, потым пачала выкрыкваць, тупала па пакоі, нібы за кім ганялася, спявала, плакала, зноў спявала. Ляжаць і слухаць гэтую жудасную какафонію было нясцерпна. Яны зноў вярнуліся да перарванай гутаркі. І Вера расказала яму ўсе тыя думкі, якія даўно не давалі ёй спакою, якія Драгун чуў толькі абрыўкамі, толькі намёкамі. Цяпер усё гэта было падсумавана і ўзважана.

— Мушу табе сказаць, што пра сваю работу я ўжо думала даўно. Хацела пагаварыць з табою, ды ўсё адкладвала. А тут ужо болей няма куды адкладваць. Я ўжо збіралася або кідаць зусім, або пераходзіць у другі які інстытут, ці ехаць у вёску заатэхнікам. Памяркуй сам.

Аспіранткай я працавала больш-менш на сябе. А як толькі перавялі ў лабаранткі, на мяне ўзвалілі ўсё, што можна. Я была на пабягушках у загадчыка аддзела кармлення Інэсы Рынковіч. Памятаю, яна прыехала з Гродзенскай вобласці, прывязла матэрыял і дала мне на апрацоўку. За месяц яна абследавала і банітавала 1500 авечак! Я здзівілася. На такую работу трэба патраціць у два разы болей... Затое як глянула я на работу, дык у мяне і рукі апусціліся. Часам шырыня авечкі перавышала даўжыню, а якасць воўны зусім не адпавядала даным росту і вагі жывёлы. Усе лічбы былі высмактаны з пальца. Потым ужо я даведалася, што абмер ёй рабілі студэнты першага і другога курсаў, якія яшчэ не ведалі, што да чаго, а яна ім нават не паказала, як гэта ўсё робіцца. У яе былі справы больш важныя... А тады я ціха сказала ёй, што матэрыял зусім сыры, яго нельга апрацоўваць. Яна ўзняла крык. Тады я сказала, што напішу дакладную дырэктару. Яна прыціхла і забрала свой матэрыял.

З таго часу і пачалося.

Была я ў камандзіроўцы ў Зялёнай Лужы, трэба было апісаць увесь статак, да гэтага ён належаў тром калгасам, і там рабіла баніціроўку Інэса. Потым авечак змяшалі, і выходзіла, што пад адным нумарам хадзіла тры-чатыры жывёлы. Покуль я там дабілася толку, дык ачмурэла. І вось раз яна прыязджае. Пастух толькі выгнаў авечак на пашу, а яна камандуе: «Заганяй, будзем правяраць!» Пастух раззлаваўся і паслаў яе да д'ябла, плюнуў і пайшоў. Ну, яна знайшла пастухову жонку, прыстрашыла яе, тая стала заганяць авечак у кашару, давай там іх лавіць ды правяраць. Я трохі памагала, але цягаць авечак ужо было не пад сілу, ужо Валька не давала. Інэса на мяне як напала, дык хоць ідзі тапіся. Што я тут капаюся, цэлы тыдзень прабыла, а работа не зроблена! Яна мне пакажа, як трэба працаваць! Я расплакалася... Не было тады ў мяне сілы з ёю сварыцца, кінула ўсё, пайшла ў прыбудоўку. Там мне кепска стала, думала — памру. Але назаўтра супакоілася, прабыла яшчэ тыдзень і зрабіла ўсё, як трэба. Не паспела вярнуцца, а яна ўжо напісала дакладную дырэктару, што я маруда, што не спраўляюся з работай, што нават пастухоў падбухторваю, каб яе не слухалі. Я табе раней усяго гэтага не казала, хопіць, што я адна цярпела, не хапала яшчэ, каб і ты ўлазіў у гэтую кашу...

Потым неяк адчула, што Інэса стала паддобрывацца да мяне. Думаю, што ж гэта значыць? Нешта не так...

Ажно адзін раз кажа мне: у міністэрстве ёсць такая Русанава. Яна мае яшчэ даваенныя матэрыялы абследавання нейкага там статка, вельмі добрыя матэрыялы, але яна іх нікому не дае. Як бы я ў яе выпрасіла, яна, Інэса, ведае, што я з ёю ладжу. А для чаго — не сказала. Неяк убачыла я Русанаву ды і кажу, што Рынковіч хоча паглядзець яе матэрыялы... Русанава ўсміхнулася і пытае: «А яна не сказала, навошта яны ёй?» Кажу, не... Аказваецца, Рынковіч яшчэ з адным кандыдытам навук задумалі напісаць манаграфію... на чужым матэрыяле. Але Русанава не такая дурная, як яны думалі. Яна кажа: «Навошта мне ім даваць? Гэта мой уласны матэрыял, я сама яго збірала. Сама буду пісаць дысертацыю. А яны мой матэрыял скарыстаюць і нават дзякуй могуць не сказаць, самае большае — недзе у дужках напішуць, што матэрыял ім велікадушна дала нейкая Русанава. Дудкі! Прывыклі заграбаць жар чужымі рукамі».

Тады яна згадзілася ўзяць мяне ў суаўтары, абы я толькі вырвала ў Русанавай матэрыял. Я не захацела. Так іх манаграфія і засталася у праекце. І ў гэтай няўдачы Рынковіч вінаваціла толькі мяне. Дайшло да дробязных прыдзірак. Неяк яна дала мне вычытаць мерапрыемствы аддзела авечкагадоўлі. Вычытала я, сёе-тое паправіла алоўкам і аддаю ёй. Паглядзела яна ды як кіне мне на стол! «Хто табе дазволіў тут крэсліць? І дзе арыгінал, чаму лічбы не зверany?» Я кажу, што яна дала мне толькі тэкст з машынкі, ніякага арыгіналу я не бачыла. А дзе папраўіла, дык там зусім непісьменна. Куды там! Я засталася вінаватая!.. Калі дзе што не так, ніколі не скажа сумленна, што яна вінавата, заўсёды выедзе на некім. Што непісьменна ці што памылка — вінавата, пэўна ж, машыністка, а што перакручана лічба — буду вінавата я, бо вычытвала пасля машынкі.

Як вучоны яна не ведае некаторых элементарных рэчаў, напрыклад, што такое біяметрычны спосаб апрацоўкі — для яе цёмны лес. А стыль яе! Яна піша прыблізна так: «Когда проклятые фашисты нахлынули на нашу дорогую родину, все поголовье овец попало в исключительно неблагоприятные условия». А як чалавек яна вось такі... Толькі некалькі прыкладаў. Здаецца, дробязі, а чалавек адразу відзён... Збіралі мы адной нашай супрацоўніцы на дзень нараджэння. Яна нейкая хваравітая, жыве кепска... Сабралі нешта 600 рублёў. Інэса з Нінкай Зэльтан пайшлі ў магазін, купілі там нешта. Мы паглядзелі, пахвалілі:

сапраўды, купілі тое, што чалавеку трэба. А Нінка кажа, што яшчэ засталося 150 рублёў, аддаваць грашыма ці яшчэ што купіць? Усе рашаюць, яшчэ што купіць. Нінка ідзе да Інэсы і кажа, што дзяўчаты на тыя грошы захацелі яшчэ купіць што-небудзь. Рынковіч вырачыла вочы і пытае: якія грошы? Нінка кажа: тыя 150, што засталіся. «Нічога не ведаю, вось 25 рублёў засталося, бярыце». Нінка толькі ахнула... І яшчэ нешта ў такім плане. Наш Шчарбовіч абараніў доктарскую дысертацыю, запрасіў усіх на банкет, а лабаранткам купіў яшчэ па каробцы дарагіх цукерак. Якраз яны не ўсе прыйшлі на банкет, ён аддаў тыя цукеркі Рынковіч і папрасіў, каб яна заўтра на рабоце перадала ім... Назаўтра ён сустракае на калідоры адну лабарантку, мякка выгаворвае ёй за тое, што яна не прыйшла на банкет, і кажа яшчэ: «Аднак я думаю, што цукеркі, якімі ад майго імя вас пачаставалі, вам спадабаліся?» Лабарантка пачырванела, памаўчала, а потым кажа: «Прабачце, але цукерак ніякіх я не бачыла». Тады разгневаны Шчарбовіч ідзе ў кабінет, дзе сядзіць Рынковіч, адчыняе дзверы і пытае на ўвесь голас: «Скажыце, Інэса Альфрэдаўна, чаму вы не выканалі мае просьбы і не пачаставалі цукеркамі лабарантак?» Інэса разгубілася, што з ёю рэдка бывае, нешта зашчабятала, ускочыла з крэсла, стала прасіць прабачэння, што забылася перадаць. А потым пабегла ў магазін, купіла тры каробкі нейкага гарошку, занясла ў лабараторыю і, шпурнуўшы на стол, сказала: «Жарыце!» Тыя цукеркі дзён некалькі валяліся на стале, і, відаць, прыбіральшчыца іх забрала.

І яшчэ факт — крыху другога парадку. Неяк яна ўбачыла мяне з адным хлопцам — часам да нас прыходзіў у інстытут. Гэта было, натуральна, да таго, як я пазнаёмілася з табою... Яна спыталася, хто ён. Я кажу, што проста знаёмы. Яна адразу: «Пазнаём мяне з ім!» Добра, кажу. Сказала яму, а ён пытаецца, ці яна замужам. Я сказала так, як было. «Дык хай ідзе да свайго мужа». Але аднойчы на інстытуцкім вечары, здаецца, на май, я падводжу яго да яе, яны знаёмяцца. І толькі зайграла музыка, як ён пайшоў танцаваць са мною. І за ўвесь вечар да яе ні разу не падышоў. А пад канец яна сама падышла да яго ды кажа: «Паважаны Анатоль, ці не правялі б вы мяне дадому?» А ён спакойна адказвае: «Прабачце, але я не магу: я ўжо абяцаў праводзіць Веру Платонаўну». Яна ўспыхнула, як порах, павярнулася і пайшла... Ну, потым глядзела на мяне воўкам нешта з паўгода. А калі мяне з лабарантаў пера-

водзілі ў малодшыя навуковыя, то яна адна была супроць. Увогуле ёй мяне горка з'есці і жаль пакінуць: дзе яна знойдзе другога такога дурня, каб на яе працаваў? А апошні час яна зусім стала мяне не пераварваць... Я табе скажу, што каб яе метадам я рабіла дысертацыю, то не толькі адну, а дзесяць бы абараніла. Яна як паехала ў Маскву на кансультацыю да свайго кіраўніка, то паўгода там жыла ў гасцініцы, усё кансультавалася. За гэты час яе тут і муж кінуў, сышоўся з яе малодшаю сястрою, якая, кажуць, зусім другога складу чалавек... Ведаеш, чаму яна ў інстытуце мае такую сілу? Не таму, што ўжо такая вучоная, а таму, што ўсякі мужчына, які ў нас мае нейкую вагу, можа ўзяць яе, калі захоча. На гэтым яна і трымаецца... Чаму я не абаранілася? Я хацела сумленна. А мне кажуць: так не пойдзе... Ёсць у нас адзін дзівак — Цемнагорскі. Дык ён мне неяк кажа: «Вера Платонаўна, няўжо вы не ведаеце, як абараняюць дысертацыі? Вы ж нішто сабе дзяўчына... І розум у вас ёсць, і веды, і ўсё астатняе. Плюньце на прыцыповасць». А я кажу: а ці будзеце вы пасля гэтага мяне паважаць? Ён падумаў. Не, кажа, не буду, гавару шчыра. Дык вось, я хачу, каб мяне паважалі. Хай я лепей не абаранюся ніколі. Я не скажу, што ўсюды так, але ў нашай сельскай гаспадарцы нібы зачараванае кола. Нідзе нічога не даб'ешся, не знойдзеш канцоў. Усё трэба нейкі блат, знаёмства, падхалімаж... У мяне быў падвопытны статак на Гарыні, дваццаць пяць бычкоў. Але ж ім патрэбен цвёрды рацыён. А вясною старшыня саджаў яго на сухую салому... Неяк заходзіць да мяне на кватэру, дзе я жыла ў адной цёткі, падпільнаваў ці які чорт, калі тая недзе пайшла. Дастае з кішэні паўлітры і ставіць на стол. «Ну, аспірантка, калі хочаш быць кандыдатам, то пачнём з гэтага, а кончым сама ведаеш чым...» І выскаляецца... Я яго як турнула, дык яго адно пяты блішчалі... Ну, пасля гэтага мае бычкі плакалі і дысертацыя таксама... Ды і кіраўнік мой быў такога ж складу, як той старшыня. Каб што памагчы, парадзіць, падтрымаць — то гэтага няма, а вось пажывіцца за чужы кошт, абакрасці цябе, тваю душу — на гэта ён як крумкач на падлу. О, паганцы!.. Хочаш ты мець сумленне, то будзеш гол як сакол. Скажуць: то і будзь сыты сваім сумленнем... Не, не хачу я за званне прадаваць сумленне! Не хачу! І не хачу, каб гэтая вучоная шваль Інэса папіхала мяне, як свіную ражку. Увесь час яна пнецца даказаць, што яна разумнейшая, яна вышэйшая, а я — ніхто. Але ж яна і сама ў гэта не верыць,

і баіцца, што рана ці позна ўсе ўгледзяць, што яна пусты, дзьмуты пухір, што яна трымаецца толькі на сваёй жаночай слабасці, якую ўмее абярнуць сілай... А я буду ісці сваёй дарогай, як бы мне цяжка ні давялося. І ты мяне за гэта не папракай. Я яшчэ не ведаю, як ты глядзіш на свет, але мне здаецца, што ты таксама не выбіраеш крывых, абыходных сцежак. Значыць, чорт сем лапцей стаптаў, покуль пару дабраў... Але будзем мы з табою заўсёды бедныя. Ці згодзен ты на такую долю? Дарэчы, ты сам кінуў сваю аспірантуру. Мо нават і дарэмна... Але я не папракаю цябе — табе відней...

## 25

Косця Драгун недзе з сёмага-восьмага класа стаў глядзець на сябе самакрытычна, як бы збоку. Да гэтага ён пра сябе не думаў, не параўноўваў ні з кім, не глядзеў далёка ні наперад, ні назад — жыў сённяшнім днём. У школе ён лічыўся не то што першым вучнем, а ішоў недзе ў першай тройцы-пяцёрцы. Як у алфавіце «Д» займае пятае месца, так у класным журнале часам пятым, часам трэцім ці сёмым, але ўсё ж у авангардзе. І калі да сёмага класа ён быў выскачкам, сам іраўся наперад, то ў гэты час зусім па-іншаму стаў глядзець на першае месца. Будзь ты здольны, развіты, начытаны, толькі не трэба пра гэта крычаць, выстаўляць напаказ, хваліцца перад іншымі, задзіраць нос. Раней ён з насмешкай пазіраў на таго, хто не вывучыў урока, мог пасмяяцца з яго, а потым падумаў, што калі вучань не ведае ўрока, то на гэта былі свае прычыны, і смяяцца няма з чаго. Ці — вучань ходзіць у школу ў палапленай, беднай вопратцы... Не падумаўшы, можна пасмяяцца і з яго... Можа, гэтую перамену ў Драгуновай свядомасці зрабілі кнігі, якіх ён многа для вясковага хлопца чытаў, мо людзі, да якіх стаў уважліва прыглядацца, мо настаўнікі ў школе, мо нават яго ўзрост, гады, ім пражытыя, а мо ўсё разам,— але Драгун глянуў на сябе збоку. І адразу сказаў: не будзь выскачкам, гэта брыдка.. Навошта каб усім, што маеш, што носіш у сабе, хваліцца перад людзьмі? Не вырывайся першы, але і не адставай. На ўсякі выпадак будзь гатовы. Калі прыстане першы, каб ты змог замяніць яго, але не паказвай гэтага, не хваліся, што ты ўсё ўмееш.

Быць першым — гэта вельмі цяжка, і не так фізічна, як маральна. Як у бегу на доўгую адлегласць. Памятае

крос, здаецца, у восьмым класе, тры кіламетры. Выбеглі ўсёй масай, адразу рванулі. Драгун ішоў апошні, не спяшаўся, ведаў, што тры кіламетры адным рыўком не возьмеш. На палавіне дарогі пярэднія пачыналі ўжо прыставаць, адвальвацца ад авангарду, і Драгун адчуваў, што ён толькі разбегся. Ён пачаў павялічваць хуткасць — і лёгка, аднаго за адным, пакідаць ззаду таварышаў. Толькі адзін, з суседняе вёскі хлопец, яшчэ быў перад Драгуном. Ён націскае на ногі — і вось яны побач, але Драгун адчувае, што можа пакінуць ззаду і яго, але не апярэджвае. «Бяжым разам»,— кажа ён таварышу. І яны бягуць побач, рука ў руку, да самага фінішу.

«Лаўры мне не патрэбны. Хачу толькі больш ведаць для сябе, некалі спатрэбіцца, ды і цяпер цікава»,— тады не мог яшчэ сказаць Косця Драгун, але памалу ён прыходзіў і, галоўнае, дзейнічаў, жыў па такой вось формуле.

Школу скончыў на чатыры і пяць, нават «цягнуў» на сярэбраны медаль, але матэматыка была тым бар'ерам, які ён не ўзяў на «выдатна».

Хацеў ісці ў армію, але сябры і настаўнікі ўгаварылі падавацца ў студэнты. І ўгаворвалі яшчэ маці і сёстры, а гэта было самае важнае. Ён паслухаў іх, хоць ведаў, што давядзецца паспытаць усяго — і яму, і ім... Здаў добра, стаў студэнтам. Галодныя, але вясёлыя гады студэнцтва застануцца ў памяці назаўсёды.

Потым, нечакана для сябе, стаў рэдактарам — прафесія, аб якой ніколі і не сніў, і не думаў... І на гэтай рабоце не вырываўся, не лез у перадавікі, хоць адчуваў, што мог бы. Ён рабіў сваю справу спакойна, з уласным перакананнем, што трэба яе рабіць менавіта так. У яго быў свой погляд на сваю прафесію, на літаратурны працэс. Ён разумеў яго так. Рэдактар мае вялікія правы. Рэдактар — вяршыцель лёсу пісьменніка, лёсу яго кнігі. Калі рэдактар «зарэжа» кнігу, ніхто ў вышэйшых інстанцыях не заступіцца за аўтара — пачынаючы галоўным рэдактарам і канчаючы старшынёй камітэта па друку. Каб хадзіць у перадавых і надзейных, трэба «зарэзаць» некалькі кніжак, і табе будуць верыць, і да твайго голасу будуць прыслухоўвацца. Трэба сказаць, што «рэзаў» і Драгун, але не для таго, каб вызначыцца. Проста кніга была слабая, дапрацаваць яе аўтар не мог — і пускаць яе ў свет было б проста шкодай для літаратуры. Надта многа выпусцілі мы такіх кніжак. Чытач бярэ такую кнігу, чытае, потым параўноўвае з тым, што бачыць у жыцці. І адразу

кідае кнігу. У жыцці ён бачыць многа чаго цікавейшага, чым у кнізе. У жыцці не ўсё проста, не ўсё гладка. А ў кнізе — ружовая вадзічка, усё падфарбавана ў колер вясёлкі, усё лёгка і проста. Рабочы — то перадавік, вучыцца на завочным, не п'е, з жонкай не б'ецца, суседзяў паважае, дае паўтары нормы. Божа барані, не адсячэ сыну руку за тое, што дзіця сапсавала тэлевізар! Селянін — калгаснік, трактарыст ці хто іншы — у горад не рвецца, яму добра і ў вёсцы, выхоўвае ўнукаў, дзеці — вучоныя, настаўнікі... Сучасны канфлікт! Інтэлігент — абавязкова вучоны, мае перадавы светапогляд, ваюе з дробяззю — кар'ерыстамі, лёгка перамагае, вынаходзіць новую супермашынуаўтамат, яму лаўры і пашана! І так з кнігі ў кнігу... Чытач пытае: сучасная тэма? Не хачу! Давайце што з класікі, дакументальнае пра вайну ці пра шпіёнаў. Там больш-менш так, як у жыцці — і цяжка, і трудна, а людзі змагаюцца, перамагаюць, там рэальныя страсці, там у пашане сіла, розум і спрыт. Там хоць часам ды памрэ ці заўчасна загіне герой. А ў сучаснай — на цэлы раман адна аплявуха, і то за тое, што герой без дазволу хацеў пацалаваць сваю любую... А пісьменніку крычаць з усіх бакоў: давай сучаснасць, свежанькую, гарачанькую, толькі сучаснасць! Пойдзе зялёнай вуліцай! І многія даюць, забываюць, што гнацца за сучаснасцю — значыць, ператвараць кнігу ў газету. А гэта розныя рэчы. Калі газета жыве дзень, то кніга — гады і стагоддзі. Па кнізе, а не па газеце будуць вывучаць жыццё. Калі кніга будзе ілюстрацыяй нядаўняга пленума, то яна будзе жыць датуль, покуль успамінаюць той пленум.

Паказаць можна толькі тое, што адстаялася, што стала гісторыяй. А мо не? Але дайце прыклады таго, як нехта апярэдзіў жыццё, сказаў сваё слова, прадбачыў, як пойдуць падзеі — і не памыліўся, не прамахнуўся? А мо ўся бяда ў тым, што ён не змог усяго паказаць і сказаць, чаго хацеў? Дайце такую мажлівасць, і ўсе — а мо і не ўсе — стануць пісаць сучасную тэму, сённяшні дзень — і чытачу будзе цікава, і ён перастане глядзець на сучасную кніжку крывым вокам... А ўрэшце, калі літаратура стане жыць толькі сённяшнім днём — яна прападзе, вырадзіцца ў нарыс. Яе запатрабаванні, яе інтарэсы — гэта запатрабаванні і інтарэсы чалавецтва, а не аднаго чалавека. Гэта яго мінулае, сённяшняе і заўтрашняе. Сёння — гэта канец таго, што было, і, разам з тым, гэта пачатак таго, што будзе заўтра. Дык як можна пісаць толькі пра

сённяшні дзень, калі ён не звязаны, калі яго не злучыш з тым, што было? Сёння — вынік развіцця: гістарычнага, псіхалагічнага, палітычнага і якога хочаш...

Не трэба пісьменніку падказваць тэму, не трэба вучыць, як яе асвятляць, куды, у які бок вярнуць, чым канчаць. Калі пісьменнік з галавою, ён зробіць усё сам. Калі ж без галавы — ніхто яму не паможа і не выратуе, твора не выйдзе, і ніякія рэцэпты, падказкі і ўказанні не дапамогуць. Мастацкі твор — гэта не даклад на справаздачна-выбарчым сходзе, які падпраўляюць пяць рук. Мастацкі твор — гэта дзіця, якое адразу родзіцца дарослым. І як дзіця нельга перарабіць: памяняць яму нос, вочы, валасы, так нельга перарабіць твор, каб не знявечыць яго. Перарабляць можа толькі аўтар па закліку свайго ўласнага сэрца — толькі тады твор можна палепшыць.

Бываюць і выключэнні: калі аўтар сам не бачыць промаху. Тады і трэба яму даказаць, што будзе лепей, калі ён перапіша, пераробіць тую ці іншую сцэну, выкіне ці дадасць дэталь. І калі ён не згодзіцца — яго на гэта права... Ды што аўтарскае права, калі дырэктар можа сказаць: «Не хочаш дапрацоўваць — нясі друкуй у другое выдавецтва». А куды панясеш, калі такое выдавецтва ўсяго адно? Аўтар «дапрацуе» — будзе рэзаць па жывым, будзе сцякаць крывёю, але дапрацуе, бо неяк трэба жыць, трэба друкавацца...

Так глядзеў на сваю нялёгкую прафесію Драгун. Не станавіцца пнём на дарозе, а колькі ёсць сілы памагаць, каб добрыя творы ўбачылі свет, каб выхоўвалі, адкрывалі вочы тым, хто вузка бачыць, хто не ўсё разумее, хто верыць у банальную праўду сцёртых слоў.

І яшчэ што з першага дня адчуў Драгун і з чым не мог мірыцца на рабоце ў выдавецтве — гэта з тым недаверам да аўтара, з недаверам, непавагай і нават пагардай, што адчувалася ва ўсіх учынках і паводзінах начальства. Нібы аўтар — гэта чалавек з іншай планеты, і прыйшоў ён у выдавецтва толькі нашкодзіць ды яшчэ ўзяць за гэта грошы... Асоба пісьменніка, як і асоба чалавека ўвогуле, за гады культу асобы была так страшэнна прыніжана, так аплёвана, што пройдуць яшчэ дзесяцігоддзі, покуль мы навучымся як след паважаць чалавека, цаніць яго талент, верыць у яго шчырасць, не падазраваць ва ўсіх грахах, покуль мы перастанем баяцца самі сябе, покуль выпрастаем як след свае сагнутыя плечы.

Потым, праз шэсць год рэдактарскай работы, Драгун сам пачаў друкавацца. Першае яго апавяданне змясціў юнацкі часопіс «Маладосць». Пазней Драгун чуў ад людзей, што надрукавалі яго па знаёмстве. Можа, і так, бо ў нас чалавека паважаюць не за яго самога, а за тое месца, пасаду, якую ён займае. Ва ўсякім разе, першае апавяданне яго надрукавалі, як здавалася Драгуну, з ахвотай: вітаем маладыя таленты! Затое потым адчуваў, як цяжка было праціснуць у друк другія рэчы... Але нават і ў першым апавяданні з ім рабілі аперацыю абсякання сукоў, габлявання вострых вуглоў. Гэтую аперацыю пазней рабілі з кожным яго апавяданнем, аповесцю, і кожны раз у душы ён сцякаў крывёю.

Тры апавяданні да першай кніжкі ён напісаў далёка ад дому, у Крыме, куды адправіла яго Вера, каб адпачыў ад клопатаў, ад сям'і, ад цеснаты.

У Доме творчасці ў Кактыбелі жылося яму добра. Пакойчык на аднаго, пісьмовы столік, нават чарніла і ручка. За дваццаць крокаў сталоўка, за трыццаць мора, за сто — горы. Рабі што хочаш: працуй, адпачывай, валяйся на пляжы ці хадзі па гарах. Мора ён бачыў упершыню, як, дарэчы, і горы. І мора яму прыйшлося па сэрцы бліжэй, чым застылыя, нерухомыя аграмадзіны-горы. Мора падабалася яму сваёй рухомасцю, шматколернасцю, сваім вечным неспакоем, у той час як ад гор веяла манументальнай застыласцю, апатыяй і абыякавасцю да ўсяго. А мора ніколі не было раўнадушным: яно то іскрылася ўсмешкай, то пяшчотна гуляла з прыбярэжным пяском, то глуха біла ў бераг неспакойнай зялёнай хваляй, патрабуючы сабе прастору, спрабуючы выскачыць са свае вечнае клеткі — берагоў. Яно ўвесь час было новае, у ім было тысячы абліччаў, і нават кожную наступную гадзіну яно ўжо выглядала інакш, здзіўляючы багаццем колераў: ад густога сіне-зялёнага пераходзіла ў бліскуча-зялёны, то рабілася малочным, то ружова-серабрыстым, то цёмным, каламутна-грозным, халодным і бяздонна-глыбокім і страшным.

Спадабалася яму і раслiннасць, пышная, яркая на пачатку вясны, з мноствам дзікіх траў і кветак, з тонкім, духмяным, хмельным пахам ружовых суквеццяў тамарыску, з густым, да болю ў галаве, строкатам цыкадаў, з нізкім, з буйнымі зоркамі, паўдзённым небам.

Але было і такое, ад чаго хацелася ўцякаць. Гэта — мноства людзей, усё гасцей, цікаўных ці перанасычаных экзотыкай, раскормленых, сытых, задаволеных усім ці з'ед-

ліва-ўедлівых і прыдзірлівых з тымі, хто падае ці паказвае не так і не тое, што ім хочацца. Людзей, якія толькі ядуць і адпачываюць, ён не любіў, нават у нейкай меры ім зайздросціў, што яны ўмеюць адпачываць. Ён сам не ўмеў. Працаваў ён у дзень гадзін пяць-шэсць, як калі пад настрой, ні да якой кампаніі не прыстаў, бо ведаў, што тады ні пра якую работу не думай. Да таго ж ён не меў грошай, каб заводзіць кампанію.

Адзін толькі раз ён дазволіў сабе раскошу выпіць бутэльку мускату: сустрэў у далёкім татарскім Крыме свайго земляка, дзядзьку з-пад Ляхавіч. Тая сустрэча яго проста ўразіла. Перад ім стаяў чалавек, зусім нязвыклы для Крыма: у тапачках, у картовых штанах, у сіняй байкавай футболцы з расшпіленай грудзінай, у шэрай кепцы на вочы. Але самая адметная на яго твары дэталь быў нос: вялікі, мясісты, шырокі, ён займаў добрую палову твару і быў адзіным, можна сказаць, яго аздабленнем, бо шчокі былі запалыя, вочы маленькія, а вусны тонкія. Праўда, твар быў увесь загарэлы, як асмалены, а знізу да шчок падступала даволі ніштаватая чорная шчаціна. Здавалася, чалавек недзе з Клецка, з кірмашу ці з царквы, зваліўся на гэты крымскі пляж. А яго запытанне «Ці цёплая вада?» адразу падштурхнула Драгуна спытаць, адкуль ён. Дзядзька аказаўся з Волькі, звалі яго Жытко Кастусь, прыехаў да сына ў госці, які жаніўся і жыве ў Краснагвардзейску, але нешта ніяк не ладзяцца ў яго справы, і вось бацька прыехаў на дапамогу, ды мо і сам тут застанецца, бо трактарысты ўсюды патрэбны...

Пайшлі ў чайную, узялі бутэльку мускату, пагаварылі... Сустрэць свайго чалавека за светам — што знайсці калісьці згубленую дарагую рэч або на хвіліну самому апынуцца ў родных, дарагіх сэрцу мясцінах, у якіх не быў дзесяткі год...

А так праца была яго і адпачынкам для душы. У ёй ён хаваўся ад людзей, з якімі хутка стамляўся. І ў горы ён таксама хадзіў адзін, хоць гэта не вельмі весела — аднаму ў гарах. Нечаканую для сябе рэч адкрыў ён у гарах: спускацца ўніз намнога цяжэй, чым узнімацца ўгору. Мо як і ў жыцці: угору ўзнімацца прыемна, затое як цяжка падаць! У горы ён схадзіў два разы і болей не захацеў. Усё здалося там знаёмым. Ці мо чужым? Горы маўчалі, тоячы нейкія свае загадкі. Адзін раз, ужо недалёка ад дому, забіў вялізную, мо метровую, змяю. Драгуну спачатку здалося, што яна кінулася на яго. Але не: побач

з ім быў стары закінуты татарскі калодзеж без зруба, складзены з каменю і абмазаны цэментам. Відаць, ён быў для змяі яе домам. Драгун схапіў камень, але не трапіў у цэль; прамазаў і другі раз, і толькі за трэцім угадзіў: змяя да палавіны ўжо схавалася ў нары, камень перабіў яе напалам, і другая палова сутаргава круцілася, звесіўшыся над калодзежам...

Затое ля мора Драгун мог прасядзець цэлы дзень, і яму не надакучала. Здавалася, мора гаварыла на яго мове, як той дзядзька з Волькі — было ўсё зразумела і ясна. Ці мо гэта была ўяўная прастата і яснасць? Можа быць... Мора прыемнае і нястрашнае, калі глядзіш на яго з берага. А гасцей яно сустракае часам няветла і страшэнна не любіць баязлівых, слабых целам і духам. Мора любіць і скараецца толькі перад такімі, як само...

Але Драгун, хоць і жыў далёка ад дому і далёка ад таго, з чым вырас і чым дыхаў усе свае трыццаць год,— усё ў ім ажывала, калі ён садзіўся за стол і пачынаў пісаць.

Дзіўна, але і пазней, калі Драгуну і даводзілася дзе быць, то думаў ён і пісаў не пра тое, што вакол яго, а што ўсярэдзіне, у памяці, у свядомасці. Ён неяк заўсёды адставаў... І цяпер пасля снядання садзіўся адразу за стол — і пісаў гадзін колькі без адпачынку. Работа ішла даволі лёгка, крэсліў ён мала, думкі наплывалі, як хвалі, трэба было паспяваць толькі запісваць.

Паўставалі перад ім малюнкі далёкага маленства, калі ўсё бачыцца так ярка і жыва, што ўсё стаіць перад вачыма, як у нямым кіно, і толькі трэба даць голас тым людзям, з якімі жыў, якіх ведаў і любіў. Родная беларуская вёска, яе людзі, іх лёс, іх жыццё, поўнае да краёў працай, клопатамі, радасцямі і горам, паўставала і ажывала перад Драгуном.

Пасля абеду, можна сказаць, не працаваў. Ішоў на пляж, купаўся і загараў. Калі толькі прыехаў, у душы смяяўся з тых, што, як буслы на балоце, брадзілі па беразе і збіралі каменьчыкі. А потым непрыкметна для сябе і сам стаў збіраць, усё болей адчуваючы, які гэта слаўны занятак. Гэта нешта падобнае да збірання грыбоў, толькі яшчэ больш бесклапотнае... У курортныя гісторыі мала ўдаваўся, праз пальцы глядзеў на парачкі, якія разыходзіліся то ў горы, то на пляж, то яшчэ куды. Кожны шукаў таго, чаго хацеў. Намазоліў толькі ўсім вочы нейкі яшчэ не стары барадач з маладою, але, няйначай, бывалаю кабетай. Яны

хадзілі ўсюды толькі ўдваіх — у сталовую, у горы, на пляж. Усе да гэтага неяк прывыклі, хоць і пазіралі з іроніяй (а мо хто з зайздрасцю?), бо ведалі, што гэта не муж і жонка, а выпадкова знаёмыя людзі. Драгуну нават давялося бачыць, як яны развітваліся: ад'язджаў ён першы, яна заставалася. Па наіўнасці Драгун думаў, што яна будзе плакаць... Яны расставаліся як прыяцелі, як добрыя знаёмыя: спакойна, з усмешкамі на вуснах, нават не пацалаваліся...

Адным словам, паездка ў далёкі Крым была Драгуну карыснай. Упершыню яму ўдалося так далёка адарвацца ад дому. Рэдактарская работа такая, што нікуды не пусціць — свой план рабі сам. Ды і грошай лішніх Драгун ніяк не мог выкраіць. За першы ганарар ён купіў сабе паліто і жонцы сукенку, засталося яшчэ трохі на пуцёўку — яму аднаму. А каб на ўсю сям'ю?

Але затое тры доўгія апавяданні прывёз ён з Крыма...

Зборнічак з пяці апавяданняў аддалі на рэцэнзію... З якім страхам чакаў ён яе! І калі яна прыйшла і ён прачытаў яе, не спаў усю ноч. Ніяк не мог паверыць, што ён напісаў тое, што можна выдаваць, што гэта ўжо ў нейкай меры літаратура. «Малады пісьменнік Драгун...» Як гэта сказана... Як гэта страшна!.. Але падзякуй рэцэнзенту, Драгун!

## 26

Усе навіны, падзеі — вялікія, малыя — рэдактары, хоць і занятыя па горла работай, не абыходзілі маўчаннем. Газеты яны чыталі, слухалі радыё, мелі сякі-такі доступ да крыніц інфармацыі, якой не даводзілася чуць іншым. Але не ва ўсіх ляжала душа да палітыкі. Многія ахвотней захапляліся футболам, паляваннем ці рыбнаю лоўляй. У рэдакцыі Нагорнага ведалі як заўзятага рыбака і паляўнічага, Маскалевіч быў аматар футболу і шахмат, Пракурат — таксама рыбак, Малышка складаў нейкі слоўнік, Каляда рабіў пераклады з нямецкай мовы, Драгун увесь вольны час траціў на пісаніну. Раней, гадоў колькі назад, ён не шкадаваў часу толькі на загаранне — лічыў, што гэта карысна для арганізма. А цяпер, калі ўбачыў, што вольнага часу ўсё менш і менш, махнуў рукою і на гэты занятак, адпачываючы толькі для таго, каб не зваліцца з ног. Раней ён і фізкультурай займаўся з ахвотай, а цяпер таксама закінуў — ведаў, што здароўя яму хопіць да таго часу, які ён сабе адмераў. Асноўнае — паспець нешта зрабіць...

Добрым заняткам Драгун лічыў паспрачацца у рэдакцыі, абмяняцца навінамі, пагаварыць за чаркай гарэлкі ў рэстаране ці дзе, хоць не з кожным, а з тым, што многа ведае і каму можна давяраць.

Многа спрэчак, як і ўсюды, выклікалі падзеі 1956 года, калі развянчалі культ асобы Сталіна. У ацэнцы гэтай падзеі аднадушных было мала: кожны меў нейкі свой погляд, сваю ацэнку гэтай самабытнай і прыкметнай, калі не сказаць яркай фігуры ў гісторыі савецкай дзяржавы. Ён зрабіў многа — і добрага, і кепскага. І што пераважыла б на вазе — цяжка адразу сказаць. Для Драгуна ясна стала адно: Сталін нанёс магутны ўдар ідэі камунізму, зрабіў болей шкоды марксізму, чым Троцкі, Каўцкі і Бернштэйн, разам узятыя. Безумоўна, што не хто іншы, як ён вінаваты ў трагедыі трыццаць сёмага года і ў крывавай драме сорак першага года. Савецкія народы за яго памылкі павінны былі расплаціцца морам крыві. Як жа пасля ўсяго гэтага лічыць такога чалавека станоўчым героем нашай гісторыі?

Не праходзілі міма ўвагі рэдактараў такія падзеі, як грашовая рэформа, як вайна з травапольнай сістэмай, усхваленне кукурузы, стварэнне саўнаргасаў, падвойных райкомаў і абкомаў, мецэнацтва да дзеячаў культуры. Многае радавала, многае выклікала недавер і скепсіс.

У шырокім ходу былі анекдоты, і Пракурат у гэтым плане не меў сабе роўных, бо ведаў іх безліч і ўмеў расказваць, як артыст.

Звычайна і рабочы дзень пачынаўся са свежага анекдота. Пракурат, перш чым сесці за стол, гаварыў:

— Слухайце апошні анекдот... Мікіта атрымаў ад Сталіна пасля яго смерці тры пісьмы з прыпіскай: адкрываць у цяжкую хвіліну... Пакіраваў трохі Мікіта і бачыць: ту́га! Адкрыў першы ліст. А там напісана: «Лай мяне». Мікіта так і зрабіў. Пайшлі справы. Потым зноў тупік. Адкрывае другі ліст. А там напісана: «Лай маіх памочнікаў». Мікіта так і робіць. Даў па карку Кагановічу, Молатаву, Маленкову... І зноў пайшло ўсё наперад. А калі праз пэўны час машына пачала буксаваць, бярэ Мікіта і адкрывае трэці ліст. А там напісана: «Рабі, як я!..» Ну, цяпер за працу!

І Пракурат садзіўся за стол, здзьмухваў з яго пыл, даставаў рукапіс і паглыбляўся ў работу. Да абеду сядзеў не падымаючы галавы, толькі часам зачытваў уголас якуюнебудзь непісьменнасць, якой ніколі, каб год думаў, не прыдумаў бы, як, напрыклад, такое: «Гаспадар сустрэў нас ветліва, узяў нашага жарабца і запрасіў у хату». Ці: «Ад-

куль пайшлі арлоўскія рысакі?» — пытае адзін герой у другога. «Быў некалі такі знакаміты граф Арлоў, вось ад яго і пайшлі арлоўскія рысакі»,— адказвае другі.

Тады Роўба прасіла, каб ён паўтарыў яшчэ раз, а яна запісвала такі «афарызм» у спецыяльны сшытак.

Сёння Пракурат быў сумны і, як відаць, не збіраўся пачынаць з анекдотаў. Севшы за стол, ён толькі спытаў сам сябе:

— Чаму дарогі бываюць у зігзагах?

І сам сабе адказаў:

— Таму што трэба абмінаць пні...

Дастаў рукапіс, кінуў яго на стол, папкі не развязваў. Нешта яго грызла. І, здаецца, ён ужо паспеў выпіць, чаго звычайна не рабіў з самага ранку, а адкладваў на пазней, часцей за ўсё на абед.

З пярэдняга пакоя зайшоў Маскалевіч. Павітаўся, неяк уважліва агледзеў усіх, пакруціўся па пакоі. Хацеў ужо выйсці, узяўся за ручку ў дзвярах, але стаў:

— Вы не чулі, што з Кавальчуком?

Усе ўзнялі галовы.

*Нагорны.* А што ты чуў?

*Маскалевіч.* Вы што, газет не чытаеце?

*Нагорны.* У сённяшніх газетах нічога не пішуць. Хаця...

*Маскалевіч.* Значыць, кепска чытаеш. А некралог?

*Нагорны.* Праўда... Ты глядзі... «Смуткуе з прычыны заўчаснай смерці пісьменніка Кавальчука і выказвае спачуванне родным і блізкім...» А як, дзе, што?

*Маскалевіч.* Потым даведаешся. Ці хочаш зараз?

*Жывіца.* Калі ведаеш, дык не цягні жылы, кажы!

*Пракурат.* Ён таргуецца. Спытайце ў мяне, усё раскажу дарам.

*Драгун.* Давай сып!

*Пракурат.* Вы ведаеце, што група нашых пісьменнікаў паехала ў Францыю. І Кавальчук... Вось там, у Парыжы, ён ні з таго ні з сяго выскачыў з сёмага паверха гатэля. Кажуць, быў моцна п'яны...

*Нагорны.* Кавальчука ніхто ніколі не бачыў п'янага. Што ты гаворыш?

*Пракурат.* Я ведаю. Але такая версія... Нібы ў яго белая гарачка ці часовае парушэнне псіхікі.

*Роўба.* І ўсё?

*Пракурат.* А што, з цябе мала?

*Жывіца.* Тут нешта не тое... Каб хто другі, а Кавальчук

і самагубства... Ніколі не падумала б. Такога рацыяналіста, як ён, трэба было пашукаць.

*Пракурат.* Твая праўда... Але што мне рабіць з яго кнігай? Вось глядзіце, як робіцца класіка... Учора я яшчэ мог правіць, як хацеў, а сёння ўжо кропку ці коску выкрасліць, трэба раіцца...

Зайшоў Каляда. Ён сядзеў далёка ад «штаба», таму рэдка заходзіў — хіба толькі што трэба спытаць. Пастаяў, паслухаў.

*Каляда.* Мяне цікавіць, чаму ён выбраў парыжскі гатэль для свайго эксперыменту. Няўжо яму не хапіла б высокіх дамоў у Мінску?

*Жывіца.* І я гэта кажу. Тут нейкая цёмная гісторыя.

*Маскалевіч.* У тваіх словах, Каляда, я ўлавіў непавагу да нябожчыка.

*Каляда.* Памыляецеся. Наадварот, цяпер я стаў яго паважаць болей, як пры жыцці, хоць ён нічога мне кепскага не зрабіў.

*Драгун.* Аказваецца, ён смелы чалавек. А па яго творах гэтага не скажаш. Затое я добра ведаю яго як рэдактара. Тут ён быў смелы! Калі што няясна — чык-чырык — і ўсё. Стыль умеў навясці, нічога не скажаш! Галоўнае, кажа, каб гучала па-беларуску, а што выклікае адступленне ад арыгіналу — глупства...

*Нагорны.* Ад Кавальчука такога фіналу я не чакаў. Ну, мог разбіцца на машыне — любіў хуткую язду. Мог скалечыцца на паляванні, быў заўзяты паляўнічы. Але каб такое — не ўмяшчаецца ў галаве.

*Маскалевіч.* І колькі матэрыялу для плётак!

*Каляда.* А мне здаецца, што Маскалевіч ведае ўсе падрабязнасці, але маўчыць.

*Маскалевіч.* Ведаю, толькі сумняваюся, ці гэта праўда.

*Роўба.* Давай выкладвай, праўда ці не. Разбяромся.

*Маскалевіч.* Не думаю... Кажуць, тут замешана яго першая жонка. Яна яўрэйка, у вайну трапіла ў мінскае гета, уцякла ў партызаны, а з партызан нейкім чынам апынулася ў Англіі. Нібыта ён з ёю меў сувязь... І вось у Парыж да яго прыехаў нейкі паверany ад яго жонкі з Лондана, яна там за вялікім начальнікам, здаецца, са Скотланд-ярда. Нешта там яны гаварылі, спрачаліся... А назаўтра ранічкай Кавальчук выйшаў на балкон, пералез праз ахоўную рашотку і бухнуўся галавой ўніз... Так ці не, пане Пракурат?

*Пракурат.* Ёсць яшчэ і антысавецкая версія. Што ён даўно быў унутраным эмігрантам, не прымаў нашых парад-

каў — і вось захацеў хоць памерці ў свабодным свеце... Але адразу відаць, што ўсё гэта шыта белымі ніткамі.

*Каляда.* А што? Факт, што ў яго быў нейкі разлад.

*Драгун.* З жонкаю? Пэўна ж, быў.

*Каляда.* Што жонка? Яна яго апляла, як павук муху. І ён ледзь дабраўся да той рашоткі.

*Жывіца.* Мне тут усё няясна з пачатку да канца. І невядома, ці хоць адна версія блізкая да праўды.

*Нагорны.* Факт застаецца фактам: Кавальчук такім канцом сябе скампраметаваў.

*Пракурат.* І за гэта магу паплаціцца я, рэдактар яго кнігі.

*Драгун.* Скажуць: куды глядзеў рэдактар? Чаму не ўбачыў між радкоў замаскаванага ўнутранага эмігранта?

*Пракурат.* Цяжкая доля пісьменнікава!

*Жывіца.* Кіньце! Не бачылі яны асмаленага воўка.

*Маскалевіч.* Поўнасцю не згодзен з табою.

*Жывіца.* А хто цябе няволіць? Але што гора яны не бачылі, а прыдурваюцца, то гэта факт.

*Маскалевіч.* Што п'юць многа? А хто менш? Думаеш, рабочы клас? «Класс ведь тоже выпить не дурак».

*Жывіца.* Гора чалавек вынесе, а раскошы — не. Вось яны з раскошы і вар'яцеюць. Што ім яшчэ трэба? Так званай свабоды слова, адмены цэнзуры? Чаго захацелі! А дзе яны бачылі такую раскошу? На Захадзе? Хай пажывуць на Захадзе, тады запяюць другое.

*Пракурат.* Здаецца, мы стрыжом усіх пад нулёўку. Да кожнага трэба падыходзіць са сваёю меркай. Па-мойму, так званых свабод патрабуюць тыя, што яшчэ зялёныя і нічога не маюць, нічога не зрабілі і не набылі... А як трохі прыбарахоляцца, адхопяць кватэры, дачы, заслугі, пасады — адразу пасуравеюць. З пісьменнікамі трэба гаварыць на мове звонкай манеты. Гэты гук іх зачароўвае. Яны адразу мяняюць арыентацыю. І толькі фанатыкі і працякі застаюцца на сваім...

*Каляда.* Грошы свабоды не заменяць.

*Пракурат.* Як каму... Сёння пастаў сто пісьменнікаў і скажы ім: грошы ці свабода? І ўсе возьмуць грошы.

*Каляда.* Бо грошы можна ўзяць, а свабоду ў кішэню не пакладзеш.

*Маскалевіч.* Правільна. Гэта абстракцыя. Аднак я не згодзен з Пракуратам. Свабода — гэта...

*Драгун.* Чаго захацелі! Паглядзіце на столь, вунь у гэты куточак. Аднаму богу вядома, нашто там дзірка.

*Маскалевіч.* Не той час, цяпер кажы што хочаш.

*Нагорны.* А хіба раней нельга было? Гаварылі...

*Маскалевіч.* Толькі чым гэта канчалася...

*Жывіца.* Што ні кажыце, а Кавальчук гора не ведаў. Меў машыну, дачу, добрую пасаду, выдаваўся, хадзіў гогалем. Чаго яму яшчэ не хапала?

*Нагорны.* Чалавеку заўсёды мала.

*Роўба.* Мо ў гэтым і яго трагедыя?

*Каляда.* А мо ў гэтым корань прагрэсу?

*Пракурат.* Правільна. Калі чалавек скажа: хопіць, мне даволі — яшчэ нічога, толькі ён адзін стаў свіннёю. А калі скажа чалавецтва — прагрэсу канец.

*Каляда.* Менавіта. Якраз тыя, у каго многа чаго ёсць, першыя лажацца на дарозе прагрэсу.

*Нагорны.* Іх душыць няўмольнае кола гісторыі.

*Каляда.* Покуль з багатага пух, дык з беднага дух.

*Драгун.* А хто большыя выгоды мае ад прагрэсу?

*Пракурат.* Якраз той, хто ляжыць на яго дарозе!

*Драгун.* Парадокс!

*Пракурат.* Усё жыццё з такіх парадоксаў.

*Драгун.* Вось чаму ты гаварыў пра дарогі ў зігзагах. Цяпер ясна. На дарозе вось такія пні, якія трэба аб'язджаць, і ад таго дарога падоўжваецца ў два разы.

*Пракурат.* У сто разоў!

*Каляда.* Не будзь Гогалем. Гэта ён любіў гіпербалы. Але я пайшоў. Дзякую за цікавую інфармацыю.

У дзвярах ён сутыкнуўся з дырэктарам.

*Важнік.* Да вас калі ні зайдзі — толькі размовамі займаецеся.

*Пракурат.* Сёння грэх не пагаварыць, Павел Іванавіч.

*Важнік.* А што сёння?

*Маскалевіч.* Ну, Кавальчук...

*Важнік.* Але, але...

*Жывіца.* Як вы на гэта глядзіце, Павел Іванавіч?

*Важнік.* Я веру таму, што напісана.

*Пракурат.* Але ж там нічога не напісана, акрамя факта смерці...

*Важнік.* Вось у гэта я і веру...

*Жывіца.* А ва ўсё астатняе?

*Важнік.* Трэба праверыць... Але даволі пра гэта. Дзе Гушчынскі? Яго няма, а ў рэдакцыі і рады. Ну, так далей не пойдзе... Вазьмуся я за Гушчынскага як след...

## 27

Драгун пачуваў сябе намнога лепей, калі жонка засталася дома. Раней у яго ў душы жыла ўвесь час трывога за дзіця: ці накормленае, ці дагледжанае, ці не прастудзілася? Бо што маладая нянька? Загаворыцца, засядзіцца, а дзіця ўлезе куды-небудзь, а потым рабі што хочаш. Адчуваў ён сябе лепей і дома: прапала тая скаванасць, стрыманасць, якая жыла ў ім увесь час пры чужым чалавеку. Цяпер ён паводзіў сябе натуральна, мог з жонкай гаварыць пра ўсё, што яго турбавала і хвалявала, болей гуляў з дзіцем, і гэты занятак здаваўся яму цікавы і прыемны. Прыйшоўшы з работы, ён выводзіў Вальку на вуліцу, гуляў з ёю у скверы ля опернага тэатра, потым ішоў у магазін, купляў тое, што заказвала жонка для сённяшняй вячэры і назаўтра. Раней яго цяжка было ўтрымаць дома, ўсё рваўся ў бібліятэку, а цяпер з-за нязвыклай перамены мала думаў, каб пайсці, добра было і дома.

Жонка нібы таксама трохі паспакайнела, ранейшая яе стрыманасць як бы растала, яна, таксама як і Драгун, станавілася сама сабою. Усё-такі прыглядзець за дзіцем і зварыць абед лягчэй, чым яшчэ да гэтага адбыць восем гадзін на рабоце.

Праз нядоўгі час пасля звальнення яна папрасіла Драгуна, каб ён купіў ёй нітак. Цяпер, прыйшоўшы з работы, Драгун заставаў яе ў пакоі за вязаннем. Яна сядзела спакойная, здавалася, бяздумная, толькі шпарка варушыліся пруткі ў яе пальцах, ды сяды-тады кароткае ўздыханне вырывалася з яе грудзей.

— Пра што ты думаеш? — спытаўся ў яе аднойчы Драгун.

— А ні пра што. Пустая галава...

— Няпраўда, ты недзе вельмі далёка ад гэтага занятку.

— Не надта тут задумаешся: вакол шум і гам. То Валька не дае, покуль укладзеш яе спаць, то на кухні ўвесь час бразгаюць, то тая за сцяной бушуе. Ты сабе сядзіш там у сваёй бібліятэцы, а я тут слухаю гэтую музыку да атупення.

За сцяной забразгала патэльня, суседка выспеўвала сабе пад нос нейкую мелодыю.

— Ужо сёння не будзе спакою,— заўважыла Вера.— У мяне абед гатовы, толькі цукру я забылася купіць.— Яна ўключыла рэпрадуктар, каб заглушыць песню за сцяной, але не моцна, каб не разбудзіць Вальку.

— Дык я збегаю ў магазін, куплю цукру. Для цябе я

гатоў ісці хоць на край свету.— Ён абняў Веру, прытуліў яе галаву да сваіх грудзей.

— Ну, ідзі... Для сябе таксама...— яна асцярожна адпіхнула яго ад сябе.— Нешта сёння ў мяне баліць галава.

— Трэба больш вылазіць з гэтае нары. А ты ўжо як сядзеш, то ні з месца... Ну, я хутка! — ён нават не апрануў пінжака — на дварэ яшчэ стаялі апошнія цёплыя дні восені.

Пакуль прастаяў у чарзе, прайшло хвілін дзесяць, не болей. Ён бег па лесвіцы свайго дома і чуў, што наверсе нехта дзіка лямантуе. Ён уляцеў на кухню, як на пажар, і стаў аслупянелы. На парозе расчыненых насцеж дзвярэй, што вялі на чорную лесвіцу з балконам, яго жонка счапілася з суседкай Турбан. Яны ўперліся адна ў адну як два казлы на вузкай кладцы, і хоць Турбан выглядала мажнейшай за шчуплую Веру, Вера ўсё ж сапхнула яе з парога, адарвала яе рукі ад вушакоў і, бразнуўшы дзвярыма, зашчапіла іх на кручок.

Жончын твар быў перакошаны і дзікі, а з вуснаў зрывалася лаянка. Як вецер, яна праскочыла ў свой пакой, а на балконе, адгароджаная дзвярыма, выла і крычала п'яная Турбан.

Дзверы ў яе пакойчык былі адчынены насцеж, і Драгун падышоў бліжэй, з цікаўнасцю зазірнуў усярэдзіну. У цэнтры пакоя стаяў стары ложак з бруднаю бялізнай, у кутку ля дзвярэй была тумбачка з электрычнаю пліткаю наверсе і адзінае старое крэсла, перакуленае, ляжала ля парога, як барыкада. Сцены былі зусім голыя, не беленыя і не абклееныя, а нейкія аскрэбеныя, нібы іх абгрызлі мышы. Падлога засмечаная, брудная, пад ложкам стаяла некалькі пустых бутэлек.

Драгун павярнуўся, адшчапіў дзверы на балкон.

Турбан адразу сціхла, асцярожна прашмыгнула ў свой пакой і зашчапілася на кручок.

А Вера ляжала на канапе і плакала. Плечы яе ўздрыгвалі. Драгун сеў да яе, стаў супакойваць. Але як, чым яе можна было супакоіць? Што хутка дадуць людскую кватэру? Гэтага ён не мог ёй сказаць... Таму і самому зрабілася цяжка: віна- ваты ён сам, ён — гаспадар, і ён адказвае за спакой і дабрабыт сям'і.

— Нічога, Вера, пацярпі трохі... Яшчэ годзік, яшчэ два...

— Яшчэ тры, чатыры? Ці не так? — Вера высмаркалася ў пакамечаную хустачку, засунула яе ў кішэню халата.— Колькі цярпець?

— А што рабіць? Крычаць: дайце кватэру? І думаеш,

дадуць? Парай, што мне рабіць? — сказаў Драгун і ўзяў Веру за аголеныя да локцяў рукі. І тут яго позірк улавіў на згібе Верынай левай рукі характэрную сказінку — след ад уколу ў вену.— Стой, дай руку! Што гэта ў цябе?

Вера спакойна адвяла руку.

— Чаго прыстаў? Нічога тут няма...

— Як нічога? Табе рабілі ўкол у вену? Прызнавайся, а то будзе горш.

— Рабілі...

— А што, табе было кепска, ці ад чаго?

— Галава пабольвае... Мо малакроўе...

— Не выдумляй! Ты нешта тоіш! Кажы, бо я не адстану ўсё роўна! Адкуль у цябе ў сумцы трыццаць рублёў, калі я ведаю, што ў нас грошы скончыліся?

— Ты ўжо ўлез у сумку... Ну добра, скажу... Я здавала кроў...

— Кроў? — Драгуна нібы абдало варам.— Ты звар'яцела?!

— А што рабіць?

— Каб болей гэтага не было! Лепей я залезу ў даўгі, а не хачу такіх грошай! К чорту!

— А я не хачу даўгоў... Ты мне пра іх не ўспамінай. Мяне ад аднаго гэтага слова пачынае муціць.

— А мяне будзе муціць, калі я ўспомню, што ем хлеб, куплены за тваю кроў!

— Нічога, гэта не крадзеныя! Калі я была студэнткай, то заўсёды, калі канчаліся грошы, ішла здаваць кроў. І не я адна... Я стары донар, ты не думай, мне нічога не зробіцца...

— Ты мяне не супакойвай... Гэта не спосаб... Вось неяк выдам сваю кніжку, будуць грошы...

Драгун прыходзіў з работы, а дома яго чакаў які-небудзь сюрпрыз. Вера вінавата гаварыла:

— Ты даруй мне, Косця, але я ўзяла ў Плоткінай гэтую кофту. Глядзі... Яна-то мне не падыходзіць, ты сам бачыш, але хоць маме пашлю.

Кофта была падношаная, але яшчэ мела від, толькі фасон Драгуну адразу не спадабаўся: без таліі і вязка цвёрдая — нібы кофта пашыта з рагожы.

— Як гэта ўзяла? Сама?

— Ну, яна мне яе сілаю ўперла... Ніяк не магу адмовіцца... Ды і танна, а ў нас грошай мала.

— Так яны табе ўсё старое барахло перададуць. Лепш хадзіць у сваім, хоць латаным.

Другі раз Плоткіна прапанавала Драгуну мужаў плашч, але ён прымераў плашч толькі для прыліку і занёс аддаў.

— Не падыходзіць,— канфузячыся, сказаў Плоткінай.

— Ну, што вы, такі плашч! Вы толькі прымерце! Ну, прымерце, я гляну!

Драгун успёр на сябе выцерты, у плямах кітайскі плашч, які ўжо даўно аднасіў сваё.

— Цудоўна! Як на вас шыты! Яго толькі трошкі памыць, падкрухмаліць, пагладзіць — і будзе як новы.

Ад яе цяжка было адвязацца, і цяпер ён добра разумеў жонку, якая ўзяла тую кофту. І ўсё ж Драгун прымусіў сябе не ўзяць «абноўкі».

— Дзякую, я збіраюся купляць новы...

— То, можа, хочаце паліто? Праўда! Зусім яшчэ новае... Я хачу занясці ў камісіёнку, але ўсё не збяруся.

Толькі ён хацеў сказаць, што паліто яму не патрэбна, як Плоткіна ўжо вымчала з другога пакоя тое паліто: з паедзеным моллю каракулевым каўняром, прапахлае нафталінам, рыжае, куртатае, цяжкае, як падняць.

— Прымерайце, прымерайце! Вы ж аднаго росту з маім мужам. Вам падыдзе, я вам кажу!

Ён апрануў паліто, глянуў на сябе ў люстэрка і не пазнаў: перад ім стаяў чужы, не ў меру тоўсты мужчына ў куртатым нязграбным лапсардаку, які ляжаў на ім, як на свінні набэдрыкі.

А Плоткіна бегала навокал, абцягвала, падпраўляла паліто і ўсё хваліла:

— Цудоўна, як на вас шыта! Бярыце, шчасце ідзе вам у рукі. У вас жа, здаецца, няма зімовага?

— Няма... Але я хаджу ў асеннім... Ды і грошы якраз...

— Не гаварыце пра грошы! Мы ж суседзі! Што я, не пачакаю? Ды якія тут грошы? З вас я многа не вазьму. Яно новае каштавала старымі дзве пяцьсот, ну, а цяпер якую тысячу, сотню новымі. Ці ж гэта грошы?

Драгуну стала горача. Ён сарваў з сябе паліто, аддаў Плоткінай.

— Не, дзякую. Купляць паліто не ўваходзіць у мае планы. Прабачце...

— Як хочаце, як хочаце,— шчабятала Плоткіна.— Я жадаю вам толькі дабра...

«Каб тое дабро ды табе ў рабро»,— падумаў Драгун, зачыняючы за сабою дзверы.

А аднойчы Драгун зайшоў у свой пакой і не пазнаў яго. Пасярэдзіне стаяў круглы вялікі стол, ля сцяны пры акне

ледзь месціўся лакіраваны цяжкі сервант, а замест лямпачкі над сталом вісела трохражковая драўляная люстра.

— Віншую з абноўкамі,— сказаў Драгун, агледзеўшыся.

Вера снавала па пакоі і прыкідвала, куды што лепей паставіць.

— І цябе таксама, мой дарагі! — жартоўна-гулліва адказала жонка.— Як табе падабаецца?

— Падабаецца ці не — гэта глупства. Як расплачвацца — вось што важна.

— Неяк расплацімся. Усяго тысяча трыста на старыя.

— А на новыя ўсяго сто трыццаць. Зусім мала. Паўтара месяца не будзем есці — і аддамо.

— Не плач вельмі, чакаць, покуль ты купіш — не дачакаешся.— Вера пачынала злавацца.

— Што ім, болей не патрэбна? — Драгун кіўнуў на сцяну, за якой жылі Плоткіны.

— Яны купілі сабе нямецкі гарнітур за дзесяць тысяч.— Вера знарок падкрэсліла гэтыя «дзесяць тысяч». Маўляў, табе доўга чакаць, покуль будзеш мець такія грошы.

— Нам трэба думаць пра кватэру, а потым ужо пра мэблю. І так няма дзе павярнуцца.

— Пра ўсё трэба думаць, і не толькі пра кватэру. Дзе я вазьму сто трыццаць рублёў зараз? А за якога паўгода выплацім...

— Ну, добра, ты не злуй. Узяла дык узяла. Толькі не бяры ты ўсяго без разбору. Ну, навошта вось гэты вятрак? — паказаў Драгун на люстру.

— Хай будзе. Лепей, чым наша адна лямпачка... Есці хочаш?

— Як заўсёды... А дзе Валька?

— Успомніў-такі! У суседзяў...

— Не пускай ты яе туды!

— Гэта ж яны ўзялі сабе дзяўчынку... Мо трохі меншая за нашу Вальку.

— Ну і добра, хай гадуюць. А то Плоткіна без работы не ведала, куды падзецца. Даўно трэба было так зрабіць.

— А яны мелі сваіх дзяцей. Двое...

Драгун чуў такую навіну першы раз.

— Гэта мне суседзі расказвалі. Яны адна пра другую ўсё ведаюць.

— Дзе ж яны іх падзелі, тых дзяцей?

— Як пачалася вайна, яны неяк эвакуіраваліся, а дзеці чамусьці засталіся з дзедам і бабаю. Разам і трапілі ў гета. А там рэдка хто мог уцалець...

— Чаго на свеце не бывае! Мне толькі дзіўна, што яны пасля вайны не агараліся на дзіця.

Вера ўсміхнулася.

— Не ўсім гэта лёгка даецца. Я таксама пытала ў суседак тое самае. Аказваецца, Плоткін недзе ў Венгрыі заразіўся венерычнай хваробай. Відаць, з таго часу стаў бясплодны...

— Ну, мо было і зусім не так...

— Мо і не так, але людзі ўсё ведаюць.

— Калі не ведаюць, дык дакажаць...

— Чаму ты такі? — успыхнула Вера.— Калі я табе што расказваю, ты ніколі не верыш.

— Дзівачка! Табе я веру, толькі не веру ўсім плёткам, якія ходзяць па завуголлях.

— Выходзіць, што я хаджу і збіраю плёткі па завуголлі? Так? — у Верыным голасе чуліся слёзы.— То дай мне работу! Дай! Я з радасцю пайду працаваць... калі ты мяне папракаеш, што я толькі хаджу і збіраю плёткі.— Яна ўжо плакала.

— Сціхні! Як малая! — крыкнуў Драгун.— Нельга сказаць і слова, адразу перакручваеш на свой лад.

— Мне абрыдла сядзець у гэтым катуху! Мне хочацца да людзей. Я жывы чалавек! А ты папракаеш мяне, што я збіраю плёткі... Што, і я павінна так маўчаць, як ты, днямі і начамі? Я звар'яцею хутка ад гэтай адзіноты, ад гэтага мёртвага маўчання...

— Табе не ўнаровіш. То цябе шум і гам выводзяць з цярпення, то цішыня... Хадзі, гавары, хто табе не дае?

— Хадзі, гавары... Вось пад бокам оперны тэатр! А калі мы з табою былі ў ім? Сорамна людзям сказаць: ні разу! Толькі ў бібліятэку ты ведаеш дарогу. Табе добра, ты пайшоў, развеяўся, пагаварыў з кім, пачытаў — у цябе зусім другія думкі ў галаве. А я? Я тупею, бо толькі думаю, што зрабіць на снеданне, што на абед, што на вячэру. І каб танна, і каб смачна, каб муж не крычаў, што я кепская гаспадыня... Ты ведаеш, што я начамі не сплю, калі ідзе да зарплаты і ў нас канчаюцца грошы? Ты спіш, табе напляваць! А я ламаю галаву, як стачыць канцы з канцамі, падлічваю капейкі... Іду здаваць кроў... Дзіцяці шыю са сваіх неданоскаў...

За што Драгун не любіў сябе, дык гэта за тое, што падпадаў пад чужы настрой. З вясёлым ён смяяўся, з ныцікам сам пачынаў ныць, а хто на яго крычаў ці кідаўся з кулакамі — і ён рабіў тое самае: адбіваўся і лез, як кажуць, у бу-

тэльку, станавіўся на дыбкі і брыкаўся. І з жонкаю так: калі яна часам за што-небудзь узнімала крык, Драгун і сам не мог гаварыць спакойна — замест таго каб яшчэ супакоіць жонку. Ці мо ён баяўся, што яго спакой ці маўчанне палічаць за баязлівасць? Скажуць, што ён баіцца... Што хочаш мог вынесці Драгун, але слова «баязлівец» яго абражала. Ён ніколі не мог сябе папракнуць за баязлівасць: калі лічыў, што трэба за нешта вартае пабіцца, мог пабіцца, калі трэба пасварыцца — трэба пасварыцца. Толькі калі ўсе сродкі выпрабаваны і болей нічога не застаецца рабіць. У сваім жыцці ён ніколі не ўцякаў — яшчэ і хлапчуком, не любіў заячай смеласці — стукнуць каму і ўцякаць, як гэта пашырана сярод многіх задзіраў. Ён любіў чэсную бойку і мог легчы касцьмі на месцы, але не ўцякаць, не паказваць пяты. Страх за тое, каб яго не назвалі баязліўцам, вёў часам да таго, што ён не саступаў свайму праціўніку, хоць адчуваў, што сам вінаваты. А калі праўда была на яго баку, тады ён ніколі не здаваўся.

Цяпер ён ужо збіраўся перайсці на самыя высокія ноты, як на кухні скрыпнулі дзверы, пачуўся дзіцячы плач, а потым нервовы стук у дзверы.

Драгун адчыніў. Ля парога стаяла расчырванелая Плоткіна і трымала за ручку заплаканую Вальку.

— Ваша дзіця дрэнна выхавана. Яна ўдарыла маю Марынку па галаве.

Спачатку Драгуны маўчалі.

— Ці мала за што дзеці могуць пабіцца? — Драгун не лічыў гэта падзеяй: нават каб стукнулі і яго дзіця — што ж тут такое? — Ты навошта ўдарыла малую Марынку? — спытаў ён Вальку.

Валька толькі ўсхліпвала і церла вочкі.

Плоткіна бразнула дзвярыма і пайшла.

— А чаго ж ты сама плачаш? — спытала ў дзіцяці Вера.— Цябе набілі?

— Цёця стукнула мяне кніжкаю па галоўцы, таму я і плачу... А Марынка стукнула мяне першая...

— Разбярыся цяпер, хто каго стукнуў... Ну, нічога, яшчэ ўсяго будзе па-суседству,— супакойваў дзіця Драгун.— А цяпер, маці, давай вячэру... Пачалося з малога, а дайшло да вялікага... Ты нешта многа праблем зараз узняла, цяжка ўсё ахапіць... Добра што Валька перарвала нашу гутарку... Хадзі ка мне на люткі, як ты казала год назад. Не плач! Лепш я пачытаю табе казку пра мушку-зелянушку і камарыка — насатага тварыка.

# 28

Сваркі з Плоткінымі здараліся ўсё часцей, узнікалі з-за якой-небудзь дробязі: Вера не зачыніла дзвярэй на балкон, надыміла керагазам, шумам у кухні разбудзіла Марынку. І пачыналіся яны звычайна тады, як Драгун быў у бібліятэцы ці на рабоце. Потым Вера расказвала яму, і ён дзівіўся, якія ёсць на свеце людзі. Ён прасіў жонку не прымаць усіх гэтых застрамак блізка да сэрца, пляваць на іх і болей смяяцца. Але яна так не магла.

Толькі потым Драгуны зразумелі, навошта Плоткіным спатрэбіліся сваркі: яны захацелі новую кватэру. А самы вялікі козыр на руках яны мелі той, што ім трапіліся сварлівыя суседзі, з якімі нельга жыць на адной кухні. І хутка такі кватэру ім далі, а на іх месца пераехала сям'я таксама з трох душ: бацька, маці і хлопец год шаснаццаці.

Трымаліся яны асцярожна, адчужана, з Драгунамі не павіталіся, не пазнаёміліся. Спярша перавязлі манаткі, гаспадар памяняў замок у сваю кватэру, на дзвярах на лесвічнай пляцоўцы прыбіў персанальную паштовую скрынку з вялікім вісячым замком, а прозвішча «Плоткіны» замаляваў і белай фарбаю вывеў новае — «Шварцман». Быў ён невысокі, лысы, насаты, з вялізнымі вушамі, якія віселі з абодвух бакоў яго галавы, як масіўныя замкі.

А новы замок, які Шварцман уставіў у свае дзверы, нешта адразу сапсаваўся, і гаспадар павінен быў ламаць дзверы сякераю. Адным словам, нейкі тыдзень ці болей у Шварцманаў чуўся грукат малатка, шорганне пілкі і лясканне жалеза аб жалеза. Замкі, запоры, завалы. Нават на кухонны столік Шварцман павесіў замок, а калі выходзіў у туалет, то замыкаў кватэру.

Драгун гаварыў Веры з іроніяй:

— Мусіць, у гэтых Шварцманаў поўна золата. Іначай чаго б яны так баяліся? Наш ключ да нашага раю ляжыць заўсёды ў шуфлядзе кухоннага століка, і Плоткіны гэта ведалі, і Шварцманы хай ведаюць. І мы не баімся... А што гэта робіцца?

Жонка пагардліва хмыкнула:

— Не дзівіся. Плоткіны іх застрашылі: тут зладзеі, бандыты, антысеміты і хто хочаш. Вось яны і будуюць сабе крэпасць.

— Мусіць, так і ёсць. Яны баяліся, што мы захопім іх два пакоі, а ім аддамо свой. Сем'і ж роўныя, што ў іх, што ў нас.

— Ты ўжо захопіш! Каб хто сказаў!

— Хіба я які пірат? Прыйдзе час — нам і самі дадуць.

— Чакай Пятра — з'ясі сыру.

— А што застаецца рабіць?? Што? Браць сілаю? Ці павесіцца?

— У цябе адна песня: чакай!

— А ў цябе другая: давай!

Слова за слова — і яны адчулі, што зараз пойдзе гарачая сварка. Кватэра — самае балючае месца ў Драгуноў. Але ён, калі што баліць, то не чапае яго, абыходзіць, маўчыць, а Вера якраз будзе таптацца на мазалі: аціхне-аціхне — і зноў за сваё.

Зазвінеў званок: раз, другі...

— Тваё шчасце! — сказаў Драгун і пабег адчыняць.

— Ці няшчасце,— наўздагон кінула яму Вера.

На парозе стаялі два яго землякі: з адной вёскі, нават суседзі, Кузьміч і Савош. Кузьміч трымаў сетку з двума вялізнымі кавунамі, и ў Саваша нешта тырчала ў кішэні.

— Заходзьце, хлопцы, заходзьце! Даўно не бачыліся!

Яны зайшлі ў пакой, павіталіся.

Кузьміч сяды-тады заходзіў да іх, а Савош быў тут нагогул першы раз і Веры яшчэ ні разу не бачыў.

— Савош — мой сусед,— казаў Драгун жонцы.— Мы жылі цераз поплаў. У іх было многа вішань, ну, мы іх часта латашылі. І карову разам пасвілі, і сварыліся, і нават біліся. Памятаеш, як ты мне нажом рассек костачку на назе?

— Дык гэта я жартам,— смяяўся Савош.

Кузьміч даставаў з вялізнай сеткі кавуны — таксама вялізныя, як галовы.

— Гэта мы тут па дарозе купілі вашай малой.

Савош тым часам паставіў на стол паўлітроўку.

— Добрыя госці, усё сваё прынеслі. Каб часцей прыходзілі,— жартаваў Драгун.— Гаспадынька, збірай на стол. А ты, Валька, не еш многа кавуна, а то пуп развяжацца ад вады і жывоцік пацячэ.

— Не развяжацца, не развяжацца! — скакала Валька на адной назе вакол стала і рассыпала зярняты. А потым паслізнулася, упала і стала плакаць.

— Ціха, ціха. Сядзь на канапу і еш,— супакойваў яе Драгун.

Савош разглядаў пакой, зазірнуў у акно і сказаў:

— Каб яшчэ на аднаго, то сюды-туды... А як на сям'ю...— ён няўхвальна пакруціў галавою.

— А вы самі дзе жывяце? — спытаў Драгун, каб укалоць Саваша.

— У інтэрнаце...
— А ці ёсць якая надзея на кватэру?
— Якая там надзея? — умяшаўся Кузьміч.— Халасцяк можа пражыць у інтэрнаце да скону.

Хлопцы гаварылі па-руску, Кузьміч лепей, але з цвёрдым беларускім акцэнтам, а Савош нават шыпячыя вымаўляў мякка, затое часам устаўляў у мову жывыя беларусізмы, толькі даваў ім рускі канчатак ці ставіў няправільны націск на слове, лічачы, відаць, што ён гаворыць на чысцейшай рускай мове.

— Дык гэта знарок, каб вы жаніліся. Вас не падварушы, дык нічога і не будзе... Выходзіць, я за вас самы смялейшы. У мяне, як у таго цыгана, нічога не было, а ўзяў — і ажаніўся. А цяпер будзем разам збіраць свой скарб.
— З табою збярэш! — усміхнулася Вера.— Ідзі вось у магазін, бо ты і рад, што людзі прыйшлі са сваім.

Добра, што магазін быў пад бокам, у высозным міністэрскім доме. Драгун стаў у адну чаргу, у другую, у трэцюю. Ён радаваўся, што да яго завіталі гэтыя хлопцы. Малюнкі далёкага маленства ажывалі ў яго памяці, праходзілі перад унутраным зрокам знаёмыя людзі. Гэта проста цікава, што вось яны, тры хлопцы з суседніх хутароў, апынуліся тут, у Мінску. У гэтым Мінску цяпер з кожнай вёскі па дзесяць чалавек ці болей... А там іх хаты, ці, праўдзівей, хаты іх бацькоў, стаялі на адной лініі з усходу на захад: спачатку Кузьмічова, потым на горцы Савашова, а ў лагчынцы за поплавам — Драгунова. Драгунова маці правярала час па вокнах Кузьмічовай хаты: Кузьмічыха позна лажылася і рана ўставала. Працавітая была і сям'я Савашоў. Іхні хутар стаяў на добрай зямлі, у іх ніколі не было недародаў. У сям'і іх у той час яшчэ жылі старыя дзедаўскія парадкі. Як і памятае Драгун, яны садзіліся за стол у адзін час, кожны ведаў сваё месца і сваю лыжку. Гаспадыня падавала на стол мачанку ў вялізнай місе, а дзед Янка, па мянушцы Галубок, першы драўлянаю лыжкаю здымаў пробу, а потым у канцы даставаў мяса і пальцамі дзяліў яго на кавалкі — адпаведна ўзросту і сямейнаму стану. Янкаў сын, Пятрусь, будзёнаўскі кавалерыст, вясёлы жартаўнік і выдумшчык, так добра мог падрабляць галасы жывёл, птушак, што ўсе дзівіліся. А ў сям'і ён быў спакойны і пакладзісты, і нават пабойваўся свае нізкае таўсматае жонкі...

— Вам што? — пытае касірка.— Вы забылі, ці што? Хутчэй!

Драгун стукае сябе кулаком у лоб, з цяжкасцю адрываецца ад думак.

Цяпер ён і яны сталі гарадскія. Драгун першы завёў сям'ю, а яго суседзі-землякі ўсё яшчэ нечага агінаюцца, цягнуць. Мо ў іх жыве падсвядома тая закладзеная сялянскім ладам асцярожнасць і развага, што куды я прывяду тую жонку. Дзяды і прадзеды прыводзілі жанок у свае (няхай сабе і бацькавы) хаты...

Вера сустрэла яго мяккім папрокам:

— Ну, цябе па смерць добра пасылаць. Можна нажыцца...

Драгун памаўчаў, сеў на вольнае месца між жонкай і Кузьмічом.

— Мы тут пра цябе гаварылі,— сказаў Савош, пазіраючы сваімі хітрымі жвавымі вочкамі на Драгуна.— Кепска жывеш, браце. Усё-такі ты рэдактар, пісьменнік. А побач Шварцман мае два пакоі на траіх. А які ён мастак?

— Такі, як і я пісьменнік...

— Ну, вось бачыш...

— Дык што, выходзіць, я кепска стараюся, не хачу дабра свае сям'і? Парайце, што рабіць, парайце!

— Ну, дабівацца або, на горшае, будаваць хоць каапэратыўна, ці як...

Драгун нявесела ўсміхнуўся, паківаў галавою.

— Ты вось вазьмі мяне за горла і скажы: дай сотню новымі, а то табе канцы,— і я не дам, бо не маю. А ты кажаш — каапэратыўна...

— Ну, колькі ж ты ў месяц бярэш?

— Сто дзесяць...

— Хі-і! Навошта ж было вучыцца пятнаццаць год? — Савош павярнуў уверх далонямі свае прамасленыя, як вымазаныя ў графіт, дужыя рукі.— Ты ж ведаеш, колькі я скончыў. Пяць класаў. А ведаеш, колькі я зарабляю вось гэтымі мазольнымі рукамі? Дзвесце, дзвесце пяцьдзесят у месяц. Я наладчык... А ён інжынер — і атрымлівае гэтулькі, як і ты...

Кузьміч, які дагэтуль маўчаў, не вытрымаў:

— Не трэба ўсё вымяраць грашыма. Сваю работу на тваю я не памяняю. Мая цікавейшая. І думаю, што Драгунова — таксама. Соль не ў зарплаце, а ў рабоце.

— А мне — у зарплаце! За сто рублёў я табе на самай цікавай не стану горб нажываць. Няма дурных!

— Скажы, а колькі ты прапіваеш?

— Ну, трэць калі і прап'ю, то і застанецца болей, як у цябе.

— Але ў мяне чуць не кожны месяц пазычаеш? Чаму так выходзіць?

— Ты ўмееш эканоміць, а я — не...

— Дзівакі мы, хлопцы! — Драгун узняў чарку.— За вечную дружбу землякоў! Да дна!.. Я кажу — дзівакі мы. Вось мы траіх, некалішнія суседзі.— Ён павярнуўся да Веры, якая сядзела з Валькай на каленях.— Як мы страшэнна не падобныя да сваіх бацькоў! Яшчэ Кузьміч сюды-туды. Ён такі ж працавіты, цягавіты, эканомны, з моцнымі тармазамі, як яго бацька ці маці. Рэдка бывае такая ідэальная пара, як яго бацькі. Ці сварыліся яны калі-небудзь?

— Чаму не? Часам сварыліся. Але так, не злосна.

— А мае сварыліся, яшчэ і як!

— Ты і сам сварлівы,— зазначыла Вера. Сёння яна нешта маўчала, слухала, што гавораць мужчыны.

— Гэта праўда,— згадзіўся Драгун.— Я — як мой бацька. Чуць што — адразу ў крык. Але я і астываю хутка... А вось ты, браце Савош, на сваіх бацькоў не падобен. Ты проста як не іх сын. Выйшаўшы з такое сям'і: працавітай, эканомнай, нават прыжымістай, у якой саломінка на двары не прападзе, не то што якое дабро — раптам такі стопрацэнтны пралетар! Ніяк не даходзіць да мяне такая перамена!

— А што мне тое багацце? — Савош трохі падпіў, наверх прабівалася яго прыхаванае дагэтуль жаданне пахваліцца.— Ёсць сёння — і добра. Няма — заробім. Не заробім — пазычым. Заробім — аддамо, вып'ем, пагуляем. Усё проста і ясна... А навошта мне збіраць? Каб потым прападала?

— Але каб усе жылі пад такім лозунгам, то што было б?— спытаўся Кузьміч.— Гэта добра, што ты яшчэ адзін. А як завядзеш сям'ю?

— Таму я і не спяшаюся лезці ў ярмо...

— Ой, глядзі, мілы чалавек, цяжка будзе сябе перарабляць,— паспачувала Вера.— Бо жонкі звычайна на свет і на жыццё глядзяць не так.

— Я знайду сабе такую, як сам...

— Доўга ж ты шукаеш,— зазначыў Кузьміч.— І яшчэ, відаць, не скора знойдзеш...

— Каб чаго добрага! Абы толькі захацеў!

— Аднак ты вельмі самаўпэўнены. Але не забывай, што час бярэ сваё.

— Каго бярэ, а каго і не! Мяне не бярэ! — Савош стукнуў кулаком па стале.— Ты вось мне скажы,— глянуў ён на Драгуна,— чаго гэта ты яшчэ свой язык ломіш? Чаму не гаворыш, як усе мы: ён, я, яна?

— Браце, гэта доўга тлумачыць... Хіба я ламлю свой язык? Гэта ж ты ломіш. А думаеш — я...

— Чаго там, Драгун звязаны з работай,— сказаў Кузьміч, дастаючы папяросу, але так і не прыпаліў яе, толькі памяў у пальцах.— Гэта яго рабочая мова. Ты хочаш, каб і ён пісаў і гаварыў па-руску? Тады тут ужо была б не Беларусь.

Савош прапусціў Кузьмічовы словы міма вушэй. Ён пастукаў відэльцам па сподку і сказаў, усё так жа гледзячы Драгуну ў вочы:

— Растлумач, чаму я, а не ты?

— А як гавораць дома твае бацькі? — спытаўся Драгун.

— Дык пра іх і куры не пяюць. Яны адсталыя.

— Выходзіць, яны больш свядомыя за свайго гарадскога сына, бо не адарваліся ад роднае глебы. А ты — без каранёў, перакаці-поле: куды вецер, туды і ты.

— Як я бачу, мала цябе вучылі... А ўвесь рабочы клас? А інтэлігенцыя? Усе гавораць па-руску. А ты адзін мо на ўвесь Мінск. І яшчэ называеш нас адсталымі. Ты не ўлавіў дух эпохі!

— А скажы, ты лічыш сябе беларусам ці рускім?

— Беларусам, чаму гэта рускім? — пакрыўдзіўся Савош.

— Дык які ж ты беларус, калі гаворыш па-руску?

— Так усе гавораць. І я гавару. А што тут такога?

— А чаму рускі ў Мінску не хоча гаварыць па-беларуску?

— Навошта яму? І так ён усё разумее.

— То навошта ж нам падладжвацца пад яго?

— Хочаш не хочаш, падладзішся... Пойдзеш да дырэктара што падпісаць ці да начальніка цэха, дык што, будзеш яму па-вясковаму тлумачыць? Спытаеш па-руску. Ён мо і сам беларус, але чалавек адукаваны, даўно забыў сваё...

— Пастойце, хлопцы,— перабіў Савоша Кузьміч.— Я хоць і сам гавару па-руску, таму што школу канчаў рускую, ва універсітэце пяць год — таксама па-руску, але лічу, што гэта ўсё ж няправільна. Кожны народ мае права і павінен гаварыць на роднай мове. Калі ж гэтага няма — значыць, нешта не так...

— А чым руская горшая за беларускую?

— А чым беларуская горшая за рускую? — пытаннем адказаў Кузьміч.

— Дык чаму ж ты гаворыш па-руску? — насядаў Савош.— Выходзіць, што горшая!

— Груба кажучы, так зроблена.

— А хто зрабіў? — дапытваўся Савош.

Драгун ужо падумаў, што гэтага хлопца голымі рукамі не возьмеш, хоць у яго і пяць класаў. Якраз такія людзі вельмі лёгка паддаюцца першаму ўражанню, і іх тады нельга пераканаць, што яны памыляюцца. Доказаў для іх ніякіх няма: яны вераць слепа. Гэтым яны як карысныя, так і небяспечныя.

— Наш урад,— ужо неяк няўпэўнена адказаў Кузьміч.

— Які наш? Саюзны ці беларускі?

— Відаць, тут няма розніцы...

— Значыць, наш урад згодны з саюзным... Дык чаго ж тады хацець? Справа дзяржаўнай важнасці... Навошта нам трымацца за старое? Вось нас ужо большасць гаворыць па-руску. А меншасць павінна заўсёды ісці за большасцю. Дэмакратычны цэнтралізм, самі разумееце.

— Савош вельмі лагічна разважае,— заўважыў Драгун.— Вывад напрошваецца сам: наша мова не рабочая, фактычна не дзяржаўная, таму ты, я, пяты, дзесяты не звязаны з ёю практыкай. Яна нам непатрэбная. Гэта як выхадны касцюм, які мы апранаем раз у тыдзень ці радзей. Мы ад яго адвыкаем... Мова — адзежа душы, як казаў наш паэт Багушэвіч. Па ёй нас і адрозніваюць ад іншых народаў. Які ж ты беларус, калі ты сваю душу апрануў у чужую адзежу? Ты ўжо рускі, хочаш гэтага ці не. А назва застаецца ўмоўна. Справа не ў назве... Але той, у каго мацнейшая душа, носіць яшчэ сваю адзежу, а ў каго слабейшая — той ужо прамяняў на больш сучасную, зручную і, як яму здаецца, універсальную...

— Чаму ў мяне слабейшая душа? — ускіпеў Савош.

— Таму, што ты пойдзеш туды, дзе лягчэй, дзе лепш, дзе больш плацяць... А я застануся дзе трудней, дзе горш, дзе... Той, хто выракся роднага, чужога выракацца яшчэ хутчэй, хай толькі гэта стане яму выгадна...

— Ты думаеш, мяне гэтым вельмі ўкалоў? Нічуць! — сказаў абыякава Савош і штучна пазяхнуў.— Я нездарма спачатку ў цябе спытаўся, чаму ты жывеш у гэтай нары. Цяпер мне ясна. Ты тут яшчэ доўга праседзіш... Бо ў цябе адсталыя погляды на жыццё... Хоць цябе і вучылі пятнаццаць год. Зразумей! Гэта табе гаворыць рабочы клас, а не абы-хто!

## 29

Калі ў чалавека якая бяда, то ён не бачыць сонца. А калі на душы радасць, то і ў асеннюю слоту яму спяваюць птушкі.

А ў Драгуноў нешта ўсё перамяшалася. На гарызонце пачала вырысоўвацца работа для Веры.

Неяк Гушчынскі пажартаваў, што Івановіч, загадчык сельскагаспадарчай рэдакцыі, застаецца без работнікаў: адразу пайшло ад яго два чалавекі. Драгун умяшаўся ў размову і сказаў, што ён ведае чалавека, былога заатэхніка, які шукае работы.

— То прысылай таго чалавека да Івановіча, хай пагаворыць,— тут жа перайшоў да справы Гушчынскі.

Драгун абяцаў. «Што ж, можа, што і выйдзе,— думаў ён, ідучы дадому.— Вось толькі куды падзець Вальку?..» Гэта не давала яму спакою.

Жонку з дзіцем ён убачыў у скверыку ля опернага тэатра. Вясенняе сонца ўжо добра прыгравала. Усе лаўкі былі заняты жанчынамі, толькі сям-там пракідаўся пажылы пенсіянер. Жанчыны былі ўсякія: старыя і маладыя, але амаль што ўсе з дзецьмі: хто трымаў у калясачцы, чыё бегала само, чыё на трохкалёсным самакаце каталася. Драгун трохі пастаяў на дарожцы, покуль Вера скончыла гаварыць з нейкай старой поўнаю жанчынай у зімовым паліто і ў валёнках. Малая Валька кінулася да бацькі.

— Татка! Там хлопчык маленькі... На веласіпедзе,— засяшалася яна і паказала ручкай на тэатр.— На веласіпедзе ехаў... Яго забіў трамвай!

— Забіў? Які трамвай? — нічога не зразумеў Драгун.— Мо хіба аўтобус?

— Аўтобус... Я забылася... Ён ехаў на веласіпедзе...

Драгун пахаладзеў. На дзіцячыя веласіпеды ён заўсёды пазіраў са страхам.

— Вось бачыш! А ты ўвесь час просіш купіць веласіпед.

— Цяпер я не буду,— запішчала Валька.

Падышла Вера.

— Што тут такое было?

— Страшна сказаць! Хлопчыка аўтобус забіў. Вунь там, на павароце, ля самых сходаў... Цёткі тут расказвалі... Бацька купіў дзіцячы самакат, зайшоў у садзік, забраў малога. Той адразу сеў і паехаў... А тут якраз аўтобус. Ён яго абмінуў, а пры павароце задам як стукнуў... Дзіця галоўкаю аб асфальт — і канцы... Бацька тут вар'яцеў, людзі трымалі,

а так шафёру нешта зрабіў бы... Хоць шафёр, кажуць, зусім не вінаваты.

— Я не буду больш прасіць веласіпеда,— сказала Валька, уткнуўшыся матцы галавой у калені.

— Маладзец, дачушка. Ну іх, гэтыя веласіпеды!

— Тут і без іх можна колы падмазаць.

Валька вылезла наперад:

— А навошта колы падмазваць? Каб лепей машына каціласся?

Драгун паправіў шапачку на русай дзіцячай галоўцы і засмяяўся.

— Каб ні на кога не наязджала, дурнічка ты...

Яны ішлі па дарожцы, сонца лагодна кідала на іх свае шчодрыя промні, навокал стаяў густы пах вясны, сквер звінеў дзіцячымі галасамі, а гадзіну назад... вось тут разыгралася звычайная і незвычайная трагедыя тэхнічнага веку...

— Слухай, Вера! Давай тут пасядзім на лаўцы. А ты, Валька, пабегай ля нас.

— Толькі на дарогу не вылазь! — строга наказала Вера.

Дзіця пайшло, але далёка не адыходзілася: збірала на траве жоўты, яркі з вясны малачайнік.

— Ну, дык што мы з Валькай будзем рабіць?

Вера ажно падскочыла на лаўцы ад такога запытання.

— Пра што ты?

— Ты ўжо і збялела. Ну і мімоза... Работа для цябе наклёўваецца, ведаеш?

— Няўжо? — вочы яе адразу ажылі, загарэліся.

Драгун расказаў пра гутарку з Гушчынскім.

— Ты думаеш, мяне прымуць? Я ж слаба ведаю беларускую мову... Лёс інтэлігента... Толькі і чула яе дома ды ў школе...

— Так і многія нашы... Думаюць, што яна ім ужо ніколі і не спатрэбіцца... Не плюй у пусты калодзеж — давядзецца вады напіцца...

— А што я магла зрабіць?

— Вось так і ўсе разважаюць... Многа мы не можам зрабіць, а сёе-тое можам. Можам мы з табою хоць у сям'і гаварыць па-беларуску?

— Дык ты ж гаворыш...

— Я — яшчэ не ўсё. Трэба, каб і ты. Тады будуць і дзеці... А так за гэтыя дні пачытаеш граматыку, дам табе дыктант, пераклад. Нічога, успомніш!

— Ой, баюся...

— Мяне больш за ўсё турбуе Валька...

Вера апусціла галаву, спахмурнела.

— Напішам сваім, хай зноў шукаюць якое дзяўчо.

— Думаеш, знойдуць? — спытала Вера.

— А чаму не?

Вера ўвесь канец дня была ўзвінчаная, то пачынала спяваць, то замаўкала, нібы нешта ўспомніўшы.

Праз тры дні прыехала да іх Верына маці і прывязла дзяўчынку гадоў чатырнаццаці, кволую, невялічкую, але рухавую і смелую. Праўда, яна не ўмела нічога рабіць, хоць і вырасла ў вёсцы, ды гэта ўжо было паўбяды.

А Вера пайшла на «экзамен», які па просьбе Івановіча праводзіў сам галоўны рэдактар Быліна. Ён даў Веры запоўніць анкету, а потым пасадзіў яе за пераклад. Гэта універсальны сродак праверыць, ці чалавек пісьменны: тут адразу відаць, як ён ведае абедзве мовы: і тую, з якой перакладае і на якую перакладае.

Вера доўга не выходзіла з кабінета галоўнага. Драгун выбягаў на калідор праз кожныя дзесяць хвілін, спадзеючыся злавіць яе і даведацца, чым усё скончылася. Але так і не ўбачыў: яна прашмыгнула непрыкметна, а ў рэдакцыю, відаць, пасаромелася зайсці.

І ўсё ж Драгун хоць трохі, а дазнаўся — ад самога Быліны. Ён паклікаў яго ў свой кабінет і запрасіў сесці. Драгуну здалося, што галоўны паклікаў яго, каб апраўдацца: маўляў, твая шаноўная жонка не справілася з заданнем, нарабіла многа грубых памылак, вось яе работа, таму прабачце... Але адгадаць, чаго пакліча Быліна, было не заўсёды проста. Галоўны прагледзеў паперу, спісаную знаёмым Драгуну хуткім почыркам і сказаў нечакана:

— Я паклікаў вас, каб спытаць... Не, проста параіцца з вамі... Як вы лічыце: можна браць вашу жонку рэдактарам ці не?

Драгун разгубіўся і не ведаў, што казаць: ён раптоўна робіцца вяршыцелем лёсу свае жонкі!

— Павел Пятровіч, каб вы ў мяне яшчэ спыталі, ці выйдзе з маёй жонкі рэдактар, то я, падумаўшы, мог бы вам адказаць, а так я маўчу. Гэта ваша справа...

— Ну ўсё ж такі... Вы ж зацікаўленая асоба...— Ён перагарнуў паперу.— Увогуле яна беларускую мову ведае, толькі відаць, што доўга ёю не карысталася, была адарвана ад жывой моўнай практыкі... Але ж яна спецыяліст, а такія людзі нам патрэбны... Філолаг будзе ведаць мову, але ён наўрад ці асвоіць заатэхнію так, як спецыяліст. А «вучоны

заатэхнік», як у дыпломе напісана, мову, калі захоча, то адужае. Як вы лічыце?

— Тут я з вамі згодзен... Тонкасці мовы і рэдагавання да чалавека дойдуць праз год, не раней. Гэта я памятаю па сабе, хоць я і канчаў беларускае аддзяленне і, здаецца, няблага ведаў мову. За год я толькі пераканаўся, як я кепска яе ведаў.

— Дык вы лічыце, што з яе выйшаў бы рэдактар?

Драгун зрабіў на твары грымасу няпэўнасці.

— Я не магу сцвярджаць катэгарычна, таму што гэта было б раўназначна словам: бярыце маю жонку ў рэдактары... Але я ведаю яе стараннасць, працавітасць....— Ён змоўк і пачырванеў: не заўважыў, як пачаў хваліць сваю жонку.— Прабачце, я многа нагаварыў.

І Драгун выйшаў. Яго рассмяшыў галоўны сваім наіўна-недыпламатычным пытаннем: ці хоча ён, каб яго жонку ўзялі на працу? А які гэта муж скажа: не бярыце! Тым болей пасля таго, як Драгунам колькі год даводзіцца жыць на адну зарплату. І ўсё ж у яго не было ўпэўненасці, што Веру возьмуць.

А сама Вера нават не думала, што яна стане рэдактарам. Яна пераказала Драгуну, як прайшоў яе «экзамен», як потым галоўны крэсліў яе пераклад і гаварыў, што тут не так, а тут недакладна, а тут зусім непісьменна — старая форма, якая цяпер ужо зусім не ўжываецца. Адным словам, даказаў ёй пераканаўча, што беларускай мовы яна не ведае. А Драгун расказаў, як гаварыў галоўны з ім і як пытаў, ці браць яе, Веру, на работу.

— І што ты сказаў?

Драгун рагатаў.

— Сказаў: не бярыце! І са мной вам клопату многа.

— Няўжо праўда?

— Я смяюся... Сказаў, што рэдактар з цябе можа выйсці, бо ты чалавек сур'ёзны і працавіты.

— І ты думаеш, гэта што паможа?

— Паможа не паможа, але і не пашкодзіць, як казаў у нас адзін дзядзька, прымаючы лякарства.

Назаўтра дзень прайшоў у чаканні, але без ніякіх навінперамен. Думалася ўжо: або хай так, або хай гэтак, але каб ведаць, што там вырашылі.

А яшчэ праз дзень заходзяць у рэдакцыю Гушчынскі з Івановічам, загадчыкам сельскагаспадарчай рэдакцыі. Івановіч быў прыгожы з твару мужчына сярэдніх год, толькі страшэнна павольны і флегматычны. Колькі памятае яго

Драгун, ён не бачыў, каб гэты чалавек усміхнуўся або што-небудзь ажывіла яго бледны нерухомы твар. Ён быў роўны, як абгабляваная дошка, і таму трохі нудны.

— Дык як, адпускаеш на работу жонку? — спытаў ён адразу Драгуна.

Драгун з недаверам глянуў на Івановіча.

— Калі вы бераце, дык я адпушчу...

— А як з дзіцем?

— На ўсякі выпадак знайшлі там нейкую няньку...

— Дык чаго ж? — ажывіў гутарку заўсёды бадзёры і хуткі Гушчынскі.— Справа, можна сказаць, уладжана. Дырэктар падпісаў загад.

Драгуну ўсё здавалася, што яны жартуюць.

— Праўда, праўда, падпісаў,— пацвердзіў кіўком галавы Івановіч. Твар яго ў час гутаркі заставаўся як мёртвы, толькі вяла варушыліся вусны маленькага рота.— Сёння маем пятніцу... Скажы, хай з панядзелка прыходзіць на работу.

— То дзякую вам абодвум,— сказаў Драгун да Гушчынскага і Івановіча і ўстаў з-за стала.

— Дзякуем не адбудзеш! — гучна зарагатаў Гушчынскі.

І яны абодва выйшлі з пакоя — Гушчынскі усё так жа весела рагочучы, а Івановіч усё такі ж посны і забальзаміраваны.

У рэдакцыі зашумелі.

— Ну, цяпер Драгуны задрыгаюць!

— Панове рэдактожэ...

— Без хвігі ні да носа!

— Куды яны грошы будуць дзяваць!

Але пазубаскалілі і сціхлі. Адзін Драгун у душы не мог супакоіцца. Усё-такі цяпер яны змогуць жыць па-чалавечы... Каб яшчэ як агорацца на кватэру... Але пра ўсё адразу ён не хацеў і думаць — баяўся. Успамінаў чужую мудрасць: хто не разганяецца на многае, будзе мець усё. Хто хоча схапіць усё, страціць і тое, што меў... Галоўнае, што жонка перастане пакутаваць ад усякіх неадчэпных думак, якія ёй не давалі спакою: што яна няўдачніца, што нешчаслівая радзілася, што кепска выбрала пару, што нават не можа даваць сям'і тое, што павінна даваць кожная жанчына.

І вось з панядзелка Драгуны адправіліся на работу ўдваіх. Ехаць найлепш выпадала трамваем: прыпынак ля самага дома, ды і там да Дома друку дзесяць хвілін хады. У добрае надвор'е прыемна прайсціся, развеяцца пасля работы. Прыходзілі дадому стомленыя, але ў добрым гуморы, разам

браліся гатаваць вячэру. Нянька яшчэ гуляла ў скверыку з малою, у пакоі стаяла цішыня, калі ў суседкі Турбан было далёка да пенсіі. Звычайна яна распускала сваю пенсію за тыдзень, шумела, спявала, плакала, крычала, шпурляла нечым у сцены і нават выбівала ўласныя шыбы, а потым тры тыдні сядзела ціхая, прыніжаная, баялася паказацца людзям на вочы. Вера часам давала ёй што-небудзь паесці, а іншы раз жанчына прасіла пазычыць ёй рублёў пяць грошай да пенсіі. Адным словам, была звычайным чалавекам, якога рабілася шкада.

Затое ўжо на трэці дзень нянька Нэля паскардзілася Драгунам, што Шварцманіха ўвесь час яе навучае, як трэба паводзіць сябе ў кватэры, дзе агульная кухня, што яна моцна бразгае дзвярыма і часта бегае ў туалет. І яшчэ ўсякія дробныя прычэпкі.

Аднойчы Драгун, спаткаўшы на кухні Шварцманаву жонку, прымусіў сябе — хоць яму вельмі не хацелася лезці ў гэтае кухоннае балота — сказаць:

— Паслухайце, суседка, я не ведаю толькі, як вас зваць, бо вы не знаёміцеся з намі...

Суседка глянула на Драгуна малымі палахлівымі вочкамі і, здаецца, яшчэ болей скурчылася, паменшала.

— Што вы хочаце? — пісклівым галаском спытала яна.

— Я хацеў сказаць... Я прашу вас, каб вы не займаліся выхаваннем нашай нянькі... Я не сказаў бы вам гэтага, калі б ведаў, што вы гэта робіце з добрымі намерамі. А так я бачу, што вы хочаце запалохаць вясковае дзіця, каб яно адгэтуль уцякло... А нам яна вельмі патрэбна... І прашу вас — не чапайце яе. Калі яна што зробіць не так — кажыце нам.

— Што вы, што вы! Я ёй і слова кепскага не сказала, хай не хлусіць. Навошта яна мне здалася? Хай робіць што хоча, хай хоць на галаве ходзіць! Вы думаеце, яна глядзіць ваша дзіця? Яно больш плача, чым смяецца... Бач, ужо паспела нагаварыць! Ну, падумайце!..— яна так разышлася, што Драгун ужо не рады быў, навошта чапаў.

— Прабачце, мне няма калі... Але я прашу вас: будзьце з суседзямі па-суседску.

А няньцы яны прачыталі вечарам цэлую лекцыю, як жыць у камунальнай кватэры.

Нянька пазірала на іх вялікімі вачыма, у якіх адбіваўся страх. Відаць, з таго, што ёй гаварылі, яна не запомніла нічога.

## 30

Пракурат падышоў да акна, нацадзіў з сіфона газіроўкі, са смакам выпіў.

— Нешта цябе зранку смажыць,— заўважыў ціха Нагорны, які сядзеў пры акне.

— Хачу ў душы агонь заліць,— абыякава сказаў Пракурат, пазіраючы ў акно, якое выходзіла на двор друкарні.— Не разумею, што яны ўсё тут капаюць. Колькі працую тут, а як прыйдзе вясна, то як пачнуць капаць і грукаць, то да самай зімы.

— Прыкмета горада. Тут і зямлі не даюць спакою,— зазначыў Нагорны.

— Не толькі чалавеку,— падліла масла ў агонь Роўба.

— А што, і праўда... Скрозь капаюць, ка́паюць...

— Ка́паюць, ха́паюць,— падбавіў Нагорны.

Драгун падумаў, што нешта яны сёння зранку заводзяцца, а яму хацелася папрацаваць, хоць да абеду. Ён не збіраўся ўмешвацца, але неяк падсвядома адчуў, што ўсё круціцца вакол яго. Нешта яго як працяло, кароткі сігнал прабег пад левай лапаткай, насупраць сэрца.

— Галоўнае, мы часам нават не падазраваем, што пад намі ўжо яма,— біў у адну кропку Пракурат.— То добра ж, калі хто шапне: «Сцеражыся, чалавеча, ты вісіш у паветры». А не — дык апынешся там як міленькі. І яшчэ невядома, ці выберашся...

— Пра што гэта ты? — вырачыў вочы Нагорны.

— А што, ты не чуў? — павярнуўся Пракурат да Нагорнага.— Хочуць Драгуна павысіць...— Ён апошняе слова сказаў так, што адразу стаў ясны яго адваротны сэнс.

Драгуна нібы ўкалолі шылам пад лапатку. Ён уздрыгнуў і, відаць, пабялеў. Але нечаканасць мінула, ён ужо апамятаўся.

— Мяне павышаць? Я і так высока...— хацеў пажартаваць Драгун, але голас не слухаў яго: бадзёрасці не было.

— Я ў цябе пытаю: ты ведаеш што ці не? —Пракурат падышоў да Драгуновага стала і стаў насупраць.

— Нічога не ведаю...— Драгун адмоўна пакруціў галавою.— А што?

— Як той з анекдота: а што? Тваю кнігу вярнулі з галоўліта.

— Якую? Мішчанку?.. Не, мне нічога ніхто не казаў...

— У нас скажуць, чакай... Дырэктар даўно чытае...

— Я бо гляджу, што ён мяне цяпер зусім не заўважае,

нібы мяне няма... І сны нейкія ўвесь час нядобрыя плялі-ся...

Нагорны ўважліва глянуў на Драгуна, падміргнуў, але не сказаў і слова.

Усякая ахвота працаваць раптоўна прапала, хацелася недзе ісці, нешта рабіць, а не чакаць, як вол доўбні. Навокал усе зноў супакоіліся, заняліся чытаннем, і можна было падумаць, што нядаўняя гутарка забыта. Драгун выйшаў на калідор, пахадзіў, хацеў у каго знайсці закурыць, хоць ён і не курыў. Спусціўся ўніз, хацеў схадзіць у магазін. На лесвіцы сустрэў Жывіцу. Яна расчырванелася, вочы блішчалі. Шакаладнага колеру сукенка добра стасавалася да адкрытых загарэлых рук і шыі.

— Што гэта вы ходзіце ў рабочы час, таварыш Жывіца? — роблена-сурова спытаўся ў яе Драгун.

Яна ўсміхнулася, але нявесела.

— Ты ведаеш, што цябе хочуць перавесці ў другую рэдакцыю малодшым рэдактарам?

— Сёння хлопцы гаварылі, а так я нічога не ведаў. Дзякую, што сказалі, цяпер я буду ведаць...

— Ведаць мала... Трэба нешта рабіць.

— А што я зраблю? Што дакажу?

— Ну, хоць бы даведайся, што там за заўвагі, чаму вярнулі кнігу. Гэта тую, што Нагорны чытаў? Ён казаў мне неяк, што баіцца за яе, што ён табе тады гаварыў зняць некалькі апавяданняў.

— Гаварыў. Але там нічога сур'ёзнага я не знаходжу. Суровы, а не прылізаны рэалізм. Былі цяжкасці? Былі! Чаго ж тут баяцца? Вайна пакінула такую спадчыну...

— Аднак не бяры на сябе многа. Гэты аўтар такі, што яго чытаюць прыдзірліва... Ну, усё, а то Гушчынскі закрычыцца.

— Яго няма. Недзе ў начальства.

— Мо твае косці перамываюць?

— Калі рабіць няма чаго, то няхай...

І Драгун пайшоў уніз. Ля кіёска купіў газету, а ў магазін ісці паленаваўся — завінуўся нейкі халодны вецер, па вуліцы гнала густы гарадскі пыл, пяском сыпала ў вочы. Драгун зноў паплёўся на свой чацвёрты паверх, у рэдакцыю.

Гушчынскі ўжо сядзеў на сваім месцы. Як толькі ўбачыў Драгуна, паклікаў жэстам рукі да сябе.

— Гляньце, якія тут галоўліт зрабіў заўвагі па Мішчанкавай кніжцы,— сказаў ён непрыязна, і Драгуну падумалася, што загадчыку нядаўна зноў уляцела за яго, Драгуна.

Гушчынскі быў чырвоны як рак, рукі дрыжалі, а вочы блішчалі і бегалі, як шарыкі ў абойме.

Драгун узяў сшыты тонкім дротам літаўскі экземпляр, пайшоў у свой пакой.

Не хацелася глядзець, што там накрэмзана... Думкі нахлынулі, сумныя, невясёлыя думкі. Кінуць усё к чорту! Прызнаць сваю віну, скласці рукі... Рэзаць усё жывое, вытручваць гарачым жалезам. Хадзіць у перадавых, надзейных... Бо навошта ўсё гэта? Каму гэта трэба? Літаратура... Глупства! Нікому яна не патрэбна, абы было ціха і добра, і гладка. Навошта дражніць сабак? Лепей сённяшняе «ціха», чым заўтрашняе добра. Не шукаць, не рызыкаваць, не лезці ў невядомае. Ісці пратаптанай сцежкай. Бо пабяжыш — на бяду наляціш, пастаіш — бяда нагоніць. Дэвіз — варушыцца, рабіць выгляд, што жывеш. Так спакайней...

У пакоі пачуліся галасы, крокі. Драгун ачнуўся.

— Ну, глядзеў, што там такое? — спытаў яго Гушчынскі. Побач стаяў старшыня Саюза пісьменнікаў.

Драгун адсунуў ад сябе літаўскі экземпляр.

— Не глядзеў і не буду...

Гушчынскі ўзняў бровы, хацеў нешта сказаць, але змоўчаў і ўзяў карэктуру.

Яны выйшлі.

Драгун чуў праз пару дзён, што старшыня з Гушчынскім разам разглядалі ўсе заўвагі галоўліта, спрачаліся, а потым пайшлі да дырэктара. Адзінае, што давялося зняць — невялікі эпізод з аповесці,— як адразу пасля вайны дзеці ў п'янага фінагента ўкралі сумку з усімі квіткамі і нядоімкамі і ўкінулі ў прыбіральню, а астатняе старшыня сваім аўтарытэтам адстаяў.

Аднак хмары над Драгуном збіраліся. Ён адчуваў: напружанасць, маўчанне, ненатуральная цішыня. І ён вырашыў, што трэба абараняцца. Дзе б ён ні быў, што б ні рабіў — быў дома, на рабоце, адпачываў, ішоў па вуліцы,— ён думаў толькі пра адно: складаў прамову, з якой выступіць, а дзе і калі — няважна. У думках ён вёў зацяты дыспут з дырэктарам, галоўным, даказваў пераканаўча і неабвержна, што ён, рэдактар Драгун, займае правільную лінію, што ніякі ён не ліберал, не апалітычны, не вораг — Важніка, Быліны, камітэта па друку і ўсякіх іншых інстанцый, якія стаяць над кнігай па дарозе да чытача. Ён проста хоча, каб у кнізе, як у жыцці, было ўсё, каб кніга не была бледнай копіяй жыцця. Праўда, скажуць, што капіраваць прыроду, людзей — яшчэ не мастацтва. Але чаму ж тады гавораць:

гэты мастак быў вялікі, бо ён, як ніхто іншы, блізка падышоў да жыцця, адлюстраваў тое, што было галоўным звяном эпохі, часу. Яшчэ кажуць, што мастаку абавязкова трэба мець светапогляд... А наогул, ці жыў калі мастак без светапогляду? Здаецца, не, а калі і жыў-быў, дык гэта не мастак, а проста партач, рамеснік. Галоўнае, які светапогляд: адсталы ці перадавы? На першы погляд, у гэтым вельмі проста разабрацца: той, што ўсё існае хваліць — гэта з перадавым светапоглядам. Той, што ганіць, вышуквае балячкі ў сённяшнім жыцці — адсталы элемент. Гэта, калі гаварыць груба, акруглена, прыблізна... Але менавіта так падыходзяць да твораў і іх аўтараў там, дзе кнігі ацэньваюцца і выдаюцца...

Доўга так хадзіў Драгун з поўнай галавою гэтых супярэчлівых думак, ды аднойчы ў нядзелю, засеўшы ў бібліятэцы, запісаў усё на паперу, блытана, спехам, але шчыра, як яму здавалася, доказна, пераканаўча... Ці толькі для ўсіх?

І трэба якраз здарыцца, што ў клубе Саюза пісьменнікаў сабралася нарада па рабоце з маладымі: пра іх цяжкасці, пра клопаты, патрабаванні і пажаданні. Драгун доўга не рашаўся, а потым ўсё ж папрасіў слова. Ён так хваляваўся, што каб не збівацца і не блытацца, дастаў з кішэні свой «канспект» і пачаў чытаць.

*Драгун.* Я не збіраюся выстаўляць сябе анёлам. Усе мы на такой рабоце, што ад памылак не застрахавацца. Розніца тая, што адзін іх робіць больш, другі менш. Не памыляецца, вядома, толькі той, хто нічога не робіць. І калі зыходзіць з гэтага тэзісу, то часцей памыляецца той, хто выдае больш арыгінальных кніжак, асабліва першых кніжак маладых аўтараў, якія яшчэ не зусім авалодалі сакрэтамі правільнага адбору матэрыялу, не адчуваюць яшчэ мяжы паміж «можна» і «няможна», карацей кажучы, яшчэ не нажылі сабе «добрага» дарадчыка, які ў нашым асяроддзі называецца ўнутраным рэдактарам. Божа барані іх ад яго! Хай у сто раз будзе цяжэй нам, выдавецкім рэдактарам, чым аддаваць сваё пяро ў рукі гэтага ўнутранага стража!

Пісаць праўду цяжка. Вось нядаўна Балканаў у рэцэнзіі на аповесць нашага Базылевіча выказаў думку, што аб таленце пісьменніка можна меркаваць па тым, наколькі ён адлюстроўвае, паказвае праўду жыцця. А ўспомнім, колькі крыві было сапсута ў рэдакцыі, покуль мы выдалі першую кніжку Базылевіча «Жураўліны клін». Я мог бы расказаць усю гэтую гісторыю падрабязна і назваць тых, хто станавіўся на дарозе і не даваў ходу гэтай таленавітай кнізе.

А што было з першай кніжкай прозы Каралевіча? Я два разы падпісваў яе ў набор. Яна ніяк не ўлазіла ў пракрустава ложа нашых старых установак і ўяўленняў аб прозе, той прозе, якую мы спакойна выдавалі і выдаём і якая так набіла аскому чытачу.

А возьмем першы раман Міхалевіча. Пра гэта лепей расказаў бы рэдактар Нікіфароўскі, які вёў кнігу Міхалевіча. Раман затрымалі, і Міхалевіча вырятавала толькі тое, што яго кніга паралельна друкавалася і ў Маскве, а там людзі трохі смялейшыя, як у нас. Але не будзем яшчэ забываць, што ў Міхалевіча ўжо было літаратурнае імя, чаго ў той час не мелі ні Базылевіч, ні Каралевіч, ні Драздоў, які выдаваў свой раман «На берагах Віліі».

Нашы маладыя празаікі пішуць смялей, лепш і глыбей, чым пакаленне, якое сфарміравалася ў цяжкі перыяд культу асобы Сталіна. А мы патрабуем, каб яны прытупілі свае пёры і паўтаралі Стацкевіча... Новая плынь у літаратуры моцная, здаровая і неадольная. Гэта тое, што патрэбна народу, чытачу, ён вітае і будзе вітаць кнігі Драздова, Базылевіча, Мішчанкі, Каралевіча і іншых.

Цяпер я два словы хацеў бы сказаць пра тое, якім метадам карыстаецца наша дырэкцыя для выхавання нас, рэдактараў.

На днях галоўліт зрабіў заўвагі па кнізе Мішчанкі. Машына адразу стала. Пачаў чытаць дырэктар, галоўны, загадчык рэдакцыі. А мне ніхто і слова не кажа. Толькі пайшлі чуткі, што мяне збіраюцца панізіць, перавясці ў другую рэдакцыю. Ніхто мяне нікуды не выклікаў, ніхто нічога не сказаў, не параіўся, нават не крычаў, што рэдка бывае. Цішыня, як перад навальніцай... Добра, што хоць выпадкова зайшоў у рэдакцыю наш старшыня Саюза. Разам з загадчыкам рэдакцыі яны пайшлі да дырэктара, усе заўвагі знялі, за выключэннем эпізода з фінінспектарам. Кніга пайшла цэлая, а каб не аўтарытэт старшыні? Ад яе засталіся б рожкі ды ножкі. А каб не гэтая выпадковасць? Дырэктар напісаў бы даклад, прачытаў бы яго на вытворчым сходзе або на бюро, зрабілі б аргвывады — і ўсё, Драгун нават не дрыгнуў бы. Яго паставілі б перад фактам. Гэта падобна на суд за закрытымі дзвярыма, якім вельмі ўмела карысталіся берыеўскія памагатыя і які прынёс гэтулькі шкоды нашаму народу.

Час перастаць рабіць таямніцы з таго, што не сакрэтна, час людзей лічыць за людзей і лічыцца з іх думкамі. Калі я рэдактар, я маю свой голас, сваю галаву і погляд на рэчы.

Мяне павінны выслухаць, перш чым рабіць якія арганізацыйныя вывады. Ды не! У нашым выдавецтве няма такое моды — гаварыць з рэдактарам, тым болей калі ён яшчэ праштрафіўся.

Мы баімся калегіяльнасці, хоць на словах галасуем за яе абедзвюма рукамі. Хто калі памятае здарэнне, каб дырэктар прыйшоў у рэдакцыю і параіўся па якім-небудзь пытанні, што закранае лёс рэдакцыі ці асобы рэдактара? Ніхто ніколі! Лёс рэдакцыі і яе людзей вырашаецца за закрытымі дзвярыма. Так было нядаўна з Маскалевічам, з Ніківароўскім.

Чаму ўсё ж такі мы баімся голасу грамадскасці, чаму баімся агласкі? Мне ўспамінаецца абмеркаванне рамана Драздова на рэдсавеце ў выдавецтве. Усе, хто там быў, з невялікімі агаворкамі хвалілі раман: Баркоў, Шыкевіч, Крыцкі, Ярашэвіч. Болей крытыкаваў галоўны рэдактар, бо, дарэчы, ён ужо ведаў думку дырэктара. А думка дырэктара ішла ўразрэз з усімі, хто тады выступаў: раман кепскі і выдаваць яго нельга...

Не мне судзіць, ці пахіснулі яго веру ў сваю думку тыя таварышы, што тады выступалі, але мне чамусьці здалося, што дырэктар не згадзіўся з імі толькі з амбіцыі. Як гэта? Каб я, дырэктар, ды адступаўся ад свайго? Навошта ж мне далі ўладу?.. А можа, я памыляюся?

Затое чарговая «аперацыя» — абмеркаванне вершаў маладога паэта Вярэйскага была падрыхтавана з улікам промахаў, якія былі дапушчаны на рэдсавеце па Драздову. Усю рэдакцыю выклікалі на партбюро. Аўтара, як закон, не запрасілі. Не запрасілі нікога чужога. Усе свае. І тон, зададзены дырэктарам упачатку, не спадаў да канца. Зборнік вершаў даручылі чытаць людзям, якія стаяць ад паэзіі вельмі далёка. Напрыклад, загадчыку аддзела кадраў, рэдактарам з сацыяльна-эканамічнай, навукова-тэхнічнай літаратуры. Яны спатыкаліся на кожнай метафары і хапаліся за галаву ад кожнага складанага вобраза, гаворачы, што ў іх час так ніхто не пісаў. Яны ўвачавідкі шкадавалі аб «іх часе», але што зробіш — час назад не вяртаецца.

О, божа, казалі яны. І як чалавек мог дадумацца да такога:

Я іду і пяю ад вялікай, пранозлівай радасці,
Што памру, не дайшоўшы да подласці, трусасці, старасці!

Гэта ж не жарты! Старасць ставіцца на адну нагу з подласцю, трусасцю! Значыць, кожны стары — гэта...

Жалезная логіка!

Члены партбюро поўнасцю падтрымалі дырэктара. Рэдакцыя спрабавала даказваць сваё, але толькі яшчэ больш разгневала дырэктара. Усе мы былі бітыя, усе вінаватыя.

Прызнацца, да гэтага выступлення дырэктара я быў лепшай думкі аб ім як аб кіраўніку і чалавеку. Яго выступленне было грубай вульгарызацыяй, абсалютнай пародыяй на разбор вершаў. Я ўпэўнены, што каб дырэктар рабіў свой даклад перад такой аўдыторыяй, як сёння, то яго асвісталі б, і нашаму вышэйшаму кіраўніцтву давялося б рабіць арганізацыйныя вывады — пасылаць таварыша Важніка на курсы па павышэнню кваліфікацыі, бо ў яго, здаецца, усяго два курсы даваеннага КІЖа.

Абмеркаванні нашых промахаў і памылак ператвараюцца ў судзілішча, у расправу, на якой літаральна затыкаюць рот таму, хто не згаджаецца з думкай дырэктара, як гэта было з бляскам паказана пры абмеркаванні вершаў Вярэйскага, калі рэдактар Нікіфароўскі выступіў у абарону паэта і фактычна абвергнуў усе дырэктаравы закіды.

Дырэктар у нас — паўнапраўны валадар, які робіць усё, што лічыць патрэбным. І там, дзе яму не хапае логікі і розуму, ён ужывае сілу.

Могуць спытаць: а дзе ж галоўны рэдактар, на якім ляжыць адказнасць сачыць за ўсім літаратурным працэсам, абараняць пісьменніка і яго правы перад адміністрацыяй, памагаць выдаваць, друкаваць, ствараць добрыя кнігі, тым болей што сам Быліна таксама пісьменнік — літаратурны крытык. На жаль, такога галоўнага рэдактара ў нас няма. Яшчэ не было выпадку, каб галоўны рэдактар выступіў супроць дырэктарскай думкі. Больш таго, калі часам па якіх-небудзь прычынах галоўнаму даводзілася самому рашаць тое ці іншае пытанне, то ён тут жа мог адступіцца ад свайго рашэння, калі думка ў дырэктара была другой. Так што шукаць падтрымкі ў галоўнага рэдактара, калі гутарка заходзіць аб нязгодзе з дырэктарам,— тое, што шукаць ветру ў полі.

Самы вялікі грэх у выдавецтве — заступіцца за пісьменніка. А той, хто, як кажуць, бярэ аўтара за горла і рэжа па жывому, ходзіць у перадавых і паважаных. Але калі я бачу, што праўда на баку аўтара, я не магу прызнаць, што гэта не так — я заступаюся за аўтара. За гэта я стаў лібералам, апалітычным і нават ненадзейным. Цяжка, вельмі цяжка працаваць у такой атмасферы, яшчэ цяжэй выдаваць кнігі пісьменнікаў, якія яшчэ не маюць літаратурнага імя, якія

яшчэ толькі ўступаюць у літаратуру... А такіх кніжак за апошнія гады я адрэдагаваў і выдаў ні многа ні мала — пятнаццаць штук.

Сваё выступленне Драгун закончыў пад гром апладысментаў.

## 31

У такія дні няпэўнасці і душэўнага неспакою Драгуну сніліся «прароцкія» сны. Ён узбіраўся на нейкія горы, хадзіў над бяздоннем, лазіў па лесвіцах і высозных дахах, балансаваў, і варта яму было зрабіць адзін неасцярожны, недакладны рух, як ён сарвецца і паляціць. Ён фізічна адчуваў сваю бязважкасць і бескантрольнасць над целам, якое жыло цяпер па нейкіх сваіх законах, для яго зусім незнаёмых, толькі свядомасцю ён разумеў, што так не павінна быць, што раней яго цела слухала ўсе яго каманды, якія ішлі з галавы... І страх! Страх дзікі, жывёльны халадзіў яго сэрца. Цікава, што страху наяве Драгун ніколі не перажываў — наадварот, у хвіліны небяспекі ў яго з'яўлялася сіла і безразважнасць, якая заглушала і перамагала страх, ён адступаў, меншаў і прападаў. А ў сне страх перамагаў, браў у палон усю яго істоту. Драгун прачынаўся ад уласнага крыку, у халодным поце. Ці яго будзіла жонка, калі ён пачынаў праз сон стагнаць, а крык ніяк не мог вырвацца з яго здушанага страхам горла...

Наяве, калі бачыш, чуеш, разважаеш — усё не такое страшнае, як у сне. Пасля Драгуновага выступлення ў Саюзе пісьменнікаў надышла часовая цішыня. Пэўна ж, часовая, бо казалі, што назаўтра пасля выступлення галоўны рэдактар пайшоў да дырэктара ў кабінет і сядзеў там з гадзіну. Пра што яны гаварылі — невядома, мо і пра Драгуна, бо галоўны якраз тады быў і нават выступаў пасля, каб неяк згладзіць уражанне. Пэўна ж, яму было непрыемна: Драгун перад усімі сказаў, што галоўны — пустое месца... Драгуну здалося, што тады галоўны нікога не пераканаў. Ён хваляваўся, блытаўся, адчуваў сябе сканфужана. Гаварыў, што Драгуна яны шкадуюць, а за яго памылкі трэба потым расплачвацца і ім. Ён нават назваў выпадкі з Маркавым і з Дабрасельскім, калі Драгун блаславіў яго прыгодніцка-шпіёнскую аповесць «Радзімая пляма», у той час як усе чамусьці паўсталі супроць яе, нават той «прынцыповы» рэцэнзент, які некалі хваліў слабы зборнік Бортніка. А гэта была сярэдняя аповесць на прыгодніцкую тэму, напісаная

хоць не вельмі гладка, але праўдападобна — відаць, на фактычным матэрыяле.

Драгуна ў рэдакцыі хлопцы віншавалі ўжо з перамогай, ды, відаць, ранавата, бо праз колькі дзён Жывіца па сакрэту сказала яму, што на Мішчанкаву кнігу ў газеце хутка будзе разносная рэцэнзія... Тады толькі ўспомніў Драгун, што калісьці на нейкім вытворчым сходзе, калі яго скланялі на ўсе лады за нейкія грахі, ён выступіў і сказаў прыблізна такое. Ужо колькі год начальства даказвае яму і ўсім, што ён, Драгун, кепскі рэдактар, што кнігі, якія ён рэдагаваў і выдаваў, маюць памылкі і недахопы нават палітычнага характару. Ён ужо і сам паверыў бы ў гэта, ды ў нашым друку, як правіла, на тыя кнігі, што ён рэдагаваў, пішуць станоўчыя рэцэнзіі, нават хваляць. Ён перакананы, што з кніг, якія ён выпусціў у свет, ёсць многія выдатныя — і гэта якраз тыя, за якія яго найбольш лаялі і білі ў выдавецтве.

Цяпер Драгун зразумеў: у яго хочуць выбіць апошні козыр. Ну што ж, і гэтага трэба было чакаць...

Ды ўсё ж, як ён сябе ні рыхтаваў, рэцэнзія ў газеце яго ашаламіла. Такой беспардоннай лаянкі ён даўно не чытаў! «Пацяруха» — так назваў сваю рэцэнзію нехта Сідорчык. Гэта быў псеўданім, а сапраўднае прозвішча яго стала вядома пазней...

Начальства святкавала перамогу. Кнігу, якую рэдагаваў Драгун, разбілі ў друку, перацерлі на пацяруху! Хай ён цяпер скажа, што начальства не казала праўды! А ён толькі спрачаўся з-за свае ўпартасці, такі ўжо ў яго характар. Ты яго рэж, а ён не прызнаецца, што вінаваты. Прызнацца — не хапае смеласці, затое іграе ў прынцыповасць, прыкрываецца лічынай пакрыўджанага, шукае таннай папулярнасці ў мас... А сам не можа даць палітычнай ацэнкі кнізе, рукапісу... Аднойчы дырэктар у вузкім коле так і сказаў: «Я яшчэ дарую рэдактару звычайную непісьменнасць, калі ён не ведае, якую літару паставіць — на гэта ўрэшце ёсць аўтар і карэктары, а вось палітычнай неадукаванасці не дарую».

Дырэктар забываў, што той, хто не ведае граматыкі, як правіла, і палітычна непісьменны. Тупіца, які не можа адолець простай граматыкі, ніколі не раскусіць такой складанай рэчы, як палітыка. Хоць у нас лічаць, што палітыка — простая рэч. Паўтарай усё за начальствам — і не памылішся.

Палітычна спелы рэдактар павінен ведаць, што выразаць, а што пакінуць... Драгун выразаў не тое, што трэба. У гэтым уся яго бяда. І за гэта яго будуць біць, покуль ён

працуе рэдактарам. Як той Карнейчук пісаў: «Што такое тэлеграфны слуп? Гэта адрэдагаваная сасна...» Вось так трэба рэдагаваць, шаноўны Драгун! Цяпер ты павінен расплачвацца за свае памылкі!

Дырэкцыя загадала разабраць Драгуна на рэдакцыйнай нарадзе — толькі загадчык рэдакцыі і ўсе свае, нават нікога ад дырэкцыі.

Драгуну намякалі і прама гаварылі, што ён павінен пакаяцца. Але нічога не выйшла з гэтай нарады. Драгун сказаў, што ён не адчувае сябе вінаватым: ён выпусціў добрую ў асноўным кнігу, у якой, магчыма, ёсць і слабыя ці невыразныя рэчы. Рэцэнзія ў газеце — гэта паклёп на пісьменніка, грубая, абразлівая і не да твару савецкага журналіста фальшыўка.

Гушчынскі, няйначай, быў заняты нейкімі сваімі клопатамі, нараду правёў толькі для формы, сам сказаў толькі некалькі слоў — ні за Драгуна, ні на яго. Пакрытыкавалі Драгуна трохі жанчыны — Роўба і Жывіца — за яго яршыстасць і ўпартасць. Нагорны прамаўчаў зусім.

У той жа дзень Драгуну далі падпісаць загад, у якім яму аб'яўлялася вымова з апошнім папярэджаннем.

Ён успрыняў гэта спакойна, нават усміхаўся, хоць у душы жыла крыўда.

Праз дзень ён напісаў ліст у газету, якая змясціла рэцэнзію. У лісце ён пісаў:

«Паважаны таварыш Пашкоў!

Мяне, як рэдактара кнігі С. Мішчанкі «Фарбы восені», абурыла, з дазволу сказаць, рэцэнзія пад назвай «Пацяруха», якая была змешчана на старонках Вашай газеты за 17 жніўня г. г. Таму вельмі прашу Вас змясціць мой ліст, у якім я хачу сказаць некалькі слоў у адказ на закіды Я. Сідорчыка.

Абуральны сам тон рэцэнзіі. Ад яго павявае для многіх добра знаёмым духам бэндаўскіх і рымараўскіх дапісаў, якія мелі вельмі мала агульнага з літаратурнай крытыкай.

Рэцэнзент нагадвае мне тэндэнцыйна настроенага замежнага турыста, які прыехаў да нас і «ўбачыў» толькі тое, што яму патрэбна, што склалася ў яго галаве даўно. А назвы тых ці іншых геаграфічных пунктаў спатрэбіліся яму толькі для таго, каб стварыць ілюзію праўдападобнасці: маўляў, быў, бачыў, напісаў, верце!

Дзевяць твораў разбірае ці бегла ўпамінае рэцэнзент. А ў зборніку роўна пяцьдзесят твораў, у тым ліку дзве аповесці.

І яшчэ як разбірае! Хоць і малады рэцэнзент, як гэта відаць з рэцэнзіі, аднак ён ужо добра ведае законы чорнай магіі — як з белага зрабіць чорнае і наадварот, як, спрасціўшы, вульгарызаваўшы змест апавядання, можна перакруціць яго так, што нават сам аўтар не пазнае. Так робіць рэцэнзент з апавяданнямі «Канапляны чад», «Сынок», з аповесцю «Мальвіна».

А што ў Мішчанкі на справе? Апавяданне «Сынок»... Калі хлопчык даведаўся, што цётка Поля кінула сваё дзіця (у часе вайны ў Германіі, туды яе вывезлі на работы), ён падсвядома адвярнуўся ад яе. «Нешта падказвала мне,— кажа герой,— што жанчына, якая кінула роднае дзіця — кепская маці...»

Няўжо рэцэнзент не прачытаў канцоўкі?

Ці той жа «Канапляны чад». Рэцэнзент сцвярджае, што Мішчанка паказвае голую распусту, што каханне ў яго нейкае жывёльнае...

Кожны разумее ў меру свайго густу. Якраз Мішчанка змагаецца з распустай, ганьбіць яе сваім апавяданнем «Канапляны чад». Не канапляны чад вінаваты, як гаворыць рэцэнзент, а вінаваты бязвольны чалавек,— сцвярджае Мішчанка.

Пад рубрыку «Каханне ў Мішчанкі — распуста» рэцэнзент падганяе і аповесць «Мальвіна» і так згушчае фарбы, што сапраўды, хто не чытаў аповесці, таму робіцца страшна.

А чаму рэцэнзент лічыць, што калі пісьменнік паказвае здзек з чалавека, дык гэта ён сам здзекуецца з яго? Наадварот, калі бачыш несправядлівасць, гэта выклікае зусім процілеглыя пачуцці — хочацца справядлівасці. Такія пачуцці абуджае ў мяне апавяданне «Цяжкі ўспамін».

С. Мішчанка — пісьменнік-гуманіст, шчыры патрыёт Радзімы, і пра гэта сведчыць уся яго творчасць.

Пра гэта гаварылі, калі разбіралі яго першы зборнік «Дарога ішла цераз лес». Гэтую традыцыю ён працягвае і ў зборніку «Фарбы восені».

Мішчанка вінаваціць вайну, бо яна прынясла людзям не толькі фізічныя, але і душэўныя раны і пакуты. Вось чаму такія апавяданні, як «Слова пра маці», «Сынок», «Самагоначка», «Мама!», «Каб не вайна», «Зялёны камень», «Дзве сям'і», «Хай думае чалавек», аповесці «Мальвіна», «Палон»,— гучаць як гнеўнае абвінавачанне вайне.

І гэта таксама не заўважыў ці не хацеў заўважыць рэцэнзент. А добрага, таго, што выхоўвае нашага чытача, абуджае ў ім лепшыя пачуцці, ачышчае ад бруду мінулага,

у кнізе Мішчанкі намнога болей, чым благога, таго, што рэцэнзент называе пацярухай. Думаю, што пра гэта скажуць яшчэ літаратурныя крытыкі, якія будуць кіравацца праўдай — і ацэняць зборнік так, як ён сапраўды гэтага заслугоўвае.

Вельмі галаслоўная, вельмі аднабокая і непрынцыповая атрымалася рэцэнзія ў Я. Сідорчыка. Мо таму ён і пасаромеўся назваць сваё сапраўднае прозвішча і схаваўся за псеўданім. Рэцэнзія гэтая не толькі абражае пісьменніка, але збівае з панталыку чытача. Такія рэцэнзіі прыносяць толькі шкоду літаратуры.

З павагай К. Драгун».

Як і чакаў Драгун, яго ліст газета не надрукавала. Супрацоўнік аддзела культуры Стральчэня сказаў неяк яму, што Пашкоў хоча з ім пагаварыць наконт ліста. Драгун хадзіў у газету два разы, але не застаў Пашкова. І больш не пайшоў.

## 32

Яшчэ па дарозе дадому Вера спытала мужа:

— Сёння пойдзеш у бібліятэку?

Ён глянуў на яе з падазронасцю, убачыў прыхаваны сум у яе вачах, але не надаў гэтаму вялікага сэнсу. Падумаеш, нешта жонцы заманулася!

— Сёння пайду. Я ж учора не быў.

— Дык учора ж ты хадзіў у лазню.

— У лазню — не ў бібліятэку...

— Палічы: субота, нядзеля — бібліятэка, панядзелак — лазня, аўторак, серада — бібліятэка, чацвер — адсыпацца, пятніца і гэтак далей — бібліятэка.

— А што тут кепскага? Хочаш, каб я на танцы хадзіў?

Вера пачынала злаваць. Ён знарок не хацеў разумець таго, пра што яна гаварыла.

— А пра мяне, пра сям'ю ты падумаў?

— Думаю, калі маю час...

— Але ж яго ў цябе ніколі няма.

— Ты ж ведаеш, што я пачаў адну рэч, ідзе добра... А калі я ўжо за што вазьмуся, то мне цяжка адарвацца. Няўжо ты мяне не разумееш?

— Выходзіць, што ты мяне не разумееш, а не я цябе.

І жонка надоўга змоўкла. Моўчкі ішоў і Драгун.

Прыходзілі, вячэралі — нянька збольшага навучылася гатаваць страву, хоць і не так смачна, як Вера.

З бібліятэкі Драгун прыходзіў каля адзінаццаці вечара. Усе ўжо спалі, толькі Вера часам рабіла што-небудзь ці чытала. Ён піў чай і клаўся спаць на сваім раскладным крэсле-ложку, бо Вера спала з Валькаю, а нянька на канапе.

Ноччу Драгун прачнуўся: нехта варушыў яго за нагу. Ён прадзёр вочы і ў паўзмроку ўбачыў Веру ў доўгай белай начной кашулі.

— Пасунься,— прашаптала яна.

Драгун даў ёй месца ля сябе.

— Чаго не спіш?

— Думкі розныя не даюць спакою...

— Якія розныя?

— Я ўжо даўно табе хачу сказаць, але ты ўсё не маеш часу...

— Гавары, якая ты...

— Памятаеш, ты неяк казаў, што ў сям'і павінна быць сама мала двое дзяцей. Інакш гэта не сям'я... Што тэхніка, цесната, усё можа здарыцца... Як з тым хлопчыкам, што бацька купіў самакат.

— Памятаю... Дык што?

— У нас будзе другое... Ты рад?

Драгун уздыхнуў.

— Рад-то рад, але клопату...

— А што без клопату даецца?..

— І цесната.

— Я якраз думаю, што гэта лепей. Мо хутчэй дадуць кватэру.

— Ты тут маеш рацыю. Гэта праўда... Аднак... Аж страшна робіцца...

— То што, ты не хочаш?

— Не кажы так. Я толькі хачу хлопца. Пэпік нас падвёў...

— Гэта ўжо што выйдзе...

— Але калі добра падумаць, то гэта ўсё паломіць наш і так нетрывалы парадак...

— І я гэтага баюся горш за ўсё. Год папрацавала — і зноў невядома што...

— Ну, неяк будзе. Старэйшая пойдзе ў сад. Праз год абяцалі месца. А з малым будзем трымаць няньку.

— Можа, і так. Але гэта потым. А цяпер схадзі ў райсавет, правер чаргу, ды мо і заяву трэба было б напісаць.

— Схаджу і заяву напішу. Мо і з работы мясцком якую пісульку даложыць. Добра, мая дарагая гаспадынька, добра. Зраблю, як ты кажаш.

Яны яшчэ доўга гаварылі пра ўсе свае нялёгкія клопаты, і хоць Драгун адчуваў побач цяпло жончынага цела, ён быў далёкі ад грэшнай думкі — нібы побач ляжалі не муж і жонка, а два чалавекі аднаго полу, якіх заўтра раніцай чакае цяжкая і непрыемная работа, што ім трэба было б заснуць, каб асвяжыць стомленае за дзень цела, а замест гэтага яны растраўлялі сабе душу размовамі менавіта пра гэтую цяжкую і непрыемную работу, якая іх чакае і ад якой ім нікуды не дзецца.

Назаўтра Драгун зайшоў у навукова-тэхнічную рэдакцыю да старшыні мясцкома Бруневіч пагаварыць наконт паперы ў райсавет. Бруневіч, тоўстая, чарнявая, ужо ў гадах, але бойкая на язык і даволі рухавая жанчына, замахала рукамі.

— А што я напішу? За цябе прасіць буду? Прасі сам!

— Усё ж такі мясцком каб далучыў свой голас...

— І думаеш, паможа?

— А хіба вам цяжка? Звычайную паперу...

— Не цяжка, але гэта нічога не дасць,— непрыветліва сказала Бруневіч і адвярнула свой доўгі нос.

— Ну і прасіць вас не стану,— груба сказаў Драгун.— Слугі народа, заступнікі...— і ён выйшаў з рэдакцыі.

Неяк з паўгода назад ці болей яны пасварыліся за газеты. Бруневіч напала на Драгуна за тое, што ён не выпісвае газет. Гэта была няпраўда, бо Драгун выпісваў, але не ў выдавецтве, а на пошце, у апошнія дні падпіскі, у той час як у выдавецтве бралі грошы наперад за два ці тры месяцы. Тады Драгун сказаў Бруневіч: «Газеты я выпісваю не для вас, а для сябе. І нават каб вы мне сказалі іх не выпісваць, я ўсё адно выпісаў бы, бо яны мне патрэбны не толькі для таго, каб пабольшаць кола падпісчыкаў». Відаць, тую гутарку не забыла Бруневіч і цяпер рашыла паказаць яму, як шкодна сварыцца з такімі людзьмі, як старшыня мясцкома.

Што ж, Драгуну давялося ісці без мясцкомаўскай паперы, ён толькі напісаў сваю «слёзную» заяву.

Лепей было б пайсці на прыём да старшыні райсавета, але для гэтага давялося б цэлы тыдзень чакаць, таму Драгун скіраваў у кватэрны аддзел, дзе яго даўно ведалі.

— Як там мая чарга маецца? — павітаўшыся, спытаў Драгун.

Хударлявая маладая жанчына са светлай завіўкай пагледзела ў алфавіт.

— У вас, Драгун, 57-мы нумар. Па ўсіх даных, пад канец года вы будзеце мець кватэру.

У Драгуна сэрца застукала ад радасці.

— Каб жа вашы словы ды старшыні ў вушы! Няўжо гэта можа быць?

— У год у нас ідзе 200—300 нумароў. Так што тут нічога фантастычнага.

— Вельмі прыемна гэта чуць ад вас... Да таго ж у мяне навіна — чакаем павелічэння сям'і...

— А колькі ў вас дзяцей?

— Цяпер адно...

У гутарку ўмяшаўся чарнявы мужчына ў вайсковым кіцелі, які сядзеў за сталом над вялікімі тоўстымі рэестрамі.

— Вам проста шанцуе. З адным дзіцем вы атрымалі б адзін пакой. А так будзеце мець два.

— У мяне яшчэ і нянька...

— Няньку не лічыце. Гэта не член сям'і.

— Але ж месца займае?

— Зрабіце, каб не займала.

— Што вы! І так ледзьве знайшлі!

— Цяпер нянька — вялікая праблема,— сказала жанчына з завіўкай.— Я таксама шукала два гады. А потым яна праз два месяцы ўцякла ад мяне. Цесна, кепска, плата малая...

Драгун, здаецца, не ішоў дадому, а ляцеў. Свет неяк перамяніўся адразу, падабрэў, павесялеў. Звычайна, праходзячы па скверы ля опернага, ён запавольваў хаду, часам садзіўся на лаўку і адпачываў хвілін дзесяць. А сёння без аглядкі пашыбаваў дадому. І хоць меў ключ, спецыяльна пазваніў — даў два доўгія званкі. Адчыніла Вера.

— Ты мяне спалохаў,— сказала яна.

— Ты ўжо дома?

— Як бачыш. А ты нейкі вясёлы. Што чуваць?

Ён схапіў яе на рукі, закружыў па пакоі.

— Я гатоў сёння танцаваць! — закрычаў Драгун.— У гэтым годзе нам абяцаюць кватэру.— Ён пасадзіў Веру на стол, прытуліў да сябе.— У нас 57-мы нумар! Ты ведаеш, што гэта значыць? Яны ў год здаюць 200—300 кватэр.

— Не радуйся вельмі, а то здзівіш.

— Што ты!.. А яшчэ мне сказалі, што нам проста пашанцавала: нам дадуць два пакоі... калі ў нас будзе цвай кіндэр.

— Ажно не верыцца...— прашаптала шчаслівая Вера.

...А праз дзень Драгуны пачулі яшчэ адну прыемную навіну: выдавецтва разам з Саюзам пісьменнікаў закладвала 60-ці кватэрны дом. Гэта азначала, што праз год-паўтара можна разлічваць на кватэру.

— Не трэба толькі адчайвацца,— гаварыў Драгун Веры, ідучы з работы.— У жыцці так, як вось гэтая пагода: то сонца свеціць, ні воблачка, ні хмурынкі, а тут раптам гром з яснага неба, навальніца; то неба засцелюць хмары, здаецца, што ніколі ўжо сонца не ўбачыш, а потым зноў — вецер разгоніць хмары, ачысціць неба — і ўсё спачатку. Дарэчы, ты заўважыла такі псіхалагічны эфект? Вось хмары закрылі неба, схавалі сонца. Здаецца, яго зусім няма. А гэта самая звычайная ілюзія: хмары закрылі толькі нас, а не сонца: сонца свеціць, як і свяціла.

Вера ішла, слухала і пасміхалася.

— Свеціць, але не нам... Здаецца, што, калі мы толькі сышліся, ты зусім быў не такі, ва ўсякім разе, настроены зусім па-другому. Я цябе ўгаворвала, што трэба пацярпець, што ўсё будзе добра, што ўсё стане на лад. А цяпер мы памяняліся ролямі. Цяпер ты мяне ўгаворваеш. Гаварыць-то лёгка, а вось цярпець... Ты ведаеш, што амаль кожны вечар, як ты пойдзеш у бібліятэку, у мяне сутычкі з суседзямі.

Драгун стаў пасярод дарогі.

— Чаго ж ты маўчала дагэтуль?

— Не хачу цябе ўцягваць у гэтую кашу. Хай у цябе будзе спакойна на душы, каб ты мог працаваць...

— Глупства ты гаворыш!

— Не глупства. Ты сам падумай. Тыя выехалі на нас — скардзіліся, што не могуць жыць са сварлівымі суседзямі. І гэтыя нешта падобнае задумалі... Мне страшэнна цяжка, каб ты толькі ведаў. Але я буду цярпець.

...На кухні Драгун мыў рукі. Стукнулі дзверы, выйшаў Шварцман, але тут жа павярнуў назад.

Драгун сказаў наўздагон:

— Я зараз канчаю, калі ласка!

Але Шварцман нібы не пачуў. Ён схаваўся за дзвярыма, а потым выйшаў ужо з жонкай. Яны наблізіліся да Драгуна, і Шварцман таямнічым голасам, амаль шэптам, загаварыў:

— Мы вас вельмі просім зайсці да нас на хвіліначку... Толькі на адну хвіліначку!

— Толькі на адну хвіліначку,— як рэха, падхапіла яго жонка, склаўшы рукі на грудзях і прыняўшы позу чалавека, які літасціва просіць другога памагчы ў бядзе.

— Калі ласка, навошта так доўга прасіць,— згадзіўся Драгун і пайшоў за Шварцманамі.

Пакой, у якім быў Драгун гады два назад, здаецца, папрастарнеў: менш мэблі, чым у тых, Платкіных.

— Садзіцеся, просім вас,— Шварцман падсунуў яму крэсла.

Драгун сеў. Яму не падабалася ліслівасць, з якою яго тут прымалі. Здавалася, што яны баяцца, каб Драгун раптоўна не кінуўся на іх з кулакамі ці не закрычаў.

— Можа, вып'еце шкляначку чаю? — прапанавала Шварцманава жонка.— Адну шкляначку! Толькі адну!

Драгун адмовіўся.

— Дзякую, не хачу. Дык што вы мне скажаце?

Шварцманы неяк замітусіліся: ён глянуў на яе, яна на яго, потым разам на Драгуна. Пачаў гаспадар.

— Нам, ведаеце, не вельмі зручна... але мы паклікалі вас пагаварыць... Ну, каб вы ведалі... наконт вашай жонкі...

— Што? — вырвалася ў Драгуна.

Шварцман нацягнуў на твар ліслівую ўсмешку, заспяшаўся:

— Не падумайце нічога кепскага... Мы проста хацелі б вас прасіць, каб вы неяк супакоілі... супакойвалі трохі сваю жонку...— Ён выцер пот з бледнай, пакрытай пушком лысіны.— Мы ведаем вас як культурнага, вельмі стрыманага чалавека... Нам гаварылі гэта яшчэ Плоткіны. Дый мы самі бачым... Але ваша жонка...

— А што вам зрабіла мая жонка?

— Як вам сказаць? — адступіў Шварцман, нібы баючыся, што зайшоў вельмі далёка.— Яна нічога не зрабіла, але яна так сябе паводзіць... Ёй нельга сказаць і слова... І яна робіць усё назло... Калі я адчыню дзверы на балкон, яна зачыніць. Калі я зачыню, то яна адчыніць...

— А ці не здаецца вам, што гэта вы робіце назло?

— Што вы! Божа барані!

— А што яшчэ?

— Яшчэ? Абзывае нас усякімі словамі, робіць такія тэатральныя жэсты, што...

— Я ўжо баюся адна выходзіць на кухню,— ледзь не плачучы, сказала гаспадыня.

— Так, так, я выводжу яе на кухню...

— А па-мойму, гэта дарэмна! Не трэба нікога баяцца, але не трэба нікога і чапаць.

— Хто чапае? Божа барані! Ніхто ніколі! Навошта нам? Хіба мы не ведаем, каго чапаць?..

Шварцман спахапіўся і падазрона глянуў на Драгуна: ці не сказаў лішняга? Але Драгун выглядаў спакойна. І Шварцман пачаў закругляцца:

— Мы вас вельмі і вельмі просім... Угаварыце яе, хай

яна не будзе такой... Ну, рэзкай, грубай, вульгарнай, прабачце за слова... Мы вас вельмі паважаем, таму і звярнуліся... Навошта нам? Мы ж суседзі... Пагаварыце вы з ёю...

— Добра,— сказаў Драгун і ўстаў.— Пагавару... Толькі прашу вас таксама — не злоўжывайце яе цярпеннем... Яна жанчына. І яна чакае дзіцяці. Так што прашу ўлічыць гэта.

У Шварцманаў — у яго і ў яе — акругліліся вочы.

## 33

«Партызанская адысея» запомнілася Драгуну мо не менш, чым яе аўтару. Аўтар быў родам з Заходняй, беларускі гімназіст, падпольшчык-камсамолец, потым смелы партызан у час нямецкай акупацыі. Гэта быў рослы, плячысты, моцнага складу мужчына, інтэлігентны з выгляду.

Нягледзячы на сваю вышэйшую адукацыю, ён гаварыў на дыялекце свае мясцовасці. І не толькі гаварыў, а нават пісаў на ім. Яго трэба было многа правіць, асабліва з мовы, са стылю, але радавала тое, што правіць ёсць што. Адразу відаць, што чалавек, перш чым узяцца за пяро, прайшоў вялікую школу жыцця, што ён не фантазіруе, не выдумляе, а апісвае тое, што сам перажыў, бо такога не прыдумаеш ніколі... І апісвае не абы-як, а цікава.

Лагер смерці Штутгоф. Уцёкі, дарога дадому. Ён прыходзіць у родную хату, а там немцы... Ідзе да суседа, і той, каб ніхто нічога не падумаў, кладзе яго паміж сабою і жонкай... Потым партызаншчына, жыццё на валаску. Крыўда на лёс: ён уцёк з лагера смерці, а яго падазраюць нямецкім шпіёнам... Урэшце ўсё гэта ззаду. Ён — камандзір партызанскага атрада... Апошні ці перадапошні эпізод: немцы адступаюць пад ударамі Чырвонай Арміі. Партызаны, усяго некалькі чалавек, хочуць раззброіць вялікую калону — мо цэлы батальён. Немцы не адстрэльваюцца, але і не хочуць здавацца. Яны разбягаюцца па лесе. Герой, камандзір партызанскага атрада, адчувае, як халадзее ў яго сэрца, як яму сорамна і крыўдна, што ён не можа авалодаць сітуацыяй, што падзеі не падуладныя яго волі...

І вось гэтую кніжку затрымліваюць, вяртаюць у выдавецтва, і начальства садзіцца яе чытаць.

Як заўсёды ў такім выпадку, рэдактара не чапаюць. Цішыня! Драгун сам ідзе да дырэктара і ставіць пытанне рубам:

— Павел Іванавіч, ці лічыце вы, што нам зрабілі сур'ёзныя і слушныя заўвагі?

Дырэктар пракалоў яго вачыма і сярдзіта сказаў:

— Якраз гэтае самае я хацеў спытаць у вас...

— Калі вы хочаце ведаць маю думку,— тут жа выпаліў Драгун,— то я вам скажу: заўвагі зусім несур'ёзныя, яны проста смешныя!

— Вы заўсёды так лічыце! — сярдзіта адказаў дырэктар.— Вы ніколі не згодны з заўвагамі, хто б іх ні рабіў!

— Разумную заўвагу я заўсёды прымаю... Але ж гэта дзіцячыя прыдзіркі! Сабраліся партызаны: немец, бельгіец, паляк, беларус, чэх — збор багародзіцы, кажа герой. Што ж тут такога? Так гавораць, гэта ж ідыёма, яе ведае кожны дзед у вёсцы, а цэнзар бачыць у гэтым абразу для партызан. Або гэты эпізод з наганам, калі стары бацька вучыць матку, як з яго страляць, і яна, разгневаная, пасылае яго ў... прабачце, с... Гэта ж класічны эпізод, чыста ў народным духу. Маці павінна нараджаць, гадаваць, даваць жыццё, а не забіваць некага!.. Ці што герой адразу не можа забіць здрадніка, шкадуе яго... Што ж у гэтым заганнага? Наадварот! Ён паказвае свайго героя чулым, чалавечным, якога толькі цяжкія абставіны прымусілі ўзяць зброю і забіваць. На яго напалі, ён вымушаны абараняцца. Няўжо лепш, каб аўтар паказаў яго бяздушным забойцам, які толькі і прагне крыві — хоць бы сабе і варожай?

— Я не збіраюся з вамі спрачацца, Драгун. На днях будзе абмеркаванне аповесці — вось тут, у маім кабінеце. Тады і скажаце ўсё.

З гэтым Драгун і пайшоў ад дырэктара.

Аповесць далі чытаць яшчэ некалькім чалавекам з іх рэдакцыі.

І вось усё паўтараецца, як і многа разоў назад. Рэдакцыя ўся сядзіць за вялікім сталом для нарадаў. Дырэктар Важнік чытае свае тэзісы... Кніга прасякнута скепсісам, яна не паказвае перамогі, адны няўдачы, паражэнні, уцёкі, сумненні. Урэшце, галоўны герой хоча апраўдаць свайго бацьку, фактычна кулака — у яго каля трыццаці гектараў зямлі, хоць ён і член падпольнай КПЗБ... А чаго варты гэты эпізод: чалавек з Заходняй пераходзіць у СССР, потым вяртаецца назад. Ён расказвае сваім людзям, што ў Савецкай Беларусі бачыў чэргі па хлеб і па крамніну, што там многія людзі ходзяць у гумовых галёшах... Яму не вераць, лічаць, што ён прадаўся панам і агітуе супроць Савецкай улады. Чалавек не перанёс гэтага, пайшоў і ўтапіўся...

«Што ж у гэтым эпізодзе крамольнага? — думае Дра-

гун.— Што ў Савецкім Саюзе былі чэргі па хлеб і па крамніну? Гэта ж праўда! Што чалавеку не паверылі, палічыўшы яго за панскага агітатара? Гэта вельмі натуральна, бо Савецкі Саюз у Заходняй Беларусі лічылі да вайны зямным раем. Гэта ведае кожны, хто жыў у Заходняй Беларусі хоць адзін год. Значыць, у гэтым таксама няма ніякай крамолы... А што чалавек утапіўся? Гэта зусім не азначае, што ён расчараваўся ў Савецкім Саюзе, бо ў такім разе ён утапіўся б раней. Ён пакончыў з жыццём таму, што страціў давер сваіх аднавяскоўцаў. Ён нічым не мог даказаць праўды сваіх слоў, як толькі ўласнай гібеллю, хоць у той час людзі расцанілі яго смерць як слабасць. Толькі потым, праз многа год, яны пераканаліся, што той чалавек гаварыў ім праўду. Але хіба гэта адштурхнула людзей ад Савецкага Саюза, хоць бы таго бацьку героя ці яго самога? Значыць, тут усё законна, усё на сваім месцы! Дык чаму ж дырэктар Важнік услед за нейкім там цэнзарам-палітыканам выкрэслівае гэты эпізод як шкодны? Ён толькі на першы няўважлівы погляд можа паказацца не ў нашу карысць. А падумаўшы? Празмернае захапленне, асляпленне, замазванне недахопаў — шкодна таксама. Рана ці позна людзі зірнуць на свет цвярозымі вачыма. І можна смела сказаць, што, чым раней гэта будзе, тым лепш. Бо ўжо калі літаратура стане служыць для абдурвання, а не для прасвятлення розуму, то хай яна прападзе! Развіццё магчыма толькі тады, калі працэс ідзе ад малога да большага, ад горшага да лепшага, а не наадварот! Толькі тады ён неадольны і непадуладны ніякім модным уплывам і шкодзе».

...Успамінаюцца ўсе тыя эпізоды, пра якія Драгун некалькі дзён раней гаварыў з дырэктарам. Дырэктар з пафасам разбівае пункт погляду Драгуна:

— У той час, калі нашы савецкія жанчыны ў вайну хапаліся за зброю, маці нашага партызана гаворыць: «Заткні ты яго (наган) у с..., я яго і ў рукі не вазьму». Гэта ж ганьба, таварышы!

Драгун толькі круціцца на крэсле, як уюн на патэльні. Вось як разумеюць літаратуру людзі, ад якіх яна залежыць больш як ад каго!

Потым выступаюць тыя, што чыталі ў рэдакцыі. Драгуну проста шкада было гэтых людзей, бо душою ён адчуваў, што яны гавораць няшчыра, што яны ведаюць, што азначае цяпер для іх пахваліць твор, які трапіў у няміласць начальства.

Найменш знайшоў недахопаў у аповесці рэдактар Малышка.

— На мой погляд, аповесць Карповіча цікавая. Я сам былы партызан, таму мне вельмі блізка тое, пра што піша Карповіч. Што мне асабліва кінулася ў вочы, дык гэта тое, што аўтар не прыгладжвае падзеі, і паказвае партызанскія будні з усімі іх цяжкасцямі. Білі не толькі мы, білі і нас, цяжка нам было страшэнна — да слёз, да скрыгату зубоў. Але ўсё ж мы перамаглі! Значыць, мы дужыя, і слава нам! Так я разумею аповесць Карповіча... Праўда, сёе-тое можна было б падправіць у аповесці, мова ў Карповіча засмечана дыялектызмамі, ёсць нават няправільныя канструкцыі сказаў, ёсць паланізмы і русізмы адначасова, што вельмі здзіўляе...

Дырэктар рэзка перабіў Малышку:

— Вас гэта здзіўляе? А другое вас не здзіўляе? А што Карповіч на кожным кроку выказвае непавагу да вышэйшага камандавання, увесь час выхваляе сябе?

Малышка не разгубіўся ад грознага тону.

— Карповіч і яго герой — гэта зусім розныя рэчы, нельга прыпісваць аўтару таго, што кажа яго герой...

— Глупства гаворыце! — Дырэктар пачырванеў.— Карповіч скрозь і ўсюды піша пра сябе, і вы мне рот не затыкайце.

Малышка толькі крыва ўсміхнуўся.

— Невядома хто каму,— сказаў ён ціха.— Гэта яго справа, з каго спісваць героя... Але герой і аўтар не адно...

— Што вы, як папугай, прабачце: не адно, не адно! — ускіпеў дырэктар.— Тут не літаратурны дыспут, а абмеркаванне работы рэдакцыі, і я прашу гаварыць канкрэтней — што трэба зрабіць, каб выратаваць аповесць, каб яна ўсё ж убачыла свет, паколькі яна стаіць у плане і мы звязаны матэрыяльнымі затратамі.

Малышка сеў, чырвоны як рак, нешта памыкаўся яшчэ сказаць, але потым толькі махнуў рукою.

Пасля такіх слоў дырэктара ніхто не захацеў выступаць. Тады дырэктар знайшоў вачыма загадчыка рэдакцыі Гушчынскага.

— А што скажа таварыш Гушчынскі? Каторы раз мы ставім на абмеркаванне работу яго рэдакцыі? Хто не так даўно мне абяцаў, што падобных зрываў болей не здарыцца? Дакуль мы будзем абмяркоўваць кнігі не ў рукапісах, а ў другой, падпісной, карэктуры?

Гушчынскі толькі раскрыў рот, каб адказаць на ўсе гэтыя, такія страшныя, пытанні, як нечакана зазваніў тэлефон. Іх у дырэктара было два: адзін звычайны, а другі

так званая вяртушка, прамы. Толькі адзін дырэктар умеў пазнаваць іх галасы. Гэты раз, відаць, званілі па прамому. Дырэктар павітаўся па-свойску, некаму адказваў на «ты».

— Добра, харашо... Улічу... Харашо, добра... Усяго! — і, павесіўшы трубку, падышоў, стаў насупраць Гушчынскага.— Дык што скажаш, таварыш загадчык?

Гушчынскі разгубіўся спачатку, а потым пачаў здалёк:

— Павел Іванавіч, гэта такая справа, што вельмі цяжка... У нас уся арыгінальная літаратура.

— Не загаворвай мне зубоў! — дырэктар стаяў перад ім і пастукваў наском чаравіка па ножцы крэсла, на якім сядзеў Гушчынскі.

— Другім рэдакцыям лягчэй — у іх няма палітыкі, ідэйнасці, мастацкасці...

— Затое ў іх ёсць дакладнасць навукі,— пачынаў зноў даказваць дырэктар,— чаго ў вас няма і не будзе. Вы ўсё можаце высмактаць з пальца і пісаць тоўстыя раманы, далёкія і ад палітыкі, і ад ідэйнасці, і ад мастацкасці.

— Жартаваць можна, Павел Іванавіч, а я кажу сур'ёзна. Гэта не так проста. Сёння кніга адпавядае патрабаванням часу, веянням эпохі, а заўтра недзе некага змясцілі — і ўсё трэба мяняць, увесь кірунак думак паварочваць у другі бок, перамяшчаць акцэнты, выкідваць цэлыя раздзелы, дапісваць новыя.

— Ну, ты пайшоў, як цыган на неба па драбіне,— сказаў дырэктар і адышоўся ад Гушчынскага, сеў за свой стол.— Кан'юнктурная праўка была і будзе... Ты канкрэтней, пра «Партызанскую адысею». Што тут залежала ад тых змен, пра якія ты гаворыш?

— А што? І залежала,— ажывіўся Гушчынскі, нават прыўстаў з крэсла.— Не прыкідвайцеся, Павел Іванавіч, бо нават я ведаю, як некаторыя з тых, пра каго непрыязна намякаў у сваёй аповесці Карповіч (або горай таго — зусім не ўпамянуў), званілі ў некаторыя інстанцыі. І я так думаю, гэткія заўвагі невыпадковыя, пры іншай атмасферы іх магло б не быць.

— Слухай, Гушчынскі, гэтага я нічога не ведаю і ведаць не хачу. Не апраўдвайся, а праглыні пілюлю — і ўсё. Не выкруцішся! — ён пагразіў Гушчынскаму чырвоным алоўкам.— Рэдакцыю ты распусціў. Я не кажу пра аднаго Драгуна, хоць ён мо на першым месцы, але ёсць і другія. Напрыклад, Каляда... Мала кантралюеш, не чытаеш рукапісаў, а калі і чытаеш, то павярхоўна, не ўдумваючыся ў кожны радок, без партыйнай адказнасці за даручаную

справу... Мы не можам даваць лішняй стравы сваім ідэйным ворагам, сам разумееш. Мы пастаўлены зусім для другога... Скажу шчыра, што ў мяне быў намер скарыстаць сваё права дырэктара на ўсю сілу ў адносінах да Драгуна... Але нешта мне яго стала шкада. Усё-такі сям'я, дзіця... Хай абдумае ўсё як след, узважыць.

На гэтым нарада і скончылася.

## 34

Пісьмо з райсавета было для Драгуноў громам з яснага неба: ім паведамлялі, што ў гэтым годзе кватэры яны не атрымаюць, бо ўвесь запас жылога фонду перадаецца дэмабілізаваным па загаду аб скарачэнні Узброеных Сіл.

Вера плакала. Адзінае, што дагэтуль узнімала яе дух,— гэта надзея, што другое дзіця адразу можна будзе нясці ў цёплую дагледжаную кватэру. І раптам гэтая зорка-надзея патухла. Цяпер Вера пайшла ў дэкрэтны адпачынак, сядзела ў абрыдлых чатырох сценах свайго пакоя, збірала памалу пялёнкі, кашулькі, нешта шыла, думала і сумавала. На кухню яна і праўда баялася выходзіць, бо Шварцманы хадзілі толькі па двух. А апошні час у іх пасялілася яшчэ адна сям'я з чатырох душ: дачка з зяцем і дзеці. Цяпер на кухні нельга было размінуцца. Праўда, зяць з самага ранку недзе ішоў, а вольны мастак Шварцман, як генерал, камандаваў цэлаю арміяй і мог у любы момант падкінуць рэзервы.

— Чаму гэта наша такая доля? — праз слёзы гаварыла Вера.— Пазалетась уключылі ў чаргу інвалідаў, і мы не пасунуліся наперад нават на адзін нумар, а гэты год — дэмабілізаваныя. Яны людзі, а мы — не!

— Цяпер у мяне ўся надзея на той дом. Сёння ў абед я заходзіў туды. Ужо забіваюць палі... можна сказаць, палавіну ўжо загналі.

— Якія палі? Драўляныя?

— Што ты! Бетонныя... На тым месцы калісь быў кар'ер, потым сметнік. Цяпер яго засыпалі, заб'юць штук сто паляў і паставяць наш дом, у якім мы будзем жыць з табой па-панску!

— А мне ўжо не верыцца, што мы будзем мець кватэру... Здаецца, тут і звякуем,— гаварыла Вера, ставячы перад мужам глыбокую талерку з пахучым баршчом.

Драгун размяшаў смятану, пакаштаваў.

— А ты смачна варыш, гаспадынька. Як хадзіла на работу, то мы елі горш.

— Як мукі скрыня, дык і свіння гаспадыня. Дай мне час, дай з чаго, дык я табе так згатую, што цябе за вушы ад талеркі не адцягнеш... А памятаеш, як мы жылі на адну тваю зарплату? Ты таксама еў і хваліў, хоць і не было чаго хваліць...

— Я знарок, каб табе зрабіць прыемнасць.

— Я ўсё разумею... Не хадзі сёння ў бібліятэку... Я цябе вельмі прашу.— І Вера з мальбою паглядзела яму ў вочы.

— Што-небудзь цябе турбуе? — занепакоіўся Драгун.

— Нічога... Толькі мне сёння трэба памыць бялізну, і я не хачу адна тырчаць на кухні.

— Добра, я застануся, калі ты хочаш. Глядзі, нічога цяжкага не падымай!

— Ідзі да Марыі Антонаўны, пазыч бачок,— папрасіла Вера.

Ён пайшоў да суседзяў. З гэтымі людзьмі ў Драгуноў была не толькі агульная пляцоўка, балкон, але і добрая дружба. Асабліва здружылася з імі Вера. Гэта было адзінае месца, дзе яна адводзіла душу. Яны часам запрашалі да сябе Драгуноў на чарку, а Драгуны — іх да сябе. І ўжо калі што трэба пазычыць, то Драгуны ішлі да іх.

Бабкі Марыі Антонаўны дома не было, бачок Драгуну дала яе дачка, мажная прыгожая кабета, якая жыла ў маткі з мужам і дваіма дзецьмі. Муж яе працаваў недзе столярам на фабрыцы, любіў выпіць часам лішнюю чарку, і за гэта яны іншы раз і сварыліся. Але цешча Мар'я Антонаўна заўсёды заступалася за зяця, за гэта ён яе любіў і цаніў, а выпіўшы, хваліўся: «Такой цешчы, як у мяне, трэба пашукаць!»

Драгун наліў у бачок вады, паставіў у кухні на керагаз, потым прынёс з хлеўчука ночвы, вынес два табурэты і наладзіў цэлы пральны камбінат. Выглянуў праз шчыліну Шварцман, але тут жа зачыніў дзверы. І больш за ўвесь вечар ніхто вельмі з іх не выходзіў.

Вярнуліся з двара дзеці. Яны павячэралі, і Нэля пайшла на заняткі — Вера ўладкавала яе на курсы кройкі і шыцця,— а Драгун застаўся з Валькаю, сяды-тады выходзячы на кухню, каб памагчы Веры — падаць што ці прыняць або пераставіць з месца на месца.

Усё ішло як трэба. Вера памыла бялізну, склала ў бачок і заліла вадою. Заўтра раніцай заставалася толькі накрухмаліць і вывесіць сушыць.

— Бачыш, якая цішыня стаяла на кухні? — сказала Вера ўжо вечарам, як скончыла работу.— А каб цябе не было дома, то яны тут хадзілі б натоўпам і ўсё адчынялі б,

то зачынялі б дзверы, юшкі, Шварцман мыў бы дзве гадзіны свае пэндзлі, яна варыла б курачку, а маладая мыла б пялёнкі. І не таму, што ім гэта патрэбна да зарэзу, а таму, што я на кухні нешта раблю. Як мяне няма — і іх няма. А варта мне толькі паказаць нос — як і яны тут. Мне ўжо нават здаецца, што яны проста стаяць пад дзвярыма і чакаюць, калі я выйду.

— Кінь ты! — Драгун верыў жонцы, але не хацеў падліваць масла ў агонь.

— Ты ўсё не верыш... Ты хочаш быць добранькі... А яны хітрыя, як ліса.

— Я і сам ведаю, што яны хочуць нас пасварыць. І яны, па-мойму, гэтага даб'юцца...

— Бо я вінавата?

— Чаму ты? Я! Я не хачу з імі сварыцца. Значыць, разважаючы лагічна, я ператвараюся ў іх саюзніка. А тады ты бачыш ува мне свайго ворага. Ці не так?

— Да гэтага яно ідзе...

— Значыць, хто ідзе ў іх на павадку?

— Ты скажаш — я, а я скажу — ты!

— Толькі давай спакойна... Каму на карысць наша сварка з імі? Толькі ім! Дык нашто нам ісці ў іх на павадку?

— Ты баішся іх, ты не хочаш з імі сварыцца, не хочаш абараняць сваю жонку! Шварцман водзіць сваю Сару на кухню, ён за яе мне горла перагрызе, а ты за сваю жонку нават слова баішся сказаць! Ты ходзіш да іх на перагаворы, на чай, абгаворваеш сваю жонку!

— Глупства!.. Супакойся, Вера, табе можа пашкодзіць... Супакойся!

— Як я магу супакоіцца? Як? Ты стань на маё месца. Стань!.. Як я яшчэ не звар'яцела, як я яшчэ жыву! Ты заўтра пойдзеш на работу, а я тут, у гэтым звярынцы, буду адна, буду хадзіць і чакаць, што зараз нехта падпусціць шпільку, што нехта будзе зларадна хіхікаць, паказваць на мяне пальцам, а калі я скажу слова, то адкажа градам калючак, ядавітых стрэл.

— Прашу цябе, супакойся! — Драгун абняў яе за плечы.

— Адыдзі! Ты мяне не любіш, не паважаеш, я для цябе — пустое месца... Твой спакой табе даражэй за маё жыццё!..— галасіла Вера.

— Што ты гаворыш? Падумай толькі! — закрычаў Драгун.— Я цябе не шкадую? Я іх баюся? Глупства ўсё гэта! Чысцейшая лухта! Я проста не хачу лезці ў кухонныя памыі, лічу гэта для сябе нізкім, нікчэмным, не вартым гонару мужчыны!

— А гонар жонкі ты лічыш глупствам? Хай на ёй ездзяць... У туалет! Вось які ты муж! За свой гонар ты можаш пастаяць, а за жончын — не хочаш. Гэта цябе прынізіць! Навошта ж ты тады жаніўся? Заводзіў сям'ю? Ты цяпер павінен абараняць гонар сям'і, а не свой уласны!

— Што ты ў гэты гонар улезла? Пры чым тут гонар? Я не хачу ісці на павадку — ні ў іх, ні ў цябе, нарэшце! У мяне ёсць свая дарога... І зварочваць з яе з-за нейкага там кухоннага бруду не збіраюся!

Гэта была тая кропля, якая перапоўніла чашу Верынага цярпення.

З цяжкасцю Драгуну ўдалося супакоіць жонку. Заснулі яны позна. Драгуну сніўся сон: нібы ён ішоў праз якое балота, дарога скончылася і невядома, што было рабіць далей. Да яго даляцеў нейкі стогн, спачатку ціха, а потым мацней. Ён ірвануўся з усіх сіл наперад — і прачнуўся.

Стагнала Вера. Ён разбудзіў яе.

— У цябе што баліць?

— Мне млосна. Дай вады...

Драгун выскачыў на кухню, прынёс шклянку вады. Але ад вады ёй стала яшчэ горай. Яе пачало ванітаваць.

— Калі праз дзесяць мінут не палепшае, я выклікаю «хуткую дапамогу»,— сказаў Драгун.

— Не трэба, пройдзе,— ледзь магла прамовіць Вера. Але прайшло дзесяць і болей, а ёй не лепшала.

Драгун апрануўся і пабег на аўтамат выклікаць «хуткую дапамогу». Здоўжылася чакаць, покуль яна прыехала, хоць і прайшло ўсяго з паўгадзіны.

Доктар агледзела Веру, паслухала сэрца і сказала збірацца. Паехаў і Драгун.

Дзяжурны доктар доўга нешта бурчаў сам сабе, доўга не мог уцяміць, што ад яго трэба.

На развітанне Вера пацалавала Драгуна і ўсміхнулася вымучанай усмешкай.

— Даруй мне за ўчарашняе... І глядзі Вальку,— сказала яна і заплакала. Яна ўжо была ў бальнічным.

— Не бойся за нас. Глядзі, каб усё абышлося добра. Бывай здарова! — Драгун памахаў ёй рукою.

Яму першы раз за іх сумеснае жыццё стала раптам страшна: а што, калі з ёю надарыцца якая бяда? Што ён тады будзе рабіць? «Тэорыя разумнага эгаізму,— усміхнуўся ён сам сабе.— Думаю перш-наперш пра сябе. Чаму гэта так скроены чалавек? Ці мо толькі я такі?»

Назад ён ішоў сваім ходам — была чацвёртая гадзіна

ночы. Горад спаў, рэдка ў якім доме свяцілася акно. Там, думаў Драгун, або прачнулася малое і маці мяняе яму пялёнкі, або хто хворы — і людзі не спяць, трывожацца за чалавечае жыццё, трымаюць напагатове нашатырны спірт ці шпрыц з камфарай... А мо і так каму не спіцца?.. Ці мала прычын? Адзін дзівак нават выйшаў у піжаме на балкон пакурыць...

Дзеці спалі. Нянька нават не прачнулася, калі Веру забіралі, а пра малую Вальку ўжо і гаварыць няма чаго: як пакінуў яе Драгун, адгароджаную ад краю коўдрай, так і застаў, толькі раскрылася.

Драгун згарнуў свой раскладны ложак і лёг з дзіцем. Валька праз сон абхапіла яго ручкамі за шыю, і ён доўга так ляжаў, баючыся варушыцца, і пазіраў у столь. Цікаў толькі гадзіннік, ды за сцяной праз сон часам ускрыквала Турбан.

Невясёлыя думкі мроіліся ў Драгуновай галаве...

Як цяжка пачынаць жыццё на голым месцы! Хоць бы нават узяць сям'ю... Мо і правільна робяць яго землякі, што не жэняцца, покуль не падрыхтуюць «базы»... Але што! Каб ён чакаў «базы», да гэтага часу гібеў бы недзе на прыватнай кватэры, спіўся б, скруціўся б, збасячыўся б. Ён добра памятае, як ахоплівала яго часам такая самота, што хацелася павесіцца або ўтапіцца. А цяпер такія думкі яго перасталі трывожыць. Ён моцна прывязаў сябе да жыцця вось гэтым стварэннем, а недзе яшчэ адна жывая істота рвецца на свет па яго волі, ды і тая, з якою ён звязаў уласны лёс, таксама патрабуе сваю долю клопату, катурхае, не дае доўга ляжаць на адным баку. Большае клопатаў — чалавек робіцца энергічны, растарапнейшы, паваротлівейшы. За тры гады свайго халасцяцкага жыцця пасля вучобы ён нічога не паспеў зрабіць — усё не было часу. Смех, дый годзе — не было часу! І гэта тады, калі ён жыў адзін, ніхто яму не мяшаў і ён нікому... А ўжо жанаты амаль за той жа час, маючы немалы сямейны клопат, напісаў кніжачку апавяданняў, распачаў аповесць. І не заядаюць яго, як тады, усякія бытавыя дробязі, як кухня, бялізна... Цяпер толькі гэтая кватэра не дае спакою... Што і казаць! Жыццё поўна ўсякіх сюрпрызаў. Неба доўга чыстае не бывае. Трэба толькі прымаць гэта як суровую непазбежнасць... Аднак чаму яна так суровая да адных і мяккая да другіх? Некалі разам з Драгуном школу канчалі два хлопцы — родныя браты Паўлюкевічы. Іх бацькі добра жылі пры старой Польшчы, мелі многа зямлі, сад і пасеку пчол. Хлопцы

выраслі як дубы. Вучыліся сярэдне, ленаваліся, хадзілі добра апранутыя, дагледжаныя. Скончылі школу — падаліся вучыцца далей, здабылі дыпломы, пажаніліся... Нядаўна Драгун даведаўся, што цяпер яны жывуць у Мінску, маюць свой дом, сваю машыну. На лета ездзяць да бацькоў як на дачу... Так, ніколі яны не перажылі і не перажывуць таго, што выпала на долю Драгуна. Яны самі і іх дзеці будуць таму здаравейшыя і шчаслівейшыя за яго і яго дзяцей.

А яго Вера? Жыла не ў раскошы, вучылася — галадала, аспірантура пачалася з няўдач, праца таксама ішла са скрыпам. А каб сказаць, што яна не ведала справы — не скажаш. Уся бяда ў тым, што яна не ўмее цярпець, не ўмее маўчаць. І ў гэтым быце таксама... Што яму той быт? Ён фактычна тут толькі начуе, а яна — жыве, на яе плячах увесь клопат пра сям'ю, пра заўтрашні дзень. А што будзе яшчэ праз гадоў колькі, калі яго жыццё крута возьме ўбок?..

Сон непрыкметна звёў яму павекі.

Нешта снілася, але калі ён раптам прахапіўся, усё разляцелася на часткі, засталіся толькі асобныя малюнкі, кавалкі, дэталі. Балела галава і была цяжкая, як з перапою. Другі раз мо ён і зрабіў бы сабе скідку, паляжаў бы яшчэ якой з паўгадзіны, але сёння — не! Сон адляцеў умомант. І першае, што ўсплыло ў свядомасці: як там Вера? Другі клопат быў меншы, але таксама блізкі: бялізна. Трэцяе: работа. Спачатку хацеў пабегчы пазваніць з аўтамата ў бальніцу, а потым падумаў: дачакаецца дзевяці гадзін і за адным скрыпам пазвоніць і на работу, адпросіцца на пару гадзін, каб расправіцца з бялізнай. Снеданне зварыць Нэля, тут клопат невялікі.

Драгун распаліў керагаз, паставіў грэць ваду, памыўся. Потым заварыў крухмал, развёў у начоўках, стаў крухмаліць бялізну: прасціны, наўлечкі, кашулі, рубашкі, дзіцячыя сукеначкі. Выходзіла гэта ў яго не надта спрытна: ён заліў усю кухню, абліў штаны, не раз што чыстае падала на падлогу, ён узмакрэў ад поту, але стараўся як мог.

На кухню выйшла заспаная, але ўжо апранутая Валька, убачыла бацьку і кінулася да яго.

— Дзе мама? — былі яе першыя словы.

— Чаго ты выбегла? Ідзі назад, я зараз прыйду і скажу табе, дзе мама.

Але малое не так лёгка было ўгаварыць. Яно з цікавасцю пазірала на бацькаву работу.

— Дай і мне што выкруціць!

— Валька, няможна табе. Я зараз сам скончу. Ідзі!

Дзіця нехаця пайшло, але зноў спытала:

— А дзе мама?

— Зараз прыйдзе,— буркнуў Драгун, і слёзы закруціліся ў яго на вачах.— Ідзі, ідзі, дачушка!

Выйшла нянька і за ручку ўцягнула дзіця ў пакой.

Заскрыгітаў ключ у замку, на кухні паказаўся Шварцман. Робячы асцярожныя зігзагі, ён абышоў усе перашкоды, дабраўся да мыцельніка. Доўга мыўся сваім лазневым мылам, пару разоў скасіў вока на Драгунову работу. Але Драгун быў так заняты, што яму было не да Шварцмана. А той як знарок стаў паволі выцірацца, усё так жа паглядваючы, як Драгун выкручвае і складвае ў таз чыстую бялізну.

— Першы раз бачу, каб мужчына ды займаўся такою работай,— глыбакадумна сказаў ён.

Гэта камплімент ці насмешка? Драгуна адразу ўзарвала.

— А што вам да таго? — выкрыкнуў ён злосна.— Ва ўсё вы ўсадзіце свой доўгі нос!

Шварцман скурчыўся і хуценька паклыпаў у сваю крэпасць. І гэта яго шчасце. Каб ён агрызнуўся, сёння Драгун не змог бы сябе стрымаць.

## 35

Дзеці зляглі неяк адно за другім, хоць старэйшая пераносіла хваробу лягчэй: высыпка ў яе на целе была невялікая. А малая Аленка ўся была як сколата іголкай — цельца густа пакрылася дробнымі чырвонымі прышчыкамі вятранкі. Месяц, як яны з Верай выпісаліся з бальніцы, дзе праляжалі таксама каля месяца, бо Вера пачувала сябе вельмі кепска: панізіўся ціск, стала падводзіць сэрца. Драгун за гэты час таксама прыкметна змяніўся: пабольшаў нос, запалі шчокі, больш стала пракідвацца сівых валасоў на скронях, а лысіна з кожным днём усё расла. Але на гэта ён не зважаў. Яго суцяшала тое, што ўсё абышлося добра з родамі. А колькі ён нацярпеўся страху! Які ж быў наіўны, калі чакаў першае дзіця! Усё здавалася так проста, звычайна, будзённа. А цяпер, праз колькі год, ён адчуваў сябе зусім іншым чалавекам: ён ужо ведаў, якая гэта цяжкая і адказная задача — радзіць на свет дзіця, ды каб яно было такое, як трэба: з ручкамі, з ножкамі, з сінімі вочкамі... А што, калі яно... Страшна нават падумаць, не толькі што вымавіць тое слова. Як вольна ўздыхнецца, калі, прыйшоўшы ў пачакальню, прачытаеш на стале ў спісе імя жонкі і супроць яго: «Дзяўчынка, вага 3700, рост 54...»

Радавала Драгуна і тое, што Вера паспакайнела, стала не такая ўзвінчаная, як раней, да родаў. Цяпер вочы яе свяціліся ціхім шчаслівым бляскам, нават рухі, паходка стала павольнай і плаўнай, яна папаўнела, твар пасвяжэў. Дзіця было ціхае, спакойнае, многа спала, добра ела. У Веры, як і першы раз, не хапала свайго малака, і Драгун хадзіў у два месцы, браў малако ў жанчын-донараў.

Пра кватэру яны пакуль што не гаварылі, баяліся абое чапаць самае іх балючае месца. Малую Аленку прыладзілі на чамаданах у вузкім праёме між ложкам і печкай, бо калыскі не было куды паставіць: усюды яна тырчала, як скула. Драгуну кватэра падпірала пад горла болей, чым Веры: ён адчуваў цяпер сваю вялікую віну перад жонкай і дзецьмі, сваю вялікую адказнасць за іх здароўе і далейшы лёс. Таму ён зноў вырашыў пачынаць усё з самага пачатку. Старшынёй мясцкома стаў свой чалавек — Маскалевіч, і Драгун адразу пагаварыў з ім. Потым разам яны пайшлі да дырэктара. Маскалевіч заходзіў да яго проста, як да сябе, Драгун па-ранейшаму адчуваў дыстанцыю.

Дырэктар сустрэў іх весела, з усмешкай.

— Шьто, загаворшьшики, шьшем пришли? — сказаў ён, страшэнна змякчаючы шыпячыя, і працягнуў доўгую касцістую руку спачатку аднаму, потым другому.— Садитесь.

Маскалевіч і Драгун селі адзін супроць другога і крыху бокам да дырэктара. Першы пачаў Маскалевіч.

— Вось тут Драгун просіць памагчы яму з кватэрай... У яго папаўненне ў сям'і, цяпер пяць душ на нейкія дзесяць квадратных метраў...

— Павел Іванавіч якраз ведае маю кватэру,— уставіў Драгун.

Дырэктар кіўнуў галавою.

Маскалевіч тым часам працягваў:

— Цяпер ён хоча, каб мы памаглі яму паскорыць чаргу...

— Як паскорыць?

— Ну, каб мы пахадайнічалі перад райсаветам. Усё ж такі ў яго 57-мы нумар, маглі б яны даць і на паўгода раней у парадку выключэння. Мы б маглі выйграць кватэру.

— Як выйграць? — дырэктар ажывіўся.

— Ну, вы самі разумееце, што ён прэтэндуе на кватэру ў гэтым доме, які мы будуем разам з Саюзам пісьменнікаў...

— Стоп! — Дырэктар працягнуў наперад узнятую далонь.— Якраз пра гэта я хацеў сказаць.— Ён пачухаў праваю рукою ля левага вуха, паклаўшы сабе далонь на пралы-

шанае цемя.— Справа з Драгуном вельмі складаная, я не збіраюся перад вамі таіць. Скажу прама: я не хачу даваць Драгуну кватэры ад выдавецтва. І не дам!.. Не пазірайце на мяне ваўкамі.— Ён абвёў вачыма здзіўленага Маскалевіча і гатовага да ўсяго Драгуна.— Драгуна прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў. Я думаю, што кватэру яму дасць Саюз. Ён намнога багацейшы за нас...

— Але ж я ўсяго паўгода як у Саюзе, а ў вас працую сёмы год,— з крыўдай у голасе сказаў Драгун.

— Для мяне гэта не важна!

— А для мяне важна,— стаяў на сваім Драгун.

— Пачакайце, спакойна! Паўтараю: для мяне важна не гэта. Для мяне важна захаваць кватэру для свайго работніка.

— А я не ваш?

— Мой, але ты можаш атрымаць у другім месцы. Няўжо да цябе не даходзіць?

— Мне ўрэшце ўсё роўна, адкуль мне дадуць. Толькі кватэра патрэбна мне цяпер, дазарэзу.

— Вось так кожны раз! — Дырэктар развёў рукамі.— Кожны думае толькі пра сябе... А мне трэба думаць пра ўсіх... Вам кватэру павінны даць ад Саюза. Вы напісалі туды заяву?

— Не...

— Напішыце, не саромейцеся... Цяпер з чаргою... З чаргою я не раю вам,— ён кіўнуў на Маскалевіча, потым на Драгуна,— падымаць шуму. І вось чаму. Калі яны даведаюцца, што мы здаём дом, да якога Драгун мае нейкія адносіны, яны адразу адашлюць яго ў выдавецтва, здымуць з чаргі.

— Дык усё ж нейкія адносіны да гэтага дома я маю? — спытаў Драгун.

— А хто ім даў права зняць яго з чаргі? — недарэчы перабіў Драгуна Маскалевіч.— Вы дазволіце закурыць?

Дырэктар і сам узяў з пачка, што ляжаў тут жа, папяросу, пачак падаў Маскалевічу.

Якраз зазваніў тэлефон. Дырэктар прыкурыў, а тэлефон усё ціха, але настойліва пазвоньваў. Урэшце дырэктар павярнуўся ўсім корпусам да тэлефоннага століка, узяў трубку.

— Важнік слухае...— Размова была адрывістай, відаць, ён не быў настроены ўвязвацца ў яе.— Я яму сказаў, што гэта не мая кампентэнцыя...— Ён нібы знарок націскаў на першае «н», якога па граматыцы тут не трэба.— Не мая... Гэтага я не рашаю... Не, не, не... Так, так... О, гэта зусім іншы

каленкор... З гэтым я згодзен... Так, так... Харашо, добра... Добра, харашо... Будзь! — і ён з усмешкай на твары паклаў трубку, потым павярнуўся зноў да Маскалевіча і Драгуна, стаў сур'ёзны.— Пра што гэта мы? — зірнуў на Маскалевіча.— Ты пытаў, якое яны маюць права зняць з чаргі? Здымуць, а потым ты будзеш даказваць, што ты не слон... Ім таксама, як і нам, патрэбны кватэры... Так што я не раю вам, Драгун, пачынаць гэтае паскарэнне.— Дырэктар зацягнуўся некалькі разоў, схаваўся ў дыме.— Давай, Драгун, цісні на Саюз. А я табе памагу. Гэта самы рэальны ход...

Тут зайшоў галоўны мастак Гуцэвіч з рэдактарамі мастацкага афармлення, яны прыняслі ахапкі нейкіх малюнкаў і эскізаў.

— Ну, прабачце, цяпер мы тут засядзем надоўга,— сказаў дырэктар і ўстаў з-за стала.

Маскалевіч і Драгун выйшлі, спыніліся на калідоры.

— Бач, гэта не ў яго кампентэнцыі,— зларадна прамовіў Драгун, націскаючы на першае «н», якога ні ў якіх кнігах не вычытаеш.— А адправіць мяне па кватэру ў Саюз, дзе я, можна сказаць, яшчэ госць, гэта ў яго кампентэнцыі? — І ён зноў націснуў на першае «н».

Маскалевіч толькі хітра ўсміхнуўся.

— Не злуй, і яму таксама не лёгка. А што слова часам няправільна вымаўляе — не вялікая бяда. Даўно вучыўся чалавек.

— Яно і відаць, што даўно. Пара перавучвацца.

Маскалевіч нічога не сказаў на гэта, толькі спытаўся, сплёўваючы на недакурак:

— Дык што будзеш рабіць?

— Пайду ў райсавет ці яшчэ куды...

— Як хочаш... А заяву ў Саюз напішы. Не пашкодзіць.

— Не буду,— упарта сказаў Драгун.— Не маю ніякага маральнага права.

Па дарозе з работы на зэканомленыя ад абеду грошы Драгун купіў паўбутэлек. Па гэтым Вера адразу здагадалася, што нешта ёсць нядобрае. Яна і без таго ўмела пазнаваць яго настрой... Вера змазвала малую Аленку нейкай маззю. Высыпка на целе трохі паблякла, ссыхалася, нібы хаваючыся ўсярэдзіну. Але дзіця яшчэ часта плакала, кепска спала і драпала твар сваімі кволымі пальчыкамі.

Вера глянула на мужа, закруціла дзіця ў пялёнкі, завязала спавівачам і паклала на пасцельку, што месцілася на чамаданах. Аленка нездаволена крахтала.

— Што там у цябе, расказвай. Думаеш, не бачу?

— Ат, нічога. Проста добры настрой, узяў чацвяртушку. Давай што перакусім.

Вера пайшла на кухню, прынясла салёных агуркоў, свежае маладое бульбы і яечню з трох яек. Да стала кінулася Валька, якая ў піжамцы ўжо хадзіла па хаце, хоць яе пасцель на канапе не засцілалі.

— Дай што дзіцяці,— сказаў Драгун да жонкі.

— Я нядаўна давала, нічога не хацела, а тут раптам заманулася ёй. На гурочак.

— Не трэба рэзкага. Дай лепей яйка.

— Добра. Еш сам.

— І ты сядай, чаго там?

— Я нанюхалася...

Валька шылася бацьку на калені.

— Дзіцятка, дай бацьку пад'есці, ён жа з работы, галодны.

Малая паклала далонь на бацькаву шчаку.

— Няпраўда, ён не халодны,— запішчала яна.

Дзіця ніяк не хацела адрозніваць двух такіх розных слоў — галодны і халодны.

Драгун наліў у чаркі пароўну.

— Ты што, хочаш, каб я ап'янела? — Вера адсунула чарку.— Пачакай, я прынясу хлебнага квасу.— І яна выйшла на кухню.

І тут жа, як порах, там успыхнула сварка, адразу на высокіх нотах. Чуліся толькі жаночыя галасы: Верын і Шварцманішын. Потым, здалося Драгуну, пачулася «плясь-плясь» — няйначай, нехта некаму па твары.

Драгун нехаця ўстаў з-за стала.

— Чаго там мама крычыць? — на ўвесь голас заплакала Валька.

— Ціха, ціха, яна зараз прыйдзе...

Драгун пачуў, як бразнулі дзверы і прагучаў рэзкі мужчынскі голас: на кухню, няйначай, выйшаў сам Шварцман.

Цяпер па ўсіх законах тактыкі і Драгуну лішне было сядзець у засадзе. На кухні сілы былі няроўныя, і ён паспяшыў туды.

Бой быў у самым разгары. Жанчыны тузалі адна адну за валасы, драпаліся пазногцямі, лаяліся і пляваліся.

— Мужычка ты, хамка! — крычала Шварцманіха.

— Я табе пакажу, як лазіць у чужы столік! Што ты там палажыла? Што? — крычала Вера.

Іх бойка нагадвала паядынак катоў, у якім многа шуму-

гвалту і нічога болей. Мо жанчыны так пакрычалі б, пашумелі б і разышліся б, але Шварцман не вытрымаў і ўкінуў свае тры грошы. Ён груба схапіў Веру за каўнер халата і пацягнуў на сябе. Вера ледзь утрымалася на нагах: каб не схапілася за край кухоннага століка, то ўпала б.

Тады Драгун таксама ззаду і таксама знячэўку схапіў Шварцмана за каўнер і тузануў назад. Шварцман адарваўся ад Веры і паляцеў да супрацьлеглай сцяны, аб якую і затрымаўся. Ён зрабіў яшчэ адну спробу прарвацца на аператыўную прастору, але Драгун рыўком адчыніў дзверы ў Шварцманавай кватэры, а потым штурхануў туды Шварцмана. Пакуль той дабягаў да супрацьлеглай сцяны, Драгун схапіў сваю Веру за руку і тут жа выштурхнуў яе з кухні ў свой пакой. Яшчэ паўхвіліны — і ён гэтак жа лоўка схапіў за руку Шварцманіху, працягнуў яе па кухні і тут жа адправіў у яшчэ не зачыненыя за Шварцманам дзверы. За гэты час ён, здаецца, нават ні разу не вылаяўся, толькі мускулы наліліся цяжкаю свінцоваю сілай.

Драгун зайшоў у свой пакой. Было ціха, толькі ў бязгучным плачы на канапе калацілася Вера, а над ёю стаяла малая Валька і гладзіла яе па галаве.

— Ты кепскі, татка, нашто ты мамку набіў? — надзьмуўшыся, сказала Валька.

І гэтыя наіўныя дзіцячыя словы разбілі адным махам усю тую халодную брылу гневу, якая толькі што ляжала ў яго на сэрцы. Драгун ад душы зарагатаў, адразу яму стала лёгка. Ён сеў за стол і цяпер толькі заўважыў, што чаркі ў іх стаяць непачатыя.

— Уставай, Вера, ды вып'ем за перамогу над супастатам,— сказаў ён ненатуральна ўзнёсла.— За гэта грэх не выпіць!

— Пі, хай ты захлынішся,— прастагнала Вера.— Я не хачу цябе бачыць! Я не хачу з табой быць ні мінуты!.. Я не магу тут жыць! Не магу!..

Драгун выпіў сваю чарку, хрумстаў агурком і думаў. Твар яго стаў сур'ёзны, здавалася, ён узважваў кожнае жончына слова, правяраў, як тую руду: а колькі ў ёй сапраўднага металу, а колькі пустой пароды. І Верыны словы паказаліся яму важкія, поўныя непадробнай пакуты, далёкія ад фальшу і найгранасці. Гэтыя словы ішлі з набалелай, перапоўненай адчаем чалавечай душы.

А чым ён мог супакоіць яе, што сказаць, каб суцешыць? Што яго, як футбольны мяч, пасылаюць па кватэру з аднаго месца ў другое? Што пры такім парадку ён зусім можа

застацца без кватэры? Не, ён гэтага не скажа датуль, покуль не даб'ецца пераломy ў сваю карысць. А ён гэтага даб'ецца, інакш...

— Супакойся, Вера. Я ведаю, што табе цяжка. Але трэба яшчэ пацярпець. Трэба! — сказаў Драгун хутчэй сам сабе, чым Веры, і наліў яшчэ адну чарку.

## 36

Парторг Пятроўскі спыніў на калідоры Драгуна, павітаўся за руку.

«Нешта ў лесе здохла, што ён мяне ўгледзеў»,— падумаў Драгун.

— Хадзем там на канапе прысядзем,— сказаў яму Пятроўскі.— Хачу ў цябе нешта спытаць.

Яны прайшлі ў самы канец калідора, селі на чорнай канапе. Спружыны праваліліся да самае рамы — канапа ўжо аджыла свой век.

— Дык што вы хацелі ў мяне спытаць?

Пятроўскі акінуў яго вялікімі чырванаватымі і стомленымі вачыма, пацягнуў сябе за вялікі нос.

— Мяне цікавіць, як вы жывяце са сваімі суседзямі,— сказаў ён пасля паўзы.

«Ужо дайшло»,— мільганула ў Драгуна ў галаве.

— А вас не цікавіць, як мы жывём увогуле? — голас у Драгуна сарваўся адразу на высокую ноту.

— Навошта такі тон? — павярнуўся да яго Пятроўскі.

— Навошта? Я не магу далей цярпець! На дзесяць метраў у нас пяць чалавек. Вам гэта што-небудзь гаворыць?

— М-да... Мнагавата...

— Вось так і ўсе... Уздыхаюць. Спачуваюць... Нібы нам ад гэтага лягчэй. А каб памагчы — ніхто пальцам не хоча паварушыць... Нядаўна хадзіў з Маскалевічам да дырэктара, думаў, што паможа, каб далі па чарзе, дык дзе там! Кажа, не варушы справы, а то зусім здымуць. І яшчэ сказаў: я табе ў выдавецтве кватэры не дам, хай даюць з Саюза пісьменнікаў. А я там паўгода яшчэ не прабыў. Але я вам як парторгу кажу, каб ведалі: я або атрымаю кватэру, або сяду ў турму. Адно з двух!

— Не кіпяціся, Драгун, што ты гаворыш! — стаў супакойваць яго Пятроўскі.— Трэба трымаць свае нервы. Ведаеш прымаўку? Дай сэрцу волю — завядзе ў няволю.

— Не страшце, я не баюся. Усе страхі ў мяне ззаду.

— Я і не збіраюся страшыць, але трэба спакойна раза-

брацца. Памятаеш, як з тым тваім выбаршчыкам, здаецца, Хурсікам? Спакойна разабраліся, пенсію далі...

— Доўга збіраліся... Дакуль можна спакойна? Спакойна ў нас даўно скончылася. Ад мяне жонка ўцякае... З дваіма дзецьмі... А куды яна пойдзе? Дзе яе чакаюць? Вы ведаеце, што яна даведзена да крайнасці, гатова палезці ў пятлю?

Пятроўскі цяжка ўздыхнуў, паварушыўся на канапе, потым пагладзіў далонню сваю бліскучую голеную галаву.

— Дарэчы, твая жонка... Ты ведаеш, што ваш сусед Шварцман падаў на яе скаргу ў ЦК?

— Ад яго можна чакаць яшчэ і не гэтага...

— І гэтую скаргу накіравалі нам — на разгляд і на рэагаванне, так сказаць. Так што рыхтуйцеся. Недзе на тым тыдні збяромся.

— Добра, будзем рыхтавацца.— Драгун устаў.— Дзякую за ўвагу.

Не адкладваючы, Драгун надумаў схадзіць у райком партыі, хоць і быў беспартыйны. Усё ж такі райком рашае ўсе важнейшыя пытанні ў раёне. Сакратаром райкома была жанчына, нехта Жалейка. На яе імя Драгун напісаў заяву і пайшоў на прыём. Перад ім сядзела некалькі чалавек, давялося чакаць з гадзіну. Урэшце ён зайшоў. Яшчэ даволі маладжавая поўная русавалосая жанчына прыемна ўсміхнулася яму і запрасіла сесці. Перад ёю на пісьмовым стале, засланым зялёным сукном, ляжаў блакнот і побач — дарагая, замежнай вытворчасці аўтаручка.

— У вас заява? Ці якая скарга? — голас у яе быў трохі басавіты, падобны на мужчынскі.

— Заява... А мо і скарга... на жыццё...

— Што, вам кепска жывецца?

— Шчыра кажучы, далей ужо няма куды.

— Што ў вас такое?

— Кватэра... Цеснавата. Пяць душ на дзесяць метраў. Восем год стаю на чарзе. Трэці год абяцаюць. То інвалідам, то дэмабілізаваным, а я на месцы... Але, ўрэшце, не гэта страшна.

Драгун расказаў, як яго пачынаюць пасылаць з месца на месца.

— Так я і зусім магу застацца без кватэры. А яна для мяне цяпер — усё: маё жыццё, мой прэстыж мужа і бацькі...

— Жонка папракае?

— Яшчэ горай! Яна ўвогуле збіраецца ўцячы ад мяне...

— А мо вы перабольшваеце?

— Наадварот, я змякчаю. Сітуацыя вельмі цяжкая. Мы

пасварыліся з суседзямі, яны напісалі на нас скаргу ў ЦК... Бачыце, мы ім перашкаджаем жыць, а яны нам — нічуць. Яго зяць з сям'ёй — чатыры чалавекі — прыехалі недзе з Гомеля, жылі тры месяцы і атрымалі кватэру. А я восем год стаю на чарзе! Якім жа вокам глядзіць на мяне Шварцман? Ён насміхаецца... І ён мае рацыю. Яго зяць нейкі там інжынер, атрымаў трохпакаёвую кватэру, а я рэдактар, нейкі нават пісьменнік — і жыву ў нары. Тут ужо дамешваецца палітыка.

Сакратар нешта запісвала ў сваім блакноце.

У канцы Драгун сказаў:

— Я вельмі прашу вас як-небудзь пераканаць ці паўплываць на нашага дырэктара Важніка — каб ён не ганяў мяне, як футбольны мяч па полі. Усё-такі я ў яго працую сем год...

— Я вам абяцаю прасачыць за гэтым.— Сакратар паклала ручку на раскрыты блакнот.— І пагаварыць з Важнікам. Дарэчы, гэта мы зробім цяпер. Які ў яго тэлефон?

Драгун сказаў. Яна зняла трубку і стала набіраць нумар. Спачатку было занята. Яна пачакала хвіліну і пазваніла яшчэ раз.

— Алё! Таварыш Важнік?.. Добры дзень! Гэта з райкома, Жалейка. Мяне цікавіць, як у вас там з кватэрамі, калі маецеся здаваць дом?.. Пад Новы год?.. А ці намячаеце вы кватэру Драгуну, вашаму рэдактару?.. Чаму? Ага... Ага... Ага... Вы так лічыце? Для яго крыўдна... Добра, добра. Бывайце здаровы... Я пакідаю за сабой права пазваніць вам яшчэ раз... Калі ласка.— І яна паклала трубку.

Потым узяла ручку, перапытала яшчэ раз нумар тэлефона.

— Дырэктар паўтарыў тое, што і вы сказалі. Аднак ён абяцаў дамовіцца з Саюзам пісьменнікаў, а не рашаць без яго... Вас, здаецца, два члены Саюза? Вось ён і кажа: аднаму я дам, а другому хай дае Саюз.

— Калі ўжо так, дык мой таварыш стары член Саюза, а ў выдавецтве нядаўна... Каму як не яму ісці ў Саюз па кватэру?

— Мо тут што асабістае? — Жалейка ўсміхнулася шматзначна.— Бывае ж і так?

Драгун сцепануў плячыма.

— Можа, і так...

— Але вам, відаць, усё роўна, ад каго атрымаць кватэру...

— Пры цяперашняй сітуацыі — то так, а ўвогуле гэта несправядліва... Аднак я заседзеўся ў вас... Ведаеце, у мяне

трохі палягчэла на сэрцы... Шчыра вам дзякую,— сказаў Драгун і ўстаў з крэсла.

— Няма за што,— сціпла адказала Жалейка.

Цяпер Драгуны з дня на дзень чакалі, калі ім скажуць прыйсці на разбор «персанальнай справы». І, як ні дзіўна, настрой іх палегчаў, была нейкая надзея на развязку, а якая тая развязка — ужо нават не важна. Ды, урэшце, што яны зрабілі Шварцманам? Укралі што, білі іх, здзекаваліся?.. А Шварцманы нешта хадзілі панылыя, і ніяк не радаваў іх той дзень і час, калі трэба будзе перад людзьмі даказаць тое, што яны напісалі ў ЦК.

Нарэшце дзень прызначылі. Але па просьбе Шварцманаў тэрмін пераняслі. І яшчэ адзін раз перанеслі. Шварцман не згодзен са складам камісіі. Недзе скардзіцца, недзе піша яшчэ адну заяву. Кожны дзень у Шварцманаў нейкія людзі. Нешта раяцца, пра нешта спрачаюцца, нешта даказваюць.

Аднак хопіць адкладваць!

Разбор намячаюць перад самым Новым годам, далей цягнуць няма куды: пятніца, восем гадзін вечара, выдавецтва.

І вось усе сабраліся, няма толькі Шварцманаў. З невялікім спазненнем прыходзяць яго жонка і дачка. А самога Шварцмана няма, яны кажуць, што захварэў. Камісія радзіцца. Адкладваць яшчэ раз? Не, калі Шварцман не прыйдзе, справу закрыюць — і канец... Тады дачка спускаецца ўніз на некалькі паверхаў і прыводзіць «хворага» бацьку ўласнай персонай.

Урэшце ўсе ў зборы. Ад выдавецтва — парторг Пятроўскі і старшыня мясцкома Маскалевіч. Ад арганізацыі, дзе працуе Шварцман, таксама два чалавекі — Каткоў і Абражэвіч.

Справу вядзе Маскалевіч.

— Таварышы! У ЦК прыйшла скарга ад таварыша Шварцмана. Паколькі скарга датычыцца нашых работнікаў Драгуноў, і, перш за ўсё, Веры Драгун, то ЦК пераслала нам гэтую скаргу, каб мы разабраліся і далі адказ — не пазней як праз два тыдні. Сёння якраз апошні дзень... Як будзем рабіць? Я думаю, што спачатку мы зачытаем заяву таварыша Шварцмана?

— Зачытаць, зачытаць,— кажуць мужчыны.

Маскалевіч бярэ заяву, садзіцца за стол і чытае. Заява

доўгая, чатыры старонкі на машынцы. Многа агульных фраз, палітычных вывадаў, але зусім мала фактаў. Яна (Вера Драгун) грубая, невыносная, высакамерная, ярая антысемітка. Ён (Драгун) спачатку вёў сябе культурна, а пад канец рэзка перайшоў на яе бок. Іх мэта — выжыць суседзяў і захапіць іх жылплошчу. Некультурныя, неахайныя, нявыхаваныя, у такім жа духу выхоўваюць сваіх дзяцей, настройваюць супраць іх сваю няньку.

Маскалевіч скончыў чытаць, памаўчаў, а потым спытаўся:

— Як цяпер? Мо будзем разбіраць па пунктах?

— Правільна. Хай Вера Платонаўна дае адказы на ўсе закіды таварыша Шварцмана,— прапанаваў Пятроўскі.

Сталі разбіраць па пунктах. За агульнымі фразамі, за вялізным уступам стаяла на першым месцы, што Вера Драгун абазвала іх сына «жыдзянём пархатым».

— Было гэта ці не? — спытаў Маскалевіч у Веры.

— Было... Не стану пярэчыць... Але за што яго сын атрымаў такую абразу, Шварцман не напісаў. А чаму? Варта было б напісаць! Яго сынок выйшаў на кухню і стаў чысціць чаравікі, а я варыла абед. Я сказала яму, што так некультурна рабіць, можна выйсці на балкон, на дварэ цёпла. А ён нават не зварухнуўся, чысціць далей. Тады я ўсыпала яму гарачых... А што, я павінна цярпець усякаму хаму?

— Сама ты хамка! — ускочыла з канапы Шварцманіха.— Ты не ўмееш з людзьмі гаварыць!

— З якімі людзьмі? З вамі? Вас я не лічу за людзей...

— Таварышы жанчыны, перастаньце! Мы не прыйшлі сюды сварыцца! — спыніў іх Маскалевіч.

— Вы чуеце, яна сама прызнаецца, што не лічыць нас за людзей! — трагічна ўсклікнуў Шварцман, паказваючы на Веру.

— Дазвольце мне скончыць сваю думку,— папрасіла Вера і ўзняла ўгору руку.

— Канчайце, толькі спакойна,— папярэдзіў Маскалевіч.

— Чаму я не лічу іх за людзей?.. Не таму, што я антысемітка, як хоча даказаць Шварцман... А таму, што самі Шварцманы, яшчэ не перасяліўшыся сюды, ужо не лічылі нас за людзей. Яны перасяліліся, прабачце, як злодзеі, не палічылі нават, што з намі, суседзямі, трэба пазнаёміцца. Яны перш-наперш устаўлялі новыя замкі, бо думалі, што да старых мы ўжо дарабілі ключы. Цэлы тыдзень Шварцман начаваў там адзін, баяўся, што мы ўсё-такі ўломімся ў іх кватэру.

— Бо мы вас ведалі яшчэ да таго, як перасяляліся,— уставіў Шварцман.

— Вам нагаварылі Плоткіны... Яны знарок раздзімалі кадзідла, каб ачарніць нас, даказаць, што з намі нельга жыць, што ім трэба даць новую кватэру. І вы з першага ж дня пераянялі іх тактыку — і хочаце зноў спекуляваць на гэтым, дабівацца сабе лепшае кватэры. Прабачце, мы не марскія свінкі, каб ставіць на нас такія доследы. Мы людзі і не дазволім вам прыніжаць нашу чалавечую годнасць...

— Вы страцілі ўсякую чалавечую годнасць яшчэ даўно, яшчэ як працавалі ў немцаў! — крыкнуў Шварцман і рукою, як пікай, зрабіў выпад у Верын бок.

— Не лезьце бруднымі рукамі не ў сваё! — ускіпела Вера.— Я працавала ў немцаў па заданні атрада і не збіраюся перад вамі рабіць справаздачу! А наконт чалавечай годнасці вы памаўчыце! Вы не ведаеце, што гэта такое!

Маскалевіч устаў з-за стала.

— Канчайце сварку... Пераходзім да другога пункту... Прашу цішэй! Другое абвінавачанне, што Драгуны настройвалі супраць іх сваё дзіця, што малая нават наліла вады ў іх варэнне... Што вы на гэта скажаце, Вера Платонаўна?

Вера абвяла ўсіх вачыма, толькі не дайшла да Шварцманаў, якія займалі канапу.

— Тут усе бацькі, гадавалі дзяцей і, думаю, ведаеце, што дзеці часам лепш за нас адчуваюць, хто ім жадае дабра, а хто іх вораг. Наша дзіця ніколі не хацела ісці да Плоткіных, хоць яго мы ніколі не агітавалі не хадзіць туды. І да Шварцманаў яно не гарнулася. Дык ім здалося, што мы настройваем дзіця... І вось Шварцман ужо ўцягвае ў гэтыя кухонныя памыі нават малое дзіця, хоча выставіць яго сваім ворагам: бачыце, яно наліло вады ў варэнне. Як вам не сорамна гаварыць такое глупства, вы, стары чалавек!

Маскалевіч перабіў Веру.

— Вера Платонаўна, дык вы кажаце, што дзіця не ліло вады ў варэнне?

— Даю галаву на адрэз, што не ліло!

— А Шварцманы... Вы бачылі, што дзіця ліло ваду?

Шварцман глянуў на жонку, тая панікла, апусціла долу вочы.

— Я не бачыла... але я пакаштавала варэнне, і мне здалося, што ў ім замнога вады,— выціснула з сябе Шварцманіха.— А на кухні нікога не было, толькі дзіця выбягала на балкон... да суседзяў.

— I ўсё-такі вы сцвярджаеце, што дзіця наліло вам у варэнне вады? — не адставаў Маскалевіч.

— Я не сцвярджаю... але думаю, што гэта яго... работа...

— Гэта работа вашай хворай фантазіі! — сказала Вера.

Маскалевіч толькі глянуў на яе, але нічога не сказаў.

— Пайшлі далей.— Ён зашастаў аркушамі заявы.— Тут сказана, што Драгуны натраўлялі на іх сваю няньку, дазвалялі ёй гаварыць усялякія грубасці суседзям. Скажыце, Вера Платонаўна, праўда гэта ці не?

— Ніякай праўды тут няма... Гэта яны настройвалі нашу няньку супраць нас, чарнілі нас перад ёю, гаварылі, што мы ёй мала плацім, кепска апранаем, дрэнна кормім, прымушаем многа працаваць. А нянька нам усё расказвала, і мы разам смяяліся з вас. Вам не спадабалася тое, што наша нянька не захацела быць вам служанкай, не згадзілася купляць вам малако і бульбу. Вам хацелася, каб яна ад нас уцякла, каб мы зноў жылі на адну зарплату, каб мы не вылезлі з беднасці. Вось чаго вы дабіваліся. Мой муж папярэдзіў іх, і ад нянькі яны адчапіліся.

— Таварыш Шварцман, ці папярэджваў вас Драгун наконт нянькі? — спытаўся Маскалевіч у Шварцмана.

— Ён гаварыў, але гэта было беспадстаўнае абвінавачанне. Мы да іх нянькі нічога не мелі.

— А ці скардзілася больш нянька пасля таго, як вы, Драгун, гаварылі з таварышам Шварцманам? — спытаў Маскалевіч у Драгуна.

— Пакуль што не скардзілася.

— Ясна,— падвёў вынік Маскалевіч.— Пайшлі далей. Самае цяжкае абвінавачанне... Надпісы... Прыкладаецца фотакопія... Гэта вы пісалі, Вера Платонаўна?

— Я...

— Чым гэта было выклікана?

— Хай вам на гэта адкажа Шварцман. Ён спецыяліст... Павучальныя надпісы на сценах — гэта яго вынаходства.

Маскалевіч недаверліва глянуў на Веру, потым на Шварцмана.

— Растлумачце, таварыш Шварцман,— папрасіў Маскалевіч.

— Я сапраўды прыклеіў запіску, як карыстацца вадой на кухні і як карыстацца туалетам... У мяне былі самыя лепшыя намеры. А яна сарвала іх і напісала такое, што я рашыў зняць копіі... Вы толькі пачытайце. Гэта ж сорамна!

— А што сорамна? — ускочыла Вера.— Вы вучыце мяне, як карыстацца туалетам? Навучыце лепей свайго сына,

які праседжвае ў туалеце па паўгадзіны і невядома чым там займаецца, а я павінна бегчы да суседзяў па патрэбе, прабачце за натуралізм. Я восем год пражыла ў інтэрнаце, правілы агульнажыцця ведаю лепей за вас. Таму я і прыклеіла на месцы вашага плаката свой!..

Прыблізна ў такім плане ішоў і далей разбор «палітычнай» заявы Шварцманаў.

Вось некалькі вытрымак з выступленняў, якія цягнуліся ажно да гадзіны ночы.

*Пятроўскі.* Шварцман не сказаў у сваёй заяве, у якім становішчы знаходзяцца Драгуны, а ў якім яны самі. Калі людзям цяжка, не трэба наступаць ім на балючае месца. Шварцман злоўжываў цярпеннем Драгуна, і мо ў тым яго віна, што Вера Платонаўна брала ўвесь цяжар кухоннай вайны на сябе. Мужу не варта было пускаць жонку першай.

*Каткоў.* Шварцмана я ведаю даўно. Ён добрасумленны работнік. Але скажу адкрыта: ён цяжкі чалавек. Хто з ім жыў, усе скардзяцца на яго. Праўдзівей, ён на ўсіх скардзіцца, хоць, як правіла, пачынае першы ён сам.

*Абражэвіч.* Такія людзі, як Шварцман, кідаюць цень на сваю нацыю, бо рысы яго цяжкага характару механічна пераносяцца на ўсіх яўрэяў. Вось чаму мы здзіўляемся, што антысемітызм такі жывучы. Якраз ён і жывіцца за кошт такіх людзей, як Шварцман.

*Драгун.* Упэўнены, што Шварцманы зноў пачнуць першыя. Але цяпер я не стану ўжываць стары метад, бо ён сябе не апраўдаў. Яны палічылі, што я іх баюся, і лезлі на галаву. Цяпер гэтага не будзе.

*Маскалевіч.* Нічога палітычнага я тут не бачу. Звычайная кухонная баталія. Калі б у Веры Драгун былі мацнейшыя нервы і больш гумару, з усяго гэтага можна было б смяяцца.

## 37

Пасля кухоннай баталіі надышла цішыня. Абодва бакі змагліся, асабліва Шварцманы. Гэтулькі сіл патрацілі, і ўсё дарэмна! Няйначай, цяпер яны ламалі сабе галаву, якую тактыку ўжыць на далейшае, бо старая, плоткінская, сябе не апраўдала. Здаецца, нават нашкодзіла: сваім шумам яны памаглі давесці некаторым, што Драгуны жывуць у жахлівых умовах. А ў Драгуноў трохі адлягло на сэрцы: на даляглядзе загарэлася зорка надзеі на тое, што кватэру дадуць. Няважна, урэшце, па якой лініі. Нават калі ад Саюза ці ад

работы, то ў адным і тым жа доме, бо дом на двух паях — выдавецтва і Саюз пісьменнікаў.

У абед аднаго разу Драгуны згаварыліся пайсці паглядзець той дом. Ён якраз быў недалёка ад іхняй работы.

— Глянь, колькі часу,— напомніла Вера,— каб ведаць, колькі ісці.

— Хвілін дзесяць, не болей,— адказаў Драгун.

Ішлі моўчкі, хоць кожны думаў пра адно і тое ж. Але каб не спалохаць свайго шчасця, хай на яго... Снег парыпваў пад нагамі, Вера коўзалася ў сваіх чаравіках на скуранай падэшве, і Драгун вёў яе пад руку, бо ў яго самога туфлі былі на мікрапоры, і на зямлі ён стаяў цвёрда.

— А што табе ў Саюзе сказалі, як насіў заяву?

— Нічога. Якраз яны абмяркоўвалі кандыдатуры. Засядала жыллёвая камісія. Мяне туды піхнулі сілаю, я аддаў заяву Кулаковічу і хацеў ісці, але затрымалі. Спыталі, колькі метраў старая кватэра, якія ўмовы. Я сказаў, што ўмоў ніякіх, плошча трохі болей як дзесяць метраў. Стараўся вельмі не скардзіцца...

— Ах, які ты сціплы...

— А што? Яны ўсё роўна пойдуць глядзець.

— Мала што... Пойдзе два чалавекі.

— Яны і раскажуць.

— Ай, з табою нельга гаварыць,— успыхнула Вера.— Ты ўжо лічыш, што нічога не трэба рабіць, усё вырашана.

— А хто нядаўна прасіў зазначыць час?

— Гэта я так сабе... Ніяк не магу паверыць, што мы будзем жыць па-чалавечы.

— І я... Пяць год у інтэрнаце, пяць на прыватнай, пяць у тым каземаце з агульнаю кухняй. Пятнаццаць год, пятнаццаць лепшых год! — усклікнуў Драгун.

— Ну, у інтэрнаце яшчэ можна жыць.

— А я не любіў інтэрната. У ім вечны шум. Як вулей. Якія чатыры гадзіны там спакойна — з дзвюх гадзін ночы да шасці раніцы. А там зноў гудзе...

— Затое весела.

— Весела, але затое нічога нельга рабіць. Нават чытаць, я ўцякаў у бібліятэку.

— Вельмі ты далікатны.

Драгун нічога не сказаў. Яны падыходзілі да дома. Дом быў высокі, пяціпавярховы, з вялізных бетонных блокаў.

Яны зайшлі ў сярэдні пад'езд, на першы паверх. Ішлі малярныя работы, дзверы былі насцеж парасчыняны. Працавалі пераважна дзяўчаты.

— Калі здаяце дом? — спытала Вера, павітаўшыся.
— Калі скажуць,— адказала адна, уся ў заляпаным фарбай старым камбінезоне, які нязграбна аблягаў усю яе тоўстую фігуру ў фуфайцы.
— Малайцы, дзяўчаты! — пахваліў іх Драгун.— З такімі не прападзеш! Начальства такіх любіць.
Дзяўчаты зарагаталі.
— А вам што, не цярпіцца? — спытала другая.
— Яшчэ і як, дзяўчаткі,— сказала Вера.— Я гэты дом нават у сне бачу. Хіба вы самі не перажывалі такога моманту?
Дзяўчаты зноў засмяяліся.
— Мы і цяпер перажываем,— сказала першая.
— Што, і вам даюць кватэры?
— Даюць, а як жа! Ганчар гаршкі лепіць, а сам у чарапох варыць... Так і мы. Зробім — і вам аддамо. А самі — у інтэрнаце звякуем.
— Няўжо праўда? — здзівілася Вера.
— Я ўжо дзесяць год у інтэрнаце. Пяць як замужам, ёсць дзіця, а ўсё роўна нікуды не дзенешся,— сказала самая старэйшая з іх, фарбуючы дзверы «слановай косцю».
— Каб нашым начальнікам давалі кватэры апошнім, то ўжо ўсе даўно мелі б,— сказала першая,— а то што ім? Яны ўладкаваліся і думаць пра нас забылі.
— Ну, вы ўжо ў палітыку лезеце,— зазначыў Драгун.
— Якая тут палітыка? — нічуць не разгубілася дзяўчына.— Я свайму прарабу тое самае кажу, а ён толькі смяецца. Ён даўно мае добрую кватэру.
— Ён два разы памяняе, пакуль табе раз дадуць,— сказала тая, што фарбавала дзверы.
Драгун уздыхнуў. Ён і сам ухваляў жалезны флоцкі закон: капітан пакідае карабель, што пачаў тануць, самы апошні. Каб такі закон увялі пры размеркаванні кватэр!
Пагаварылі яшчэ трохі, пасмяяліся, паскардзіліся на лёс адны і другія — і Драгуны пайшлі. Рабочыя таксама не паверылі, што ёсць яшчэ такія «інтэлігенты», як яны, без кватэры. Так і не сказалі, калі ж здадуць гэты дом. Але на душы ў Драгуна трохі пасвятлела. Усё ж такі не за гарамі тое свята.
А нешта праз тыдзень Драгун даведаўся, што ў Саюзе пісьменнікаў вывесілі спісы і што ён, Драгун, ёсць у гэтым спісе. Ён не паверыў вушам і адразу паехаў у Саюз. І праўда, Драгун красаваўся ў спісах недзе ў сярэдзіне — прэ-

тэндаваў на два пакоі, а яго пакой намячалі аддаць паэту Фальскаму-малодшаму.

Праз дзень у тым жа Саюзе, перш чым зацвердзіць, абмяркоўвалі той самы спіс. Народу сышлося болей, чым на які сход з самай цікавай павесткай дня: прасторны клуб нават не ўмяшчаў усіх людзей.

Ва ўступным слове старшыня жыллёвай камісіі празаік Кулаковіч, невысокі павольны чалавек з чорнымі прылізанымі валасамі і шырокім носам, даў агульны малюнак сённяшняга жыллёвага стану членаў Саюза пісьменнікаў. На дваццаць пяць кватэр было пададзена 65 заяў, і пераважна ад людзей, якія жывуць на прыватных кватэрах або ў бараках ці аварыйных дамах, адным словам, ад людзей, якім трэба памагчы. Многа заяў ад маладога папаўнення. Добра прымаць у Саюз, але адразу давай кватэру! Ёсць нават заявы ад тых, што яшчэ не прыняты... Вялікую групу складаюць нашы паважаныя ўдовы, жонкі нашых таварышаў, многія з якіх памерлі заўчасна і імёны якіх доўгі час былі забаронены. Усяго разам у нас 75 удоваў. І большасць з іх жыве ў кепскіх умовах. Абавязак нашага літфонду — памагчы ім у самы бліжэйшы час. На жаль, дваццаць пяць кватэр не вырашаюць гэтай праблемы адным махам, аднак патрохі мы зможам палепшыць умовы тым, каму асабліва цяжка,— гаварыў Кулаковіч.

Потым ён стаў зачытваць прозвішчы ў спісе і пытаўся ў залы:

— Пакінуць у спісе ці не?

Пакінуць у спісе — гэта даць кватэру, не — не даць.

Зала шумела, выкрыквала, лаялася, плакала, рагатала. Некаторыя з тых, каму намячалі два пакоі, прасілі тры, тым, каму адзін — патрабавалі два, а хто зусім не трапіў у спіс — а такіх было найбольш — паводзілі сябе развязна, мужчыны шумелі і лаяліся, жанчыны — плакалі і сыпалі праклёны. Ва ўсякім разе, яны нічога не трацілі.

Сам Драгун маўчаў, хоць і сядзеў, як на баране. А Вера нават не пайшла на гэтую цырымонію — баялася, што не вытрымаюць нервы.

Прозвішча Драгуна зала ўспрыняла стрымана, хоць сямтам пачуліся галасы:

— Толькі прынялі ў Саюз — і ўжо кватэру!..

— Хай палучае ў выдавецтве!

Кулаковіч растлумачыў, што гэта якраз па дамоўленасці з выдавецтвам.

Галасы сціхлі. І тут папрасіў слова Фальскі-малодшы.

— Нядаўна я ажаніўся,— пачаў ён, але яго перабілі.

— Скажы спачатку: развёўся! — крыкнулі з залы.

Ён не адказаў на рэпліку і працягваў:

— Спадзяваўся, што Саюз дасць мне магчымасць уладкавацца па-чалавечы. І што ж я ўбачыў? Мяне адпраўляюць жыць у такую нару, што мне стала страшна! Ні адзін нармальны чалавек — хай даруе мне Драгун — там доўга не пражыве. Там жа катарга! Там няма ніякіх санітарных умоў, там халодная кухня з цэментавай падлогай, вечны змрок, холад і вільгаць, не гаворачы ўжо пра цеснату. А суседзі! Божа барані мяне ад такое кватэры! Калі я нават буду паміраць пад адкрытым небам, у такую, з дазволу сказаць, кватэру ніколі не пайду! І прашу камісію яшчэ раз перагледзець спіс і ўлічыць маю просьбу, а не даваць тое, што з носа спадзе.

Драздоў, які сядзеў побач з Драгуном, нахіліўся да яго і шапнуў на вуха:

— Ну, цяпер ты, Драгун, моцна акапаўся.

Драгун толькі стрымана ўсміхнуўся: здаецца, яго пакідаюць у спісе.

Сход яшчэ цягнуўся з гадзіну, але Драгун, стомлены напружаннем, ужо не так востра ўсё перажываў. Дзіўная чалавечая натура! Чужая рана не баліць... І нават чужыя слёзы не заўсёды кранаюць. За ўвесь гэты час ніхто не адмовіўся ад свае кватэры ў нечую карысць, усе крычалі толькі за сябе.

І кантрастам гучалі ціхія роўныя словы ўдавы пісьменніка Пяткевіча.

— Хіба я вінавата,— гаварыла ўся белая, маршчыністая і слабая, хоць яшчэ не зусім старая па гадах жанчына ў чорнай сукенцы,— хіба я вінавата, што засталася адна? Хай бы ён забраў мяне з сабою на той свет, я была б шчаслівейшая. Я пажыла з ім пяць гадоў — і яго пасадзілі... І што я бачыла цэлых дваццаць год пасля таго?.. Кім я толькі ні працавала і дзе я толькі ні была?.. І вось мая старасць... Няўжо яго жыццё і мае пакуты каштуюць менш, чым тая аднапакаёвая кватэра, якую я прасіла?

Кулаковіч раз-пораз выціраў свой круты лоб, які пакрываўся потам. Сёння Кулаковічу было цяжка. Але ўсё ж такі ён папацее колькі гадзін — і канец, пойдзе дадому, у сваю трохпакаёвую кватэру, а вось тыя, што сёння прымушаюць яго пацець, будуць самі пакрывацца цыганскім потам яшчэ невядома колькі год. Кулаковіч трымаўся надзіва спакойна і стрымана, і чым ён быў спакайнейшы, тым болей,

па сабе ведаў Драгун, кіпела ў яго ў душы. Гэта ўжо такі характар у чалавека... Няўжо ён такі і дома? — пытаў сябе Драгун. Ён і сам на людзях быў ціхі, аж занадта, асабліва сярод малазнаёмых, а ў сваім, блізкім асяроддзі адчуваў сябе натуральна, вольна і быў усялякі: на кепскае рэагаваў бурна, чырванеў ад гневу, са смешнага гучна рагатаў, аж браўся за жывот, на дзіця пакрыкваў, любіў, каб яго каманды тут жа выконвалі, хоць сам цярпець не мог, калі ім камандавалі... Драгун лавіў сябе на тым, што ён па характары нечым падобны да Кулаковіча. Гэта нават відаць і на творчасці, калі тое, што пісаў Драгун, можна ўжо назваць творчасцю: абодва расцягвалі, часта нават надакучліва-нудна вялі на адной ноце...

І яшчэ адно пераконанне выносіў Драгун з гэтага сходу. Хто ўмее моцна плакаць, крычаць, бедаваць, таму хутчэй дадуць, чым другому, які спадзяецца на законнасць, на справядлівасць: маўляў, і так відаць, як я жыву, усе бачаць, усё улічаць — не абдзеляць, не абыдуць. На практыцы было зусім не так! Цяпер Драгун лаяў сябе за непаваротлівасць і маруднасць, за гэтую марную надзею, што камісія ўбачыць яго цяжкі стан... Бач, як Фальскі ўмее пастаяць за сябе! Каб ён жыў у такой кватэры, як Драгун, ён ужо даўно вырваў бы сабе тое, што трэба!

Драгун прыйшоў дадому задыханы і мокры ад поту. Калі ён сказаў жонцы, што ім даюць кватэру, Вера спачатку не паверыла, а потым абняла яго, стала цалаваць і плакаць.

— Мо я была кепская, злая, нячулая з табою, то даруй... Мне было цяжка...

— Я табе веру... І дарую. А ты даруй мне, што я быў непаваротлівы, мала стараўся, мала дабіваўся...

Драгун пасадзіў Веру на канапу, а Валька ўзабралася яму на калені, падскоквала і ўсё паўтарала, як папугай:

— Мы паедзем на новую кватэру... А мы паедзем на новую кватэру! Чуеш, Аленка, мы паедзем на новую кватэру!

— Цішэй, Валька,— супакойваў яе Драгун.— Дай пагаварыць з мамай!.. Сёння я паглядзеў, што не трэба вельмі спадзявацца на справядлівасць... Каб я не хадзіў гэтыя два ці тры месяцы, а сядзеў склаўшы рукі, то невядома, ці далі б нам кватэру... А мо і далі б? Чорт яго ведае, як лепш...

— А калі мы паедзем на новую кватэру? Заўтра? — не адставала Валька.

— Трохі пачакай. Яшчэ не далі ордэр.

— Табе дадуць ордэн? За што?

— За тое, што многа цярпеў,— адказала за яго Вера.

— Якраз табе такі ордэн больш падышоў бы.
— Куды там! Я якраз нецярпячка...
— Нецярпячка, нецярпячка, глядзі, цябе затопча качка,— лапатала Валька.— Калі мы паедзем на новую кватэру?
Бацька і маці смяяліся, бачачы, як адразу ажыло дзіця.
— То давайце збірацца! Чаго вы расселіся? — тузала Валька бацькоў за рукі.
— Ціха, дачушка, збяромся, яшчэ рана.
Дзіця пачало плакаць.
— Якое рана? Ужо вечар... Кватэру даюць, а збірацца не хочуць... Вось людзі...
Пасля вячэры доўга не маглі ўгаманіцца. Потым дзеці паснулі, а Драгун і Вера ўсё шапталі адно другому ўсялякае глупства, будавалі планы. Вера ад радасці была на сёмым небе. Яна размалявала ўсё ў такія ружовыя фарбы, што ў Драгуна ажно мігцела ў вачах. Купім тое, купім гэта, паставім так, паставім тут... Драгун толькі смяяўся.
Назаўтра яго чакала яшчэ адна радасць: з Масквы прыйшоў грашовы перавод на трыста рублёў (новымі грашыма) за апавяданне, надрукаванае ў зборніку.
А потым атрымаў на рукі ордэр і ключы. Дзіўна, што ў той дзень Драгуну выпісалі два ордэры! Пра гэта ён даведаўся ад Жывіцы, якая была ў камісіі па размеркаванні кватэр у выдавецтве. Другі ордэр яму выпісалі па чарзе, на якой ён прастаяў роўна дзевяць год. Драгун толькі вылаяўся сам сабе. Іронія лёсу! Як паўгода назад ён прасіў-маліў у райсавеце, каб яму далі кватэру па чарзе, бо далей нельга цярпець, ніхто нават не паварушыў пальцам. А цяпер яму ў адзін дзень выпісваюць два ордэры! Якая шчодрасць!.. Ды д'ябал яго бяры! Усё ўжо ззаду, у яго ордэр і ключ на руках, а гэта — дробязь, якая толькі на момант скрабянула па сэрцы.
Цяпер заставалася толькі пераязджаць.
Драгун дамовіўся з хлопцам,і узялі нейкі грузавік з друкарні і за адзін раз перавязлі ўсё Драгунова багацце.
Шварцманы некалькі разоў выглядалі праз шчыліну, назіралі, як іх ненавісныя суседзі выязджаюць. Няйначай, яны зайздросцілі Драгунам.
А на Драгунова месца перабіраўся малады хлопец, журналіст з літаратурнай газеты.
Пазней Драгун пачуў, што не паспеў ён сюды пераехаць, як Шварцман ужо напісаў заяву ў райсавет, што яму падсяляюць нейкага п'яніцу, бабніка і разбэшчанага тыпа.

# 38

Пасля цеснаты новая кватэра здалася Драгунам зямным раем. У тым пакоі нельга было ні размінуцца, ні прайсці з-за мэблі, а тут яе не было нават відаць. У кухні паставілі столік, у зале — вялікі круглы стол, куплены ў Плоткіных, іх жа цяжкі нязграбны сервант, а кніжная паліца, якой там закрывалі забітыя ад Турбан дзверы, сціпла прымасцілася ля капітальнай сцяны. Канапа зусім стала маленькай і непрыкметнай, і месца, здаецца, займала палавіну менш, чым у той кватэры. У спальні паставілі старую сваю невялічкую шафу, ложак, дзіцячую драўляную калыску на ножках, раскладное крэсла-ложак, на якім спала старэйшая, Валька. Голыя пясочнага колеру сцены, белая столь, іржава-ядавітая падлога, на якой паслалі адну-адзіную дарожку, што Драгун купіў яшчэ халасцяком,— вось і ўсё іх багацце.

Першыя дні была толькі вада. Потым далі электрычнасць, сталі грэць батарэі. Якраз на дварэ стаялі лютыя маразы, вецер дзьмуў у вокны і высвістваў хату за ноч. Днём трохі цяплела. А мо так проста здавалася, таму што чалавек днём варушыцца, нешта робіць. На другі ж дзень забіліся каналізацыйныя трубы, і ў Драгуноў у туалеце сантэхнікі адкрылі цэлую майстэрню: знялі ўнітаз, у трубу загналі доўгі жалезны прут і перылі па ім молатам... Казалі, што ў трубу трапіў раствор і застыў там... Пацелі доўга, але ўрэшце прабілі той бар'ер. Наладзілі ўсё, прыкруцілі «выратавальны» круг, бо першы ўжо нехта паспеў зняць.

Газ праводзілі неяк доўга, гатаваць даводзілася на электрычнай плітцы. Потым газавікі перарабілі духоўку, уставілі сваю трохражковую гарэлку. Сталяр прыладзіў французскі замок. Праз некалькі дзён прыйшлі майстры абіваць дзверы. Драгуны адразу згадзіліся: першы паверх, і шум, і холад не так будуць пралазіць у кватэру.

Першы тыдзень увесь дом аж развальваўся ад стуку — у бетонных блоках людзі, як дзятлы, выдзёўбвалі дзіркі, каб можна было развесіць фіранкі, шторы, карціны.

Потым Драгуны зрабілі невялікую замочку, «улазіны», і Вера сказала аднойчы мужу, што ад іх трохсот рублёў нічога не засталося.

— Бачыш, усяго па тры, па пяць рублёў, і няма. Вось колькі патрэбна для новай кватэры,— разважала Вера, працягваючы шнурок у фіранку.

— А ты не бядуй. Колькі трэба, гэтулькі і будзе,—

падбадзёрваў яе Драгун. Сам ён майстраваў на кухні, папраўляў накрыўку ў люк. Майстры ломам адчынялі люк, але якраз не ў тым месцы, дзе трэба, і пашчапалі дошкі.

— Адкуль жа ты возьмеш?

— Дзядзька прышле.

— Дзе ты возьмеш такога дзядзьку? Цяпер нам трэба сама мала тысячу на новыя. А гэта не ў яйку пішчыць.

— Ты ж ведаеш, што ў мяне запланавана аповесць.

— Яна даўно запланавана, а якая карысць?

— Ну, я не думаю, што яе перанясуць другі раз. А ўрэшце калі нават перанясуць? Будзем купляць патрохі, як бы ў растэрміноўку, тады лягчэй дыхаць, а ўсё зараз — гэта не з нашаю кішэняй.

Вера маўчала, занятая фіранкамі.

— А што было б, каб нам не далі кватэры? — ні з таго ні з сяго спытаўся Драгун.

Вера апусціла фіранку на калені, выпрасталася.

— Навошта гадаць?

— А па-мойму, ты вельмі любіш гадаць, зазіраць наперад і назад, усюды.

— Я цікаўная. Гэта кепска?

— Нічога тут кепскага. Я пытаюся проста так.

— Няма чаго табе гаварыць. Забыўся ўжо, што два ордэры ў адзін дзень выпісвалі?

— Але, але...— Драгун стаў шараваць нажоўкай, нарабіў шуму.— А ўсё-такі ты ўцякла б ад мяне?

— Дык і ты цікаўны. Не падазравала...

— Ну скажы!

— Кінь ты!

— Скажы!

— От смала! Уцякла б! Пакінула б табе старэйшую, а сама ўзяла б малую — і жывi з богам.

— Не веру я ў гэта. Ты не магла б пражыць без старэйшай і тydня, як і без малодшай.

— Мо і праўда. Мы сябе да канца не ведаем.

— Правільна. Мо ў табе ці ўва мне сядзіць геній або чорт ці д'ябал. Але як яго ніхто не чапае, дык ён і сядзіць і падохне мо разам са мною. Трэба, каб нехта яго спудзіў, абудзіў, ці што...

— Ты вось лепей скажы, геній, ці будзеш хадзіць у сваю бібліятэку? Яна ўжо мне ў касцях...

— Што яна табе далася ў знакі? Без бібліятэкі я прапаў. Не забывай, што ўсе свае рэчы я напісаў у бібліятэцы... А каб я трымаўся за тваю спадніцу...

— Мо я была б шчаслівейшая...

— Дык чаго ж? Яшчэ не позна!

— Вось я і пытаю: ці будзеш хадзіць?

— Відаць, буду. Сябе пераламаць цяжка. Ва ўсякім разе, пакуль не падрасце малая, буду хадзіць.

— Але ты хоць паспрабуй папрацаваць дома!

— Дома я адпачываю. З мяне гэтага даволі.

— З цябе даволі — і табе добра. А сям'я?

— Сям'я будзе мець кватэру. Што ёй яшчэ трэба?

— А гаспадара, бацьку?

— Калі ласка! Хто ўстае ноччу да малое? Бацька!

— Дык тут заслуга малое, а не твая!

— Хітранькая! Я мог бы і не чуць яе піску.

— Ах, які ты... Думаеш, мне цяжка ці я не магу? Проста хачу, каб ты зусім не адбіўся ад рук, каб гэтая Аленка цябе болей прывязвала да дому. Думаеш, мне там было лёгка, калі я засталася адна? Гэта што я не скардзілася табе, думала: працуй, навошта табе мяшацца, ірваць нервы? Хопіць таго, што рвала я.

— Ну, за гэта ты маладзец, а падумаўшы, то не вельмі. То ты мяне лаяла, што не ўмешваюся, то цяпер гаворыш, што сама не хацела мяне ўцягваць у гэтую калатушу. А калі разам заварылі, то разам трэба было б і расхлёбваць. Але ж цяпер табе ніхто не будзе назаляць, не будзе заглядваць у твой кухонны столік, як тая Шварцманіха. Сама сабе гаспадыня! Прасторна, чыста, светла! Большая ходзіць у сад, а праз два гады пойдзе і ў школу, меншую мо як уладкуем у яслі або што іншае прыдумаем. Нянькі гэтыя мне абрыдлі...

— Толькі табе! Ты ведаеш, як яны мне ўеліся? Чужы чалавек! Ці ён табе будзе спрыяць? Абы яму добра... Ну, Нэля... Бач, вучылася на курсах, скончыла. Цяпер кажа: прыпішыце. А як гэта зрабіць? Ты можаш?

— Не прыпішуць. Калі то часова, на колькі згаджаецца быць нянькаю. А блату і знаёмства ў мяне няма...

— Ну вось, скажа, што не хочам памагчы. І будзе рабіць усё абы дзень да вечара... Суседка мне гаварыла, што яна ведае адну бабку, якая бярэ гадаваць малых дзяцей. Трэба неяк схадзіць да яе...

Аповесць, пра якую гаварыў Драгун, засела ў выдавецтве моцна. Усю справу сапсавала тое, што з год назад гэтая аповесць, добра падрэзаная, друкавалася ў часопісе. Драгун

памятае, што праз пару месяцаў пасля надрукавання яму сказалі не вельмі прыемную навіну. У Заходняй Германіі, у Мюнхене, сядзяць так званыя беларускія эмігранты, якія ўцяклі з беларускай зямлі разам са сваімі гаспадарамі — нямецкімі фашыстамі. Яны і па сёння вострацъ вушы і цікуюць з-за мяжы, што тут робіцца ў нас. Адно іх засмучае, другое радуе. Засмучае агульны наш рост, нашы поспехі, радуюць асобныя зрывы, недахопы, недаробкі і промахі. Тады яны там выскаляюцца ад радасці: знайшлі, знайшлі! Вось знайшоў нейкі адзін крытык і ў Драгуновай аповесці патрэбнае для сябе. Даспадобы яму прыйшлося тое месца, дзе гаворыцца, хоць і мімаходам, пра памылкі часоў культу асобы Сталіна, калі чалавек быў зведзены да ролі «вінціка», «шрубкі». Узрадавала і тое, што аповесць закранала такія пытанні, якія ў нас часцей за ўсё абыходзіліся, і таму ў Мюнхене лічылі іх «забароненымі», пытанні нацыянальнай самабытнасці, роднай мовы і культуры. Адзін з герояў аповесці сцвярджаў, што прапагандаваць асіміляцыю — шкодны шавіністычны ўхіл, што да камунізму мы прыйдзем толькі праз росквіт нацыянальных культур.

«Там яго пахвалілі!» — сказаў нехта, узняўшы ўгору палец. І гэтага хапіла, каб Драгунову аповесць перанеслі ў плане яшчэ на год.

І было так не з адным толькі Драгуном. Пахвала або нават цытата з твора там лічылася самым вялікім грэхам. Прыпаміналі ўсім вядомыя словы, што калі мяне хваліць мой вораг, дык трэба паглядзець, ці тое я раблю, што трэба... Да слоў ворага прыслухоўваюцца болей, чым да слова сяброў. А забываюць, што вораг — ён заўсёды вораг. Ён якраз можа пахваліць цябе, каб збіць з правільнай дарогі. «Ага, мяне вораг пахваліў... Значыць, я раблю няправільна. Трэба мяняць курс. А ганіць мяне вораг, злуе — значыць, раблю правільна. Так трымаць!» А мо гэты вораг не апошні дурань і ведае, як мы тут рэагуем на яго словы, на яго крытыку і, сцяўшы зубы, знарок хваліць там, дзе яму хацелася б лаяць і крычаць, а лае там, дзе хочацца хваліць? Але каму гэта ахвота думаць, што вораг можа быць хітры і можа мяняць тактыку? Лепей думаць, што вораг дурань, а мы — разумныя. Тады спакайней спіцца...

А, урэшце, яшчэ: чаму мы павінны на сябе глядзець вачыма сваіх ворагаў? Няўжо свае дзейнасці, сваіх спраў не можам ацаніць правільна самі, без аглядкі на Захад?

Але дзе там! Дапрацоўвай — ды так, каб цябе там лаялі (так не скажуць, а разумець трэба так).

Драгун дапрацаваў, перапісаў аповесць ад пачатку да канца, толькі не пераканаўся, што ад гэтага аповесць стала лепшая. Згладзілася вастрыня ўзнятых пытанняў. Але хіба рэч ад гэтага робіцца лепшая?

Аднак не дагадзіў яшчэ! Гэты раз Драгун сам пайшоў да дырэктара Важніка, каб даведацца, па якой прычыне яго пераносяць яшчэ на год. Важнік развёў рукамі і сказаў, што не адзін Драгун такі нешчаслівы: пяцьдзесят назваў з плана гэтага года пераносіцца на наступны, бо не хапае паперы. А паколькі аповесць яшчэ ў стадыі дапрацоўкі, рукапіс у аўтара, а не ў рэдакцыі, то яе і перанялі на наступны год. Адзінае, чым суцешыў яго Важнік, дык гэта тым, што яго кніжку ён абяцаў надрукаваць у першым квартале наступнага года, а ў вытворчасць здаць яшчэ ў канцы гэтага.

Драгун сказаў, што аповесць ён даўно здаў у выдавецтва, што дапрацаваў яе па заўвагах рэцэнзента.

Важнік падумаў хвіліну і ўпарта паўтарыў, што, відаць, на той час, калі «ўтрасаўся» план, яе не было ў выдавецтве, бо загадчык рэдакцыі сказаў, што аповесць у стадыі дапрацоўкі.

Драгун толькі крыва ўсміхнуўся: яму была добра знаёмая ўся механіка выкрэсліванняў і пераносаў. Калі не было важнай яўнай прычыны, маглі сапхнуць віну нават на машыністку: сказаць, што «ваша прозвішча механічна выпала пры перадруку». Механічна выпасці можа, а вось «механічна» ўставіць яго назад ужо нельга...

Як бы там ні было, аповесць выйдзе ў свет (калі яшчэ выйдзе) праз год, а грошы патрэбны цяпер, цяпер! Зноў давядзецца лезці ў даўгі. Драгуну не прывыкаць, а Вера баіцца іх, як агню. Для яе пазычаць — лепей хварэць. А Драгун сам лез ў даўгі спакойна, як цягавіты конь у хамут. Даўгі яго нічуць не палохалі. Быў толькі адзін непрыемны момант: гэта сказаць, што «прыйшоў да цябе, браце, не адведаць цябе і тваю сям'ю, а пазычыць грошай». І яшчэ нічога, калі пазычаеш у блізкага табе чалавека, сябра. А калі зусім у выпадковага, якога ты мала ведаеш — непрыемная рэч. Аднойчы Драгун чырванеў і праклінаў сябе і зарокся болей не лезці са сваімі клопатамі да чужых людзей. Неяк перад Новым годам яму спатрэбіліся грошы, ён стаў думаць, у каго б пазычыць. У некалькіх прыяцеляў, у якіх ён браў часта, не хацелася — ён ім ужо абрыд. Рашыў паспытаць шчасця і патурбаваць аднаго саліднага аўтара, якому зусім нядаўна адрэдагаваў, а праўдзівей, перапісаў ад пачатку да канца кніжку. Салідны аўтар выслухаў яго просьбу, скрыжаваўшы

на грудзях рукі, і з самым нявінным выглядам прызнаўся, што не можа пазычыць. «На жаль, на вялікі жаль, бо жонка купіла тое, купіла сёе, і ўжо няма. Шчыра, як на споведзі кажу — няма... А кніжку я вам падпісаў... Вельмі ўдзячны, вельмі...» І нават падпісанай ужо кніжкі так і не перадаў...

Не, лепей быць без грошай, чым пазычаць у такіх людзей!

## 39

Вясна! Пах таполяў п'яніць, дурманіць галаву. Лісточкі яшчэ малыя, клейкія, далікатныя. Зямля пад таполямі ўкрыта шкуркамі ад пупышак, яны трашчаць пад нагамі, як луска з разгрызеных вавёркаю яловых шышак.

Драгун сеў пад шумлівай таполяй, абапёршыся плячыма аб яе шурпаты камель. Гэтай вясною ён тут першы раз. Ён прыходзіў сюды, калі балела галава, калі кепска працавалася, калі на сэрцы ляжаў які-небудзь цяжар.

А сёння нядзеля, ён ішоў у бібліятэку, але ногі неяк самі сабой прывялі яго сюды. Цяжкая, як чыгунная, галава, хочацца спаць, цела ўсё ные і просіць адпачынку, нібы ён учора рабіў немаведама што — цягаў камяні на гару. Але што фізічная стома! Пасля яе добра спіцца, чалавек назаўтра ўстае трохі змучаны, але расходжваецца, разварушваецца — і зноў робіцца бадзёры і здаровы, зноў можа працаваць. А пасля сямейнай сваркі чалавек горш чым пабіты. Сядзяць у галаве малюнкі, цэлыя сцэны, асобныя словы. Ад іх хочацца ўцячы, вытравіць іх з памяці, скінуць з душы іх цяжкі груз. Але нічога не выходзіць! Хіба толькі аддацца якому лёгкаму занятку! Хоць бы праводзіць вачыма жанчын, што праходзяць па сцежцы, любавацца прыгожымі. Глупства! Драгун быў сёння сярдзіты на ўсіх жанчын свету. Яму лезлі ў галаву самыя кепскія думкі. Жанчына прыгожая датуль, пакуль яна маўчыць. А калі яна раскрыла рот, дык скажа нешта такое, што адразу паставіць яе намнога ніжэй, чым яна стаяла дагэтуль. І наогул сваім словам яна можа сябе знішчыць, закрэсліць, прынізіць, ператварыць у нішто. І тыя, што праходзілі ля яго, сёння здаваліся намнога лепшыя за яго жонку. А яна так не любіць, калі скажаш, што яна такая ж, як і ўсе. Яна — экстраардынарная, не падобная ні да кога, адзіная ў свеце! Злосць распірала яго ўсяго, чым болей ён думаў, тым болей рабілася неспакойна. Дурніца! Яна думае, што сваркамі, ці, як яна кажа, гутар-

камі, яна мацуе сям'ю. Наадварот, яна яе разбурае! І Драгун сказаў сабе: досыць! Ён цярпеў, калі яна ўзняла цэлую буру з-за Лідзінага пісьма, цярпеў, калі распачала вайну з-за беднасці, маўчаў, калі лезла без канца ў кухонныя баталіі з Плоткінымі і Шварцманамі, падтрымліваў у яе міжусобнай вайне з Інэсай Рынковіч. Драгун думаў: можа, і праўда Веры было цяжка, мо і праўда яна не магла цярпець далей — было цесна, не хапала грошай, яны толькі станавіліся на ногі. Тут ён яе яшчэ хацеў разумець, лічыў, што вось пераедуць яны на новую кватэру — будзе лягчэй, Вера ўрэшце супакоіцца, усё стане на месца. Дык не! У яе такі ўжо характар, і яна заўсёды знойдзе, да чаго прычапіцца. А калі не будзе прычыны, то яна прыдумае яе. Цяпер, лічыў Драгун, ім ужо няма з-за чаго сварыцца, а яна знайшла! Цяпер яна пачала з-за таго, што Драгун многа памагае сёстрам. Не бацькам, а сёстрам. Які ход канём! Малодшая сястра Надзея жыве разам з бацькамі. Драгун лічыць, што калі ён памагае бацькам, дык памагае і сястры, а калі сястры — памагае бацькам, бо ў іх усё агульнае. Але гэтага Веры не дакажаш. Пачалося ўсё з ганарара. Хай бы ён яго лепей не бачыў!.. Ужо даўно, як быў яшчэ зімою дома, абяцаў сястры, што як выйдзе яго кніжка, то прышле ёй якую сотню ці дзве. Цяпер яны будуюцца, і грошы ім патрэбны, кожны рубель дарагі. І вось зноў перанеслі кніжку, але што сястры да таго? Сорамна Драгуну, што не стрымаў свайго слова... Ды нават калі б і не перанеслі. Яны там думаюць, што ў Драгуноў грошай многа і без тае кніжкі. Усё-такі двое з дыпломамі, працуюць даўно, ён піша, друкуецца, мае ганарары.

Яно і так, на добры лад — грошы павінны быць. Але іх усё ж няма! Ні да рэформы, ні пасля! Нават потым, як кажуць, рубель стаў намнога карацейшы. На рынку цэны растуць, усе здзіўляюцца. А ў магазінах? Тое самае. Адна зарплата застаецца тая самая... Каб хоць яны ўмелі эканоміць, а то ні Вера, ні Драгун не ўмеюць ашчаджаць капейкі. І не прапівалі, не праядалі, не хадзілі разадзетыя. Сядытады нават у рэдакцыі гаварылі свае жанчыны — Роўба ці Жывіца,— чаму ён не купіць сабе новы гарнітур, ці лепшае паліто, або людскі плашч? Але ён толькі пасміхаўся: ён і сам купіў бы, каб было за што, купіць не так цяжка. Ды хіба ад гэтага ён пераменіцца, стане лепшы? «Наша пасада нас абавязвае»,— гаварылі жанчыны. А Драгун ім адказваў прымаўкай: «Выцягвай ножкі паводле адзёжкі». Касцюм ён купляў тады, калі ў штанах пачынаў прадзірацца зад або ў

пінжаку локці. Вера таксама не была модніцай, інакш яна не стала б Драгуновай жонкай.

Драгун разумеў, што, каб прытачыць у адным месцы, трэба ўрэзаць у другім. Гэта як тая кароткая коўдра: нацягнеш да барады, стануць відаць ногі. І ўсё ж ён не траціў надзеі на тое, што яны ўрэшце вырвуцца з беднасці. Вось выдасць ён кніжку... Праўда, увесь ганарар за першую ён аддаў на даўгі. А другая ўсё пераносіцца... Ды і каб хоць добрая плата, а то сто пяцьдзесят рублёў за аўтарскі аркуш...

А гэтыя дзве сотні, якія ён атрымаў і з-за якіх усчалася сварка... Дзіва, дый годзе! Не было грошай — было ціха! Бач, ёй патрэбны ўсе, паловы яна не хоча! А каб ён нічога не атрымаў? Не было б і гутаркі,— кажа на гэта Вера. Праўда, тады было б ціха.

І ўсё ж ён паслаў сваім сто рублёў, не захацеў апраўдвацца, што кніжку перанеслі яшчэ раз. Тады і пачалося!

«Ты проста сляпы,— крычала Вера,— не хочаш бачыць, як мы самі жывём, у чым ходзім. Ты ніколі мне не сказаў: «Жонка, ты доўга носіш гэтае паліто, хадзем купім новае. У цябе выйшлі з моды гэтыя туфлі, хадзем купім другія».

«А ці памятаеш, як мы табе куплялі паліто, і ты плакала ад злосці, што я табе купіў дарагое, за дзве тысячы?»

«Бо ў нас не хапала грошай на другія расходы: у нас не было ў што апрануць дзіця».

«Глупства, дзеці апранутыя. Я не хачу, каб мае дзеці былі апранутыя лепей за ўсіх. Хай прывыкаюць да сціпласці, да памяркоўнасці. Яны будуць насіць тое, што ёсць у магазіне, на прылаўку, а не пад прылаўкам. Па блату нічога не даставаў і не буду».

«Каб мець блат, патрэбны грошы, а іх у цябе ніколі не было і не будзе».

«На абыходак былі і будуць. А раскошы не чакай».

«Якая раскоша? Яны нічога не знасілі новага, усё з перашытых нашых неданоскаў. Памятаеш, ты сястрыным дзецям накупляў новага, а твая дачка ў той час была ў перашытым са старога балахончыка».

«Я сказаў, што мы не будзем прывучаць дзяцей да раскошы. Інакш мы не зможам забяспечыць іх адных, не гаворачы ўжо пра нас».

«А што ў нас у хаце? Ты прыглядзеўся калі ці не? Але што табе? У бібліятэцы табе ўсё роўна. А я сяджу тут, як у пустым гумне вясною. Страшна, няўтульна... Нават сорамна, калі зойдзе чужы чалавек. Яшчэ калі свой, добра знаёмы, то

нічога, а як які госць, зямляк! Потым раскажа, распіша, як жывуць інтэлігенты, рэдактары, пісьменнікі... Памятаеш, як табе твой зямляк гаварыў, той наладчык, Савош, здаецца? Ён адразу ўсё ўгледзеў, які ты гаспадар, які работнік, які бацька».

«Глупства ўсё гэта! Хай кажа! Мне нічуць не сорамна за ўсё гэта! Хай будзе сорамна тым, у каго валіцца цераз горла, у той час як многія яшчэ жывуць у беднасці... Я сумленна жыву на сваю зарплату. І калі мне не на ўсё хапае — дык што ж тут такога? Я ў гэтым вінаваты? Красці не пайду, не хачу, і ты таксама не будзеш ашукваць людзей. Будзем есці сумленна зароблены хлеб, нічога, што ён чорны».

«Гэта ўсё пустыя словы... Чаму людзі жывуць, не крадуць, а маюць? Нашы знаёмыя, суседзі? Чаму яны ўсё маюць?»

«Хто чаго глядзіць, той тое і мае. Што ў нас няма дываноў, на сценах і на падлозе? Пляваць на гэта! Пражывём і без іх!»

«Што дываны? У нас няма людскай шафы. У нас няма буфета, халадзільніка, пісьмовага стала».

«Не спяшайся! Усё будзе! Затое ёсць тэлевізар маркі «Нёман».

«Куплены ў растэрміноўку за маю зарплату...»

«Купім і шафу, і буфет, і халадзільнік. А стол мне не патрэбны. Мне добра і на швейнай машынцы. Буду страчыць раманы: ж-ж-ж...»

«Ты б хоць вымучваў пабольш апавяданняў».

«Не ўсё адразу! Цярпенне, даражэнькая!»

«Цярпенне не вечна. Я не хачу болей гібець з-за некага, нават і з-за тваіх сясцёр».

«Гавары шчыра: з-за бацькоў!»

«Бацькі адно, а сёстры — другое. Бацькам ніколі не адмоўлю: ні тваім, ні сваім. Але сёстрам, братам не хачу памагаць. Мне самой мала. Як будзе лішняе — калі ласка!»

«Лішняга мы не дачакаемся. І заўваж, што дапамога, калі ёсць лішняе, ужо не дапамога, а міласціна... І ў цяжкую хвіліну ім таксама памагу, хоць пайду пазычаць».

«У якую цяжкую?»

«Надзея будуецца. Гэта, па-твойму, проста?»

«Цяпер яна будуецца — сто рублёў. Тады яна купляла хату — сто рублёў. Яшчэ што будзе? У старэйшай — паўтузіна дзяцей, ты плаці, памагай карміць! І так без канца! Я болей не магу!»

«Не перабольшвай! Усяму ёсць канец. Памруць бацькі —

сёстрам памагаць не будзем. А цяпер, калі я паслаў сястры — значыць, паслаў бацькам».

«Яшчэ пачакай! Паміраць бацькоў яны прышлюць да нас! Вось пабачыш!»

«Прышлюць — дык прымем. Што ж тут такога?»

«Нічога такога... Як былі здаровыя, як было што пацягнуць з іх гаспадаркі, то трымалі, а як усё высмакчуць — тады да нас... А потым будуць прысылаць сваіх дзетак, каб мы гадавалі».

«Перастань! Гавары, ды знай меру!»

«Брат багаты, ён пракорміць, адзене і абуе».

«Перастань, я цябе прашу, бо ў мяне могуць не вытрымаць нервы!»

«Размова» перапынялася, зноў успыхвала — і так цягнулася недзе да трох гадзін ночы. Усё скончылася прымірэннем, гарачаю пяшчотай і цяжкім неспакойным сном. Раніцай хацелася яшчэ паспаць, але дзеці ў нядзелю ніколі не дадуць. Як у будзень трэба падымаць раніцай, то плачу не абярэшся, а ў нядзелю пралупяць вочы разам з сонцам, і ніяк ты іх не ўпросіш паляжаць ціха.

Таму Драгун і быў сёння як разбіты, і таму не хацелася ісці ў бібліятэку. Ён ведаў, што сёння нічога не напішацца. «Але пайду, мо што пачытаю»,— падумаў ён і ўстаў з зямлі, па звычцы атрапаў ззаду штаны і пайшоў на тралейбусны прыпынак.

У бібліятэцы ўзяў часопіс, у якім была надрукавана новая аповесць Базылевіча. Драгун даўно сачыў за ростам гэтага таленавітага пісьменніка і не прапускаў выпадку, каб пачытаць яго новы твор. Цяпер Базылевіч меў ужо гучнае літаратурнае імя, з ім лічыліся, да яго зусім па-іншаму сталі адносіцца ў выдавецтве. І проста сімвалічна, што Драгуну аднойчы ўдалося бачыць сцэну, якую ўбачыш у сто год раз. Той самы галоўны рэдактар Быліна, які некалі шпурляў рукапіс Базылевічавай першай кнігі і нават не зрабіў ласкі падаць Базылевічу руку, калі Гушчынскі знаёміў іх у рэдакцыі, цяпер той самы Быліна першы схіляўся ў нізкім паклоне да Базылевіча, дзвюма рукамі хапаў яго руку, трос яе доўга і рабіў на твары прыветліва-саладжавую ўсмешку, пытаўся пра поспехі і справы, запрашаў зайсці ў свой кабінет і ўсяляк выказваў сваю пашану да чалавека... якога на пачатку яго дарогі не хацеў нават заўважаць...

Драгун ледзь знайшоў вольны столік — у такі час, пад абед, цяжка было разлічваць на што лепшае. Людзей, што вучыліся, чыталі, цікавіліся літаратурай і навукай, з кожным

годам робіцца ўсё больш... Узяўся чытаць Базылевіча. Тэма — знаёмая яшчэ з першай аповесці: вайна. Мо паўтараецца? «Пабачым, пабачым»,— думаў Драгун. Пачынала разгортвацца дзеянне, вырысоўваліся людзі, характары. І паступова, крок за крокам, Драгун трапляў у палон, забываў, дзе ён і што робіць. Ён ужо ваяваў — часам са зброяй, часам з голымі рукамі,— але заўсёды за праўду і справядлівасць, і біўся да апошняга дыхання, як і аўтарскі герой. Як каму, а Драгуну такія характары падабаліся. Не заўважыў ён, як прайшоў час. У шэсць гадзін бібліятэка зачынялася.

Ужо выходзячы, унізе ўбачыў знаёмага — Васіля Шэплыку, калісьці разам вучыліся, як былі студэнтамі, а на першым курсе нават жылі ў адным пакоі — той пакой змяшчаў ажно сорак чалавек, і студэнты звалі яго «звярынцам». У бібліятэцы сустракаліся яны часта. Шаплыка рыхтаваў кандыдацкую дысертацыю і нешта доўга не мог яе абараніць.

— Драгун, каб ты здароў быў,— сказаў Шаплыка.— Ты маеш час?

Драгун трохі падумаў.

— Маю, аж занадта!..

— Дык хадзем да мяне. Мы ніколі з табою не выпілі чаркі.

— Хіба без гэтага нельга жыць?

— Аднак жа... Хадзем! Дарэчы, у мяне ёсць твая кніжачка. Падпішаш якраз...— Ён зашпіліў свой вялізны жоўты партфель на два замкі, узважыў яго на руку, нібы правяраючы, ці ўсё там.— Пайшлі, будзеш госцем!

## 40

У суботу і ў нядзелю, як закон, Драгун ішоў у бібліятэку. Гэта былі самыя спорныя яго дні, бо пасля васьмігадзіннага рабочага дня не вельмі што з сябе выціснеш.

— Людзі адпачываюць, гуляюць з дзецьмі, а ты ўсё ў бібліятэку,— гаварыла сярдзіта Вера.

— Адпачываць мне яшчэ рана. Трэба нешта зрабіць, а потым ужо думаць пра адпачынак.

— Ай, ты нешта робіш, а той работы і не відаць...

— Ты хацела, каб адразу, чыстаганам прыносіў? Так выходзіць толькі ў зладзеяў і ў адной катэгорыі... жанчын.

— Перастань... Дык калі цябе чакаць? — пыталася Вера ўжо трохі лагодней.

Драгун выскаляўся:

— Мо сёння, а не — дык заўтра. Але не пазней.

Вера адразу хмурнела, сціналася. Ды што на гэта глядзець? Драгун жа ішоў не гуляць, нешта хоча зрабіць, і мо не толькі для сябе. Вось пачаў новую аповесць, а ўжо калі ён за што браўся, то тады ўсё астатняе для яго прападала. Тут ён меў бацькаў характар: калі бацька што рабіў, то ўвесь уваходзіў у работу і страшэнна злаваў, калі яго адрывалі. Ён нават ні за што ні пра што мог аблаяць матку, калі тая клікала яго палуднаваць ці вячэраць.

Драгун у нядзелю часцей за ўсё вяртаўся дадому ў гадзін пяць вечара ці нават пазней, бо раніцай, покуль тое, покуль гэта — і ўжо адзінаццаць. А покуль яшчэ заехаць. Але затое, увайшоўшы ў азарт, Драгун рабіў за гэты час немалы кавалак работы. Часам з бібліятэкі заходзіў яшчэ ў Дом афіцэраў глядзець кіно, калі была цікавая карціна. Стомлены, але задаволены, што дзень прайшоў добра, вяртаўся дадому. Абедаў і вячэраў зара́з, потым садзіўся з меншаю дачкою глядзець тэлевізар. Старэйшая бавілася ўжо сама. Вера ўсё нешта вязала: то шапкі дзецям, то рукавічкі, то світры. А калі не падабаўся фасон, раскідала, пачынала нанава. Была маўклівая, роўная, без ранейшай жывасці і ўсмешкі, без жарту і гульні. А калі Драгун прыходзіў позна, дзеці ўжо спалі, толькі Вера ляжала ў пасцелі з кніжкай. І не было выпадку, каб яна, не дачакаўшыся яго, заснула. Затое як толькі ён заходзіў у спальню, яна клала кніжку на тумбачку, адварочвалася да сцяны і тут жа засынала.

І ніколі яна не папракнула Драгуна за тое, што ён позна прыходзіць дадому. Здаецца, толькі ўсяго адзін раз.

Тады Драгун вярнуўся дадому позна. Дарэчы, Вера ведала, дзе ён. Драгуна запрасіла на імяніны яго ранейшая знаёмая, цяпер ужо даволі вядомая паэтэса Люся Здановіч. Калісьці між імі была ўзаемная, а хутчэй аднабаковая сімпатыя. Драгун хутка пасля таго ажаніўся, а Здановіч жыла незамужняю, з маткай.

Можа, выпадкова, а мо і не, але яна знайшла яго на рабоце і запрасіла зайсці, неяк забыўшы пра яго жонку, а Драгуну было няёмка пра гэта нагадваць. Яна назвала яшчэ некалькіх чалавек, пераважна паэтаў, якія абяцалі прыйсці.

Калі Драгун сказаў Веры, што яго запрасіла на імяніны паэтэса Людміла Здановіч, жонка катэгарычна адрэзала: «Не пойдзеш!» Тады Драгун так жа катэгарычна сказаў: «Пайду!»

І ён такі пайшоў, хутчэй з-за прынцыпу, бо вялікага

жадання бачыць Здановіч ён не меў. Купіўшы каробку цукерак, ён паехаў да яе на кватэру. Знарок спазніўся на паўгадзіны, каб не быць першым, але калі падышоў да таго дома (яна жыла на першым паверсе), то праз завешаныя вокны заўважыў, што ніякіх гасцей там не чуваць і не відаць. Ён яшчэ пахадзіў па вуліцы з паўгадзіны, спадзеючыся, што за гэты час нехта ўсё-такі прыйдзе. І рашыў так: калі там будзе многа гасцей, не пойдзе зусім.

Аднак і гэты раз у кватэры стаяла цішыня, не чуваць было ніякіх галасоў, не заўважалася ніякага руху. Драгуну стала шкада жанчын — і не так самую Люсю, як яе матку. Яны тут рыхтаваліся, чакалі гасцей, а тыя мо нават і абяцалі, а вось няма нікога. І ён зайшоў.

Сапраўды, ён быў першы... Яго ўразіла, як узрадаваліся маці і дачка яго прыходу, як ажылі іх твары, як рупна сталі завіхацца ля стала, на якім і так ужо ўсё стаяла гатовае. Ён сядзеў, а яны ўсё нешта перастаўлялі, усё папраўлялі, але Люся была ўвесь час як на іголках: яна ўздрыгвала пры кожным кроку на лесвіцы, чуйна прыслухоўвалася да ўсяго, што робіцца на вуліцы,— відаць, чакала яшчэ гасцей. Хутка прыйшоў яшчэ адзін «ідэаліст» — паэт Ляўковіч, вясёлы і таварыскі хлопец. Драгун ведаў яго яшчэ студэнтам.

Гутарка адразу ажывілася. Ляўковіч за словам у кішэню не лез: праз хвіліну-другую ўсе былі вясёлыя, смяяліся і жартавалі, асабліва ажыла сама імяніннiца. Яна, аднак, параней шаму ўсё яшчэ прыслухоўвалася да крокаў на лесвіцы, некалькі разоў выходзіла на двор, але болей ніхто не прыходзіў.

— То, мусіць, пара, дачушка, садзіцца за стол,— сказала маці вінаватым голасам і з асцярогай глянула на дачку.

Тая ўздыхнула і пачала запрашаць гасцей за стол. Спачатку павіншавалі Людмілу Іванаўну з днём нараджэння, пажадалі здароўя і добрых поспехаў.

Ужо недзе усярэдзіне вечара зайшоў яшчэ адзін госць — паэт Марушка. Яго буйны бліскучы твар быў як прыгожа аформленая вітрына. Ды і за вітрынай, дзякуй богу, было не пуста, што не так і часта здараецца. Марушка быў вясёлы і трохі нават развязны: паспеў ужо выпіць. Сыпаў жартамі, рыфмамі, расказваў анекдоты і смяшыў усіх. Ён ведаў безліч гісторый, у якіх калі не ўдзельнічаў сам, то галоўным героем быў яго сябра Дубровіч. Не раз яны пілі разам у адной кампаніі і траплялі ў забаўныя пераплёты.



...а потым неяк
само сабой выйшла,
што Драгун павярнуўся
да свае
суседкі...

У той час як цвярозы ён гаварыў разумна, быў памяркоўны і выклікаў да сябе сімпатыю, п'яны траціў раўнавагу, рабіўся з'едлівы і нават грубы. У яго была паранена левая рука — адбіты ўсе пальцы і знявечана далонь, ён чамусьці — знарок ці незнарок — увесь час трымаў яе перад сабою, нібы выстаўляючы напаказ.

— Што ты, Костусь,— звяртаўся Марушка чамусьці да Драгуна,— так пасняшаўся ажаніцца? Чым табе кепская была б жонка? — ківаў ён буйнай кучаравай галавою на маладую гаспадыню.— Была б свая паэтэса, у вершах праславіла б цябе і тваё каханне...

Драгуну была трохі непрыемнай такая ўвага да свае персоны, ён неяк ненатуральна ўсміхаўся, паглядваў то на Ляўковіча, то на Люсю, як бы просячы ў іх даравяць Марушку за такія словы.

Люся чырванела таксама і адбівалася жартамі, што позна ўспомніла пра хлопцаў, занадта захапілася паэзіяй.

А калі Марушка пачаў нейкую спрэчку з Ляўковічам, яна нахілілася да Драгуна — яны сядзелі цераз рог стала — і спыталася ў яго шчыра, нібы нават сарамліва:

— Ну, як, Косця, жывеш? Ты шчаслівы?

Драгун не ведаў, што адказаць.

— Жыву звычайна, мо нават цяжка, але не скарджуся і не каюся. Такая ўжо, відаць, мая доля. А ці шчаслівы, дык нешта не задумваўся. Хутчэй за ўсё, што не надта.

— Чаго ж так? Хіба няма кахання?

— Яно ёсць, але нейкае калючае, няласкавае...

Люся дакранулася да яго рукі, уздыхнула.

— А ты мне так падабаўся, Косця... Так ты мне падабаўся,— паўтарыла яна са скрухай — і добра, што хоць у мінулым часе.

Драгун, апусціўшы галаву, маўчаў. Хоць і быў п'яны, а не мог таго ж сказаць Люсі — гэта была б няпраўда.

Добра, што іх размову перабілі: Марушка і Ляўковіч сталі дужацца на рукі, вызваліўшы для гэтага край стала. Марушка, чырванеючы сваім буйным тварам, прайграваў, страшэнна злаваў, даказваючы, што Ляўковіч няправільна бярэцца. Яны паўтаралі ўсё спачатку некалькі разоў, і ўсё роўна перамагаў Ляўковіч, малады і моцны ў руках гарманіст. Марушка раззлаваўся не на жарт, але іх разнялі гаспадыні і Драгун.

Марушка стаў абдымаць і цалаваць Драгуна, нават сказаў фразу, якая як агнём апякла яго: «Калі я чытаю твае апавяданні, я плачу»,— але, здаецца, за мітуснёй ніхто

не пачуў яе, апроч Драгуна, і гэта яго трохі супакоіла.

Час ішоў непрыкметна і хутка. Толькі недзе а трэцяй гадзіне агледзеліся, што позна. Усе былі добра п'яныя, асабліва госці. Сталі збірацца дадому, развітвацца: расцалавалі гаспадынь, маладую і старую, нагаварылі капу п'яных кампліментаў і, трохі хістаючыся, пайшлі. Марушку ўзялі пасярэдзіне, трымаючы за рукі. Ісці было далёка, заставалася адно — злавіць таксі. Стаялі, гаманілі, шумелі, спрачаліся. Марушка захацеў пабарукацца з Драгуном. На выгляд ён быў мажнейшы за Драгуна і мо дужэйшы, але цяпер, п'янага, Драгун лёгка пабароў яго. Марушка зноў разышоўся, стаў лаяцца, скрыгітаць зубамі і біць сябе пакалечанай рукой у грудзі, паўтараючы:

— Я — сталінградзец!.. Я — сталінградзец!..

Урэшце ён трохі супакоіўся, але, памацаўшы ў кішэнях, сказаў, што згубіў ключы ад кватэры. Яны ўсе сталі поўзаць ракам па асенняй зямлі, усыпанай лісцем, шарылі рукамі, свяцілі запалкамі, але нічога не знайшлі. Нарэшце ўдалося злавіць таксі. Марушку ледзь пасадзілі — яго ўжо зусім развязло, ён нават не сказаў, куды ехаць. На шчасце, Ляўковіч ведаў, у якім доме жыве Марушка. Прыехалі хутка, але павалаводзіліся, покуль высадзілі Марушку з таксі: ён ужо размясціўся тут, як дома — сабраўся спаць. Раскатурхаўшы, неяк выбавілі з машыны, пастаялі трохі, адсапліся і павялі па лесвіцы. Ён жыў недзе на чацвёртым ці пятым паверсе, Ляўковіч добра не памятаў, а ў Марушкі нельга было нічога дапытацца. Ён толькі скрыгітаў зубамі і ўсё бубніў сабе пад нос:

— Я — першы паэт! Ну, яшчэ — Дубровіч... Астатнія — ніштo: тля, пыл. Што яны адкрылі? Што сказалі свету? Людзям? Нічога ніколі! І не скажуць, не чакай ад іх... вешчага слова. Не чакай! Рыфмачы, пустабрэхі, пустацветы...

Потым ні з таго ні з сяго стукнуў Драгуна па вуху. Драгун закіпеў, схапіў яго загрудкі, але біць не паднялася рука — ён паважаў Марушку.

— Шчасце тваё, што ты п'яны! Я б табе паказаў! — сказаў ён толькі груба Марушку.

Яны з Ляўковічам схапілі яго за рукі, заламалі назад і, як куль саломы, папхнулі ў тыя дзверы, дзе, па разліках Ляўковіча, павінен жыць Марушка.

Сталі званіць — раз, другі, трэці. Пачуліся крокі, нехта падышоў да дзвярэй. Заспаны мужчынскі голас спытаўся, чаго трэба.

— Ці тут жыве Марушка? — спытаўся Ляўковіч.

— Які Марушка? Ідзіце да д'ябла! Цэлае насланнё з гэтым Марушкам... Ён паверхам вышэй!

Хлопцы, усё так жа трымаючы Марушку перад сабою, як таран, рушылі па сходках, прамчалі яго па пляцоўцы. Марушкавы ногі ледзь паспявалі за тулавам.

Зноў сталі званіць, доўга за дзвярыма не было ніякага руху. Але вось зашлэпалі ногі па падлозе.

— Хто там? — спытаўся жаночы голас.

— Тут жыве Марушка? — як пароль, зноў спытаўся Ляўковіч.

— Тут... А што такое?

Рука за дзвярыма пстрыкнула засцерагальнікам замка.

— Прымайце свайго Марушку,— сказаў жанчыне Драгун.— У тым, што ён п'яны, мы не вінаваты.

Марушкава жонка таксама пачала лаяцца, але яны, як скінуўшы гару з плеч, з палёгкай пайшлі ўніз.

Цяпер яны стаялі амаль што ў цэнтры горада, кватэра ў аднаго ляжала на захад ад іх, другога — на ўсход. Туды і туды было каля чатырох-пяці кіламетраў. Спяшацца ім не было ніякага сэнсу, і што адпусцілі таксіста, яны таксама не шкадавалі. Яны пахадзілі яшчэ па бязлюдным ціхім праспекце, праводзячы адзін другога, а потым, дайшоўшы зноў да сярэдзіны, разышліся. Было прыемна, што яны аднолькава думалі і аднолькава зрабілі, хоць і насуперак жончынай волі, бо і Ляўковічава жонка таксама не пускала яго аднаго. Дзіўна, як падобны жонкі і як падобны мужчыны-мужы!

Драгун прыйшоў дадому ў чатыры гадзіны, але Вера не спала. Скандал быў магутны, аднак Драгун не пакаяўся, прызнаў толькі віну ў тым, што позна прыйшоў. І віна тут не яго, бо нельга было кідаць п'янага чалавека. Але ніякія апраўданні не памаглі, Вера стаяла на сваім — што Драгун зрабіў несумленна, што так прыстойныя мужчыны сябе не паводзяць. Хутчэй за ўсё, яна не паверыла, што ён гаварыў праўду.

Але пасля таго выпадку, як здалося Драгуну, Вера спакайней страчала яго спазненні, якія не здараліся так ужо і часта. Драгун тут нават хітраваў: часам знарок пазніўся, заходзіў у кіно на апошні сеанс, каб жонка «прывыкала». Ды яна, як паказаў час, ніяк да гэтага не змагла прывыкнуць — такі ўжо быў у яе характар.

...Аднойчы вечарам у суботу Драгун вяртаўся з бібліятэкі. Якраз на прыпынку падышоў амаль што пусты тралейбус, бо перад гэтым іх прайшло цэлых тры, набітыя

біткам: яны хадзілі неяк статкамі, як сланы. Драгун сеў на крэсла, пасунуўся да акна, бяздумна пазіраў у шыбу. На другім прыпынку ў вагон зайшло некалькі пасажыраў, і праз хвіліну ля яго села маладая жанчына ў карычневай сукенцы, з прыгожымі загарэлымі рукамі, прывабная, з адкрытым загарэлым тварам і чорнымі завітымі валасамі. Ён толькі акінуў яе позіркам і стаў зноў глядзець у акно, падумаўшы сам сабе, што з такою кабетай не грэх было б і пазнаёміцца. Падышла кандуктарка, Драгун сеў роўна і першы падаў ёй дзесяцікапеечную манету, бо яго суседка яшчэ не паспела знайсці сваіх грошай.

— Вам два? — спыталася кандуктарка.

— Адзін,— буркнуў Драгун.

Суседка ўсміхнулася, дастала з сумачкі манету і ўзяла білет, а потым неяк проста, як да знаёмага, сказала да Драгуна:

— А што, каб вы і мне ўзялі?

— Нічога. Толькі вы маглі б пакрыўдзіцца, абазваць мяне нахабным за тое, што набіваюся ў знаёмыя ці намякаю, што ў вас няма грошай.

— Гэта праўда... Але я чамусьці чакала, што вы возьмеце два білеты — і не пакрыўдзілася б.

— Каб жа я ведаў вашы думкі! Я ўзяў бы хоць дзесяць...

Нешта падмывала яго гаварыць з ёю. Тралейбус каціў па праспекце, яны гаварылі. Урэшце яна схамянулася, узялася рукою за парэнчу пярэдняга сядзення.

— Мне выходзіць...— сказала яна.

— Мне таксама.

Праўда, Драгун ужо праехаў свой прыпынак, на якім звычайна сыходзіў, але і з наступнага, вось гэтага, яму дадому было таксама блізка. Яны сышлі з тралейбуса, сталі і стаялі, адчуваючы, што нешта яшчэ, самае важнае, яны не сказалі адно другому.

— А вам тут блізка? — спытаўся ўрэшце Драгун, бо яна зрабіла выгляд, што збіраецца ісці.

— Не, я тут не жыву. Я да знаёмых...

— Вось што...

— Я жыву ў другім канцы.— Яна назвала вуліцу, якой Драгун нават не чуў.

— А дзе гэта?

— Хіба вам цікава?

— Цікава...— Драгун апусціў вочы. Яго цягнула, як у вір.— Я хацеў бы з вамі сустрэцца...— Драгунова сэрца стукала ў грудзях, як молат.

Жанчына стала сур'ёзнай, нешта думала, пазірала ў неба. Потым сказала, глянуўшы Драгуну ў самую душу сваімі цёмнымі праніклівымі вачыма:

— Давайце дамовімся... Праз месяц. Сёння другога... Роўна праз месяц на гэтым месцы.

— У колькі? І чаму праз месяц?

— У дзевяць вечара... Я вам потым усё растлумачу.

— Добра...— Драгун кіўнуў галавою.— А як вас завуць?

— Марына,— адказала яна.

## 41

У рэдакцыі даведаліся, што Гушчынскі хворы, у той жа дзень. Пазваніла яго жонка і сказала, што ён вяртаўся з адпачынку, яго знялі з самалёта на насілках. Не завозячы дадому, адправілі ў бальніцу.

Замяшчаць загадчыка стаў Маскалевіч, хоць да гэтага месяц быў Нагорны. Чаму такія перастаноўкі, ніхто не ведаў. Звычайна калі Гушчынскі ехаў куды-небудзь у камандзіроўку або ішоў у адпачынак, яго замяшчаў Нагорны. Яны сябравалі даўно, адразу пасля вайны сталі тут працаваць, Гушчынскі пачынаў працу тут яшчэ ў вайну, калі выдавецтва размяшчалася ў Маскве. Яго, параненага ў партызанскім атрадзе, на самалёце перакінулі ў Маскву, вылечылі і накіравалі, як былога настаўніка, у выдавецтва. Затое калі Гушчынскі выбываў куды нечакана, стыхійна, начальства ахвотней прызначала Маскалевіча, бо дзелавыя іх якасці былі трохі розныя. Нагорны вызначаўся павольнасцю, быў тугадум, а Маскалевіч рашаў усё з ходу, хутка, быў галасісты, напорысты, ніколі не чырванеў, усіх, нават дзядоў з барадамі, праз пяць хвілін пасля знаёмства называў на «ты».

А гэты раз усе ўбачылі непрыхаваную тэндэнцыю. Нібыта таму, што Нагорны ідзе ў адпачынак (хоць той яшчэ не збіраўся), яго змясцілі з часовай пасады, а на яго месца паставілі Маскалевіча.

І рэдактары тут жа адчулі зусім другую руку. Як Нагорны быў мяккі і абыходлівы з людзьмі, так Маскалевіч не адступаўся ад кожнага, выбіваючы, выціскаючы з кожнага «план». План, аднак, не так лёгка было «выціснуць». Дапусцім, рукапіс па графіку планаваўся на гэты месяц, але, узяўшыся за работу, рэдактар убачыў, што заграз па вушы: рукапіс намнога сырэйшы, чым ён лічыў.

Работа зацягваецца, аўтар не згаджаецца з многімі заўвагамі, стаіць на сваім — што ў яго ўсё добра, што з яго ў рэдакцыі здзекуюцца. Аднак, астыўшы, агледзеўшыся, аўтар згаджаецца, што кнігу трэба дапрацаваць (а мо яшчэ і таму, што адчувае: супраць сілы не папрэш).

А час ідзе. Па плану трэба ўжо здаваць, а рукапіс яшчэ ў аўтара. У гэты месяц не паспявае...

А ў наступным, калі ўжо ўсё зроблена і даведзена да ладу, яшчэ захацела пачытаць начальства — галоўны рэдактар ці сам дырэктар. А ім, як правіла, ніколі няма часу, яны чытаюць памалу, і тое, што рэдактар месяц рэдагуе, яны могуць гэтулькі чытаць. Ну, пасля заўсёды бываюць заўвагі — часам вялікія, часам малыя. Зноў трэба патраціць тыдзень-два, покуль усё ўтрасецца,— і зноў кніга выскачыла з графіка наступнага месяца. Загадчык Гушчынскі, ды і Нагорны, успрымалі такі факт як непазбежнасць: у выдавецкай справе нечаканасцяў не абярэшся. Урэшце, з іх за гэта спаганялі, яны неяк выкручваліся перад начальствам, замянялі нешта нечым, перастаўлялі, знаходзілі нейкія рэзервы — і машына круцілася, а ў рэдакцыі нават не ведалі, што Гушчынскаму за зрыў графіка зноў уляцела.

А Маскалевіч не хацеў, каб з-за некага лаялі яго самога. Раз ты паставіў рукапіс у графік, то ляж касцьмі, а дай яго ў тэрмін. І ён ужо не злазіў з карка ў таго, чый рукапіс быў пад пагрозай.

Тут яны часта сутыкаліся з Нагорным, бо той, як правіла, ніколі не спяшаўся.

Новая спрэчка ўспыхнула зусім нечакана.

Маскалевіч зайшоў у другі пакой з графікам у руках. Мо гэты графік быў яму і не патрэбны, але з графіка лягчэй пачынаць.

— Слухайце, хлопцы і дзяўчаты,— як пратрубіў у рог, загарланіў Маскалевіч.— Сёння дзесятага, а ніхто яшчэ нічога не здаў! Ты, Пракурат, здасі?

— Здам,— пазяхаючы, сказаў Пракурат.— Можаш спаць спакойна. У мяне там семнаццатага.

— А ты, Драгун?

— На якое там у мяне?

— На дваццатага...

— Думаю, што здам. Могуць толькі падвесці мастакі. Мы забракавалі афармленне, робяць новае.

— Трэба было ўлічыць. На тое ты рэдактар!

— Я рэдактар, а не афарміцель. У іх свае тэмпы, я ім не загадаю.

— Далажы дырэктару!

— Даложыш і ты...

— І далажу! Бо рэдактар першы адказвае за зрыў графіка.

— А чаму рэдактар? А навошта і другія ставяць свае подпісы?

— Па інерцыі. Рэдактар — асноўная фігура ў выдавецтве.

— Не фігура, а громаадвод... Каб адказваць за ўсё,— уставіў Пракурат.

— Хоць бы для гэтага... Цяпер Роўба...

— Чытае начальства, я даўно здала.

— Я сам пагавару з дырэктарам,— паабяцаў Маскалевіч.

— Прыцісні яго, прыцісні, як ён нас цісне,— пажартаваў Нагорны.

— А што? І прыцісну,— сур'ёзна адказаў Маскалевіч.— Нікому не дазволена зрываць графік... Цяпер ты, Лявон... Чаму не здаеш? Сёння апошні тэрмін.

— Тэрмін! — адразу ўскіпеў Нагорны.— Яшчэ пяць тэрмінаў будзе... Адказная праца! Не магу я, нічога не разгледзеўшы, здаваць у набор. Акадэмікі вывяраюць тэксты. Тут не схопіш, трэба кожную літару праверыць.

— Кінь ты! Няўжо класіку перавыдаваць цяжэй, чым выдаваць арыгінальнае? Гавары каму хочаш, толькі не такому, як сам, рэдактару.

— Што ты разумееш у класіцы? — зазлаваў Нагорны.

— Ну, праўда, мо меней, як ты, бо я выдаю арыгінальныя кніжкі, з класікай мала сутыкаўся. Але лічу, што Якуба Коласа лягчэй перавыдаваць, чым рэдагаваць якога-небудзь Каралевіча.

— Ха! — пагардліва хмыкнуў Нагорны.— Ты паспрабуй!

Маскалевіч пачырванеў.

— Не замазвай мне вачэй! — голас яго набыў яшчэ большую сілу.— Я сам бачыў, як ты выдаваў і рыхтаваў класіку. Прыносяць твае «акадэмікі», ты чытаеш пасля іх, робіш заўвагі, яны яшчэ раз вывяраюць — і ты падпісваеш у набор. А потым ідзе на вычытку да карэктараў. І ты нават пытанняў з карэктарамі не здымаеш, а адсылаеш іх да «акадэмікаў» або тых выклікаеш да карэктараў. Так ці не? А ты кажаш — цяжка вывяраць, звяраць, правяраць! Кінь прыкідвацца! Хіба мы не бачым, як ты рэдагуеш?

— Як я рэдагую? — усхапіўся з-за стала Нагорны.—

А хто за мяне выконвае план? Ты? Думаеш, я не ведаю, як ты рэдагуеш? Паправіш адно слова на старонцы, а з аўтара бярэш ганарар за літапрацоўку, яшчэ і на тытуле сваё прозвішча ставіш. Гэта, па-твойму, сумленна?

Маскалевіч пабялеў і падышоў да Нагорнага, спыніўся перад яго сталом.

— Каб мы былі адны і не ў рэдакцыі, то я табе паказаў бы, што такое сумленне і з чым яго ядуць, але адкладзём гэта на другі раз. І прашу цябе, пра сумленне менш гавары, гэта шкодна.

— Для каго шкодна?

— Для таго, хто меніць языком і разносіць усялякія плёткі. Проста несалідна з твайго боку, Нагорны, паўтараць за другімі розную лухту.

— Якую лухту? Што ты бярэш хабар? Я ж пра гэта табе не казаў. Аднак цябе выклікалі куды трэба, праўда?

Усе чакалі, што Маскалевіч не вытрымае гэтай плюхі і сарвецца. Але ён толькі роблена-весела засмяяўся, прымяў полымя.

— Ты як старая баба, што з табою гаварыць. Я ж не веру ў тое, што ты ў аднаго аўтара, як гавораць плёткі, забраў некалькі карцін — таму што яны табе спадабаліся. Спадзяюся, ты ведаеш, пра што ідзе гутарка.

Умяшаўся Пракурат, падняў угору рукі, закрычаў:

— Хлопцы, мне брыдка ўсё гэта слухаць. Даволі abліваць адзін аднаго памыямі... Не мяшайце працаваць, інакш...

Абодва гарачыя апаненты замоўклі.

— Ладна,— сказаў урэшце Маскалевіч.— У нас была гаворка пра графік... Скажы, Лявон, калі падпішаш том у набор? — Маскалевіч гаварыў з Нагорным так, нібы ранейшай гутаркі з ім не было.

— Хоць заўтра! — Нагорны яшчэ не астыў.— Толькі не збірайся праехаць у рай на чужых гарбах.

— Як гэта разумець? — Маскалевіч бліснуў вачыма на Нагорнага.

— Як хочаш.

Маскалевіч толькі паківаў галавою, зрабіў на твары пагардлівую грымасу і выйшаў.

— Начальнік знайшоўся! — праводзіў яго Нагорны.— Ідзі сваёю жонкай камандуй, а не тут.

— Яго хлебам не кармі, а дай пакамандаваць. Каб толькі яго воля, ён усё ў казармы перарабіў бы, а нас — у салдат. На работу ганяў бы строем, пад маршавую песню.

А што норму, то даводзілася б выціскаць самую ўра-патрыятычную,— бубніў сам сабе Пракурат, хоць нядаўна сам патрабаваў цішыні.

У рэдакцыі пасмейваліся з гэтай сваркі, бо чулі яе не першы раз, і факты, якімі казыралі абодва апаненты, таксама былі не новыя для ўсіх. Ведалі яны яшчэ і болей, толькі кожны пра сябе ведае, як правіла, зусім мала. І толькі вось калі адбываюцца такія сутычкі, тады працаўнікі выкладваюць усе козыры, часам вельмі нечаканыя для абодвух. Рэдактары ў большасці спачувалі Нагорнаму, хоць Маскалевіч і казаў праўду пра тое, як ён рэдагуе класіку. Што казаць, у кожнага чалавека ёсць свае грахі, аднак рэдактарам прыемна было чуць, як Нагорны адбрыў Маскалевіча. Пракурат, Жывіца, Роўба ці той жа Драгун або Малышка не вельмі маглі б так паставіцца да Маскалевіча, каб і была вунь якая крыўда, як гэта зрабіў Нагорны, які адчуваў вялікую падтрымку ад загадчыка рэдакцыі, што сам ужо трохі пакаштаваў начальніцкага хлеба і ведаў яго смак. Усе разумелі таксама, што гутарка ці, праўдзівей, сварка, адразу стане вядома дырэктару — ды з усімі дэталямі і фактамі, якія будуць павернуты як супраць рэдакцыі, але што супраць Нагорнага — то ў гэтым усе былі ўпэўнены. А дырэктар не палянуецца склікаць вытворчую нараду пра ўзаемаадносіны ў рэдакцыі літаратуры на прыкладзе Нагорнага і Маскалевіча. А такія сур'ёзныя закіды ў адзін і другі бок наўрад ці пройдуць без следу. Гаварыць такое — трэба мець нейкія доказы, іначай — маўчаць.

Нагорны прынёс у рэдакцыю трывожную навіну. Ён гаварыў па тэлефоне з Гушчынскім.

Гушчынскаму стала трохі лепей, яго ўжо выпісалі з бальніцы, і ён ляжыць дома. Але ўчора з ім ледзь не здарыўся сардэчны прыступ. Прычына — пазваніў дырэктар Важнік. Нагорны перадаваў усю гутарку ў асобах, асабліва націскаючы на дырэктара праз меру мяккае вымаўленне шыпячых.

*Важнік.* Привет, Гушшинский, как ты там?

*Гушчынскі.* Дзякую, Павел Іванавіч, трохі лепш.

*Важнік.* Брось, Гушшинский, не трохай, а давай поправляйся, а то я вынужден буду искать на твое место шеловека.

*Гушчынскі* (у замяшанні, заікаючыся). Павел Іванавіч, як жа гэта?.. Хваробе ж не загадаеш... Папраўлюся... тады...

*Важнік* (груба). Брось,Гушшинский, не прикидывайся, берись, за работу. В редакции беспорядок, графики трещат, дисциплины нет, редакторы между собой грызутся, ставят один другому палки в колеса. Это не дело. Так что давай, не медли, а то будет поздно...

І дырэктар павесіў трубку. Здаровы чалавек і то пасля такога «прывітання» мог бы злегчы, а што казаць пра хворага? Гушчынскаму стала кепска, зноў выклікалі «хуткую дапамогу». Крыху адсопшыся, ён пазваніў сяму-таму са сваіх сяброў, каб дазнацца, што азначае такі званок і такі ход гутаркі з дырэктарам. І ўстанавіў, што ў дырэктара даўно сядзіць у галаве план: зняць Гушчынскага з пасады загадчыка рэдакцыі за беспрынцыпнасць і мяккасць. І што на прыкмеце ён ужо мае некалькі кандыдатур, хоць яшчэ невядома, хто мае болей шанцаў.

Расказ Нагорнага адразу знізіў тонус ва ўсіх рэдактараў. Многія павесілі насы. Пракурат адразу пабег у магазін. Людзі адарваліся ад работы, сядзелі, разваліўшыся, на сваіх крэслах, думалі ўслых, разважалі, курылі ў пакоі, што ўвогуле дазвалялася толькі гасцям, ды і то не ўсім. Нават Нагорны закурыў, хоць ён быў самы яры праціўнік усякіх наркотыкаў.

Калі Гушчынскі трывала сядзеў за сваім загадчыцкім сталом, рэдактары часам пасмейваліся з яго неарганізаванасці, неахайнасці ў рабоце і зігзагападобнасці яго лініі ў адносінах з начальствам і аўтарамі. Гушчынскі быў выдатны амартызатар — ён змякчаў удары абодвух бакоў, многае прымаў на сваю галаву, але ў яго была добрая звычка не вешаць носа, не звальваць на другіх чужой віны і смяяцца, жартаваць тады, калі другі на яго месцы плакаў бы. Напрыклад, калі рэдакцыя правальвала графік, а ён рабіў справаздачу за месяц у дырэктара, то звычайна гаварыў так, нібы рэдакцыю ўзнагародзілі ордэнам ці сама мала прагрэсіўкай. Выразным дыктарскім голасам, узнёсла, як Левітан, націскаючы на «р», ён гаварыў прыблізна так: «Наша рэдакцыя ў гэтым месяцы, як ніколі, вызначылася сваімі паказчыкамі. Мы выканалі план ажно на... 56 працэнтаў! Гэта, таварышы, вялікі поспех! Асабліва вызначыліся рэдактары (тут ён назваў некалькі прозвішчаў). Яны далі ажно 3 працэнты плана, хоць абяцалі даць усяго 32. Хіба ж гэта не поспех?»

І так да канца! Як толькі ў яго хапала цярпення і штучнага пафасу? Гэта многіх смяшыла, а дырэктар сядзеў як на іголках. Жартаваць над такой рэччу, як план, было не ў яго характары. І ўжо калі ён браў слова, то Гушчынскаму

даставалася болей за ўсіх. Дырэктар у гэтых справах быў мастак, ён ведаў, калі і на каго націснуць. А апошні час з Гушчынскага ён не злазіў. Усё, што ні рабіла рэдакцыя, было або мала, або кепска. І Гушчынскі атрымліваў усё новыя кухталі. У адпачынак ён ішоў ужо з паніжаным настроем, нібы адчуваў, што яго крэсла-трон захістаўся.

Цяпер усе — а лепей сказаць большасць рэдактараў — глянулі на свайго начальніка па-іншаму. Самае вартае ў ім — гэта што ён ніколі не аддзяляўся ад масы, а прымаў разам з ёю аднолькавы лёс, хоць у яго было ў запасе сто спосабаў, каб выгарадзіць сябе, а ўсю віну звярнуць на некага, як гэта звычайна робяць начальнікі-службісты. Гэты трымаў руку масы, за што начальства і лічыла яго беспрынцыпным і мяккацелым. Ён не мог свядома пакрыўдзіць чалавека, а калі і рабіў гэта, то або пад вялікім націскам, або не ўяўляючы, што з гэтага выйдзе.

Пэўна ж, у яго былі свае сімпатыі і антыпатыі, да адных аўтараў ён падыходзіў чула, з павагай, з другімі быў паблажлівы ці часам рэзкі, адных ён мог абараняць перад начальствам, да лёсу другіх мог паставіцца абыякава. Але ва ўсім гэтым не было злога намеру, знарочыстай злосці і жадання падставіць нагу ці адпомсціць за крыўду. Здаецца, што ў ім не было пачуцця зайздрасці, якое так прыкметна ў большасці людзей, а калі яно і было, то ён умеў яго хаваць глыбока і не даваў яму волі. На першым месцы ў яго стаяла шчырае жаданне памагчы чалавеку.

А Драгуну вельмі падабалася ў Гушчынскім тое, што ў яго не было начальніцкай пыхі, ён з кожным мог стаць на роўную нагу, не камандаваў, а нібы прасіў, раіўся ці раіў. Адным словам, ён верыў чалавеку, і гэтую яго веру кожны стараўся не падвясці, а апраўдаць. Праўда, іншы раз ён злаваў, калі хто-небудзь ужо вельмі падводзіў яго пад дурнога хату, лаяўся, але хутка астываў і праз колькі часу, здавалася, зусім забываўся пра сутычку — зноў быў роўны, прыветлівы і жартаўлівы. Галоўнае, ён не стараўся навязваць чалавеку свае думкі, яго можна было пераканаць, чаго ніколі не скажаш пра галоўнага рэдактара Быліну, які не пасаваў нават перад самымі важкімі довадамі.

...Драгуну спатрэбіліся канверты, і ён пайшоў на «сваю» пошту — у падвале суседняга дома, злучанага са старым Домам друку пераходам на трэцім паверсе, было паштовае аддзяленне. Якраз на пераходзе Драгун спаткаў свайго аўтара — некалькі год назад рэдагаваў яго аповесць — Птушко. Яны павіталіся, сталі ля акна. Птушко быў высокі,

тонкі, цыганаваты, з цёмнымі жывымі вачыма. А скроні ў чорных, трохі кучаравістых валасах ужо зусім пабялелі.

— Што, братка, невясёлы? — заўважыў адразу Птушко.

— Ды так,— ухіліўся ад прамога адказу Драгун.— Усялякія дробязі.

— А як у рэдакцыі?

У гэтым пытанні адчувалася прыхаваная цікаўнасць. Падумалася, што Птушко нешта ведае.

— Невясёлыя чуткі... Гушчынскі быў сур'ёзна хворы.

— Чуў... Нічога, ужо ж папраўляецца. Мо хутка на работу выйдзе?

— Мо і хутка, ды што тут прыемнага? Яго збіраюцца спіхнуць... Прышлюць якога чорта лысага...

Птушко, здавалася, нічуць не здзівіўся такой навіне, і ўжо аднаго гэтага было даволі, каб Драгун насцярожыўся.

— А каго мецяць да вас, якога чорта лысага?

— Хто іх ведае. Хіба ж яны скажуць? Ці спытаюць у нас?

— Гэта праўда. Яны бяруць для сябе, а не для вас.

— А Гушчынскі якраз хіліўся болей да масы, чым да начальства.

— Таму яго і спісваюць... А ўсё ж — гэта цвёрда?

— Яшчэ невядома... Кажуць, што дырэктар нават самому Гушчынскаму пра гэта намякнуў. І той чуць дуба не даў...

— Навіна не вельмі вясёлая,— паспачуваў Птушко.— Ну, бывай, мо хутка ўбачымся...— Ён загадкава ўсміхнуўся і падаў Драгуну доўгую, касцістую руку.

Птушко выклікаў у Драгуна дваістае пачуццё. Да яго цягнула і адштурхоўвала, давер і падазронасць змянялі адно другое. За яго такой натуральнай і простай шчырасцю адчувалася яшчэ нешта прыхаванае, нешта сакрэтнае і таямнічае. У іх адносінах засталася нейкая нябачная мяжа, якую яны так і не пераступілі: Драгун застаўся для Птушко проста рэдактарам, Птушко для Драгуна — проста аўтарам. І цяпер, пасля сустрэчы, Драгун ішоў на пошту і думаў, што вось добры чалавек гэты Птушко, а ёсць у ім нешта такое, што насцярожвае, не дае раскрыць душу, хоць Птушко робіць усё, каб чалавек перад ім быў шчыры. І гэтыя яго намёкі, недагаворкі, загадкавыя ўсмешкі...

Але што гэта ўрэшце для Драгуна? З Птушко яны сустракаюцца раз у год. Такіх знаёмых у Драгуна многа, і жыць яны яму не мяшаюць, як і ён ім. А калі напіша новую рэч, то могуць зноў сысціся іх дарогі, але таксама

ненадоўга — на якіх месяц ці два, пакуль рэдагуецца кніжка.

Ды не думаў ніколі Драгун, што можа здарыцца такое: праз два тыдні пасля той сустрэчы Птушко прыйшоў да іх у рэдакцыю... загадчыкам. А Гушчынскі, які пасля хваробы толькі што сеў за свой загадчыцкі стол, быў пераведзены ў звычайныя старшыя рэдактары, як Нагорны, Маскалевіч, Пракурат.

А яшчэ праз два тыдні Гушчынскі падаў заяву аб звальненні. Ён ішоў працаваць загадчыкам рэдакцыі ў толькі што арганізаванае выдавецтва «Полымя».

## 42

На дзвярах рэдакцыі вісела белая папяровая абвестка: «Прыём аўтараў — з 4-х да 6-ці гадзін».

Гэтую рэформу правёў яшчэ сам загадчык Гушчынскі, каб павысіць ККД работнікаў рэдакцыі. Пакуль усе не даведаліся пра новыя парадкі, заходзілі, як і раней, хоць, праўда, не ўсе. Ёсць людзі, якім гавары ці не, пішы ці заклікай — яны ведаюць сваё. А болей далікатныя і шляхетныя, прачытаўшы на дзвярах такое папярэджанне, паварочвалі назад, прыходзілі пасля абеду. Праўда, у каго была мінутная справа: што-небудзь спытаць, узяць на рэцэнзію які рукапіс, забраць карэктуру для чыткі ці даведацца, калі будзе ганарар, тыя не баяліся зайсці, бо яны, як правіла, асядалі ў першым пакоі, дзе сядзеў загадчык і некалькі рэдактараў, але і з тых сёй-той быў у надомніках.

Гэты дзень пачаўся для Драгуна добра. Ён пачуваў сябе бадзёра, галава была свежая, і праца спорылася. Але ўжо недзе ў гадзін адзінаццаць адчуў, што пачынае браць стома. Ён выйшаў з будынка і накіраваўся ў сваё любімае месца ля тапаляў, прылёг на траве. Ён часта сюды прыходзіў у вясеннюю пару, калі не трэба апранацца і гаварыць, куды ці чаго. А так ніхто не ведае, дзе ты, куды пайшоў і ці хутка прыйдзеш. Галоўнае, скажуць: недзе тут. А Драгун у гэты час ляжыць пад тапаляй, слухае вечны шум тапаліных лісцяў, успамінае лес, у якім жыў і вырас. О, лес ён любіў і калі трапляў пад яго гасцінныя шаты, адразу дабрэў душою, спадала напружанасць нерваў, ён станавіўся сам сабою. Добра адпачывалася, добра думалася; ён пачынаў адчуваць, што яшчэ не ўсе ніткі, якімі звязаны ён з зямлёю, парваліся... Аднак доўга Драгун ніколі не залежваўся, хвілін 10—15, як звычайны перапынак у рабоце, замест

перакуру. У яго свядомасці ўжо жыў клопат, выпрацаваны гадамі службы: трэба цягнуць, трэба варушыцца. Турбавала сумленне — а што скажуць другія, а мо там хто цябе чакае, мо каму ты патрэбен, а мо якраз выклікае начальства, бо неяк заўсёды так выходзіць, што як ты адлучыўся на хвіліну, то табе тут жа звоняць па тэлефоне або трэба ісці да свайго, што сядзіць у суседнім пакоі, ці вышэйшага начальства. І калі ты разы два ўзапар не стаў перад яго яснымі вачыма, то атрымаеш вымову: чаму, што, як, каб апошні раз.

Зайшоўшы ў рэдакцыю, Драгун убачыў, што яго месца занята. За яго сталом сядзеў празаік Трошын, іх аўтар, і нешта гаварыў з Роўбай. Якраз яна вяла яго першую кніжку. Інтэлігентны, лабасты, з прылізанымі валасамі, з ветлівымі манерамі, аматар пагаварыць і паказаць сваё красамоўства, Трошын заўсёды быў поўны энергіі, аптымізму, весялосці — спрачаўся, даказваў, шумеў, пераконваў. А сёння ён быў нейкі посны, ціхі, сціплы — адным словам, такім Драгун яго бачыў упершыню.

Злавіўшы на сабе ўважлівы Драгуноў позірк, які выразна гаварыў: «Дайце маё месца», Трошын устаў з-за стала і папрасіў прабачэння. Ён падсеў да Роўбінага стала.

Перадыхнуўшы, Драгун зноў узяўся за працу. Чытаючы рукапіс, падкрэсліваў, рабіў сям-там выпіскі для заключэння ці занатоўваў думкі, якія ўзнікалі па ходзе чытання. Трэба было азнаёміцца з усімі рукапісамі, якія лічыліся за ім, перш чым ставіць іх у план выдання. Тое, што зусім слабае, недапрацаванае, лепш не пусціць цяпер, бо потым будзе цэлая бяда. Тэматычны план — гэта такая штука, што туды цяжка трапіць, але, трапіўшы, цяжка і вырвацца. Тэматычны план — як чыгуначныя пуці, дзе кожная кніга — шпала. Выняў шпалу — можа сысці з рэек цягнік, выпала кніга — недавыкананне плана.

Па меры таго як Драгун стамляўся, навакольныя гукі ўсё больш сталі далятаць да яго свядомасці, а тое, што ён чытаў, даходзіла штораз горай. Урэшце ён стаў разбіраць, пра што гавораць Роўба з Трошыным. Яны замянялі выкрасленыя некім сказы, каб не рабіць пераверсткі: на месца кожнага выкрасленага радка трэба было ўставіць новы. Але, як правіла, выкрэсліваліся самыя вострыя, самыя мускулістыя, багатыя сэнсам радкі. А на іх месца трэба было даць нешта мяккае, аморфнае. На справе выходзіла прыблізна тое ж, што замяніць дрэва націнай: адразу відаць, дзе папраўлена.

Паступова, хоць і прыцішаная, гутарка стала нерваваць Драгуна. Ён выйшаў у пярэдні пакой, сеў на канапу. Трохі яшчэ нязвыкла было бачыць за загадчыцкім сталом новага чалавека, заместа Гушчынскага — Птушко. Акрамя Птушко, у пакоі сядзеў яшчэ Маскалевіч. Яны пра нешта гаварылі, але замаўчалі, як толькі зайшоў Драгун.

— Слухайце, што яны там робяць? — рэзка пачаў Драгун, паказаўшы рукою на дзверы.

Маскалевіч зарагатаў.

— Што ты ў нас пытаеш? Ты ж адтуль.

А Птушко нібы нічога не зразумеў.

— Хто гэта «яны»?

— Ну, Роўба і Трошын... Яны ж псуюць кнігу!

— Ты як з неба зваліўся,— сказаў Маскалевіч.— Хаця ж ты быў у надомніках.

— Дык што тут такое?

— Трошына вярнулі адтуль... Зрабілі сур'ёзныя заўвагі. Цяпер аўтар і рэдактар дапрацоўваюць,— спакойна растлумачыў Птушко, хоць звычайна ён быў хуткі і нават мітуслівы.

— Якое дапрацоўваюць? Яны ж калечаць кнігу, я ж яе чытаў перад наборам. Здаецца, і ты, Маскалевіч, чытаў?

— Чытаў. Мне здалося, што зборнік будзе неблагі.

— Што за д'ябал! Калі што добрае, то абавязкова прычэпяцца, а як якая лухта — тая ідзе хоць бы што!

Маскалевіч падтрымаў Драгуна.

— Каб ужо якія дробныя заўвагі, а то здымаюць два апавяданні — «Двайнікі» і «Леначка».

Загадчык у гэты час устаў і недзе выйшаў.

— Гэта ж самыя лепшыя апавяданні з кніжкі.

Маскалевіч раптам перавёў гутарку на другое:

— А куды гэта Птушка паляцела? Няйначай, да начальства.

— Чаго?

— Ты не ведаеш? Ён чуць што — адразу да начальства. Далёка пойдзе!

— Ну, рана яшчэ рабіць прагнозы...

Зайшоў Птушко, але не сеў за свой стол, а прымасціўся на канапе, побач з Драгуном. Твар яго здаўся ўсхваляваным.

— Я быў у дырэктара. Расказаў пра вашу скаргу.— Ён кіўнуў на Маскалевіча і зірнуў у вочы Драгуну.— Дырэктар загадаў сабраць рэдакцыю і растлумачыць рашэнне

бюро па зборніку Трошына... Каб не было ніякіх непаразуменняў.

— Хіба было спецыяльнае бюро? — спытаў Драгун.

— А як жа! Выклікалі толькі адну Роўбу... Яна прыняла ўсе заўвагі.

— Што ёй заставалася рабіць? Гэта ж бюро! — Маскалевіч крыва ўсміхнуўся.— Паспрабуй не прымі!

Птушко зайшоў у другі пакой, каб сказаць астатнім рэдактарам, што назначаны збор.

Маскалевіч зашаптаў Драгуну:

— Ці я табе не казаў? Хто яго прасіў гаварыць таму дырэктару?

Драгун прамаўчаў, хоць у яго ў душы збіраўся гнеў. Сапраўды, Птушко ў гэтай сітуацыі павёў сябе па-дзіцячы.

Праз хвіліну з таго пакоя выйшаў Трошын, надзеў капялюш, раскланяўся.

— Ну і цяжкая ў вас праца! — паспачуваў і выйшаў за дзверы.

Праз хвілін колькі ўся рэдакцыя сабралася ў дырэктарскім кабінеце.

Дырэктар, заклаўшы рукі за спіну і ходзячы ад свайго стала да даўжэзнага стала для нарадаў, гаварыў строгім голасам:

— Мяне здзіўляе, што нашы рэдактары адстаюць нават ад падзей нашага ўнутрывыдавецкага жыцця. Што ўжо тады гаварыць пра тое, як яны сочаць за поспехамі нашай краіны, за падзеямі за рубяжом. Мо яны не паспяваюць чытаць нават газеты? Для рэдактара гэта, таварышы, недаравальна. Рэдактар павінен трымаць вуха востра, павінен сачыць за ўсім. Аднак, як ні дзіўна, сёння я выклікаў вас для таго, каб растлумачыць рашэнне нашага партыйнага бюро, пра якое некаторыя чулі, а некаторыя не. Чаму не чулі — гэта трэба спытаць у іх. Гэтае надомніцтва мне ўжо ў нырках. Яго даўно трэба прыкрыць, але не дае цесната. На добры лад, усякую інфармацыю пра выдавецкія справы ў рэдакцыі павінен рабіць загадчык рэдакцыі, аднак ён новы чалавек, таму з яго я не патрабую таго, што патрабаваў бы з Гушчынскага. Хоць, калі гаварыць шчыра, з Гушчынскага нельга было нічога ўзяць.

Потым дырэктар перайшоў да зборніка Трошына, ахарактарызаваўшы яго як недапрацаваную, змрочную і тэндэнцыйна-аднабокую кніжку, якая магла б прынесці толькі шкоду чытачу. І толькі дзякуючы пільнаму воку галоўліта кніжка ў такім выглядзе не ўбачыла свету. Рэдактар

Роўба, хоць ужо і даўно працуе ў выдавецтве, не адзін раз рабіла такія промахі, бласлаўляла ў свет творы, якія не адпавядалі духу часу і нашым сучасным патрабаванням.

— Калі браць кожнае апавяданне паасобку,— працягваў дырэктар,— то яны не выклікаюць асаблівай трывогі, іх можна чытаць і друкаваць, а сабраныя пад адну вокладку, яны так згушчаюць фарбы, ствараюць такі змрочны малюнак жыцця нашых людзей, што робіцца ажно страшна. Што аўтара цікавіць перш за ўсё, што прыцягвае яго ўвагу? Адмоўнае, хваравіта-нездаровае, ненармальнае, ушчэрбнае. Яго героі або безнадзейныя п'яніцы ці нікчэмныя інваліды, сіроты-дзеці, абяздоленыя ўдовы. Прачытаўшы зборнік, здаецца, што ў жыцці наогул няма нічога светлага, радаснага, вясёлага. У Трошына — суцэльная цемра, беспрасветнасць, чарната. А калі і ёсць які-небудзь станоўчы герой, то ў канцы ён абавязкова гіне... Дык ці можам мы выдаваць такі аднабокі, такі тэндэнцыйны, нездарова-тэндэнцыйны зборнік, каб потым нас скланялі на ўсіх сходах і нарадах з высокай трыбуны? Таму, калі галоўліт вярнуў нам зборнік, мы вырашылі разгледзець яго на бюро, каб рэдактар, таварыш Роўба, улічыла ўсе свае промахі на далейшае. І каб некаторыя рэдактары, якія, дарэчы, многія чыталі гэты зборнік перад здачай у набор, таксама зрабілі для сябе вывады...

Маскалевіч узняў руку:

— Дазвольце для даведкі?

— Гавары,— кіўнуў галавой дырэктар.

— Хачу ўнесці яснасць, каб не склалася няправільная думка... Я чытаў не ўсё, а толькі некаторыя апавяданні са зборніка, так што я не мог, натуральна, улавіць агульнага настрою зборніка... Акрамя таго, я гаварыў Трошыну, што некаторыя яго апавяданні вельмі змрочныя. Гэта я гаварыў і рэдактару Роўбе...

Дырэктар перавёў позірк на сцішаную, збедненую Роўбу, якая сядзела паміж Пракуратам і Нагорным і, здавалася, гатова была ўціснуцца ў крэсла.

— Гаварыў вам Маскалевіч?

— Гаварыў,— ціха сказала Роўба.

— Чаму ж вы не ўлічылі парады старэйшага таварыша?

— Мне здавалася, што зборнік не такі ўжо змрочны...— ледзь не плачучы, прамовіла яна.

— Вам здавалася! — груба паўтарыў яе словы дырэктар.— Не бярыце на сябе многа. Усё, што гавораць вам старэйшыя, прытым партыйныя таварышы, заўсёды пры-

майце да ведама, не саромейцеся раіцца. Для гэтага ў вас ёсць загадчык, ёсць галоўны рэдактар, ёсць я, дырэктар. Лепш пяць раз параіцца, чым потым рэзаць кнігу, затрымліваць яе ў вытворчасці. Няўжо вы гэтага яшчэ не разумееце? — Дырэктар памаўчаў, абвёў вачыма рэдактараў і перавёў гутарку ў новае рэчышча: — Цяпер скажыце, хто яшчэ чытаў зборнік Трошына перад наборам?

— Я чытаў,— сказаў Драгун і прыўстаў са свайго крэсла.

— Вы чыталі ўсё ці асобныя апавяданні?

— Усё...

— І якая ваша думка? — спытаўся дырэктар.

— Як я бачу, усякія думкі тут ужо лішнія. Аднак калі вы хочаце ведаць маю, то я вам скажу. Тут ніякіх сакрэтаў няма...

— Ну, ну,— падахвоціў яго дырэктар і ўсміхнуўся, стаў ля вялізнага стала і ўпёрся нізам жывата ў яго край.

— Калі быць шчырым, то зборнік мне спадабаўся... І як аўтар, я з асалодай падпісаўся б пад кожным апавяданнем са зборніка Трошына,— сказаў Драгун і сеў.— Як аўтар,— паўтарыў ён ужо седзячы.

Рэдактары пазіралі на яго, як на вар'ята.

А дырэктар стаяў з вырачанымі вачыма і спачатку не ведаў, што сказаць — нібы яму адняло мову. Нарэшце праз зубы спытаўся:

— Што ты сказаў?

— Што вы чулі,— адказаў Драгун і, сцяўшы зубы, глянуў ў твар дырэктару.

— Ну, Драгун... Я думаў, што ты паразумнееш, а ты застаўся такі, як быў! Так не можа цягнуцца бясконца!..

І тут пачалося. Дырэктар, намеснік галоўнага рэдактара, парторг (не было толькі галоўнага рэдактара, пайшоў у адпачынак) адзін перад другім гранілі Драгуна, вымяшчалі сабраную гадамі злосць. Здавалася, усе забыліся, што абмяркоўваецца не работа Драгуна, а рэдактара Роўбы.

Калі добра накрычаліся і нашумеліся, дырэктар заявіў у канцы нарады перад усімі:

— Або я, або Драгун — у выдавецтве нам дваім не месца.

## 43

Падбіў жа Веру нейкі д'ябал сказаць вечарам Драгуну:

— Сёння другога. Ці выпісаў ты за кватэру і за тэлефон?

Драгуну нібы стукнулі абухам па галаве: стала млосна. Сёння другога... Роўна месяц... У дзевяць гадзін, чорт вазьмі! А ён зусім забыўся. Ці не фатальнае што ў гэтым? Прыпомніўся яму нядаўні сон. Здаецца, недзе, як бы на тым праспекце, да яго падыходзіць жанчына і моцна бярэ за руку. Здаецца нават, што ён трохі ведае яе — разам калісьці хадзілі ў сталовую, калі ён яшчэ быў нежанаты. Рослая, дужая, з прыгожымі густымі валасамі пшанічнага колеру, яна адразу чаруе яго, Драгун фізічна адчувае над сабою яе ўладу. Яна бярэ яго за руку і некуды вядзе. Драгун са смехам і жартамі аднекваецца, кажа, што ён жанаты, у яго дзеці, але ідзе за ёю, адчуваючы на сваёй руцэ вышэй локця яе моцную хватку...

Драгун выходзіць са стану здранцвення.

— Выпішу заўтра,— кажа ён жонцы.— Сёння мне трэба схадзіць да аднаго чалавека, дастаць фатаграфіі да рукапісу. Добра, што ты напомніла.

— Я?.. Ды ўжо ж позна.— Вера падазрона глянула на яго. Сядзеў чалавек спакойна, глядзеў тэлевізар, а тут раптам усхадзіўся.

— Нічога, я ненадоўга.

— І я з табою,— прапішчала Аленка.

— Яшчэ цябе там не хапала! Сядзі з мамай!

Малое пачало плакаць.

— Не плач, то куплю цукерак.

— Якіх?

— Ну, тваіх любімых, ірысак.

— Добра, не буду плакаць... Толькі скора.

Драгун зачыніў за сабой дзверы і з палёгкай уздыхнуў. Ужо цямнела на дварэ, стаяла тая пара позняга лета, калі днём яшчэ цёпла, а ночы робяцца штораз даўжэйшыя і халаднейшыя. Да прыпынку хоць і было не так далёка, але часу заставалася лічаныя хвіліны, і ён ішоў хутка, а там, дзе дарогу перасякалі ўсякія перашкоды — канавы і насыпы, што нарабілі газаправодчыкі, ён пускаўся подбегам. Спачатку ў пінжаку было нават холадна, а цяпер ён разагрэўся. «Цьфу, стары дурань, куды ляціш? Мо ў вір галавою...» І ён пайшоў павольней. На прыпынку людзей не было. Пад'язджаў тралейбус, людзі выходзілі і ішлі да сваіх дамоў, прастуючы, каб скараціць дарогу. Драгун стаяў, перабіраючы вачыма жанчын. Ён ужо нават забыўся, як яна выглядала, тая Марына, а калі яна будзе апранута па-іншаму, тады і зусім мала надзеі на тое, што ён яе пазнае. Здаецца, яна... Не, тая вышэйшая ростам, валасы чорныя, а

ў гэтай трохі рыжаватыя, фарбаваныя. Прайшла, нават не зірнула на Драгуна, павярнула да магазіна. Вось... Драгуна нібы хто штурхануў.. Марына! У скандынаўскім, тоўстым, з узорамі чырвона-белага колеру, шэрым світры, з накручанымі валасамі, і адна вялікая пасма звісае на лоб. Востры прыгожы носік, поўныя пафарбаваныя на чырвонае вусны, праз плячо, як аўтамат, перакінута чорная сумачка з пакарабачанага палімеру. Марына няпэўным крокам падыходзіць да Драгуна.

— Ды гэта... ці мне здаецца? — пытае нясмела і ўсміхаецца.

— Я... Але вас я адразу не пазнаў.— Ён падаў ёй руку. Яна моцна адказала на поціск.

Яны, не згаворваючыся, пайшлі да аркі батанічнага саду, выйшлі на дарожку між ліповых прысадаў.

— Па-мойму, вы смелая жанчына,— сказаў Драгун, як толькі яны прамінулі арку і пад нагамі замест гулкага бетону зашастаў пясок.

— Чаму? Што прыйшла?

— І што не забылася... Цэлы месяц...

— А вы ж таксама...

Драгуну было няёмка прызнацца, што ён забыўся, і каб не жонка, то яго тут яна не ўбачыла б, і таму сказаў другое:

— Ну, мужчынам нягожа падводзіць слабую палову чалавечага роду.

— Вы лічыце нас усё-такі слабымі?

— Гэта яшчэ нічога не значыць. Гэтыя слабыя робяць з нас, моцных, што хочуць. Нават уюць вяроўкі.

Марына звонка зарагатала.

— Вы гэта на сабе адчулі?

— На сабе і на другіх... Але ўсё ж такі, што вы рабілі цэлы месяц? Рашалі: прыйсці ці не?

Усмешка ўмомант зляцела з яе твару.

— У мяне было многа клопатаў. Скажу вам адкрыта... Год назад я развялася з мужам. А гэты месяц мы разменьвалі кватэру. Толькі тыдзень назад я атрымала асобны пакой... Проста сіл не было... Пасля ўсіх гэтых судоў-перасудаў... Вы не ўяўляеце, як гэта цяжка! О, я на гадоў дзесяць меней пражыву на свеце пасля ўсяго гэтага пекла, у якім я пабыла. Цяпер адпачываю душою і целам... Вось сёння ледзь не праспала. Добра, што паставіла будзільнік...

— Днём будзільнік? Здорава!

— А што? Прыйдзеш іншы раз з начнога дзяжурства,

стомленая, разбітая. Можна праспаць невядома колькі... А хочацца ж нешта зрабіць... Вось і паставіш будзільнік. І тады спіш спакойна...

— А дзе вы працуеце?

— У бальніцы... Я медшколу канчала. Ужо хутка дзесяць год, як працую. А вы?

— Я журналіст... Але няўдалы...

— Чаму няўдалы?

— Не ўмею пісаць. Увесь час лаюць. Трэба перакваліфікавацца ў якога токара ці грузчыка.

— Не кажыце, журналісты — народ вясёлы, дасціпны, пранырлівы. І сваю працу яны любяць, я так думаю, не менш за нас, медыкаў.

— Як хто... Некаторыя яе праклінаюць.

— А мне здаецца, што журналісту цікава... Ён усюды ездзіць, ва ўсё ўнікае, усё ведае. Праўду я кажу?

— Праўду... Але гэта збоку так здаецца. Ён-то ўсюды ездзіць, усюды свой нос садзіць, усё ведае, а як напіша — няма чаго чытаць. Нецікава, бяззуба. У гэтым яго бяда...

— Ды яны, я чула, добра зарабляюць, ездзяць на сваіх машынах,— не слухала яго Марына.— У вас часам няма?

Драгун весела зарагатаў.

— Пакуль што бог крыў...

— Люблю машыны... Мая мара! — летуценна сказала Марына.

— Што ж, ад мары да рэчаіснасці цяпер адзін крок,— супакоіў яе Драгун.— Аднак мяне цікавіць больш не тое, што будзе, а тое, што ёсць... Напрыклад, ці рабілі вы ўжо ўлазіны?

— А, вось што вас цікавіць! — Марына неяк адразу патухла, цікавасць да гутаркі ў яе прапала.— Калі не рабіла, то што?

— Самі разумееце...

— Напрошваецеся? А з кім вы прыйдзеце?

— Як з кім? Адзін!

Марына замоўкла. Яны ішлі, разглядаючы неба, прысады, рэдкія пары. І Драгуна ўвесь час непакоіла адно: а што, калі хто знаёмы ўбачыць яго з гэтай жанчынай?

Марына раптам стала, павярнулася тварам да Драгуна:

— Слухайце... Мо я і памыляюся... Не ведаю... Але як толькі я ўбачыла вас, мне адразу захацелася пазнаёміцца з вамі.

Драгун не чакаў такога крутога павароту і хацеў звясці на жарт.

— І селі ля мяне?

— Мне тады здалося, што, каб вы нават не глянулі на мяне, я падышла б да вас, зачапіла б... Нешта я ўбачыла ў вас такое, што мне даўно хацелася бачыць, а яго не было... Відаць, гэта не часта і не з кожным бывае, але я адчула на сабе, як чалавеку часам бывае цяжка...

— Аднаму?

— Не, не аднаму... Менавіта без таго, да каго ён горнецца душою...

— Гм... Да вас я таксама адчуў сімпатыю... І першы раз у жыцці рашыўся пайсці ад жонкі на спатканне...— Драгун правёў далонню па ілбе, выцер пот.— Гэта нядобры знак!

— Можа быць... Але мне хацелася б, каб вы былі маім госцем... А вам хочацца?

— Хоць сёння...

— Сёння позна. Лепей другім разам...

— Яшчэ на месяц адкладзём?

— Не сярдуйце. Цяпер можна і на менш.— Яна засмяялася, і ў гэтым смеху Драгуну пачулася нешта трохі нядобрае, як бы аголена-цынічнае. Але непрыязнасць толькі варухнулася ў яго сэрцы, Марына зноў стала паранейшаму прывабнай, зноў цягнула да сябе і клікала ў няззеданае.

Яны развіталіся на прыпынку. Яна ўскочыла ў тралейбус, ужо адтуль памахала яму рукою. Яе ярка расквечаны світар яшчэ доўга відзён быў у тралейбусе.

Потым стала ціха і адзінока. Драгун стаяў на прыпынку, тупа пазіраў у здратаваную нагамі зямлю, усыпаную папяроснымі мунштукамі, а думкі яго былі далёка-далёка адгэтуль. Павольна, як бы баючыся парушыць іх спакойную плынь, ён пакрочыў па вуліцы, выбіраючы ціхія і цёмныя мясціны, каб больш пабыць аднаму. Тое, што з ім рабілася цяпер — гэта выпадковасць ці непазбежнасць? Выпадковасць... Можа, і так... Але ж і раней, жывучы ў горадзе, траплялася яму многа такіх выпадкаў, калі можна было лёгка пазнаёміцца з жанчынай, пайсці на павадку ў свае цікаўнасці. Ды не... Ён мог толькі ўсміхнуцца сам сабе з такога выпадку або адказаць грубасцю на спробу завязаць з ім нейкія кантакты. А цяпер яго цягнула як у вір. І чамусьці ён не супраціўляецца, а спакойна, пакорліва паддаецца плыні абставін і нават яшчэ памагае сам... Галава гуза шукае... Ну, а калі шукае, то і знойдзе.

Перад самым сваім домам успомніў, што не купіў цу-

керак. Трэба было ісці да бліжэйшага магазіна... Яму не пашанцавала: магазін ужо быў закрыты, выпускалі толькі адтуль. Ён вылаяўся і пайшоў назад... А з галавы не выходзіла думка: хай будзе, што будзе. У ім загаварыла яшчэ простая мужчынская цікаўнасць. Быў і далёкі прыцэл, пра што Драгун нават самому сабе баяўся прызнацца. У яго свядомасці жыў як бы закінуты, моцна адгароджаны ад усяго свету закутак, у якім быў куфэрак, а ў тым куфэрку яйка, а ў тым яйку — іголка... і гэтак далей, як у таго Кашчэя смерць. Там ляжаў яго сакрэт, да якога яшчэ нікому не было доступу.

Ён падыходзіў да дому, і думкі самі сабой вярталіся да сям'і. Дзеці напэўна ўжо ўклаліся спаць, па матчынай звычцы перад сном чыталі — і старэйшая, і малая, якая яшчэ і кніжку не ўмела трымаць як след, але разглядала малюнкі і моўчкі «чытала», перагортваючы старонку за старонкай не адразу, а з інтэрваламі, нібы яна і папраўдзе перачытвала іх.

Толькі Драгун бразнуў дзвярыма, як яна ўжо кінулася са спальні да яго:

— Купіў цукерак?

Драгун стаў на кукішкі і прытуліў малую да сябе. Нечуваная пяшчота нахлынула раптам на яго, на вачах закруціліся слёзы. Ах, дзіця, дзіця, ці ты вінаватае? А табе будзе цяжка...

— Дачушка, не купіў... Зачынілі ўсе магазіны. Вось пабачыш, заўтра табе куплю. Ты толькі не плач. Ідзі спаць, ідзі, я таксама зараз іду.

Яна сумная пабегла ў спальню, смешнае малое птушаня ў жоўценькай мультановай піжамцы. Малую яшчэ лёгка можна было ўгаварыць, пераканаць, не то што старэйшую, якая ўжо ўсё разумела. «Ах, дзеці, дзеці»,— уздыхнуў Драгун. Ён пачысціў зубы, потым памыў ногі і таксама пайшоў у спальню, лёг побач з Верай, але не чытаў, у яго нават не было такой добрай звычкі, і ён трохі зайздросціў Веры. Ён ляжаў з заплюшчанымі вачыма і думаў, а Вера ўсё яшчэ доўга шапацела старонкамі кнігі. Недзе ля дванаццатай, калі дзеці ўжо паклалі свае кніжкі пад падушкі і паснулі, Вера выключыла лямпу. Паляжаўшы трохі, яна спыталася ціха:

— Ты яшчэ не спіш?

— Сплю,— сонна прамовіў Драгун.

Яна ведала, што гэта азначае: не чапай мяне.

Аднак, памаўчаўшы трохі, сказала зноў:

— Я хачу з табою пагаварыць.

— Не выдумляй...
— Няўжо ты так стаміўся за дзень?
— Стаміўся... І заўтра рабочы дзень...
— Няўжо цябе не цікавіць, што я хачу табе сказаць?
— Я ведаю тваё «сказаць»... На ўсю ноч. Заўтра днём пагаворым.— І ён дэманстратыўна пазяхнуў, адвярнуўся ад яе.

Вера толькі цяжка ўздыхнула і замоўкла.

Яна ляжала доўга і не магла заснуць, не спаў і Драгун, але абое, як змоўшчыкі, маўчалі. Драгун думаў пра тое, што нарэшце яго лёс можа крута змяніцца, што мо гэтая Марына стане тым каталізатарам, паскаральнікам падзей, яна скране яго са звыклых, наседжаных падвалін і звядзе на новыя рэйкі, якія прывядуць яго да таго невядомага, што запланаваў ён у сваёй галаве. «Сам я, як той штучны спадарожнік, не дам рады сысці са свае арбіты, пакуль нешта не паскорыць ці не замарудзіць майго руху. Толькі тады я змагу змяніць арбіту. Інакш інерцыя прывычкі навечна прывяжа мяне да таго, да чаго я прывязаў сябе сам, завёўшы сям'ю... Гэта будзе страшэнна цяжка, страшэнна цяжка... Маючы ўсё — і адмовіцца ад усяго... Самому... Вось гэтая мяккая, чыстая пасцель... Цяпло жончынага цела... Вясёлы шчэбет дзяцей... Звыклая думка знаёмых, сяброў, што Драгун робіць поспехі, набірае тэмп... Упэўненасць бацькоў у тваім жыцці... І раптам — усё гэта разбурыць адным махам! Для гэтага патрэбна жалезная воля, якой у яго, здаецца, няма... Але трэба скіраваць падзеі так, каб усё рабілася нібы само сабою... Вось гэтая Марына... Невядома, у які бок зможа яна павярнуць звыклае Драгунова цячэнне жыцця. Але трэба зрабіць усё, каб якраз у той бок, што трэба... А як сапсуе ўсю задуму, перакрэсліць такі вынашаны даўно і абдуманы план? Ой, глядзі! Каб потым не каяўся, не грыз сабе локцяў. Глядзі!»

## 44

Цяжка нават уявіць, як нязвыкла мяняць чалавеку дарогу, па якой ён ішоў не год і не два і, здавалася, будзе ісці па ёй да канца сваіх дзён. А тут раптам... Не, не раптам, але ўсё ж... Адно ведаць, што вада халодная, а зусім другое — ускочыць у яе...
— Ты прыйшоў?— вітае яго Марына.— Скідай плашч. Разувайся таксама. Усе, хто да мяне заходзяць, разуваюцца.

— Дык хто тут разуваўся да мяне? — жартам пытае Драгун, а ў самога нешта непрыемна скрабе па сэрцы.

— Ты першы...

— Якая чэсць! А я думаў, ты скажаш: не ты першы, не ты апошні...

— За такія словы ведаеш што я магу зрабіць?

— Пэўна ж, не пацалаваць...

— Магу папрасіць, каб ты зачыніў дзверы з таго боку...

— Ідучы сюды, я падрыхтаваўся да самага горшага.

— Што ты разумееш пад самым горшым?

— Гэта калі ты скажаш: разувайся.

— Ах, які ты калючы! — Марына ляпнула Драгуна па плячы.— То што ж тады самае лепшае?

— Гэта мой сакрэт...

Гэтае пустое зубаскальства, гэты флірт быў такі невыносны для Драгуна, што яму хацелася кінуць усё і бразнуць дзвярыма — зачыніць з таго боку. Ён так востра адчуваў усю нязвыкласць свайго становішча, што яго проста муціла. Людзям хутка па сорак, а яны, як дзеці, гуляюць у нейкае заляцанне, гавораць такое глупства, якое не сорам было б гаварыць гадоў пятнаццаць, дваццаць назад, толькі не цяпер. Ні кроплі шчырасці, адна найгранасць, а за лёгкім фліртам надта далёкія ад паэтычнасці думкі. Як усё гэта брыдка! Як нясцерпна гадка! Але... раз надзеў на сябе воўчую шкуру, то і вый па-воўчы...

Марына ўжо нешта робіць на кухні. Драгун нячутным крокам у адных шкарпэтках ходзіць па мяккім дыване, азірае сцены, мэблю. Здаецца, яна тут няблага асталявалася. А ўсяго паўмесяца. Тэлевізар на модным століку. Новая раскладная канапа — ложак бардовага колеру, драўляны ложак. На сцяне — таксама прыгожы дыван з нейкім усходнім узорам, мо персідскі. Кантовы лакіраваны стол, мяккія крэслы навейшай канструкцыі, на якіх не ведаеш, як сядзець... Усё, нават люстра самая модная, якой у звычайным магазіне не ўбачыш.

«Цікава, хто быў муж у гэтай кабеты,— думае Драгун.— Нешта не падобна, што ён няўдачнік». На серванце стаяла фатаграфія ў рамцы — яна, Марына, з моднай прычоскай, з густа нафарбаванымі вуснамі, падведзенымі вачыма. Скажаш хутчэй, што гэта артыстка, а не акушэрка. Побач — у такой жа рамцы — быў зняты хлопчык гадоў дзесяці, нечым далёка падобны да яе. Позірк і яшчэ, здаецца, форма вуснаў, хоць у яго яны пухнатыя, не так рэзка абрысаваны. Цікава, што ў кватэры ніводнай кнігі.

З газет «Правда» і «Медицинская газета» — апошняя, відаць, таму, што прымушае спецыяльнасць, а першая — мясцком...

— Уключы там тэлевізар,— гукае з кухні Марына.— Я хутка ўсё скончу...

Драгун зайшоў на кухню. Цесната, няма дзе павярнуцца, бо халадзільнік, буфет і столік займаюць усё месца.

— О, я бачу, ты добрая гаспадыня. У цябе стол аж гнецца.

— Абы не зламаўся. Вось бяры насі туды.

Яна падавала яму талеркі, сподкі, хлебніцу, а ён насіў, расстаўляў на паліраваным століку, засланым празрыстай плёнкай. Гаварылі абы пра што. Чаму так людзі баяцца зачапіць тое, што баліць? Ці гэта звычайная прырода чалавека: цяжэйшае адкладваць на потым, ■ смачнае есці першым? Хоць як хто... Ёсць людзі, якія заўсёды пачынаюць з цяжэйшага. Як правіла, гэта смелыя людзі...

— Я не запыталася нават, ці ёсць у цябе дзеці,— сказала, як бы між іншым, Марына.

— Забылася?

— Не смейся! Маю я права спытаць?

— Чаму ж не? Я твой госць.

— Тым болей што я ўжо, здаецца, расказвала пра сваю бяду...

— Усё ж мне цікава ведаць, хто быў твой муж.

— Ат, нецікавая фігура. Няўдачнік.

— Я таксама залічваю сябе да гэтай катэгорыі.

— Не палохай мяне!

— Што, баішся няўдачнікаў?

— На ўсё жыццё!

— Бедныя няўдачнікі,— паспачуваў Драгун.

— Не так бедныя яны, як тыя, хто звязвае з імі сваё жыццё.

— Нешта я не бачу, што ты ўжо такая бедная.— Драгун павёў рукою навокал.

— Гэта ўсё з майго ўласнага мазаля...

— Нішто сабе мазоль, калі з яго можна гэтулькі выціснуць...

— І маіх бацькоў, трэба ім дзякуй сказаць. А па сваім мужу я хадзіла б голая і галодная.

— Няўжо ж ён быў такі безнадзейны няўдачнік?

— Дзесяць год абараняе дысертацыю і не абароніць. Малодшы навуковы супрацоўнік. Я маю большую зарплату, чым ён, хоць у мяне сярэдняя адукацыя, а ў яго — найвышэйшая.

— Ён бяздарны ці якія іншыя прычыны?

— Каб бяздарны, я не сказала б... Проста ўпарты, не ўмее жыць з начальствам... Дзівак! Ты яго не любі, не паважай, ніхто цябе не прымушае, але ж умей ты згадзіцца з яго думкай, хоць яна мо і няправільная. Умей пахваліць яго працу, мудрасць, дабрату, умей не заўважаць яго промахаў. А ў яго гэтага нічога зроду не было.

— Ну, такога таленту на ўсіх не набярэшся...

— І сядзіць, і карпее, і ўсё нешта даказвае... Яго дзяўбуць, яго таўкуць, лаюць, а ён — сваё. Усё нейкія часцінкі там вынаходзіць...

— Такі лёс усіх вынаходцаў, дарагая Марына.

— То няхай яны не жэняцца і вынаходзяць сабе ўсё жыццё сваё перпетум...

— Яны шукаюць хоць маральнай падтрымкі ў блізкага чалавека...

— Я не згодна на такі сабачы лёс, калі побач жывуць па-чалавечы.

— А раптам твой былы муж вынайдзе тую часцінку і стане вядомым чалавекам?

Марына на момант застыла ў здранцвенні з відэльцам у руцэ, з недажаваным хлебам.

— Не веру я ў гэта, не веру! — страсянула яна галавою.— Такога цуду не будзе!

— А вось каб ты верыла, мо ён і хутчэй вынайшаў бы тыя часцінкі.

— Ты мяне папракаеш?— вусны яе выцягнуліся ў прамую жорсткую лінію.

— Якое я маю права? Рашай сама. Прабач...

— А мяне не шкадуеш? Ты нібы прыйшоў абараняць яго... Усе вы мужчыны аднолькавыя. Каб толькі вам служыў, цярпеў, тады вы добрыя. А як хочаш стаць з вамі побач, вы адразу пачынаеце брыкацца.

«Мне болей шкада яго, чым цябе,— хацелася яму сказаць,— бо цябе будзе яшчэ каму шкадаваць, а вось яго — невядома».

— Сказаць, што шкадую, па-мойму, нічога не сказаць.

— Напачатку хопіць і гэтага. А то проста неэтычна з твайго боку сядзець за маім сталом і мяне лаяць.

— А хто гэта сказаў: я высока цаню Платона, але ісціна для мяне даражэйшая?

— Не ведаю,— адказала стомлена Марына.— Мы сёння многа спрачаемся. Гэта кепска. Каб мы часам не пасварыліся.— Яна разглядала пярсцёнак з дарагім каменем на

левай руцэ безыменнага пальца.— Ты так мне і не сказаў, ці маеш дзяцей...

— Пэўна ж маю. «Чтобы детей иметь, кому ума недоставало?» Ажно двое.

— Маладзец...— сумна сказала Марына.

— А ў цябе ёсць?

— У мяне — няма...

— А хто гэта, побач з табою?

— Пляменнік...

— Ён трохі падобны да цябе.

— Можа быць... Аднак мы нешта зусім не п'яныя. Так ці не? — Яна наліла ў чаркі каньяк.

— За што? — спытаўся ён.

— За вясёлае жыццё.

— Тост мудры, трэба сказаць... П'ём!

— А скажы, ці падабаецца табе ў мяне? — спыталася ў яго Марына.

— Ты ўсё зрываеш у мяне з языка... Мне хацелася б сказаць доўгую прамову з гэтага выпадку. Мне здаецца, што я трапіў на востраў, дзе гаспадарыць добрая фея, у якой усё ёсць, апроч асабістага шчасця.

— А як ты думаеш, я знайду яго?

— У жыцці так: покуль што-небудзь знойдзеш, то болей страціш.

— Значыць, не трэба шукаць?

— Я так не кажу... «Трэба шчасце ў суровым змаганні здабыць».

— Адабраць у некага?

— Адабранае могуць адабраць.

— Глупства! І тваё ўласнае могуць адабраць. Нічога няма вечнага і твайго.

— Гэта правільна!

— Значыць, так: шукаць не трэба, адбіраць няможна, негуманна. Што ж застаецца? Чакаць, покуль прыйдзе само? Не, з гэтым ніколі не згаджуся. Раней мяне выбіралі, цяпер выбіраю я... Няма дурных!..

Яны так загаварыліся, што забыліся пра ўсё на свеце. І калі раптам зазваніў званок, абое ўздрыгнулі. Драгун чамусьці ўспомніў жонку... А Марына вялікімі вачыма глянула на яго, усміхнулася і пайшла адчыняць. З некім загаварыла, здаецца, з жанчынай. Драгун сядзеў, глыбока ўехаўшы ў крэсла. Усё гэта яму пачынала дакучаць. «Не шкодзіла б пакараць гэтую самаўпэўненую сароку. Так гадкоў на тры, не болей...»

Марына хутка вярнулася.

— Прабач, адна знаёмая.— Марына здавалася ўсхваляванай.— Дык ты кажаш, што мне не хапае толькі шчасця? Ох, шчасце, шчасце!.. А скажы, ці была шчаслівая твая жонка з табою?

— Кажа, што не...

— А ты сам?

— Я так не магу сказаць... Было ўсяго... Але я шчаслівы, калі мне ніхто не перашкаджае рабіць тое, што мне хочацца...

— Бачыш, чаго ён захацеў! Так можна далёка зайсці! Дазволь сёння рабіць усім, што ім хочацца — пабачыш, што тады будзе!

— Ты мяне няправільна зразумела. Я гавару пра карысны, сур'ёзны занятак, працу.

— Праца... Якая проза! Бог ты мой! Кухня, напрыклад... Страх, жудасць! Страшэнна не люблю гатаваць.

Драгун толькі цяпер зразумеў, чаму на стале было ўсё куплёнае, а не свае работы.

— А што, добрая праца — гэта палова жыцця.

— А другая палова?

— Добрая сям'я і кватэра...

— Усё так проста...

— Да гэтага яшчэ сёе-тое патрэбна...

— Што? Грошы?

— Грошы яшчэ не ўсё...

— А мне здаецца, што ўсё пачынаецца з грошай. Грошы — аснова жыцця. Ты май усё на свеце, толькі не май грошай, і ці будзеш ты шчаслівы?

— А вось, ты маеш усё, і грошы, пэўна, няма толькі дробязі — мужа. А ты шчаслівая?

— Мы вярнуліся да таго, з чаго пачалі. Хто з нас п'яны? Ты ці я?

— А чые гэта словы: «Я пригвожден к трактирной стойке. Я пьян давно. Мне все равно»?

— Не ведаю. Ты сёння многа гаварыў вершамі. Гэта твае ці чужыя?

— Чужыя... На жаль, чужыя... Я бяздарны, я не напісаў нават прыстойнага радка, такога, каб пасля мае смерці доўга яшчэ цытавалі... Гэта вялікая справа — напісаць хоць радок, які потым доўга не забудуць. Напрыклад: «О закрой свои бледные ноги!» І будуць яшчэ доўга спрачацца, гэта проза ці верш... Або такія радкі: «Народ, беларускі народ! Ты цёмны, сляпы, быццам крот! Табою заўжды пагарджалі, ця-

бе не пускалі з ярма. І душу тваю абакралі, у ёй нават мовы няма». Магутна сказана, праўда?

Яна нічога не разумела, нібы ён гаварыў па-французску. Драгун паківаў галавою і сказаў:

— Хадзі да мяне, Марына... Мы так далёка адно ад другога. Хадзі!

Яна падала яму левую руку з пярсцёнкам, ён прыцягнуў яе да сябе і пасадзіў на каленях. Яна абхапіла яго рукамі за шыю, ён уткнуўся тварам у яе поўныя грудзі, адчуваючы, як кроў адразу забунтавала ў ім, а хмель ударыў у галаву. Ён абняў яе за талію і прытуліў да сябе.

— Ой, Косця...

Ён падняў яе на рукі і панёс на канапу...

— А ты хутка станеш лысы,— ні з сяго ні з таго сказала Марына, расчэсваючы пальцамі яго светлыя валасы.— А з выгляду, з твару ты зусім малады. Болей як трыццаць не дасі.

— Мне хутка сорак, што тут таіцца... А ты любіш маладых?

— Я не пра гэта... Проста так... А ці быў ты дзе-небудзь за граніцай?

— Не давялося.

— І я таксама...

— Шкада... А добра было б на сваёй машыне паехаць куды-небудзь на Балканы або ў Францыю.

— Не пускаюць.

— Чаму?

— Каб не ўцяклі.

— Дзівак! Хто збіраецца ўцякаць?

— Чаму? Усякіх людзей бывае...

— А чаму іх турысты ездзяць на сваіх машынах, цэлымі сем'ямі?

— Калі яны ў нас застануцца — не страшна.

— Так і застануцца!.. А скажы...— Марына замялася.— У цябе праўда свае дзеці?

— Што? А-а-а! Вось што! Мае ўласнай работы! Нават падобныя да мяне. Не сумнявайся.

І ўсё ж ён адчуваў сябе прыніжаным: ён не даў ёй таго, чаго яна хацела.

Быў праліўны дождж. Драгун дабіраўся да мікрараёна на таксі. Заплаціў шафёру, узбег па лесвіцы на трэці паверх, пазваніў. Але ў пакоі ніхто не паварушыўся. Ён пазваніў

яшчэ раз. І зноў — ніякага шуму, ніякага руху. Пачакаўшы хвілін колькі, пазваніў яшчэ. Ніхто не выходзіў.

Драгун, вяла пераступаючы з нагі на нагу, стаў спускацца ўніз. Дождж яшчэ пабольшаў, на тратуары ў лужынах скакалі бурбалкі. Ён вылаяў сябе за тое, што адпусціў таксі. «Цяпер мокні, дурань»,— сказаў сабе сярдзіта. І, плюхаючы па лужынах, пайшоў на аўтобус.

Назаўтра ён збіраўся схадзіць да Марыны зноў, але нечакана прыйшлі госці — Верыны знаёмыя.

На наступны дзень, у панядзелак, пайшоў вечарам, каб адразу бачыць, ці ёсць у яе хто ў кватэры, ці не.

Прыехаў таксама на таксі — менш шанцаў на тое, што спаткаеш каго знаёмага. Пад'ехалі ў двор. Ён глянуў на яе акно і ўздыхнуў з палёгкай: у пакоі гарэла святло.

«Ага, цяпер мы з табой пагаворым»,— зларадна падумаў Драгун. Ён яшчэ нават не ведаў, што ёй скажа за тое, што не стрымала слова, але ваяўнічы дух адразу загаварыў у ім, як у паляўнічага, які ўбачыў дзічыну.

— Вазьміце рэшту,— сказаў яму малады таксіст з рыжай густой барадою, як у шкіпера.

— Не трэба. Дзякую.— Драгун бразнуў дзверцамі і пайшоў у пад'езд.

Ён узышоў на трэці паверх, аддыхаўся трохі, стараючыся прыглушыць хваляванне, і пазваніў. Нехта адразу затупаў, але Драгуну падалося, што гэта не жаночыя крокі: яны павольныя і цяжкія.

Дзверы адчыніліся. На парозе стаяў рослы малады хлопец у чырвонай шаўковай тэнісцы, з грыўкай, насаты, чарнявы, і аблізваўся.

Абодва здзіўлена маўчалі. А потым хітраватая ўсмешка рассунула хлопцавы поўныя пунсовыя вусны.

— Што, і ты да гэтай б... ходзіш?

Драгуна нібы ўдарылі ў грудзі, пад самае сэрца. Яму перахапіла дыханне. Ён павярнуўся і, не сказаўшы ні слова, пайшоў уніз. Пачуў яшчэ, як уверсе над ім грукнулі дзверы, аддаючыся рэхам па ўсёй лесвіцы.

## 45

Прыйшоўшы з работы, Драгун выняў з паштовае скрынкі газеты і паведамленне з магазіна на халадзільнік. Драгун і ўзрадаваўся, што будзе такая патрэбная рэч, і засмуціўся: дзе ўзяць дзвесце дваццаць рублёў?

Праз якой паўгадзіны прыйшла Вера з Аленкаю, якую

яна вадзіла да бабкі. Старэйшую ў сад і з сада дастаўляў Драгун.

— Радуйся, гаспадынька.— Ён паказаў жонцы паштоўку.— Халадзільнік едзе!

Вера прачытала паштоўку і аддала яму назад.

Яна памагала Аленцы распранацца.

— Ён-то едзе, але з чым мы яго сустрэнем?

— І я ўжо думаў... Трэба пазычыць грошай, а халадзільнік усё-такі ўзяць.

— Маладзец! — Вера ўсміхнулася.— Аленка, павесь сама сваё палітка,— сказала яна малой.— Я толькі баюся, што ніхто табе не пазычыць.

— Чаго... Пад аповесць...

— Гэтая твая аповесць ужо ўся закладзена і перазакладзена.

— Не бядуй, застанецца трохі і нам. Адно што трэба пачакаць.

— Язьмі мяне на люткі,— напрасілася малая Аленка ў бацькі.

— Цябе на ручкі? Ты ж вялікая.

— Няпраўда, я малая. Язьмі!

Драгун узяў дзіця, яно ашчаперыла яго за шыю і прыціхла. Ён пахадзіў з ёю па пакоі, а потым прысеў на канапе. Аленка была як сонная.

— Ты не выспалася ў бабкі?

— Не, я спала. Але ў мяне балела галоўка.

Драгун прыклаў вусны да дзіцячага лобіка і адразу адчуў — ёсць тэмпература.

— А цяпер у цябе што баліць?

— Цяпер жывоцік.

— У якім месцы?

— Не ведаю.

Драгун стаў абмацваць жывоцік.

— Ай, баліць, не чапай.

Балела ў правым баку. Драгун змераў тэмпературу. Было 38,5. Ён паклікаў Веру з кухні. Тая адразу кінулася да дзіцяці, пачала распытваць, дзе ў яе баліць.

— Не турбуй дзіця,— папрасіў ён жонку.

— Бабка казала, што сёння яна была капрызная, кепска ела і плакала некалькі разоў... Пакажы, у якім месцы ў цябе баліць?

Драгун паслаў малой на канапе, сеў ля яе.

— Як тэмпература будзе расці, то выклічам «хуткую дапамогу».

Вера адразу абвяла, нахмурылася, як бы схавалася ў сябе. Ранейшай гаваркой і неспакойнай Веры не стала. Мяняўся і Драгун, калі хварэлі дзеці. Тады ён рабіўся рэзкі, нават грубы, нібы Вера была вінавата, што хвароба прыйшла ў іх хату.

Аленка спакойна не магла паляжаць і хвіліны, усё круцілася, не знаходзіла сабе зручнага месца, прасіла піць.

Вера прывяла з сада Вальку, стала гатаваць вячэру.

Час цягнуўся марудна. Праз кожную гадзіну Драгун мераў малой тэмпературу. Тэмпература патрохі спадала, і гэта супакойвала бацькоў. Доктара рашылі не выклікаць. Спаць клаліся позна. Драгун лёг на ложку з дзіцем, а Вера прымасцілася на раскладным крэсле. «Баліць жывоцік»,— скардзілася малая праз кожныя паўгадзіны, і трэба было то насіць яе на руках, то гладзіць галоўку, то прыкладваць кампрэс. Недзе ў гадзіны дзве дзіця заснула — стома ўзяла сваё.

Раніцай тэмпература была зноў за трыццаць восем.

— Ну, збірайся, дачушка, пойдзем,— сказала Вера дзіцяці.

— Куды, да бабкі?

— Не, дачушка, у яселькі.

Дзіця даўно не спускала з языка яселькаў, і таму ўгаворваць яе доўга не давялося. Сабраліся і пайшлі пехатою, а малую нясла на руках, бо да бальніцы было недалёка. Падаў невялічкі сняжок, зямля была шэра-белая, яшчэ не закрытая на зіму. Дзіця трохі павесялела і ўвесь час круціла галавою — то ўбачыла ката, то галубоў, якія дзяўблі на тратуары высыпаны некім праз акно дробна накрышаны хлеб, то на белага калматага сабачку, якога вяла старая жанчына на павадку.

Вось і клінічны гарадок, знаёмы да дробязі. Тут, у радзільным аддзяленні, ляжала Вера, калі прывяла на свет Вальку, потым калі Валька хварэла на запаленне лёгкіх, цяпер вось зноў. Нешта за гэты час тут змянілася... Ага, вырас высозны васьміпавярховы будынак, які злучалі з суседнім старым корпусам. Драгуны ледзь прашыліся праз вузкі праход, зроблены для пешаходаў і абстаўлены дошкамі. Навокал, злева і справа, узвышаліся горы ўмерзлай зямлі, валяліся ўжо непатрэбныя трубы і перакрыцці рыштаванняў, бітая цэгла. Нешта раўнаваў бульдозер, ссоўваючы ў ямы замёрзлыя камякі і брылы зямлі, экскаватар на гумовых колах ссыпаў у самазвалы ўсялякі хлам. Адным словам, рабочыя спяшыліся здаць да халадоў аб'ект.

У хірургічным аддзяленні ў іх адразу спыталі накіраванне ад участковага доктара. Драгун стаў тлумачыць, што дзіця захварэла ўчора вечарам, а выклікаць сёння — таксама трэба чакаць да 4—6 гадзін дня... Таму і прынеслі адразу сюды... Нічога не памагло. Драгун пайшоў да загадчыка, той урэшце згадзіўся агледзець дзіця. Запісалі ў кнігу прозвішча, імя, адрас, і Веры з малою сказалі ісці ў другі пакой, для аналізаў, а Драгун застаўся чакаць. Цяпер у прыёмным пакоі яму не было чаго рабіць, ён выйшаў у калідорчык, зайшоў у пачакальню, у якой не было ні душы, пахадзіў з кута ў кут. Думкі пра Аленку не давалі спакою. Што ў яе такое можа быць? Чаму баліць жывоцік, справа, дзе дактары знаходзяць апендыцыт?

У пачакальню зайшла русая дзяўчына ў зялёным паліто, якую да гэтага ён бачыў у прыёмным пакоі: яна прыводзіла сваю сяброўку, у якой быў прыступ апендыцыту і якую запісвалі ў кнігу перад Аленкай. Драгун адчуў сябе скаваным пад чужым позіркам, яму неяк раптоўна стала горача, і ён зноў выйшаў на калідорчык. Там было цесна — якія два крокі на два, а потым яшчэ такі ж маленькі тамбур перад выхадам на ганак. Дзверы на ганак былі прычынены, і Драгун убачыў там чалавека. Яму відаць быў бок карычневага паліто, плячо і левае вуха, бо чалавек стаяў задам да дзвярэй. Драгуну раптам здалося, што ў гэтых «дэталях» чалавека ёсць нешта як бы знаёмае. Ён шырэй прычыніў дзверы і ўбачыў, што гэта стаіць дзядзька Васіль, той самы дзядзька, у якога бабка даглядае іх, Драгуновых, Аленку.

— Добры дзень... Чаго вы тут?

Дзядзька Васіль таксама здзівіўся, убачыўшы ля сябе Драгуна.

— А ты чаго тут? — і ён падаў Драгуну сваю цвёрдую рабочую руку.

Толькі цяпер Драгун зразумеў, што пытаць дзядзьку Васіля, чаго ён тут, было лішне: той стаяў, абапёршыся на палачку, а правая нага, аблепленая гіпсам, нязвыкла бялела паўзверх чорнага галёша, які быў прывязаны да нагі вяровачкай.

— Што ж гэта з вамі? — яшчэ раз запытаўся Драгун.

— Ды вось чэрці ўвагналі... Разбіў палец. На другой змене быў... Рэйка жалезная ўпала, не паспеў прыняць нагі... Спачатку нічога, а потым — хоць крычы... Прыйшоў па здымак, пайду ў сваю паліклініку, хай бюлетэнь афармляюць... А што ж гэта вы сваё малое сёння не прывялі?

Драгун нявесела ўсміхнуўся.

— Бачыце, у жыцці ніколі не ведаеш, што цябе чакае заўтра... Гэта ж мы якраз прыняслі сюды Аленку. Учора вечарам падскочыла тэмпература, скардзіцца дзіця на жывоцік. Баімся, каб не апендыцыт.

— Скажы ты! — здзівіўся шчыра дзядзька Васіль.— Гэта ж трэба!..

Яны яшчэ пабедавалі трохі, павойкалі, паспачувалі адзін аднаму, дзядзька Васіль скурыў папяросу і, кульгаючы, пайшоў па здымак. Людзі заходзілі і выходзілі, а Веры ўсё не было. Дзядзька Васіль выйшаў хутка, паказаў Драгуну апісанне траўмы і папрасіў прачытаць, бо медыцынскі почырк не кожны можа разабраць. Нават і Драгун з цяжкасцю зразумеў, што была разбіта косць вялікага пальца ля пазногця і нешта адламана «удовлетворительно».

Яны пасмяяліся самі між сабой: маладзец, умеў ламаць, калі адламалася «удовлетворительно». Урэшце дзядзька Васіль схаваў свае паперкі ў кішэню.

— Ну, то хай будзе ўсё як найлепей.— І пачыкіляў у тую сваю паліклініку.

Драгун пазіраў яму ўслед. Цікавы быў гэты дзядзька, такіх на сваім вяку Драгун сустракаў нямнога. Ён не трохі, а бязмалым так добра, як любіў некалькі казаць Янка Галубок, Драгуноў сусед, не быў падобны да традыцыйнага беларуса. Ён не ціхманы ды рахманы, а такі, што ў крыўду сябе не дасць, ведае сабе цану і ўмее пастаяць за сябе і за свае перакананні. І твар у яго валявы, рашучы, цвёрды. Бывае так часам у прыродзе: зробіцца хутка, проста, з першага разу, а глядзіш — усё як выліта, усё да месца, нічога не паправіш і не дадасі. Ды і твар, ды і ўся фігура дзядзькі здаваліся высечаны з граніту таленавітым майстрам неяк вось так раптоўна, у хвіліну вялікага натхнення за адным заходам, без пераробак і ніякага браку. Твар у яго бронзава-бурага колеру, як у селяніна ці ў міліцыянера-рэгуліроўшчыка, які цэлы дзень пячэцца на сонцы і сушыцца на ветры ў спёку і ў мароз. Нос прамы, правільнай формы, моцны, баксёрскі, калматыя бровы, разумныя карыя вочы, прыгожы пукаты высокі лоб, які мае не кожны акадэмік, правільна акрэслены рот і валявы, у меру выпнуты наперад падбародак. Адным словам, твар такі, што адразу на яго звернеш увагу, заглядзішся і здзівішся шчодрасці і майстэрству прыроды, якая ўмее так дасканала тварыць. Мо нават у маладосці ён быў і задзірысты, бо калі чалавек адчувае ў сабе многа сілы, то ён усюды лезе, каб паказаць яе. На твары ў яго нямала слядоў чужое рукі ці часу: шрам на

верхняй губе ля носа, нягладка сшытая скура ля правай скроні, кароткі глыбокі след удару нечым вострым над левым брывом. І хутчэй за ўсё гэта сляды не вайны, хоць меў ён і яе меткі, і адмераў ён яе ўсю, ад пачатку да канца, і не раз быў на валаску ад смерці. Ён пачынаў вайну афіцэрам, а скончыў радавым, прайшоўшы праз штрафныя роты за дзёрзкасць з начальствам. Многа цікавых гісторый расказваў ён Драгуну са свайго ваеннага жыцця. Не проста ішло ў яго і ў сямейным плане. І вырысоўваўся вельмі складаны, круты і самабытны характар...

На ганку Драгуну стала холадна ў ногі, і ён пайшоў у тамбур-калідорчык, стаў мераць крокамі яго малую прастору, думаючы пра дзядзьку Васіля, пра Веру і Аленку, якія недзе там прапалі абедзве.

Бразнулі дзверы, і ў прыёмны пакой праскочыла маладая дзяўчына-санітарка ў белым халаце і шапачцы. Усе дзверы за сабою яна пакінула адчыненыя, і Драгун прамармытаў ёй услед некалькі нядобрых слоў, стаў зачыняць дзверы на ганак. Але раптам ён пачуў на двары хуткі бязладны тупат некалькіх пар ног, ужо на ганку нехта коратка, з выдыхам прастагнаў:

— Ы-ы-ы-х...

Драгун не паспеў апамятацца, як клямка дзвярэй выскачыла ў яго з рук, на парозе паказаліся маладыя хлопцы ў белым з насілкамі. На іх ляжаў мажны мужчына сярэдніх год у сінім заношаным камбінезоне. На буйным твары, смуглявым ад прыроды ці мо ад мазуты, як у непрытомнага, бялелі бялкамі закочаныя пад лоб вочы. На камбінезоне відаць былі сляды зямлі, а старыя падбітыя чаравікі яго пакрываў цагляны пыл.

Гэта ўсё прамільгнула перад вачыма Драгуна з кінематаграфічнай хуткасцю, бо як потым ён успомніў, хлопцаў было пяць чалавек: першы з іх з маланкавай хуткасцю расчыняў насцеж форткі дзвярэй, нейкім цыркавым, акрабатычным рухам адшчэпліваючы шпінгалеты.

Праз хвілін пяць выйшаў адзін — у белым, без шапкі, з кучаравымі валасамі,— мусіць, той, што адчыняў дзверы.

— Што з ім, зваліўся адкуль? — спытаўся ў хлопца Драгун.

— Не, прыдушыла брылай,— сказаў ён на хаду.

Яшчэ трохі счакаўшы, выйшлі тыя чацвёра, што няслі насілкі: маладыя рослыя хлопцы, няйначай, студэнты-практыканты, у беленькіх адпрасаваных халатах, у такіх жа шапачках.

— Я гляджу, чаго гэта мужыкі бульдозер піхаюць рукамі? — гаварыў гучна адзін, няйначай, працягваючы пачатую за дзвярыма размову.

Хутка за хлопцамі мажная санітарка вынесла насілкі, трымаючы іх пасярэдзіне за адну аглоблю, як лесвіцу. Драгун глянуў на іх, і мароз прабег у яго па скуры: у адным месцы на зялёным брызенце відаць была свежая кроў.

«У кожнага свае драмы,— разважаў сам сабе Драгун, ходзячы ўжо па ганку,— не думай, што толькі ў цябе. Аднак ад гэтага жыццё не спыняецца і не спыніцца ніколі». А перад вачыма ўсё стаялі тыя насілкі з мажным чалавекам, у якога быў чарнявы твар з закочанымі пад лоб, страшнымі вачыма. «У кожнага свае драмы... Аднак...» І неяк раптам свет павярнуўся да яго другім бокам. Вось гэтыя раскапаныя катлаваны, траншэі, кучы цэглы і зямлі, недабудаваныя дамы раней здаваліся яму сімвалам вечнасці жыцця, у якім ніколі няма завяршэння, канца: усё мяняецца, будуецца, не стаіць на месцы... А цяпер усё гэта яму здалося сімвалам недабудаванасці, недасканаласці, неўладкаванасці і няўтульнасці, без якой так цяжка чалавеку на гэтым свеце, дзе вока яго і душа не могуць адпачыць, нацешыцца гармоніяй, харастволм таго, што атрымала сваю закончанасць, закругленне. Нездарма кажуць: канец — дзелу вянец. Няскончанасць, незавершанасць нервуе, непакоіць чалавека, не дае яму думаць пра нешта другое, не пускае яго наперад. У няскончаным доме гаспадару неспакойна спіцца...

На ганак выйшла Вера, але распранутая.

— Ну?..

— Ты ідзі на работу. Пакуль зробяць аналіз крыві, яшчэ доўга пройдзе. Усе дактары цяпер ля таго, што прынеслі на насілках... Ты бачыў?

— Бачыў... Калі не пакінуць тут Аленкі, то звані мне на работу. Прыйду,— сказаў ёй Драгун.

Вера махнула рукою і пайшла ў прыёмны пакой. На вачах у яе стаялі слёзы.

...У Аленкі прызналі апендыцыт. У той жа дзень ёй зрабілі аперацыю.

## 46

— Я лічыў так: там у цябе былі прычыны наракаць і на мяне, і на жыццё, там было цяжка, гэта відаць нават сляпому. Але я сказаў сабе таксама: пройдзе год-два — і

тут табе стане кепска, ты знойдзеш да чаго прычапіцца... Так яно і сталася.

— Я з табою не сваруся. Хачу толькі пагаварыць як з чалавекам. А ты адразу лезеш на сцэну.

— Ты называеш гэта пагаварыць, а для мяне гэта пасварыцца. Я не магу быць спакойны, калі мне наступаюць на мазоль.

— Значыць, адчуваеш за сабою віну!

— А як жа! Я вінаваты, што мала зарабляю. Вінаваты, што не даў табе кватэры тады, калі ты хацела. Вінаваты, што яшчэ не купіў мэблі, не абставіў кватэры. Вінаваты! Ты хочаш таго, чаго я не магу табе даць. Таму я і вінаваты.

— Глупства ты гаворыш! Ніхто цябе не вінаваціць за зарплату. Людзі жывуць і на меншай. Толькі трэба больш думаць, раіцца з жонкаю, лічыць і яе за чалавека, а не рашаць усё аднаму.

— Што раіцца? Што зварыць на абед? Можаш не раіцца, я не стану крыўдавацца!

— Во, во! Ты зусім адгарадзіўся ад мяне, цябе не цікавіць, што я раблю і думаю. Але зварыць абед адно, а распараджацца грашыма — другое...

— Хіба я не аддаю табе зарплаты?

— Ты аддаеш, а потым усю забіраеш...

— Бяру на тое, што патрэбна ў сям'ю, для справы.

— Чужыя жанкі даюць мужам пяцьдзесят капеек на абед — і ўсё.

— Хай хоць зусім не даюць... А я буду браць, калі мне трэба для справы.

— Таму і няма ў нас грошай.

— Чаму няма? Што мы, галадаем ці ходзім голыя, босыя?

— Яшчэ чаго не хапала — каб галадалі! А што ходзім абы ў чым, дык гэта факт. Няўжо ты сляпы?

— Я не сляпы. Але гнацца за міністрамі не збіраюся. Я заўсёды хадзіў апрануты горай, чым іншыя: у школе, студэнтам, на рабоце. Але гэта не таму, што я дурнейшы за ўсіх.

— А чаму?

— Таму, што я сын бедных бацькоў. А ад спадчыны цяжка ўцячы... Вопратка для мяне — глупства. Важна тое, што ў галаве. Там — самы большы скарб, а не тое, што на ашчаднай кніжцы.

— Адно без другога абясцэньваецца...

— Якраз адно з другім мала вяжацца. «В одну телегу впрячь не можно коня и трепетную лань».
— Вось тыя, што ўхітраюцца ўпрагаць, жывуць.
— Выкінь з душы зайздрасць.
— Я не зайздрошчу. Але калі нічога не маеш...
— Што табе яшчэ трэба? Кватэра ўжо цесная стала? Падаваць заяву на трохпакаёвую?
— Кватэра наша пустая...
— Затое прастарней, менш барахла.
— Не забывай, што ў нас дзеці.
— Ну і што?
— А тое, што нашы расходы растуць разам з дзецьмі. Цяпер ты ім купіў паркалёвае, мультановае — і добра. А праз пяць, дзесяць год?
— Тады і будзем думаць...
— Ты жывеш сённяшнім днём. Добры гаспадар так не робіць.
— Я — кепскі гаспадар.
— А я хачу, каб ты быў добры.
— Дарэмна. Мяне не пераробіш. Я кансерватар.
— О, ты ўпарты, як асёл. Як упрэшся, дык цябе з месца не зрушыш. Таму мне і цяжка.
— Табе ўсё жыццё будзе цяжка.
— Чаму?
— Бо табе заўсёды мала. Але, як правіла, той, хто хоча мець усё, траціць урэшце нават тое, што мае... Ты мне нагадваеш пушкінскую бабу з казкі пра рыбака і рыбку. Як дзве кроплі вады...
— А ты падобен да таго старога. Калі цябе не падварушы, дык і будзеш ляжаць, як камень, сам не скранешся.
— Ну, дзякуй табе, мо ты потым будзеш каяцца, што скранула гэты камень... з гары...
— Пра што ты?
— А так, глупства... У кожнага свой тэмп. Ты хочаш, каб я табе даў за год тое, што можна зрабіць за дзесяць. Каб усё так лёгка было браць, як хочацца, жыццё, відаць, страціла б свой сэнс.
— Ты знарок ускладняеш, каб апраўдаць сваю непаваротлівасць. Адзін дабіваецца за год таго, што ты за дзесяць.
— Глянь спачатку на сябе. Чаго ты дабілася? Ці мо я вінаваты, цягну назад?
— Я не дабілася таму, што хацела застацца сама сабою, нікому не кланяцца...
— А я не хачу... застацца самым сабою! Ты ведаеш,

што ёсць цяперашні праклён: каб ты на зарплату жыў! Як некалі казалі: каб ты дабра не знаў усё жыццё!

— Ты ж нейкі пісьменнік, акрамя ўсяго...

— Ну і што? Я мала друкуюся. Маю кніжку другі год пераносяць у плане на потым.

— Значыць, кепска пішаш.

— Кепска... Я не хачу перарабляць так, як мне дыктуюць. Я забіраю свае апавяданні назад.

— Трэба мяняць арыентацыю...

— Я не флюгер. І ніколі ім не буду.

— Ты на нейкіх дапатопных пазіцыях. Ты пішаш зусім не пра тое, што трэба.

— Пішу пра тое, што мне хочацца.

— Ты зусім адстаў ад жыцця.

— Я яго зусім не ведаю...

— І праўда. Ты хутка дваццаць год, як жывеш у горадзе, а пішаш нешта пра вёску. Цяпер вёска не тая, што дваццаць год назад.

— Ты мне адкрыла Амерыку! Не тая! Аб гэтым ужо ведаюць дзеці, не толькі пісьменнікі.

— Але нешта па тваіх апавяданнях гэтага не відаць.

— А ты ведаеш, што пісаць пра сучаснасць цяжэй, чым пра ўсё?

— Чаму?

— Таму што нельга сказаць таго, што табе хочацца. Таму што героя трэба прыўзнімаць над зямлёю, падрумяньваць яго, акультурваць, карацей кажучы — спрашчаць. А чалавек — не такая простая штука, як некаторым здаецца.

— Сам сябе палохаеш...

— Нічуць! Раней было прасцей: бедны працадзень — кепскі старшыня, багаты працадзень — добры старшыня. А цяпер гэтага ўжо мала. Працадзень як працадзень, у хатах дастатак, радыё, тэлевізары, а нечага не хапае... Чаго? Ты думала пра гэта? Што яшчэ людзям трэба? А ім — не скажаш, што кепска, а нечага ўсё ж душа не на месцы.

— Мо свабоды захацелася?

— Ха-ха! Ты гумарыстка. Не мела баба клопату... Аднак ты блізкая да ісціны. Яны засумавалі па звычайных, чулых людскіх, чалавечых адносінах. Пра гэта і трэба пісаць... Час даказаў, што загвоздка была не ў кепскіх ці добрых старшынях, а ў нечым большым. У адносінах да чалавека наогул, да зямлі наогул.

— У чыіх адносінах?

— Богавых...

— Не затлумляй мне мазгоў... Растлумач вось мне такія адносіны. Памятаеш, я табе расказвала... Была я ў камандзіроўцы ў Браслаўскім раёне. Едзем, стаяць новыя мураваныя дамы, пустыя. Пытаю ў старшыні, чаму тут людзі не жывуць. Кажа, і сам не ведаю. Не хочуць дзядзькі ісці ў гарадскія дамы, лепш ім у сваіх, хоць кепскіх. Што гэта, сялянскі кансерватызм?

— А я табе скажу... Свая — гэта свая. Я ў ёй гаспадар, сам сабе пан. А ў казённай — не тое. Ды і плаціць трэба. Ды і двор меншы, агароду няма, прастору менш, самастойнасці. Заўваж, селянін болей за ўсё цэніць сваю самастойнасць. Нават калі ён жыве і ў горадзе, ён сумуе па вясковай самастойнасці, незалежнасці... Што сёння я? У мяне адключаць электрычнасць, ваду, газ, не дадуць два дні ў магазін хлеба і малака — і я лапы ўгору. А селянін? Ён як той Рабінзон на востраве, можа жыць адзін і нікому не кланяцца!..

— Кінь ты гэтую пропаведзь аднаасобніцтва! Проста абрыдла!

— Не аднаасобніцтва, а асобы! Разбярыся!

— Не адна халера? Апора ўсяго — калектыў.

— Я згодзен. Але скажы, які калектыў мацнейшы: той, дзе ўсе думаюць на адзін капыл, праўдзівей, не думаюць, а толькі выконваюць чужую волю, ці той, дзе кожны індывідум здольны думаць і разумець тое, што ён робіць і для чаго робіць?

— Ты хочаш сказаць, што селянін не разумее таго, што робіць? Не можа разабрацца, дзе добрае, а дзе кепскае?

— Якраз наадварот! Ён вельмі добра ўсё разумее. І таму многага не хоча. Таго, што яму расхвальваюць... Якраз тыя, хто сам уцякае ад таго, за што агітуе.

— Таго, хто, за што... Ну і нагаварыў! Некалі селянін не хацеў есці бульбы, яго прымушалі сілаю. А цяпер есць і хваліць.

— У рай не заганяюць палкаю...

— Цёмнаму чалавеку часам не ўсё ясна, трэба на яго іншы раз і націснуць, падказаць, навучыць...

— Не такі ён цёмны, не такі ён просты, як здаецца некаторым.

— Ты пярэчыш сам сабе. То ты казаў, што селяніна падымаюць, лакіруюць, то гаворыш — ён не просты, не цёмны. Як гэта так?

— А так! Яго лакіруюць там, дзе трэба крытыкаваць: ён і грубы, і прагны, і п'е, і лаецца, і многа чаго не ведае і не разумее. Але ён не любіць несправядлівасці, няпраўды, хамства з боку начальства, ён заступіцца за слабага і пакрыўджанага, паможа чалавеку ў бядзе. І галоўнае, што ён ва ўсім разбіраецца і праўду ад няпраўды заўсёды адрозніць! Многія людзі з вярхоў казалі, што яны, дапусцім, не ведалі, які Сталін у сапраўднасці, яны яму верылі, як самі сабе, як бацьку... А просты народ ведаў. Леніна цаніў, любіў, а Сталіну не верыў — і ўсё. Я не кажу пра зялёную моладзь, яна паверыць каму хочаш, без веры яна прападзе...

— Ну дык і паказвай яго такім, хто табе не дае, таго селяніна!

— Ах, якая ты хуткая! Я ж лянуюся! Такога селяніна не хочуць пускаць у свет. Кажуць, такога ў нас няма, нетыповы! Выдуманы! Маё апавяданне пра такога селяніна знялі.

— Ты заўсёды знойдзеш сабе апраўданне, я ўжо цябе ведаю. Ты бязгрэшны анёл, увесь свет можа памыліцца толькі не ты. Усе могуць быць вінаваты, толькі не ты! Ах, як мне ад гэтага лёгка!

— Чаму я не вінаваты? Зноў скажу тое самае: я вінаваты, бо жыву! Бо маю сваю галаву! Вінаваты, бо бачу і думаю па-свойму. Вось у чым мая віна! А чым я табе магу парадзіць, не ведаю. Магу толькі пашкадаваць, што ты выйшла за такога недарэку.

— Каб ты мяне слухаў, мы жылі б інакш.

— Я гатоў цябе слухаць, калі ты вернеш у той бок, што трэба. А калі бачу, што не, я забіраю ў цябе лейцы і кірую сам. Бо не хачу мець паламаныя рэбры і сінякі.

— О, табе ніколі не дагодзіш! Дзе, калі я няправільна кіравала?

— Хоць бы ў адносінах да маіх бацькоў, сясцёр...

— Зноў ты змешваеш бацькоў і сясцёр.

— Змешваю, бо яны мне ўсе роўныя, родныя. І нават не толькі таму, што родныя, а што, калі мне было цяжка, яны жылі разам і памагалі мне. Я адзін вучыўся... Мае сёстры таксама маглі б мець дыпломы, здольнасць у іх была. Але маіх бацькоў не хапала за што нас усіх вучыць. І яны ўсе разам памагалі мне, яны ахвяроўвалі сваім будучым для мяне. Дык я цяпер павінен дзяліць: нацэ вам, бацькі, а вам, сёстры, фігу? Не! Калі мы памагаем бацькам, то памагаем і сёстрам, а памагаем сёстрам — памагаем і бацькам. Іншая рэч, што мы памагаем мала.

— Табе ўсё мала! Аддай апошняе! Здзяры з мяне сукенку, пашлі сваім сёстрам! Чаму я ім павінна памагаць? Чаму? У іх ёсць свае мужыкі! Для чаго яны? Толькі рабіць дзяцей? А я буду аддаваць ім апошняе да канца сваіх дзён? Што я, наймічка, слуга іх, раба іх? Не хачу, не буду! Калі хочаш ім памагаць, аддзяляйся ад сям'і і жыві адзін. Я ішла замуж, каб мець сваю сям'ю, сваё гняздо... Цяпер бачу, што з табою нічога не збудуеш. З табою згубіш тое, што меў!

— Калі на тое пайшло, я аддзялюся, буду плаціць аліменты, але ім буду памагаць усё роўна. Буду памагаць датуль, пакуль яны будуць жыць горш за мяне. А яны стануць лепш — памогуць мне, я ў гэтым упэўнены.

— Кожны жыве для сябе, потым для другіх!

— Згодзен! Толькі многія памятаюць першую палову гэтай ісціны і зусім забываюць другую.

— Так робяць разумныя людзі.

— У такім разе я не належу да гэтай катэгорыі.

— Яно і відаць! Ты думаеш, чаму я ў цябе спытала, якая ў цябе зарплата, калі мы пазнаёміліся?

— Каб ведаць, ці варта працягваць знаёмства.

— Дурань! Ты выглядаў як жабрак, а не як чалавек з прыстойнай зарплатай. Ты і тады або прагульваў усе грошы, або рассылаў сёстрам і ўсякім знаёмым.

— Ты, як заўсёды, перабольшваеш. Калі б я ўжо так мізэрна выглядаў, ты не захацела б са мною ісці і ў першы вечар... цалавацца. Я прывык да беднасці, і яна мяне не палохае.

— Прападзі ты разам з ёю!

— Я гэта запомню...

## 47

Мудры Пракурат аднойчы сказаў, што рэформы заўсёды выгадныя для тых, хто іх праводзіць. Гэта ён сказаў на самым пачатку таго працэсу, які ў гісторыі выдавецтва варта было б назваць рэфармізмам. І ён як у сук уляпіў!

Цэлы месяц працавала камісія, падлічвалі аб'ём работы, месячныя нормы на кожнага чалавека. Выходзіла, што рэдакцыя працуе з вялікай недагрузкаю, а план наступнага года яшчэ меншы, чым гэты. Пайшла чутка, што ў мастацкай рэдакцыі маюцца скараціць некалькі чалавек. Драгун падумаў: «Ну, тут ужо мне не выкруціцца... Калі дырэктар не скарыстае такога выпадку, то гэта будзе цуд».

Цуду не адбылося: скарацілі Драгуна, ды нават не аднаго, а каб было трохі весялей і не гэтак крыўдна, яшчэ далучылі Каляду, Нагорнага і Роўбу. Але кожны скарочаны атрымаў сваё, аднаму яму наканаванае шчасце ці няшчасце. Па закону адміністрацыя павінна памагчы скарочанаму знайсці падобную ці хоць нейкую блізкую для яго работу, але Драгун і Каляда такой літасці не заслужылі: ім далі толькі выхадную дапамогу. Роўбу перавялі ў другую рэдакцыю, так што яна грашыма нічога не страціла, мо толькі любімую работу. А Нагорнаму проста пашанцавала: ён пайшоў загадчыкам рэдакцыі перавыданняў, якую толькі што арганізавалі. Такім парадкам ён трывала сеў на класіку: што і трэба было даказаць!

Драгуну і Калядзе ўсе спачувалі, але чым яны маглі памагчы? Скарачэнне — гэта такі хітры спосаб звальнення, калі нельга паскардзіцца на несправядлівасць, некага ж трэба скарачаць. І раз лёс (ці дырэктар) паказаў пальцам на цябе, то прымі гэта як непазбежнасць.

Атрымаўшы разлік, Драгун па дарозе дадому купіў закускі, паўлітроўку. Вера, якая прыйшла з работы трохі раней за яго, убачыўшы ўсё гэта, здзівілася:

— Што гэта ў цябе за свята?

— О, яшчэ і якое! — штучна-бадзёра ўсміхнуўся Драгун.— «Цяпер я вольны чалавек, і гэткім буду цэлы век!»

— Мо павысілі?

— Да самага неба!.. Скарацілі мяне, мая дарагая жонка!

— Ну, даскакаўся...

Яна замоўкла і пачала збіраць на стол. Маўчаў і Драгун.

— Думаеш, я не знайду работы?

Вера не адказала.

Селі за стол, выпілі па чарцы.

— Дык за што ж цябе?

Драгун аблізаў сухія вусны.

— За ўсё... За ўсе мае труды — правільныя і няправільныя.

— Асабліва няправільныя.

— Былі і такія, але не болей, чым у другіх.

— І што, цябе аднаго?

— Чатыры чалавекі...

— Малайцы!.. На дзесятым годзе работы раптам звальненне?

— Скарачэнне...

— Не адзін чорт?

— Не адзін... Я дурань, што не пайшоў сам, дачакаўся скарачэння...

— Не ісці трэба было, а глядзець як след. Тады б не скарачалі. Нябось Маскалевіча не скарацілі?

— Маскалевіч — заслужаны чалавек... А што я? — Драгун наліваў па другой чарцы.— Будзь здарова, мая карміцелька, цяпер я поўнасцю на тваёй шыі.

— Хопіць, што дзеці на маёй шыі, дык яшчэ і ты... Ах, чалавек! Хоць бы ты калі параіўся са мною, пагаварыў, расказаў! Усё сам, усё маўчыш! Вось і дамаўчаўся...

— Ты сярдуеш?

— На цябе сярдуй ці не — ты ўсё на свой лад вернеш.

— А хіба ты робіш іначай? Я ніколі не пайду супраць свайго сумлення, як і ты.

— Затое пойдзеш супраць свае сям'і.

— Як гэта?

— А так... З чым мы застаёмся?

— Ты пра гэта... Нічога, з голаду не памром. Яшчэ трохі засталося ад кніжкі...— Драгун засмяяўся.

— Тут трэба плакаць, а ты смяешся.

— Я? Не! Я плачу... Ха-ха! Я плачу! Не, не буду! Хай плача Важнік! Ад радасці, што мяне выжыў! «Я — або Драгун! Дваім нам няма месца ў выдавецтве!» Так ён мне сказаў... Бачыш, сам не пайшоў! Усе пойдуць, а Важнік застанецца...

Драгун захмялеў. А на сэрцы стала яшчэ цяжэй. І нейкая крыўда падступала да яго, душыла за горла. Дзесяць год рэдактарскай работы! Дзесяць год катаргі, няўдзячнай цяжкай працы, якая забірала ўсю сілу, сушыла мазгі... Гэта работа, на якой толькі аддаеш, а сабе застаецца толькі зарплата — сто дзесяць рублёў у месяц.

З таго, школьнага, выдавецтва ён фактычна ўцёк, пасварыўшыся з дырэктарам. З першага дня не спадабаўся яму гэты чалавек. Ён усё рабіў напаказ, і справядлівасць і дабрата ў яго былі паказныя. І яшчэ не мог ён пераносіць дырэктаравай двухлікасці, ліслівасці на словах і жорсткасці на справе. І калектыў ён падабраў сабе такі, каб рабіць што хочаш. Была старая гвардыя, напаўпісьменная, але заслужаная, з вялікім партыйным стажам. То была яго апора. Маладых ён не любіў, яны ўсё ведалі, ва ўсё сунулі свой нос і не хацелі маўчаць. Папрацаваўшы год і добра разгледзеўшыся, Драгун выступіў аднойчы на вытворчым сходзе і перад намеснікам міністра асветы добра прайшоўся

па дырэктарскім стылі работы. З таго часу дырэктар з асцярогаю пазіраў на яго. Драгун ведаў, што хай толькі знойдзецца повад — хай толькі выйдзе кніжка з памылкамі,— як дырэктар скарыстае сваё немалое права на ўсю катушку. Драгун рашыў, што лепш пайсці самому, не чакаць, пакуль табе скажуць: пішы заяву.

Папрацаваўшы тры гады, ён сам падаў заяву на звальненне. Прыйшоў у другі калектыў, на другую, хоць і падобную, работу. І кіраўніцтва тут таксама было не тое, што там. Тут было лепей, тут было як у людзей: можна нешта зрабіць, нешта сказаць. Калі твая праўда, цябе маглі падтрымаць, ты мог паскардзіцца хоць у мясцком, сказаць слова ў Саюзе пісьменнікаў. Калектыў тут быў большы, смялейшы, дужэйшы, хоць і тут не абыходзілася без сваіх падхалімаў, кар'ерыстаў і даносчыкаў... Спачатку ён адпачываў душою, усё ішло гладка, ад начальства ён быў далёка і не бегаў, як некаторыя, па кожнай дробязі да дырэктара ці галоўнага. Усе пытанні, што паўставалі ў працэсе работы, ён вырашаў сам або разам з непасрэдным сваім начальствам — Гушчынскім... Але далей-болей... У любым месцы, на любой рабоце, калі ты хочаш застацца сам сабою, табе будзе цяжка. Так і з Драгуном. За сем год ён стаміўся ад бясконцых сутычак, бо ў яго не быў ад прыроды ваяўнічы характар, ён прымушаў сябе супраціўляцца, хоць натура яго прагнула спакою і цішыні. Ён жыў свядомасцю таго, што здавацца нельга, і трэба весці сваю лінію. Няхай гавораць, што сякі-такі-гэтакі, што ты не можаш даць палітычнай ацэнкі рукапісу, што ты не бачыш крамолы, што ты ліберал і яшчэ горай. Трэба набрацца цярпення, бо нехта ж павінен цярпець, інакш...

Гэтым ён сябе толькі суцяшаў.

Да таго ж кухонныя канфлікты, кватэрныя баталіі, хваробы дзяцей, нервознасць жонкі — усё патрохі кладзе свой след на яго жыццё. Патрохі здаюць нервы, збіраецца стома і злосць. Злосці шмат, яна ўсё расце... Гэта як парахавая бочка. І яна можа ўзарвацца не там, дзе трэба, і не ад свядома запаленага шнура, а ад выпадковай іскры... Толькі хапіла б цярпення! Каб толькі ж хапіла!

— Мне было нялёгка, Вера,— Драгун пагладзіў лысіну, абапёрся на далонь падбародкам, пазіраў на жонку. Хваравіты румянец паліў яе шчокі.

— А мне, думаеш, лягчэй? — яна ўжо бралася складваць посуд, выносіць на кухню.

— Але ж я не скарджуся. Проста толькі кажу, што мне

іншы раз хацелася выць воўкам, але я цярпеў. І буду яшчэ — дакуль трэба...

— Аднаму можна цярпець. А вось калі сям'я, дзеці. Ім трэба даць кожны дзень тры разы, хоць вылամі з калена, а дай!

— Не бядуй за дзяцей. Неяк будзем жыць. Работу знайду. Што я, горшы за ўсіх? — Ён грукнуў кулаком па стале.

— Я табе веру,— сказала жонка.— Супакойся... Цяпер схадзі забяры Вальку.

Драгун устаў, прайшоўся па пакоі. Нейкі жаль варухнуўся ў яго сэрцы да жонкі, але ён не даў яму разрасціся — надзеў шапку і выйшаў на вуліцу. На дварэ стаяла цяплынь, пачыналася лета. Раней гэтай парою тут поўна дзяцей, а цяпер — ні душы. Усе параз'язджаліся... Што ж... Можна пару месяцаў пагуляць на волі, бо ён яшчэ ні разу па-людску не адпачыў за гэтыя дзесяць год работы, адзін раз толькі ездзіў у Крым, ды і то працаваў, рыхтаваў першы зборнік...

Сад быў недалёка, два прыпынкі трамваем. Драгун пайшоў пешкі. Ён крочыў памалу, задумаўшыся, апусціўшы галаву. Перад гастраномам на тратуары ён заўважыў нейкае ажыўленне, нейкія рэзкія хуткія рухі. Ён зірнуў туды і ўбачыў развязку: адзін чалавек ляжаў на тратуары, а другі, з бітончыкам, пераступіў праз яго і шпарка пайшоў насустрач Драгуну, раз-пораз азіраючыся. А чалавек, які толькі што ўпаў, стаў падымацца. Ён стаў на ногі якраз тады, калі Драгун падышоў да яго. Чалавек, высокі, абраслы шчаціннем, неахайна апрануты, відаць, быў моцна п'яны, яго вадзіла ў бакі. За нанесеную яму крыўду нехта павінен быў расплаціцца, і Драгун быў першы, хто трапіў яму на вочы і быў блізка, каб дастаць рукамі. Чалавек ашчэрыўся, узняў рукі і пайшоў на Драгуна. Драгуну не было часу падумаць. Ён адвёў руку і рэзка ўдарыў чалавеку ў падбародак. Чалавек упаў. Драгун момант пастаяў над ім, покуль той заварушыўся, і пайшоў далей. Азірнуўшыся, убачыў, што чалавек даганяе яго. У Драгуна закалаціліся рукі, ён стаў.

— Што табе трэба? — чалавек ужо стаяў ад яго за два крокі.— Не лезь, а то заробіш яшчэ!

Сказаў і пайшоў. Чалавек застаўся на месцы. У Драгуна цяпер было такое адчуванне, нібы ён улез у вялікую гразь, а потым яму сказалі зайсці ў чысты, прыбраны пакой. Паскудна, брыдка было на душы. Яго аж муціла: ніколі ў жыцці ён не ўдарыў нявіннага.

Дзяцей у садзе засталося ўжо мала. Драгунова Валька кінулася бацьку ў рукі. Ён падняў яе, закруціў вакол сябе.

— А мы паедзем на дачу! — закрычала Валька.— Вольга Іванаўна сказала!

Драгун падышоў да выхавацелькі.

— Гэта праўда, што вы едзеце на дачу?

Вольга Іванаўна, спакойная, павольная і вельмі прыгожая жанчына, ля якое дзеці круціліся, як пчолы ля маткі, устала з лаўкі і падышла да Драгуна.

— Якраз я хацела спытаць, ці хочаце вы адпраўляць сваю Вальку на дачу.

— А куды гэта, далёка?

— Не вельмі, там, за Ждановічамі, ля Мінскага мора. Можна аўтобусам, можна электрычкай.

— То што, хай едзе. Абы ўсё добра было.

— Ды ўжо ж, пастараемся... Скажыце сваёй гаспадыні, хай падрыхтуе змену бялізны, сукеначку, на ўсякі выпадак палітка не пашкодзіць, абутак.

— Добра, скажу. Ну, пойдзем, Валька.

— Да свіданья!— закрычала Валька, і яны пайшлі.

Драгун дарэмна сябе цешыў, што пару месяцаў пагуляе на волі. Ён зусім забыўся, што яшчэ зімою даў згоду праходзіць летам лагерныя зборы. Нечакана позва з ваенкамата нагадала яму пра гэта. Да адпраўкі заставаліся лічаныя дні. Драгун хацеў адпрасіцца: ён цяпер без работы, сям'я не атрымае нават палавіны яго зарплаты... Нічога не памагло! Саюз пісьменнікаў спехам выдаў яму сто рублёў дапамогі. Разам з маладым паэтам Сінякевічам яны разам бегалі па горадзе, заказвалі білеты на самалёт, куплялі новыя штаны, туфлі, рукзакі. Дарога іх чакала вялікая — Далёкі Усход.

## 48

У Мінску Драгуна сустракалі так, нібы ён прыляцеў з Месяца, а не вярнуўся з Уладзівастока. Кожны дзівіўся: «Як гэта цябе занясло на край свету?»

Так, пабыў ён далёка, пабачыў многа, пазнаёміўся з многімі людзьмі, шырэй стаў глядзець на свет. Доўга жыло ў ім адчуванне, што ён зусім не той, што быў дагэтуль. Новыя думкі, незнаёмыя дагэтуль пачуцці, другі погляд на рэчы, якія здаваліся назаўсёды ацэненыя...

Адзін вельмі важны вывад зрабіў для сябе Драгун: чым болей ездзіш і бываеш далёка, тым болей будзеш любіць той край, дзе ты нарадзіўся і вырас. І яшчэ адна незнаёмая дагэтуль думка пасялілася ў яго галаве, калі ён хадзіў і ездзіў па неаглядных прасторах Далёкага Усходу, а потым Сібіры: магутная ўлада прасторы над чалавекам. Прастора паглынае чалавека, як акіян кроплю, як стог сена іголку, як слон камара — і ніякага следу, ні голасу, ні гуку. Праўда, чалавек жыве, але гэта тое самае, што яго і няма — ён прапаў тут на векі вечныя, і калі не суджана вырваць яго адгэтуль, то болей пра яго не даведаецца ніхто — чым ён жыў, што думаў, што хацеў зрабіць і што зрабіў... У яго адчуванне такое, што ён тут навечна згубіўся... Цікава, што ў еўрапейскай цеснаце ў чалавека ніколі не бывае такога пачуцця: тут ён жыве, нешта робіць, яго ведаюць усе, ён ведае ўсіх. Ва ўсякім разе, так яму здаецца, і гэта яго супакойвае: ён адчувае сябе патрэбным. А там людзям вусцішна, іх палохае неабжытая прастора — іх ніколі не пакідае думка вярнуцца назад, у Еўропу. А мо так думаюць толькі тыя, хто яе памятае? Мо іх дзеці ўжо будуць лічыць гэты край сваёю радзімай і палюбяць яго, як і ўсякую радзіму? Тыя ж, хто вырас у другім месцы, наўрад ці прырастуць тут. Іх да смерці будзе цягнуць дадому. Настальгія — хвароба невылечная...

Аднак мала-памалу новыя клопаты засланялі тое, што засталося там, хоць Драгун яшчэ доўга сніў уладзівастоцкія сны — сіняе мора, зялёныя сопкі, голыя каструбаватыя скалы, хмурныя караблі, знаёмых, што засталіся там... назаўсёды.

А клопатаў і праўда хапала. Трэба было перш-наперш знайсці якую работу.

Ці мо паспрабаваць вольнага хлеба? Яно мо і не шкодзіла б, ды няма базы. Хоць бы якая тысяча рублёў у запасе, тады іншая рэч: мог бы сёе-тое напісаць, мог бы што і надрукаваць. Але адкуль тая тысяча? Яны праядалі апошнія рублі.

Адзіная дарога — шукаць работы...

Яшчэ перад паездкай на Далёкі Усход Драгун чуў, што пры Міністэрстве культуры адкрываецца ці пашырыцца рэпертуарна-рэдакцыйны аддзел, што туды патрэбны людзі. Чаму ж не паспытаць шчасця? Як-ніяк, а ён стары рэдактар. Аднойчы недзе ў гадзін дзесяць раніцы ён пайшоў у міністэрства. Хацеў трапіць на прыём да міністра, доўга чакаў, але ў таго ўсё не канчалася нарада, і Драгун пакінуў сакратарцы сваю заяву.

І вось прайшло больш як два месяцы. Можа, што і клюне? Ён зноў ідзе ў міністэрства, пытае ў той самай сакратаркі — маладой, нафарбаванай, у кароценькай спадніцы — пра сваю заяву. Сакратарка памятае. Яна знаходзіць яе і кажа, што рэпертуарна-рэдакцыйны аддзел не пашыраецца, гэта толькі праект, ён і застаўся праектам. Так што сваю заяву Драгун можа забраць.

Драгун махнуў рукою і хацеў ісці, але сакратарка неяк па-змоўніцку, як бы пад сакрэтам, сказала яму:

— Таварыш Драгун, я чула, што ад нас збіраецца ісці адзін чалавек, мо ведаеце, такі пісьменнік Ражкоў?.. Схадзіце вы да Парватовіча, начальніка кіраўніцтва па справах мастацтва, і пагаварыце.

— Дзякую вам. Зайду... У якім ён пакоі?

Яна назвала нумар.

Але перш чым ісці да Парватовіча, рашыў зазірнуць да Ражкова. Ражкова ён ведаў па выдавецтве.

Ражкоў — невысокі, лабасты, з гладка зачэсанымі русымі валасамі, выйшаў за ім на калідор.

— Што скажаш? — Ражкоў дастаў папяросы, закурыў, успомніў потым, што не даў Драгуну, і працягнуў пачак.

— Не навучыўся,— адказаў Драгун.— Вось работу шукаю.

— Ты ж, здаецца, быў у Важніка?

— Быў, ды сплыў... Скарацілі.

— Вось як! Цікава! За што?

— Прычын многа... Апошняя — кніжка Трошына. Я пахваліў яго апавяданні. А тады Важнік кажа: або я, або ты, тут нам дваім не месца...

— Ну, брат, я табе не зайздрошчу!

Драгун ніяк не мог прама спытаць у Ражкова, ці збіраецца ён кідаць сваю работу.

— Тут у вас меўся расшырацца нейкі рэпертуарны аддзел,— пачаў Драгун здалёк.

— Пражэкт! Так і застаўся на паперы. Якое расшырэнне, калі ўсюды трэба скарачаць? Дык ты думаў сюды?

— Думаў... А як у вас работа?

— Ды нічога... Жыць можна. Хоць, скажу па сакрэту, мяне таксама хочуць вытурыць. Неяк паспрачаўся з міністрам. З таго дня — усё, што ні зраблю — кепска! А тут яшчэ хваробы... Жонка ў бальніцы, а тут у мяне рука адымаецца. Старая кантузія вылазіць наверх...

Да Парватовіча Драгун ужо не заходзіў.

Першы раз за дзесяць год Драгун адпачываў душою. Такое адчуванне яму было зусім незнаёмае, і каб не ўся гэтая катавасія са скарачэннем, то мо ён і не ведаў бы, што такое быць «вольным мастаком». Не адчуваць на сваіх плячах цяжкі груз вечнага клопату: не спазніцца раніцай, паспець з абеду, не затрымацца на калідоры, не зацягваць работы, не зрываць графіка, са страхам чакаць прачуханца за памылкі, якія, як знарок, вылазяць тады, калі кніжка ўжо выйшла ў свет,— не адчуваць усяго гэтага ўжо калі не вялікае шчасце, то, ва ўсякім разе, свабода ад надакучлівага пачуцця абавязку... Успомнілася яму апавяданне італьянца Маравія пра чалавека, які доўга шукаў работы і, урэшце, уладкаваўся на працу ў рэкламнае бюро. З групай падлеткаў ён ездзіў па горадзе на веласіпедзе, везучы на спіне вялізную літару, а ўся кампанія па літарах складала цэлую назву кіно і кінатэатра. Без канца ездзіць па горадзе надакучала, хлопцы зварочвалі ў завулкі, выязджалі на пляж. Кінуўшы веласіпеды, бесклапотна купаліся, загаралі, заводзілі знаёмствы з дзяўчатамі. А пажылы чалавек, які быў разам з імі, не мог спакойна адпачываць: яго мучыла пачуццё абавязку. Яно ўжо сядзела ў яго касцях, у яго крыві...

Гэтае ж самае пачуццё, аказваецца, сядзела ў Драгуна, як цвік у целе, ён ужо думаў, што так і трэба, хоць і баліць. Выходзіць, што без гэтага цвіка, без гэтай стрэмкі намнога спакайней і лягчэй: ты адчуваеш сябе незалежным чалавекам, ніхто табой не камандуе, ніхто на цябе не крычыць, ніхто не стане папракаць за тое, што ты нешта зрабіў не так, а мо і так, а яму здавалася, што ты зрабіў кепска, і ты ніколі не дакажаш свае праўды.

Здаецца, першы раз за ўсе дзесяць апошніх год Драгун выпрастаў свае плечы!

Ён сядзеў дома і пісаў, нават перастаў хадзіць у бібліятэку. Пісалася добра, ішло лёгка, за дзень можна было зрабіць добры кавалак, не тое што, прыйшоўшы з работы, калі адчуваеш сябе, як выціснуты лімон — можаш пасядзець не болей дзвюх гадзін, а там ужо пачынаеш адчуваць, як пухне галава, стукае кроў у скронях. А як хутка пачаў ісці час! Месяц пралятаў як тыдзень, а тыдзень — як дзень. Праўда, толькі ад зарплаты да зарплаты ў жонкі чакаць было доўга.

Зноў пачала наклёўвацца работа — гэты раз у газеце. Другун трохі ўжо ведаў, што гэта за смак, па Уладзівастоку, ды і быў знаёмы з многімі журналістамі, якія некалі канча-

лі разам з ім вучобу, а цяпер ужо даслужыліся да рэдактараў або загадчыкаў аддзелаў. Працаваць у газеце — гэта тое самае, што ліць ваду ў дзіравае вядро. Давай-давай! Лі без адпачынку, бо адразу відаць, што вядро не поўнае. Але некаторыя яго падбадзёрвалі: паездзіш у камандзіроўкі, пабачыш жыццё, збярэш матэрыялу. Драгуна і самога цягнула гэтая прынада. За час работы ў ведавецтве ён сядзеў як прыкуты да стала, ніколі нікуды не ездзіў. Ён нават не ведаў гэтага смаку — ездзіць у камандзіроўкі, і чаму гэта, калі куды трэба, то едуць усё тыя, што бліжэй да начальства? Праўда і тое, што ў выдавецтве камандзіроўкі бывалі рэдка, таму заўсёды хапала ахвотнікаў і апроч Драгуна. Ён ужо звыкся з гэтым і лічыў, што так і трэба. Калі не лічыць Уладзівастока і Крыма, нідзе яму болей не давялося пабыць, асабліва дома, у Беларусі. На поўдзень ён не сягнуў далей Асіповіч — Слуцка, на поўнач — Маладзечна, на захад — да Слоніма, а на ўсход — да Оршы. Цяпер ён думаў, што хоць пабачыць свой край, у якім гэтулькі пражыў і так мала яго ведаў.

Палохала яго адна акалічнасць: ісці ў газету трэ было да таго самага рэдактара, які некалі друкаваў рэцэнзію на Мішчанку і якому пісаў Драгун ліст: ісці трэба было да Пашкова. Драгуна падахвочваў загадчык аддзела культуры Стральчэня, той самы, які пісаў разносную рэцэнзію на Мішчанку, схаваўшыся тады пад псеўданім Сідорчыка. Тады вельмі хутка ўсе даведаліся, хто такі Сідорчык. А цяпер неяк так выходзіла, што яны як бы абодва забыліся пра той непрыемны казус, які здарыўся з рэцэнзіяй на Мішчанку.

Пазнаёміліся яны даўно: Драгун рэдагаваў Стральчэневу кніжку нарысаў. Нарысы, праўда, пахлі такой газетай, што хоць ты іх выкідай. Драгун тады і выкінуў іх нямала, але Стральчэня не пакрыўдзіўся. А ўжо нядаўна, калі Драгун пайшоў з выдавецтва, Стральчэня даў у газету яго рэцэнзію на «Партызанскую адысею» Карповіча, да таго ж рэцэнзію самую станоўчую, у той час як у выдавецтве Карповічаву аповесць ледзь не зарэзалі. Увогуле ж Стральчэня, здаецца, нічога не меў да Драгуна і меціў узяць яго цяпер у свой аддзел, бо была вольная адзінка.

Стральчэня пазваніў Драгуну, каб ён прыходзіў. Драгун хуценька пагаліўся, апрануў гарнітур, нават завязаў гальштук і пайшоў.

Стральчэня быў не так высокі, як грузны, з адышкай, хоць яшчэ і не стары мужчына. Ён прывітаўся з Драгуном

за руку і запрасіў сесці. У кабінеце цяпер ён гаспадарыў адзін, а працаваць трэба было за дваіх.

— Бяры, братка, анкету, запаўняй, напішы аўтабіяграфію...

— Што, дайшло да анкеты?

— Гэта яшчэ нічога не значыць. Як яму стрэльне ў галаву.

— То мо я вазьму дадому, а прынясу заўтра?

— Кінь ты! Вось зрабі ўсё — тады ідзі. Калі спатрэбішся — пазваню.

Драгун сеў за вольны стол, напісаў спярша аўтабіяграфію, потым запоўніў анкету.

— На, глянь, мо што не так...

Ён прабег вачыма па аўтабіяграфіі і вярнуў назад.

— Чаму не напісаў, што прыняты ў Саюз пісьменнікаў?

— Хіба гэта важна?

— Калі кажу, значыць, важна. Дапішы!

Драгун дапісаў.

— Ну, усё. Ідзі з богам. А гэта я перадам Пашкову, хай вывучае...

...Стральчэня пазваніў Драгуну праз тры дні.

— Прыходзь, стары, пойдзем да Пашкова.

Драгун ішоў і думаў: возьмуць ці не возьмуць? І вырашыў, што не. Надта ён быў сёння спакойны. Гэта заўсёды прарочыла няўдачу. Ён памятае такія выпадкі яшчэ са школы. Вось калі ён хвалюецца, будзе нешта добрае.

Пашкоў прымаў яго ў сваім прасторным кабінеце, як вялікі пан. У белай нейлонавай кашулі, з залатым пенснэ, зачэсаны на прабор, ён мог бы сысці за інтэлігента, каб не вялікаваты нос-дуля, трохі сіні, трохі чырвоны.

— Сядайце,— сказаў ён суха Драгуну і адсунуў ад сябе свежую палосу газеты.

Драгун сеў пры яго стале як госць, Стральчэня трохі далей, пры вялікім рэдакцыйным стале для нарадаў.

— Дык што вы хацелі? — спытаўся павольна і важна Пашкоў.

Ужо адно гэта пытанне гаварыла пра многае. Але Драгун зрабіў выгляд, што нічога не разумее.

— Ну, я думаў, што вам патрэбен работнік у аддзел культуры,— адказаў ён рэдактару.

— Праўда, работнік нам быў патрэбен... Але вы трохі спазніліся.— Ён зрабіў шматзначную паўзу, дакрануўся тонкім пальцам да канца носа, потым павёў палец уверх і паправіў пенснэ, якое і не думала падаць.— Мы робім

невялікую перастаноўку ў рэдакцыі, скарачаем адзін аддзел. Так што нічым не магу памагчы.

Драгун устаў.

— Што ж, прабачце за турботы,— сумна сказаў ён.

Устаў і Пашкоў.

— Калі ласка,— прамовіў ён, зрабіў лёгкі паклон і працягнуў цераз стол — хутчэй па рэфлексу — руку Драгуну.

Драгун рэзка павярнуўся, зрабіўшы выгляд, што не заўважыў рэдактаравага жэсту.

## 49

«Не мела баба клопату, ды купіла парася»,— думаў сабе Драгун, ідучы па гразкай раскіслай дарозе шукаць, дзе жыве той яго прыяцель, стары халасцяк Іван Жук. Недзе на Балотнай станцыі... Драгун быў у яго гады два назад, ■ ён сам неяк заходзіў да Драгуноў нядаўна, прыносіў чытаць новыя байкі. Чалавек захапіўся эзопаўскай старыной, чытае грэкаў, рымлян, Лафантэна, Канцеміра і Крылова, Крапіву і Валасевіча. Але покуль што — воз ні з месца. Праўда, часам ён браў глыбока, для «Вожыка» ніяк не лезла. І часам занадта востра. А часам і няўмела. І, як кажуць, варыўся ў сваім соку... Але, мусіць, уся бяда была не ў гэтым. Іван Жук некалі паступаў на журналістыку, не прайшоў па конкурсе і падаўся ў наргас, інстытут народнай гаспадаркі. Скончыў вучобу, а працаваць не давялося — захварэў мінінгітам. Доўга лячыўся, потым перавялі яго ў інваліды, жыў недзе ў Данбасе ў брата, а гадоў колькі назад пераехаў у Мінск, тут уладкаваўся на завод звычайным токарам. Кажа, што дактары забаранілі працаваць галавою. І жыве сабе адзін на прыватнай кватэры... Праўда, потым прызнаўся Драгуну, што, каб прыпісацца ў Мінску, давялося схадзіць спачатку ў загс, а потым ужо тая кабета яго прыпісала да сябе... Казаў, што гэта яго не звязвае, ланцугі Гіменея ён можа скінуць у любы момант, хай толькі захоча... Ну што ж? Мо гэтыя скіне, новыя наложыць?

Вузкая вулачка, па баках дамы і хаты сялянскага тыпу. Як мястэчка ці звычайная вёска. «І хаты няроўныя тут, як і людзі...» Здаецца, вось гэты дом у два канцы, накрыты чырвонаю чарапіцай. На двары жанчына сталых гадоў у новай ватоўцы і малады хлопец у гімнасцёрцы ахоўнага колеру папраўляюць плот: яна камандуе, ён папраўляе. Дзіўна, што не наадварот...

Драгун падыходзіць да іх і пытае, дзе тут жыве Іван Жук.

— Які Жук? А-а, Ванька? Во, у тыя дзверы.

Драгун зайшоў у прыбудовачку, адчыніў яшчэ адны дзверы і апынуўся ў кухні. Тут было двое дзвярэй. У якія ж пастукаць? Спачатку ў тыя, што злева. Цішыня. Пастукаў справа. Нехта як бы заварушыўся. Пастукаў яшчэ.

— Адну мінуту,— пачуўся заспаны голас.

І праз мінуту, а мо нават раней, дзверы адчыніліся, і Драгун убачыў на парозе Івана Жука. Ён усміхнуўся на ўвесь рот і аж успляснуў рукамі:

— Ну, брат, не чакаў! Думаю, каго там гоніць? Я з начное прыйшоў ды як заваліўся спаць...

Валасы ў яго тырчалі вожыкам, твар быў мурлаты, смуглы, нібы чалавек толькі што з курорта — дзе-небудзь з Крыма ці Каўказа.

Драгун зайшоў у пакой.

— Адразу павеяла маладосцю,— сказаў ён.— Ты зусім па-паходнаму, нават на раскладушцы.

— Найлепей! Я моцна нідзе не акопваюся,— смяяўся Жук і прыбіраў у пакоі: заслаў раскладушку чорнаю суконнаю коўдрай, прыняў табурэтку, абуўся, потым стаў галіцца электрычнаю брытвай.

Драгун сеў за стол, разглядаў кнігі, якія былі зложаны невысокім стосікам. Здзівіўся, убачыўшы «Лаакаон» Лесінга.

— Дык ты не толькі практыкуешся, але штудзіруеш і тэорыю?

— А які толк? Каб гэта я дарваўся да ўсяго гэтага тады, як хацеў, як меў сілу... Мо і жыццё пайшло па іншым рэчышчы... А так што? Ніякага следу не пакіну...

— Ну, ты ўжо заныў... Я якраз прыйшоў да цябе наконт гэтага следу... Можаш пакінуць след, і яшчэ які глыбокі.

— Ты пра што?

— Вось паслухай...

І Драгун расказаў, як сустрэўся з адной знаёмай, як яна сумуе без мужчыны, прасіла яго пазнаёміць з кім-небудзь.

— А колькі ёй год?

Драгун разрагатаўся.

— А ты ведаеш, што яна спытала, калі я сказаў пра цябе? Спытала, браце, якога ты росту! Каму што... Але смех смехам... Яна мо адных год з табою ці са мною. Мо на які год старэйшая. А так кабета нічога сабе.

— Не, брат, старая.— І ён адразу апусціў рукі, перастаў завіхацца.— Мой бацька жаніўся, дык мая маці была за яго на пятнаццаць год маладзейшая.

— Табе хочацца паўтарыць бацькаў вопыт? А калі будзеш мець свой?.. Я на гэтыя гады гляджу так... Хіба мы ведаем, колькі нам адмерана?

— Усё ж такі...

— Ды, урэшце, у яе ёсць і дачка, недзе якраз напалавіну маладзейшая за цябе. Так што не зявай.

— І з дачкою? Ты, я бачу, добры сват. З табою толькі звяжыся.

— А што? Ты ў мяне дагэтуль не бадзяўся б самапасам...

Праз тыдзень у нядзелю Драгун з Жукам сабраліся ў госці да Яніны Акімаўны.

Засапліся, покуль узышлі на пяты паверх, адпачывалі трохі на пляцоўцы. Толькі Драгун хацеў пазваніць, як дзверы з лічбай «32» адчыніліся і выглянула сама Яніна. Няйначай, праз акно яна заўважыла іх.

— Гэта вы? Заходзьце! Калі ласка!

І яна шырока расчыніла дзверы. Сама яна ўжо была апранута па-святочнаму, у светлую крэмавую сукенку.

У кватэры смачна пахла пірагамі, смажанінай і яшчэ нечым. Госці распрануліся, павесілі плашчы, нават разуліся.

— Сядайце, госцікі, я тут яшчэ не ўсё давяла да ладу.— А ўбачыўшы, што на стол яны выставілі дзве пляшкі, кілбасу, цукеркі, пачала крычаць на іх:— Ну, што вы гэтулькі панаслі? Як на каляды! Ці ж так можна?

«Святая прастата,— падумаў Драгун.— Што ты заспявала б, каб мы прыйшлі з пустымі рукамі, няўжо ўзрадавалася б?»

А ёй сказаў:

— Добра, на другі раз улічым.

— Па-мойму, даражэй за ўсё тое, што чалавек прыносіць у душы, [redacted] не ў кішэні,— гаварыла Яніна Акімаўна ўжо з кухні.

Драгун раптам спахапіўся.

— Даруйце, але чаму я вас адразу не пазнаёміў? Яніна Акімаўна, хадзіце сюды.

Яна выйшла, першая падала руку — са шчырай усмешкай, пачырванелая, Жук — па-дзелавому, неяк важна-запаволена, як пад прымусам. На твары — ніякіх пачуццяў, толькі смуглявасць яшчэ болей апанавала яго шчокі. Цяпер Драгун здагадаўся, што гэта Жук так чырванее.

— Яніна Акімаўна...

— Іван.

— Хоць бы пацалаваліся на знаёмства!— пажартаваў Драгун.— А то вельмі поснае знаёмства.

— Поснае ці познае?— засмяялася Яніна Акімаўна, ідучы на кухню.

— Хай хоць познае, абы не дарэмнае,— адказаў ёй Драгун.

— Ну, пра гэта яшчэ памаўчым,— гукнула яна адтуль.

Драгун усеўся на тахту, а тугадум Жук усё так жа моўчкі аглядаў падлогу, сцены, мэблю, пасопваў у нос, нешта сам сабе думаў.

— Ты чаго маўчыш?— спытаўся ў яго Драгун.

— Ды так...

— Баішся, каб не ўліпнуць?

— Не, мяне не так хутка забратаць, як табе здаецца.

— Я думаю... Старога бугая не вельмі ўломіш.

Драгун праглядаў газеты, а Жуку аддаў «Вокруг света».

— Бачыш, людзі, седзячы дома, падарожнічаюць вакол свету. Вучыся!

Драгун ужо пачынаў лаяць сябе, што ўзяўся за такую далікатную місію. Адразу відаць, што Жук не ў гуморы ад гэтага візіту і не на сёмым небе ад знаёмства. Але, урэшце, што яму трэба? Маладую?

— Яніна Акімаўна, а дзе ваша Жана?— спытаўся гучна Драгун.

— Жана? Недзе ў суседкі, гуляюць.— Яна выйшла з кухні, трымаючы ў адной руцэ нож, у другой — відэлец.— Ведаеце што? Я хачу...— яна замялася.— Хачу паклікаць да нас адну жанчыну, гэтую самую, да якой пайшла мая Жана. У яе дачка, равесніца з маёю, дык іх вадою не разліць. А мы, старэйшыя, таксама дружым, хоць сяды-тады і пасварымся... Дык як, паклікаць яе, ці не? Мо весялей будзе?

— А калі сумней?— Драгун зірнуў на Жука.— Як ты, Іван?

— Што мне? Я тут не камандую.

— Але ж у нас пытаюць...

— Мо гэта ў цябе?

— Калі ў мяне, то я не супроць. Што мне?

— То добра, я паклічу,— сказала Яніна Акімаўна і зноў пайшла на кухню.

Драгун паклаў газету, зайшоў следам за ёю. Гарэла газавая пліта. У жароўні нешта смажылася. На кухонным стале — яечня, пірог, сялянская кілбаса, кіслыя гуркі, памідоры.

— Вазьміце ў памочнікі,— сказаў Драгун.

— Няхай, я зараз і сама...

— Вы не падумайце, што я прыйшоў вас падганяць. Я памагаць!

— Што, жонка прывучыла?

— А што тут такога? Часам і памагаю. Але болей есці, чым гатаваць.

— Ну, вы, мужчыны, заўсёды так. Але нам і гэта прыемна — усё ж весялей у кампаніі.

— Падзел працы... Аднак што гэта за жанчына прыйдзе?

— Гэта спецыяльна для вас... Вы мяне знаёміце, я — вас.

— Бачыце, якая вы добрая! А што, калі я напраўду закахаюся ў яе? Што тады?

— Няўжо вы такі хуткі? А жонка, дзеці?

— Ну, у мяне душа... шырокая, месца ўсім хопіць.

Яніна Акімаўна бліснула вачыма на Драгуна.

— Сцеражыцеся, у гэту можна і закахацца!

— Няўжо? Тады я ўцякаю.

— Вы сур'ёзна?

— А што? Мо ад гэтага залежыць мой лёс...

— Не думала я, што вы такі палахлівы...

— Тады застаюся! Я проста пажартаваў.

Яны ўжо сядзелі за сталом, а Драгун усё яшчэ быў пад уражаннем той хвілі, калі зайшла гэтая жанчына, што назвала сябе Шурай. Яго нібы асляпіла маланкай. «Вось гэта кабета,— сказаў ён сабе ў думках.— Вось гэта кабета! Ёсць жа такія на свеце!»

А цяпер яны сядзяць побач, яго калена дакранаецца да яе нагі, калі яна робіць рух, паварочваецца ці бярэ што на стале. Тады Драгун адчувае, што ў ім нешта робіцца, парушаецца звычайнае цячэнне часу, і здаецца, што ўсё прападае — ёсць толькі адна яна, яго суседка. Драгун нават можа абняць яе за талію... Можа ўзяць яе руку... Поўную, прыгожую руку... Шура... Яна і сядзіць роўна, як каралева, нічуць не горбіцца, горда трымае сваю пародзістую галаву з каронай чорных валасоў, сабраных у высокі цюрбан. А грудзі распіраюць ёй кофтачку, спакусліва прыцягваюць зрок сваёй пышнай акругласцю.

Яны сядзяць цяпер побач, Драгун і Шура, на канапе, а з другога боку стала, супроць іх — Жук з Янінай Акімаўнай.

Покуль налівалі, пілі і закусвалі — гаварылі ўсе разам, шумелі, спрачаліся, таргаваліся, а потым неяк само сабой выйшла, што Драгун павярнуўся да свае суседкі, Жук —

да свае, стол, як сцяна, раздзяліў іх, і здавалася, што яны тут адны. Ва ўсякім разе, тое, што гаварылі на тым баку стала, да яго не далятала, нібы тыя маўчалі.

У Шуры быў звонкі, раскацісты смех і грудны, прыемнага тэмбру, голас. Драгун ёй сказаў:

— У вас такі прыемны, мілагучны смех. Па-мойму, вы добра спяваеце?

Яна засмяялася, нібы пацвярджаючы праўду Драгуновых слоў, а потым неяк адразу смех абарваўся, і яна стала адразу сумная.

— Што з вамі? — Драгун узяў яе за руку.

— Нічога. Проста так... Вы адгадалі: некалі я добра спявала... Але цяпер гэтым не займаюся.

— Чаму?

— Дала сабе слова.

— Якое-небудзь няшчасце?

— Няшчасце...

— Даруйце, я не ведаў...

— Калі ласка... Адкуль вы маглі ведаць? У мяне быў сын... Семнаццаць год... І памёр... З таго часу я зараклася спяваць... Думала, што звар'яцею... Ажно нічога, вось выгадавала дачку.

— Адны?

Суседка павярнула да яго галаву, сумна сказала:

— Адна... Таму што мой муж памёр хутка пасля вайны, ад ранаў.

Чорт вазьмі! У кожнага свая бяда! Драгуну стала не па сабе. Ён ужо не ведаў, як адвясці гутарку ад такой сумнай тэмы.

Але выручыў Жук. Ён сказаў занадта гучна, нібы тут сядзелі глухія:

— Давайце вып'ем! Хто мае тост?

Драгун перавёў вочы на другі бок стала.

Жук і Яніна Акімаўна былі такія ж, як і гадзіну назад: ён — урачыста-строгі, смуглява-бледны, ні кропелькі не п'яны, яна — вясёлая, ружовая, з белазубай усмешкай, з ненатуральным бляскам у цёмна-сініх вачах... Цікава, пра што яны гаварылі? Няйначай, Жук расказаў ёй пра свой лёс. Вечная тэма! Толькі чаго Яніна такая вясёлая? Проста ненатуральна вясёлая. І не глядзіць на Драгуна... А ўрэшце, што яму? Сват — сабе рад? Смех, дый годзе! А мо сам Драгун паводзіў сябе непрыстойна? Але ж не, здаецца, не лез цалавацца да суседкі, сядзеў, як і трэба ў добрай кампаніі. Мо толькі «еў» яе вачыма? Гэта можа быць. Жонка часам

гаварыла яму, вярнуўшыся з гасцей ці з якое кампаніі, што ён не зводзіў пажадлівага погляду з адной кабеты (называла імя ці месца, дзе тая сядзела). Але тое, што бачыць жонка, не заўсёды можа ўбачыць чужое вока.

Драгун устаў, узняўшы угору чарку.

— Давайце вып'ем за першае каханне!

Усе дружна пацягнулі рукі да Драгуновай чаркі, сталі чокацца.

— Які харошы тост,— уздыхнула Яніна Акімаўна.

— Як даўно гэта было...— у тон ёй сказала Шура.

Яны зноў, падзеленыя сталом, раздзяліліся: на тым баку гаварылі нешта сваё, на гэтым — сваё.

— А ў мяне,— летуценна сказаў Драгун,— першае каханне таксама звалася Шурай. І гэтае імя да смерці будзе гучаць для мяне райскаю музыкай.— Адчуў, што гаворыць высакапарна, змоўк, пазіраў у стол.

— Хіба галоўнае ў імені? — далікатна спытала Шура.

— Пэўна ж, не,— падумаўшы, адказаў Драгун.— Але добрае імя так прыстае да добрага чалавека, што здаецца, яны і радзіліся разам. А потым, сустрэўшы чалавека, які носіць такое ж імя, міжволі ажываюць тыя пачуцці, якія яно выклікала некалі, даўно...

— А што, ад першага кахання вам засталося толькі імя?

— Як ні сумна, толькі імя... Я быў яшчэ зусім зялёны. Хадзіў у восьмы клас... Адразу пасля вайны. Беднасць страшэнная, галеча... І тут гэтае каханне, як нешта светлае... Як кветка на руінах... Ім я жыў... Скажу шчыра: чыстае, сарамлівае, трывожнае, радаснае пачуццё, калі абняць яе здаецца самым найбольшым шчасцем на зямлі...

— Што ж вам не дало сысціся?

— Хто яго ведае... Відаць, усё тая ж беднасць. Куды я яе прывёў бы? У бацькаву хату, дзе і самім было цесна? Каб гэта на цяперашні розум... А тады... Ды я не выкідаў з галавы школу, хацеў скончыць дзесяць... За гэты час яна паехала дадому...

— Яна была прыезджая?

— Бежанка, як мы тады называлі, з-пад Калугі. Прыязджала тады многа людзей да нас у Заходнюю — са Смаленшчыны, Браншчыны — шукаць работы і хлеба... Пасля вайны ў нас яшчэ не ўсюды былі калгасы, некаторыя багацейшыя бралі сабе парабкоў... Вось і тая... мая Шура служыла у аднаго... Эх, час быў неўладкаваны! Усё вісела на валаску. Адно развальвалася, другое пускала карэнні, набірала сілу...

— І што, вы так і не ведаеце, што з ёю?

— Няйначай, выйшла замуж, як і ўсе дзяўчаты, на якіх заглядваюцца хлопцы. А тых, якія прыязджалі з Заходняй, бралі нарасхват — яны сёе-тое прывозілі з сабою, заробленае.

— Дык вы каецеся? Прабачце, што я ўсё у вас распытваю.

— А што тут такога?.. Ці каюся? Цяжка сказаць... Калі б ажаніўся з ёю, лёс мой быў бы зусім іншы... Да таго ж у нас няма традыцыі жаніцца ў васемнаццаць год... Так што я прыняў наша расстанне як волю неба: не суджана, як казалі раней.

— А мо яна вас не кахала?

— Не думаю... Гэта адразу адчуваеш... Ці вы скажаце, што не?

— Пэўна ж, у такім узросце людзі не ўмеюць прыкідвацца — яны шчырыя... Ведаю па сабе... Я выходзіла — мне было семнаццаць. І я кахала свайго мужа, бо ён быў маё першае... ды і апошняе каханне...

— А скажыце, вы верыце ў каханне з першага погляду?

— Не, са мною такога не здаралася.

— Дык, значыць, яго няма?

— Я так не кажу... Але хто не перажыў сам, той не вельмі некаму паверыць.

— А я — веру! Ёсць такое каханне! І я вам... каб болей выпіў... прывёў бы самы свежы прыклад.

Ён апусціў галаву, замоўк. Словы прасіліся ў яго на язык, але ён не даваў сабе волі. Чаму? Мо каб яна не падумала, што ён хлусіць? А мо што на другім баку стала сядзелі людзі? Ва ўсякім разе, нешта перашкаджала выліць яму сваю душу. Ён мог бы вось цяпер сказаць ёй самыя высокія словы кахання, якіх не гаварыў нават той, першай Шуры, нават жонцы. Самыя высокія словы гаварыў бы ён зараз — і не пакрывіў бы душою, бо яны як ніколі адпавядалі таму стану, у якім ён быў цяпер.

— Але ж у вас, здаецца, жонка, дзеці?— лінула Шура халоднай вады на распалены на белае камень яго пачуцця.

— Ну і што? А мо я памыліўся тады?— з імпэтам запярэчыў Драгун.— Іншы раз чалавек знаходзіць сваё шчасце на краі магілы. І ён ідзе за ім!

— А калі гэта не шчасце, а міраж?

— Тады — у вір галавою, так ці іначай!

— Ці не занадта вы смелы?

— Наадварот...— Драгун трохі астыў.— І ў гэтым мо ўся мая бяда...

Шура глянула на гадзіннік і сказала, што пара збірацца дадому. Гаспадыня, Яніна Акімаўна, яшчэ ўпрошвала трохі пасядзець. Шуру нечакана падтрымаў Жук. Ён першы ўстаў з-за стала і падзякаваў.

— Я вас хачу правясці,— сказаў Драгун Шуры.

— Дзякую, дзякую, мне тут блізка.

— Хай сабе і далёка... Я толькі абуюся.

Шура развіталася з гаспадыняй, нешта шапнула ёй на вуха, потым падала руку Івану.

Драгун выйшаў следам за ёю. Яны апусціліся на два ці тры паверхі, і яна стала.

— Вось тут я жыву,— сказала яна і паказала на дзверы.— Дзякую, што правялі.

— Я хачу зайсці да вас.

— Калі ласка.

Яна прапусціла яго наперад, потым у цемнаце пашарыла рукою, запаліла святло ў прыхожай. Яны стаялі побач, ён чуў яе дыханне.

— Шура,— сказаў ён усхвалявана і моцна абняў яе.— Вы цудоўная жанчына.— І стаў шчыра цалаваць яе.— Вы проста не ведаеце, якая вы...

— Якая?— смеючыся, яна далікатна адбівалася ад яго.

— Самая лепшая ў свеце! Самая-самая...

— Па-мойму, вы п'яны... А так вы не гаварылі б абычага...

Драгуна апяклі яе словы.

— Я кажу тое, што адчуваю. Клянуся!.. Скажыце, да вас можна прыходзіць?— Ён не выпускаў яе з абдымкаў.

— Не,— коратка, як нажом, адрэзала яна.— Я занята... У мяне ёсць чалавек... Мы збіраемся сысціся, вось толькі аддам замуж дачку...

Драгун апусціў рукі.

— А я толькі думаў...— прастагнаў ён.

— Ды ў вас жа жонка, дзеці...— паўтарыла яна ранейшае заклінанне.

Драгун маўчаў.

— Ды вы і маладзейшы за мяне...

— Гэта глупства!— вырвалася ў Драгуна.

У замку заскрыгітаў ключ.

— Дачка ідзе,— сказала Шура і адышлася ў пакой.

Зайшла дзяўчына, вельмі мала падобная да маткі: высокая, тонкая, светлавалосая. Яе псаваў трохі зашырокі нос.

Яна павіталася і, зашапацеўшы плашчом-балонняй, насцярожана прайшла міма Драгуна.

— Праходзьце сюды,— паклікала Шура і выйшла да Драгуна.— Чаго вы? — яна неяк адразу пасмялела, перамянілася да яго, у голасе ўпершыню за ўвесь час адчулася нейкая прыязнасць.

— Не, дзякую, я пайду. Спакойнай ночы...— Ён яшчэ раз глянуў на Шуру, і сэрца яго зашчымела.

Узняўшыся па лесвіцы на два паверхі, Драгун пазваніў. Дзверы адчыніліся тут жа, нібы яго чакалі.

— Я думала, вы забудзеце плашч,— сказала Яніна Акімаўна.

— А дзе Іван?

— Пабег! Нават кніжку забыўся... Праходзьце далей.

— Гэта ён знарок, каб зайсці другі раз... Ну, як ён вам?

— Ай, мне такія не падабаюцца. Ды і ён на такіх, як я, не хоча глядзець.

— Як у вас усё проста выйшла...

— А ў вас? — у голасе яе чулася цікаўнасць.— Я бачу, што яна ад вас без памяці.

— Наадварот...

— Вы ад яе?— яна звонка зарагатала.

— Я хацеў сказаць, што я для яе — пустое месца.

Са спальні выглянула апранутая ў чырвоны халат Жана, усміхнулася і кіўнула яму галавой.

— Бачыце, толькі прыйшла. Вось якія цяпер дзеткі.

— Перастань,— буркнула дачка і зачыніла дзверы.

Драгун сеў за стол, хоць яго ніхто не запрашаў.

— А я закахаўся,— сказаў сумна.— Што рабіць?

— Няўжо? — Яніна Акімаўна ўспляснула рукамі.— Вы? У гэтую...— І яна дадала абразлівае для жанчыны слова.— Ды яна кожны вечар прыводзіць з парку свежага кавалера... Што вы ў ёй знайшлі?

— А вам не ўсё роўна?

— Пэўна ж не ўсё роўна! Хто з ёю толькі ні круціў! Во, водаправодчык мяняў там нейкія батарэі, ці што, дык хваліўся, што даплачвала натурай... А я тыдзень назад заходзіла, дык яна прымала аднаго. Што вы! Гэта такое балота, што страшна! А вы адразу абедзвюма рукамі... І такі салідны мужчына...

Драгун устаў.

— Хай будзе так...— сказаў ён няпэўна.— Мне не шанцуе... Я пайшоў. Не сярдуйце на мяне.

Ён ішоў додому і пляваўся.

«Разнюніўся, адразу гатоў на калені стаць... Святую

знайшоў... Так яна цябе і чакала... Сорамна, сорамна...» А потым падумаў: «Урэшце, хто іх тут разбярэ? Няўжо зайздрасць? Што за народ гэтыя бабы? Адна адну гатовы з'есці жыўцом».

## 50

Раптоўна Драгунам пазванілі з сада, каб забіралі Вальку. Яны спалохаліся: што там такое? Дагэтуль дзеці яшчэ былі на дачы. Вера без памяці пабегла ў сад. Аказваецца, было чаго палохацца.

Сад ужо збіраўся днямі пераязджаць у горад, як здарылася няшчасце: у стары закінуты калодзеж упала чацвёра дзяцей, і ўсе ўтанулі. Некаму стукнула ў галаву знясці зруб, амаль роўна з зямлёю, яго абвязвалі палаткай, каб часам не ўступіла дзіця. І вось некалькі дзяцей аблюбавала сабе месца на гэтай палатцы: сядзелі, як птушаняты ў гняздзе над бяздоннем, грэліся на сонцы. І калі ў гэтае гняздо села чацвёртае дзіця, палатка развязалася, і дзеці паляцелі ў ваду. Быў сярод тых дзяцей і хлопчык выхавацелькі, якая даглядала ўсю групу малых. Дазнаўшыся пра няшчасце, жанчына пайшла ў лес і павесілася...

Вера некалькі дзён хадзіла як аглушаная. Яна і дагэтуль была нейкая як бы сама не свая. У той час як Драгун адпачываў душою, заўзята працаваў, сяды-тады хадзіў па рэдакцыях — даведацца, у які нумар даюць яго апавяданне ці распытаць пра работу — і не вельмі думаў пра ўсякія там дробязі, якіх заўсёды многа і ад якіх ніколі не ўцячэш,— Вера з кожным днём усё хмурнела.

Неяк Драгун пасля бібліятэкі зайшоў яшчэ ў кіно ў Доме афіцэраў і вярнуўся дадому позна.

Вера, аднак, яшчэ не спала. Яна ляжала з кнігай у руках. Як толькі Драгун зайшоў у спальню, яна паклала кнігу на тумбачку, павярнулася да сцяны.

Драгун патушыў лямпу і лёг. Вера пасунулася да самай сцяны. Драгун абняў жонку, прытуліў яе да сябе.

— Адстань,— сыкнула Вера і страпянулася, скідаючы яго руку.— Я хачу спаць.

— Чаму ж ты дагэтуль не спала?

— Хацела ведаць, калі ты прыйдзеш.

— Ах, як гэта важна! Я заходзіў у кіно...

Вера заплакала.

— Чаго ты? Не верыш, ці што?

— Ты яшчэ пытаешся? Як табе не сорамна?

— Чаго мне павінна быць сорамна?

— Гэта праўда!.. Ты даўно страціў сумленне, адкуль табе можа быць сорамна?

— Што ты вярзеш?

— Думаеш, я сляпая, нічога не бачу, нічога не ведаю?

— А што ты ведаеш?

— Не прыкідвайся ягняткам... Болей я маўчаць не буду, цярпенне маё скончылася.

— Цікава, цікава! — Драгун аж прыўстаў на локаць, глядзеў на Верын твар, які цьмяна вырысоўваўся на падушцы.

— Дзе ты быў, скажы шчыра?

— У кіно, кажу шчыра.

— А не ў любоўніцы? Колькі іх у цябе, прызнавайся!

— Што? — Драгун не верыў сваім вушам.

— Хто такая Марына?

— Марына? — глуха спытаўся Драгун. Раптоўная хваля сораму заліла яго твар, і ён адчуў, што шчокі гараць агнём.— Ты знайшла пісьмо?

— Пісьмо у тваім пінжаку...

— Лазіш па кішэнях? — Драгун хапаўся за саломінку.

— Некультурна, праўда? А заводзіць любоўніц культурна?

— Яна ніякая не любоўніца... Проста знаёмая.

— А што значаць гэтыя словы: «Хіба ты ўжо забыў усё?» Прызнавайся, даўно ты туды ходзіш?

— Я туды не хаджу...

— Дапусцім. А колькі хадзіў?

— Быў тры разы.

— Я не веру табе!

— Нават два.. Нават адзін...

— Ты з ёю спаў? Прызнавайся!

— Як табе сказаць? У нас нічога не выйшла...

— Брэшаш! Я не веру ні аднаму твайму слову.

— Я не сабака брахаць! Не вер — табе будзе горай!

— Горай, чым цяпер, мне не будзе! Ты давёў мяне да шаленства. Я болей не магу так! Не магу!

— Не крычы! Разбудзіш дзяцей... Як я цябе давёў?

— Як? Так, як ты адзін толькі ўмееш. Ты бессардэчны, бяздушны, ты подлы, разбэшчаны чалавек.

— Што? — Драгун сеў на ложку.— Як ты сказала?

— Што, няпраўду сказала? Дакажы, што ты чэсны! Хто табе паверыць? Хто? Гэта я табе верыла, адна, бо была дурная... Мне ўсе гаварылі, што бачылі цябе то там.

то там, то з адной, то з другою, а я ўсё прапускала міма вушэй. Я верыла ў тваё сумленне, верыла ў цябе, як у чалавека, свайго мужа, нарэшце, пісьменніка... А ён вось які аказаўся! Самы звычайны, самы ардынарны — падлюга, здраднік! Ён растаптаў усе маральныя прынцыпы і нормы, маю веру, надзею — усё!

— Замаўчы! — Драгун перайшоў на злавесны шэпт.— Я не хачу цябе слухаць! — І ён устаў з ложка, выйшаў у другі пакой і лёг на канапу.

Пісьмо! Марына! Стары дурань! Пакінуў у кішэні пісьмо! Забыўся пра тое — ад Ліды Чалевіч! Ніколі не трэба забываць... Але ж Марына! Што ён трэба ад яго? Даведалася, пэўна, што ён пісьменнік, пабаялася прамахнуцца? Палічыла, што ён перспектыўны? Дзівачка ты, Марына!

Са спальні выйшла Вера, падышла да яго.

— Што табе трэба? — непрыязна спытаўся Драгун.

— Пагаварыць нам трэба.— Вера ўжо здавалася спакойнай.— Не крычы... Пасунься.

Яны ляглі разам. Вера абняла яго за шыю.

— Раскажы мне ўсё... Раскажы па парадку. Мо я табе яшчэ дарую... Толькі шчыра, усю праўду!

— Няма чаго мне расказваць...

— Раскажы, як ты пазнаёміўся з гэтай Марынай, чаго туды хадзіў... Я не супакоюся, покуль ты не скажаш, як усё было.

Драгун паспрабаваў скінуць з шыі яе руку, але яна трымалася моцна.

— Няма чым дыхаць...

— Дыхай... І расказвай. Я чакаю.

— Я хачу спаць.

— Чаму ж ты не лёг у дзесяць? Чаму прыцягнуўся пасля паўночы? Дзе ты быў? У Марыны? Наладжваеш перарваную сувязь? Ці знайшоў другую, лепшую, цяплейшую? Кажы!

— Чаго ты ад мяне хочаш?

— Я хачу ведаць, магу я табе даражаць ці не? Хачу, каб ты расказаў праўду...

— Ого, дык ты многа ведаеш.— Гэта ўразіла Драгуна: як ён ні намагаўся быць спакойным, нічога не выходзіла.— А яшчэ куды я хадзіў?

— Ты сам усё раскажаш. А не раскажаш — давядзецца мне.

Драгун уздыхнуў, памаўчаў, а потым пачаў:

— Дык ты хочаш ведаць усю праўду?.. Праўда гэтая

для цябе непрыемная. Таму я і не хацеў гаварыць яе раней часу... Я... хачу вас кінуць...

— Як гэта кінуць?

— Проста: кінуць, і ўсё...

— І пайсці да Марыны?

— І пайсці ў свет.

— Чаму ж ты так вырашыў?

— Расчараваўся ў сям'і...

— Вось як! А ты думаў, што сям'я — гэта адна асалода?

— Не ў гэтым соль... Я лічу, што ты з году ў год разбурала нашу сям'ю... сваімі сваркамі.

— Я разбурала? У цябе паварочваецца язык так гаварыць?

— Пэўна ж, ты толькі мацавала! Ты думала, што ўсе тыя кампаніі, якія ты правяла супраць мяне, пачынаючы ад Лідзінага пісьма і канчаючы сённяшняй размовай,— мацуюць нашу сям'ю? Я хацеў і хачу спакою! Спакою!

— Дык ты ўцякаў да Марыны шукаць спакою?

— А што ты думаеш? Толькі не спакою, а прытулку...

— Ты не прыкідвайся няшчасным! Ты з першага дня, як мы і пазнаёміліся, прыкідваўся казанскай сіратой. І гэтым ты мяне ўзяў. Каб я ведала, што ты такі двухлікі, што ў цябе ў душы адно, а на языку другое — ніколі не падышла б да цябе нават і блізка.

— А ты ведаеш, што я ўзяў цябе замуж толькі таму, што пашкадаваў цябе?

— І цяпер рашыў паправіць памылку?

— Не памылку... Проста лічу, што нам нельга жыць разам... Як бы я ні стараўся, табе ўсё роўна не дагодзіш. Заўсёды я кепскі. Мае родныя — таксама табе кепскія. Урэшце, ты мне не верыш. Цяпер я разумею тваю халоднасць. Ты ўвесь час падазравала, што ў мяне поўна любоўніц...

— А што, няпраўда? І падазравала. І пакутавала. Яшчэ на той кватэры мне Плоткіна казала, што як я паехала з дзіцем дадому, то ты кожную ноч прыходзіў у дзве гадзіны.

— Плоткіна казала! Свайму ворагу ты верыш! Пляваў я на тое, што табе Плоткіна казала! А мне ты не верыла! Вось чаму табе было кепска, вось чаму і мне было не салодка!.. Чаго ж ты маўчала гэтулькі год, калі ты падазравала мяне?

— А нашто перашкаджаць? Нацешся, рабі так, як табе падабаецца! А рана ці позна ўсё выйдзе наверх. Вось і выйшла... А цяпер ты ўжо хочаш звярнуць на мяне! Не, да-

рагі мой, ты сам заварыў усю гэтую кашу і цяпер бачыш, што далей няма куды... Яны цябе зусім абселі, цяпер ужо не вырабішся... Вось і хочаш уцячы ад сям'і... Уцякай, ідзі да маладой, прыгожай, яна нічога не будзе з цябе патрабаваць, будзе толькі маліцца на цябе... Там ты аджывеш, там цябе ацэняць, ты будзеш мець спакой, поўную волю, ласку, якой ты тут, бедны, ніколі не бачыў... Ідзі, я не трымаю цябе... Мне толькі крыўдна, што я усю сябе аддавала гэтай сям'і, днём і ноччу думала, дрыжала за яе, мацавала яе, як магла, і тут раптам бачу, што дарэмна. Я мацавала, а ты капаў пад намі яму.— Вера зноў заплакала.

Драгун яе не супакойваў. Але плакала яна нядоўга, а слёзы яе былі скупыя, як у мужчыны.

— Цяпер ты звальваеш на мяне... Шукаеш, за што можна ўчапіцца... А ты ўжо забыўся, як я табе казала не раз: пабудзь дома, не хадзі ты кожны дзень у сваю бібліятэку ці куды, пагуляй з дзецьмі, выйдзі з жонкаю на вуліцу, ці ў кіно, ці куды ў госці... Ці слухаў ты мяне? Хадзіў, не глядзеў ні дня ні ночы — і дахадзіўся! Не вярні на мяне! Ты разбурыў сям'ю, ты давёў мяне да таго, што мяне ўжо людзі не пазнаюць... Пытаюць, што са мною робіцца... А другія супакойваюць: нічога, не ў адных вас так бывае, цяпер гэта не рэдкасць. Пацярпі, хай пакруціцца трохі, мо стане разумнейшы... А ён круціўся датуль, покуль не скруціўся... Зусім разбэсціўся, плюнуў на ўсё: на чалавечы гонар, на сям'ю...

Яна так раструшляла сябе, развярэджвала душу, што не магла стрымацца ні на хвіліну: словы, як вогненная лава, вывяргаліся з яе вуснаў, гарачым каменем падалі на набалелае Драгунова сэрца, то апякаючы, то, як халодны град, халадзілі і кідалі ў дрыготку, то прымушалі скрыгітаць зубамі і сціскаць кулакі.

Нарэшце Драгун не вытрымаў: у яго ўжо трашчала галава.

— Калі ты скончыш сваю малітву? Дакуль можна гаварыць? І што гэта дасць?

— Не хочаш гаварыць ты, буду я... Ды, урэшце, ты павінен выслухаць усё тое, што я табе павінна была сказаць даўно. Табе ж не было калі нават пагаварыць з жонкаю... Ты ўсё спяшаўся да сваіх б...

— Замаўчы, а то я заткну табе рот,— прыгразіў ён груба.

— Не замаўчу! Слухай! Хай усе людзі пачуюць, які ў мяне харошы муж! Як ён апаганіў сябе, абгадзіў сваю

жонку, яе душу, яе чэсць, як наздзекаваўся з яе, выставіў на пасмешышча перад усім народам! Клянуся — ніколі табе гэтага не дарую!..

— Ідзі адгэтуль! — ён штурхнуў яе з канапы.

— Куды ты мяне гоніш? — яна села на край.— Гэта я цябе зараз вытуру з хаты, каб твайго і духу тут не было.

— Не выводзь мяне з цярпення! — закрычаў Драгун.— Дай мне заснуць.

— Ах, табе хочацца спаць? Прабач, дарагі, я і забыла, што ты любіш спакой, цішыню... Даруй мне, грубай, нявыхаванай, цёмнай!.. Ах ты! Спі! Хай ты не прачнішся!

Яна плюнула і пайшла на кухню курыць. І ўсё нешта доўга гаварыла сама сабе, нешта бурчала пад нос, потым падалася ў спальню.

А Драгун таксама доўга варочаўся на канапе і не мог заснуць.

## 51

Без ніякай ахвоты і надзеі ішоў Драгун у літаратурны музей. Яму сказалі, што там патрэбен навуковы супрацоўнік.

Музей хоць і быў у цэнтры горада, але размяшчаўся неяк трошкі ў зацішку, у вялікім скверы, схаваны сярод дрэў, пры самай рэчцы. Новы двухпавярховы будынак, чысціня, цішыня. Гэта не тое, што ў якой-небудзь газеце ці ў выдавецтве.

Драгун зайшоў адразу да дырэктара, бо дырэктар быў яму знаёмы: колішні галоўны рэдактар з выдавецтва. Якраз тады, калі Драгун прыйшоў у выдавецтва, галоўны рэдактар Шахоўскі пайшоў на павышэнне ў міністэрства. І вось ён зрабіў ганаровы круг і апынуўся ў музеі...

— Добры дзень, Іван Сцяпанавіч!

— Добры дзень, Драгун. Сядай, пагаворым.

Драгун сеў у мяккае крэсла з боку ад масіўнага дырэктарскага стала.

— То што ты нам хочаш сказаць? — вялікі вастраносы твар яго з голенай галавою, здаецца, свяціўся, як вялізны круглы ліхтар, і ад гэтага святла святлела ўсё, што было блізка вакол яго. Нешта падобнае ўжо недзе чуў ці бачыў Драгун, але не паспеў прыгадаць.

— Відаць, вы здагадваецеся... Якраз гадоў сем назад я прыходзіў да вас у выдавецтва... З тым жа, што і цяпер.

— Работа?..— ён скупа, аднымі вуснамі ўсміхнуўся,

паказаўшы белыя здаровыя зубы.— Памятаю, а як жа! І ўвесь гэты час там і працаваў?

— Там... І вось скарацілі...

— Гм... Тут яшчэ не ўсё выспела. Нам збіраюцца якраз даць новую адзінку — загадчыка экспазіцыі. Аклад сто трыццаць... Колькі ты меў у выдавецтве?

— Сто дзесяць.

— Вось бачыш... Ну, я цябе трохі ведаю. Думаю, што з гэтай работай справішся. Мо спачатку і будзе нязвыкла, а потым захочаш цягнуць — то пацягнеш... Ну, сам разумееш, нам неабыякава, што ты пісьменнік, мо што калі напішаш і пра нашага шаноўнага Янку. Гэтай тэмы хопіць многім на многія гады. Дарэчы, я сам, грэшны, напісаў манаграфію, збіраюся здаваць у выдавецтва.— Ён паляпаў рукою па тоўстай чырвонай папцы, якая ляжала ў яго на стале, злева ад пісьмовага прыбора.— Некалі, пры выпадку, як рэдактар кінеш вокам. Але гэта між іншым... Галоўнае, будзеш мець ціхую работу, сёе-тое зробіш і для сябе, бо ў выдавецтве не вельмі разгонішся. Калі што і дасі, то за кошт адпачынку, за кошт здароўя.

— Гэта праўда,— пацвердзіў Драгун.— Калі я што і зрабіў для сябе, то толькі ў выхадныя...

— Вось ты сказаў: для сябе... А ці для сябе толькі? Давай падумаем. Для каго піша пісьменнік? Ні аднаго радка толькі для сябе. Усё для чытача, фактычна для народа, для будучыні. А ці мае ён умовы, каб аддаваць, каб даваць усё, што ён можа?

— Чаму, сёй-той мае,— не згадзіўся Драгун.

— Калі і маюць, то нямногія. Пераважная большасць увесь час думае пра кавалак хлеба. Вось ты, колькі ходзіш без работы?

— Чатыры месяцы...

— А, прабач за пытанне, ці можаш яшчэ доўга працягнуць?

— Не ведаю... Шчыра кажучы, залез у даўгі.

— Вось бачыш! Клапаціся пра сябе сам, а пішы для чытача, для літаратуры, для культуры... А потым, калі напішаш мала, слаба, наспех — скідкі на абставіны не чакай, сам вінаваты. Такі суровы вырак гісторыі... І мы нічога не робім, каб неяк умяшацца ў гэты самацёк, палепшыць жыццёвыя ўмовы нашаму пісьменніку.

У кабінет зайшоў мажны смуглявы мангольскага тыпу чалавек у кіцелі, прынёс нейкія паперы. Шахоўскі прабег іх вачыма, паморшчыўся.

— Пакіньце, я зараз,— сказаў ён праз зубы. І калі чалавек выйшаў, адразу перамяніў размову.— Ну, прабач, мы залезлі далёка ад нашай тэмы... Думаю, што ты ў нас будзеш працаваць. І каб ніхто не меў ніякіх прэтэнзій, напішы заяву.— Ён даў Драгуну добрай белай паперы.— Ведаеш, як пісаць заявы? — ён усміхнуўся.

— Дзякуй богу, я іх нямала пісаў: і ад сябе, і ад людзей. Некалі, як прыеду дадому, да бацькоў, то няма спакою: цёткі ідуць і ідуць, просяць напісаць скаргу.

Напісаўшы заяву, Драгун аддаў яе Шахоўскаму, устаў з крэсла.

— То дзякую вам,— сказаў да Шахоўскага.

— Няма за што,— кіўнуў той бліскучаю вялікаю галавою.— У цябе ёсць тэлефон? Дай нумар.— Ён запісаў у каляндар.— Ну, парадак. Усяго найлепшага!

Ён моцна пацісnуў сваёй шырознай далонню Драгунову руку.

Драгун выйшаў у сквер. Хацеў ісці адразу на тралейбус, але перадумаў. Павярнуў налева, да фантана, ля якога было поўна дзяцей — ад такіх, што толькі навучыліся хадзіць, да рослых школьнікаў. Дзеці лезлі да вады, як качкі, садзіліся на круглы абадок басейна, хапалі рукамі буйныя кроплі, перагіналіся да вады, боўталіся ў ёй рукамі ці нагамі... Драгун абышоў фантан, стаў супроць сонца і ўбачыў слабую, ледзь прыкметную вясёлку. Вясёлка то прападала, то зноў паказвалася, варта было толькі зрабіць адзін крок улева або ўправа.

Ён пайшоў па дарожцы ў глыб скверу. Лена шумелі клёны і ліпы, і гэтая памяркоўнасць і спакой як бы пераліваліся ў Драгунову душу, у якой даўно ўжо не было міру і цішыні. Вось хоць адзін чалавек зразумеў яго, не папракнуў, не адвярнуўся, не пабаяўся яго, «крамольніка», а шчыра, па-сяброўску падаў яму руку спагады. «Ёсць яшчэ лыцары на Украіне, ёсць!» — цвердзіў сам сабе Драгун. Што ж, мо тут яго чакае шчасце, поспех... Драгуну пачыналі ўжо маляваца карціны яго недалёкай будучыні. Зрабіць нешта такое, каб засталося пасля сябе... Вывучыць матэрыял, усю біяграфію, гісторыю, псіхалогію чалавека, які так шмат даў для свае нацыі і культуры... Потым напісаць пра яго хоць бы аповесць — паказаць гэтую складаную, супярэчлівую натуру, гэтага тэмпераментнага агнявога гіганта, які перажыў гэтулькі перыпетый, меў многа узлётаў і паражэнняў — і, урэшце, скончыў так трагічна. Не абыходзіць маўчаннем таго, што лічыцца не-

прыстойным, не наводзіць глянец, а наадварот, зняць яго з чалавека, які яго ненавідзеў, які на ўсё меў свой погляд і сваю думку, памыляўся, але шчыра, а ў чым быў пераконаны — тое абараняў да канца... Тут ёсць над чым падумаць і над чым папрацаваць! Гэта такая тэма, што не кожнаму пад сілу. Але паспрабаваць усё ж можна кожнаму...

Так ён ішоў праз увесь праспект на ўсход, міма плошчы Перамогі з высозным чатырохгранным абеліскам і Вечным агнём, ля якога цяпер было людна, праз шумную Камароўку, цяпер плошчу Якуба Коласа, якая выглядала ўсё ж пустою, недагледжанаю і даўно прасілася паставіць манумент таму чалавеку, імя якога насіла; па былой Пушкінскай, міма радыёзавода, міма політэхнічнага інстытута, дзе на франтоне галоўнага будынка можна яшчэ і цяпер убачыць сцёртыя два словы: «Беларускі» і «імя Сталіна»,— ішоў і думаў, і думкі яго былі то вясёлыя і летуценныя, то ўмомант азмрочваліся цяжкім прадчуваннем.

Ля Дома друку ён на хвіліну спыніўся перад газетнымі вітрынамі, прабег вачамі адну, другую, трэцюю. Нічога цікавага не было. Касманаўты, якія нядаўна абляцелі зямлю некалькі разоў, адшумелі сваё і сталі забывацца. Пачыналася нейкая валтузня з Кітаем, і па ўсім было відаць, што мы яго пабойваемся, інакш не цярпелі б нашы дыпламаты такіх здзекаў. Нешта як бы падобнае на сорак першы: «Не паддавацца на правакацыі». А калі нахабніку маўчыш, ён заўсёды наглее: яму трэба даць у зубы, тады ён адразу знойдзе сваё месца. Дзіўна, што мы, працаўнікі ўсякай хрыстовай маралі, падстаўляем другую шчаку...

Драгун пайшоў дадому, хоць трэба было б зазірнуць у выдавецтва: там выходзіў нейкі зборнік, ішло адно Драгунова апавяданне, яго трэба было прачытаць перад наборам... Але не хацелася сустракацца са знаёмымі людзьмі... А дзесяць хвілін назад ён не ішоў, а, здаецца, ляцеў, ды тут раптам ужо ледзь валачэ ногі, і на душы так змрочна, так чорна, нібы ў лесе пасля пажару...

Ну што ж, усё ідзе, як ён хацеў, усё ідзе па плану. Дык чаго ж яму трэба? А вось жа не, не можа змірыцца, калі яго вінавацяць у грахах, у якіх ён не вінен. А трэба ж гаварыць яму, на добры лад, што ўсе Верыны закіды — шчырая праўда, што ён яшчэ горшы, чым яна думае і лічыць! Ці ён думаў, што ўсё скончыцца гладка, роўна, без крыку і скандалаў, без слёз і нерваў? Ва ўсякім разе, тое, што плануеш, ніколі не падобна на тое, што потым будзе. Так што няма

чаго наракаць на лёс. Усё ідзе добра. Мо толькі пачалося ранавата... Ранавата! Яшчэ зусім малыя дзеці... І яшчэ — ён нічога ім не можа пакінуць. Цяпер — нават даць аліментаў... Нават аліментаў! Вось у чым уся бяда! Ранавата скрануўся камень з гары. Гэта так! Але хай, яго ўжо не спыніш. Калі ўжо Вера стала хадзіць па тых дарогах, па якіх нядаўна хадзіў ён, то ўсё скончана...

Драгун сеў на лаўцы ля свайго дома, задумаўся.

У вялізнай пясочніцы гулялі дзеці, у альтанцы сядзелі вечныя яе гаспадары — падлеткі з доўгімі валасамі або кароткімі грыўкамі, тромкалі на гітары, спявалі лагерныя песні, смяяліся. Жыццё ішло сваім парадкам. І нікому не было ніякага клопату да таго, што ў Драгуна нешта не ладзіцца ў сям'і. Што каму да таго?

Ля лаўкі прайшоў грузны, галавасты, з буйным сінім тварам Драгуноў сусед Шахрай, павітаўся, а потым нечага вярнуўся, з крэктам сеў побач з Драгуном. Ён дыхаў цяжка, як кавальскі мех.

— Добра, што я цябе ўгледзеў,— трохі аддыхаўшыся, сказаў Шахрай сіплым голасам.— Гэта я якраз іду з выдавецтва... На сваю галаву напісаў кнігу... прозы.

— Віншую. Хопіць вам сядзець на вершах.

— Але, ведаеш, цяжка даецца проза. Замучыўся! Як не пасядзіш, то і нічога не выседзіш: як тая курыца на яйках, не раўнуючы. Гэта, брат, работка!.. Ды яшчэ з маім здароўем!.. Не ведаю, што ўжо выйшла, ці класіка, ці шэдэўр,— усміхнуўся ён,— але напісаў кніжку на дваццаць аркушаў. Аж самому страшна! Аўтабіяграфічнага, так сказаць, плана: Чырвоная Армія, Гая-Гай, потым польскі канцлагер, потым сялянскае жыццё, заработкі, першыя гурткі Грамады, барацьба з дэфензівай, фініш — турма на Лукішках. Вось такі шлях майго героя... Але ўся бяда ў тым, што я слабаваты стыліст... Пісаць вершы адно, а прозу — другое... Вось мне і параілі знайсці стыліста, каб ён трохі прайшоўся з пяром па маіх суках, згабляваў трохі каструбаватасць... І ведаеш, мне падказалі цябе. Ты якраз цяпер вольны чалавек, маеш час, ды і вопыт у цябе вялікі. Што ты скажаш на гэта?

— Што скажу? Я з радасцю ўзяўся б за гэту работу, ды баюся, што ў вас нічога не выйдзе... Не пройдзе ваша кандыдатура.

— Чаму?

— Вельмі проста... Вы гаварылі пра гэта ў выдавецтве з кім-небудзь?

— Не. А што?

— Важнік можа не згадзіцца...

— А што яму?

— Відаць, нешта абходзіць. Маё прозвішча яму не падабаецца...

— Ну, уломім мы яго як-небудзь! Абы ты сам згадзіўся... А покуль што я табе дам пачытаць рукапіс.

— Давайце.

— Пасядзі хвіліну, я зараз вынесу.

Ён жыў у адным пад'ездзе з Драгуном, толькі на трэцім паверсе.

Зноў як быццам хмары парадзелі над галавою ў Драгуна, як бы стала лягчэй дыхаць...

Праз пяць хвілін Шахрай уручыў яму цяжкую карычневую папку.

— Чытай, браце. А за які тыдзень я дамоўлюся з Важнікам. У лоб яго браць не варта, а трэба папрасіць каго аўтарытэтнага з Саюза, каб яго ўламаў... Мы б тут у чатыры рукі ўсё хутка давялі да ладу. Ды і грош лішні табе таксама не зашкодзіць. Праўду кажу ці не?

— Лішніх у мяне яшчэ не было, не ведаю, што гэта такое...

— А ты часам не хворы? Нейк ты выглядаеш няважна, прабач за шчырасць...

— Не, я здаровы. Проста трохі душа не на месцы.

— Ну, гэта пройдзе. Па такой хваробе будзеш жыць сто год.

— Навошта так многа? Дайце мне толькі тры гады...

...Так, яму патрэбны былі ўсяго тры гады!

## 52

— Ах, як ты ўдарыў мяне... пад самае сэрца!.. Прызнацца, я даўно чакала гэтага моманту, была гатовая да ўсяго, але тое, што мне адкрылася, вышэй за ўсе мае фантазіі і здагадкі. Ты перада мною паўстаў у такім святле, што я нават не ведаю, што і падумаць... Я аддала табе ўсё, без астатку, я паставіла цябе на ногі, радавалася тваім першым крокам, дрыжала, хварэла душою за твае промахі, няўдачы, усё чакала, спадзявалася, што з цябе выйдзе чалавек, пісьменнік, што табою я буду ганарыцца, што я смела змагу глянуць людзям у вочы... Урэшце, я спадзявалася, што ты ўспомніш пра мяне, як пра свайго вернага сябра —

успомніш, як я табе памагала ў цяжкую хвіліну, як падтрымлівала цябе, асцерагала ад рэзкіх удараў, паваротаў, паказвала як магла твае промахі і памылкі, аберагала ад неспакою, хвалявання, ад чужых языкоў, старалася, каб ты адчуваў утульнасць і мой клопат, усё брала на свае плечы, абы ты не адрываўся ад свайго занятку, абы ў цябе было спакойна на душы... Ажно вось як ты мне аддзячыў!

Памятаеш, які ты быў тады, як мы пазнаёміліся з табою на возеры? Ты быў як цень... Ты скардзіўся, што ў цябе заўсёды баліць галава. А потым, як мы пажаніліся, праз паўгода ты стаў зусім другім чалавекам. Ты навучыўся смяяцца, гаварыць, пазіраць людзям у вочы. А да гэтага ты не ўмеў ні тога, ні другога, ні трэцяга. Ты акрыяў, стаў падобны да нармальнага чалавека, хоць табе і было цяжка пазбыцца сваіх прывычак. Цябе недзе цягнула, я гэта бачыла, я адчувала. Ты часам целам быў са мною, а душою — недзе там, невядома дзе... Аднак я не ваявала з гэтымі тваімі замашкамі, думала, што без іх ты засохнеш. Я дазволіла табе хадзіць у бібліятэку, хоць усе, хто нас ведаў, гаварылі мне: не рабі глупства, ён адаб'ецца ад рук, саб'ецца з дарогі. І потым дзесяткі раз я чула ад людзей, што цябе бачылі там і там, зусім далёка ад бібліятэкі. Але я плявала на гэта. Я верыла табе, хоць часам, у хвіліну, калі мне рабілася адзінока і цяжка, я пачынала сумнявацца ў табе, пачынала верыць людзям — што ты злоўжываеш маім даверам і смяешся з мяне. Але гэта былі нядоўгія хвіліны ўпадку духу, я гнала ад сябе ўсякія сумненні і сілай прымушала сябе верыць табе. Памятаеш, у Марыі Антонаўны быў зяць, Віктар. Аднойчы я сядзела ў іх з Валькаю. Ён аднекуль прыйшоў. Потым пытае: «А дзе ваш гаспадар?» Я кажу: як заўсёды, у бібліятэцы. А ён паглядзеў на мяне і паківаў толькі галавою. «Нешта я яго бачыў нядаўна зусім у другім месцы». А Плоткіна мне па сакрэту казала: «Ваш муж прыходзіў у дзве гадзіны ночы, а часам і зусім не начаваў дома...» Сэрца маё аблівалася крывёю, але я табе і слова не казала пра гэта. Я верыла і не верыла. Бо ведала, што часам людзі, якія, здавалася, хочуць табе дабра, у душы рады твайму няшчасцю, яны падліваюць масла ў агонь, хочуць пасварыць, нацкаваць мужа на жонку, а жонку на мужа. Такіх прыкладаў у жыцці сотні... Я гнала ад сябе кепскія думкі, аднак асадак у душы заставаўся. І часам я пачынала глядзець на цябе з недаверам. Штораз болей мне пачынала здавацца, што ты не любіш свае сям'і — мяне і дзяцей, што многа крычыш на іх без дай прычыны і б'еш

заніщто, за дробязь, што ты гатоў аддаць ўсё, што маеш, каму папала, толькі не сваёй сям'і. Бацькам ты павінен памагаць да смерці, гэта твой і мой святы абавязак, але пры чым тут сёстры? У іх свае сем'і, свае мужы, хай яны іх і глядзяць. Не мірацца яны, не ладзяць між сабою,— што ж, мы тут невінаваты, хай самі знаходзяць дарогу да сэрца адно ў аднаго. Завялі сем'і — хай варушаць мазгамі, хай даглядаюць дзяцей. А твае падачкі іх не ратуюць, а нас пагубяць. Сваімі падачкамі ты робіш ім горш. Заместа таго каб самім думаць пра сябе і свае клопаты, яны спадзяюцца на цябе, на тваю дапамогу. Мне неяк твой бацька сказаў, яшчэ як толькі мы пажаніліся: «Ведай, сынова, ты яшчэ мецімеш з імі гора, як я ўсё жыццё меў. Расцягнуць маю гаспадарку — сядуць на вашы плечы. Папомніш маё слова, што так будзе». І так яно і стала, да гэтага і дайшло. Яны селі на цябе, а ты маўчыш. А ім гэтага і трэба... Дык што, думаеш, мне не было крыўдна? Як хадзілі адзеты нашы дзеці? Як жабрацкія! Табе ўсё не было часу за бібліятэкай глянуць, калі яны збяруцца разам на двары: нашы і чужыя. Мне душа балела глядзець. Чужыя дзеці ў касцюмчыках, у дарагіх, у новых, у шарсцяных сукеначках, у футрачках, а нашы — як сіроты якія. Вось як ты глядзеў дзяцей, дарагі мой гаспадар! Ты ўсё болей і болей адрываўся ад сям'і, лятаў недзе ў аблоках, думаў невядома пра што, толькі не пра сям'ю, не пра дзяцей. Ну, я ўжо няхай, ты мяне не любіў ніколі, ты прыкідваўся, а вось дзеці — усё ж такі твае, родныя, ты іх павінен калі не любіць, то хоць глядзець, як бацька, бо навошта ж іх было пускаць на свет, каб яны пры жывым бацьку раслі сіротамі? Табе было не да дзяцей, не да жонкі. Ты пачаў убірацца ў сілу, ты стаў выглядаць чалавекам, цябе сталі пахвальваць як маладога пісьменніка — і ты яшчэ болей задраў нос, рашыў, што табе ўсё можна,— і прапаў для сям'і зусім. У нас стала болей грошай, ты часам браў вялікія ганарары, але дзе яны дзяваліся — аднаму табе вядома. Усё роўна я хадзіла і хаджу яшчэ ў тым паліто, што прыйшла да цябе. Ці хоць раз ты сказаў мне: «Жонка мая, хадзем у магазін, купім табе новую сукенку, купім табе новае паліто, бо ў гэтым ты ходзіш сем год, хадзем купім табе новыя туфлі, бо гэтыя выйшлі з моды! О, не! Ад цябе я гэтага не пачула і ўжо не пачую. Калі нам і даводзілася хадзіць разам у магазін, то мы толькі грызліся, як звяры, ты гнаў мяне, калі я прыпынялася перад чым-небудзь, каб хоць паглядзець, а не купіць, бо купляць у нас не было за што. Пэўна ж, табе, відаць, не

было лёгка на душы, што вось другія купляюць, у іх ёсць за што, а ў цябе няма, што ты бяднейшы за другіх, а значыць — горшы, дурнейшы, непаваротлівейшы. Ці ты думаў зусім не тое? Мо думаў: «Не задавішся, будзеш жыць. Я табе нічога не вінен, падзякуй яшчэ богу, што ўзяў цябе замуж, а то звекавала б дзеўкаю...» А ты ведаеш, лягчэй звекаваць дзеўкаю, чым жыць так, як я жыву. Гэта збоку мо каму здалося, што ў нас няма куды дзяваць грошай. Гэта так думалі твае сёстры, думаў той, хто не ведаў нас зблізку. Што ты! Рэдактары, пісьменнік, гэтулькі зарабляюць, такія ганарары! А ты гэтыя свае ганарары мо разносіў сваім пасіям. Бо мне адна кабета сказала, што купіў гэтай рыжай Жане гадзіннік і заручальны пярсцёнак, і што як стаў хадзіць туды, то купілі яны і халадзільнік, і радыёлу, і дарагі, вялікі, на ўсю падлогу, дыван. Мо гэта плёткі, аднак дыму без агню не бывае. Што грошы ты пускаў на вецер, то гэта праўда. Разоў некалькі я ў цябе знаходзіла то дзесятку, то дзве ў патаемным месцы, а адзін раз дзве паперкі па дваццаць пяць рублёў. І куды ты іх дзяваў, адзін бог ведае. Ясна адно: без грошай любоўніца не прыме, калі ідзеш да яе, то трэба ўзяць хоць паўлітру. Вось на гэта ты і хаваў ад мяне грошы. Піў ты, пілі яны. Не ведаў ты ці не хацеў ведаць, што п'яце маю кроў! Маю кроў... Ты апошнім часам зусім распеsłużаўся, страціў над сабою ўсякі кантроль... ішоў куды хацеў, прыходзіў калі хацеў, маўчаў як сцяна, шкуматаў дзяцей, гыркаў на мяне — то за шкарпэткі, то за трусы, то за беспарадак у хаце. Ты знаходзіў сотні прычын, каб раскрычацца, аблаяць, запалохаць дзяцей і ўцячы самому туды, дзе цябе чакалі пышныя грудзі і гарачыя абдымкі. Ты рваўся з дому, як сабака з прывязі. Нават аднаго дня ў тыдзень не мог уседзець дома, усё бег недзе, усё ўцякаў. І табе толькі аднаму здавалася, што ніхто не ведае, куды ты ходзіш, у якую бібліятэку. Твае таварышы гаварылі мне: бачыў Косцю твайго з бутэлькай у кішэні, пайшоў на Высокую вуліцу; другі раз пайшоў да Роўбы вешаць люстра, прабыў тры гадзіны, прыйшоў выпіўшы... Во, наша суседка Зубкова казала мне: прыходзяць дзве кабеты, адна маладая, насатая, завітая, другая гадоў сорак, але таксама модная, з высокаю прычоскай, расфарбаваная... Яна якраз была на двары, сядзела на лаўцы. Тыя падыходзяць да яе, і старэйшая пытае, дзе тут жыве Драгун. Яна паказала дом, пытае, што ім трэба. Віляюць хвастамі. Потым усё тая ж, старэйшая, пытае, ці праўда, што ён жанаты, ці мае дзяцей...

А другі раз, як я была з дзецьмі ў бацькоў, а ты тут гаспадарыў? Памятаеш? Ды зноў як Зубкова да цябе нечага пазваніла... Казала, мо мінут дзесяць чакала, покуль адчыніў. І быў збянтэжаны, сам не свой. А ў пакоі стаялі нечыя туфлі на шпільках. І нехта быў у спальні, яна чула, як нехта хадзіў. Ты забыў гэта? А панчохі ў туалеце? Я такіх зроду не насіла, гэта не мае... А скажы, дзе ты быў на Восьмага сакавіка, на Першага мая? Як паводзіў сябе на Далёкім Усходзе? Ці пішуць табе адтуль? Што ў цябе было з Марынай? Хто каго кінуў і чаму яна адумалася зноў вярнуцца да цябе? Што ты ёй абяцаў? Што развядзешся і жэнішся? Чалавек! Ты зусім страціў сорам, не паважаеш сваіх астатніх валасоў, не паважаеш ні жонкі, ні дзяцей... Нават твае родныя сумняваюцца ў тваёй чэснасці. Маці пытае: «Ну, як Косця, не б'ецца, не п'е? Не ходзіць куды па начах?» Я вочы вырачыла. Чаму б'ецца? Што я такое зрабіла, каб ён яшчэ на мяне руку падымаў? Хіба я гэтага заслужала? А п'е — як і ўсе добрыя людзі, не многа, у меру. А ходзіць у бібліятэку, куды яму яшчэ хадзіць? Дома няма кабінета, каб можна было сесці і што зрабіць. А маці і кажа: «Не пускай ты яго, яшчэ скруціцца. Мужчынам не трэба вельмі волі даваць». Сястра твая, Надзька, прама кажа: «Кідай ты яго, ён цябе не любіць, ён ходзіць да другіх». Твой зямляк Кузьміч прыехаў неяк, ты на Далёкім Усходзе быў, пытае, ці мы яшчэ не разышліся. Чаму? — здзівілася я. Бо ўсе так дома гавораць: Косця спіўся, ходзіць да чужых бабаў, хоча кідаць жонку... Дыму без агню не бывае... Ты афішыраваў, што ты мяне не любіш, ты гаварыў гэта ўсім і кожнаму, хацеў прынізіць мяне перад людзьмі, баяўся браць мяне з сабою ў госці, каб я не засланяла цябе, каб не бачыла, як ты сябе паводзіш, не чула, што гаворыш. Ты забыўся, як на вечары ў Ляўковіча ты плакаў, што ажаніўся без кахання? Як зайздросціў Ляўковічу, што ён жыве з першым сваім каханнем? Я тады гатова была праваліцца праз зямлю і сказала сабе: колькі жыць буду, болей з табой нікуды не пайду, не хачу цярпець ганьбы... Ды, прызнацца, і не было мне ў чым хадзіць, так, як людзям... А ты ўзрадаваўся, што няма ніякага кантролю, што можна што хочаш рабіць, гаварыць, куды хочаш і з кім хочаш ісці... Так міналі гады, а ты нават не глядзеў на мяне, не пытаў, што я думаю і чым жыву, што мяне мучыць і што мне трэба. Ты нават быў рады, што я ад цябе адчапілася... Але я ведала, што рана ці позна вяровачка скончыцца, усё выйдзе наверх. І вось цяпер выйшла! Ты паказаў сябе ва ўсім бляску! Ад цябе адвяр-

нуліся ўсе твае сябры, хоць іх было нямнога, бо ты апошні час не хадзіў да іх, да добрых людзей, а валачыўся да розных шлюхаў. Ты збіраў матэрыял! Збіраў!.. Ты раздаваў, раскідаў, растрачваў сумленне, сваю душу! Ты разменьваўся на дробязі, ты зусім перастаў глядзець на свет цвярозымі вачыма... Усе твае так званыя творы апошняга часу — непрыкрытая распуста, прапаганда сексу, парнаграфія і агідны натуралізм... Я не магу чытаць без агіды ні адно твае апавяданне на эратычную тэму, таму што там не людзі, не чалавек, ■ голы звер... П'яны голы звер! І ты яшчэ гэта называеш творчасцю? Каго ты абараняеш? Прастытутак? Лічыш іх нешчаслівымі, пакрыўджанымі лёсам, ашуканымі?.. А твая жонка шчаслівая? Не ашуканая? Не абкрадзеная? І яшчэ кім? Сваім уласным мужам, для якога яна не шкадавала нічога, нават свае крыві... І вось падзяка за маю вернасць, за маю любоў... І так усё мае жыццё: за дабро мне заўсёды плацілі злом. Усе мае лепшыя сябры пад канец станавіліся маімі ворагамі. А ворагі часта абарочваліся сябрамі і памагалі ў цяжкую часіну. Але ад каго, ад каго — а ад цябе я не чакала такога ўдару. Ты адпомсціў мне страшна, жорстка, бесчалавечна: за ўсё, што я, мо сама таго не жадаючы, зрабіла табе кепскага, сказала часам лішняе слова, паказала на тваю слабасць,— ты сабраў у адно і адпомсціў, ударыў з-за вугла... Бо ўсё, што я ні гаварыла, усё, што ні рабіла, было скіравана на адно: мацаваць сям'ю, гадаваць дзяцей, памнажаць наш дабрабыт. Мо я што і рабіла не так, дык прабач мне за гэта, але мэта была ў мяне самая святая, самая чыстая, самая высокая: гонар, спакой і здароўе нашае сям'і...

А ты рабіў усё наадварот. Усё, што я з такім цярпеннем збірала, складала, мацавала з году ў год, ты разбіваў адным махам. А цяпер ты разнёс ушчэнт увесь наш сямейны лад, не пакінуўшы нават і падвалін. Аднавіць, адбудаваць усё зноў у нас ужо не будзе ні сіл, ні жадання... Ты будзеш жыць сабе, мы сабе.. Толькі я не ведаю, як ты так доўга працягнеш. Ганарар за кніжку ўжо разышоўся. Яшчэ пару месяцаў — і ўсё. Што тады? Ты цешыш сябе, што знойдзеш работу. Дзе цябе абяцалі ўзяць і не ўзялі? Падлічы! Газета, кінастудыя, краязнаўчы музей, Дом народнай творчасці ў оперным тэатры, рэпертуарны аддзел, радыё, нарэшце, літаратурны музей. Не стаў ты ні музейнай рэдкасцю, ні салістам балета, як ты жартаваў, ні радыстам, ні журналістам-нарысістам. Твая слава ходзіць следам за табою... Цябе баяцца браць, бо ты ўпарты, непадатлівы, не

любіш прызнаць, што памыліўся, стаіш на сваім, як асёл. І часам выказваеш такія думкі, ад якіх робіцца страшна. Можна падумаць, што мы раслі не пад адным небам... Ты нямала насаліў Важніку, але ён табе верне ў дзесяць столак. Ты думаў, што ён дасць табе літапрацоўку Шахрая? Няма дурных! Ён дасць каму хочаш, толькі не табе... Ты ў яго нічога не заслужыў, нават кватэры! Так што ўлічы ўсё гэта і змяні свой характар, калі можаш, свае погляды на сякія-такія рэчы, тады будзеш жыць... А так — прападзеш!

## 53

Калі камень коціцца з гары, не старайся затрымаць яго на паўдарозе, дай дакаціцца яму да самага нізу.

Калі муж і жонка пасварыліся і не дойдуць да ладу, грызуцца, як звяры, дай ім зрабіць усё, што яны самі хочуць, не міры, бо яшчэ невядома, што ты робіш — тушыш пажар ці заганяеш яго ўглыб. Толькі самі яны могуць разабрацца ў сваёй гісторыі і зрабіць так, як падказвае ім іх разуменне і вопыт, мо нават выберуць трагічную развязку. Але гэта лепей, чым навязаць ім нешта чужое. Бо пройдзе час, і яны зноў захочуць перагледзець навязаны ім мір, чужое рашэнне іх лёсу, і пачнецца ўсё зноў нанава, покуль яны не дойдуць да свайго. Бо чужы вопыт — не вопыт.

Праўду гэтых слоў Драгун адчуў недзе праз месяц пасля іх першай сваркі. Здавалася, што пасля першых бурных сутычак, калі ўсё выходзіла наверх, калі яны гаварылі адно аднаму ўсе непрыемныя рэчы, усё тое, што збіралася гадамі і, здавалася, не будзе ніколі патрэбна,— цяпер гэта стала такою важкаю і пераканальнаю зброяй, што можа зваліць з ног насарога, а не толькі чалавека. Драгун не пазнаваў сябе: ён вырастаў са слоў Веры страшэннай пачварай, без сораму і сумлення, якая ніколі не была і не будзе чалавекам. Яго здзіўляла, як шмат яна сабрала і як доўга маўчала, насіла ўсё гэта ў памяці і ў сэрцы і, няйначай, выбірала момант. Цяпер ён зразумеў, што ёй было нялёгка, што тая халоднасць, якая ўзнікала між імі ні з таго ні з сяго, нараджалася менавіта гэтым.

Усе яе довады і закіды ён лёгка адмятаў, але яна не верыла цяпер ні аднаму яго слову. І горай за ўсё, што сваіх слоў ён не мог пацвердзіць. А яшчэ горай — ён раптам спалохаўся таго, што яго чакала. Як і большасць людзей, ён быў кансерватар, вельмі цяжкі быў на пад'ём, марудна прывыкаў да нечага новага, але, прывыкшы, гэтак жа цяжка не мог

ад яго адрачыся, не мог адкаснуцца і выцерці рукі. А цяпер душа яго, уся натура яго пратэставала супроць гэтай штучнай непрыемнай катавасіі, у якой ён апынуўся, хоць розумам ён прызнаваў, што гэтага ніяк не абысці, што гэта непазбежна і нават патрэбна. Першы раз ён пагаджаўся з Верыным тэзісам, які яна любіла паўтараць жартам і сур'ёзна: усё, што ні робіцца — к лепшаму. Толькі да гэтага «лепшага» дарога вяла цераз такое балота, цераз такія горы, цераз такое гора! Мо першы раз ён амаль што фізічна адчуў, як яму шкода дзяцей, асабліва меншай. Са старэйшай апошні час ён не ладзіў, яна была падобная да яго характарам, і чуць што — сварыліся, хоць, праўда, потым маглі памірыцца тут жа, варта было катораму з іх усміхнуцца ці сказаць які жарт. А малодшая сумавала без яго. Вера кажа, што першае слова, якое яна сказала, было «тата». Потым яна не злазіла ў яго з рук, ён яе выкарміў, лічы, малаком, якое браў у донараў-жанчын, бо ў Веры не было, ссаджваў потым па начах на гаршчок. Першыя словы, калі яна прачыналася, былі: «Дзе тата?» А калі яна раздурэецца і закапрызіць, то каб супакоіць яе, Драгуну варта было сказаць: «Перастань, а то я пайду ў бібліятэку», як яна адразу сціхала і казала: « Я болей не буду, толькі не ідзі». Цяпер без яе Драгун не мог ступіць і кроку: у магазін, да суседзяў ці куды — толькі з ёю. Расказвала Вера, што, калі ён служыў на Далёкім Усходзе, дзіця першы месяц кожны вечар перад сном плакала і ўсё пытала, дзе тата. А колькі ён панасіў яе на руках, калі дзіця хварэла на запаленне лёгкіх — раз і другі! І вось гэтае дзіця, якое так нялёгка табе прыйшлося, у якое так многа ўкладзена сіл і бяссонных начэй, і нерваў, гэтае яшчэ слабае і жаўтаротае птушаня давядзецца кінуць...

Праўда, нешта з год назад, калі ў яго ўжо зусім выспела думка пакінуць сям'ю, ён пачаў без прычыны і па прычыне крычаць на дзяцей, прыставаў да іх з-за глупства і часам біў, хоць яму самому балела болей, чым таму дзіцяці. Ён хацеў, каб дзеці яго ўзненавідзелі, каб не шкадавалі яго і не плакалі, бо тады, у адказную хвіліну, ён не знойдзе ў сабе сіл уцячы ад іх, бязжаласна адарваць іх цёплыя ручкі ад свае шыі. Аднак, здаецца, гэта нічога не давала: дзеці толькі пацішэлі, менш турбавалі яго сваімі дзіцячымі клопатамі, але па-ранейшаму гарнуліся да яго.

Ды што казаць! Хто гэта з бацькоў лічыцца з тым, што хочацца дзецям? У іх не пытаюць, іх ставяць перад фактам — няўмольным і жорсткім, як лёс.

Так было і ў гісторыі з Драгунамі. Усё, што мела пачатак, мае канец...

На Веру адчай і злосць находзілі хвалямі. Яна ніяк не магла змірыцца з тым, што яе муж так бязлітасна насмяяўся з яе, так жорстка і дашчэнту разбурыў усе яе планы і мары.

Была майская сонечная раніца ў нядзелю. Сонца яшчэ кідала свае чыстыя промні ў кватэру Драгуноў, але не пройдзе і гадзіны, як яно развітаецца з імі, будзе свяціць тым, у каго вокны пазіраюць на ўсход і на поўдзень. Але хоць сонца яшчэ свяціла, у Драгуноў панаваў холад. Яны моўчкі паснедалі, дзеці адразу пабеглі на двор, а Вера пачала збіраць са стала. Драгун галіўся. Разоў колькі яны сутыкнуліся ў ваннай, на кухні, але нават не глянулі адно аднаму ў вочы. Кожны нешта думаў, нешта таіў, але маўчаў. Нават Вера маўчала, а яна цяпер гаварыла столькі, што ў яго пачынала балець галава. Былі такія ночы, што яны не зводзілі вокам. Драгун, сцяўшы зубы, маўчаў. Ён яшчэ мог цярпець, калі яна гаварыла больш-менш тое, што было блізка да праўды. Калі ж яна пачынала плясці ўсякае глупства, якое і можа толькі прыйсці ў галаву ашуканай жонцы, Драгун кіпяціўся, і, здаецца, каб не тое галоўнае, для чаго ён цяпер жыў, ён даў бы волю свайму дзікаму шаленству, і ўсё скончылася б чорт ведае чым.

Цяпер ён збіраўся ў бібліятэку, а мо нават і не, гледзячы, як стукне яму ў галаву ў апошнюю хвіліну. Але перад адыходам сказаў — нібы сам сабе, але даволі гучна, каб пачула Вера:

— Я іду ў бібліятэку...

Вера як быццам не чула яго слоў, хоць Драгун ведаў: яна чула, і гэтыя словы, больш чым што, выклікаюць у яе злосць, яна не можа іх спакойна пераносіць. Ён адчуваў, што ў яе душы бушуе бура. І ён знарок выклікаў яе: хай будзе тое, што павінна быць. Ён чакаў яе адказу.

— Ты яшчэ не нахадзіўся? Табе яшчэ мала?

— Мне трэба скончыць адну рэч...

— Канчай дома.

— Я прывык да бібліятэкі...

— Адвыкай! Калі хочаш мець сям'ю — адвыкай!

— На гэта патрэбен час...

Яна выйшла з кухні ў пакой, выціраючы закасаныя да локцяў рукі.

— Не, ты нікуды не будзеш цяпер хадзіць! — сказала яна цвёрда і зірнула яму ў вочы.

— Ты страшыш мяне? — спакойна, нават надзіва спакойна спытаўся Драгун.

— А калі хочаш быць вольным, то ідзі — на ўсе чатыры вятры.

— Я быў вольны і буду...

— Не, не будзеш! Я праклінаю сябе, што дала табе волю.

— Ведай, што мяне не прывяжаш!

— Прывяжу! — яна падышла да яго ўпрытык.— Ты будзеш як на прывязі!

— Ніколі не буду!

Яна адвяла руку і стукнула яму па твары.

У Драгуна закіпела ў грудзях. Ён хацеў схапіць яе за руку, але яна выкруцілася і ўдарыла яго яшчэ раз. Тады ён штурхануў яе ад сябе, і так моцна, з такою злосцю, што яна не ўтрымалася на нагах і грымнулася на падлогу. Па твары яе прабегла грымаса болю. Яна ўставала, скрыўленая, а ён глядзеў і не зрабіў і кроку, каб памагчы ёй падняцца. Але як толькі яна ўстала, выраз болю раптоўна змяніўся на гнеў, яна, як дзікая кошка, кінулася да яго з пазногцямі. Але цяпер ён ужо быў гатовы да любое нечаканасці — і лёгка адкінуў яе ад сябе. Яна зноў упала, але якраз на канапу. Закрыла твар рукамі і заплакала ад бяссільнай злосці.

І раптам усхапілася з канапы: твар яе быў страшны, вочы расшырыліся і блішчалі бялкамі.

— Вон адгэтуль, каб і духу твайго тут не было!

Драгун стаяў як укопаны.

Тады яна сарвалася з месца і кінулася ў спальню. Бразнулі дзверцы ў шафе.

— Вымятайся адгэтуль, падлюга, каб не смярдзеў!

Яна выкінула яму пад ногі ахапак яго вопраткі: паліто, кашулі, касцюм, бялізну. Потым шпурнула з прамуды вялікі чорны чамадан. Драгун пастаяў яшчэ трохі, раздумваючы, а потым адчыніў чамадан і стаў складваць тое, што яму здалося болей патрэбным: новы касцюм, лішнія штаны, бялізну, некалькі кашуляў і асенняе паліто. А Вера хадзіла па пакоі і шпурляла на падлогу ўсё, што хоць трохі мела да яго дачыненне. Апошнімі былі яго кніжкі. Ён узяў з падлогі штук пяць, паклаў у чамадан і зачыніў. Астатняе ўсё — рукапісы, вопратку — ссунуў нагою да кніжнай паліцы. Потым дастаў з задняй кішэні штаноў грошы, падзяліў на дзве роўныя часткі і адну кінуў на стол.

— Бывай! — сказаў глуха і ўзяў чамадан.

Вера нічога не адказала.

Ён ступіў за парог, нібы ў нейкі новы, нязведаны, невядомы, поўны нечаканасці свет — халодны, няўтульны, чужы. Тыя ж дрэвы, людзі былі на дварэ, а для яго яны сталі раптам чужыя, незнаёмыя і непрыветлівыя. І мо каб спаткаў ён сваіх дзяцей на дварэ, то сэрца яго не здрыганулася б, а засталося б спакойнае, халоднае і роўнае. Быў дагэтуль адзін Драгун, цяпер ён памёр назаўсёды. Гэты, што ідзе цяпер з чамаданам у руцэ, ужо зусім другі чалавек...

Трамвай прывёз яго на вакзал. Там ён здаў чамадан у багажню і, не ведаючы, куды цяпер падзецца, стаў снаваць сярод натоўпу пасажыраў, якія віравалі, як вада ў паводку, і яму захацелася ўцячы недзе ад людзей, пабыць аднаму, падумаць над усім яшчэ раз, ацаніць і ўзважыць усё нанава.

Ён сеў на жодзінскі аўтобус, але злез каля Калодзішчаў і пайшоў налева, у лес, у той самы лес, куды яны не раз усёй сям'ёю прыязджалі адпачываць вясною ці летам, а восенню часам збіралі грыбы.

Лес атуліў яго зразу, сваім вечным шумам і птушыным звонам асвяжыў яго гарачую галаву, разагнаў цяжкія думкі. Драгун зайшоў у бярозавы гушчар і ўпаў на мох. Ляжаў доўга, не варушыўся, нічога не чуючы і не бачачы. І дзіўна — першы раз за ўсё сваё жыццё пачуў, што ў яго ёсць сэрца. Раней ён яго ніколі не адчуваў — яно білася так роўна і спакойна, без перабояў і парушэння рытму, што здавалася — яго і зусім няма. А цяпер яно адазвалася... Толькі не само сэрца, а нейкі тугі, як жалезны, абруч вакол яго, які то сціскаўся, то паслабляўся. Жалезны тугі абруч ціснуў на яго сэрца, не даваў моцна дыхнуць. А што, калі вось тут, у лесе, яго схопіць інфаркт? Але наўрад... У яго сэрца такое, як у яго бацькі, яно з вялікім запасам трываласці, вынесе ўсё. Мо яшчэ тужэй давядзецца, чым сёння... Сёння... Сёння высокі перавал удалося адолець яму. І Вера рабіла ўсё так, нібы яна ведала, што так трэба... Аднак абруч вакол сэрца сціскаецца яшчэ мацней... Мо ад таго, што Драгун ляжыць? Ён устаў, пахадзіў, памахаў рукамі — зрабіў размінку. Стала як бы лягчэй, але абруч не прапаў.

Чаму ж пацягнула яго ў лес, а не куды-небудзь туды, да знаёмых, да сяброў? Мусіць, таму, што тут не паможа ніхто, калі не паможаш сабе сам. Наадварот, людзі могуць толькі сапсаваць. Трэба самому, аднаму.

## 54

Гэта тое, што Драгун насіў у сабе некалькі год, тое, што ніколі не сказаў бы нават у лапах ка́та, тое, чаго не ведаў ніхто, апроч яго самога.

І пачалося ўсё, здаецца, з дробязі.

Неяк хутка пасля таго, як Драгун перайшоў у выдавецтва да Важніка, рэдактар Пракурат ездзіў дадому. Прыехаўшы, дзяліўся вясковымі навінамі, даў кожнаму па яблыку з бацькоўскага саду, а калі хлопцы выйшлі на перакур у адзінаццаць гадзін, тады, як добрыя людзі робяць фізкультуру, ён, нібы між іншым, сказаў пра гутарку з маткаю. Яна, як і кожная маці, распытвала ў яго пра работу, пра людзей. І калі ён расказаў пра Рымара — хто гэта такі і што ён зрабіў, колькі людзей заплакала ад яго крывавымі слязьмі, а колькі разлічылася з жыццём, жанчына ўспляснула рукамі і сказала з сэрцам: «І няўжо не знойдзецца смелага чалавека, каб яго забіў, як шалёнага сабаку?» Пракурат уздыхнуў і гаварыў далей: «Вясковыя бабы разумеюць, што трэба рабіць з такімі нелюдзямі, як Рымар, а мы, няшчасныя гарадскія інтэлігенты, падаём яму руку. Як нізка ўпала ў наш час паняцце чэсці! Раней забойца, калі ў яго была кропля сумлення, або сыходзіў куды, або вешаўся: яму не было ратунку ад людскіх вачэй, ад людской пагарды. А цяпер мы робім выгляд, што нічога не здарылася. Праўда, Рымар сваімі далікатнымі рукамі нікога не душыў, нікога не катаваў, але якая розніца? Ён пісаў даносы, па якіх бралі людзей і ставілі да сценкі. Данос — самая чорная форма чалавечага злачынства. Нездарма раней пры цару Гароху першы бізун быў даносчыку. Нават гаспадар ненавідзеў даносчыкаў, глядзеў на іх як на людзей ніжэйшай катэгорыі. А потым стала: даносчык — правая рука гаспадара. Нават болей: гаспадары мяняюцца, а даносчыкі застаюцца. Даносчык служыць усім, гэта стала яго прафесіяй: ён служыць усім, усе яму плацяць. Бо даносчык — патрэбная фігура. Ён нават данясе на таго, на каго пакажа гаспадар. Вось у чым яго вартасць. Вось чаму ён не падае ў цане... І ўся трагедыя таго, трыццаць сёмага года, была ў тым, што ворагі-то былі ўяўныя, што ахвяры былі дарэмныя, а даносчыкі проста лгалі, узводзілі на людзей паклёп, не маючы для гэтага ніякіх ні доказаў, ні фактаў. І калі даносчыкі ў той час мо і не ведалі, што яны рабілі, то, па крайняй меры, цяпер яны ведаюць: яны рабілі самую чорную і подлую справу».

Увесь гэты маналог Пракурата быў вялікай нечаканасцю для Драгуна, бо яны ў той час яшчэ не паспелі як след пазнаёміцца, і Пракуратаву шчырасць Драгун зразумеў як смеласць. Душою ён адчуваў вялікую праўду сказанага. Але ва ўсім гэтым яго, Драгуна, уразіла адно, і мо якраз тое, што Пракурат сказаў як бы між іншым: гэта словы яго маці. «І няўжо не знойдзецца смелага чалавека, каб яго забіў, як шалёнага сабаку?..» Драгуна нібы ўдарыла громам: вось тое, што трэба! Вось ён, яго сэнс жыцця! Рымар, чорная, злавесная фігура, Булгарын і Грэч у адной асобе. «Кароткі, тоўсты, як кабан, плюгавы, дужа некрасівы» — які, аднак, прарочы партрэт даў наш невядомы паэт гэтай злавеснай фігуры!.. Яшчэ студэнтам чуў Драгун гэта прозвішча побач з прозвішчамі да яго падобных, якія разам рабілі сабе палітычную кар'еру на крыві і слязах сваіх былых сяброў і таварышаў: пісалі і друкавалі так званыя крытычныя артыкулы, у якіх называлі ворагамі народа самых сумленных і лепшых людзей нацыі.

Слугі культу, яны павінны былі зляцець у бездань гісторыі разам з галоўнай фігурай, якая за адну ноч сышла з усіх п'едэсталаў, што па праву належалі другім. Але галоўны зляцеў, а яны засталіся. У іх, што стаялі бліжэй да зямлі, аказваецца, былі мацнейшыя карані, чым у іхняга бога. Яны ўцалелі, толькі перапалохаліся. Многім, праўда, давялося заўчасна пайсці на пенсію, іншыя паплаціліся жыццём. Але гэта было недзе там, у вышэйшых сферах, якія простым людзям недаступныя. На месцах, у правінцыі, усё было ціха і гладка. Пракурор Карпік, праз якога рукі прайшлі многія беларускія пісьменнікі, спакойна адправіўся на пенсію. А такія, як Рымар, як Фальскі-старэйшы, як Бэнда, Моталь і іншыя,— жылі сабе спакойна і ў меру сваіх сіл пісалі і друкаваліся. Рымар перайшоў у драматургію, але сцэна не прынясла яму ні вялікага поспеху, ні славы, ні грошай. Ён перакінуўся на кіно, стаў пісаць сцэнарыі, а ад крытыкі зусім адышоў. Сваю крытычную аглоблю, трохі абчасаўшы, паменшыўшы і ўкараціўшы, ён аддаў другім, болей маладзейшым, што знаёмы з сучаснай тэрміналогіяй. Кіно падабалася яму найбольш — там быў найдаўжэйшы рубель. А як Рымар любіў рублі, Драгун трохі ведаў, бо яшчэ ў школьным выдавецтве яму давялося быць рэдактарам хрэстаматыі, якую складаў Рымар, перавыдаваў яе з году ў год і браў дармовыя грошы, а праўкі ўсякі раз уносілі рэдактары, якім ён кожны раз абяцаў цукеркі, ды так ні разу не прынёс. А выкрасленыя радкі ён падлічваў, як п'яніца

капейкі, і сварыўся з рэдактарам, даказваў, што так нельга абіраць аўтара. У яго хапала нахабства называць сябе аўтарам!.. Гэта быў чалавек, які рваўся да ўлады, але вайна перашкодзіла яму гэтага дабіцца, і цяпер адзінае, што яму заставалася — грошы. Ён разумеў, што праз грошы можна быць блізка да ўлады і, ва ўсякім разе, мець на яе ўплыў...

І вось у выдавецтве ў Важніка Драгун пазнаў Рымара яшчэ бліжэй. Вечны надомнік, Рымар прыходзіў толькі ў дні зарплаты або калі браў новы рукапіс. У рэдакцыі ён мала быў, а калі заходзіў у выдавецтва, то ішоў да дырэктара. На многія рэчы, як потым высвятлялася, Важнік пачынаў глядзець Рымаравымі вачыма, чуйна прыслухоўваўся да яго думкі — Важнік разумеў, што лепшага флюгера, чым Рымар, не знойдзеш, ён ведае, куды трэба павярнуць і каму пакланіцца, на каго можна крычаць смела, не баючыся адплаты.

Кожны раз, калі Драгуну даводзілася бачыць Рымара, ён адчуваў у сябе на спіне пад левай лапаткай нязвыклы халадок. Гэты чалавек выклікаў у ім агіду. Яго ажно, здаецца, калаціла, калі ён пазіраў на яго тлустую кароткую фігуру, якую як бы заціснулі знізу і зверху, ад чаго яна пачала раздавацца ўшыркі. Вялікія вырачаныя халодныя вочы, тонкія вусны з характэрнай канфігурацыяй гаварылі аб жорсткасці натуры, хоць на твары яго была заўсёды саладжавая ўсмешка, а на языку — гатовы для кожнага, у залежнасці ад рангу, камплімент. О, як мякка слаў! Але каб ён праглынуў тое сам, што думаў пра другога!

Недзе ў той час, а мо трохі пазней, Драгуна зацікавіла, а што ж засталося з крытычных пісанняў Рымара ў газетах і часопісах. Казалі, што ўсе самыя вострыя і правакацыйныя яго выступленні ў друку, тыя, што фігуравалі нароўні з абвінаваўчымі актамі, нехта павырэзваў з усіх падшывак, і не толькі ў Мінску, але нават у Маскве і ў Ленінградзе. Доўгія рукі былі ў Рымара! Засталося толькі самае ліберальнае. Драгун, забраўшыся ў бібліятэку, браў даваенны «ЛіМ», «Полымя рэвалюцыі», чытаў, гартаў, выпісваў.

У адным месцы (1934 год) Рымар пісаў:

«Паэт Андрэй Александровіч сваёй творчасцю адказвае на баявыя, актуальныя задачы сацыялістычнага будаўніцтва і класавага змагання, ён па-партыйнаму ставіць зброю сваю — мастацкую творчасць — на змаганне з класавым ворагам. Александровіч з'яўляецца адной з асноўных вядучых фігур беларускай паэзіі».

А трохі пазней пра таго ж Александровіча:

«Адным з пастаянных рупараў для адкрытых контррэвалюцыйных вылазак з'яўляецца газета «Савецкая Беларусь». ...У «Савецкай Беларусі» друкуецца другое контррэвалюцыйнае дэманстрацыйнае пісьмо Александровіча і інш., якое выклікала ўсеагульнае абурэнне і рашучы адпор з боку партыі і савецкай грамадскасці. У той жа газеце быў змешчаны рад нарысаў, у якіх закляты вораг беларускага народа асмельваўся супрацьставіць капіталістычную Германію Савецкаму Саюзу».

У аглядзе «Беларуская літаратура за 20 год» Рымар на пару з Фальскім бралі шырэй і глыбей:

«Па ініцыятыве аднаго з галоўных ідэолагаў беларускага нацыяналфашызму, шпіёна Ігнатоўскага, было створана ў 1923 годзе літаратурнае аб'яднанне «Маладняк» у мэтах папярэдняй контррэвалюцыйнай апрацоўкі моладзі. На чале гэтай арганізацыі быў пастаўлены былы супрацоўнік «Звона», польскі шпіён, які прабраўся ў камуністычную партыю і замаскаваўся, па ўказанню і пры дапамозе свайго кіраўніка Ігнатоўскага, пад пралетарскага паэта» (чытай — Міхась Чарот).

Узначальваючы «Маладняк», ён сістэматычна праводзіў пры дапамозе Дудара, Зарэцкага, Дубоўкі і іншых выхаванцаў Ігнатоўскага нацыяналістычную апрацоўку маладых літаратараў, вярбуючы сярод іх новыя кадры для контррэвалюцыйнай работы. У мэтах далейшага пашырэння сферы свае дзейнасці ў літаратуры нацыяналісты ствараюць у 1927 годзе, паводле ўказанняў таго ж Ігнатоўскага, новую літаратурную арганізацыю — «Узвышша». Ва «Узвышша» была вылучана група пісьменнікаў, якія прайшлі першапачатковую шавіністычную апрацоўку ў «Маладняку». У процілегласць «Маладняку», які праводзіў нацыяналістычную лінію больш-менш замаскавана, прыкрываючыся «камсамольскай» шыльдай, «Узвышша» ў сваіх дэкларацыях адкрыта заяўляла, што яно будзе праводзіць сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам нацыянал-фашысцкай агентуры, якая прабралася ў рады кампартыі. На старонках часопіса «Узвышша» друкаваліся адкрыта контррэвалюцыйныя творы. Сваімі хлуслівымі лозунгамі барацьбы за «сапраўднае мастацтва», за «мастацтва, якое пабачыць вякі і народы», контррэвалюцыйныя кіраўнікі «Узвышша» Дубоўка і інш., непасрэдна звязаныя з падпольнай нацыяналістычнай арганізацыяй, ашуканчым шляхам прыцягвалі ў свае рады асобных здольных, але палітычна недастаткова ўстойлівых, падвержаных нацыяналістычным хістанням, пісьменнікаў.

Так, апрача З. Бядулі, ім удалося ўцягнуць у сваё аб'яднанне К. Крапіву, К. Чорнага, П. Глебку.

У мэтах адпаведнай апрацоўкі пісьменнікаў старэйшага пакалення контррэвалюцыйнымі нацыяналістамі было створана ў 1928 г. літаратурнае аб'яднанне «Полымя». Сюды ўвайшлі пакончыўшыя з сваімі функцыямі ў «Маладняку», яго ранейшыя арганізатары і кіраўнікі разам з Александровічам».

Вось так пісалі чорныя крытыкі гісторыю беларускай літаратуры.

А яшчэ раней Рымар, «ничтоже сумняшеся», абзываў і хрысціў беларускіх паэтаў самымі страшнымі эпітэтамі.

«...праявы контррэвалюцыйнага буржуазнага нацыяналізму, нацыяналістычныя настроі, маюць яшчэ месца і цяпер на паэтычным фронце. Нельга тут не прыгадаць такіх нацыяналістаў у паэзіі, як Баркоў, Таўбін, Астапенка, Астрэйка. Гэтыя паэты карысталіся найбольш формамі маскіроўкі ў сваіх творах. Контррэвалюцыянер Астрэйка піша паэму пра Бенгалію. У ёй літаральна спісвае з антысавецкіх паэм Дубоўкі і, апрача таго, алегарычна, пад умовы капіталістычнай эксплуатацыі і прыгнёту ў Бенгаліі падтасоўваецца... Савецкая Беларусь. Так кулацкі абаронца Астрэйка пераліцоўвае творы кулацкага абаронцы Дубоўкі... А вазьміце такіх паэтаў, як Баркоў, Таўбін, Астапенка? Ці ж не хавалі яны за эстэтызм буржуазнага тыпу, за голы фармалізм, за голую фразеалагічную паэзію свае варожыя мэты?»

«...Нацыяналісты выгадоўвалі ў сваіх паэтаў нянавісць да пралетарскай рэвалюцыі. Найбольш яркімі выразнікамі гэтых настрояў з'яўляліся Дубоўка, Пушча, Баркоў, Жылка — ідэолагі нацыяналістычнай контррэвалюцыі.

...Асноўная творчая іх асаблівасць, акрамя дзікае нянавісці да пралетарскай рэвалюцыі, гэта велізарнейшае эпігонства, велізарнейшае падражацельства, велізарная, нават плагіятарская залежнасць ад старых буржуазных упадніцкіх пісьменнікаў. Эпігонамі каго толькі не былі Дубоўка, Пушча, Баркоў і ім падобныя! Гэтыя паэты бязлітасна «выкарыстоўвалі» буржуазнага паэта перадкастрычніцкай пары Максіма Багдановіча, былі ў велізарнай залежнасці ад імажыністаў, прывівалі на беларускай глебе ясеніншчыну».

Так і паўстае з гэтых радкоў галодны і прагны шакал, які хоча, каб болей нарабілі мяса. Тады нешта дастанецца і яму. Ён у гэтым ўпэўнены:

«Таварыш Ежоў ачышчае жалезнай рукой нашу краіну ад трацкісцкіх, бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў і дыверсантаў. Таварыш Ежоў блізкі сэрцу беларускага народа».

Мяса будзе!

А ўзровень яго культуры, эрудыцыі, крытычнага майстэрства відаць хоць бы з маленькага прыкладу — з разбору паэмы Петруся Броўкі «Праз горы і стэп». Вось як піша гэты, з дазволу сказаць, крытык:

«Аднак нават і гэты лепшы твор Петруся Броўкі гаворыць пра тое, што трэба загастрыць увагу паэта на яшчэ большае авалоданне паэтычнай тэхнікай, на яшчэ больш дасканалую апрацоўку паэтычнага радка... А мясцін ненатуральных, паэтычна слаба апрацаваных, недасканала напісаных з боку мастацкае тэхнікі — багата і ў вершы «Праз горы і стэп». От, напрыклад, узор таго, як вобраз будуецца ненатуральна, нежыццёва, а штучна, выдумана.

Едзеш, чуеш трывожны таварыша голас:
— Я на дзікія скалы ўжо больш не хадок,—
Скажа так — і пакоціцца труп яго долу.

Або: «Вецер грае разлучыну шалёным тустэпам». Гэты тустэп, калі ён пераносіцца ў абставіны бою, з'яўляецца абсалютна не на месцы. Нельга тустэп з мяшчанскага асяроддзя пераносіць у абставіны гераічнай і пераможнай барацьбы».

І вось цяпер гэты крытык-даносчык думае, што ўся яго пісаніна забыта. Ён вясёлы, смяецца, жартуе, гаворыць кампліменты, расказвае анекдоты, піша сцэнарыі і ставіць кінафільмы. Ён пабратаўся нават з тымі, на каго некалі пісаў у газетах і паказваў пальцам: ён вораг! — разам піша сцэнарыі, разам ездзіць на курорт у Карлавы Вары, у Чэхаславакію. Узяць хоць бы таго Баркова...

Божа, як упалі ў нас у цане раней такія высокія паняцці гонару, чалавечай годнасці! Героем стаў ужо не той, хто не гнецца, а ломіцца, а той, хто не ломіцца, а гнецца! Усё стала з ног на галаву, а мо наадварот: з галавы на ногі?

Не, звычайнае несапсутае чалавечае пачуццё ўласнай годнасці з гэтым не можа змірыцца. Народны святы прынцып — чалавечая кроў ніколі не праходзіць дарам — застанецца ў сіле на векі вякоў!

І, можа, Драгун робіць вялікае глупства, што бярэ на сябе місію абараняць гэты прынцып, але калі гэтага не робіць ніхто другі, то павінен зрабіць хоць бы ён. Калі забілі сцяганосца праўды, ён знойдзе ў сабе сілу і смеласць, каб узняць сцяг!

...І калі ён так рашыў, яму стала лёгка на душы. Ён пачаў жыць толькі гэтаю думкай: дзе б ён ні быў, што б ні рабіў, пра што б ні думаў,— усюды, ва ўсім побач жыло адно нязменнае, цвёрдае, як камень, усведамленне, што галоўнае — гэта, а ўсё астатняе — толькі дадатак, толькі дарога да мэты. Сябе ён не шкадаваў — нехта ж павінен! Успаміналіся высокія словы турка Назыма Хікмета, якія некалі разанулі яго па сэрцы сваёю праўдаю і глыбінёй:

І калі ты гарэць не будзеш,
І калі ён гарэць не будзе,
І калі я гарэць не буду,
І калі мы гарэць не будзем,
Дык хто ж тады разгоніць змрок?

Шкада было толькі дзяцей, жонкі, бацькоў — сваіх і жончыных. Бацькі хочуць, каб іх дзеці і ўнукі былі шчаслівыя. Тады толькі яны паміраюць спакойна. А ён шчасця не даў, нават хоча адабраць у іх надзею на шэрае звычайнае жыццё... Але ўспаміналіся сотні і тысячы, якія ішлі ў імя... ахвяруючы ўсім, нават большым, чым ахвяруе ён. Праўда, яны-то ішлі на подзвіг... А ён зробіць нешта процілеглае подзвігу — звычайнае злачынства... Хто даў яму права судзіць чалавека? Хто??? а мо тыя, што спяць ужо колькі дзесяткаў год вечным сном па міласці гэтага чорнага крытыка? Няўжо ніхто ніколі, паміраючы, не пракляў яго чорную душу, не сказаў сам сабе: «За мяне адпомсцяць!» Сказаў, не можа быць, каб не сказаў! Чалавек заўсёды верыць, што праўда і справядлівасць пераможуць!

## 55

Праз тры гады пасля апісаных падзей, хмарным верасьнёвым ранкам з цягніка на Мінскім вакзале сышоў барадаты пасажыр у шэрым плашчы. Ён быў сярэдняга росту, трохі сутуліўся. На выгляд яму можна было даць гадоў сорак — у густой барадзе сям-там прабіваліся сівыя валасіны. Запалыя вочы піўнага колеру пазіралі на свет падазрона і з чаканнем. Шапка, такога ж, як плашч, шэрага колеру, казырком хавала гэты ўважлівы, учэпісты погляд, якім пасажыр акідваў людзей.

Ён пастаяў у доўгай чарзе да таксі, перакідваючы з рукі ў руку невялікі рыжы чамадан, які выйшаў з моды сама мала гадоў дзесяць.

Стомлена сеў у таксі на задняе сядзенне і сказаў шаферу:

— Гасцініца «Аэліта».

І больш за ўсю дарогу не прамовіў ні слова, углядаўся ў акно машыны, азіраў дамы, вуліцы, людзей, часам усміхаўся нейкім сваім думкам, часам хмурыўся.

Расплаціўшыся з шафёрам, пайшоў развалістай цяжкай хадою ў гасцініцу. На яго шчасце, месца якраз было. Яму далі асобны пакой на пятнаццатым паверсе з відам на возера. Было ўсё, што трэба: ложак, стол, тэлефон, ванна. Ён распрануўся, зайшоў у ванную, пусціў ваду. Потым падышоў да акна, задумаўся. Возера! Тое самае возера, з якога пачаўся яго сямейны круг. Чорт вазьмі! Цяпер з яго скончыцца апошні, заключны круг... Раптам у рытм яго думак уварваўся напорысты шум вады. Вада, вада... Салёная, марская... А гэта прэсная, звычайная, наша вада...

Ён крута павярнуўся на абцасах, стаў распранацца. Скінуў грубы шарсцяны світар, які яшчэ, здавалася, пахнуў морам, бялізну, пайшоў у ванную. Адрэгуляваў ваду. Мыўся доўга, з гадзіну.

Потым спусціўся ў бар паснедаць, узяў у кіёску свежых газет і ўзняўся на ліфце на свой пятнаццаты паверх.

— Цяпер трэба выспацца,— сказаў ён сабе.

Лежачы ў пасцелі, праглядваў газеты. Пішуць пра ўраджай, пра бульбу, фельетон пра дробнага жуліка, заметка пра браканьера. Там было пасяджэнне, там пленум. За мяжой — па-ранейшаму забастоўкі, урадавыя крызісы, атамны псіхоз. Жыццё ідзе... А вось гэтая самая «Літаратура і мастацтва». Тут па-ранейшаму спакойна, ціха і гладка: крытыкуюць з аглядкай, хваляць баючыся... Даўно ён не чытаў. Даўно... Цікава, што яна напіша праз пару дзён. Цікава... Ці будзе яго некралог?.. А мо з партрэтам?

Так ён і заснуў з газетай у руках. Снілася яму мора, магутны шторм кідаў іх сейнер, як трэску, а капітан, «марскі воўк» Амелька, крычаў яму на самае вуха: «Прывыкай, барадач, і не такое яшчэ будзе!» Потым ён неяк апынуўся ў поездзе, яго праводзілі хлопцы з сейнера, ціснулі яму рукі і цалаваліся на развітанне, сунулі ў кішэні бляшанкі крабаў і ікры... Потым яго трэсла ў вагоне, нібы той імчаў не па рэйках, а па цаліку — па сопках, па гарах, па бездарожжы. Прачнуўся нечакана ад моцнага голасу: «Станцыя Мінск». Гэтае слова адазвалася ў яго сэрцы шчымлівым болем. І ён прачнуўся. Глянуў на гадзіннік: было тры гадзіны дня.

Ён устаў, апрануўся і сеў за стол пісаць лісты. Усяго штук дзесяць. Дастаў з заношанай запісной кніжкі старыя адрасы, надпісаў канверты. Адваротнага адрасу не падпісваў.

Гэта заняло ў яго гадзіны дзве.

Пісем ён не адправіў, закруціў у газету і схаваў у чамадан, а адтуль выняў тоўсты пачак сшыткаў, перавязаных шпагатам. Гэта быў рукапіс яго аповесці, якой ён аддаў тры гады. «Камень з гары»... Калі ты дакоцішся да самага нізу? Праз дзесяць год? Праз сто?.. Каму гэта адправіць?» І адказаў сам сабе: «Хто мяне мала ведае і каго я мала ведаю. Тады не прападзе». Але гэта заўтра. А сёння — самае цяжкае...

Зноў дастаў гэтую самую зашмальцаваную кніжачку. Ды што! Ён і па памяці ведаў тэлефон і адрас, які яму быў патрэбен і куды ён званіў усяго адзін раз — перад сваім ад'ездам.

Трубку зняла жанчына.

— Алё! Хто вам патрэбен? — прапішчала яна.

— Рымар...

— А хто пытае?

— Яго знаёмы... Драгун.

— Зараз паклічу.

Доўга нікога не было. Ён ужо думаў, што на гэтым усё і скончыцца. Нарэшце трубка на тым канцы провада стукнулася аб нешта цвёрдае, пачулася цяжкае дыханне; рэзкі скрыпучы голас бадзёра спытаў:

— Хто мяне пытае, хто?

— Драгун...

— Не можа быць! — усклікнула трубка ўсё так жа бадзёра.— Я думаў, хто-небудзь жартуе.

— Якія могуць быць жарты...

— Ну што ж, з прыездам! Вітаю на роднай зямлі,— сказаў голас з робленым пафасам.

— Дзякую... Але ці памятаеце вы нашу апошнюю размову?

— Якую?

— Ну, тры гады назад, па тэлефоне?

— А-а, памятаю, а як жа! Дык што?

— Як што? Мы дамаўляліся, што я прывязу сцэнарый.

— Дык што, ты прывёз?

— А як жа! Калі я сказаў, то зраблю.

— Не можа быць!

— Усё можа быць!

На тым канцы провада стала ціха. Потым пачулася:

— Алё! А ты не жартуеш?

— Што вы! У наш атамны век!.. Вось прыязджайце да мяне, пагаворым.

— А дзе ты?

— У гасцініцы «Аэліта», 15-ы паверх, 33 пакой.

— Гм... Гм... Тут у мяне на вечар намячалася...

— Кіньце вы! Я з-за свету ехаў, а вы не можаце адкласці таго, што ўчора намячалася. Я не гэтулькі чакаў з вамі сустрэчы...

— Гм... гм... Зараз скажу... Гм... Пазвані праз паўгадзіны. За гэты час я змагу дамовіцца.

— Добра.

Драгун паклаў трубку. Пот выступіў у яго на ілбе. «Няўжо адчувае, юда? Няўжо не прыйдзе? Але нічога! Якая розніцца, дзе і калі? Важна, што цяпер. Цяпер або ніколі. Толькі цяпер!»

Гэтае паўгадзіны цягнулася доўга. Хацелася пазваніць... Было гэтулькі знаёмых тэлефонаў, асабліва адзін, які сядзіць у памяці глыбока і вечна, як той нумар у вязня з канцлагера... Але ён не будзе званіць. Дарога туды яму закрыта. Закрыта назаўсёды... Засталося толькі паставіць кропку над «і». Вялікую такую, чырвоную кропку... Але не кажы гоп... Няўжо ён адчувае, юда? Не можа быць! Пра гэта яму мо ніколі і не сніцца! Ён упэўнены, што ўсе ўжо даўным-даўно забыліся пра яго мінулае, як і ён сам... Для яго цяпер важна грошы. Сцэнарый — давай сцэнарый!.. Трэба было падкінуць яму пару камплімантаў, сказаць проста з моста: сцэнарый-то ёсць, але паколькі ён, Драгун, далёкі ад спецыфікі кіно, не ўпэўнены, што ўсё закруціў як трэба, то і бярэ ў суаўтары сабе такога вопытнага кінадраматурга, як Рымар. Тады ён знайшоў бы час!

Паўгадзіны прайшло. Драгун пазваніў. Было занята. «Яшчэ не дамовіўся, гандляр». Ён бразнуў трубку. Няйначай, раіцца з некім, ці варта звязвацца з такім тыпам, як Драгун. Рымар хітры. Яго на мякіне не правядзеш. Хоць у Драгуноў густ ён паверыў. Быў такі выпадак: Драгун пахваліў новы Рымараў фільм. Не яму ў вочы, а ў гутарцы ў рэдакцыі. Толькі скончылі гаварыць, як адчыняюцца дзверы і на парозе стаіць Рымар. Слова за слова — і Гушчынскі з усмешачкай кажа, што вось Драгун учора глядзеў фільм па тваім сцэнарыі і проста ў захапленні. Гушчынскі, як заўсёды, любіў гіпербалы.

Рымар проста расцвіў! Некалькі дзён назад у газеце была разносная рэцэнзія на яго фільм, а тут знайшоўся аднадумец! Яны гаварылі тады з гадзіну — пра асобныя вобразы, дэталі, эпізоды, пра ігру артыстаў, пра вартасці самога сцэнарыя. Рымару асабліва прыйшлося па душы тое, што Драгун заўважыў: «Вы вельмі добра паказалі жорсткасць, бесчалавечнасць вайны наогул. Чалавек трапляе ў такія сітуацыі, што ён проста не ведае, хто яго сябры, хто ворагі, каму верыць, а каго асцерагацца. Чалавек ходзіць над безданню, і не дзіва, калі ён у яе трапіць, не дзіва, калі ён памыліцца, і за яго памылку заплацяць жыццём сябры... Чалавек — ахвяра падзей, абставін, часу».

Драгун гаварыў шчыра, тое, што адчуваў, гледзячы фільм. Рымар у канцы пацiснуў яму рукі і нагаварыў кампліментаў, пахваліў яго першую кнігу, якая выйшла ўжо вунь колькі, пахваліў і аповесць. Але Драгун ведаў, што Рымар шчыры ніколі не бывае. Ён можа сказаць усё, што патрабуюць ад яго абставіны... Толькі трохі пазней Драгун зразумеў, чаму Рымару так прыйшлося па сэрцы тэзіс пра абставіны. Гэтым ён даваў зразумець, што і тады, у гады культу, абставіны прымушалі людзей быць жорсткімі. І яго таксама... І не яго віна, што ён пісаў такія артыкулы, якія можна было прыкладаць да абвінаваўчых актаў... Рымар шукаў сабе апраўдання.

Праз некалькі дзён адкрывалася нарада маладых сцэнарыстаў пры Доме творчасці пісьменнікаў, і Рымар тут жа сказаў, што абавязкова запросіць і Драгуна. Драгун адмовіўся, але праз пару дзён Рымар усё ж уручыў яму запрашэнне на нараду. Але Драгун так на яе і не паехаў...

Цяпер Драгун успамінае пра гэта і пачынае пераконвацца, што гэта ўсё ж нейкі мосцік, хоць і не надта трывалы, для іх збліжэння. Пазваніў яшчэ раз. З трывогай чакаў. Доўгія гудкі: адзін, другі, трэці...

Здымаюць трубку.

— Алё! — голас Рымараў.

— Гэта зноў я... Дык я чакаю! — не даў ён апамятацца Рымару.— Вы, вядомы кінадзеяч, павінны кінуць вокам на першую працу зялёнага сцэнарыста, тым больш што я цвёрда рашыў узяць вас суаўтарам! Вы павінны паслухаць, ці добрая задума, ці можа што выйсці!

— Гм... Ты яшчэ нікому не раззваніў пра гэта?

— Нікому! Толькі вам!

— Гм... Ну, добра. Праз якую гадзіну чакай... Значыць, пятнаццаты паверх, пакой 33...

— Чакаю!

Драгун сеў. Ногі ў каленяў дрыжалі, а рукі былі потныя.

Трохі супакоіўшыся, пазваніў у бар, заказаў вячэру на дзве персоны.

Хутка у пакой пастукалі. Драгун адчыніў. Маладжавая поўная афіцыянтка ўкаціла столік, застаўлены ядой і напіткамі.

— Калі ласка, прыміце...

— Шчыра дзякую. З прыемнасцю.

— А хто ў вас будзе? — таямніча-какетліва спыталася яна, хоць пытанне не ўваходзіла ў правілы на яе рабоце. Проста жаночая цікаўнасць.

— О, гэта вялікі сакрэт! — прашаптаў Драгун і ўсміхнуўся.— Але вам я скажу: адна незвычайная асоба...

Афіцыянтка гаспадарыла: накрыла пісьмовы стол, на яго перастаўляла са свайго, на калёсіках.

Драгун парыўся ў чамадане, дастаў дзве невялікія бляшанкі-кансервы.

— Скажыце, што вы любіце лепей: ікру ці крабы? — спытаў ён у афіцыянткі.

Жанчына рэзка выпрасталася.

— Што? — і з усмешкай адказала: — І крабы, і ікру.

— У вас надзіва добры густ,— сур'ёзна сказаў Драгун.— Вось вам, адтуль, дзе яны водзяцца...

— Ну што вы, я пажартавала...

— Бярыце. У мяне многа.

— Няўжо? А дзе ж вы ўзялі?

— У Находцы.

— Дзе, дзе? Знайшлі?

— Ва Уладзівастоку.

— Ого! Я бо гляджу, што ў вас такая барада... Проста хочацца пагладзіць...

— Пагладзьце каму другому.

Яна зрабіла выгляд, што не пачула, і не пакрыўдзілася нічуць.

— Шампанскае адкаркаваць ці вы самі?

— Дзякую, умею сам.

— Калі ласка.— Яна пакаціла свой пусты столік.— Калі што трэба, званіце.

— Дзякую. Абавязкова.

Драгун дастаў з чамадана яшчэ дзве бляшанкі, узяў складаны паляўнічы нож, які купіў яшчэ даўно, за першую

кніжку, распячатаў крабы і ікру. За гэтым заняткам адчуў, як захацелася есці.

Рымара ўсё нешта не было, і Драгун, парушаючы ўвесь этыкет, намазаў маслам скібку белага хлеба, узяў нажом чорнай, як жабурынне, ікры і стаў есці. Там, дзе ён быў, ён еў яе не часта. Па калідоры нехта цяжка ступаў, спыняўся на момант і ішоў далей. Дайшоўшы да Драгуновых дзвярэй, спыніўся. Потым пачуўся стук.

— Заходзьце! — Драгун усхапіўся з крэсла.

Дзверы адчыніліся. На парозе стаяў нізкі, азызлы, сівавалосы Рымар. Падбароддзе ў яго звісала на грудзі, як у бульдога. Ён цяжка дыхаў, нібы ўздымаўся не на ліфце, а ішоў пехатою. Але на тонкіх вуснах сядзела, як прыклееная, прыветлівая ўсмешка.

— А-а-а! Барада! Вітаю! Вітаю!

Ён падаў Драгуну вузкую доўгую руку, якая ніяк не стасавалася да яго тоўстага кароткага цела. Здавалася, што рукі ў яго не свае, а чужыя — крадзеныя.

— Распранайцеся.

Рымар скінуў макінтош, застаўшыся ў цёмна-шэрым цесным на яго касцюме, агледзеўся і сеў на канапу, аж яна застагнала.

— Ці даўно ў Мінску?

— Сёння раніцай прыехаў.

— Як жылося?

— Усяго было.— Драгун не хацеў распачынаць размовы.— Я прагаладаўся. Сядайце за стол.— Яго пачынала калаціць як у ліхаманцы. Калі Рымар гэта заўважыць, можа ўсё прапасці.

Рымар перайшоў за стол, абвёў яго сваімі вырачанымі вачыма.

— Бачу крабы! І ікру! Гм... гм... Тутэйшыя ці адтуль?

— З Находкі.

— Нябось занясло цябе!

Драгун наліў у кілішкі каньяку, у фужэры — шампанскага.

— То вып'ем за... сцэнарый... За сумесны наш сцэнарый,— паправіўся Драгун.

Рымар адразу ажывіўся.

— Які ты скоры! Давай...

Яны выпілі.

— Бярыце крабы.— Драгун пераставіў бляшанку.

— Гм... Смачная штука... Даўно не еў... Халера...

— То яшчэ па адной чарцы.

— Ты некуды спяшыш,— павольна жуючы, сказаў Рымар.— Мне дык ужо няма куды. Фініта ля камедзія!

— Моцна сказана.— Драгун наліваў зноў.— Давайце за тое, што лепш позна, чым ніколі.

— Згодзен... За гэта можна! Але толькі не з маім сэрцам.

Аднак выпіў лёгка, нават не паморшчыўся.

— А скажыце, ці многа вам сэрца рвалі?

Рымар лыпнуў вачыма, глянуў на Драгуна.

— О, братка! Рвалі, як шакалы падлу. Таму і ўсё! Шэсцьдзесят год — і пясок сыплецца...

— Асабліва, відаць, тады? — ён націснуў на апошняе слова.

Рымар зноў падазрона зірнуў на Драгуна.

— У трыццатыя? Было тады, было і пасля вайны. Трэба было мець у грудзях камень, а не сэрца, каб усё вынесці...

«І праўда, ў цябе, відаць, камень замест сэрца, інакш цябе замучыла б сумленне»,— падумаў Драгун. Ён наліў яшчэ.

— Давай за тых, што ў моры.

— За маракоў?

— За тых, што плывуць... у Лету.

— Усе там будзем,— з філасофскай развагай сказаў Рымар.— Рана ці позна.

— Няўжо ўсе? — Драгун адчуваў, што ўжо трохі ап'янеў, стала спакайней на сэрцы.

— А ты думаеш, мы ствараем шэдэўры? Мы проста зарабляем грошы, як падзёншчыкі, на хлеб, на пражытак... А памром — і памрэ ўсё наша. Будуць другія... А мы будзем купацца ў Леце.

— Я не ведаў, што вы песіміст...

— Гэта не песімізм. Гэта цвярозы погляд на рэчы.

— Ну, я ўжо не цвярозы... Але вып'ем яшчэ... За сюжэт, які я вам хачу расказаць.

— Правільна. Бліжэй да справы.

Перш чым пачаць гаворку, Драгун пазваніў і папрасіў яшчэ бутэльку каньяку.

Рымар нічога не сказаў на гэта. Тым лепей!

— А вы заўважылі, што мы з вамі п'ём першы раз? — спытаўся Драгун у Рымара.

— Што? — ён ускінуў галаву ад талеркі.— Гэта праўда... З кім я толькі ні піў, з кім ні сядзеў! — задумен-

насць найшла на Рымараў пачырванелы твар.— А з табою — першы раз... Але, думаю, не апошні, га?

— Пабачым, пабачым,— сказаў Драгун. А сам падумаў: «Відаць, што першы і апошні. Відаць, што гэта лёс».

У дзверы пастукалі.

— Зайдзіце!

Увайшла тая самая пульхная афіцыянтка з бутэлькай каньяку.

— Дзякую. Падлічыце, калі ласка, цяпер, каб вас болей не турбаваць,— папрасіў Драгун.

Яна тут жа падала яму з кішэнькі белага фартуха рахунак. Ён выняў грошы і даў ёй дзве паперкі.

— Рэшты не трэба.

Ён злавіў яе позірк, скіраваны на Рымара. На твары яе было расчараванне: няйначай, чакала ўбачыць жанчыну, а тут гэты аслізлы грыб. Яна скрывіла вусны і выйшла.

Драгуну хацелася замкнуць за ёй дзверы, але ён перамог сябе. Вярнуўся, зноў сеў за стол, наліў яшчэ па кілішку — ужо з новай бутэлькі.

— Дык вось... Сюжэт такі,— пачаў Драгун, гледзячы, як адна за другой пусцеюць талеркі ў Рымара. Нічога сабе сыплецца пясок! — Сюжэт просты. Жыў адзін дзівак у Заходняй Беларусі. Звычайны хлопец... Беднае дзяцінства, потым яшчэ бяднейшае юнацтва. Вайна, акупацыя... Потым вучоба.

— Гэта нецікава,— заўважыў Рымар.

— Гэты прэлюдыя, уступ... Адным словам, хлопец вырас. Ён перанёс і пабачыў многа крыўды, несправядлівасці, балюча ўспрымаў чужое гора. Ішоў па жыцці, як чалавек, у якога садралі скуру і пусцілі прабірацца праз густы ельнік... Пасля вучобы пайшоў працаваць. Хутка трапіў у выдавецтва, на літаратурную кухню, якраз туды, дзе пякуць апавяданні, аповесці, раманы. Нагледзеўся на ўсё — і горка яму стала. Раней думаў, што гэта храм. А потым... Але ў песімізм не кінуўся. Падумаў, што сёе-тое можна зрабіць і тут: напрыклад, памагчы добраму чалавеку выдаць добрую кнігу...

— Літаратурная кухня так набіла ўсім аскому!

— А па-мойму, яе ў нас яшчэ не паказвалі... Мой герой — варыянт, так сказаць, Андрэя Лабановіча, толькі ў іншых умовах.

— Што, шукальнік праўды ў нашых умовах?

— А што, у нашых умовах праўды не трэба шукаць, яна ўсюды... сама?..

— Занадта востра!

— Прытупяць... на студыі... ці на стадыі... абкаткі... Дык вось мой герой расчараваўся — ва ўсім і ў сабе таксама...

— Расчараванне — не наша тэма.

— Расчаравацца ў дрэнным, у тым, што ты прымаў за добрае па сваёй слепаце — гэта не наша тэма?

— Не наша! Наш герой павінен верыць!

— А ён і верыць!

— У што?

— У справядлівасць.

— Фраза... А чым канчаецца твой сюжэт?

— Канцоўкі яшчэ няма... Але я ўжо маю некалькі варыянтаў... рашэння...

— І што, адна гэтая лінія — і ўсё?

— Ёсць і другая, але яна ідзе падтэкстам, толькі потым вылазіць наверх...

— А ў чым соль?

— Гэты самы хлопец хоча адпомсціць аднаму гаду...

— Той яго пакрыўдзіў?

— Не, ён не за сябе, а за справядлівасць.

— Інфантыльнасць!

— Што, вы не верыце, што такое можа быць?

— А хіба ты ў гэта верыш?

— Я — веру!

— Дзівак!

— А мо дурань?

— Калі хочаш, дурань!

— А калі гэты дурань ахвяруе сабой?

Рымар узняў галаву, глянуў на Драгуна:

— Гэта нічога не мяняе...

Драгун, адсунуўшы крэсла, рэзка ўстаў. Хваля злосці заліла яго свядомасць, ён адчуў сябе як між зямлёю і небам.

— А ты разумны, сабака? — сутаргава крывячы губы, прашыпеў Драгун.— Ты ўсіх прадаваў, абы толькі застацца самому?

Рымар таксама ўзняўся. Твар яго пабялеў, губы дрыжалі, заскакала вялікае падбароддзе.

— Ты што, звар'яцеў? Ты што? Што ты хочаш?

— Я хачу...— Драгун абмінуў стол і паволі стаў набліжацца да Рымара, трымаючы рукі напагатове. Той пачаў адступаць у кут.

— Не падыходзь! — дзіка закрычаў Рымар.


Драгун сеў.
Ногі у каранях дрыжалі,
а рукі былі потныя.

Але Драгун у два крокі апынуўся побач і схапіў яго за горла — мяккае, падатлівае, тлустае. Ён прыціснуў Рымара да сцяны і стараўся падняць яго ўверх, а той з усёй сілы ўчапіўся ў яго рукі і, канвульсіўна тузаючыся ўсім целам, цягнуўся ўніз. Драгун бачыў ашчэраны ў смяротнай сутарзе Рымараў рот, увесь запоўнены мокрым языком, налітыя крывёю вырачаныя шалёныя вочы — і адчуваў ледзяны холад у сябе за спіною, але ўсё ж мёртвай хваткай сціскаў свае пальцы на Рымаравым горле і не пускаў яго падаць. Яшчэ хвіліна — і ад натугі ў яго трэсне хрыбет. Але Рымар здрыгануўся ўсім целам і адпусціў Драгуновы рукі. Галава яго схілілася набок, язык пасінеў і апаў.

Драгун адступіў крок назад, і Рымарава цела па сцяне павольна спаўзло на падлогу.

Што цяпер: адпусціць яго і замкнуць дзверы ці патрымаць яшчэ? А што, калі ён ажыве?

Драгуна скаланула ад страху. Ён разняў здранцвелыя пальцы і кінуўся да дзвярэй, рэзка павярнуў ключ, пацягнуў на сябе дзверы.

Усё! Усё! Канец!

Рымар ляжаў на падлозе ціха, нібы спаў. Толькі галава была ненатуральна заломлена.

Драгуна апанавала слабасць. Пот градам каціўся у яго па твары, усё цела было таксама мокрае. Ён сеў да стала, бо ногі ў каленях дрыжалі, наліў у фужэр шампанскага і выпіў. У бутэльцы засталося яшчэ мо з паўшклянкі, ён выпіў і тое. Потым устаў і з бутэлькай у руках падышоў да Рымара, пастаяў, таўхануў нагою пад бок. Яму здалося, што Рымар падаўся да сцяны. Тады Драгун, ашчэрыўшыся, з усёй сілы стукнуў Рымара кантам бутэлькі па скроні. Галава матлянулася ўлева і застыла. З правага вуха на тоўстую пасінелую шыю павольна спаўзаў струменьчык чорнай крыві. Але ніякіх перамен і ценяў на Рымаравым твары не было відаць.

Ён павольна адплываў у Лету.

Мінск, 1968—1969

Дамашэвіч У.

Д 16 Камень з гары: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 334 с.: іл.

ISBN 5-340-00426-0.

Домашевич В.. Камень с горы: Роман.

Рукапіс рамана праляжаў у аўтара дваццаць гадоў. Дзеянне яго адбываецца на рубяжы 50—60-х гадоў, калі культ асобы Сталіна быў развянчаны, але не да канца, калі гаварыць праўду станавілася ўсё цяжэй і цяжэй.

Галоўны герой твора Драгун — выдавецкі рэдактар, які сам спрабуе пісаць прозу, але гэта яму не заўсёды ўдаецца. Расчараваны ў жыцці, ён рашаецца на крайні ўчынак...

Д $\frac{4702120201-093}{М302(03)-90}$ 10—90

ББК84 Бел7

*Литературно-художественное издание*

ДОМАШЕВИЧ ВЛАДИМИР МАКСИМОВИЧ

**КАМЕНЬ С ГОРЫ**

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ДАМАШЭВІЧ УЛАДЗІМІР МАКСІМАВІЧ

**КАМЕНЬ З ГАРЫ**

Раман

Рэдактар *А. П. Рыбак.* Мастак *Р. М. Цімохава.* Мастацкі рэдактар *М. С. Шкурпіт.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *А. Т. Глушчанка.*

ІБ № 3220

Здадзена ў набор 01.06.89. Падп. да друку 02.02.90. АТ 01071. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Высокі друк. Ум. друк. арк. 17,64. Ум. фарб.-адб. 18,06. Ул.-выд. арк. 20,40. Тыраж 18 000 экз. Заказ 2580. Цана 1 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.